№5 (120)
/верасень-кастрычнік/ 2022

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Наста Кудасава



...Я прашу тваёй літасці, Госпад мой Бэз,
мне баліць гэты свет, яго веліч і бляск...

# ...Проста набыцца тут

* * *

Паглядзі, колькі жыццяў вандруе ўва мне! Паглядзі,
як сусветы гараць унутры асалодай нясцерпнай!
Гэта я – выкшталцоны алень, я – раз'юшаны дзік,
гэта я сплю на ладажскім беразе ўсцешанай нерпай.

Паглядзі, паглядзі, я – у кедры сібірскім арэх.
Я – касматы какос – грэю брушка ў спякотлівай Гане...
Гэта я па-над гаем удмурцкім шапчу "Інмарэ..."
і да поўначы любай нясу недасяжнае ззянне.

А туды, дзе накручвае жнівень палям бігудзі,
дзе буслы над радзімай маёй плач хаваюць старанна,
дзе застыла маўчанне і вусціш...
Туды не глядзі.
Там –
адкрытая рана.

* * *

гэта даўно ўжо не сэрца, не сэрца
ў шчэлепах рэбраў, загнанае, б'ецца –
гэта зязюля знутры мне кувае:
дыхаеш? чуеш? жывая? жывая?

гэта даўно ўжо не рукі людскія –
выцекла цела ракою на Кіеў,
ля берагоў пакалечаных вые:
родныя, дзе вы? жывыя? жывыя?

гэта даўно ўжо чужынка, чужынка
аслупянела між цыркам і рынкам –
ідал пусты, не ўдыхаю, не чую.
боль зашывае мне рот нажывую.

* * *

драпае цемра скарынкай чэрствай,
сочыцца ў горла кармін.
за чалавечае слова "зверства"
сорамна перад звярмі.

не пракаўтнуць гэты хлеб драпучы.
верыш, таварыш маёр?
там, у падвалах пякельнай Бучы,
сэрца сканала маё.

больш не кране яго шэпт надзеяў,
"градаў" выццё, патрулі...
мабыць, нарэшце распавядзе мне
той, хто мяне акрыліў,

што мне рабіць з расстраляным пер'ем,
з вывернутасцю ключыц?
лепей бы ўшчэнт скасаваць мой тэрмін
тут. і сусвет адключыць.

лепей бы я паважаным зайцам
бегла ў вясну з усіх лап,
чым гэты боль чалавекам звацца.
лепей я зверам была б.

* * *

у змроку непрытомных калідораў
як ззяеш ты, ахвярнае ягня!
тут не ўдыхнуць:
туга здушыла горад
і цішыня.
даруй,
што
цішыня.
даруй, што я,
паціснуўшы плячамі,
іду далей у даўкай цішыні.
як многа вас –
тых,
што не прамаўчалі, –
гарыць у гэтым вусцішным агні!
а вулей паслухмяны ўсё шчыруе
і дзень, і ноч –
аж зелена ўваччу...
даруй ім страх.
і подласць іх даруй ім.
і што маўчу.
даруй, што я маўчу.

* * *

Як мне змясціць іх, як увабраць іх, як прыняць іх?
У гэтым крохкім целе, парослым травой зялёнай...
Я бы натоўпам шалёных сланоў растаптаная маці –
лячу і слухаю ліпкі енк пахаваных ва ўлонні.

Вось кожны чацвёрты, вось кожны трэці, вось кожны кожны –
прашыты куляй, згарэлы зажыва ў сорак трэцім....
Ну, колькі можна ўжо, скажыце мне, колькі можна?!
Мне кожная сцежка баліць як шнар на забітых дзецях!

Вось пух таполяў ляціць паэтам, вось Палах-сполах...
Героі сеюцца, вы ж не прыйдзеце па ўраджай іх...
Я мерцвякамі цяжарны шарык, мне вырак – кола.
Я вас хаваю, люляю й гэткіх жа зноў раджаю.

* * *

не сумуй, што скончыліся словы,
тут заўсёды ёсць чым захапляцца:

вось жа поле, пошчак жаўруковы,
бусляня з матуляю ў буслянцы.

тут заўсёды ёсць у што паверыць:
вось туман прадзе свой мяккі кужаль,
на градзе аранжавее перац,
верабейка плюхаецца ў лужы...

не сумуй, што вершы анямелі, –
мала хто з нас варты быць пачутым.
моўчкі луг бруіцца карамеллю,
дождж бярэ ў двукоссі ўсе пакуты...

* * *

я ведаю, мне ад цябе засталося цяпло.
іначай, адкуль гэты жар так настойліва сніцца?
а ўсё, што ў зямным вымярэнні між намі было,
багоўка-сястра зберажэ на аранжавай спінцы.

я ведаю, мне засталася даверлівасць рук,
бяззбройнага дотыку шчырасць, якой не схаваеш.
і нават калі я аднойчы напраўду памру –
у памяці пальцаў тваіх я гарэцьму жывая.

хай век сабе ўрэшце зацягне на шыі ласо,
хай спрахне айчына ў сабою ж атручаным дыме...
ды ў памяці нашых сцяжынак і нашых лясоў
мы жыцьмем заўсёды – шчаслівымі і маладымі.

* * *

не енчу, не шкадую ні аб чым,
гадую моўчкі лес мой, крочу, дыхаю...
няцяжка мне, па болю ідучы,
самоту ўтойваць пад ахоўнай пыхаю.
а хоць бы й праразалася крыло –
не ўчуе сэрца за сямю напарсткамі.
ды толькі зрэдчас вырвецца цяпло,
усходзіцца спамін вачмі татарскімі...
і быццам лёс не зрынуўся, як сель,
і быццам нас жыццё не перайначыла,
і быццам вось ты – па лясной расе
ідзеш насустрач, не чужы, не страчаны.

* * *

я не шукаю замежжа,
заможжа, замужжа...
і без таго мне належаць
найлепшыя з лужаў,
поўныя зорных адбіткаў
і срэбных аблокаў,
сонечны дзень, нападпітку
бярозавым сокам...
і без таго я па зніжках,
нікому не бачных,
маю і жолуд, і шышку,
і розум дзіцячы,
рэкі, дзе лётаюць шпарка
шчаслівыя карпы, –
і без таго я ўладарка
нялічаных скарбаў!
мабыць, у важных людзей
я нічога не важу –
я да сасны кагадзе
ўладкавалася пажам.
мо адслужу колькі год –
стану птушкай у гаі.
болей ніякіх выгод
я ў жыцці не шукаю.

* * *

пабягу да сасны залацістае,
абдыму за шурпатую талію...
ззяе верас наўсцяж аметыстамі,
цішыню выдыхае крыштальную...

наталілася золатам сонечным
чыстацела маё святаяннае,
і таму, нават збітая горыччу,
не ўпаду, не здранцвею, не звяну я.

нават цемраю роспачы воглае
я прайду, я здалею, я выстаю.
тут чакаюць мяне з перамогаю
верас мой і сасна залацістая.

## РАГАЧОЎ

*Андрэю Чарняўскаму*

Як ні кралі б у нас, ні карналі б,
а галоўнага не адбяруць –
будзе несці Дняпро свае хвалі,
грэць пад пахай гарэзную Друць.

Тлум адкінеш, да берага прыйдзеш,
вось ён – мые свой стромы кадык...
І пачуеш, як вербы на ідыш
нешта шэпчуць люстэрку вады.

І пад шэпт іх угледзіш раптоўна
быццам сон ці прымроены свет:
Караткевіч у дзедаўскім чоўне
зноў жывы ўслед за сонцам плыве...

Хвошча лета, палошчацца шчэбет
ды лятуць пакрысе карасі...
Што ж так плачацца? Ах, рэбе, рэбе!
Дзе той край, што ты ў сэрцы насіў?

Гэты горад – нязводная рана!
Пластыр часу крыху адляпі –
і праступяць малюнкі Каплана
з-пад асфальту завулкавых спін.

Боль не змыеш, як горыч ні ўтойвай,
ды лятуць карасі пакрысе,
спее луг, плешча вечнасцю пойма
і Дняпро нашу памяць нясе...

* * *

Я прашу тваёй літасці, Госпад мой Дрозд,
мне муляе жыццё, бы няўпраўлены звіх:
мне і смоўж неўдасяж, і агрэст навырост,
я нікчэмны муляж, я драбнейшы за ўсіх.
Ні пачвара, ні блазан, ні звер, ні блюзнер –
я пушынка бязглуздая ў воку тваім.
А зраблю толькі крок – асляпляльны аер
кружыць голаў, як танец кружыў Наваі.
Неймаверны мой верас пячэ хараством
так, што дыхаць няможна – ірвуся па швах!
Забяры гэты дар, мне занадты твой дом!
Я не ўмею тут жыць, я нядольны дзівак.

Я прашу тваёй літасці, Госпад мой Бэз,
мне баліць гэты свет, яго веліч і бляск...
Дай мне голае поле – найлепшую з нэндз,
каб ляцець над зямлёй і маліцца за вас.

* * *

“Што ты б’ешся як рыба аб лёд, мой даверлівы Ёве?
Я ж усё тут здрабніў, абязглуздзіў, абезгаловіў.
Я адняў у іх розум, я душы ім страхам знявечыў,
а ты пішаш і пішаш, дзівак, пра святло чалавечае...
Я паслаў табе роспач і немач, я дом твой спустошыў,
а ты цягнеш упарта за ўсіх недарэчную ношу...
Я зрабіў тут усё, каб табе было прыкра і гадка!
Што ж ты барацца лезеш, бадлівае аленянятка?
Вось бяспраўе табе, вось знявага, вось допыт, вось арышт,
а ты ззяеш і ззяеш, дурненькі мой, марыш і марыш...
У дрыгве непрабуднай наўрад ці прыдатныя Ноі,
так што хопіць на ўсіх будаваць, не смяшы, кінь дурное!”

“Не палохай і не выпрабоўвай, хітрушчы мой Божа!
Гэта ж Ты мне заўсёды казаў, што жыццё пераможа.
Гэта Ты – мая купіна ў багне, мой ягель, мой Ягве!
І таму я працягваю верыць,
я – працягваю”.

* * *

Проста набыцца, нагаварыцца
з полем юлёвым, пакуль
конік зялёны грае на скрыпцы
сола замовы ад куль...

Тут, дзе нянавісць бліскае джалам,
дзе раскашуе імгла,
памятай, я да скону крычала
ім пра любоў, як магла!

...Проста набыцца тут, нашаптацца
з верасам, мохам, сасной,
кінуцца ў ногі блазанцы-пташцы
нотай апошняй – скразной...

Тут, дзе ўчарнелі ў гразкім раздраі
сонечных промняў ліні,
Госпадзе, толькі розуму дай ім!
І цеплыні, цеплыні...

Леанід Дранько-Майсюк



...а Бог, калі ён Бог,
то ён для ўсіх Бог!..

# Хаімка і Сорка

***Апавяданне***

*Шчыра прысвячаю свой твор*
*цудоўнаму паэту Феліксу Баторыну.*

**1**

У жніўні 1939-га хлопчык Хаімка жыў у Давыд-Гарадку і дзяўчынка Сорка жыла ў Давыд-Гарадку, – ім тады было гадоў па адзінаццаць.

Бацька Менашэ і маці Шэйнэ-Тойбэ называлі свайго сына бухгалтарам, бо Хаімка ўдала складаў лікі – скажам, да васьмі дадаваў дзесяць і абвяшчаў, што разам будзе васямнаццаць.

Хлопчык ужо хітры, таму невыпадкова да васьмі дадаваў дзесяць!

А калі дома яго прасілі да шаснаццаці дадаць два (зноў жа невыпадкова!) і пыталіся, колькі будзе, то ён звонка адказваў, што і тут будзе васямнаццаць[1].

А Сорчыныя бацькі Цві-Гірш і Хана-Злата называлі сваю

дачку артысткаю, бо Сорка ўмела хораша спяваць – асабліва чулліва пяяла пра тую сірацінку, якая глядзела ноччу на поўню і марыла пра высокія драбіны; па драбінах няшчасная сірацінка хацела падняцца на поўню, каб сустрэць на ёй нябожчыцу маці...

Так, Хаімку і Сорцы было па адзінаццаць, што там будзе наперадзе – рана загадваць пакуль, але нібыта на самім небе золатам ужо накрэслілася, што яны – тыя паслухмяныя дзеці, якія ніколі супраць бацькоў сваіх не пойдуць, таму жыццё бацькоў стане іхнім жыццём.

У Хаімкі было два малодшыя брацікі, але яны (от жа бяда якая!) адзін за адным памерлі ад шкарлятыны; Сорка ж мела старэйшую за сябе гадоў на шэсць сястру Цэйтл, вельмі ўпартую і дзелавітую дзяўчыну, якая збіралася ў дакторкі.

«Ну, калі яно думаецца пра сваё, то яно й робіцца па-свойму, а так яно такое, якім і ёсць, а будзе такім, як хочацца мне!» – настаўлялася незгаворлівая Цэйтл.

Аднак жа мова пра сур'ёзную Цэйтл у гэтым апавяданні кароткая...

Хаімка ж і Сорка жылі па суседству праз нешырокую вуліцу, вокны ў вокны – іхнія хаты стаялі паблізу ракі Гарынь.

А яшчэ Хаімка і Сорка жылі блізка святых сцен і любілі каля гэтых сцен гуляць у хованкі (дзеці ж!), і гулялі яны паасобку, як і належала ім гуляць.

Калі паглядзець збоку, то гэта выглядала так – хлопчык здалёку цікаваў за дзяўчынкаю, а дзяўчынка здалёку цікавала за хлопчыкам.

Калі Хаімка хаваўся за халоднай сінагогай, то Сорка бачыла, дзе ён хаваецца, і не бегла шукаць яго, не патыкалася ў школьны двор, а стаяла ля свайго плота і круціла на сукенцы верхні бліскучы гузік, нібы хацела адарваць яго.

А калі Сорка хавалася, ну, за тым жа малітоўным домам столінскіх хасідаў, то і Хаімка бачыў, дзе яна хаваецца, і таксама не шукаў яе, не сунуўся туды, а стаяў ля свайго плота, грыз яблык і згрызаў яго разам з зярняткамі...

Да іншых вулічных дзяцей яны, здаецца, і не гарнуліся, бо для іншых дзяцей (маленькіх, але ўжо практычных!) ніякага дзіва навокал не існавала – качка была качкаю, певень пеўнем, бусел буслам.

Для Хаімкі ж і Соркі ўсё было крыху інакшым, усё крыху мроілася, рабілася больш прыгожым, а то і незвычайным: вясною вішні не проста зацвіталі, а клікалі сваім цветам яблыневы цвет, каб ён хутчэй з'явіўся, а птушкі ляцелі ў вырай, каб там расказаць пра Давыд-Гарадок і раку Гарынь, а маленькія мядзведзікі хаваліся ў лесе, каб не хадзіць у хедар, а снег падаў, каб чорная зямля хоць зімою белай зрабілася.

Для Хаімкі і Соркі любая хмарка залатою здавалася, а любая галінка ўяўлялася жывою.

Хлопчык і дзяўчынка прыгожа гаварыць яшчэ не ўмелі, але адчувалі і казачнасць далёкага поля, і дзівоснасць высокага неба, таму кветкі іх захаплялі, зоркі чаравалі, а блізкія святыя сцены вабілі, крыху палохаючы сваім парадкам, – і гэтая халодная сінагога, і гэты малітоўны дом, і на той вуліцы хедар, дзе хлопчыкаў цвічыў рабін, і ў тым завулку вунь тая школка, у якой вучыліся дзеці заможных бацькоў.

## 2

Хаімкавы і Сорчыныя бацькі заможнымі не былі; яны мелі сціплы хлеб, за лішнім не гналіся – прадавалі купленыя ў ганчароў збаны, збаночкі і гладышыкі; жылі так, як жылося, і рабілі так, як рабілася; хату сваю ў суботу,

вярнуўшыся з сінагогі, не пакідалі; часам засмучаліся на нястачу ўвагі, як і на прыкрую нястачу цікавасці чалавека да чалавека, але сапраўды толькі часам журыліся, зусім зрэдку, бо за работаю не было калі ім даўжэй маркоціцца.

Трэба сказаць і пра тое, што і Менашэ і Шэйнэ-Тойбэ, і Цві-Гірш, і Хана-Злата былі натуры спакойнае, іншымі людзьмі займаліся паволі, спакваля, таму ўмелі добра ладзіць не толькі са сваімі, а, можна сказаць, і з усімі, бо змалку засвоілі: праведны гой Богу больш пажаданы, чым неправедны габрэй.

А Бог, калі ён Бог, то ён для ўсіх Бог!

Да Цві-Гірша і Ханы-Златы па суботах прыходзіла іхняя шабэс-гойка[2] адзінокая агародніца Маня, якая трохі варажыла на кветкавым насенні і якая дома шкадавала, што Бог не даў ёй дзяцей, а на людзях радавалася, што ў яе гародчыку ўлетку заўсёды расцвітаюць самыя лепшыя кветкі, ці як яна казала – краскі.

У Сорчыных бацькоў Маня даіла карову, паліла ў печы, карміла курэй, разагравала нагатаваную ў пятніцу ежу.

Цві-Гірш і Хана-Злата па суботах частавалі Маню халай[3], а Сорка спявала ёй беларускія песні.

А Хаімкавым бацькам памагаў упраўляцца з суботнімі клопатамі свой шабэс-гой – цясляр Мікіта, які, як і тая ж Маня, жыў таксама адзін, і калі не варажыў, як Маня, то крыху па-свойму вядзьмарыў і цешыўся, як дзіця, што прыручыў і зязюлю, і вавёрку, і нават пацука.

Але перш за ўсё ён быў хвацкім цесляром!

А Менашэ і сам патроху цяслярыў, не толькі гаршкі прадаваў, і аднаго цёплага лета разам з Мікітам перасыпаў сваю хату, а тады і Мікіту памог перасыпаць і ягоную хаціну.

Калі пілі сумесную даробшчыну[4], Менашэ весела махнуў рукою:

– Мікіта, хату ўжо маеш, як новую! Бяры Маню, і жывіце разам!

Мікіта лёгка і таксама весела адмахнуўся:

– Зязюля мая некуды паляцела, і пацук мой пакуль не паказваецца, а от вавёрка е́сцэка! Баюся, што Маня з маёй хаты маю вавёрку прапрэ, а калі ні прапрэ, то мая вавёрка пагрызе ўсе яе торбы з насеннем!

## 3

Разважлівыя Хаімкавы і Сорчыныя бацькі мелі ў душы радасць да роднага Давыд-Гарадка і да ракі Гарынь і навучылі гэтай радасці і сваіх дзяцей.

Таму зусім не дзіва тое, што Хаімка іншы раз мог святочна крыкнуць:

– Х'гоб ліб майн гэймштот Довід-Гродзік[5]!

І Сорка іншы раз таксама гэтак жа святочна магла галёкнуць:

– Іх гоб ліб дэм шэйнэм тайх Го́рэнь[6]!

Бацькі шчасліва смяяліся, чуючы гэта; шчасліва смяялася Маня, і тым жа смехам адзываўся й Мікіта...

Хаімка і Сорка любілі дзіцячыя прычво́ры[7].

Шырока адчыніўшы сваю хортку, але не выходзячы на вуліцу, Хаімка пачынаў гукаць да Соркі:

Энтэле, пэнтэле,
Шыгеле, шай,
Рапэтэ, папэтэ,
Кнот[8]...

Па вуліцы, па бліскучым бруку, увесь час грымелі, грукаталі то парожнія,

то гружаныя падводы, зрэдку нават легкавік, бібікаючы, праскокваў, але Хаімку грукат не замінаў.

Не замінаў ён і Сорцы, і са сваёй шырока адчыненай хорткі дзяўчынка гукала да хлопчыка:

Она, дуна, рэс,
Кіндэр, віндэр, жэс,
Она, дуна, раба,
Кіндэр, віндэр, жаба[9]...

А яшчэ яны любілі чытаць (бо ўжо ўмелі добра чытаць!) усялякія надпісы.

Задзёршы чарнявую галоўку, Хаімка спачатку ў думках лічыў на высокай шыльдзе вялікія літары і, даведаўшыся колькі іх, тады ўжо ўголас разбіраў: «Sklep spożywczy»[10].

А спраўная Сорка, калі Хаімка далей адступаў ад крамы, падбягала да крамнага ганка і старанна разбірала драбнейшыя літаркі на маленькай шыльдачцы, якую заклапочаны крамнік толькі што пачапіў на дзверы: « Sklep zamknięty. Przepraszamy»[11].

А то Хаімка падлётваў да каўбаснай і, ужо не лічачы літары, адразу вымаўляў кароткае *masarnia*[12], а Сорка тут жа апыналася ля пажарнай, насупраць каўбаснай, і пераможна выкрыквала доўгае *Ochotnicza Straż Pożarna w DAWIDGRÓDKU*[13].

Цешыліся мілыя дзеці, як умелі.

А па мястэчку тым часам сюд-туд рухаліся панурыя людзі – і цывільныя, і вайсковыя, і ці не кожны з іх нёс у душы нябачную, але адчувальную адзнаку апошніх тыдняў: «...От пакуль жыву, але гэта ўсё пакуль... Могуць тут жа падвесці пад манастыр, а тады й пад абух, і не будзе мяне...»

Радасныя малыя і блізка не здагадваліся, пра што маглі думаць панурыя вялікія, чые сэрцы раз'ядала трывога.

**4**

Хлопчык і дзяўчынка пырхалі ва ўсе бакі, як тыя птушкі – скажам, не чуючы пад сабою ног, ляцелі паглядзець на старыя могілкі; там, на блізкай ад могілак сажалцы, можна было яшчэ падзівіцца і на гускі[14], а то і нарваць іх.

Сорка (дзякуючы Мані) ведала, што гускі – гэта ж толькі белыя кветкі, а жоўтыя кветкі ў сажалцы – ужо ніякія не гускі, а глечыкі...

На старыя могілкі па правым беразе Гарыні вяла вуліца, якую Хаімкавы бацькі называлі Ерусалімскай, а Сорчыныя бацькі іменавалі Егіпецкай...

Аднаго разу, калі Хаімка джгаў па Ерусалімскай, у прыткнутай да берага невялікай барцы малады, смешнага выгляду барачнік, чухаючы патыліцу, дзяўкнуў старэйшаму барачніку:

– Пане Андрэю, барка во́ду дае!

А іхняя старая барка і сапраўды прапускала ваду.

– А ты хочаш, каб наша барка млека давала?! – бесклапотна рагатнуўшы, старэйшы барачнік пераламаў аб калена лазовую ламачыну, быццам паказаў, што ён яшчэ ў сіле.

Добра было Хаімку слухаць барачнікаў, добра было пачуць і раптоўны трэск непатрэбнай ламачыны, як і добра было глядзець на старыя могілкі і на сажалку, а тады, вярнуўшыся назад, па мосце пераляцець Гарынь і не скіроўваючы направа, на Мошын бераг, і не скіроўваючы налева да электроўні, вымкнуць у Мэльнікі на Цяслярны Шлях.

І вёрткай Сорцы гэтак рабіць было добра.

Паглядзеўшы на старыя могілкі і падзівіўшыся на белыя гускі і на жоўтыя глечыкі, Сорка таксама прылётвала на Цяслярны Шлях і бачыла, што Хаімка, каб не лезці ў баю́ру[15], якая заліла дарогу, імкнуўся ўжо напрасткі праз нечы пусты пляц, ад вуліцы не загароджаны плотам.

Гэта сёлета навальніца наліла баюру, а летась і пазалетась ніякай баюры не было; Хаімка ж і Сорка бегалі тут і летась, і пазалетась – гойсалі ў любую пару.

**5**

І ў любую пару перад іхнімі чыстымі вачамі паўставала зразумелае жыццё – у адным двары пахла смачным дымам, бо там на альховых дровах задумлівы гаспадар у скуранай камізэльцы вэндзіў шынкі; у другім двары на таку людзі мялі нагамі проса; у трэцім двары майстры будавалі хату – ставілі якраз на мурла́ты[16] кроквы; у чацвёртым двары каваль набіваў на грынджо́лы[17] жалезныя палазы; у пятым двары-агародзе кабета брала каноплі; у шостым двары дзве шумныя маладзіцы на цёплай, нагрэтай сонцам прызбе адводзілі душу – языкава́лі[18].

Маладзіцы гэтыя хадзілі ўжо на пары[19], але, здаецца, нават і не думалі пра сябе, а думалі і гаманілі пра сваіх няўдалых, калі верыць маладзіцам, чалавекаў.

– Мой мне так абрыдзеў, шчо я й духу яго чуць ні хо́чу! – першая маладзіца незадаволена варухнула чырвонымі каралямі на шыі.

– І мой мне абрыдзеў... Учора змок на рацэ, як чарвяк! Руба сухога на ім не было! – другая маладзіца нервова круціла ў руках край хвартуха.

Але найбольш запомніўся дзецям трохі дурнаваты Вэ́вік-прывало́ка[20] – прыблуднік, які з’явіўся аднекуль з-за свету і прыстаў жыць да бляклай шэрай Гэнцюлькі – кабеткі таксама нетутэйшай, з выгляду не тое што неахайна апранутай, а нібыта загорнутай у суцэльную анучыну.

Вэ́вік-прывалока любіў спяваць і спяваў скрозь, дзе б ні было – а хоць на сметніку, а хоць у кіяхах седзячы.

І гэтым разам, калі Хаімка і Сорка прабягалі паўз Гэнцюльчын двор, Вэ́вік-прывалока прабаваў свой пеўчы спрыт, біў балабухай у бубна і, крывячы словы, насліньваў ніжнюю губу:

У мэй[21] Гэнці масла нема,  
Тылько една маргарына...  
Першы тыдзень – маргарына,  
Другі тыдзень – сахарына,  
А на трэці – кубэк мёду,  
Бы не умёр Вэвік з глоду...

Як і скрозь у свеце, гэтак жа было і тут – адныя ведалі, што рабіць, але не ведалі, што гаварыць, а другія ведалі, што гаварыць, што спяваць-насліньваць, але не ведалі, што путнага рабіць, нават і знаць не хацелі талковай работы; як і скрозь у свеце, гэтак жа было і тут – адныя рабілі, другія насліньвалі...

**6**

«Ніколі нікога не трэ баяцца і ніколі нічога не трэ баяцца!» – казалі Хаімку ягоныя бацькі.

Амаль тое ж і Сорка чула ад сваіх бацькоў.

А яшчэ Хаімка і Сорка чулі ад іх: «Ніколі не трэ баяцца дарогу, якая вядзе ў Ерусалім!»

Слова дарога ўсё часцей і часцей злятала з іхніх вуснаў, як і слова хата.

Калі хату пакідалі ненадоўга, то ў прабой утыкалі смаловую, дубовую ці якую-небудзь іншую трэску, але ў жніўні 1939-га Менашэ і Шэйнэ-Тойбэ, Цві-Гірш і Хана-Злата пачалі рыхтавацца ў дарогу, якая з Давыд-Гарадка вяла ў Ерусалім, на тую зямлю, дзе цякуць малочныя рэкі ў мядовых берагах, а раз так (раз дарога з роднага двара назаўсёды!), то ўжо не трэску трэ было ўтыкаць у прабой, а навесіць на дзверы цяжкі замок.

Зрэшты, не – не замкі трэба вешаць, а хаты з каровамі прадаваць.

Так, любы Давыд-Гарадок – у сэрцы, а Ерусалім – у крыві, таму дарога кліча!

О, колькі ўсяго блюзнілася наперадзе!

Менашэ казаў Шэйнэ-Тойбэ:

– Невядома, што будзе, але тое, што будзе, будзе добрым!

Шэйнэ-Тойбэ казала Менашэ:

– Будзем дбаць і думаць пра добрае, бо калі дбаеш і думаеш пра добрае, то ўсё добрым і робіцца.

А хіба не праўда?!

Праўда...

Верачы, што цярплівасць мае быць мацнейшаю за пакуты, Цві-Гірш супакойваў Хану-Злату:

– Як пакінем хату, не будзем азірацца назад, бо каб лягчэй было на сэрцы, не варта азірацца назад!

І Хана-Злата супакойвала Цві-Гірша:

– Гэта спачатку цяжка не азірнуцца, а тады, калі родная хата закрыецца чужымі хатамі, то адразу лягчэй стане...

І ўсё ж, як пакінуць сваё?

Як так зрабіць, каб душа не балела, каб слёзы надоўга не заслалі вочы?!

Думалі, гадалі, меркавалі, божкалі; нават пералічылі два разы непрададзеныя гладышы з глякамі (добра, што мала зусім непрададзенага засталося!); ужо мікалаеўскае золата зашылі куды трэба і нават купцоў на свае хаты і каровы нагледзелі, а ў дарогу так і не рушылі.

## 7

А тут і хмары над імі і над усімі сабраліся, цэлы свет ураз перакуліўся, напаўзла вайна, з таго захаду яшчэ далёкая, а з гэтага ўсходу зусім блізкая, шлях у Ерусалім прапаў, і заявілася ўлада з чырвонай зоркаю і без Бога.

«Не трэба адкідваць Бога!» – зашапталіся Хаімкавы і Сорчыныя бацькі.

І пасунуліся дні, поўныя гострай непазбыўнай трывогі, заможных пачалі вывозіць у Сібір, але думкі аб тым, як годна памерці, яшчэ не было.

А старэйшая Сорчыная сястра Цэйтл меркавала сваё – як толькі стала можна, яна тут жа паехала вучыцца на доктарку, зусім не пераймаючыся, што новая ўлада адкінула Бога.

«О, наша самастойная Цэйтл у людзі выходзіць, аднак...»

Цві-Гірш і Хана-Злата мусілі і горка ўздыхнуць: большая дачка пакінула ж хату і да Бога не пачцівая!

Хоць мова пра Цэйтл у гэтым апавяданні і кароткая, але ўсё ж варта яшчэ сказаць: ну, Цэйтл яна такая, учэпістая, на неба ніколі не глядзела, дзе зоркі, а толькі на стол, дзе кавалак хлеба, але, робячы сваё, і блізка не думала, што вырвала сябе з пекла...

А шэпты бацькоў паволі доўжыліся, і доўжыліся яны якраз да таго нечаканага моманту, калі, як той агонь з-пад учарнелай саламянай страхі, бухнула новая вайна.

Каму быў дазволены ратунак, той атрымаў месцы на дзвюх барках і адплыў на Мазыр, а каму ратавацца не дазволілі, таго (хто самохаць пакінуў Давыд-Гарадок) вярнулі з-пад Вялікага Маляшава, з былой, але ўсё яшчэ закрытай польска-савецкай мяжы.

Хаімкавым і Сорчыным бацькам, і такім, як яны, якраз і не дазволілі ратавацца, якраз і вярнулі іх з-пад Вялікага Маляшава.

З новай вайною ў Давыд-Гарадок упхнуліся немцы, і з імі пацягнуліся дні, поўныя каменнага страху, і ўжо з'явілася думка, як годна памерці, бо немцы загадалі назаўтра зранку ўсім габрэям збірацца на работу.

На работу?!

Хіба ж невядома, што імя гэтай работы – смерць!

Позна ўвечары, каб ніхто не бачыў, Менашэ прывёў Хаімку да цесляра Мікіты: схавай хлопца!

І Мікіта схаваў Хаімку.

І позна ж увечары, зноў жа каб ніхто не бачыў, Хана-Злата прывяла Сорку да агародніцы Мані: схавай дзеўку!

І Маня схавала Сорку.

А раніцаю, са́ма перад тым, як сонца паказалася, і Менашэ, і Шэйнэ-Тойбэ, і Цві-Гірш, і Хана-Злата («О, як добра, што Цэйтл на вучобу паехала!»), і ўсе іхнія аднаверцы, сыны і дочкі Бога Ізраілева, чытаючы малітвы, пайшлі, гнаныя, на нямецкую работу.

Іх падзялілі на два гурты, – мужчыны асобна, жанкі таксама асобна.

Услед гнаным біў балабухай у бубна дурнаваты Вэ́вік-прывалока; прыблуднік не маўчаў, насліньваў ніжнюю губу:

Гоп мае грэчанікі,
Гоп мае ячныя,
Як прыйшлі германцы,
Пайшлі жыды ў старцы!
Гоп мае грэчанікі,
Гоп мае ячныя.
Прыйшлі гітлероўцы,
Далі жыдам па галоўцы...

## 8

На сваім пляцы за адрынаю ў густых высокіх каноплях цясляр Мікіта меў дзедаву спадчыну – закінутую з дзёгцевым духам смалярню, дзе і прыткнуў напалоханага Хаімку.

Раніцаю Мікіта прынёс у тую схаваную ад чужога вока смалярню прыручаную вавёрку і, робячы ўсё з разлікам, спадзяваннем на добрае, паклаў на ўслоне сем зярнін – чатыры чорныя саўне́шнікавыя[22] семкі і тры белыя гарбузяныя насенніны.

– Пакажы Хаімку, дзе сонца, а дзе зямля! – загадаў гаспадар сваёй разумнай вавёрцы.

Вавёрка распушыла хвост, з падлогі лёгка скокнула на ўслон, дзвюма пярэднімі лапкамі ўзяла першую чорную семку, села на заднія лапкі і, смешна варушачы мускаю, з'ела яе.

І гэтак жа паволі прыступіла да трох астатніх саўнешнікавых семак.

А тады, крыху панюхаўшы вакол сябе застаялае паветра, няспешна ўзялася грызці, зноў жа седзячы на задніх лапках, белыя гарбузікі.

– Бачыш, Хаімка, – тлумачыў Мікіта, задаволены сваім удалым разлікам, – гэтае божае стварэнне спачатку спажыло тое, што бліжэй да сонца. Семкі саўнешніка! І толькі пасля спажыло гарбузянае насенне, якое бліжэй да зямлі! Так што ўсё добра, мая вавёрка паказала: Менашэ і Шэйнэ-Тойбэ ходзяць пад сонцам, а не ляжаць у зямлі. Яны жывыя. Твой бацька і твая маці, Хаімка, хутка вернуцца і цябе забяруць адсюль...

Цесляровы словы былі ясныя, але пакуль яны даходзілі да хлопчыка, як праз туман.

– На, бяры, еж! – схаваўшы вавёрку ў кішэню пінжака, цясляр Мікіта дастаў з каша восем вараных дробных бульбін, якія пахлі алеем, цыбуліну, лусту хлеба і заткнутую пляшку малака.

І раптам, нібыта нешта важнае згадаўшы, устрывожаны Хаімка праяснеў, забыўся на спалох, устрапянуўся і пачаў лічыць: малако раз, хлеб два, цыбуліна тры, восем бульбін і тыя вавёрчыныя белыя і чорныя сем зярнін...

Разам выйшла васямнаццаць!

Шчаслівы Хаімка еў і верыў: хутка ўбачыць і бацьку, і маці...

**9**

«Што на свеце робіцца! Дзецям няможна ў хаце быць!» – мучылася такой думкаю агародніца Маня.

Сорку яна прыткнула на вышках у сваёй адрыне, там карміла дзяўчынку прасяным крупнікам і там суцяшала яе, варожачы на кветкавым насенні.

Развязаўшы першую палатняную торбачку з курортнікамі[23], задумлівая Маня вельмі ўважна глядзела на буравата-жоўтае семя, брала яго ў пучкí[24] – семя было сыпкім, бягучым.

Мякка бліснуўшы вачыма, стрыманая ў гэту хвіліну Маня казала Сорцы:

– А курортнікі на добрае паказваюць!

Дробнае чорнае ліпкае насенне ў другой развязанай торбачцы называлася роцікі і сабачкі[25]; гаспадыня заплюшчвала вочы, нешта доўгае шаптала, нібыта малітву, і ўрэшце роцікі і сабачкі таксама паказвалі на добрае.

На чорнае, зрэдку рудаватае, буйное зерне павою, што цямнела ў трэцяй торбачцы, Маня дзівілася і жмурылася, як ад сонца; на яе сухія вусны легла пяшчотная ўсмешка, – павой сведчыў пра ціхамірнае і светлае!

А над кіпцікамі[26], каб ясней пачуць, што яны прадкажуць, руплівая жанчына так нізка нагнулася, ажно дакранулася да краёў торбачкі, і насенне кіпцікаў прычапілася, прыстала да яе сукні.

Варажба не траціла сваёй прыгажосці.

І насенне кіпцікаў – баранчыкі і серпікі пясочна-шэрага колеру – ласкава прашапталі Мані, а, значыць, і Сорцы: доля паспрыяе, і бацькі прыйдуць!

Сярод насення кветак трапіліся торбы з рудымі шурпатымі зярнятамі буракоў і дробным бліскучым слізкім семем шчаўя.

«Буракі, шчавéй[27], як і той жа просты боб – для жывата, а краскí – для душы!» – з такою думкаю жыла агародніца.

Адно лапнуўшы па бураках і шчаўі, Маня пачула праз палатно, што гэта не краскі, таму адсунула торбы ўбок.

Знайшла незабудкі – бліскучае, дробнае, ліпкае, чорнае насенне, а яшчэ наткнулася і на мядок[28] – рудавата-зеленаватае, як смеццейка, таксама ліпкае семя.

Сваімі патрэсканымі далонямі разважліва павадзіла над незабудкамі і мядком і далікатна перасунула торбачкі бліжэй да прымоўклай Соркі – незабудкі і мядок прадказвалі ўдачу.

Сорка Мані верыла.

Дзяўчынка супакоілася і ў гэты момант адчувала амаль радасць.

Так, яна верыла кожнаму Манінаму слову, кожнаму яе руху, і захацела праспяваць Мані песню, але раптам, зняможаная, заснула і не пачула, як называлася тая кветка-краска, над якою Маня, перахрысціўшыся, нахілілася адразу ж пасля незабудак і мядка.

Белыя, злёгку зялёныя, сухія, крыху круглыя і зрэдку цёмныя зярняткі гэтай краскі зноў жа супакоілі – Сорчыныя бацькі жывыя (а Цэйтл і пагатоў жывая!), а раз так, то яны ступяць у Маніну адрыну, па драбінах падымуцца на вышкі і весела скажуць: «Сорка, пайшлі дадому!»

*15 чэрвеня 2022 г., серада, 17 г. 50 хв.; Менск –*
*30 чэрвеня 2022 г., чацвер, 17 г. 40 хв.; Менск –*
*18 ліпеня 2022 г., панядзелак, 18 г. 00 хв.; Менск.*

---

[1] Літары габрэйскага альфабэта ўжываюцца таксама як лічбы. Кожнае слова можа быць прачытанае як лічба, а кожная лічба як слова. Лічбы ліку «18» утвараюць слова «жыццё».

[2] Чалавек негабрэйскай веры, якому не грэх працаваць у суботу і які для габрэяў у суботу выконваў пільную работу.

[3] Здобны белы хлеб.

[4] Даробшчына – пачастунак, які выстаўляецца, калі дароблена работа.

[5] Я люблю мой родны Давыд-Гарадок! (*ідыш*).

[6] Я люблю прыгожую раку Гарынь! (*ідыш*).

[7] Прычво́ры – жарты, забавы.

[8] Дзіцячая лічылка на ідыш, набор прыдуманых і сапраўдных слоў.

[9] Таксама дзіцячая лічылка на ідыш з наборам прыдуманых і сапраўдных слоў.

[10] Прадуктовая крама (*польск.*).

[11] Выбачайце. Крама замкнута (*польск.*)

[12] Магазін, у якім гандлявалі мясам і каўбасой (*польск.*).

[13] Добраахвотная пажарная ахова ў Давыд-Гарадку (*польск.*).

[14] Гускі́ – гарлачыкі.

[15] Баю́ра – вялізная глыбокая калюга.

[16] Мурла́ты – апошні вянок у зрубе.

[17] Грынджо́лы – дзіцячыя сані.

[18] Языкава́лі – пляткарылі.

[19] Хадзілі на пары́ – былі цяжарныя.

[20] Прывалока – чужы, нетутэйшы.

[21] У мэй – у маёй.

[22] Сланечнікавыя.

[23] Курортнікі – гадэцыя.

[24] Браць у пучкі́ – браць разам трыма пальцамі рукі (вялікім, указальным, сярэднім).

[25] Роцікі і сабачкі – ільвіная пашча.

[26] Кіпцікі – календула.

[27] Шчаві́й – шчаўе.

[28] Мядок – алісум.

---

"Дзеяслоўцы" найшчыра віншуюць
нашага даўняга сябра і аўтара, выдатнага майстра слова
**Леаніда ДРАНЬКО-МАЙСЮКА**
з шасцідзесяціпяцігоддзем і зычаць яму моцнага здароўя,
душэўнае трываласці, Божае ласкі і натхнення
на новыя цудоўныя творы!

паэзія

Аксана Данільчык



...усё, што павінна быць значным –
не мае значэння,
і раптам нязначнае робіцца большым
за цэлы сусвет...

# Мой шлях, што завецца жыццём

* * *

Не спакушайце кіроўцу падчас кіравання,
яна і так прыкладае неверагодныя намаганні,
каб не адрываць погляд ад трасы, радуецца,
што едзе па ўзлётнай паласе,
дзе месца на ўсіх хапае.

Не спакушайце кіроўцу падчас кіравання,
ні словам, ні тым болей неасцярожным
(а хоць бы і асцярожным) жэстам,
ні дотыкам пяшчотным да яе, скажам так, далоні,
не перашкаджайце пераключаць перадачы.

Хай лета звініць на ўсе галасы,
хай восень шпурляе насустрач чырвонае лісце,
хай музыка вырываецца і глухне,
запавольваецца і ўзлятае, як жыццё,
што ўсміхаецца з прыдарожнай кавярні.

Хай даішнік, што сцішыўся за паваротам,
страціць пільнасць, стомлены начнымі здарэннямі.
Едзь сабе, дзетка, колькі яшчэ той дарогі,
выпраменьвай направа й налева свае ферамоны,
толькі, пажадана, не перавышаючы хуткасць.

Хай сэрца ляціць хутчэй за сто дваццаць,
хай працінае шчымлівымі згадкамі
ў свеце, дзе – *fare l'amore* – займацца любоўю –
яшчэ не падстава для розных нязбытных каханняў.

Не спакушайце кіроўцу падчас кіравання.

* * *

Ты называеш словы
ручаямі ўплеценымі ў цішыню
ты называеш словы
скалечанымі птушкамі,
што не даляцелі да поўдня
і ўпалі на першы снег,
на шурпатыя, парослыя мохам,
мёртвыя галіны старой ігрушы -
аксамітныя рогі аленя
ўвязненага дрэвам.

Словы, аднойчы прамоўленыя,
праспяваныя, прамоленыя,
зноў і зноў чапляюцца
за цябе калючкамі-цернямі
ля драпежнай ракі,
што паглынае дрэвы,
разбураючы іх карэнне,
але адначасова пяшчотна і няспынна
перабірае пасмы раслінаў.

Шукаеш месца то ў гушчары,
то ў бары, то на водшыбе,
дзе на тваім шляху сустракаюцца
чатыры казулі, адна лісіца
і ніводнага чалавека,
спрабуеш расказаць пра гэта,
вышукваеш кропку апоры,
але спілаваныя сосны не могуць даць
нічога, акрамя водара смалы,
ды яго не забярэш з сабою.

Проста стой нерухома
пасярод гэтага марсіянскага
краявіду адчужанасці,
пакуль складзенае крыжам крылле цішыні
лунае над табою як птушка-маці...

* * *

Шлях праз туман
да пергалаў залатых кастрычніка
да змены сезонаў
па лісці кляновым
“on” кругазварот нелюбові
“off” шукай матывацыю
думала апошняй памірае надзея
але апошнім памірае каханне
а дакладней ілюзія кахання

Жанчына сама сабе маці
жанчына сама сабе не толькі маці
жанчына не толькі сабе маці

Сама сама ўсё павінна ведаць сама
складаць рабіць
скажы свайму сэрцу
заткнуцца нарэшце
што яно ўсё трапечацца
навошта
не ведае куды павярнуцца
рушыць
стамілася

Завісла ў мінулым часе
клавішай на кампутары
заліпла залітае
зёлкавай гарбатай світанку
святаянніку
дастаткова было б проста даруй
разбітая восень
не ў гэтым жыцці
не ў гэтым жыцці

### ***“ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДКІ”***

*К.*

Жаночае лета з падзеннем гармонаў,
дарослымі дзецьмі, паўдзённай спякотай,

лясная рака Рубіконам ці Летай,
з якой разабрацца спрабуеш употай.

Жаночае лета без суму без жалю,
са складзеным крыллем і роўнаю спінай,
здаецца, ніякае зелле не джаліць,
і болей не будзе нагод для ўспамінаў.

Замкнулася кола і – вольнаму воля,
і – быццам ізноў табе нейкіх сямнаццаць,
нібыта нядаўна ты выйшаў са школы,
ды болей не трэба з жыццём разбірацца.

Ужо адбылося, ужо адбыліся,
лаві легкадумны дымок цыгарэты,
падміргвае сонца з бляшанкі забытай
на беразе цёплым жаночага лета...

* * *

Прайсці паміж Сцылай з Харыбдай,
спыніцца між заўтра і ўчора,
не памятаць болей, што значыць
быць проста шчаслівай,
забыцца пра тое, што дзесьці быў проста жнівень,
і хтосьці збіраў бурштыны на беразе мора.

Прайсці між узростам і марай,
аб восеньскі дзень спатыкнуцца,
а ўсё, што ёсць сон ці здавалася радасным сном, –
забыцца? запомніць? згадаць? назаўсёды вярнуцца? –
у бездань пяшчоты, дзе кроплі дажджу
апускаюцца ў келіх с віном.

І зноў разумею – дарэмна шукаць тлумачэння,
бо зноўку – на дыбачках крочу па жоўта-зялёнай траве,
бо зноўку – усё, што павінна быць значным – не мае значэння,
і раптам нязначнае робіцца большым за цэлы сусвет.

І месца святое пустым не бывае,
і так гэта ўсё недарэчы,
і тое, што я адчуваю, даўно ўжо
павінна было б распусціцца як дым.
Аднак калі ты сыходзіш – застаецца пустэча,
якую ніяк не запоўніць – нічым і нікім.

* * *

Нават восеньскі прыцемак –
залаты. Шоўк на аксаміце.
Ліхтарамі падсвечанае лісце
кладзецца на спіны
постацяў-невідзімак.
Фігуры Магрыта без твару
пад залатым покрывам.
Залаты вершнік
між шэрых ліхтарных слупоў.
І поўня
ў німбе з адценнем пазалоты.

* * *

*Knowing I would never find you...*
**Ann Sexton, Flight**

З упэўненасцю,
што я ніколі больш цябе не знайду,
я абыходжу па тысячным коле гэтую рэчку,
берагі, што выплюнулі ў ваду бетонныя пліты,
прыступкі, па якіх караскаюцца качкі,
мост вялікі і мост маленькі.

Я думала...
Лепш бы я не думала.
Ну знаходзіла ж неяк раней...

Кіслотна-зефірная
агароджа дзіцячага сада
кантрастуе з натуральнымі колерамі
зямлі, апалага лісця, пахмурнага неба,
з усім тым, што нагадвае
пра катастрофы майго жыцця.
А гэта нават і не катастрофа.
Лепш бы я не думала...

З упэўненасцю,
што я ніколі больш цябе не знайду,
прыстасоўваю камеру,
каб захаваць восеньскі краявід,
неба, абрынутае
ў пакуль яшчэ незамерзлыя хвалі,
усё яшчэ мядовае святло кастрычніка,
што растапіла першы прымаразак...
Амэн.

Лепш бы я не думала...

* * *

Бедная маленькая дурнічка,
табе даўно ўжо пара памерці.
Памерці разам з ілюзіяй надзеі,
памерці разам з ілюзіяй кахання,
памерці разам з ілюзіяй свабоды,
адным словам,
памерці разам з усімі ілюзіямі.

Я пахаваю цябе ў ямінку
ля школьнага стадыёна
на фальзе з-пад шакаладкі “Алёнка”
пад зялёным
ці бурштынавым шклом,
пакладу табе кветачкі –
букецік Афеліі –
засыплю зямлёю
і гэта будзе табе мой сакрэцік.

Я забудуся, дзе ты ляжыш,
але буду памятаць,
што дзесьці спачывае
бедная маленькая дурнічка,
якая глядзела ў неба,
а не пад ногі.

Бедная маленькая дурнічка,
якая бегала на мітынгі,
глядзела на новыя сцягі і верыла,
што гэта назаўсёды.
А потым нараджала дзяцей
і вучыла іх сваёй мове,
а потым рабіла ўсё,
каб застацца ў краіне,
хоць усе навокал казалі: “Едзь”.

Таму што *Love is our resistance*[1],
не на імгненне і не на год.

Я паплачу над тваёй магілкай,
бедная маленькая дурнічка,
як плачуць над страчаным юнацтвам,
як плачуць над нязнойдзеным выраем,
як плачуць проста таму, што плачуць.

---

[1] Цытата з песні “Resistance” групы “Muse” (“Любоў – вось наш супраціў”), аўтар тэксту *Matthew James Bellamy.*

А пасля вытру слёзы,
і напішу тое, што павінна напісаць:

*Our resistance is love* –
не на імгненне і не на год.

Як і жыццё...

* * *

*Т. Ш.*

Лістапад афарбоўвае наваколле
то дажджамі і колерам шэрым
то пранізлівым ззяннем апошняга сонца над чорнай шашой
мы ніколі ніколі не зможам быць болей такімі
якімі калісьці хацелі
быць –
пераможна-адчайнымі з непрацятаю болем душой.

Ёсць гульня, у якую магчыма нам так і не лёс
навучыцца гуляцца,
ну і што – прамінаюць імгненні і неба не падае ніц.
Мы збіраем па кроплях жыццё ў разнастайнасці варыяцый
існавання –
каб урэшце сабрацца з апошняю моцай і выйграць бліц.

Ці не выйграць...

## *NOORDZEE*

На пачарнелых камянях,
што ловяць хвалі ў час прыліву
і разбіваюць на вачах,
здаецца, можна быць шчаслівай.

Ды як забытая любоў,
якой засёды не хапае,
Італія чамусьці зноў
раптоўна сэрца працінае.

Такая ж цёплая вада,
і вецер сёння тут лагодны,
крыклівых птушак чарада,
і сонца ёсць, і дзень пагодны.

Але вяртаецца туман
і паглынае пляж і мора,

і я сыходжу ў акіян,
ў яго магутную прастору.

І ўжо не Падуя, не Рым,
не зімны подых трамантаны,
мяне чакае мой Гальфстрым
у белых кропельках туману.

* * *

Сакавік у пыльна-зямлістых колерах хакі,
белая траса насустрач і я –
кропка, што рухаецца па простай лініі
ад далягляда да далягляда.

Можна я сёння не буду пісаць пра вайну,
можна сёння будзе мне перадышка?
Бакавы вецер не надта моцны,
сонца не надта яркае.

Двухсотая спроба развітацца,
каб вярнуць самую сябе, пасадзіць у чырвоны кут
і ганарыцца дасягнутым поспехам,
завяршылася зноў няўдала.
Пераадоленне памяці ў прынцыпе марная справа,
напэўна, памяць можна толькі закрэсліць,
а яшчэ лепей – выдаліць, а потым
нашаптаць чужым голасам сабе ў залатое вушка:
навучылася кіраваць машынай –
навучышся быць шчаслівай.

Калі – хай сабе і ў вельмі аддаленай перспектыве -
калі – ў сэнсе часу, а не ўмовы –
зацвітуць рададэндраны,
нязвыклыя для нашых шыротаў.

* * *

Празрыстае зерне дажджу на тваіх валасах
пяшчотнай рукою страсаю.
Да твару твайго дакранаюся подыхам цёплым.
Дрыготкае летняе неба мяняе вачэй
тваіх колер,
у іх адбіваецца жоўтае, сіняе і зялёнае.

Мой шлях, што завецца жыццём,
няспыннаю стужкаю Мёбіуса
ўяўляю.
Я крочу па гэтай бясконцай паверхні
і ўласныя крокі спрабую пачуць
у глухіх калідорах выгнання.

А ты некранутым святлом застаешся
ў далёкіх дажджах небакраю.
Праз столькі пралітых гадоў
празрыстае зерне дажджу на тваіх валасах
страсаю пяшчотнай рукою.

* * *

*Дашы Б.,*
*або ад пакалення "Sex and the city" пакаленню "Normal People"*

А можа быць верш аб шчаслівым каханні?
Кшталту: яны жылі доўга й шчасліва
(і, што немалаважна, разам),
і былі абсалютна сабой задаволеныя?
Кахаліся кожны дзень, увечары, ну, і ўранні,
а калі й не кахаліся, то ўсё роўна былі спатоленыя?

А можа быць сон аб шчаслівым каханні,
дзе б, як калісьці, усе былі бесклапотнымі?
Ён праз столькі гадоў прагне снегу і цішыні,
і цела майго цеплыні,
бо ў выніку толькі гэта робіць нас несмяротнымі?

Хто ведае ўсе адказы...
Хай напіша іх адмыслова.

А потым прачнуцца... Магчыма ў Таскане...
Каб бэзавы вецер
кранаў далікатна хмызы прыдарожныя...
І падумаць: мужчыны мае – як любімыя дзеці:
то бок ці разумныя, ці прыгожыя.
А некаторыя ўсё гэта і яшчэ сёе-тое адначасова...
;-)

Віктар Казько



...нябожчыкі

страху не маюць...

# У трох соснах

***З цыкла "Лёнькі, Ваські, Валодзькі"***

*Заканчэнне. Пачатак у №3-4 (118-119).*

***1***

Абеліскі, нібыта салдаты навабранцы ў страі, перакуленыя кулямі, нямыя клічнікі. Раней Міхаіл Андрэевіч мінаў іх безуважна. Ды раней іх на яго дарозе і не было. Раней тут былі гарадскія цывільныя могілкі. Крыжы, крыжы, і зрэдку варона на адным з іх, як з таго свету выкапалася. Зверху ж, з неба і ад каплічкі, чорны грай гругання, падобны адпяванню. А тыя, хто цяпер пад новенькімі, што з канвеера, колкім выклікам сусвету ў чырвона-крывавай жалобе зоркамі з прыпынкавай кропкай унізе, зусім нядаўна спачывалі ў гарадскім парку Але калі горад пачаў рыхтавацца да гадавіны вялікай Перамогі, іх перасялілі сюды. Пэўна, некаму з разумнікаў засцілі вочы: парк – жывым, мёртвым – могілкі.

І неяк пасля першай вясновай навальніцы на голыя

дрэвы – благая прыкмета – што зробіш: адзін мяркуе, дзесяць ужо маракуюць, глыбока апаўночы, калі закончыліся танцы і міліцыя выдаліла з парку апошніх каханак і каханкаў, на алеях патушылі ліхтары, пад хваравіта жоўкла-запаленым вокам месяца каля маўкліва прыснулых бяроз і ліп зарыпелі колы падвод гарадскіх залатароў. Пахмурныя і негаваркія дзядзькі каўтнулі яшчэ з ваеннага часу алюмініевых біклажак, хапатліва заелі салам ці каўбасой з цыбуляй, звыкла ўзяліся за рыдлёўкі і чарпакі.

Коні, нечым падобныя да сваіх гаспадароў, хіталі галовамі з падвязанымі да іх торбамі аўса ці рэзанкі, сеялі гарачкавым святлом цьмяных лямпаў-кажаноў, падвешаных да дугаў, абыякава назіралі, як іх святло ліхаманкава шнарыць па абелісках, як тленна смецячы сапрэлым прахам, вострыя лапаты лёгка ўваходзяць у целы зляжалых ужо тут магіл. Як потым трухлява рушацца да маршчын высахлыя на сонцы драўляныя абелiскі. Нібы прысядаюць наўколенцы перад узгалоўем нябожчыкаў, прыпадаюць да зямлі. І на зямлю ж спачынна падаюць.

Дзядзькі залатары ўсё, што здолелі дастаць, выграбці, сабралі да костачкі. Склалі ў металёвыя з цынкавым мутным праблiскам скрыні. І павезлі, павезлі, як да гэтага прафесійна вазілі вычарпанае і здабытае. І ці не з такім жа смуродам збытага жыцця і нежыці. Перасялілі на агульнагарадскія цывільныя могілкі. Камунальна падсялілі да ўсіх даўніх і свежых местачковых нябожчыкаў. І калі цвяроза падумаць, сёння тут, на агульных могілках, ці не больш абеліскаў, чымсьці загінулых ваяроў. Больш прозвішчаў, чым нябожчыкаў. І ніхто ніколі не даведаецца, чые косці дагніваюць пад бетанаваным пакрыццём: больш касцей засталося там, у парку – яны не пакрыўдзяцца ўжо – а тыя, што перавезены, пераблытаны, сашчэплены ў брацкіх абдымках. Больш клапаціліся, каб кожная магіла мела чэрап, пазнаку былой галавы і розуму таго, каго там паклалі. А чый гэта чэрап – справа дзясятая, клопат жывых. Нябожчыкам гэта не да галавы. Ды варта адзначыць, не кожнаму з іх і дасталася галава: згубілі, як гэта заўжды надараецца пры вялікіх пераездах і перасяленнях. Што ж, бывае. І з таго свету ніхто яшчэ не жаліўся на безгаловасць ці абезгалоўленасць. Як, між іншым, і на гэтым свеце.

Але і там, і тут знешне нічога, усё годна, прыстойна, паглядна, урачыста і нават высакародна-велічна: Герой Савецкага Саюза гвардыі палкоўнік. На чале строю нябожчыкаў. І варты звання героя-палкоўніка чорнага паліраванага мармуру ці граніту абеліск з непрамытым налётам вясновымі дажджамі шэравата-пясковага местачковага смутку. Герой Савецкага Саюза гвардыі лейтэнант... І зноў каменная пліта, як дзяржаўная гербавая пячатка. І далей па чыну і рангу: брацкая магіла, дзе ўсе, хаця і гвардыі, але радавыя ў адной повязі. І таму, пэўна, блытаніна сярод іх на тым свеце неймаверная. Больш за паўсотні гвардыі шараговых. Калгас.

Больш за пяцідзесят, і ўсе ў адным баі, навалам у адной кучы. А гарадок-та на мапе нават выдатніку геаграфіі днём з агнём не адшукаць: ПГТ – пасёлак гарадскога тыпу. Мястэчка. Зачуханае, снулае, ціхае. Спакон веку, учора і сёння такое. Ужо ў міры пасля вызвалення не змагло прыбраць усіх нябожчыкаў, асабліва тых, хто загінуў на аддаленні ад паселішчаў. Іх, непахаваных адразу і па-людску, не адзін год пасля перамогі збіралі па борах і пры балацінах. Звычайна голых, распранутых, вопратка патрэбна жывым. Прыкопвалі там, дзе знаходзілі, пад крыжам ці абеліскам, што на той момант мелася пад рукой, не зважаючы, свой ці чужынец. Голыя

ўсе, свае ці чужыя, якімі прыйшлі на гэты белы свет, такімі і адышлі. Такі гарадок, такія звычкі паселішча, што завісла паміж небам і зямлёй, вылузнулася з вёскі, не дапяла да горада. ПГТ. Мястэчка, згубленае ў вайне, пазасветна заселенае памерлымі і жывымі нябожчыкамі, зданямі, прывідамі, святымі і грэшнымі.

Ціхія, пясчаныя, у летнюю спёку прыскавыя вуліцы, з якіх толькі адна, цэнтральная, Савецкая, яшчэ за царскім часам вымашчаная каменем. Дошкавыя платы з навіслымі над імі вішнямі і слівамі. Пірамідальна ўрослыя ў неба вострымі шчыкамі таполі. Беспародныя, з голадна падцятымі да хрыбціны бакамі сабакі. Сучасныя гарадскія дваране. Нячутныя ўдзень і ўначы жыхары. Ціхі, ціхі гарадок, правеяны, прадзьмуты вятрамі ліхалеццяў белы пясок на буграх за ваколіцай, дзе месціцца бульбянае поле, адбеглае ці наадварот, падбеглае да хатаў. Зялёна-блакітная ад далі колішняя дуброва і хваёвы прылесак.

Наглядальна-ціхае над усім гэтым, здзіўлена вылупленае жоўтае вока сонца, неба, пад блакітам і прабеглымі хмарамі якога ціха зачынаюцца, ціха бытуюць стагоддзямі і таксама ціха адыходзяць у нябыт людзі. Гэта пра іх: б'юць – трывай і маўчы, даюць – бяры і ўцякай.

Але ж амаль кожны ведае: у ціхім віры ці балоце... Водзяцца, водзяцца, ды такія, што вялікім, буйным гарадам і не снілася. Ці не спецыяльна гарады плодзяць іх, нібыта байструкоў, кідаюць, адводзяць ад сябе і наводзяць тых, грэшна зачатых бастардаў, на божай ласкі цішу і спакой. Цішу, спакой і хараство якіх вялікія гарады па сваёй ахвоце самі ж і пазбавіліся, напоўніцу клята аддзячылі свайму мінуламу. Сапраўды, ніводная добрая і злая справа не застаюцца без пакарання: Бог не цяля – бачыць і праз стагоддзі круцяля. Бядой адрыгаецца кароткая памяць. І не толькі чалавеку – усяму сутнаму і існаму на гэтым, а мо і на тым свеце.

І яна, ціхая бяда прыспанай памяці, ціха ўвайшла ва ўтульна ціхі дворык Міхаіла Андрэевіча. Нячутна пракралася пад вішнямі і яблынямі, ступіла на парог хаты. І сабака не забрахаў, спаў у даўгія, зарослыя поўсцю вушы. Блаславіла сненні гаспадара і адначасова невымерным цяжарам абрынулася на яго плечы, пэўна, ужо даўно адвыклыя ад неспадзяваных ношак лёсу.

Яшчэ толькі ўчора надвячоркам ён праходзіў міма абеліскаў, не трымаючы іх у вачах. Праўда, паблізу іх усё ж нешта падсвядомае наравіла збіць яго са ступы. Але гэтае нешта на адыходзе ад могілак таксама адыходзіла, выдзьмухоўвалася першым жа павевам скразняку, што відавочна лунаў над магіламі, гнаўся за ім, уядаўся сабачым чартапалохам у калашыны штаноў. Сёння ж так лёгка абеліскі не адпускаюць яго. Нібыта хтосьці з нябожчыкаў падняўся, паўстаў з-пад каменю, граніту, мармуру, бетону і чакаў яго. І таму яшчэ на падыходзе да помнікаў ён мімаволі запаволіў крок. Хацеў нават перайсці на другі бок вуліцы і не здолеў. Як нехта яго падпіхнуў насустрач гэтым адчайна святочным, бліскучым, чорным і срэбным у журбе металу, каменю і бетону абеліскам. Пацягнула, як, кажуць, злачынцу цягне да месца яго злачынства. Але ж гэта зусім не пра яго.

Ён жыў, як большасць яго веку людзей, як усе ў гэтым ціхім горадзе. Пасля бетонна-журботных слоў "гвардыі лейтэнант", толькі не герой, у не-героях і чыне задубелага, але жывога ўзводнага Ванькі ён адваяваўся, і на адной з гэтых праколін неба магло стаяць і яго прозвішча. Ён адчуў, як гэтым думкам адгукнуўся ў ім прыхоплены на ўспамін аб вайне гарачы камячок. Не дастаны шпітальнымі хірургамі асколак снарада, мо і не

адзіны, што просяцца на волю, а ён носіць іх у сабе вось ужо пад дваццаць гадоў. Яны і завярнулі яго ў той дзень на могілкі.

Міжволі ён чытаў і перачытваў умураваныя ў бетон узножжа абеліскаў прозвішчы, няздольны пракаўтнуць камяк ужо іншага, даўкага кшталту, што заклаў яму горла. Той камяк закаркаваў яму сэрца. Яно намагалася выштурхнуць яго вонкі, білася гулкімі штуршкамі. І ён не мог паверыць, што гэта яго сэрца: яму, як і самому Міхаілу Андрэевічу, не хапала для разгону паветра. Яго, падобна, не хапала знерухомленай лістоце калонападобных таполяў. Акуратна прыстаўленыя да агарожы, як і абеліскі, упёртыя шчыкамі ў неба, яны выдаваліся выразанымі са свежа-здабытага горнага малахіту, ім як штосьці прыдалося ад могілкавага каменя, хаця і зусім іншага колеру: кожны лісцік нібыта грэбаваў суседам, асобна сам па сабе. Вочы адмаўляліся прызнаваць гэту адасобленасць, падобную на выклікальна-распранутую, гола-нахабную прыгажосць.

Боль у грудзях ішоў па нарастаючай. Міхаіл Андрэевіч прыслухоўваўся да яго, баючыся імгнення, калі ён стане невыносным, што было прадвесцем не толькі яго мяжы, але і палёгкі назаўжды. Гэта трымала яго ў няпэўнасці, не давала засяродзіцца. Адцягвала ад болю іншага, калі жыць не жывуць і паміраць не паміраюць.

Раптам яму падалося, што зямля пад яго нагамі здрыганулася і пахіснулася. Каб не абваліцца, ён абедзвюма рукамі ўхапіўся за плот. І ўсё ж не ўтрымаўся, ціха аплыў на ўкапаную каля агарожы лаўку. Расшпіліў каўнер кіцеля, хамут, што не ведае і сам колькі гадоў па сваёй ахвоце носіць на шыі. Але і вызваленне ад яго таксама не дадало паветра. Ад лісця паўднёвых таполяў сыходзіла такая саладжава-адмерлая прыкрасць, нібыта папраўдзе не таполі былі перад ім, а забіты і непахаваны нейкі гвардыі лейтэнант, мо сам ён аб месца супакаення свайго ці чужога спатыкнуўся. Гады і гады непахаваны гвардыі лейтэнант тагасветна спаганяў, чаму ён не пахаваны, не пад абеліскам.

Міхаіл Андрэевіч адчуў, што ўжо ніколі болей яму не будзе вольна дыхацца на вуліцах гэтага ціха бездыханнага гарадка. Прынамсі, да той пары, пакуль на яго дарозе не перастануць паўставаць абеліскі. Трэба змяняць маршрут, трэба хадзіць іншым шляхам.

***2***

Ёсць людзі, што носам прадчуваюць небяспеку. А ёсць такія, што носам ведаюць: вось-вось атрымаюць у нос і па носе. А яшчэ – нічога апроч чаркі, калі той жа вяшчун нос ні з таго ні з сяго пачынае надта ж свярбець, трымаючыся ветру. А ў горшым выпадку, невядома чаму губляе здольнасць трымацца ветру. У такім стане бестурботна спажываў той дзень, свой працоўны час Міхаіл Андрэевіч. Мажны, з урослай у плечы шыяй, як кажуць, бычынай, палкоўнік увайшоў у яго кабінет, калі ён збіраўся ўжо дамоў, адседзеўшы свой чыноўны час, без адчування якіх бы там ні было нечаканасцяў.

У звыклых яму сценах ваенкамата ён пасля ўчарашняга зноў набыў статутны спакой і раўнавагу. Да візіту чыноўнага госця паставіўся звычайна, без здзіўлення і непакою. Сам Міхаіл Андрэевіч быў ужо ў такім узросце, калі да начальства ставяцца як непазбежнага зла: далей фронту не пашлюць, болей роты не дадуць.

Калі ты распячатаў ужо пяты дзясятак, як ні выжыльвайся, выслугоўвацца позна дый смешна: адной зоркай на пагонах больш, адной менш – наперадзе зорнасць толькі нябесная, калі ты ў паўвеку толькі капітан. Як не пніся, а баранковая папаха і трохзоркавы армянскі каньяк табе ўжо не свеціць. Адну вялікую зорку яшчэ можаш атрымаць, і тое толькі тады, калі патухнуць свечкі і закрыюць занавес. А начальства за гады сваёй службы ён наглядзеўся ўсякага. Ёсць сярод яго людзі, ёсць нелюдзі. Асабліва не вытыркайся, мо тады і ацалееш. Таму так, як належнае, і сустрэў ён палкоўніка.

Той жа адпаведна званню ўваліўся ў кабінет. Аддыхаўся, дастаў ці не аэрадромных памераў насоўку, моцна, да пунсовага бляску, нібыта бархоткай драіў боты, адпаліраваў лысіну, выцер спатнелыя шыю і твар. Моўчкі вывучальна агледзеў кабінет, яго гаспадара. Міхаіл Андрэевіч адчуў няёмкасць, нібыта быў чужым у сваім пакоі, а палкоўнік гаспадаром.

– Значыцца, так і жывяце, – вынес няпэўны прысуд.

– Значыцца так і жывем, – не ведаючы, пагаджацца ці пярэчыць, не без прыхаванай з’едлівасці адказаў Міхаіл Андрэевіч.

– Бедна, няўтульна жывяце, – паставіў кропку палкоўнік.

Міхаіл Андрэевіч моўчкі пагадзіўся з ім. Хаця жыў так гадоў ужо з дзесяць і не ўяўляў, як можна жыць інакш. Ваенкамат не мастацкая галерэя і не выстава дасягненняў народнай гаспадаркі. Хаця і не інтэрнат, і не грамадская забягалаўка. Яго кабінецік на самой справе выглядаў не надта самавіта, але ж не зусім сіроча і няўтульна. Абклееныя таннымі шпалерамі сцены. Вялізны стол, адпаведна бягучага часу, культаўскі, з прапаленым некалі зялёным, а цяпер не разбяры-паймі наркамаўскім сукном. У пару хрушчоўскай адлігі ім адарылі ваенкама. А гады са тры ён пайшоў на павышэнне, яму далі новы стол. А Міхаілу Андрэевічу дастаўся культаўскі. І на тым, як кажуць, дзякуй, і ў зайца бываюць святы. Жаўклява-патрэсканая ракавіна ўмывальніка з вонкава-выпнутымі падводнымі трубамі. Здаецца, ужо і не металёвыя, у рыжай заедзі іржы.

Напачатку працы ў ваенкамаце Міхаіл Андрэевіч спрабаваў падмітусіцца, нешта тут перайначыць. Вайсковая костачка, звычка да парадку адмаўляла расхвостанасць і расхлябанасць. Ды і сам ён па характары трымаўся дысцыпліны. У яго хаце, як і ў гаспадарцы, усё смяялася, звінела і спявала, як вышараваны медны армейскі ці піянерскі горн, але ж у ваенкаматаўскім бязладдзі ён так і не дамогся што-небудзь перамяніць: рады быў бы ў рай, ды грахі не пускаюць. Вышэй сябе ўсё роўна не скочыш – з гэтым можна і даскакацца. Будзеш дурыцца і наракаць, розум свой выстаўляць – у армейскім калгасе хамутоў на кожнага хапае.

І ён стушаваўся. Армія любіць падпарадкаванне. І яму няварта ісці не ў нагу са строем. Пасада яго ціхая, кормная. Пенсійная, не высоўвайся, сядзі і жуй свой хлеб, калі не хочаш мякіны. І Міхаіл Андрэевіч прынаравіўся і звыкся з ціха дробячымі масніцы кроплямі вады з крана, нават з прусакамі, што развяліся ад сырасці. І, пэўна, не ад адной толькі сырасці. Разумее, чуе пошасць няўтульнасць і запушчанасць чалавечай жыткі і душы і прэ, прэ на іх. Кожны вечар, як па статуце, лена і задумліва выпаўзае са сваіх сховішчаў на божае святло. І, як звекаваныя старыя, стынуць на адным месцы, пашавельваючы адрошчанымі ў змроку цененькімі антэнамі вусікаў. Выправоджваюць яго дамоў па заканчэнні працы, сустракаюць на пачатку яе. І ў гэтым, хапун іх бяры, нешта ўсё ж было. Старажытнае і хатняе, на-

ват вайсковае. З іх, з прусакоў, пэўна, атрымаліся б добрыя салдаты. Мо ў свой час так і будзе, прагрэс жа прэ няспынна. І сёння спрытам, імгненнай паваротлівасцю, як на такарным станку адшліфавана-вытачаных вечных целаў, яны нагадвалі яму шматлікіх сярэднявечных ваяроў Чынгісхана.

– Даўненька не бываў я ў сваіх і вашых палесцінах, – перарваў зацягнутую цішу палкоўнік.

Міхаіл Андрэевіч, выдаючы, што разумее і падзяляе яго словы, усміхнуўся. А пра сябе падумаў, калі пачнуцца ўспаміны, то і сёння не атрымаецца паліць яблынькі. А паліць варта абавязкова. Зямля пад іх ствaламі ўжо патрэскана забялілася. А дзе-нідзе да высмягла зняможаных ад зацяжной спёкі дрэўцаў пачаў прыпадаць вусень і садовыя мурашы тлёй скруцілі ліст. Дождж, дождж край просіцца. І не хуткі, цыбата прабеглы ліўнем, а зацяжны, грыбна-цёплы. Як гавораць па прагнозах радыё: кароткачасовыя ападкі на тыдзень без перапынку. Метэаролагі ў параўнанні са статыстыкамі – святыя і бязгрэшныя, прарокі. І тады яго садок будзе абаронены, пачне дыхаць вяснова і напоўніцу. Збудзе нечысць, заедзь душы дрэва і чалавека.

Міхаіл Андрэевіч так думаў і чакаў ад палкоўніка працягу гаворкі. Але той зноў замоўк. Неяк разам і імгненна панік, як высахлае дрэва, завяў. Пацьмянеў і пастарэў, азызла аплыў тварам. І шыя больш не выдавала бычынаю, страціла разам з глянцам лысіны чырвань і бляск. Яму, яго абліччу, асабліва лысіне, не хапае паліву, падумаў Міхаіл Андрэевіч, хаця ён і палкоўнік. Равеснік яго, лічы, а палкоўнік: не цягні рызіну, загадвай, капітаны паслухмяны народ.

Але палкоўнік нічога загадваць яму не стаў. З уладальніка і носьбіта трох вялікіх зорак на плячах ён нечакана прысеў да простага наведвальніка, звычайнага чарговага просьбіта:

– Вось што, капітан, не ў службу, а дружбу. Калі ў цябе ёсць вольная гадзіна, правoдзь мяне да старога ваеннага гарадка. Ведаеш жа, быў такі да вайны, – працягваючы руку праз стол, не па-палкоўніцку ўгнуўся. – Васіль Васільевіч Раманчук.

Моўлена гэта было без камандзірскага гучання, атухла, стомлена і заклапочана. У працяг, дык і зусім па-мясцоваму – панібрацку:

– Паміж намі, не Васілій, а Васіль. Можна нават Вась-Вась.

Вось вазьму і дам зараз у хамут, адкажу яму, што ні ў службу, ні ў дружбу не магу. І ў службу, і ў дружбу – яблынькі ў мяне. Чакаюць, вымушаюць бегчы да сябе, падумаў Міхаіл Андрэевіч. Але замест гэтага не марудзячы, паслухмяна падняўся. Рыпнулі спарахнелыя дошкі падлогі, пырскнулі ў розныя бакі прусакі, што падрыхтаваліся ўжо праводзіць яго дамоў. Спатыкнуліся на нечаканасці няўчасся на кроплях вады з ракавіны ўмывальніка, люстрана заблішчэлі тулавамі. Міхаіл Андрэевіч па здаўна прадпісаным мовіў:

– Я да вашых паслуг.

І яны даехалі на задыханым ваенкаматаўскім газіку да аселіцы. Далей пешкі, ляснымі сцежкамі скіравалі ў напрамку колішняга тутэйшага ваеннага гарадка. Апошнім часам па службе Міхаілу Андрэевічу даводзілася часцяком забрыдаць да яго. Па-першае, пэўна, таму, што старэў, абуджалася няспраўджанае і забітае вайной юнацтва. Па-другое, амаль тое, што і па-першае, па ўсім яно яшчэ нязбытай памяццю блукала менавіта тут, у гэтым баравым урочышчы. Грыбным, ягадным і зусім не для бою і смерцяў. Было яшчэ і трэцяе, але пра яго Міхаіл Андрэевіч стараўся не думаць.

Ваенны гарадок нагадваў нешта накшталт старадаўняга абарончага шляхецкага засценку, ці таксама старадаўняе занядбанае гісторыяй рысталішча колішніх гладыятараў, а як на сённяшні дзень – мястэчковы спартовы гарадок. І ўсё зарослае не травой забыцця і небыцця, скраднай памяццю часу, зямлі, што бездапаможна пнулася адрадзіцца духам і дыхам гвалтоўна вынішчанага, бярэзнікам ды ельнікам, дзірвановым скрэпам бягучага, на якім і ў якім спраўна раслі баравікі і падасінавікі, у смузе жалобы – чарніцы і кропельна-крывавыя суніцы. На чалавечых хаўтурах, на крыві ўсё добра расце нават без паліву вадой, як гэтага прагнуць яго яблынькі. Лепшыя дрожджы, рошчына жывому – жывая кроў.

І амаль праз чвэрць стагоддзя – тэрмін існавання аднаго пакалення – нашчадкі колішняга ліхалецця дасведчыліся аб гэтым і спахапіліся. Успомнілі сваіх і чужых нябожчыкаў, косці якіх безыменна і непрыбрана раскіданы груганам на спажыву па ўсім свеце. Кінуліся і ў ваенны гарадок, збіраць парэшткі тых, дзякуючы якім яны і ціхі гарадок адзіна і ацалелі.

Міхаілу Андрэевічу было непамысна ад гэтай запознена абуджанай памяці, што, падобна, пераўтваралася з галоднага галасу: хлеба, хлеба ў спажывецка-мадняцкі галас – відовішчаў, відовішчаў. З аднаго боку, здаецца і нічога кепскага, а з другога... Ці варта з ненаеднай перасыці непакоіць, падымаць з таго свету ўляжалыя там косці. Парушаць спачын ужо вечнікаў. Як забіваць іх зноў. Уладкоўваць на новым месцы жыхарства па здаўна вясковa-сялянскай звычцы – грэх на душу. Вялікі грэх перад нябожчыкамі. І душа жывых прымала той грэх, тварыла яго па сваёй ахвоце і з задавальненнем нават. Такі надышоў век.

І ён, як галавешка ў печы, агаркава тлеў душой і згодай памяці ў тым веку. Быў, як усе, рабіў, як усе, таму што ўсё ж паднявольны, прыняволены пагонамі. Але на свеце цалкам вольных і без пагонаў нават няма. Усе ў стане апраўдальных адгаворак, насабачыліся. Зноў жа, такі век. Вось чаму Міхаіл Андрэевіч імкнуўся пазбягаць усіх наваяўленых вернікаў пашукоўцаў, што загадзя залічвалі сябе ці не ў святыя. Большасць з іх, трэба прызнаць, шчыра, хаця і аблудна, верыла ў сваю святасць не была нахабна надакучлівай, як сапраўдныя пакутнікі, часцей брала на выкрыццё ўся і ўсіх і на слязу. Мо таксама шчырую, але з прыкідам і аглядкай на ўласнае, пэўна, ужо недалёкае паміранне: замольвалі свой судны дзень, судны дзень сваіх бацькоў, што насвінячылі на гэтым свеце. Шчырасць патрабуе ў адказ таксама шчырасці ці хаця б спачування. А ён ужо, падобна, страціў гэта разам са страхам, пралітай крою і прыкіпела непралітымі слязьмі. Згубіў, развеяў на палях з нябожчыкамі на крывавай дарозе ад Палесся да Берліна. І пазней, пазней, пасля...

Палкоўнік ішоў паперадзе, не азіраючыся на яго. Нібыта па ходжаным, па знаным дзяцінствам. Не яго вялі, а ён трымаў на почапе капітана.

– Вы лепей за мяне ведаеце тут усе сцежкі, – здзіўлена мовіў Міхаіл Андрэевіч. Палкоўнік скоса зірнуў на яго і адразу ж адвёў вочы. Яны цяпер былі ў яго як пад аховай наплыву лёгкага туманца, што пахмельныя. Міхаіл Андрэевіч яшчэ больш здзівіўся, але змоўчаў: якая яму справа да вачэй палкоўніка, ён усё ж толькі капітан.

У абязветранай нерухомасці лесу дыхалася цяжэй, чым на галах і нават у горадзе. Сосны шчодра сочылі дзённым цяплом сонца. З-за прыселых да зямлі бярозак і хвоек пазначыліся паросли сплеценай травой вал, канавы, што з чатырох бакоў абвалоўвалі гарадок.

– Вось і прыйшлі, – гадаючы, куды прыйшлі і навошта, сказаў Міхаіл Андрэевіч.

Але палкоўнік не спыніўся.

– Да трох соснаў, – не паварочваючыся, кінуў на хаду капітану.

Далей яны амаль што беглі. Мінулі старую занядбаную копанку, густа зацягнутую зялёным россыпам раскі. Метраў праз дзвесце ад копанкі – канцавую мяжу гарадка. Не надта глыбокую канаву, як і на пачатку, сінявока зацягнутую пры дне цыбатым верасам, а на ўзвышшы пясчаных бугроў – рэдкай, востра і крывава рэжучай рукі асакой. Яны і тут не спыніліся, пакрочылі далей. Да стражы, зразумеў Міхаіл Андрэевіч, Стражай называлі дамок былога тут лесніка, што ў свой час атабарыўся ў бары за ваенным гарадком. Ад той стражы сёння, як і ад самога ваеннага гарадка, мала чаго засталося. Ад першага – толькі кодава заштрыхаваныя абрысы мінулага, ад стражы – шкілеты хаты і хлеўчука са свежа абгарэлымі бёрнамі і дошкамі. Падобна на тое, што нехта зусім нядаўна добра пагрэўся. А лесніка ў вайну павесілі карнікі – ці то за сувязь з партызанамі, ці за тое, што як бяльмо на воку няскорана жыў са сваім сямействам у лесе. Удава з дзецьмі пасля вайны пераехала ў горад. Міхаіл Андрэевіч ведаў яе зблізу. Яна некалькі разоў прыходзіла да яго ў ваенкамат па пісьмовы дазвол, як сям'і былога ахоўніка лесу, трымаць у гаспадарцы каня. З цяглом, а праўдзівей, без цягла ў мястэчку было цяжка, выжывалі за яго кошт. Аралі, вазілі з лесу дровы, коні рабілі за мужыкоў і баб, больш за калгасных. Але толькі леснікі і аб'ездчыкі, зыходзячы са службовых патрэбаў, мелі дазвол трымаць каня. І да ўдавы ўжо былога, павешанага фашыстамі, лесніка меліся пытанні, што ў рэшце рэшт з улікам наяўнасці пяці дзяцей сірат лесніка і не без удзелу Міхаіла Андрэевіча, дзякуй Богу, вырашыліся станоўча. Старэйшы, дванаццацігадовы сын лесніка стаў за плуг, малодшыя на чале з маці пабралі ў рукі косы, вілы, граблі і сякеры. Жыць было можна.

Лес, што рос пад вартай, нецярэблены яшчэ з часоў вайны, пагусцеў. Леснічоўка была побач. І з яе боку раптам патыхнула жытлом, хатнім духам. Нібыта там яшчэ і цяпер гаспадарыў ляснік. Котлішча, хаця і парушанае, было закаркавана борам, але прысялібнымі палеткамі адкрытае сонцу. Сонца парупілася, вытапіла з ацалелых шкілетаў былога да сёння яшчэ нявыпетраныя пахі таго, хто тут месціўся. Адначасова з далёкага наперадзе балота наплывала сырасць. Раманчук нібыта ўпёрся ў яе, зазіраўся ў непаразуменні.

– Усё правільна, мы не збіліся, – зразумеў яго Міхаіл Андрэевіч, – стала прысядаць, штукарыць і круціцца зямля. З кіламетр адсюль асушылі балота. Дык яно забегла наперад сабе колішняму і выявілася зноўку, непадалёку ўжо адсюль. Мо і далей бы пабегла, ды бор не пусціў, заступіў дарогу.

– Цікава, цікава, – сказаў палкоўнік. – Першы раз такое чую. Нашы балоты і бары разумней за нас. Мы толькі замінаем ім жыць... А ты, служывы, часам не ў курсах, дзе тут магіла Збышко? – спытаў строга, як і належыць палкоўніку.

Капітан спатыкнуўся і падаўся назад: супадзенне ці нешта пранюхаў? Не, капітанам з палкоўнікамі нос заўсёды трэба па ветру трымаць, навыцяжку і рукі па швах.

– Збышко Васіля, а па бацьку, ты ўжо прабач, забыўся. Дый ніколі і не ведаў. Не дажыў ён, каб па бацьку.

– Анупрэевіч, – падказаў капітан.

– Мо і Анупрэевіч... – палкоўнік імгненна страціў сваё пагражальна камандзірскае. – А ты што, таксама ведаў Збышко Васіля... Анупрэевіча?

Хто мог яму капнуць, разгублена прыкідваў Міхаіл Андрэевіч. Якая зараза. Калі гэта расследаванне, дык ён жа нідзе не наслядзіў, не схібіў. Наадварот, зрабіў усё, што ў яго магчымасцях. Прыстойна і па-людску.

– Адказвай, – палкоўнік, відавочна, зноў вярнуўся да сябе. І капітан падпарадкаваўся:

– Так, дакладна так. Ведаў, – па-салдацку прызнаўся Міхаіл Андрэевіч. І на ўсе капітанскія гузікі зашпіліў кіцель.

Ці яму было не ведаць Збышко Васіля Анупрэевіча. Даўся ён яму, хаця бачыў адзіны толькі раз ды і то на фотаздымку.

*3*

Фотаздымак быў стары і цьмяны. Як з таго свету, маладзенькі насаты падшыванец глядзеў на Міхаіла Андрэевіча неверагодна выпрабавальна і абвінаваўча. Пэўна, нават злосна, як могуць глядзець толькі падлеткі яго ўзросту: што табе ад мяне трэба, у морду, ці што, хочаш? Хаця гэта было і непрыстойна, і несправядліва, Міхаіл Андрэевіч адчуваў, як у яго расце раздражненне супраць гэтага невядома чым і кім пакрыўджанага хлопца. Мястэчковы і, відно, не надта спрактыкаваны фатограф схапіў яго аб'ектывам ці не больш чвэрці веку таму. Злавіў не ў гуморы, у нежаданні паказацца людзям. Такім ён назаўсёды і застаўся. Закілзаны мноствам чужых рук, распнуты мноствам чужых вачэй. Таму непадступнасцю сваёй паставы і адбіваўся ад усіх і кожнага, бараніўся невыказнымі скрухай і крыўдаю: ну чаго вы да мяне прычапіліся.

Старая выцягнула фатаграфію з даволі замурзанага хуталька, які да гэтага хавала за пазухай. Але ў хутальку яна была нібыта цыбулінка: спачатку невядома якіх часоў, пажаўцелая, са сляпымі ўжо літаркамі газета, потым са школьнага сшытка лісткі паперы ў касую лінейку, за імі аблігацыі з махрамі па краях, і толькі ўжо пад імі, пад аховай напышлівага роспісу розных дзяржаўных займаў, кардон непагляднай фотакарткі з суровым лікам падлетка.

– Гэта і ёсць мой Васілёк! – коратка мовіла, як выпела, старая. І з націскам паўтарыла: – Васіль, Васілёк, мой сын. – Нібыта баялася, што ёй не паверыць, што гэта сапраўды Васілёк, яе сын.

Мітуслівa, спяшаючыся, бабуля забыла завязаць хатулёк, і Міхаіл Андрэевіч міжволі вывучаў яго змесціва. Паўзверх пашпарта і яшчэ нейкіх старэчых папер выкацілася некалькі медных і сярэбраных, што ўжо былі нават не ў хаду, манет: грывеннікі, двухгрывеннікі, пятнаццаткі дарэформеннага ўжо часу. Яны кранулі капітана больш, чым фотакарткі і не па гадах хапатлівая бабуля.

– Я ўжо аслепла. Вочы ўсе па ім выплакала, – пажалілася старая. – Ты раскажы мне, які ён, ці ўсё ж такі маладзенькі і прыгожы на фотакартцы.

Слухала, нібыта вярнула час маці-парадзіхі. А Міхаіл Андрэевіч і сам не разумеў, што ён пляце. Твар жанчыны памаладзеў, пазбавіўся старых разор, прыраўняўся да тых святых, што намаляваны алеем на драўляных дошках у куце вясковых хат, на царкоўных сценах. І агонь палаў з вачэй амаль такі ж, як і ў маляваных. Сухі, палкі і зусім не даравальны. Спапяляльна ачышчальны.

– Сын мой! – звяртаючыся ці то да чалавека перад ёй, ці то да падлетка на фотаздымку, малітоўна выдыхнула старая.

Міхаіл Андрэевіч змеціў, што яна трымае здымак дагары нагамі. Зразумеў: каб бачыць сына, ёй ужо непатрэбны ні вочы, ні фотакарткі.

Старая без дотыку сухой лёгкай рукой паветрана пагладзіла фотакартку. Вочы яе набрынялі і прарваліся слязьмі.

І былі гэта, падобна, зусім не слёзы жалобы і гора. Яны ўжо адышлі – лёгкі ручаёвы цёк па звыклым рэчышчы. Узрост, пражыты век вярнуліся на яе твары. Слёзы каціліся і каціліся па разорах гадоў. Яна не прыкмячала іх і не выцірала. Падобна слязам, бескалярова і паныла цякла і яе гаворка. Яна не здольная была спыніцца, вылівалася першаму стрэчнаму чалавеку. Замоўкнуць ёй было тое ж самае, што і памерці. А словамі яна доўжыла і доўжыла сябе пакутлівым, амярцвелым болем маці. Адначасова працягвала жыццё і сына.

Падобна, там, дзе жыла, яе не надта слухалі. Гора там было адно на ўсіх, гора ўдоў і мацярок – як мора. Небезпадстаўна і тое, што час так абязлічыў, абязлюдзіў чалавека, пазбавіў яго суперажывання, спачування. Кожнаму хапала сваіх слёз. Паплачаш на самоце і, не развярэдзіў нікога, умыешся сваімі ж слязамі: дзень падасца ясным.

– І такі ўжо прыкідлівы і рахманы быў. Равеснікі на вуліцы задзяруцца, а ён да мяне і за спадніцу: біцца пагано, мамо... Пагана, пагана, сынок. Ні сном, ні духам, што гэтае пагана так залютуе і прыбярэ яго...

Міхаіл Андрэевіч слухаў і не чуў яе. Меркаваў так і сяк, чым здольны дапамагчы старой. І разумеў – нічым. Яна дамагаецца немагчымага: вярнуць, падняць з таго свету сына. Яе Васілька. Дваццаць гадоў, дваццаць гадоў нават не журбы, амаль вар'яцтва, чакання таго, што ён зноў прыпадзе да яе спадніцы: мамо, біцца пагано... Спадзявання калі не ажывіць яго, дык атрымаць яго амаль ужо спарахнелыя косці, перавезці іх на сямейныя клады паблізу сябе. І род будзе ў зборы, няхай і на тым свеце. Але ён не гасподзь Бог, а ўсяго толькі капітан ваенкамата сёння, а заўтра – увогуле ніхто. Пенсіянер ціхага пазаштатнага гарадка.

– Мне ўжо нядоўга засталося. Няхай хоць на хвілінку перад спачынам, вяртаннем дамоў распрамлюся. Уведаю, што мы зноў разам. Я пры сыне, ён пры мне. Мо хоць там уберагу яго.

Міхаіл Андрэевіч адамкнуў сейф. Дастаў памінальную кнігу, поўны, хутчэй, як лічылася, поўны спіс тых, хто загінуў у змаганні за гэты ціхі, нікому сёння не патрэбны гарадок. Ён мог бы і не даставаць тую кнігу. За рэдкім выключэннем апроч прозвішчаў там нічога не было. Але ж неабходна было на нешта іншае перавесці вар'яцтва старой. Усе вар'яты на дзіва вераць пісанаму. І старая пацягнулася, пачала праз яго рукі ўзірацца ў спярэшчаныя чарнільнымі літаркамі аркушы кнігі.

Напачатку Міхаіл Андрэевіч браў яе з сейфа, як не атухлы жар з печы. Але з чым толькі на гэтым свеце людзі не звыкаюцца. Неяк гадоў дзесяць таму ў ваенкамат да яго завітаў сталічны журналіст. Шукаў магілу лётчыка, які ў вайну быў збіты тут нямецкімі самалётамі. Тут і пахаваны, Міхаіл Андрэевіч, адносна малады і спачувальна злосны, тады яшчэ лунаў у імперыях, шпурнуў кнігу журналісту:

– Я табе не памочнік. Глядзі сам. Тут усе яны. Усе мёртвыя душы. Больш, чым у самога Чычыкава. Пушкіну з Гогалем не разабрацца. З часоў цара Гароха заможная на нябожчыкаў наша краіна. А дзе хто ляжыць, сама

нябесная канцылярыя не ведае. Гасподзь плача, а жывыя бабы – новых родзяць...

Сталічны журналіст выхапіўся з яго кабінета, нібыта быў пахаваны ў ім зажыва. А ён нічога, каторы ўжо год нічога.

– Збышко Васіль Анупрэевіч, – падкрэсліў пазногцем прозвішча ў кнізе капітан.

Старая страпянулася, што варона на калу, акруглена птушыным вокам упілася туды, дзе засяродзіўся палец капітана.

– А цябе часам не Васільком завуць?

– Васільком, Васільком, – з лёгкім сэрцам двойчы схлусіў капітан.

– Яно і відно, – заківала галавой маці сапраўднага Васілька. – Галубовае імя, як васількі ў жыце. Шчаслівае.

Ага, куды ўжо болей, падумаў пра сябе Міхаіл Андрэевіч. Васількі ў жыце – пад серп, касу. Ён выцерпеў радаслоўную ўсіх Васілёў, якіх толькі старая ведала, перажыла, пахавала. Спадзяваўся, што на гэтым усё і скончыцца, адгаворыць і забудзецца. Не давядзецца браць грэх на душу. Але маці ёсць маці.

Яна адабрала ў капітана фотакартку, што на хвілінку зноў паглядзець дала яму. Абярэжна загарнула яе цяпер толькі ў аблігацыі дзяржаўнага добраахвотнага займу, завязала ў жалобна шэры ад дотыку са старэчым целам хуталёк і схавала за пазуху:

– Ну, пойдзем, добры чалавек. Забяру я яго з чужога краю. Ён, калі прыняў яго, быў і неблагі яму. Але свая, родная зямля, усё ж свая, родная. Прывязу яго дахаты, печ запалю, паглядзім на агонь. Сяду на лаву, у вакно пагляджу, як ён на дарозе бегае. Падыхаем сваім кутам...

Яна гаварыла паводкава, няўхільна і няспынна патаплялльна. Будзённа і разважліва, клопатна-гаспадарліва, аб вяскова-надзённым: кароўцы, парсючку, курах – усім, што мае. Толькі не аб сыне, нібыта яго ніколі не раджала. Ад чаго Міхаілу Андрэевічу стала прыкра і непамысна, халадам небыцця працяла цела. Ён і ў галаве не меў, куды гэта трэба ісці, куды весці старую. Дарога на той свет была яму невядома. Але вядома, невядома – усе некуды ідуць. Тое ж выпадала і яму, калі жадаў застацца сярод людзей.

Больш магіл, у тым ліку і безыменных, было каля стражы. Дзіўна, але смерць прыцягвае, хаўрусуецца са смерцю, ёй, пэўна, даспадобы хадзіць па сваім жа следзе. Забойства лесніка, чыгунка недалёка ад стражы, з частым выхадамі на яе партызан. А пры вызваленні тут ішлі невытлумачальна жорсткія баі. Сваіх і чужых паклалі што ў жніво. Смерць схавала імёны. Большасць на скорую руку, ад ваўкоў, капаныя магілы безыменныя. Чарговы юбілей Перамогі сарамліва абышоў іх. І гэта не зважаючы на тое, што народ ускалыхнуўся і кінуўся ў памінанне. Парады, салюты, бразганне бронзавых цацак узнагарод, нястомныя фанфары аркестраў, разняволена расчыненыя насцеж раты запісных балбатуноў. Уражанне, няйнакш абудзілася, ажыло тое, што край зноў патрабавала пахаваць. Хаваць і хаваць доўга-доўга, бо віны перад нябожчыкамі недаравальныя. Таму так і пнуцца, так і захінаюцца ўсе ўлады, месіі і правадыры бляскам і пазалотай хлусні.

Але гэта больш наверсе, у сферах, а ўнізе – ціхія гарадкі, вёскі з крытымі саломай і чаротам дахамі і непадманна векавы – адпявальны пошум бароў, дуброў і гаёў. І ў ціхім гарадку, дзякуй Богу, урачыстасці былі яшчэ

таксама ціхія. Школьнікі надзерлі дзеразы на буграх, у бары, дзе ўкрыўна і безыменна спачывалі пад шатамі хвояў тыя, што пажыццёва выканалі абавязак перад радзімай і цяпер вянкова і вечна зелена прарасталі той жа дзеразой і ўзыходзілі сон-травой. Якраз той сон-травы і нарвалі школьнікі, прынеслі і ўсклалі ў сцішанай вечнасці ўжо заміранага бору на стоеныя ў ім магілкі з абеліскамі і без.

Туды, у стражу, ахоўваемую цяпер нябожчыкамі, і павёў маці Васіля Збышко капітан. Ногі павялі. А там павадыром сталі ўжо магілкі і абеліскі, што выкрочвалі насустрач са змроку карчоў, дрэў і пражытага на тым свеце часу. І ад кожнага нібы працягвалася напаўсатлелая рука, невідушчыя правалы вачэй прасілі крыжовага знаку.

Міхаіл Андрэевіч доўга кружляў са старой ад аднаго могілкавага бугарка да другога, не наважваючыся, каго прызначыць ёй у сыны. Пераконваў сябе, што гэта будзе святы падман. А нечая непрыкаяная душа мо суцешна і абрадуецца. Сваю ж душу можна і на ахвярны касцёр. За нябожчыка можна і саграшыць. Тут жа сёння і перад жывымі бязбожна грэшаць і грэшаць. А ён жа творыць міласэрнасць.

Так угаворваў ён сябе, і ўсё не хапала духу ўгаварыць. Знямогся да таго, што ледзь ногі паспяваў цягаць за старой. Яна ж подбегам, як падбітая кульгавая варона, чыкільгала за ім да кожнай пазнакі магілкі, запытальна ўзіралася ў яго. Міхаіл Андрэевіч адмоўна хітаў галавой. Яна сухімі вуснамі прыпадала да спярэшчанага мурашынымі бегамі парахнявага абеліска, і, падобна, той адгукаўся ёй нябытам. Яна нешта нагаворвала запечанымі вуснамі, у якіх, пэўна, ужо згарэлі і словы. Малітоўна хітала галавой, давала дабрыдзень, блаславўляла на вечны спачын. А ад капітана патрабавала прозвішча, поўнае імя загінулага.

І ён здаўся. Паказаў на спрахлы абеліск, прыхілены да такога ж спрахлага пня з дуплом пры зямлі. З таго пня як з рота чэрапа гарэзліва выпаўзала пасляваенная ўжо бярозка. Старая плазам асунулася на могілкавы бугарок, магла б і косці пераламаць, ды ўратавалі бярозка і дубовы пень, аб які яна абаперлася галавой. Міхаіл Андрэевіч паспрабаваў яе падняць, але яна з нечаканай у зношаным целе сілай адштурхнула яго. І так злосна зыркнула, што ў яго заняло сэрца: разумела, саграшыў, і не ведала, ці даруецца яму гэты грэх.

Патаптаўшыся некалькі доўгіх хвілінаў каля скамянелай на могілкавым дзірване старой, імкнучыся ачуць яе, паставіць на ногі і не наважваючыся зрабіць гэта, кожны раз адводзячы рукі, як ад жывога агню. Міхаіл Андрэевіч адышоўся да трох соснаў, што падымаліся з зямлі адным ствалом і разгаліноўваліся на тры часткі крыху вышэй. Закурыў, раз-пораз пазіраючы на дубовы пень, які з таго свету нарадзіў і даў прытулак бярозцы, то на тры ў адным хвоі, дзівячыся, як яны па-сястрынску ці па-брацку міралюбіва ўстоялі, па ўсім, ужо добры век. Адрачона думаў аб пабочным, каб не чуць ашалелага, як перадсмяротнае скуголенне сабакі, няспыннае скавытанне і выццё разам са смехам старой.

Тром соснам, адчуваў ён, заставалася ў абдымку стаяць нядоўга. І не таму, што заканчваўся адведзены ім век. Агульны іх корань не вытрымліваў, рознага часу быў ён з трыма разгалінаваннямі, што моладзева, шапкі скінь, навыперадкі перлі ўвысь. А іх апірышча, тоўстае, што жлукта, камлюкаватае, ужо канала, не вытрымліваючы жыццёвага напалу трох нашчадкаў. І наконт веку бярозкі ў схоўным і ахоўным дупле дубовага пня ён таксама сумняваўся. Ахоўна, утульна там, але да пары да часу.

Таму што амаль як у турме, за кратамі. І ў кайданах на шыі: задушыць ці пашкадуе мёртвае жывога. Як ёй толькі собіла трапіць у такую пастку? Як трапіла жывое семя ў абдымкі да старога пня? Што адбывалася там, у зямлі на тым свеце, калі яно набрыняла жыццём? Браталіся, браліся шлюбам старыя, амаль памерлыя карані з жывымі, жыватворным семем, ці ўсё ішло, як і на гэтым свеце, на паверхні, праз гвалт, кроў і смерць? Што там, у сырой зямлі, сёння, страляюць адзін у аднаго памерлыя ці ўжо супакоіліся і замірыліся? І хто ў такім разе супакаяльнік і міральнік? Яго б на гэты белы свет.

Старая Збышко заставалася ў абдымках магілы і, сама яе абдымаючы ці не гадзіну, як упрошвала нейкага пусціць туды. А яе не пускалі. Ужо сутонела, калі Міхаіл Андрэевіч аддзёр амаль ужо тагасветную старую ад могілкавага бугарка. Яна ці не з тагасветнаю ж сілай пачала брыкацца і пляваць у яго, няцямна шапочучы сухой мовай апалага восеньскага ліста, пяшчотна нагаворваючы:

– Вось і сустрэліся. Вось і сустрэліся...

Міхаіл Андрэевіч прынёс яе да сябе дамоў амаль на руках. А ноччу нечакана прачнуўся ад рыпу дзвярэй. Дагнаў старую толькі ўжо на вуліцы. Яна, што старая кошка, якую піхалі ў мех і зносілі з хаты, драпала яго рукі і рвалася ў цемру:

– Чвэрць веку хавалі, галаву дурылі: прапаў без весці, прапаў без весці... Цяпер не надураць. Ён мой, мой...

Але, на здзіўленне Міхаіла Андрэевіча, ноч супакоіла яе. Ранкам яна ачомалася, толькі зусім ужо, у крук, угнулася, нібыта зямля цягнула яе ў сваю глыб. А ўвечары ваенкаматаўскі газік павёз яе дамоў. Проставалосая, раскудлачаная, яна сухім трыліснікам прыпадала да урны з парэшткамі. І, падобна, спявала. Нутраным голасам спявала калыханку.

### *4*

Палкоўнік усё яшчэ чакаў адказу. А капітан не ведаў, што яму адказаць: ці не пабываў ужо гэты Васіль Васільевіч Раманчук у маці Васіля Збышко?

– Там тры зрослыя сасны...

Міхаіл Андрэевіч моўчкі абышоў палкоўніка і скіраваў да знаёмага ўжо месца, пераконваючы сябе, што не падмануў, не надурыў старую, як яе дурылі чвэрць века. Бог яго мілаваў. І чым бліжэй падыходзіў да трох соснаў, тым больш мацнела ўпэўненасць. Нават дыхаць стала вальней. І сэрца адмякла, супакоілася. Ён адчуваў плячыма задыхлівасць палкоўніка і знарок змяняў крок. То прыспешваўся, то запавольваўся. Няхай панервуецца палкоўнік, прынароўліваючыся да яго хады. Усё б гэтым палкоўнікам кожным, хто пад імі, камандаваць ды кожнага гнуць.

Метрах за трыццаць да трох соснаў Міхаіл Андрэевіч амаль данельга замарудзіў хаду. Але палкоўнік насеў яму на плечы, папёр бурам. Саштурхнуў са сцежкі, вырваўся наперад. Імкліва наблізіўся да могілкавага бугарка, седзячы на якім ён некалі паліў у чаканні старой Збышко, рэзка спыніўся.

Міхаіл Андрэевіч хацеў паправіць яго. Магілку Збышко ён ведаў дакладна, сама ж маці прызнала яе, а маці ў адносінах магіл сыноў не памыляюцца, на тое яны і пры нараджэнні і смерці. І палкоўнік кіраваўся да яе, як наведзены. Толькі вось крыху памыліўся, прамашку даў. Адразу

папраўляць палкоўніка капітан перасцярогся: нягожа капітанам пярэчыць палкоўнікам. Тыцкаць носам, калі яны збіваюцца з тропу: служыш у войску, хавай розум у халявах, ці недзе ў іншым месцы. Не вытыркайся з прапановамі, бо цябе ж прымусяць іх выконваць. Прыдзе час, будзе зручны момант, во тады ён і пакажа магілу Збышко, парэшткі якога забрала яго маці. Тую магілку ўжо зацягнула апалым лісцем, хваёвымі іголкамі, шыгаллем, вызначыць, пазнаць яе можна толькі па межах аселай зямлі.

Раманчук схіліўся над абеліскам каля зрослых трох хвояў. Зняў фуражку і, нібыта не прыкмячаючы капітана, зусім як маці Збышко, выказаўся:

– Ну вось і сустрэліся. Хаця дагаворваліся і варта было раней, ды... Сам ведаеш нашае бясконцае дыдыды...

Доўга стаяў з аголенай галавой. Вецер ціхенька перашэптваўся з веццем дрэў. З трох разгалінаванняў хвой бязгучна і зрэдку сыпаліся яшчэ з восені ці зімы адсохлыя іголкі. Некалькі з іх легла на лысіну палкоўніку, ад чаго той парыжэў, як падраўняўся да старога ляснога вожыка. Патрэбны момант паправіць палкоўніка быў упушчаны. А да ўсяго, нешта надта замінала надыходу гэтага моманту, у пэўным сэнсе – перасцерагала.

Раптам палкоўнік страпянуўся, скінуў з галавы іголкі, як увогуле нешта скінуў з сябе. Расшпіліў кіцель, заазіраўся, па ўсім выбіраючы куды падзець фуражку, што да гэтага трымаў у руцэ. Павесіў на чырвань зоркі абеліска. Дастаў з кішэні алюмініевую салдацкую біклажку. Некалькі разоў плёхнуў з яе на магілку. Добра хлебануў сам. І толькі потым павярнуўся да капітана:

– Ваяваў? – не чакаючы адказу, працягнуў яму біклажку. – За яго, за іх, за нас!

Капітан піў кароткімі маленькімі глыткамі. Моцы не адчуваў. І толькі па сухасці ў роце, сцягнутасці яго, вызначыў – спірт. Так, дзелячыся з магілай, яны апустошылі біклажку да донца, зрэдку заядаючы то жменькай хваёвых іголак, то маладымі і смалянымі шышкамі:

– Цяпер усё, капітан. Дзякуй табе, капітан. Можаш ісці да сваіх яблынь і груш. Дарогу назад сам знайду, Папахадзіў тут. Пакінь нас адных – і з Богам.

Міхаіл Андрэевіч марудзіў, ці не ўпершыню не спяшаўся выканаць загад. Мо аказваў сваё спірт, мо было і нешта іншае. Неяк патубакова, неяк нежыццёва тут было. Шчымліва, самотна – па-за сэнсам сённяшняга дня. Цяжкі хвойны бор, надзіва мясцінамі, на пяску бугроў, не па-паляшуцку лёгкія і гонкія сосны, пры нізінах, забалацінах – каржакавата пахмурныя, як вясковец селянін у разорах задумення на незагарэлым ілбе. Праклюнутая на дыбачках ці бессаромна вылупленая з дубовага пня бяроза, тры сасны, прыспешаныя небам і сонцам да раскошы абдымкава сястрынскага жыцця, што, пэўна, было абмежаваным: на адным тулаве з выцягнутымі з патроенай моцай гізунтамі, састарэлым ад напалу, варта жыць і маладзіцца тром нашчадкам.

– Ідзі, ідзі, капітан, – падштурхнуў яго палкоўнік. Падпіхнуў, як гаспадар ці гаспадыня карову, якая зранку ўпіраецца выходзіць з хлява ці падворку.

– Днямі сюды прыязджала маці Збышко.

Палкоўнік з прыкрасцю адмахнуўся.

Каб ён аднёсся да яго слоў не так пагардліва, Міхаіл Андрэевіч, безумоўна, падпарадкаваўся б. Але тут ён таксама не без прыкрасці адчуў, што ад яго проста непрыхавана пазбаўляюцца, выправаджваюць і гоняць. Патрэбны – да нагі, не – пайшоў прэч, гуляй міма.

– Маці Збышко Васіля прыязджала, каб забраць парэшткі, косці свайго сына Васіля. Сабрала ўсё да апошняй костачкі. З той вунь магілы, – махнуў рукой у бок аселай, свежа ўскапанай зямлі.

Палкоўнік перажагнуўся. Са здзіўленнем, амаль у роспачы капітан убачыў, як палатнее яго твар і нечакана для сябе дадаў:

– Бачыш, зямля зрушана. Збышко твайго тагасветная яго спачыну зямля.

– Якога яшчэ Збышко, якая яшчэ тагасветная зямля? Што вярзеш... – палкоўнік выцягнуўся, як дадаў у росце. У Міхаіла Андрэевіча ўталопіліся бяззрэнкавыя ў суцэльнай белай завалачы вочы.

Стагнаў, гойдаўся і хістаўся сасновы бор. Вецер падхапіў голас палкоўніка, узняў, зацягнуў у неба і панёс, панёс у бездань прасцягаў. І там, у бязмежжы даляў, гуляў, забаўляўся гучна і горка выяўленым рэхам людскога розгаласу.

– Якую магілу? – палкоўнік ужо не крычаў. Нутрана сіпеў, нібы праглынуў уласны язык. Умольна аб нечым прасіў, ашчаперыўшы капітана.

– Прыбяры рукі, – хутка цверазеў, цвярдзеў голасам і рухам той, адчуваючы, што адбылося нешта непапраўнае. Таму што як заўсёды, калі адбывалася штосьці неверагоднае, сам халадзеў і ўпадаў у загадны вайскова-камандзірскі стан.

Але і палкоўнік быў не з тых, хто лёгка здаваўся, каму можна было загадваць. І яны, два былыя франтавікі, афіцэрскія костачкі, мо і аднаго веку, спружынна-сцята стаялі адзін перад другім. Як прымерваліся, калі, куды і як, – штыхом, нажом, прыкладам, кулаком, ударыць першым. Хто не вытрывае і схібіць.

Не вытрываў Міхаіл Андрэевіч, холадна разумеючы, што ў палкоўніка больш падстаў шалець. Хаця б таму, што ён палкоўнік.

– Прыбяры рукі, палкоўнік Раманчук, – зноў папрасіў, а мо і загадаў ён палкоўніку.

І гэта ніколькі не сведчыла аб тым, што ён на самой справе прагнуўся. Звяртаючыся да палкоўніка па прозвішчы і званні, ён прапаноўваў: давай пагаворым, як людзі. Як чалавек з чалавекам.

– Наша з табой вайна закончылася. Мы ж абодва пераможцы.

– Пераможцы, капітан. Але адным закончылася, другім працягваецца. Гэта ў тваім ваенкамаце ціша, прусакі ды дэбільныя акселераты дапрызыўнікі. А паўсюль, у лесе і па-за лесам, у барах, дубровах і гаях ваююць. Страляюць і падаюць, зноў і зноў паміраюць ужо аднойчы забітыя.

– Мы ж не з іх, мы не адтуль, – не зразумеў яго Міхаіл Андрэевіч. —Ці ты адтуль, ці ты з іх?

– Угадаў, я адтуль і з іх, – палкоўнік страсянуўся. І зноў прыцягнуў да сябе капітана. Зазірнуў яму ў твар. І хутчэй адпіхнуў, чым адпусціў. – За што ты толькі ваяваў, капітан?

– За тое, што і ты, палкоўнік. – Міхаіл Андрэевіч кіўнуў убок свежараскапанай магілкі.

– Чаму ж скурвіўся? Не пад кулямі і не ў рукапашным...

– Вось таму, вось і таму... Там ясна – адно. Выбару няма. І ні адмовіцца, ні дамовіцца. А тут... Шчаслівыя людзі, што і сёння яшчэ там засталіся і хаця зданева, а працягваюць...

– Тут твая праўда. Шчаслівыя, – пагадзіўся палкоўнік, уздыхнуў: – прызямляйся, сядай капітан. Нябожчыкі страху не маюць і сораму не імуць. Прызямляйся і далучайся...

*5*

На тую іх пару якраз выспеў пры канцы лета час ціхіх, з дрыготка караткахвостым дымавым следам зарападаў на заканчэнні жніва і зачацці ў барах на дзіва гожых, плоццю сашчэпленых з долам мацакоў баравікоў. Зерне – у свіране па сусеках, баравікі – у кошык ды ў печ ці на патэльню, зоркам – на іх ахатнена-нябесны спачын. Два Васілі, два падрыўнікі вярталіся з чарговай аперацыі ў атрад. Заўсёды вярталіся – у сарочках нарадзіліся. Пашанцавала ім і цяпер. Пасля трох іх удалых выхадаў на чыгунку ахоўваць яе паставілі ў дапамогу немцам паліцаяў і сабак. І два Васілі амаль суткі кармілі камароў у карчах, не ведаючы як, з якога боку падступіцца да чыгункі. Здавалася, прыдзецца вяртацца ў атрад ні з чым.

На гэтым ужо і пагадзіліся, пачалі паціху выпаўзаць з лежбішча ў карчах, каб брацца ўбок стражы. Збышко рухаўся паперадзе. І Раманчук раптам упёрся лобам у яго лапці – на падрыў яны заўсёды ўлетку хадзілі ў лапцях – вальней нагам, па-вясковаму звыкла хадзіць па лесе. Збышко не спяшаўся паўзці далей. Нецярпліва толькі ёрзаў на адным месцы, час ад часу паварочваўся да Раманчука і сутаргава яму падміргваў.

Раманчук здагадаўся, што яго напарнік нешта прыдумаў, хаця старэйшым у іх групе быў ён, таксама радавы, але ўжо абучаны. Як ні дзіўна, учора яшчэ падшыванцы, смаркачы, што гулялі ў вайну драўлянымі стрэльбамі, сёння не саступалі сваім бацькам і братам – дагульвалі дзяцінства ў гулях са смерцю.

– Зробім так, ты застаешся каля чыгункі. А я пайду да іх казармаў, – хітнуў у бок аховы на чыгунцы Збышко. – Надурым фрыцаў, надурым бобікаў, надурым іх сабак. Няхай пабрэшуць, няхай пабегаюць. Пагуляемся.

Хаця месяц стаяў жывіцава-смольны, бурштынава-празрысты, як гэта ўласціва яму ў апошнія пагодлівыя дзянькі жніўня, свайго напарніка Раманчук не бачыў. Але яго дзіцячая ўзрушанасць перадалася і яму: не дагуляў, не дагуляў хлопчык у вайну. Яшчэ не спазнаў: на сапраўднай вайне жыццё чапляе толькі імгненнем, хвілінай, калі ставіш на кон сябе, імкнучыся абхітрыць, перагуляць сваю ж тую апошнюю хвіліну. Цяпер ён прагнуў перагуляць не толькі час, але і самога сябе ў гэтым часе, ахоўнікаў, вымуштраваных на яго існаванне і забіццё дзеля свайго працягу і працягу сваіх сабак. Вымушаны сам быць не толькі дзіччу, але і паляўнічым, той жа аўчаркай, з яе падсвядомасцю, пазасветнай чуйнасцю, слыхам, нюхам і клыкамі. Зацкаваны дзікі, хіжы звер. Гнаны, а таму больш прыстасаваны да таго, каб захавацца, калі маеш на гэта стрыманасць сябе ж. Не заводзішся ад першай іскры.

Раманчук адчуваў, як халадзеюць і сохнуць хлапечыя вусны Збышко, сіненькай жылкай цісне ў скроні нецярпенне, таму што тое ж самае адбывалася і з ім. І гэта было няправільна. Жалезнае правіла падрыўніка і ўвогуле партызана – у бойцы, асабліва на заданні, паводзіць сябе холадна, а бзыкі, як у Адама пад яблыняй, – потым. Потым.

– Да казармаў усё ж пайду я, – не прымаючы пярэчанняў, абвясціў Раманчук.

– Ты? А ў мяне ногі даўжэй.

Раманчук аж папярхнуўся ад нечаканай дзіцячай бязглуздасці свайго напарніка. Але Збышко патлумачыў:

– Я хутчэй за цябе бегаю. У сад, агарод ні адзін сабака ўгнацца не мог, а ў пекара...

– Слушна... Слушна, асабліва ў пекара... — здаецца, пагадзіўся Раманчук. – У нашай справе як і ў злодзея, не бегаць галоўнае, а своечасова зліняць, змыцца. Я між іншым, як-ніяк – камандзір.

– Во гэта ўжо сапраўды слушна, камандзір... – падобна, пакрыўдзіўся Збышко. Але і тут знайшоўся, нават абрадаваўся: – Так, уся адказнасць на табе. Ты ж і з мінамі лепей за мяне ўпраўляешся. А іх у нас недахоп.

Збышко ўсё ж здолеў настаяць на сваім. І доказна, разумна. Раманчук прыцягнуў яго да сябе, моўчкі цмокнуў у запаленыя вусны.

– Толькі гэтага і не хапала, – буркнуў Збышко і знік у мяккіх абдымках жнівеньскай ночы.

А недзе праз паўгадзіны Раманчук пачуў у тым баку, дзе месціліся нямецкія казармы, выбух гранаты і некалькі вінтовачных стрэлаў. І больш нічога ні чуў і не жадаў чуць, хаця нейкі час яшчэ адседзеў у карчах. А потым, напаўсагнуўшыся, больш па звычцы, асабліва не хаваючыся, таму што звярына адчуваў, і ў аховы, іх сабак і бобікаў вушы на макушцы. Нацэлены туды, дзе выбухнула граната і прагучалі вінтовачныя стрэлы. Выразна бачыў на насыпе палатна нават цені, што разам з сабакамі памкнулі ў тым накірунку.

Абломваючы пазногці, збіваючы да крыві пальцы, выкапаў і апратаў штыхом ямку, паставіў міну. Не азіраючыся, покатам пакаціўся з чыгуначнага палатна. І толькі ўнізе, калі спыніўся, да яго вярнулася адчуванне, што адбываецца навокал. Ён адчуў зямлю і сябе. Цяпер убаку казармы ішоў сапраўдны бой. Цішу спелай жнівеньскай ночы дзерлі чэргі аўтаматаў, шалёны брэх сабак, калолі і плавілі неба ракеты.

Чаму ён, доўбіла, не адыходзіць, чаму, малакасос, не адыходзіць? У Раманчуку адначасова блыталіся паглынальны адчай, злосць і захапленне ад таго, што ўжо адбылося і на гэту хвіліну адбывалася: ён саступіў і жывы, а Збышко?.. Захапленне сыходзіла ад сваёй удаласці і спрыту. Тут ён пачуў запытальны гудок паравоза і адразу, апераджаючы яго, шум цягніка. На імгненне забыўся пра напарніка: страляніна каля казармаў ці не аціхла. А цягнік металёва налягаў коламі на рэйкі ўжо побач. У паветры завісла серыя ракет. Яны прыгнулі Раманчука ў пчаліны і грыбны водар верасу, у асавелую ад расы траву.

Але ён адразу ж падхапіўся. Цягнік брынчаў талеркамі бувераў ужо побач. Раманчук зразумеў, што болей марудзіць нельга, і кінуўся ў распасцертыя насустрач яму абдымкі бору, нікольки, пэўна, не сатупаючы хуткім нагам Збышко. І толькі выбух і агарнулае яго зарыва прымусілі спыніцца і азірнуцца. Неба было расколата ўдруз: вось і салют, мовіў ён сам сабе..

Зноўку холадна і цвяроза падабраўся, збыў захапленне здзейсненага. Гэта было ўжо мінулае. Мінулае яго, у якім ён яшчэ быў, а Збышко – пытанне і пытанне. Гэта жорстка і бязлітасна загадвала яму жыць. І Раманчук, не аглядваючыся на сполахі агню, выбухі і крыкі болю, сатвораныя ўжо ім, пакрочыў да абумоўленага месца сустрэчы са Збышко. Без спадзяванняў, што яна адбудзецца. І ўсё ж ён не спяшаўся хаваць напарніка і меў рацыю. Да макаўкі мокры, цініста-абзяленены, што жаба, Збышко ўжо чакаў яго:

– Ногі. Уся справа ў нагах, з патрэбнага месца растуць. Не падвялі, вынеслі.

Сустрэліся, нібы ні ў аднаго, ні ў другога адзаду нічога не было. Нейкі час ішлі моўчкі і нават адчужана, спакойна і задумліва нясучы здзейсненае... Толькі на падыходзе да стражы Збышко прарвала: неба зырка адчынілася.

Загарэлася і хвастата пацягнула ў нябыт зорка.

– На ўраджай, – зазначыў Збышко. – Бульбу капаць час, лён, каноплі браць, жыта дамалочваць.

Раманчук не адгукнуўся. Ён быў гарадскім чалавекам і на вайне не здраджваў гораду, хаця вайне без розніцы – горад, вёска. Кроў аднолькавая. І смерць адна

Неба зноў зорна ўзаралася. Яшчэ адна зорка, сама сябе калідорна азараючы і ўкрываючы жалобай нябесны пукаты гасцінец, пайшла ў нябыт.

– Дзіўна дзеецца на свеце, – прасачыўшы яе пахавальны шлях, сказаў Збышко. — Я, калі быў малы, гадаў на зорках. Напрыканцы жніўня перад школай знарок сыходзіў з хаты. Ішоў у поле і ўзіраўся ў неба. Загадваў, шмат чаго загадваў. Загадаю і чакаю: упадзе зорка – збудзецца. Зоркі падалі і нічога не збывалася... А як выбухнула, як шуганула сёння ў неба да зорак полымя... Думаў, згару. Не, жывы без гадання. Я жывы і ты жывы.

Нечакана спыніўся, ухапіў Раманчука за рукаў:

– На самой справе, зорка ўпала, нехта памёр. Пагадаем на саміх сябе.

Мо ён бы і пагадаў, але на тую хвіліну ў трэці раз расчынілася неба. Чырвонае з вясёлкавай прозеленню святло хлынула амаль ім пад ногі. Запаліла зямлю, асвятліла іх твары. Збышко засмяяўся, крануўшы шчокі рукой. Але замест нябеснага зайчыка, што скакаў па іх да гэтага, злавіў цемру. Гэта ніколькі яго не засмуціла:

– Шчаслівыя мы з табой. Тры зоркі запар. А гэта тры чалавекі не толькі памерлі, але і нарадзіліся: ты, я і яшчэ нехта. Загадаем: праз чвэрць стагоддзя сустрэцца тут, на гэтым месцы.

Праз чвэрць стагоддзя... Так далёка Раманчук не заглядаў. Не мог уявіць сябе, а тым болей Збышко, такімі старымі і не на вайне:

– Нічога добрага, калі аўтамат табе ўжо цяжкі. І ногі ў цябе ўжо будуць іншыя. Кожны сабака дагоніць і пакусае.

– Дык вайна да таго часу ўжо скончыцца, – здзіўлена мовіў Збышко.

– Вайна нам можа скончыцца кожную хвіліну. Памаўчы аб гэтым, калі хочаш дажыць да старасці.

Збышко пакрыўджана замоўк. Але ненадоўга, не той узрост, каб кожнае слова прымаць да сэрца:

– Ты чуеш, як зямля пахне грыбамі?

– Гэта ад цябе балотнай цінай патыхае. І ўвогуле, грыб, як вядома, цвіль, звычайная плесень.

– Я з табой сур'ёзна, – зноў паўшчуваў яго Збышко. – Ужо пачынае днець. А грыбы якраз на світанні нараджаюцца, каб адразу неба пабачыць і голас яму падаць. І я хачу, як той грыб баравік, крыкнуць. Толькі што, яшчэ не ведаю. Не цягнікі падрываць, а...

– Варона кума.

Раманчуку пачала ўжо дакучаць дзіцячая балбатня яго напарніка пра тое, з чаго ён выпаў, развітаўся і да чаго не хацеў вяртацца. У гаварлівасці Збышко мелася нешта не надта здаровае, насцераджальнае. Раманчук, не прызнаючыся нават сабе, быў не без прыхамацяў.

Незразумела чаму раптам яму міргам стала няўтульна ў калысцы гэтай жнівеньскай зоркападавай ночы. У гэтым лесе, што ўжо хварэў, трызніў грыбамі. Ён адчуў сябе лішнім і неверагодна старым, нікуды і да нічога нявартым.

Паблізу стражы іх перастрэў ляснік, Юрачка, ад народзінаў усім толькі

Юрачка. Выткаўся з хвойнага сеева змроку, як сам лясун. Нягледзячы на дзіцячае прозвішча, аблiччам гэта быў і сапраўды лясун: вісячыя, жоўта-абкураныя вусы, як мох на выжарах, шырокая, на ўвесь твар, барада. Валасы раслі ў яго нават у мочках вушэй. Як кожны дбайны лясун, ён ведаў свой лес да апошняга пня. Бачыў і чуў, хто і чаго ходзіць па ім.

– Ваша работа, – кіўнуў Юрачка ў бачныя нават тут, у глыбіні лесу, сполахі зарыва.

Абодва Васілі прамаўчалі. Юрачка азірнуўся, уцягнуў у сябе паветра, нібы смакуючы ноч і цішыню.

– Разумею, не мая сабачая справа. Я вас, хлопцы, перастрэў, каб папярэдзіць. Ярэмчык апошнім часам занадта круціцца каля майго котлішча. Куды ні ступлю, а побач яго рыла. І надоечы каля саменькай маёй хаты бачыў. Прымільгаўся ўжо.

– Зноў гэты Ярэмчык, – Раманчука аж перакрывіла. Са старэйшым паліцаем мястэчка ў яго былі свае варункі. Няпростыя і немалыя.

Ярэмчык, немчык пад такім прозвішчам, вынырнуў у гэтым краі нечакана. Быў ён ці то са ссыльных, ці проста неапазнаным да вайны невядома ў якой скуры і ў якой нары сядзеў. Толькі больш лютага паліцэйскага сабакі ў мястэчку не было. Недарэмна выхваляўся медалём "За храбрасць" з рук самога Герынга, а мо і Гітлера.

Раманчук жа, калі пачалася вайна, дацягваў тут у ваенным гарадку тэрміновую. У першым жа баі быў кантужаны і трапіў у палон. У лагеры і дабраўся да яго Ярэмчык. Па-першасці іх не надта ахоўвалі, можна сказаць, зусім не ахоўвалі, такая процьма іх была. І аднойчы, пакарыстаўшыся гэтым, з лагера сышла вялікая група ваеннапалонных. Пасля трох дзён няўдалых пошукаў немцы вывелі з барака дзесяць небарак. У тым ліку і Раманчука. Ярэмчык разам з немцамі канваіраваў іх. На ўскрайку лесу, каля падрыхтаванай, пэўна, загадзя ямы, спыніліся. Немцы нешта марудзілі, замест іх пачаў дзейнічаць Ярэмчык. Звычайна негаваркі, сугней сугнеем, а тут пажвавеў, нават такі-сякі гумар прарэзаўся:

– Рэйху патрэбны патроны. Я захаваю іх для бою, – падміргнуў стоўпленым каля ямы людзям. – З вамі я як з трусамі. Не даводзілася? Занятна, трыма пальцамі, як высмаркацца, пад гарлянку і пасля рэзка ўверх, уніз матлянуў, ён толькі дрыгне лапкамі і піскне, што дзіцё...

Немцы не ўмешваліся, палілі, з цікаўнасцю назіралі за старэйшым паліцэйскім. Усміхаліся. Не ўсе, праўда. Былі і такія, з больш сталых, што і адварочваліся. А Ярэмчык пеўнікам тупацеў каля ваеннапалонных. Таго-сяго з больш мажных абдымаў і прыпадымаў над зямлёй. Хітаў галавой і падміргваў немцам: гут, маўляў, усё будзе гут-гутам. Спрабаваў абняць, скрануць з месца і Раманчука, але той як прырос да зямлі, да пасінення сцяўшы кулакі.

– Цяжалаваты, бальшавічок. Але нічога, долей мучыцца будзеш і ўсё роўна даспееш. На мяне скаргаў з таго свету не паступала.

Раптам жылава падабраўся, жвавасць, гумар як рукой зняло. Адным поцягам вызваліў са штаноў папругу і, нібы аркан, накінуў на курыную шыю маладзенькага салдаціка, што стаяў побач з ім. Той жывёльна, нібыта ад гнюсу, заматаў галавой, пачаў адыходзіць, вырывацца, як жарабя двухгодак, што ўпершыню адчула на шыі хамут.

– Но-но-но, – занокаў на яго, як папраўдзе на каня, Ярэмчык. – Стой, не брыкайся і не балуй, галубок.

А сам патроху то прыспускаў, то нацягваў папругу, дробным крокамі то аддаляўся, то набліжаўся да бедака. Пасля такіх скокаў даў слабіну рамяню і рэзка тузануў яго, пацягнуў угару, ускідваючы сабе на плечы салдата. Прысеў, як пад мехам бульбы ці збажыны. І адразу на ўсе ногі выпраміўся, як выпруціўся, ціхенька, але Раманчуку здалося, аглушальна, шчоўкнулі пазванкі. Салдат абмякла распасцёрся, нібы загараючы на сонцы на спіне старэйшага паліцэйскага. Толькі растапыраныя пяцярнёй пальцы ўсё скраблі і скраблі пустату.

Ярэмчык патрымаў яго на сабе яшчэ хвіліну. Крывіліся ў лёгкай усмешцы ціха задаволенага вар'яцтва вусны. Пяшчотай набрынялі вочы. Ярэмчык быў шчаслівы. Немцы ўхвальна пстрыкалі пальцамі. Было сонечна, вусцішна і задумліва.

Ні да гэтага, ні пасля больш брыдотнага жаху Раманчук не зведаў. У лагеры яго абстрыглі нагала, абрылі. Але тады ён адчуваў валасы, як яны растуць, нібы калючым дротам раздзіраюць скуру. Непахісна і жорстка ўздымаюцца дыбкі.

Наступная ахвяра ступіла насустрач Ярэмчыку сама, згодна падставіла шыю:

– Калі цябе пацягнуць на шыбеніцу, ведай, сука, гэта я цябе вешаю. З магілы выбіваю з пад тваіх ног табурэтку.

Управіўшыся з пятым ці шостым палонным, Ярэмчык, відавочна, стаміўся. Распоўзся, азызеў, пачаў невідушча і няўцямна азірацца, прысеў на яшчэ цёплае цела сваёй апошняй ахвяры, пачаў доўга і брыдка пляваццa, сцякаючы пенай, накіпелай у куточках вуснаў. Немцы не сталі яго турбаваць, развязалі рукі тым, хто застаўся, брынькнулі рыдлёўкамі.

Закопвалі ацалелыя нябожчыкаў моўчкі. Калі ўправіліся, да іх зноў падышоў Ярэмчык:

– Ведайце самі і другім закажыце: ад мяне схавацца можна толькі ў зямлі, на тым свеце. – Пальцамі абодвух рук паказаў той свет ў сябе пад нагамі. – Худзейце, карміце вошай, і да мяне на спіну.

Па дарозе ў лагер Раманчук прыдумляў кару Ярэмчыку. Не выключана, што толькі гэта і выратавала яго, пасобіла ўцякчы з лагера. Надало сэнс жыццю, пазбавіла таго свету.

– Дзеля Бога, пачакайце да мяне заходзіць, – яшчэ раз на развітанне папярэджваў Раманчука і Збышко ляснік Юрачка.

На тым яны і разышліся. Але праз некалькі крокаў за спінай абодвух грымнулі стрэлы. На імгненне Раманчук замёр і адразу ж зверам скочыў убок, упаў долу і котам перамясціўся. Кулі прайшлі паверсе, на яго толькі сыпанула ссечанае вецце, іголкі, шыгаллё. Ужо амаль развіднела, святло скрадвала ўспышкі стрэлаў. Яны былі нябачнымі, але адчувальна патыхала згарэлым порахам, смалой-жывіцай. Стралялі зблізу і, здавалася, адусюль. Раманчук выцягнуў з-пад пояса гранату і паклаў яе перад сабой па правую руку.

І адразу ж нечакана ўсталявалася цішыня. У ранкавым тумановым святле ён напаўразмыта пазнаў Ярэмчыка. Паліцэйскі амаль не тоячыся выйшаў на тое месца, дзе Раманчука са Збышко нагналі першыя стрэлы.

Раманчук узняў карабін, але са стрэлам не спяшаўся. Ярэмчык прысеў, і да Раманчука даляцела:

– Гатовы, – махнуў рукой, пэўна, тым, хто быў побач, ішоў следам за ім.

Кусты затрашчалі, ажылі. І Раманчук больш не марудзіў. Старанна

прыцэліўся і, як на стрэльбішчы ў ціры, паволі націснуў курок. Рэха яшчэ не паспела даць розгаласу, а ён ужо шпурнуў туды, куды толькі што паслаў кулю, гранату. Не дачакаўшыся выбуху, ускочыў на ногі і, па-заечы, пятляючы, пабег прэч.

І толькі калі ўжо паднялося сонца, за кіламетры два ад сутычкі, прыкмеціў, што паранены. Болю не адчуваў, але шыя не магла трымаць галаву. Ярэмчык не рамянём, дык куляй усё ж пазначыў яго. Куля наскрозь прашыла шыю. І ён, відавочна, ужо нямала страціў крыві. Перад вачыма мо і ад усведамлення гэтага плылі чырвоныя і зялёныя кругі. Раманчук быў ужо блізкі да страты прытомнасці. Ён кінуўся тварам у прыбалотны багун з буякамі, водар якіх разам з непрасохлай на іх буйной ранішняй расой адразу ж ажывіў яго.

Да атрада ў той дзень ён так і не дайшоў. Да паўдня воўкам кружыў каля месца сутычкі. А недзе ўжо пасля апоўдня наблізіўся да трох соснаў, што кінуліся яму ў вочы, калі і дзе ён стаіўся перад тым, як кінуць гранату.

Збышко ляжаў згарнуўшыся, нібыта ў лоне маці. Як яшчэ толькі думаў, рыхтаваўся да нарадзінаў. Чамусьці аголеныя ногі да каленяў – ёрзаў ад болю, непрымання смерці? Калені падцяты да падбароддзя. А вочы як жывыя, хаця і засланыя пазасветнай тугой адрачэння. Вырачаныя, амаль выпнутыя з арбіт, і ў куточках вуснаў, па ўсім, прыжыццёва яшчэ набеглая сукравіца: падобна, і тут Ярэмчык са смяротна параненым чалавекам паспеў хіжа пашчыраваць. Хаця такое, здаецца, немагчыма, каб забіты ўжо катаваў нябожчыка. Але немагчыма сярод людзей: варта толькі азірнуцца ў мінулае і мець пры сабе будучае. Звер ёсць звер, асабліва калі па-вар'яцку ашалелы, горш за д'ябла: ні людскога, ні звярынага, ні д'ябальскага.

Раманчук прыпаў вуснамі да сябравага твару, ужо халоднага, як аброшанага багуном і буякамі, падняўся, узваліў цела Збышко сабе на спіну. І асеў з усведамленнем ужо нябыту таго, з кім даўно паяднаўся і пабратаўся. У яго яшчэ хапіла сілы са Збышко на плячах дапаўзці да помнікавага ўзножжа трох сосен.

Першае, калі Раманчук ачомаўся, быў рой мух. Калматыя, гудліва-зялёныя, яны нахабна коўзаліся па твары Збышко, не праміналі і яго. Больш наравілі запаўзаць у вочы і рот. Раманчук быў няздольны ад іх пазбавіцца, сагнаць усіх з твару нябожчыка. Хутканогія, хуткакрылыя, яны з аднолькавым спрытам поўзалі і лёталі, лёгка носячы цяжкія чарнільныя чэравы і металёва-прыгладжаныя чорныя галовы. Зневажаючы паветра, дзень, сонца, нябожчыка Збышко і яго, яшчэ жывога. Па ўсім, яны былі тэлепатамі.

Варта яму было толькі ўзняць, ці падумаць, што трэба ўзняць, руку і прыплешчыць адну-другую, як яны ўздымаліся ў паветра, помсліва лезлі яму ў рот і нос. Раманчук загадзя грэбаваў, баючыся праглынуць нейкую з іх. Чмыхаў, што конь у спёку, пазбаўлячыся адчування брыдоты. Адкуль толькі бралася ў чыстым бары такая поскудзь на нябожчыка. Жывому чалавеку ад яе не адбіцца.

І Раманчук нечакана для сябе заплакаў. Усё ў ім заплакала ад уласнай нядужнасці і бездапаможнасці, урачыста-пахавальнага святкавання гноевамясных мух. Слёзы капалі на твар Збышко, мухі гразлі ў іх і разносілі па белай скуры нябожчыка.

Раманчук прымусіў сябе падняцца, крануць непадатна-цяжкое цела Збышко. Зразумеў, данесці да атрада Збышко не здолее. Агледзеўся,

затрымаў позірк на варонцы ад выбуху гранаты. Яна разарвалася амаль побач з трыма параднёнымі соснамі. Закранула нават корні, агаліла іх да белі і сарамліва прысыпала шэрым пяском.

Раманчук дастаў з-за пояса нямецкі нож-штых. Кароткі, шырокі лязом, з канаўкай пасярэдзіне для сцёку крыві, забойна-бязлітасны. Наш таксама не ў лялькі гуляць, але, але... Завостраны, гранёна-вузкі, рабіў толькі пракол у целе, нямецкі ж пластаў па-мясніцку, як свінню рэзаў. Нажом-штыхом Раманчук пачаў паглыбляць варонку. Збышко ён паклаў да каранёў галавой на захад. Нябожчык з кожнай начы свайго спачыну павінен бачыць узыход сонца. Хвоі ж ва ўзгалоўі былі накшталт помніка, у нечым і праваслаўнага крыжа.

Кідаў апошні камяк зямлі – сонца было пасярэдзіне Збышко. Час быў адыходзіць. Але нешта не пускала, трымала і трымала яго, У памяці непраходна білася: зрабіць яшчэ нешта, вельмі важкае. А што, не мог і ўявіць сабе.

Падышоў да Ярэмчыка. Той і памерлы нечаму радаваўся, выскаляўся бору і сонцу ўсімі моцнымі і бела-захаванымі зубамі. Раманчук адцягнуў цела старэйшага паліцая падалей ад трох сосен, да дубовага пня, што жоўцева сыпаўся сатлелай трухой. Пастаяў, аддыхваючыся, і спіхнуў у другую варонку, пэўна, ужо ад гранаты Збышко.

– Каб не смярдзеў, – мовіў услых. Закінуў труп суччам, прыпарушыў зверху травой і зямлёй, пасля чаго зноў падышоў да магілы Збышко, пастаяў каля яе, зняўшы шапку. І ступіў у тумановае малозіва надыходнай ночы.

## *6*

Капітан з палкоўнікам вярталіся ў горад ужо глыбокай ноччу. Нерухома выпрастанае лісце дрэў млела ў перадсвітальным змроку. Зрэдку і не пад крок няўцешным дзіцячым плачам выбухала і вохкала нябачная сава, свідравала світальны пачатак дня пробным пошумам хіжых крылаў. І тады здавалася, што разам з птушкай пачынае рухацца і бор. Усё наваколле набывае крылы і палёт. Уздымаецца, лунае ў бязважкасці і падае ў бездань. Так трапятліва і неапазнана зрушанае падманнай няпэўнасцю гукаў і рухаў, хутчэй не сённяшніх, варушылася ў грудзях сэрца, ахутанае мінулым. У ім, як і ў старым партызанскім бары, працягвалася вайна. Працягвалі ваяваць нябожчыкі што даўно ўжо адышлі на той свет. Адышлі, але не супакоіліся, не спачылі ў вечнасці. Іх цені ў непраходнай пагоні таго, што было і не было, што толькі магло быць, зданева гоняцца за прывідамі і зданямі, што ачуліся і паўсталі ці не з апраметнай. Падаюць долу, паўзуць і знікаюць у верасах, багунах і буяках, ад якіх такой парой патыхае бессмяротнасцю ягад і грыбоў – векавых і вечных мацёрак-грыбніц. Бор, вартаўнік-берагун, папярэднік і наступнік усяго існага на зямлі, адсочвае, слухае і папераджальна маўчыць – ахоўваючы спачын і спакой вечнасці тых, хто некалі хадзіў па ім. Хадзіў і ўжо адхадзіў. Адышоў.

Наступным днём Міхал Андрэевіч першы раз спазніўся на працу. Добра ўзялі яны з палкоўнікам уначы на губу. Заняты тым, што адбылося ўчора, капітан нават не прыкмеціў свайго спазнення. І ніхто іншы не прыкмеціў, толькі прусакі ў яго кабінеце. Пачуўшы, што ён ідзе, пырскнулі ў розныя бакі. Зашыліся ў шчылінах. Міхаіл Андрэевіч намогся і ўсё ж расчавіў аднаго ботам. Пачаў паляванне за другім, але апамятаўся і спытаў сябе тройчы:

– Навошта? Навошта? Навошта?..

Азірнуўся, на падлозе цьмянела вільготная пляма. Капітан перавёў позірк на пажоўклую ад капяжу водаправоднага крана ракавіну. Паныла і тужліва сціснулася сэрца. Неадкладна, цяпер, зараз пойдзе да ваенкама і запатрабуе рамонту. Уявіў сабе камісара.

– Навошта, навошта, навошта гэта вам трэба, Міхаіл Андрэевіч?

І ваенны камісар, гвардыі палкоўнік, утыркнецца ў паперы на стале. У яго дзіўная здольнасць не бачыць чалавека, калі гэта яму не пажадана. Гляне капітану толькі ў плечы, калі ён будзе выходзіць з кабінета, блытацца ў падвоеных, абабітых скурай дзвярах. Кіне вокам мелькам і падумае пра сябе: старэе, старэе былая гвардыя. Час змяняць кадры.

Дык няхай жа ўсё застаецца як ёсць. Міхаіл Андрэевіч звыклым рухам, нават неўсвядомлена, паправіў мундзір. Адцягнуў фіранкі на вакне. Ціхі гарадок пыліў статкам кароў, што гналі на пашу, а мо ўжо з пашы.

паэзія

Алена Ігнацюк



...З'явілася зорка!
Лавіце яе!..

# Вершапад

***МАЯ КУЛЬТУРА***

Мая культура!
Яна – як абярэг.
Як сімвал маёй хаты...
Яна не толькі для мяне –
для ўсіх:
банкіраў, прэзідэнта...
і палітыкаў занятых...
А мне пярэчаць: «То ж прафесія твая!..
Глядзі! Бухгалтарка, якая лічыць грошы...
Навошта ёй культура?!.
А гэты афіцэр
жыве адным – вайною...
Ці разумее ён гамераўскую Трою?!
Навошта ўсім культура?!..»
– Не! Не! – крычу –

То ж без культуры б мы памерлі!
Яна нам Годнасць, Славу, Сілу верне...

У сне я пашпарт свой згубіла.
Жыве без пашпарта мая
рэальная Радзіма!
Бярэм чужое – думаем, што наша...
Мо развучыліся варыць для дзетак кашу?
Нас хтосьці завёў «ваўчком». Хвілінаю якою...
мы падаем балюча... галавою...
А падымае нас Культура,
каб не жылі так млява і панура.

## *ЯГО ПАЛЕСКАЯ СТЫХІЯ...*

*Памяці А. Ільіна*

Яны ідуць, бы у сне, жывыя...
Манахі, маршалкі, сяляне...
Вось Пінчукі і Валыняне,
бальшавікі і манархісты...
Праходзяць з Луцка «актывісты» –
то хлопцы маладой «Прасвіты»...
*Тваім каханнем апавіта!*
*Кажу: «Спыні стыхію – пагуляем...»*
*А ты ў атказ: «Не руш... То ісціна такая».*

І ты, нібы Барыс Альхоўскі,
бо любіш так Палессе, як Валынь.
Нясе з часоў тых адгалоскі
бурлівай пінскай Піны плынь.
*Твая палеская стыхія...*

Яны ідуць, нібы Святыя...
І да якіх даходзяць межаў?
І кожны думае:
«Палессе – маё месца...»
І свецяцца ў вачах іх – Пінска вежы...
На лузе... з грывай залатой...
чароўны конь пасецца...

*Твая палеская стыхія...*
Ідуць псаломшчыкі з Валыні
да пінскага сівога Патрыярха...
І дзесь накцюрнам
грае глыбіня Гарыні...

Паўсюль прасторна і нямарка...
Ідуць паэты, ваяводы,
балахаўцы збіраюць сходы...
І беляць палатно
паненкі Другой Рэчы Паспалітай...
Тваім каханнем апавіта!
Кажу: «Спыні стыхію. Пойдзем пагуляем...»
А ты ў адказ: «Не руш... То ісціна такая».

## ЛІМОНЫ АД БОНЫ

Па загадзе Сфорцы Боны
паразводзілі лімоны
пінчукі – і ў Крамянец
іх вязе ў дзянёк зімовы
рэнесансавы купец.

Там... З гары ўладарнай Боны
зляцеў вецер – улюбёны
ў колер згушчана-лімонны,
што – як сполах яркай знічкі,
ці гуцулкі чаравічкі...
Нібы шоўк на целе музы
таго польскага паэта,
што з'явіўся праз гады...
Гэта ж Юліуш Славацкі –
пясняр зорнасці карпацкай!
Да музея – яго хаткі –
мне дзве замеці хады.

Ты чаму, ўладарка Бона,
палюбіла смак лімона? –
На манжэце – пырск крыві!?
Маю кнігу разгарні:
я ў сучасным Крамянцы,
каля помніка Бандэры...
У праўдзівасць лёсаў веру!
І паўсюдна снег бясконцы,
нібы век той... Боны Сфорцы...

З гары коцяцца лімоны,
як шары якой гірлянды...
Іх збіраюць у прыполы
крамянецкія «матроны»
ранкам ветрана-калядным...
Ну, а я? А я? А я?

Я чакаю караля! –
Майго мужа – дрывасека.
За галлём у лес паехаў.
У напрамку – аж да Дубна.
Калі вернецца, культурна
размалюем дзіў-паштоўкі –
хай трасуць галлё вавёркі...
І падорым крамянчанам...
То ж... Аксанам і Багданам...
Павіншуем з годам Новым...
У святле лімонаў Боны....

## *РАЗМОВА З РАСІЯЙ*

*Высокая* ў цябе літаратура...
Ёсць Пушкін, Ганчароў, Бялінскі...
То лепшыя?!.
Тады навошта ты ў вачах маіх паснула:
*ад самага цара – да нянькі ля калыскі*?!..

І музыка твая *багатая* такая!
Стравінскі ёсць... І Стасаў... І Чайкоўскі...
То лепшыя?!.
Чаму ж ты для мяне цяпер – глухая?!..
*Згубіла праўды галасы... Шукаеш адгалоскі...*

Як не пазнаць тваіх, Расія, сімвалістаў?
Ёсць Сомаў, Фальк, Серабракова...
То лепшыя?!.
Не грае сёння для цябе
шампанскае іскрыста ...
*Чаму ж ты ў думках сваіх выцвіла?*
*Ці зацвіцеш нанова?*

## *УСЕ МЫ РАЗ’ЯДНАНЫЯ!*

*Усе мы раз’яднаныя!*
Сябе не пазнаем, другіх не разумеем.
І яркія падзеі – больш не з намі...
Прастора вулкі горада – «цунамі»...
З абрыўкаў нейкіх і фрагментаў дыялогаў...
Я збоку недзе... І са мной няма нікога.
І робіцца ў душы маёй такое,
як бы ў сабе адчула Хлою,
бо маняць гарызонты-пастаралі...

А што ж *другія*?
*Маўчунамі* сталі?!.
*Ўсе мы раз'яднаныя...*

Здалося, што пачула голас я Шэкспіра ў тэлефоне:
«Так. Каралеўства Вашае ў палоне!
Людзей не паяднае раздарожжа...
То ж вольнай птушкай бачыць сябе можна?!.»

* * *

Хацела б жыць так – вольна, годна, ярка...
Пайду ў касцёл Святога Роха
гэтым ранкам...
І памалюся за чаканую Свабоду.
Як прыйдзе – то адчуем асалоду
ад пахаў яе – з ветрыкам і лісцейкам бярозы...
Я ж афарбую
ў бел-зялёны колер косы...
Прашу цябе я, мецэнатка Магдалена!
Дазволь наведаць твой маўклівы сад,
дзе кветам адляцела ўсё – што адбалела...
Як быццам маіх думак – *вершапад* –
пялёсткамі разносіцца па Свеце.
Я ў садзе МАГДАЛЕНЫ РАДЗІВІЛ.
Дзе Годнасць ёсць... Свабоды свежы вецер...
*І Бог, які мяне маёй паэзіяй здзівіў.*

* * *

Бяжыць цягнік.
І мільгацяць ствалы бяроз –
нібыта абгарэлых...
Здаецца... Еду я праз Беларусь
на непатрэбную вайну...
А побач маладзён з гітарай...
Ён штосьці пяе пра космас –
як ідэальны "дом для хлопцаў ачмурэлых",
хаваючы свой зрок ў *адценнях палыну*.

А мо, і сапраўды,
няма чаго нам на зямлі губляць?!.
І свет каштоўнасцяў ад нас схаваны.
Мне на Вялікдзень
рукі Бога цалаваць...

Я папрашу:
хай памяняе планы
наконт людзей...
Няўжо не для дабра народжаны мы ўсе?!.
Жывем каротка ў часе, як раптоўныя пралескі...
А маладзён з гітарай... Штось вярзе...
У космас ён з сабой
не возьме
нават *гумарэскі*.

*Імпрэсіяністычныя настроі*

* * *

Белы снег
і белы дзень...
Закахалася я ў цень
майго добрага суседа.
І выгульваю той цень –
як сабачку з назвай «Джэнь» –
і так будзе да абеду.
А там сонца! І абед...
Мой сусед выходзіць з ценю.
Не класічны ён паэт –
размаўляць з ім я не ўмею.
Вінаградам – не сусед –
частаваў мяне мо тыдзень...
То ягоны цень – імпэт
файна выразіў... Вось злыдзень!

### ФІЛАСОФСКІ ЭКСПРОМТ

Беглі думкі і дабеглі
да калодзежнай вады.
Узгадалі Юма, Берклі,
абмінулі «нікуды».
Пачапіліся на дроце,
як прышчэпкі для развагі...
Я адчула ў сваім роце
вершавана-горкі смак.
Два сабачкі – *штойчык*, *дзейчык* –
іх пытаннямі кармлю...
Як вазьму сталовы венчык –
ў крэм паэзію ўзаўю...
Паляцяць ад догмаў млявых
мае думкі за *арлом*.

«Рагатуха» ў снах кульгавых
з вуснаў скіне ўсмешкі злом.

* * *

Мяне! Няўжо мяне?
Снягір на снезе
намалюе вострай дзюбай.
Калі ж нямарная гадзіна праміне,
я застануся птушкай Снегіра,
у фарбе яго любай –
нібы бурчэлае той птушкі пачуццё...
Няўжо так да суботы будзе:
устрапянецца снегам і маё жыццё...
Напэўна, не заўважаць гэта людзі?
А мо ідэя я... для снегіра?
Як форма распрыгожанага снегу...
З суботы мне ўзляцець ужо пара
Ды толькі не хапае,
не хапае бегу...

### ***ЖОНКА ВУЖА***

Ёсць настойлівая тэма...
Ой! Плача душа...
Ты не руш маю казку,
аранжавы дэман!
Бо я – жонка вужа.

Ой! Спякота і смага,
і стомлены жнівень...
Хутка восень. Праз тыдзень – мяжа.
А там верас пачнецца...
Бераг сіняй Гарыні
мне падкажа сцяжынку –
да харомін вужа.

Прыхілю я да вуснаў
пялёсткі вяргіні...
Дэман, казку маю не паруш!
Мне здаецца – я ў сне Берагіні,
дзе свой рукапіс творыць
мой *загадкавы муж*.

* * *

Я жыву ў паўтарэннях,
нібы ў знаках-найменнях.
Паўтарае ўсе слёзы душа!
Паўтараецца любы
ў недакучлівых сненнях...
І ў яго кабінеце – герб з выявай вужа...
...Рукапісныя кнігі, прапахлыя хвояй...
Вось узорысты подпіс
ад імклівай рукі...
І заўважыла я... Гэта ж трэба такое!
З маім мужам-вужом
п’юць вішнёўку –
Вякі.

### *З’ЯВІЛАСЯ ЗОРКА!*

З’явілася зорка!
Лавіце яе!
Хутчэй падстаўляйце далоні!
Яе розумам не зразумець,
як тры іпастасі Высокага Бога.
Так замала яе і замнога...
Ці яна запаветам
ад найлепшага ў свеце паэта?
Можа, градзінкай з белага неба
ў зялёнае лета...
Можа, зловіць яе нешчаслівец які –
выклікае на “біс”,
каб узняцца...
Мо цукрынкай для ранішняй кавы яна,
як сюрпрыз,
як узор пацалунка каханкаў...
Мо паселіцца ў садзе агністай ваверкай?
Мо нявеста чыя?
Дзе ж вясельнае “горка”?!
Вы лавіце!
Лавіце яе!..

проза

Андрэй Федарэнка



…Ну, нічога. Даведаецеся з Берлінарыя,
што такое сапраўднае кіно…

# “FilmBell”

***Пачатак новага рамана***

Даўно, ледзь не ў даайфонаўскую эпоху, прынамсі, задоўга да Вялікага Каранціну і ўсяго, што затым пачалося, на базе нашай айчыннай, сусветна вядомай кінастудыі вырашылі стварыць нешта кшталту філіяла ці даччынага адгалінавання. Новая ўстанова павінна была займацца развіццём і папулярызацыяй выключна нацыянальнага кіно. Сказана – зроблена. З назвай доўга не мудрылі, назвалі проста: «FilmBell», што значыла – фільм прыгожы; падвойныя італьянскія «эл», на думку маркетолагаў, прыўносілі сюды павевы вялікага Феліні.

Аднак неўзабаве высветлілася, што, акрамя гэтай сімпатычнай, па прынцыпе інверсіі створанай назвы, дзве ўстановы нічым не адрозніваюцца, а падобныя адна да адной як дзве кроплі вады, ці вось, як Оля і Яло. Абедзве мелі аднолькавую штатную структуру, адну і тую ж матэрыяльна-

тэхнічную базу (так званы Смалявуд), для абедзвюх асноўнай крыніцай існавання з'яўляліся сумесныя руска-беларускія праекты.

"У Маскве цяпер не тое што здымаць – жыць нельга, – запэўніваў вядомы рускі кінадзеяч, – а тут проста рай: выдатныя натуры, вуліцы, а галоўнае – людзі, прафесіяналы кіно, акцёры другога плана, якіх можна наняць за мізэрную аплату; характэрныя славянскія твары, ніхто не "гэкае" і ўвогуле гавораць па-руску лепш за масквічоў".

Апошняе было чыстай праўдай. У абедзвюх нацыянальных установах не гучала практычна ніводнага нацыянальнага слова. Напачатку "FilmBell" паводзілася, як і належыць адлюстраванню, цалкам прызнаючы сваю другаснасць. Ёй нават у рэкордныя тэрміны, за адно лета, удалося зняць поўнаметражны фільм, само сабой, пра вайну. Каб усё было праўдападобна, здымалі не ў павільёне і не ў Смалявудзе, а выязджалі на натуру, ажно ў рудабельскія лясы, куды нават немцы ў вайну ішлі-ішлі, ды так і не дайшлі, і дзе стварылася на ўвесь перыяд акупацыі славутая партызанская Рудабельская Рэспубліка. Гэта быў той самы фільм, у якім партызаны гаварылі па-руску, а паліцаі – па-беларуску. Героі актыўна выкарыстоўвалі лексіку сучасных дарожных войнаў: "ты чё творишь?!", "ну всё, ты попал! – мажь лоб зеленкой". Група беларускіх партызанаў ехала на дрызіне і спявала задушэўным хорам: "За Россию-матушку – постоять, за Россию-матушку – всё отдать". Мясцовыя жыхары – беларускія сяляне, пілі чай з самавараў (якіх у Беларусі зроду не было, як не было і звычкі піць чай), "окалі" і "токалі": "Схожу в Минск-то, на разведку". Камандзір беларускамоўных паліцаяў кідаў падначаленаму: "Выканаеш заданне – набяры!" На жаль, ці на шчасце, гэты неверагодны фільм так і не выйшаў у пракат. Пяць мастацкіх саветаў не адважыліся яго зацвердзіць з прычыны поўнай бездапаможнасці, і ён ціха, назаўсёды лёг на пыльную паліцу архіва.

Аднак мала-памалу "FilmBell" падрос, агледзеўся і скеміў, што да чаго. Спачатку нясмела, затым усё гучней, усё больш упэўнена ён пачаў падаваць уласны голас, прэтэндуючы на той ці іншы выгодны праект. Пакрысе паміж дзвюма кінаўстановамі сапраўды ўзнікла канкурэнцыя, як і планавалася спачатку, толькі зусім не творчая – усё круцілася вакол самых банальных грошай: як лепш іх асвоіць і "распілаваць". Пачаліся спрэчкі, узаемныя крыўды, пайшлі непазбежныя ў такіх сітуацыях судовыя разборкі. А тут яшчэ ў "FilmBella" аказаліся надзвычай спрытныя юрысты і так павялі справу, што неўзабаве ўжо немагчыма было разабраць, хто асноўны, хто другасны (як у тым фільме, дзе цень выйшаў з-пад улады гаспадара і зажыў уласным жыццём, а потым увогуле запанаваў над ім), – і вось ужо той, сапраўднай студыі давялося апраўдвацца і даказваць сваю першаснасць.

Адных толькі заказчыкаў "музыкі", рускіх кінабратоў, усё задавальняла. Яны спакойна сабе падзялялі і ўладарылі, і карысталіся міжусобіцай, часткова падаграваючы яе, каб не патухла.

Неяк у канцы зімы ў Мінску здымалі чарговы серыял з маскоўскага жыцця. Не абышлося без накладак. У адзін час на адной і той жа вуліцы вяліся здымкі яшчэ двух праектаў: пра міліцэйскую аўчарку, якая да болю нагадвала аўстрыйскага "Камісара Рэкса", і пра вайну – масоўка, нямецкая форма, усё сур'ёзна. Групы сутыкаліся, перашкаджалі адна адной, сварыліся. Але працэс патроху ішоў. У маскоўскім серыяле ўсе "размоўныя" ролі дасталіся рускім акцёрам; нават бабулек, якія па-мыцішчанску пілі чай з

самавара, прывезлі адну з Кастрамы, другую з Разані. Нашы ж мясцовыя беларускія "прафесіяналы кіно" перабіваліся ролямі безгалосымі, выступалі ў масоўках, статыстамі; адзін малады рэжысёр у якасці каскадзёра скакаў на поўнай хуткасці з электрычкі.

Але незадаволеных не было. Ніхто ні на што не наракаў. Усе ведалі сваё месца і, прынамсі знешне, на словах, ахвотна падтрымлівалі меркаванне пра саміх сябе як пра рахманых, смірных, ціхіх, нібыта баяліся парушыць гэты шаблон і тым пакрыўдзіць, а то і раззлаваць капрызных братоў (а злавацца тыя ўмелі; напрыклад, адзін ці то рэжысёр, ці прадзюсар крычаў па тэлефоне: "Я уже не могу слышать ваши бредни, другого слова не нахожу – бредни о вашей якобы самостоятельности!").

Нарэшце здымкі скончыліся, кінагрупа хутка знялася з месца, балазе, збіраць асабліва не было чаго, толькі апаратуру, а рэквізіт і дэкарацыі мясцовыя. На пероне каля хуткаснага цягніка "Мінск – Москва" галоўны рэжысёр серыяла нарэшце апынуўся хоць на пяць хвілін у нязвыклай адзіноце. Ён любіў гэты пах мазуты і гары, гудзенне цеплавозаў, звон рэек, камяні паміж шпалаў. Яму падабалася жывая мітусня вакзала, хаатычны рух яго, шум, абвесткі, якія будзілі ўяўленне пра іншыя гарады і другое жыццё: ён прагульваўся па пероне і думаў не пра серыял з маскоўскага жыцця, гэтую падробку, а пра свой сапраўдны фільм, які здымаў ужо гадоў дзесяць і якім спадзяваўся не проста здзівіць, а скалануць свет. Серыяльныя меладрамы гэта так, ні аб чым, практыкаванні ў стральбе. Яны здымаліся дзеля хлеба надзённага. А вось той фільм, амаль патаемны, прызначаны для закрытых паказаў на фестывалях, быў сапраўдным – і чаго толькі ў ім не было! Была сцэна, у якой нават запрошаная немецкая порнаактрыса, то бок далёка не святая, наадрэз адмовілася ўдзельнічаць, быў эпізод, пасля прагляду якога Міністэрства культуры рашуча запатрабавала вярнуць назад немалы грант, які неабдумана само ж і выдала.

Цяпер, прагульваючыся на пероне мінскага вакзала, рэжысёр з горыччу, але і не без гонару, думаў: "Крывадушнікі! Вашыя ваенныя фільмы – крывавыя мясарубкі, дзе людзей рвуць на кавалкі, рэжуць, катуюць, гэта паказваецца ўсім, ад старога да малога, без абмежаванняў... Ну, нічога. Даведаецеся з Берлінарыя, што такое сапраўднае кіно".

Ён зайшоў у вагон, цягнік крануўся і змяніў яго думкі. Ён глядзеў у вакно і ненадоўга развітваўся з гэтым дзіўным горадам. Харошы горад, добрыя людзі, хоць і наіўныя, спозненыя, якія захраслі ў мінулым стагоддзі, завіслі ў мілай патрыярхальнасці. Ад сацыялізму адарваліся, да капіталізму не прыйшлі. Не здольныя ні на што вялікае, але і на нізкае таксама, у адрозненне ад нас, рускіх. У нас усё крайнасці: рэвалюцыя, дык такая, каб свет здрыгануўся, капіталізм – каб мароз бег па скуры. Падышоў ззаду аператар:

– Знаёмая дзяўчына з Мінска кажа, што вельмі смешна глядзець фільм пра Маскву, пазнаючы ўласныя школы, вуліцы, завулкі.

– Мне на яе месцы не смешна, а крыўдна было б. Дарэчы, – успомніў рэжысёр, – на тым кадры, дзе праезд па вуліцы Карла Маркса... Трэба нешта памяняць. Каб не было відаць, што Мінск.

– Падмалюем збоку Астанкінскую вежу, – адказаў аператар, замоўк і таксама пачаў глядзець у вакно.

Кацярына Янчэўская



...Глядзіць у вочы самоты
Вясна,
Выпрабоўвае здольнасць
Даравац...

# Паветра сакавіка

* * *

Нюансы празрыстасці:
Жыву між часам кляновага соку
І часам вясновых пялёсткаў.

Без шчырых слоў
Свет – рэха пустацелага маўчання.
Смуга агортвае аблічча.

Жыццё збягае, як кіпячае малако,
У новы боль ці ў новае палатно,
Каб здзейсніцца карцінай?

* * *

Землятрус на галоўнай сцэне:
Дзьмухавец-асілак

Раздзімае бетонныя сцены.
Рамкі. Дазволу няма.
...Фантомны боль там,
Дзе была душа?

* * *

Трывожная маляўнічасць:
Пасля туману
Дрэвы
Апранаюць новыя думкі –
Адлюстраванні вачэй
Нябачных людзей...

* * *

Пранізлівая раніца,
Разгорнутая ўздоўж
Сэрцабіцця.
Неспасціжнае, нязноснае
Ападае.
На хвіліну сухая трава
Ўспамінае,
Што пад горкім каменнем
Расце сакавік.

* * *

Паветра
Асцярожна знаёміцца
Са шчымлівым дыханнем
Таго, хто ідзе і бяжыць,
Хто застаецца на месцы,
Недасяжным для зроку,
Хто развітваецца, каб сустрэцца...

Навокал – паветра
Вартуе дыханне,
Рассечанае на кавалкі
“Да” і “пасля”.
Ніякай паслядоўнасці
Разумення.
(Паветра не можа
Стрымаць чалавека).
Сляды набрыньваюць
Бязлюдным токам.

Наша супольная вясна
Назаўсёды спазнілася?

* * *

Абязводжанае сэрца
Не знайшло Чалавека ў пустэльні.
Абяздоленая невядомасць:
Ці адчуем мы дотык вясны,
Дотык вольнага неба,
Ідучы басанож
Па гарачых аблоках сумлення?
Абязводжаныя словы,
Крокі, колеры...
Нас няма?
Так хутка распадаецца сэрца.
З'яўляецца свет, *адзеты ва ўласны цень*[1].

* * *

Ланцугі разгубленасці,
Ланцугі трывання
Ручаямі веснімі
У жыцці звіняць.
У трымценні змроку,
У трымценні рання
Чалавек як свечка
Знямела расплываецца
Воскам на траву.
Поўня ў разоры
Прытуляе словы,
Ахінае вейкі
Сціпласцю святла.
Не блукае сон твой
Па гарачых кропках,
Паветра не страляе
Жудаснай чаргой.
...Кіпцюры самоты,
Кіпцюры атруты
Не знаходзяць зерне
Ў таямнічай глебе,
Не знаходзяць зерне
Радасці жывой.

[1] *Адзеты ва ўласны цень і толькі* – радок з верша Гіёма Апалінэра "Мроя з аблокаў". Пераклад з французскай Уладзя Лянкевіча.

* * *

*Тут прасторы хапае, ды паветра няшмат*[1]*...*

**Міхал Анемпадыстаў**

Якая цяпер пара года?
Ашукваю саму сябе,
Калі мроіцца, што вясна,
Што вытанчаная размова
І прыгожае пісьменства,
І квецень нібыта нанова,
Нібыта “жыццё ідзе сваім ходам”.
...Нераспазнаная ісціна
Пакутліва пракрадваецца
Праз поры скуры.
Паветраная трывога!
Час як суцэльны боль
Хаваецца пад зямлёй.

* * *

У межах неабходнага
Ноч
Утрымлівае раўнавагу,
Пакорліва вывучае фізічнае даўгалецце
Чалавечнасці.
Перапляценне, перацяканне,
Пераход межаў – покліч выратавання.
Чалавечае. Запаветнае.
...Прачынаюся.
Божая кароўка
Адчайна
Шукае мой позірк.

* * *

Пошук празрыстаці і прасвету:
Надзея скрозь пакуты і скруху
Незвычайным святлом атуляе,
Слухае спалоханае сэрца,
Акрыляе роздум.
Непадзельнае, сапраўднае
Ажывае. Сустракае,
Глядзіць у вочы самоты

[1] Радок з верша “Схаванае сэрца”.

Вясна,
Выпрабоўвае здольнасць
Дараваць...

* * *

*Жыцце маё – узлёты і падзенні,*
*Трывожны цень на выстылай сцяне.*

**Яўгенія Янішчыц**

Плынь жыцця: святло і цені.
Хараство цеплыні
Ў прадчуванні вясны.
Сэрца – даверлівая кветка –
Прарастае скрозь промні,
Незнарок трапляе ў клетку.
Пруты жалезныя ў капілярах жывых істот.
Цені прасочваюцца пялёсткамі, камянямі,
Сцяжынамі і прыпынкамі,
Снегам і глінай,
Маўчаннем і крыкам.
Сакавік. Металічны прысмак
І лётасць зямлі.
Крылы і прыцяжэнне.
Сугучча пяшчоты ў даверлівых кветках,
А побач – цвікі.
...З іржавых ценяў
Атрымалася кальчуга.
Ці здолею яе апрануць
І адчуць істотнае?

Іна Снарская



...адпускаю ў сусвет
матуліны словы...

# Мама

***Фрагмент з аповесці "Зачараваны скарб"***

**1.**

Прысніўся сон пра матулю. Мы пра нешта гаварылі, і я радавалася, што яна жывая. Мама збіралася на працу ў школу, доўга выбірала сукенку. У жыцці такога не было: яна апраналася хутка, з густам, але галоўнае, каб было зручна. Не памятаю, ці гаварылі мы калі-небудзь пра моду? У матулі былі цудоўныя югаслаўскія боты з натуральнай скуры, якія яна вельмі рэдка абувала. Час ад часу даставала са скрынкі, змазвала вазелінам, падкладала ў халявы свежага нафталіну, каб моль не завялася, і хавала зноў у шафу... Аднойчы, калі я збіралася на школьны вечар, мама сказала: «Абувай, Іна, мае боты, яны табе больш пасуюць... Бяры назаўсёды, насі... ты ж маладая...» А самой тады было ўсяго 45 гадоў... Былі ў мамы і ўлюбёныя сукенкі, асабліва адна – бардовая з фігурным выразам на шыі, якую апранала

толькі на вялікія святы. У гэтай сукенцы яна была на маім вяселлі, у ёй матулю і пахавалі...

«Мама, чаму мы з табой так мала гаварылі?» – пытаюся ў адным з вершаў... Цяпер, калі яе ўжо больш за трыццаць год няма, мы можам размаўляць толькі ў снах. Апошнім часам яны дрэнна запамінаюцца: вобраз застаецца, а гук знікае. Чаму так, не ведаю...

* * *

Адзін з першых успамінаў, тады мне было гады чатыры. Дарога з Полацка ў Сувалкава, дзе мама працавала ў школе. Мы ехалі на "Пазіку", такім маленькім пузатым аўтобусіку, у салоне пахла бензінам, я сядзела на маторы, закрытым адкідной крышкай і кажухом (вольных месцаў не было), матор сярдзіта бурчэў, і я баялася праваліцца ў яго прамасленыя глыбіні. Круцілася, карцела бачыць дарогу, а не перапоўнены аўтобус, шкадавала маці, якую ўвесь час штурхалі. Яна стрымлівала сабой пасажыраў, каб нехта раптам не ціскануў мяне...

Сувалкава запомнілася цёмным яловым лесам, здавалася, у той цемнаце й густаце хаваюцца ваўкі. Увесь час я азіралася: а што, калі воўк выскачыць з-за елкі й схопіць нас з мамай? А мы ўсё ішлі, ішлі... і лес не сканчаўся...

Школа была аднапавярховая, драўляная, пафарбаваная карычневай фарбай, якая сцерлася каля ўваходу. Я стаяла на ганку, шкрэбла пазногцем фарбу, пакуль маці збірала вучняў са двара ў клас, як куранят... На ўроку я сядзела на маміным партфелі на апошняй парце, яна была для мяне занадта высокай, нешта малявала і ганарылася такой разумнай і прыгожай матуляй-настаўніцай. Мне вельмі хацелася хутчэй вырасці і быць падобнай да яе...

* * *

Мама належала да тых настаўнікаў, каму вучні не наважваліся «сядаць на галаву», на яе ўроках заўсёды была дысцыпліна. Акрамя таго, яна ведала і любіла свой прадмет (беларускую мову і літаратуру), умела зацікавіць дзяцей. Але калі я навастрыла лыжы ў педагогі, яна не падтрымала.

– Ці з тваім характарам? Ведаеш, якія цяпер вучні? Сядуць на галаву, ты і не заўважыш! Ідзі лепш у політэхнічны інстытут на будаўнічы факультэт, будзеш інжынерам, як тата.

Успамінаю маму са стосам сшыткаў на каленях, яна нават улюбёны «Блакітны агеньчык» глядзела ў паўвока... Але ж любіла сваю прафесію, вучняў, сачыла за іх будучыняй... Пазней я зразумела: у строгасці, стрыманасці матуля хавалася, як слімак у ракавіне, гэтыя рысы былі супрацьлегласцю яе дабрыні і чуласці. Чаму мама баялася паказаць слабасць, расчуліцца, у рэшце рэшт заплакаць? Што тут такога?..

Калі маці была на бальнічным ложку, у апошнія яе дні, і я падзялілася, што мае вершы надрукавалі ў тоўстым сталічным часопісе, яна слаба ўсміхнулася і сказала:

– Дзетка, усё ў цябе будзе добра. Ты малайчына! – і адвярнулася, і схавала вочы...

* * *

Матуля рэдка адпачывала. На мора ніколі не ездзіла, усяго толькі раз, калі захварэла на цукровы дыябет, адведала санаторый. Адпачынак, які

па школьнай звычцы называла «канікулы», праводзіла ў вёсцы, дзе жылі яе бацькі, а мае бабуля з дзядулем.

– А хто ж бабе Муры і дзеду Івану дапаможа? А?

Гэтая адказнасць за бацькоў была характэрнай рысай характару. Як мала яна шкадавала сябе!..

У кожную вольную хвіліну матуля акуналася ў яркі, шматгранны свет мастацкай літаратуры. Старонку за старонкай гартала чужыя гісторыі і, магчыма, уяўляла сябе недзе там, далёка, такой, якой была толькі ў марах... У нас дома было шмат кніг, я вырастала сярод беларускай, рускай і замежнай класікі, а матуля яшчэ прыносіла нешта са школьнай бібліятэкі. Чытала перад сном аж пакуль не засынала...

Летам маме падабалася хадзіць у лес па ягады, гэты манатонны працэс супакойваў і не перашкаджаў думаць. Аднак вандроўкі па лесе без пэўнай мэты яна лічыла дарэмным губляннем часу, была рэалісткай, моцнай жанчынай з цвёрдым характарам, ці, магчыма, хацела, каб мы яе бачылі менавіта такой...

Мама, чаму мы з табой так рэдка гаварылі? Не магу ўспомніць ніводнай размовы пра тваё жыццё, радасці і нягоды, любоў і нянавісць... Магчыма, ты лічыла мяне занадта юнай для дарослых размоў, не хацела нечым зачапіць, усхваляваць? Вядома ж, у цябе былі свае сакрэты... А можа, нам проста не хапіла часу, каб пагаварыць па душах... Вы з татам гадавалі мяне, выхоўвалі, вучылі, аберагалі, а потым аддалі замуж і... адпусцілі...

– Валодзя добры, надзейны чалавек, не бойся, – сказала мама.

Я паслухалася... і паляцела з роднай хаты ў іншую краіну, у іншае жыццё...

Акрамя памяці пра маму, калі казаць пра нешта матэрыяльнае, засталіся фотаздымкі, некалькі пярсцёнкаў, завушніцы з александрытам і... дзённік, які перадала цётка Марыя, жонка Івана, матулінага брата. Я не паспела распытаць, адкуль ён. На свяце, дзе мы сустрэліся, было шмат чужых... Хутка цёткі не стала...

Два тоненькія сінія сшыткі, паяднаныя суворай ніткай у адзін, акуратны настаўніцкі почырк... Свой дзённік мая маладая маці пачала пісаць, калі яшчэ вучылася ў педагагічным вучылішчы, працягнула ў інстытуце. Алачка, Аля, Алька... З тых старонак на мяне глядзіць дзяўчына, якую я зусім не ведала...

## 2.

На гарышчы пахне яблыкамі і пылам. Павуцінне абляпіла кроквы чароўнага замку. Замак спіць і бачыць сны пра свае часы мінулыя, калі тут было шмат народу і жыла маленькая князёўна, нечым падобная да мяне... Ступаю асцярожна, каб не парушыць таямніцы замка, не пашкодзіць якуюнебудзь каштоўную рэч. Гарышча – хата навыварат, яе памяць... Вось пад шарам павуціны свеціцца люстэрка, калі ў яго зазірну, можа, пабачу тых, хто глядзеўся туды да мяне, хто жыў у гэтым доме. Мне трохі вусцішна, раптам пабачу... чорта. Што калі ён апошнім глядзеўся ў люстэрка, і калі я пабачу яго вочы, ён забярэ сабе маю душу? Нешта такое мне расказваў тата. Ну чаму жахлівыя казкі ўспамінаюцца менавіта на гарышчы, калі я зусім адна? Калі я пабачу чорта і закрычу, то нават ніхто мяне не пачуе,

не прыйдзе на дапамогу. Бабулі і дзядулі няма дома, таму й наважылася залезці сюды... Не, не буду глядзець у люстэрка, пайду далей...

А далей – стары задымлены керагаз, на якім бабуля гатавала ежу, калі яшчэ ў нас не было пліты. Ну, гэта каб не паліць кожны дзень печ. Керагаз нечым нагадвае ваяра-асілка, які біўся з цмокам. Пачвара яго – лясь хвастом, воін падае, разбівае галаву, але ўсё роўна ўстае, бо смелы і моцны. А цмок полымем дыхае, ён люты ў тры разы болей, чым нават чорт, які глядзеў у люстэрка, бо ў яго аж тры галавы. Але ваяр, ну, гэта, напрыклад, мой тата, размахваецца і адсякае цмокавы галовы: адну, другую, трэцюю. І цмоку капцы. І тата – пераможац. Ён заўсёды пераможац, хоць мама часам называе яго няздарай... Калі б мае бацькі менш сварыліся і больш любілі адно аднаго, мы ўсе былі б мацнейшымі і ніякі Цмок нас не спужаў бы...

А вось у вялікай драўлянай скрыні ляжаць кнігі. Пра што яны? Яшчэ не ўмею чытаць, але гартаць кнігі азначае доўжыць падарожжа. Колькі тут маміных падручнікаў! Вось Пушкін на партрэце, даўно яго ведаю, дзядуля перачытаў мне ўсе яго казкі: і пра Цара Салтана, і пра Царэўну й сем багатыроў, якія вельмі моцныя, але чамусьці не змаглі абараніць сваю названую сястру ад злой мачыхі. Царэўна з'ела яблык з атрутай і заснула, і ніхто не мог яе разбудзіць. А тут прыйшоў каралевіч Елісей, пацалаваў царэўну, яна прачнулася, сказала: ах! І закахалася... А нядаўна мой сябар Алег пацалаваў мяне ў шчаку, калі мы хаваліся пад чаўном, але я нічога не адчула і не пакахала яго. Можа, гэта таму, што ён не такі прыгожы, як каралевіч Елісей?.. Я трымаю ў руках мамін падручнік і думаю пра каханне... Мая мама – настаўніца, раней вучылася ў педагагічным інстытуце, а яшчэ раней – у педвучылішчы. Гэтыя падручнікі, мабыць, яшчэ з тых часоў, бо вельмі ўжо старыя, вунь колькі пылу на іх. Здзьмуваю пыл, гартаю кнігі... І раптам сярод старонак – засушаны кляновы лісток...

...Вось мая мама, яшчэ зусім дзяўчынка, сядзіць за партай каля адчыненага вакна. Яна тоненькая, як саломінка, і дзве касы заплеценыя, як у маленькай. Маме 15 год. І раптам на яе сшытак апусціўся жоўты кляновы лісток. Ён адарваўся ад клёна і так упадабаў маю маладую маму, што дамовіўся з ветрам, каб той яго на мамін сшытак падкінуў. І маме так прыемна на сэрцы, так радасна, яна нешта такое шчымлівае ўспомніла, нейкага свайго сябра, можа, Валодзю, з якім тады сябравала, успомніла і паклала клёнік у падручнік з партрэтам Пушкіна... А можа ўсё было не так, а вось як...

Ідзе мая мама з падручнікам пад пахай па асеннім парку і сустракае... Валодзю. Мама яшчэ не ведае, што кахае, але чамусьці не можа глядзець свайму сябру ў вочы, яны ў яго блакітныя і празрыстыя, як нябёсы. У Валодзі ў руках букет з кляновага лісця. Ён падыходзіць да мамы й падкідвае лісце ў паветра. Яны глядзяць адно на аднаго, а лісце падае, падае... на плечы, на рукі, на валасы, на падручнік з Пушкіным...

Калі б мама пабачыла гэтую кнігу з жоўтым клёнікам і ўспомніла Валодзю, ці было б ёй таксама радасна, як тады, у 15 год? Чамусьці я не раўную маму да Валодзі. Мне здаецца, ён быў добрым хлопцам... Цікава, што я люблю тату, а ўспамінаю і пра Валодзю, якога нават ніколі не бачыла... А што, калі ўва мне жыве памяць маёй маладой матулі і, каб адчуць гэтую памяць, трэба зноў падняцца на гарышча, як тады, калі мне было толькі шэсць год? Як тады, як тады, як тады...

## 3.

Ала Цімошчанка пачала пісаць дзённік 10 лютага 1954 года. Запісы нерэгулярныя, з перапынкамі. Яна вучыцца ў педагагічным вучылішчы, прафесію выбрала па душы.

*«Учора мне споўнілася 18 год! Ужо 18! Але як мала я зрабіла карыснага! Толькі вучышся, вучышся... а карысці ад цябе ніхто не бачыць. Як бы мне хацелася стаць добрым настаўнікам, як Тамара Аляксандраўна ці Фёдар Данілавіч...»*

Далей будзе педагагічны інстытут у Магілёве. Пакуль гэта толькі мара... Аля піша пяром, старанна выводзіць кожную літару, яна настойлівая, мэтанакіраваная, упэўнена рухаецца да свайго прызвання. У свае васямнаццаць Алька нагадвае падлетка – худая, як сцяблінка, хвалістыя цёмныя валасы, вузкія плечы... Яе вабнасць яшчэ не ўступіла ў сілу, але вялікія карыя вочы з павалокай, як намаляваны выгін броваў сведчаць аб будучай прыгажосці. Дзяўчына пакуль не разумее, што яна прыгожая, піша пра сябра дзяцінства Міколу, якому падабаецца, ды не падзяляе ягоных пачуццяў. Сціплая, сарамлівая Ала марыць пра вялікае каханне, адзінае на ўсё жыццё.

*6 мая 1954 года. «Вось ужо май месяц, сапраўдная вясна. Калі ўжо здарыцца, што я пакахаю кагосьці так, што не змагу без яго ні хвіліны пражыць? Як я хачу адчуць сапраўднае каханне!»*

Яна марыць і не ведае, што каханне пераверне яе звыклы свет, прывядзе за сабой чараду драматычных падзеяў, памылак, расчараванняў... Табе будзе балюча, мама, і мне балюча нават праз столькі год. Магчыма, твая душа ведае, як бы мне хацелася цябе абараніць, захінуць, суцешыць...

А паміж юначымі марамі, вядома ж, вучоба, гэта цяпер для Алы галоўнае, падрыхтоўка да экзаменаў, бясконцае чытанне мастацкіх твораў, падручнікаў, канспектаў... У свае васямнаццаць Алька па-дзіцячы непасрэдная...

*«Нядаўна я спытала ў Валі, якія ў мяне недахопы, яна адказала, што на ўроку нельга смяяцца ўголас, і ўсё. Калі б мы ведалі пра свае слабасці, памылкі, то стараліся б іх выкараніць...»*

Мама, калі б ты ведала, што і я на лекцыях была не вельмі ўважлівая. Выдатніца з залатым медалём пасля школы, я з дзяцінства хацела быць годнай тваіх спадзяванняў, але смяшлівасць выскоквала з мяне як чорт з табакеркі, у самыя неадпаведныя моманты. Аднойчы цераз той «дурнасмех» мяне выгналі з лекцыі, і я цэлую пару прастаяла ў калідоры каля вакна. Гэта было яшчэ ў Наваполацкім політэхнічным інстытуце. Калі вучылася на філолага ў Палтаве, пасталела ўжо, навучылася лепш кіраваць эмоцыямі, але нешта істотнае пайшло разам з той юнацкай весялосцю. Зніклі летуценнасць, даверлівасць, прадчуванне цудаў... Калі вучылася другі раз, у мяне ўжо быў сын-падлетак і дзесяць гадоў, як не было цябе...

...Чытаю і перачытваю матулін дзённік з надпісам на вокладцы «нікому не чытаць». Даруй, мама, але я насамрэч часцінка цябе, таму мне можна. Зразумею і дачытаю да канца...

## 4.

Лёнька і Валодзя – найлепшыя сябры, у школе яны сядзелі за адной партай, але вельмі ўжо непадобныя – лёд і полымя. Адзін – гарачлівы,

хуткі, наравісты, другі – маўклівы, спакойны, разважлівы. Валодзька меў добрую памяць, здольнасці да дакладных навук. Чаго не скажаш пра Лёньку: вучыўся так сабе, цераз пень-калоду, часта спісваў хатнія заданні ў Валодзькі. А той і не супраць, сябры ж, трэба дапамагаць. Кантрольным па матэматыцы Лёнька ўвогуле не мог даць рады – напружваўся, чырванеў, а ні “тпру”, ні “но”. А спрытны Валодзька задачкі рашаў, як семкі грыз: паспяваў зрабіць і свой варыянт, і Лёнькаў. Так і вучыліся разам. У аднаго ў табелі адны тройкі, дзе-нідзе чацвёрка праскочыць. Другі трохі да выдатніка не дацягваў, літаратура яму не вельмі давалася, чытаў мала, але ўсё з заняткаў хапаў дзякуючы добрай памяці.

У дзявятым класе абодва хлопцы неяк нечакана закахаліся ў Альку з Сястронак. Маўчалі, выгляду не падавалі, а тая сябравала і з адным, і з другім: разам хадзілі ў школу, бегалі на танцы ў клуб, святкавалі дні народзінаў і Новы год. І раптам, як снег на галаву: сябры збіраюцца пасля школы паступаць у мараходнае вучылішча. Дзе той Мурманск, а дзе Полацк? Як жа далёка ад дому! Ды адлегласць не спыніла, аказваецца, абодва даўно марылі пра мора.

*«Вось так жывеш і не ведаеш, дзе знойдзеш, а дзе страціш,* – напісала Ала ў сваім дзённіку. – *Было ў мяне два сябры, а не застанецца ніводнага. І калі яны паспелі палюбіць мора, хто б знаў? Ніколі ж нават не бачылі...»* Альцы стала няёмка ад гэтай думкі, нешта зашчымела ў сэрцы, сціснула. Што гэта? Няўжо абраза за тое, што раней сябры не падзяліліся з ёй хлапечымі мроямі? На адлегласці ўяўнай разлукі дзяўчына неяк па-новаму зірнула на іх. Зірнула і зразумела, што кожны ёй падабаўся па-свойму...

* * *

Простая да трывіяльнасці гісторыя: сябры кахаюць адну дзяўчыну, а ёй выбіраць... Аля зробіць выбар пазней, а тым часам яна размаўляе са сваёй лепшай сяброўкай Верай...

– Цікава, які ў цябе ідэал? – пытаецца Вера.

– Па-першае, ён сціплы і... не ведае пра сваю ідэальнасць... Па-другое, разумны, з выдатным пачуццём гумару. І яшчэ... я крыху баюся яго...

– Гэта як? Таму што ён страшны?

– Не... (*Ала смяецца.*) Проста... ён такі моцны, што я не магу яму адмовіць... Яго воля мацнейшая за маю...

– Ты хочаш... спаць з ім?

– Цьфу на цябе! Хіба ты мяне не ведаеш? Пра такое нават думаць не думаю... сорам які вярзеш! Мы толькі цалаваліся... усяго раз ці два...

– Дык ён існуе, твой прынц, твой ідэал?!

– Вера, а хто сказаў, што ідэалаў не бывае ў жыцці? Для мяне ён менавіта той ідэальны хлопец. Даўно. Але раней мы проста сябравалі... А вось на святкаванні Новага года... памятаеш, у нашым клубе, і ты там была... такое здарылася... Спачатку мы проста танцавалі, і раптам ён спыніўся, прыціснуў мяне да сябе і пацалаваў у вусны. Уяўляеш? Сорам які! Усе бачылі...

– Я не бачыла, можа, выйшла на вуліцу... Кажы ўжо нарэшце, хто гэта?

– Ды не перабівай жа! Слухай далей... Я яго адштурхнула, але раптам пабачыла ягоны твар, нібы асветлены месячным святлом... Нібы ўпершыню ўбачыла яго вочы – разумныя, усмешлівыя, з такой тонкай хітрынкай...

– Дык хто гэта, Аля? Не мучай мяне! Якая ты смешная: і смелая, і баязлівая адначасова... Мы ж лепшыя сяброўкі. Скажы мне ўжо...

Аля пачырванела і сама гэта адчула, пацерла шчаку, паглядзела ў далячынь, схавацца б, змаўчаць... але не... не стрымалася.

– Гэта Валодзя, мой аднакласнік, ты яго ведаеш...

– Валодзька Мацкоў з Чорняі?! Няўжо?.. Сябровачка, ты, відаць, з глузду з'ехала... Ён... такі... такі... Яго ўсе дзяўчаты баяцца! Ён дзёрзкі, выбуховы, як порах, і язык у яго злы...

– А мне такі і трэба, каб трымаў мяне ў руках. Так, менавіта такі, таму што я заўсёды хачу быць вышэйшай за іншага, у сэнсе, каб апошняе слова было за мной. А з Валодзькам так не пойдзе. З ім я буду паслухмяная, ціхая... буду рабіць усё, што ён скажа, нават, калі спатрэбіцца, пераступлю цераз свой гонар. Ты ж ведаеш, якая я ганарыстая... Толькі вось мама кажа, што Валодзька мне не падыходзіць, што ён капрызны, не стрыманы. Лёнька лепшы... спакойны, надзейны... Ой, не паверыш, у нядзелю Лёня сватацца да мяне прыходзіў, прынёс кветкі маме, як у кіно паказваюць, ветлівы такі... Але ён мне не вельмі падабаецца! Ну, усміхаліся, жартавалі... Я перавяла тое сватанне на жарт... І тады Лёнька сказаў, што разам з Валодзькам будзе паступаць у мараходнае вучылішча...

– Аля, ты сама, канечне, вырашай, але я так думаю: паедуць хлопцы вучыцца, а ты пішы абодвум. Час пакажа, хто лепшы... з кім табе доля.

– Вось і я думаю... Ой, Верачка, відаць, я з тых, хто прывык плыць за плынню...

– Не, Ала, ты валявая, толькі пра сябе так не скажаш...

* * *

*5 сакавіка 1954 г. «Я вельмі хачу атрымаць ліст ад Лёнькі... Што яму будзе цераз тое, што спазніўся на карабель?.. І наогул, мне так падабаецца атрымліваць лісты...»*

*10 красавіка 1954 г. «Учора атрымала ліст ад Валодзькі. Ці не закахаўся ты часам, мой сябар? Нешта надта пачаў мяне хваліць... А чаму твой ліст такі сумны? Ведаю, ведаю, ты думаеш пра вайну, і я таксама... І ўсё ж, спадзяюся, мы яшчэ не раз сустрэнемся... Ты яшчэ пагуляеш на маім вяселлі, а я на тваім... А раптам вайна? Ды не. Не! Вайна нам зусім не патрэбная...»*

* * *

Але было ўсяго пяць з паловай гадоў, калі бацька пайшоў на фронт, а яны засталіся дома ўдзвюх з маці. Перад тым, як фашысты ўвайшлі ў вёску, партызаны сястронцаў папярэдзілі, Матрона паслала ў тачку пару ваўняных коўдраў, вузлік з адзеннем, пасадзіла дачку, дала ёй у рукі абраз Казанскай Божай Маці, загорнуты ў навалачку, і пакаціла ў лес... Людзі рассыпаліся па лясах і дальніх хутарах, дзе толькі можна было схавацца. Бабуля з мамай дабеглі аж да Сухога Бору, там лес гусцейшы і балоцістая мясцовасць...

Мы з мамай ніколі не размаўлялі пра той час. Яна не хацела ўспамінаць. Сваю памяць хавала недзе глыбока-глыбока і маўчала, думаючы, што так усім будзе лепш. Але я нібы ўласнымі вачамі бачу: пахне дымам, фашысты спальваюць хаты, мабыць, ужо адступаюць. У Алькі на галаве чырвоная хустка, баліць вуха, яна цярэбіць маці за спадніцу, плача ціхенька, амаль бязгучна, каб не пачулі фашысты.

* * *

Дзённік – галоўны скарб, які дастаўся мне ў спадчыну ад матулі. Ёсць некалькі пярсцёнкаў, якія не нашу (не падыходзяць памер), срэбныя завушніцы з александрытам (час няўмольны – перацерлася дужка), драўляныя каралі, якія матуля звычайна апранала з улюбёнай бардовай сукенкай, яна наогул любіла адценні чырвонага, але не дазваляла сабе дужа яркага. Што перашкаджала? Узрост, педагагічная праца, прыдуманыя некім нормы? Тады вучылі не кідацца ў вочы, не вылучацца, вучылі, што Савецкі Саюз – самая лепшая і самая справядлівая дзяржава ў свеце...

*23 снежня 1956 года. «Я ўчора прачытала «Белае полымя» В. Сабко. Пасля іспытаў трэба будзе знайсці ўсе яго кнігі! Бачыла «Вяселле з пасагам». Які кантраст! Мы імкнемся да высокіх ураджаяў пшаніцы, а ў Амерыцы вынаходзяць «срэбны пыл», каб знішчыць усё жывое...»*

Што казаць, прапаганда ў Савецкім Саюзе працавала на «выдатна». Але няўжо ты не ведала, мама, што твае дзяды былі раскулачаныя і сасланыя ў Сібір, нехта загінуў, нехта застаўся жывы, але якой цаной. Радню раскідала па свеце, як асенняе лісцё. Твая родная цётка ад стрэсу патрапіла ў вар'ятню. А бацькі? Ім цяжка зводзіць канцы з канцамі, хоць яны за працай свету белага не бачаць. Ніколі не адпачывалі, не былі за мяжой, як, уласна, і ты, мама. У тваім жыцці быў толькі Казахстан па камсамольскай пуцёўцы і цяжкая праца... Яшчэ больш трагічная гісторыя сям'і майго бацькі Станіслава Снарскага. Яго тату і дзядзьку расстралялі ў 1937 годзе як «польскіх шпіёнаў», брат і сястра памерлі ў дзяцінстве... Ён хацеў паступаць у інстытут, ды які там інстытут для сына "ворага народа"?.. Вось такое «цудоўнае жыццё». А ты чытала белетрызаваную савецкую прапаганду і верыла... Прабач, я не магу цябе асуджаць, такою была большасць тваіх сучаснікаў. У кожным часе – свае міфы і свая праўда...

## 5.

*8 лютага 1957 г. «9 лютага мне споўніцца 21 год. Маладосць ужо мінае. Калі скончу інстытут, мне будзе амаль трыццаць гадоў, а дакладней, дваццаць пяць. Так шмат... Аднак пачатае трэба даводзіць да канца. Толькі маме страшэнна цяжка мяне вучыць, апранаць, а ніякай дапамогі ад мяне няма. Дарагія мае, дарагія! Я буду старацца быць вам з бацькам удзячнай усё сваё жыццё! Калі толькі буду іншай, гэта азначае, што я ўсяго толькі дробная, жалю годная нягодніца. Не, я не павінна быць такой!»*

Мама, ты добрасумленная, добрая, працавітая, абяцаеш усё жыццё дапамагаць бацькам і менавіта такою будзеш. Толькі так мала часу ты пакідала для сябе самой! І мне балюча ад гэтага, балюча...

* * *

Гляджу на фота маладой мамы і думаю: якая ж яна прыгожая! Хлопцы гужам, а на сэрцы сцюжа! Не, не так! У сэрцы Валодзя, толькі ён... Але як цяжка ў маладосці зрабіць правільны выбар! Калі б можна было хоць адным вочкам зазірнуць у будучыню...

*10 снежня 1958 года. «Сёння атрымала ліст ад Валодзі. Так нечакана... нечакана! Сёння я адчуваю сябе абсалютна шчаслівай, нягледзячы на тысячы кіламетраў, якія нас раздзяляюць. Адчуваю яго такім родным-родненькім, уяўляю твар, вельмі выразны і светлы, выраз яго вачэй, пах валасоў... Мілы,*

*добры, жорсткі, невыносны хуліган! Як хочацца, каб ты быў са мной у Новы 1959 год! Калі б маё жаданне спраўдзілася, я лічыла б сябе самай шчаслівай дзяўчынай на свеце! Калі б мы толькі ведалі, наколькі гэта неабходна нам абодвум, толькі нам. Ты б мяне зразумеў... павер, павер! А ўсё астатняе толькі выпадковае, неглыбокае, несур'ёзнае...»*

Эх, мама, мама... А потым, потым... Ты баішся сваіх пачуццяў, не слухаеш сэрца і намагаешся зрабіць выбар рацыянальна...

*«Учора атрымала ліст ад Лёнькі. Ён таксама добры чалавек. Не такі запальчывы, як Валодзя, характар раўнейшы і мора любіць не так шалёна, як Валодзя. Не ведаю, ці кахае ён мяне, але думаю, так, бо даўно мог бы знайсці дзяўчыну прыгажэйшую і лепшую за мяне... Але ж у душы я кахаю толькі Валодзю, толькі яго... Чым жа гэта скончыцца? Што напісаць Лёні?..»*

*«У Валодзі зашмат недахопаў, з якімі я ніколі не змірыся, а ён не хоча сябе мяняць. Ганарысты, эгаістычны, можна нават сказаць, самазакаханы. Ён і сам пагаджаецца, што ў яго цяжкі характар. Да таго ж ён ніколі не пакіне дзеля мяне сваё мора! Што рабіць... што рабіць? Быць разам толькі два месяцы за год – гэта пакута, а не жыццё. Ён не ўяўляе, як мы будзем жыць разам, ён гэтага хоча, але не думае, як яно будзе... Як жа мне цяжка! І парады няма ў каго спытаць, ніхто не дапаможа...»*

Калі ўжо пісаць нешта дакументальнае, трэба абапірацца на мову фактаў. Мая маці не апісвае, як усё адбывалася, таму я магу толькі здагадвацца пра ход тых падзеяў. У дзённіку яна гаворыць пра свае пачуцці, адносіны да таго ці іншага чалавека, піша Валодзю лісты, піша і не дасылае. Асабліва пасля таго, як здарылася тое незваротнае... Што ж між імі адбылося? Што?! Была нейкая спрэчка, крыўда... Гонар не дазволіў Альцы першай зрабіць крок да прымірэння, папрасіць прабачэння... Маладосць... Так лёгка наламаць дроў, а віной можа быць простае непаразуменне, недаказанасць... Гэта мне цяпер лацвей разважаць, не тое што ў дваццаць год. Да таго ж... Ці можна зазірнуць у чужую душу? Сваю часам цяжка зразумець... І тады нябесны Чыгуначнік павярнуў стрэлку, і цягнік лёсу пакаціўся па іншай каляіне...

Далей усё закруцілася, як у калейдаскопе: прызнанне Лёнькі, рэўнасць Валодзі, ягоная горыч і гнеў...

– Я не хачу ўдзельнічаць у вартым жалю "конкурсе кахання!" – гэтыя Валодзевы словы Аля пракручвае ў думках і ў сваім дзённіку зноў і зноў.

– Тваё права, даражэнькі! Дык вось... каб ты ведаў... я выходжу замуж за Лёньку! – не стрымаўшыся, у запале адрэзала Аля падчас адной тэлефоннай размовы. Думала, каханы спыніць, знойдзе патрэбныя словы, каб спыніць, тыя словы, якіх яна так доўга чакала... Не сказаў, не зразумеў... Толькі з усмешачкай (дзяўчына нібы бачыла выраз яго твару праз усе тыя сотні кіламетраў, што іх раздзялялі) вымавіў:

– Дарэчы, я таксама збіраюся жаніцца. У Калінінградзе ёсць адна прыгожая дзяўчына, якая будзе чакаць мяне з мора столькі, колькі спатрэбіцца...

На Новы год Валодзя ў вёску не прыехаў... Алька чакала яго да апошняга. Нават пад гук курантаў, якія адлічвалі апошнія хвіліны 1958 года, яна ўсё яшчэ пазірала на дзверы.... Сярод святочнай мітусні, звону келіхаў з шампанскім, вясёлых галасоў яна адчувала сябе неверагодна адзінокай. І потым усё яшчэ спадзявалася, што каханы пераадолее крыўды, перагарыць... з'явіцца так нечакана, як ўмее толькі ён... Не дачакалася...

А ўжо праз некалькі дзён па вёсцы папаўзлі плёткі..
– Вы чулі? Алька Цімошчанка выходзіць замуж!
– За Валодзьку?
– Не, за Лёньку!
– Дык жа яны, здаецца, з Валодзькам кахаліся...
– Што тут дзіўнага? Ты ж ведаеш, як гэта бывае з дзяўчатамі... Назло!..

**6.**

...Ала вучыцца ў Магілёве ў педагагічным інстытуце, з мужам бачыцца рэдка і не перастае пісаць Валодзьку лісты. Піша і не адпраўляе...

*«Дарагі, дарагі, адзіны на ўсім свеце чалавек! Я зрабіла жудасную, непапраўную памылку! Лёньку паважаю, але ён чужы мне ва ўсім. Гляджу на яго, як на чужога чалавека, а ён жа мой муж... Гэта жах! Я сама адмовілася ад свайго шчасця і зрабіла непапраўную памылку. Не магу нават патлумачыць, як гэта адбылося...»*

*«Валодзечка, чаму ты мне не дапамог? Чаму не прыйшоў на тэлефонныя перамовы? Чаму не прыехаў у вёску? Калі б ты быў дома першага студзеня, ніколі, чуеш, ніколі б не здарылася таго, што здарылася... Тады я адчувала сябе такою адзінокаю, пакінутаю, што гатова была прытуліцца да любога... Так, я выявіла слабасць, а ты паверыў плёткам, засумняваўся ў ва мне. Няўжо не разумееш, што Лёня мне ва ўсім чужы і я кахаю толькі цябе?»*

*«Валодзя, родны, ты адзіны ва ўсім свеце, з кім бы я была шчаслівая і змагла падарыць тое шчасце, на якое здатная. О, калі б гэта быў толькі страшны сон! Шмат што за гэтае аддала б... Ты пішаш, што не звар'яцееш цераз тое, што мы не разам, а я хацела б памерці, каб не пакутаваць кожны дзень, кожную гадзіну, кожную хвіліну... Увесь час думаць пра цябе, бачыць у сне, адчуваць, што шчасце было так блізка, а я сама ад яго адмовілася... У імя чаго? Хто ад гэтага выйграў? Я?! Тысячу разоў не! І мама зусім забітая, што я Лёньку шчасця не дам... А Валодзя... ён жа моцны і любіць мяне, але ніколі не даруе...»*

*«А я, што я? Жыць з чалавекам, якога не кахаю, і думаць пра іншага? Глядзець на мужчын на вуліцы і шукаць хоць найменшае падабенства з тым, каго кахаю?.. Адзіная ўцеха, якая ў мяне засталася і якую ніхто не адбярэ, – гэта думаць пра цябе, мой родны, мой далёкі, мой каханы!..»*

...Ала Цімошчанка пройдзе шлях, які ёй наканавала Доля. Праз некалькі гадоў яны сустрэнуцца з маім бацькам, а потым народзімся мы з братам... Фатальная памылка, як думае маці ў свае 22 гады, дасць накірунак іншай лініі лёсу... Магчыма, я разважаю эгаістычна і нават жорстка, але нешчаслівае каханне маёй маці, той адчайны скачок «у незваротнае» ў рэшце рэшт прывядуць да нараджэння мяне, брата, нашых сыноў, унукаў... А потым, за намі, прыйдзе яшчэ нехта, каго пакуль не ведаю, нават здагадацца не магу. Працягнецца род, які зберажэ неўміручасць маіх бацькоў і дзядоў... Але чаму ж так баліць мне матуліна мара, тое няздзейсненае каханне? Чаму зноў і зноў я ўспамінаю Валодзю, марака з цяжкім характарам і пакручастым лёсам? Гэты чалавек, якога я ніколі не бачыла і не ўбачу, зазірае ў мае вочы...

## 7.

Прыснілася, што я лётаю над морам, а яно такое дзіўнае, як бы на двух узроўнях. Бывае, што два моры пераходзяць адно ў адно, і тады на мяжы яны рознага колеру. Але каб на розным ўзроўні... такога ў жыцці, мабыць, не бывае. Ды ў сне ўсё магчыма! Адно мора навісала над іншым, як вадзяны хмарачос, ды я не адважвалася ўзляцець так высока. У сне я лётала не адна, побач была родная душа, адчувалася яе прысутнасць і гэта дадавала мне сілаў. Нейкае дзіва-дзіўнае! Так хацелася падняцца да таго вышэйшага мора-акіяна, яно іскрылася на сонцы, вабіла, але нешта мяне спыняла. Што?..

*10 снежня 1961 г. «Амаль год я не пісала ў дзённіку. Што адбылося за гэты год, які ўжо заканчваецца? Што ў ім было цікавага і добрага? Праца. Толькі яна. Радуюся, што яна ёсць і я яе люблю. У мяне быў добры дзясяты клас, здольныя, разумныя дзеці. Вядома ж, як і мае быць, крыху нахабныя, але мілыя, добразычлівыя. Слаўныя Люда Гарнастаева, Аліса Цыплакова...*

*Год, які быў цяжкі і цікавы, ужо амаль у мінулым... А каханне? Каханне... Я зразумела: можна жыць і без яго, знайсці шмат спраў, заўсёды ёсць куды прыкласці сілы... А яшчэ... яшчэ... Гэты год навучыў мяне не верыць нікому. Страшнае, неверагоднае расчараванне! Усе гэтыя размовы ў вёсцы пра мяне... Аднак... я так кахаю цябе, Валодзя, што нават твая пагарда не можа мяне прынізіць... Уратуй жа мяне! Ты ўсё яшчэ можаш гэта зрабіць! Больш ніхто, ніхто... І яшчэ такое... мы разводзімся з Л...»*

Алька пражыла з Лёнькам усяго два гады, 9 месяцаў з якіх сужэнца не было дома. Яна так і не стала добрай жонкай, не зведала радасцяў шчаслівага сямейнага жыцця, дзіцяці не нарадзіла... Сумеснае жыццё-быццё з Лёнькам нагадвала навальніцу: спачатку на гарызонце цьмянела неба, потым з’яўляліся хмары, цяжарныя дажджом, яны ціснулі на зямлю, у паветры рабілася парна і млосна, а вось ужо і гром, маланкі, сваркі, разгубленасць, узаемныя крыўды... непаразуменне, нібы на розных мовах людзі размаўляюць...

А тым часам у бабы Матроны стаўся чарговы нервовы зрыў, яе паклалі ў бальніцу, і маці зноў і зноў лаяла сябе за гэта... Яшчэ і за гэта...

*«Калі б у нас з Лёнкам было нармальнае жыццё, з маёй мамай гэтага не здарылася б... Яна ўсё прапускае скрозь сябе. Бедная мама..»*

Алька шкадавала ўсіх, акрамя сябе, толькі сабе не магла дараваць... Не магла забыць Валодзю, як ні ўгаворвала сябе. На той момант каханы ўжо быў жанаты, жыў у Калінінградзе. Яны не перапісваліся, і толькі рэха таго яго далёкага жыцця далятала да Сястронак праз агульных сваякоў...

* * *

Няшчасце толькі задае пытанні, але не дае адказаў. Як здарылася тая аварыя ў порце, хто вінаваты? Ніхто нічога дакладна не ведаў... Мінуў год пасля разводу, калі Лёньку прывезлі дадому ў цынкавай труне... Былая свякруха зіркала на Алю чорным поглядам, а тая не магла вымавіць ні славечка і толькі бязгучна плакала ў душы...

Ці ёсць недзе паралельнае жыццё, дзе Лёнька і Ала шчаслівыя? Мне падабаюцца фантастычныя гісторыі пра іншыя вымярэнні. Магчыма, там, у тых іншых Алькі й Лёнькі, нарадзіліся дзеці, унукі, і яны пражылі свой век разам...

А з Валодзем? Ці ёсць паралельнае вымярэнне з Валодзем? Кожнае нашае рашэнне, дзея вядуць да наступстваў, павароту лёсу. І калі б Лёнька і Аля знайшлі агульную мову, змаглі стаць адным цэлым, магло б і не здарыцца таго злашчаснага выбуху?.. А калі б Ала выйшла замуж за Валодзьку?..

Чалавека ў яго лінейным жыцці ад нараджэння да смерці метафарычна можна ўявіць як дрэва. Галіны – магчымае жыццё, прастора варыянтаў. Кожны выбар – новае адгалінаванне, паварот лёсу... Можа, пра нешта такое думала і мая маладая маці? Ды хутчэй за ўсё проста лаяла сябе, вырываючы з душы кавалкі непражытага жыцця. *«Было ў мяне два сябры... не засталося ніводнага...»*

Так непрыкметна нават для сябе самой Ала ператварылася з рамантычнай летуценніцы ў строгую, валявую жанчыну, якая не дазваляе сабе шкадаваць. І чым больш яна сталела, тым далей адыходзіла ад дзяўчыны са свайго дзённіка... І ўсё ж... не перастаю паўтараць: станоўчы бок гэтай гісторыі ў тым, што ў выніку мама сустрэла майго тату, і нарадзіліся мы з Андрэем. Да гэтага была амаль вечнасць без нас. Чатыры мільярды гадоў, якія мы нават не заўважылі. Ці заўважыць нехта нашыя жыцці перад тым, як мы зноў акунемся ў вечнасць?

## 8.

Мама, а ты памятаеш Валодзю, не майго цяперашняга мужа, а маладога марака, якому я падабалася? Ён толькі што скончыў мараходнае вучылішча, прыехаў у Полацк. Мы выпадкова сустрэліся, пазнаёміліся праз агульнага сябра-музыканта... Валодзя прыйшоў да нас у госці з вялізным букетам гладыёлусаў, хацеў, каб я стала ягонай жонкай... Толькі цяпер я разумею, чаму ты тады так хвалявалася. Нават твар пайшоў чырвонымі плямамі. Валодзя?! Марак?! Мурманск?! Гэта нейкае нерэальнае вар'яцтва! Ты казала, што мой узрост занадта малады як для шлюбу, несла яшчэ нейкую ахінею... На самой жа справе гэтаму сватанню перашкодзіла... твая ўласная гісторыя. Ты баялася нават намёку на Валодзю. Тады, у свае няпоўных дваццаць, я нічога такога не ведала і не разумела. Толькі здзівілася, чаму табе так катэгарычна не спадабаўся мой сябар. Прыгожы, упэўнены ў сабе хлопец быў непрыемна ўзрушаны адмовай. Мне не хацелася ісці супраць волі бацькоў, ды і не любіла я таго хлопца, шчыра кажучы, проста трохі падабаўся... Галантны, статны, нічога сабе хлопец, будучы марскі афіцэр... Дык вось жа як бывае! Ці то ўсмешка, ці то здзек лёсу? Валодзя запаліў цыгарэту ў калідоры, мне здавалася, ён раней не паліў, пыхнуў, ляснуў дзвярыма...

– Глядзі ты! Нараўлівы які... толькі сябе любіць, – сказала мама, як запячатала... Мы з татам, каб зберагчы спакой у хаце, пра майго "жаніха" больш не гаварылі, асабліва ў прысутнасці матулі.

А недзе праз два гады прыехаў другі Валодзя, мой будучы муж, на шчасце, не марак, і мама была сама гасціннасць... Часам я думаю, што ўсе жанчыны нашага роду былі занадта моцныя для шчасця. Яны звыклі кіраваць у сям'і, не ўмелі саступаць, дараваць, і гонар замяніў ім шчасце. Мужчыны са спрэчак і сварак выходзілі адпаўзаючы агародамі, жыць жа неяк трэба, а жанчыны лічылі гэта слабасцю. Цяпер я разумею маці: яна хацела бачыць побач са мной моцнага мужчыну, каб я не паўтарыла яе лёсу, каб каханы ўпакорыў мой гонар і родавы гордзіеў вузел нарэшце развязаўся...

# 9.

...Яна сядзела на бальнічным ложку, маленькая, як дзіця, я гладзіла яе па галаве, і кожная з нас адчувала, што гэта, магчыма, ужо нашая апошняя сустрэча. Але матуля і тады, на парозе вечнасці, не наважвалася расказаць мне пра сваё балючае каханне, таямніцу забрала з сабой... Ці ведаў Валодзя, што маці кахала яго ўсё жыццё? Кахала безнадзейна, шчыра, і гэты агонь сграваў яе. Сграваў ці спапяляў?..

*12 красавіка 1959 г. «Я люблю яго, люблю кожную хвіліну, да вар'яцтва. Валодзя заўсёды са мной. Бачу яго блакітныя вочы, як бы мне хацелася яшчэ раз зазірнуць у іх, магчыма, ён прачытаў бы нешта вельмі важнае ў маіх...»*

Валодзя пражыў складанае, не надта шчаслівае жыццё, з якога пайшоў добраахвотна, скараціўшы сабе век. Не бяруся меркаваць... Кажуць, калі пакінуў мора, пачаў заглядаць у чарку. Паскандаліў з жонкай?.. Белая гарачка?.. Выскачыў з вакна і разбіўся?.. Думаю, гэтая страшная навіна ўразіла маю маці да глыбіні свядомасці, яна цяжка захварэла. Стрэс, туга, Чарнобыль, радыяцыя? І да гэтага часу не ведаю, што насамрэч зламала здароўе маёй маці, але паведамленне пра смерць Валодзі, я ўпэўнена, ударыла вельмі моцна... Ці сустрэліся яны хоць бы на тым свеце?..

Тры гады таму я з'ездзіла ў Беларусь, наведала Сястронкі, радзіму маёй маці. Праз адну знаёмую ўдалося знайсці фотаздымак Валодзі. Круглатвары, светлавокі, русявы хлопец у матроскай фуражцы. Адкрыты, паважны погляд... Чамусьці не такім я яго ўяўляла... З таго часу гэты невялічкі фотаздымак "прапісаўся" ў нашым сямейным альбоме. Думаю, ён мае права быць тут, побач з маці, бо кожнае каханне, нават драматычнае, няздзейсненае, вартае ўвагі й павагі. Жыццё – рэч непрадсказальная і нелінейная. Акрамя падзеяў, што адбываюцца, у яго ўплецены мары, успаміны, думкі, сны... З усяго гэтага і складаецца чалавек. А яшчэ з Любові, насамрэч з яе. Яна, неасяжная, як мора, з намі назаўсёды.

12 красавіка 1959 года матуля напісала ў сваім дзённіку фразу, дзякуючы якой я, уласна, і вырашыла расказаць гэтую гісторыю...

*«Калі я памру, мне хацелася б, каб гэтыя запіскі дайшлі да Валодзі. Тады, магчыма, ён бы мяне зразумеў...»*

Я адпускаю ў сусвет матуліны словы...

Дзмітрый Рубін



...Каб рукі не апускаліся
Патрэбны
Крыж малаток два цвікі і
Надзейны таварыш...

# У пекле – холадна

* * *

Калі-небудзь вырасту
Вялікай кветкай
Сланечнікам
Буду глядзець і глядзець на сонца
Нават калі яго не будзе
Нават калі будзе падавацца што яго няма
А затым мне адрэжуць галаву
І ўсё створанае мной
Пасмажаць і расфасуюць
Каб нейкія ідыёты
Набівалі мной раты і
Бласлаўлялі вайну
Глытаючы сэнсы
Выплёўваючы сутнасць
Не ведаючы пра кветку і сонца

Калі я вырасту
Застануся шалупіннем пад нагамі

* * *

Я накрываю сабой хвалі
Я не дазваляю ім дыхаць
Я кідаю іх па сваім целе
Каб яны зніклі ў вірах маёй памяці

* * *

Каб не заблукаць
Усю ноч хадзілі вакол ліхтарнага слупа
Без ліхтара

* * *

Кажуць
Мы пераможам
І мацней б’юць спінай аб пугу
Свабодзе слова не давалі
Бацька дастае папругу
Падаюць штаны
Падаюць ракеты
Падае заслона
Толькі шнары ў маёй кішэні
Куды я ўсё лезу па слова
Лезу як на сцяну
Лезу як па лесвіцы Якаў
Пятнаццаць сутак
Пазбаўлю прэміі
Дам у ср...ку
Калі хата з краю то
Гэта першая хата
Для промняў сонца
Для крокаў ката
Для барацьбы з гвалтам
Пакуль вакол ціша
Кот даў дабро святкуюць мышы
А што ён там піша
Самарэфлексію
Самааналіз
Самаданос

Кажуць мы пераможам
І хаваюць нос
Свабодзе слова не давалі
Ні слова ні абяцанняў ніколі
Нават тысячы каласкоў
Стаяць адзінкамі ў полі
Чакаюць зіму
Стагоддзямі адзіноты
Беражы гонар
Сумлення цноту
Кажуць мы пераможам
Хто мы
Хто ты

* * *

Стома легла на плечы
І так стаміўся
А яшчэ яе нясі

* * *

Адна птушка
Баялася вышыні
Бо чым вышэй ляціш
Тым больш бачыш

Таму птушка ляцела толькі
З заплюшчанымі вачыма і
Толькі ўніз

* * *

Раней жыў у свеце
Дзе часам закапаюць адно цела
Паплачуць
Але трэба далей жыць

Жыву ў свеце
Дзе які ўжо дзень выкопваюць цела за целам
Плачуць
Але трэба далей капаць

* * *

Ну скажы
Граф
Барон ці герцаг
У чым сіла
У кішках у печані ў сэрцы
Ці ў тым што бязмозглыя рукі рабілі
Ці сіла ў рэбрах
Што сэрца прыкрылі
Ад краю да краю
Праз сіняе неба
Блакуючы злобу і гвалт стаяць рэбры
Бо на ўсіх шляхах
І ўсім бездарожжы
Хто б'ецца за сэрца
Той пераможа

* * *

Раніцай прачынаешся
Думаеш
Бліжэй да перамогі
Ведаеш
Бліжэй да смерці

Бо куды б ты ні йшоў
Па перамогу ці
Па паразу
Толькі смерць
Ідзе табе насустрач

* * *

Каб рукі не апускаліся
Патрэбны
Крыж малаток два цвікі і
Надзейны таварыш

* * *

Месяц тонкі
Як рабрына над сэрцам
Пераломіцца

* * *

Шэрае неба
Шэрае мора
Шэрая чайка

Ці хвалі яе носяць
Ці вецер кідае

Слухаю
Хачу пачуць яе плач
Не чую

Толькі шэрае мора
Толькі шэрае неба
Толькі хвалі носяць мяне
Толькі вецер мяне кідае

* * *

У пекле холадна
Таму там пастаянна гараць агні
Усё адно холадна
І цёмна
І цішыня
Якая вось-вось абарвецца
Але не абрываецца
Бо гэта пекла

Алег Дашкевіч



... мне стала страшна, страшна па-сапраўднаму...
калі страх замяшаны на невыноснай тузе,
калі ты ведаеш, што ты драбінка
і нічога змяніць ужо не ў стане...

# Хмара

***Два апавяданні***

## Сон пасля катастрофы

Канец красавіка, сядзім з сябрам у ягонай кватэры на бульвары, п'ём гарбату і глядзім у вакно. За вакном цёткі, захутаныя ў капюшоны і шалікі, выгульваюць сваіх сабачак.

– Трыццаць гадоў пасля катастрофы... – кажа сябра і сумна так пасміхаецца. – Мне акурат сон прысніўся. Сёння... Але перад тым я табе адну гісторыю распавяду. Чарнобыльскую.

Калі рэактар грымнуў, я асістэнтам кінааператара на кінастудыі працаваў. І так склалася, што патрапіў у першую экспедыцыю туды, у пацярпелыя раёны.

Дзён праз дзесяць пасля выбуху дамовіліся мы з сябрам, кінааператарам Сяргеем, што я дапамагу яму бабіны з плёнкай спарадкаваць. Хаджу па калідорах студыйных, чакаю яго са схода партыйнага, раптам вылятае з залы, дзе сход той адбываўся, узбуджаны такі, чырвоны, ажно пот на

твары. Пытаю, што здарылася, а ён толькі губу закусіў, ходзіць узад-уперад, маўчыць. Пасля выпальвае:

– Ды ў Чарнобыль паслалі ў экспедыцыю... пад Хойнікі.

Аказалася, што на сходзе тым вырашалі, каго пасляць. Аднаго камуніста паднялі, кажуць – паедзеш. Той: «Не, не паеду. У мяне дзяцей няма яшчэ». Следам паднялі мэтра аднаго, кажуць, заданне адказнае, трэба, каб усё прафесійна было знята.

Мэтр, трэба аддаць належнае, па-элеганцку выкруціўся. «Добра, – кажа, – паеду, але буду здымаць праўду». Падвісла няёмкая паўза, і для мэтра зараз знайшлася іншая тэрміновая праца. А тады ўжо да Сярогі пад'ехалі. Вы, кажуць, Сяргей, кандыдат у члены КПСС, вось вам партыйнае даручэнне. Што рабіць, адмовішся – капец кар'еры. Карацей, пагадзіўся Сярога.

Глядзіць мне ў вочы і пытаецца:

– Паедзеш са мной у групе асістэнтам?

– Паеду, – адказваю. Як сябру адмовіць. Да таго ж гэта ўчынак быў такі мужчынскі. Мы ж на Хэмінгуэі гадаваліся... Ну, і маладыя – хоць і напалоханыя чуткамі, але не ўсведамлялі той катастрофы. Была такая цікавасць юначая: а як там?.. Так што заскочыў дадому, джынсы новыя нацягнуў і – на кінастудыю.

У Хойнікі прыехалі апоўдні, а там палівачка ездзіць і палівае бясконца пляц перад райкамам. Ездзіць па коле, як завадная, пырскае і пырскае вадой. І больш нікога.

Прыехалі на поле калгаснае, здымаем, як цёткі капусту садзяць. Сядзяць на баразне, што за трактарам, у павязках марлевых, і торкаюць у барозны расаду. Пыл шалёны, яны зверху нейкую плёнку нацягнулі, а пад ёй ён – як хмара чорная. Пытаемся, навошта плёнку нацягнулі? Адказваюць, што ад радыяцыі хаваюцца... А па ўскрайку поля «партызаны» ў хімабароне ходзяць з «гейгерамі», і пішчаць тыя «гейгеры» бязлітасна.

Пасялілі нас у будынку інтэрната ПТВ. Навучэнцаў эвакуявалі, а нас туды. Аглядаемся. Зайшлі ў «ленінскі пакой». Пустая шэрая зала, тры крэслы і тэлевізар уключаны. Сюр такі. У тэлевізары Гарбачоў. Кажа, што эвакуацыя адбылася паспяхова. А нам толькі заўтра тую эвакуацыю здымаць...

Дык вось, жылі ў тым інтэрнаце яшчэ дзяўчынкі з медычнай вучэльні. Яны ваеннаабавязаныя, маладзенькія зусім. Перад тым нас папярэдзілі, каб мы не чапалі іх. Мы спачатку падумалі, што яны «фаняць». Можа, і «фанілі», хто там разбіраўся. Такія гадоў васямнаццаць, амаль школьніцы. Мы зайшлі, ведаеш, а яны ў вайсковай бялізне ходзяць. Кальсоны там на завязках, кашулі белыя. У мяне першая асацыяцыя – з фільмам «А досвіткі тут ціхія»... Такая фізічная прысутнасць вайны... Аж дрыжыкі па скуры. Не ведаю, дзе яны былі, што рабілі...

Мы на вячэру расклаліся, толькі пляшку адкаркавалі, а там – віск, енк. Выглянулі, дзяўчына бегае, як ашалелая, крычыць, а тры таваркі ейныя яе злавіць спрабуюць, супакоіць. Такія справы...

Павячэралі, выйшаў я пакурыць перад сном, гляджу, сядзіць адна, прыгожая такая, валасы доўгія да плеч, слёзы цякуць і цякуць. Моўчкі. Я да яе падыходжу, стаў – куру побач. Яна маўчыць, а пасля пытаецца ў мяне:

– Дзядзечка, а мы памром?...

А мне самому дваццаць чатыры гады. Што адказаць? Як заклінавала, а пасля нешта пачаў казаць такое звычайнае, абы не маўчаць...

І захад сонца ў неймаверным колеры. Фарбы насычаныя, малінавыя. Я нават у Таджыкістане ў пустэльні, калі там здымалі, такога не бачыў.

Пытаюся:

– Як тваё імя?

– Лена, – адказвае.

– А мяне Алегам клічуць.

Пагаварылі трошкі. Аказваецца, яны салдацікаў і пажарных з зоны правяралі і апрацоўвалі. Нагледзеліся ўсякага. Вайну, словам, сапраўдную пабачылі. Ні псіхолага разам з імі, нікога. Толькі дзядзька заўгас.

Наступным ранкам нам з'язджаць ужо, і яны сваю хімабарону складаюць. Падышоў да яе і кажу:

– Лена, усё будзе добра. Чуеш.

Яна так, вачэй не падымаючы, хітнула галавой і пайшла... Тоненькая, валасы развяваюцца. Неяк так мне прыкра зрабілася, проста немагчыма. Нібыта мог дапамагчы нечым і не дапамог.

Але што ж, паехалі эвакуацыю здымаць. Слюнькоў прыехаў, партбос тагачасны. Вакол шапікі стаяць з каўбасой і гарэлкай. Танныя, за капейкі. Народ хто плача, хто маўчыць. Аўтобусаў калоны. Толькі камеру паставілі, падыходзіць гэбіст і кажа:

– Не трэба здымаць. Гэта не для прэсы.

А следам Слюнькоў да народа:

– Да не бойцеся вы, мне зуб вырывалі, рэнтген рабілі, дык там большая радыяцыя. Адпачнеце месяц і дадому вернецеся...

Так і не далі зняць.

Паехалі далей. Статак кароў з-пад Чарнобыля прыгналі ў эвакуацыю. Здымаем панараму, кропкай заключнай цялё гадавалае выбралі. Прымерыліся, вядзём панараму, а кропкі няма. Думалі, праскочылі, адарваліся ад аб'ектыва, глядзім – цялё ляжыць. Падыходзім бліжэй, а яно проста сканала, не дачакаўшы нашае кропкі. Ляжыць нежывое.

Настрой – горш няма. Трэба ж такое на заключны кадр. А ў галаве Лена, дзяўчына тая. Думаю, вось, на развітанне не тое сказаў. Не так. Не паверыла. Паводле Станіслаўскага ўсё.

Дарога, лес міма ляціць. Нарэшце пост дазіметрычны. Выйшаў маёр такі ў акулярах, з жывоцікам. Памераў. Кажа:

– Так, хапанулі вы, хлопцы. Машыну, ясна, спішуць, а вам дома вопратку, абутак зняць і закапаць на звалцы дзе.

– Што, і джынсы? – пытаюся. – Яны ж новыя.

– І джынсы, – кажа.

Аказалася, што доктар-радыёлаг. Адышліся пакурыць, я ў яго пытаюся – маўляў, што парадзіш, каб радыяцыя выходзіла?

А ён мне:

– Адзінае магу парадзіць у такім выпадку – кроў здаваць. Рэгулярна. Кожны месяц. Такім чынам арганізм абнаўляецца. – І цэлую лекцыю прачытаў, як там і што, пакуль курылі.

Селі ў машыну далей ехаць, і тут мяне як торкнула. Вось што трэба было ёй сказаць. Практычную параду, проста каб паверыла.

Мы не надта далёка ад'ехалі, сказаў хлопцам, што пашпарт забыў. Вадзілу паабяцаў пару пляшак гарэлкі і – назад у той інтэрнат. Прылятаем, а там няма ўжо нікога. Толькі заўгас іхні шоркаецца.

Я да яго, пытаюся:

– Можаш перадаць нататку дзяўчынцы адной вашай? Ленай клічуць. Такая з даўгімі каштанавымі валасамі.

Ён мне ў адказ:

– А як? Яны на ратацыю выправіліся. Давай, калі неяк сустрэну, не забуду і не згублю, то перадам.

Я напісаў па памяці ўсю тую лекцыю маёрскую. Аддаю яму і кажу:

– Сам пачытай таксама, калі хочаш. Толькі перадай, богам прашу.

Ён так зірнуў на мяне ўважліва, узяў паперу, склаў акуратна і ў кішэню.

Рушылі да Мінска – аж, здаецца, камень з душы... Зрабіў усё, што мог.

Дзякуй таму маёру-радыёлагу. Сярога ўпарціўся трохі, але я яго пераканаў. Так мы тры гады кроў здавалі кожны месяц. І на кроў, і на плазму, пакуль я на Боткіна не захварэў. Можа, ад таго і жывыя абодва дагэтуль. Адно я зрабіў не па доктарскай парадзе – джынсаў не выкінуў. Але хто ж у тыя часы мог джынсы новыя выкінуць. Нават радыеактыўныя.

А цяпер пра сон, нарэшце. Прыснілася сёння мне тая дзяўчынка Лена. Ідзе, валасы развяваюцца, усміхаецца і кажа мне:

– Трэба ж, столькі гадоў прайшло, але па сёння цябе памятаю...

*28 красавіка 2016 г.*

**Хмара**

Сонца жарыла як у апошні дзень. Стаяла такая задуха, што без вады было не абысціся. Мы сабраліся і душэўнай кампаніяй паехалі на Цну. Я, Віця, Кася, Сева і Гена. Па шляху здарыўся піўбар «Фрэгат», пасля зайшлі ў краму і павольна пасунуліся, шукаючы зручнага месца для прыпынку на беразе вадасховішча.

Халера, але нехта ж прыдумаў піць гарэлку ў спёку. Пілі і мы. Адзін, два, тры разы – і накаціла шалёная эйфарыя. Так бывае. Як той казаў, паперла.

Перла люта і неміласэрна. Калі шчыра – дурны стан. Разумееш, што варта было б тармазнуць, але не выходзіць, віхор ужо закруціў цябе.

– Ты цішэй у ваду скачы, – заўважыў Віця, самы асцярожны сярод нас. – Вада халодная, сэрца гарачае, можа здарыцца канфлікт тэмператур.

– Я канфліктаў не баюся, я вазьму і ўтаплюся, – па-дурному рагатаў я і зноў кідаўся ў ваду.

Сонца паднялося і паліла яшчэ зласней.

– Кася, паглядзі, ты плечы спаліла, – паказаў Гена на пачырванелую скуру Касі. Далей высветлілася, што няма чым намазаць спаленыя Касіны плечы, што Гена згубіў акуляры, а Віця знік.

Калі акуляры знайшліся, а Віця прыйшоў з лекамі ад апёкаў, пачалі будзіць заснулага Севу. Пабудзілі, і ўсё працягнулася наноў. Аж пакуль раптам не заўважылі гэтую хмару. Адкуль яе прынесла, ніхто толкам не мог растлумачыць. Хмара была вялізнай і чорнай, яна марудна і непазбежна сунулася, як нам здавалася, на нас. Напаўзала, як жахлівы і злавесны монстр. Неадступна і бязлітасна.

Мы стаялі і нейкі час зачаравана глядзелі на яе, настолькі вялікім і жахлівым быў яе магнетызм. Яна ўсё прыбывала і прыбывала, рабілася чарнейшай, закрыўшы сабой і пякучае сонца, і ўжо палову неба.

Мне стала страшна, страшна па-сапраўднаму. Не як ад нейкай звыклай

пабытовай сітуацыі, але страшна глыбока, калі страх замяшаны на невыноснай тузе, калі ты ведаеш, што ты драбінка і нічога змяніць ужо не ў стане.

– Апакаліпсіс, – прашаптаў я, гледзячы, як клубяцца сотні чорных ценяў унутры хмары. Пэўна, нешта падобнае адчувалі і мае сябры.

– Усё, збіраем манаткі! – скамандавала Кася. Мы хуценька згарнуліся і пасунуліся да прыпынку. Хмель выветрываўся па меры набліжэння хмары. Яна даганяла нас, даганяла бясшумна, як хіжы звер. Ніводнае маланкі, ніводнага грому, ніводнае кроплі. Але ад гэтага рабілася толькі больш жудасна.

Вакол подбегам снавалі людзі, раз-пораз азіраючыся на неба. Калі мы пачалі падымацца ўгару, на прыпынак да «Фрэгата», насыпала першых буйных кропляў. Перад самым носам сышоў цалкам набіты тралейбус, але нам пашчасціла, бо да пляцоўкі зарулііў выпадковы таксёр.

Рушылі з месца і нейкі час ехалі моўчкі.

«Уцяклі», – падумалася мне. Я яшчэ раз азірнуўся на хмару. Зрабілася цемнавата, і таксёр уключыў фары. Усё ж трывога не адпускала, нейкая стрэмка сядзела ў галаве і не давала супакоіцца канчаткова. Але хмара адстала, і хмель пачаў вяртацца.

Віця, Кася і Гена выгружаліся ўжо з жартамі, быццам бы ўсё супакоілася, але па дарозе дадому на бульвар ламанула такая залева, што таксі спынілася.

– Галоўнае, паспець прамінуць Бангалор – самае нізкае месца. Там заўжды патоп, – заўважыў таксёр. Мы паспелі.

– Ты далей ці да мяне? – спытаў я ў Севы.

– Дамоў, – ледзь прамармытаў Сева, але, паглядзеўшы мутнымі вачыма на залеву і шэрасць, што панавала вакол, перадумаў.

За акном, не сціхаючы, лупіў дождж, і трывога ўсярэдзіне зноў пачала падымацца пад горла. Я затэлефанаваў маці і спытаў, ці дома брат, што меўся выправіцца ў кінатэатр «Масква». Брат быў дома. Неўзабаве залева скончылася, і мяне адпусціла канчаткова.

Сева хроп на кушэтцы. Я ўключыў расійскую «Свабоду», чакаючы «Экслібрыс» Пятра Вайля і, не дачакаўшы, таксама заснуў.

Было гадзіны тры ночы, калі, змучаны смагай, я прахапіўся і пайшоў па ваду. З радыё загучалі пазыўныя свабодаўскіх навін, а праз імгненне я так і застыў з кубкам у руцэ. Да свядомасці даляталі асобныя словы, якія складаліся ў жахлівую навіну: Мінск, метро «Няміга», канцэрт, залева, шматлікія ахвяры...

– Сева, чуеш?! На Нямізе людзі патанулі! – падышоўшы да кушэткі, трос я прыяцеля. Чамусьці адразу мне здалося, што менавіта патанулі.

Сева не прачынаўся. Я павярнуўся да начнога вакна, і перад вачыма зноў паўстала тая хмара. Як яна паўзла над Цной, як мяняла свае формы й колеры, ад ліловага да чорнага, ад чорнага да ліловага...

– Колькасьць ахвяраў дасягнула 53-х, – чарговы раз ужо ранкам паведаміла «Свабода»...

– Ты чуў пра Нямігу? – спытаў у мяне Сева.

– З трох гадзін ночы па «Свабодзе» першай навіной, – адказаў я.

– Не па нас тая хмара ішла, – павольна прагаварыў ён праз паўзу, задуменна дапальваючы цыгарэту.

«На Нямізе галовы сцелюць снапамі,

Харалужнымі малоцяць цапамі,
жыццё кладуць на таку злюцела,
веюць душу ад цела.
Нямігі крывавыя берагі...», – пра сябе згадаў я калісьці завучанае, уголас дадаўшы:

– Мы на Цне апынуліся, але не на Нямізе...

Каля ўваходу на станцыю метро «Няміга» стаяў міліцэйскі патруль. Людзі неслі кветкі. Побач туліліся купкі моладзі, шмат у каго з юнакоў цяклі слёзы. Нехта нешта распавядаў. Але найбольш мяне ўразілі далоні на столі пераходу, то бок сляды ад іх. Я паспрабаваў уявіць тую жудасную карціну, калі гэтыя чалавечыя далоні спрабавалі ўхапіцца за столь, каб выжыць... І міжволі засланіў далонямі свае вочы.

Гэтыя «далоні на столі» я бачу кожнага разу, калі спускаюся ў метро «Няміга», яны нікуды не зніклі, няхай сляды ад іх шматкроць зачысцілі і зафарбавалі. І тады я згадваю тую страшную чорную хмару, якая з'явілася з ніадкуль над Цною, але сабрала сваё жніво на Нямізе. Ніхто не ведае, калі яна прыйдзе зноў і па каго.

*9 чэрвеня 2016 г.*

Павел Каралёў



...тут нараджалася Беларусь.
І, здавалася, у адзін момант
яна тут і паўстане...

# Адным ранкам у “Беларускай хатцы”

***Нарыс-дапушчэнне пра ад’езд Багдановіча ў Ялту***

*У родным краю ёсьць крыніца*
*Жывой вады.*
*Там толькі я змагу пазбыцца*
*Сваей нуды.*
*Калі ж у ім умру-загіну, –*
*Ня жалюсь я!*
*Ня будзеш цяжкая ты сыну*
*Свайму, зямля.*
*Там хоць у гліне, хоць у брудзе,*
*Там пад зямлёй,*
*Найдуць мае слабыя грудзі*
*Сабе спакой.*

**Максім Багдановіч**

Таго ранку ў “Беларускую хатку” на Захар’еўскай вуліцы малады чалавек завітаў зусім рана. Дзверы надзіва аказаліся адкрытымі. Няпэўным крокам ён зайшоў у пакой. Спыніўся, каб агледзецца ў новым памяшканні, і пасля невялікай паўзы прайшоў у сталовую залу на першым паверсе. Ён паспеў акурат да сняданку.

І хоць снеданне прызначалася толькі для сваіх (гэта абеды можна было атрымаць любому за невялікую плату), але цяпер госць больш упэўнена пачуваўся і прысеў на адно з крэслаў. Час ад часу выглядвала і дзівілася на ранняга наведвальніка кухарка, якая жыла тут жа.

“Ці мала каго з беларускіх дзеячоў занясе сюды. Усіх ужо і ў твар не прыпомніш... – думала пані Эмілія. – Праўдзіва жартаваў колішні рэдактар “Нашай Нівы” Уласаў, – узгадала раптам яна: *Не змяшчаюцца ўжо свядомыя беларусы на адной канапцэ*”.

З кожным годам усё больш пашыраўся беларускі рух. І цяпер хто толькі не завітваў у “хатку”, якая стала своеасаблівым клубам... Бываў тут пан Лявіцкі (ён жа літаратар Ядзвігін Ш), Алесь Гарун, Уладзіслаў Галубок, Альберт Паўловіч і ўвесь мінскі “тутэйшы” бамонд... Усевалад Фальскі прыходзіў са сваім хорам на рэпетыцыі. Аркадзь Смоліч меў статус найшаноўнага госця... Гэта ж ён першы заплаціў на месяц наперад за абеды. Які гэта цуд быў! Было з чаго гатаваць стравы. З таго часу і пачала жыць сталоўка Беларускай хаткі...

“Але гэты... – яна яшчэ раз зірнула на наведвальніка, – нейкі невядомы. Свой ці не?.. Бог яго ведае. Толькі нядаўна ў хатцы наладжвалі розныя беларускія вечарынкі, і, здаецца, усе, хто мог, сюды забягалі...”

– Чаго яго толькі ранкам сюды занесла... – сказала нечакана для сябе пані Эмілія ўслых і пачала зноў завіхацца на кухні.

Наведвальнік ціха сядзеў і працягваў аглядаць “Беларускую хатку”. Пакой, у якім ён знаходзіўся, быў невялікі, там размяшчаўся адзін доўгі стол і тры невялікія. За кожным малым сталом магло змясціцца хіба толькі тры асобы. Таму нярэдка падчас абедаў тут маглі ўтварацца чэргі. Ранішні наведвальнік непрыкметна дакрануўся рукой да стала.

Сам жа двухпавярховы будынак знаходзіўся на галоўнай вуліцы Мінска, але так адразу хатку і не знойдзеш... Яна стаяла крыху наводдаль ад дарогі, не так далёка, але і не блізка. Можна было б сказаць, што непадалёку ад новага касцёла, наўзбоч ад яго. Не ўсе мінчукі ведалі, што храм асвечаны ў гонар Сымона і Алены. Таму па звычцы называлі яго Новым..

Але хатка была ўсё ж бліжэй да Казанскай царквы, якую толькі нядаўна адчынілі. Вось так, надзіва, пасярод каталіцкай і праваслаўнай святыняў паўстала гэта месца – “Беларуская хатка” па Захар’еўскай, 18. Хаткамі нікога ў Мінску не здзівіць, усе ўскрайкі горада фактычна драўляныя. Але ж беларуская! Сярод чужога панавання сама назва магла выклікаць падазронасць у чыноўнікаў і нават сярод звычайнага люду.

Праўда, мінчукі хатку ўпадабалі. Асабліва з таго часу, як дазналіся, што там робяць смачныя абеды і працуе недарагая сталоўка. І толькі нямногія з месцічаў ведалі, што па-за сталоўкай увечары ўтвараецца сапраўдны клуб, дзе галоўны толькі адзін інтарэс – Беларусь. Тут грамадою сустракалі Новы год у спадзеве пабачыць незалежную дзяржаву, тут спявалі беларускія песні, тут нараджалася Беларусь. І, здавалася, у адзін момант яна тут і паўстане. Ну, а калі не тут, то прынамсі дзесь блізка да гэтага цэнтра беларускай справы.

– Ці хутка прыйдзе пані Людвіка? – спытаў незнаёмец у гаспадыні, калі тая зноў заглянула ў залу. Размова ішла пра Людвіку Сівіцкую, так звалі адну з самых актыўных удзельніц „хаткі“.

– А пан дамаўляўся з ёй на сустрэчу? – здзівілася. – Пані Людвіка, мая дачка, выйшла па справах, але звычайна а 9-й яна ўжо тут.

– Я маю спадзеў, што яна будзе не супраць нашай сустрэчы.

Тая паціснула плячыма і пайшла займацца сваёй справай. Праз хвіліну прыгадала, што Людвіка напярэдадні казала, што абавязкова сёння трэба абумовіць пытанні перад развітальнай вечарынай з нагоды ад’езду Максіма...

Максім... Яго звалі зазвычай па імені, бо звыкліся і палюбілі гэтага дзіўнага хлопца. Маладога, але ўжо вядомага паэта, якім тут апекаваліся. У хатцы ўвечары планавалася развітанне – той выязджаў дзеля лячэння на поўдзень, да мора. І трэба было вырашыць разнастайныя пытанні з пачастункамі на вячэру. Да таго ж планавалася Максіму нешта падарыць. А што – трэба было яшчэ абмеркаваць. Не паспела яна паведаміць гэта ранішняму госцю, як зайшла Людвіка.

Прыгожай дзяўчыне споўнілася хіба толькі якіх 25 год, а яна ўжо ўсіх ведала і была актыўнай удзельніцай беларускага жыцця. Мела яна і адметны погляд – просты, адкрыты, але ў той жа час вельмі ўважлівы. Здаецца, каб ёй давялося ў будучыні пісаць мемуары, то шмат цікавостак, што прыкмеціла, яна б магла распавесці...

Яна забегла ў хатку і толькі пасля кароткага вітання хацела абмеркаваць са сваёй мамай планы на сёння, як ўбачыла ейныя насцярожаныя вочы.

– Цябе чакае пан...

Крыху са здзіўленнем, бо ў гэты ранні час яна нікому не прызначала сустрэчы, яна зайшла ў пакой.

– Пані Людвіка, вітаю вас. Выбачайце што турбую ў гэты ранні час. Але маю да вас пільную просьбу... – малады чалавек зрабіў паўзу, было бачна, што ён стараецца падабраць словы. – Думаю, толькі вы можаце дапамагчы, – працягнуў ён і раптам змоўк. Аказалася, не так проста пачаць размову, якую ён ужо загадзя спланаваў і некалькі разоў прагаворваў сам сабе.

– Слухаю вас, – адказала Людвіка і чамусьці адчула, што гэтаму чалавеку сапраўды варта дапамагчы. Было бачна, што ейны суразмоўца стараўся адолець сваю боязь і не ведаў, з чаго пачаць.

– Дык аб чым вы хацелі мяне прасіць? – пасля доўгай паўзы запыталася зноў яна...

Незнаёмец пачырванеў ад хвалявання і праз некалькі секунд прамовіў:

– Вам не трэба адпускаць Максіма.

Яна не адразу зразумела, пра каго ідзе гаворка... Яна звыклася быць гатовай да розных просьбаў, бо апекавалася дзецьмі з беларускага прытулку, вазіла іх да дактароў, займалася забеспячэннем... Можа, размова пра якогась хлапчука? Хто ведае, можа знайшоўся чыйсьці сваяк?..

– Вы пра каго? Куды адпускаць?

– У Ялту... – сказаў незнаёмец і зноў раптам змоўк. Ён нібы ўзважваў кожнае сваё слова і баяўся сказаць нешта большае за загадзя ім вызначанае.

Цяпер стала зразумела, што госць мае на ўвазе Багдановіча. Той літаральна на днях мусіў з'ехаць з Мінска. Больш чым паўгода ён правёў у Мінску. Мэта прыезду магла падацца дзіўнай для некаторых – надыхацца паветрам Бацькаўшчыны, пачуць жывую беларускую мову. Ён жа рос у рускамоўным асяроддзі і вершы пачаў пісаць па-руску. І па-за межамі Радзімы ён усвядоміў сябе беларусам! Ці не прыклад гэта для ўсіх астатніх? Але час прыйшоў адправіцца на лекаванне ў Ялту. Бо сухоты гэта не жартачкі. Мама ягоная ад гэтай хваробы памерла. Памятаецца, Максім казаў што ёй было толькі 27 год... Ды і самому яму блізу гэтага...

Паміж маладым чалавекам і Людвікай паціху завязвалася спрэчка наконт ад'езду Багдановіча ў Ялту.

– Дык ён быў там ужо не раз...

– Гэтым разам не адпускайце яго.

– І чаму не адпускаць, па якім праве?

– Мне цяжка ўсё патлумачыць. Адно скажу пэўна: вы будзеце сябе дакараць, калі яго адпусціце. І другое, калі вы жадаеце ўбачыць Максіма пасля, то забараніце яму, угаварыце яго не ехаць.

Незнаёмцу падалося, што ён не зможа пераканаць маладую, але ўпартую дзяўчыну. З адчаю ён раптам прамовіў:

– Не аддавайце яго ім!

– Ім? Вы пра каго? Ён жа наш... – было бачна, што Людвіка не разумела свайго госця.

– Хто ён для іх? Просты студэнт, не больш за тое, – ціха прамовіў незнаёмец. Дзяўчына ўжо думала перапыніць размову, але надзіва акурат цяпер прыгадала, што і сама сумнявалася, ці варта адпускаць Максіма. Некалі ён ёй прызнаўся, што для яго мінскія сябры сталі сям'ёй. Канечне, забараніць ехаць яна не мае права. Але ўсё ж тут людзі, якім ён шчыра рады... А што будзе там – невядома...

– Там жа, у Крыме, і бацька яго, здаецца, будзе. Не застанецца Максім адзін, – супакойвала гэтымі словамі Людвіка не столькі госця, колькі саму сябе.

– Не знойдзе яго бацька... – як адрэзаў незнаёмец. – Яны нават парэшткі яго не паспрабуюць забраць...

– Чые парэшткі? – усхвалявалася Людвіка, – і хто не забярэ? Пра каго вы кажаце? – ужо са злосцю сказала яна.

– Паверце мне.

– Дык калі вы так хочаце – скажыце гэта ўсё Максіму самі!

– Мне нельга.

Нейкі вар'ят – падумала яна. Бо сказаць, што яму нельга размаўляць з Максімам, але дапытваць яе можна... – значыць, сапраўды не ў сабе чалавек.

– Хаця я многае аддаў бы за гэта.

Міжволі яму прыгадалася, як ён чытаў успаміны Ластоўскага і таго ўразілі вочы Багдановіча з пранікнёным поглядам, нібы яны глядзелі ўнутр чалавека. Надзіва Людвіка ў той момант прыгадала, як сустрэла Максіма тут жа ў "Беларускай хатцы". Ягоная бледнасць і бліскучыя ад гарачкі вочы – вось што яе тады ўсхвалявала.

– А што гэта за аркуш паперы? – раптам перавёў тэму дапытлівы і ўжо, здавалася, нежаданы госць "хаткі". На сцяне вісела паперчына, спісаная розным почыркам.

– От, якая розніца? Аркуш ды аркуш, – злосна прамовіла Людвіка. Яна не часта злавалася, але тут сябе ўжо не стрымлівала...

– Той самы, – усміхнуўся незнаёмец. – Праз некалькі гадзін сюды, як звычайна, прыедзе Бядуля, каб прывезці прадукты для сталоўкі. І вы прыдумаеце нейкі новы забаўны афарызм і сюды запішаце.

Ён зірнуў на яе неяк дзіўна, вочы ў вочы.... Нібы ён усё ведае пра яе, глядзіць наскрозь. І амаль адразу ў яе закружылася галава. Яна нават спужалася, што згубіць прытомнасць, але тут жа ўзяла сябе ў рукі:

– Вось сакрэт раскрылі! Усе нашы сябры ведаюць аб гэтым. І звычайна першай справай, прыйшоўшы ў сталоўку, ідуць паглядзець, што там напісана новага.

Яна не ведала, чаго яшчэ чакаць ад гэтага загадкавага госця. Таму хацела паклікаць маму, якая прыслухоўвалася да іх размовы з кухні. Але той нечакана прамовіў:

– Ідучы сёння да вас, я пабачыў абвестку і наняў фатографа, каб ён зрабіў здымкі "Беларускай хаткі".

– Нашай сталоўкі? – здзівілася Сівіцкая.

– Гэта больш, чым сталоўка, і вы яшчэ гэта зразумееце. А здымкі павінны быць.

– Месцічы, каму трэба, і так ведаюць пра нас... – зазначыла Людвіка.

– Не ведаюць, не ведаюць... – пасля гэтых слоў мужчына развітаўся. Было бачна, што ён спяшаўся. Людвіка хацела сказаць, што Максім можа хутка і сам сюды завітаць, бо ён адзін з нямногіх, хто снедаў у "хатцы". Гэта было зроблена дзеля яго здароўя. Бо ён мала дбаў пра сябе, нават лекі забываўся выпіць. Але ўсё ж вырашыла не казаць госцю пра хуткі візіт Максіма, не хацела каб нейкі незразумелы чалавек дурыў галаву і лішні раз непакоіў Багдановіча, тым больш перад дарогай.

Незнаёмец выйшаў на вуліцу і скіраваўся да Чырвонага касцёла. Дзіва!

Будынак храма сапраўды быў пакрыты серабрыстай шэранню, якая з'яўлялася пасля адлігі.

– Цяпер я разумею Максіма, чаму яго не адарваць было ад такой прыгажосці, – прамовіў сабе незнаёмец. Сапраўды, гэта была самая прыгожая мясцінка ва ўсім Мінску. Нібы знаходзішся ў казцы! – І калі гэты эфект знік? – задаўся пытаннем чалавек, які, здаецца, някепска ведаў горад, але пры гэтым, здавалася, быў тут упершыню.

Людвіка засталася ў сталоўцы "хаткі". Пасля сустрэчы з дзіўным госцем яна засмуцілася, пасля задумалася, чаму ўсё ж яны, сябры Максіма, давяраюць ягонаму рашэнню ехаць? Яны ўзялі апеку над ім тут, у Мінску, бо былі ўражаны, як ён абыякава ставіўся да сябе! Але чаму мы нават не адгаворваем яго, каб ён з'язджаў? Адказ просты – цяжка назіраць, як з кожным днём ён станавіўся ўсё слабейшым. Няхай яму дапаможа цёплы клімат, паўднёвае крымскае сонца – упэўніла сябе Людвіка.

Назаўтра Багдановіч паехаў у Ялту... Усёй грамадой яго хацелі правесці на цягнік, але ён запратэставаў: "Развітаемся тут, у Беларускай хатцы. Мне будзе цяжэй развітацца з вамі ўсімі пры натоўпе чужых людзей". Развіталіся са слязьмі – нібы прадчуваючы, што бачацца апошні раз.

Пачуўшы пра смерць Максіма, Людвіка Сівіцкая вінавяціла сябе: "Нашто было выпраўляць яго, не парадзіўшыся з доктарам, не маючы пэўнасці, што гэта яму дапаможа... Трэба было больш сардэчнай апекі. Смерць, на жаль, яго не мінула б, але няхай бы паміраў паміж нас, паміж сваіх, адданых яму шчыра прыяцеляў, у роднай старонцы".

– Чаму мы яго адпусцілі... – напісала яна пазней на тым самым аркушы ў "Беларускай хатцы".

Здымкі "Беларускай хаткі" так і не знайшліся дагэтуль. Людвіка Сівіцкая, яна ж Зоська Верас, адмяніла замову незнаёмца на фатаграфаванне хаткі.

Людзі дагэтуль блытаюцца, дзе тая хатка стаяла...

Сяргей Лебедзеў

Фота: Jane Lezina



...многія, хто бачыцца нам беспакараным
злачынцам, пакараныя ўжо;
прысуд учынены прыжыццёва...

# Край забыцця

***Раман***

*Заканчэнне Пачатак у №4 (119).*

*Пераклад з рускай Барыса ПЯТРОВІЧА.*

## IV

Калі прачынаешся ў цягніку, які пайшоў у ноч з вялікага горада, цябе атачаюць толькі працяглыя, доўгія рэчы: правады, рэкі, дарогі, палі. Краіна выходзіць да насыпу паглядзець на вагоны з лагоднай насмешкай пастаяннага над пераменным, узгоркі і ўзлескі патроху вучацца быць выглядам з вакна; трыянгуляцыйныя вышкі на мясцовых вышынях – кропкі прывязкі геаграфічных каардынатаў – выглядаюць марсіянскімі трыножнікамі пасля няўдалага ўварвання, затое крыжы на цэрквах задаюць аптычныя восі, і прастора будуецца ад цэркваў; крыж тут не толькі сімвал веры, але і землеўпарадкавальны інструмент.

Але чым далей ад сярэдняй паласы і бліжэй да таёжных краёў, тым радзей сустракаюцца цэрквы; а калі цягнік ужо ідзе праз паўночны глухі лес, непрасветны, непрагучны, там, у мясцовасці, колькі ні рассякай яе прасекамі, ні прасвечвай прамянямі лесасек, ні разграфляй кварталамі лясніцтваў,

змяшчаецца нешта цёмнае, мохавае, што ідзе ад зямлі, ад змрочных пазух пад ніжнімі галінамі елак; гэта не дух паганства, а той дух, якім паганства сілкавалася, і крыж як пачатак “рэгулярнае” прасторы, як кропка і мера адліку, знікае сярод прыцемкаў – хісткіх, зацягваючых у глыбіню, цесна, як рухомыя рачныя травы, – і прыцемкаў, якія стаяць на месцы.

Калісьці ў гарах за Палярным кругам я сустрэў групу альпіністаў: ці то манахі, ці то проста вернікі, яны неслі вялікі, моцна збіты крыж, каб паставіць яго на самай высокай з мясцовых вяршыняў, “ахрысціць” тайгу і горныя хрыбты. У размове высветлілася, што яны робяць гэта ўжо сёмы раз: усе пастаўленыя раней крыжы знесла лавінамі ці каменяпадамі, іх нават не ўдалося знайсці ў цяснінах.

Праз некалькі дзён я падняўся на гару; тут, на вышыні, яшчэ быў дзень, а ўнізе, у даліне, падымаліся ўжо, як вада ў прыліў, цені вечара. Абкладзены камянямі крыж падсвяціла заходзячае сонца, а за ім цягнуліся парослыя лесам хрыбты гор, неадрозныя адзін ад аднаго. І я раптам убачыў, як прастора, поўная безаблічнай плаўнасці ліній, цёмная і глухая, адрыньвае ясную форму крыжа; адмаўляе форму наогул. Інстынктыўна я зразумеў, што і гэты крыж прастаіць тут нядоўга: яго “з’есць”, паглыне прорва лесу; ён як парушынка ў дрымучым, замшэлым лясным воку: вока міргне, і крыжа не стане.

Калі я прачнуўся ў цягніку, мы ўжо праміналі палі сярэдняй паласы і дабраліся да тайгі; цягнік ішоў уверх па глобусе, на поўнач, уздоўж вялікага канала; дзесьці там, за хваёвымі лясамі, цяклі ў драўляных шлюзах воды, узятыя ў пазыку ў азёраў, адбывалася падарожжа вады праз гранітныя водападзелы; судны ў вузкасці канала здаваліся ідучымі па сухому, іх мачты ўзвышаліся над лесам, і гнаў доўгае рэха карабельны гудок; пасёлкі і гарады ля чыгункі стаялі па краях азёраў, нанізаных на лінію канала, над нізкімі дамамі высіліся стрэлы партовых кранаў, штабелі лесу, і ўсё гэта было завелікаватае для вясковага жыцця; але ўсё ратавалі азёры – працяглыя, з пагорыстымі берагамі.

Канал вёў да Паўночнага мора, яго механічная перыстальтыка ўвасабляла намер звязнасці, злучанасці велізарных прастораў, дзе трэнне слізгацення пераважвае трэнне качэння; яго папярэднікамі былі старадаўнія волакі, старадаўнія рачныя шляхі, якімі, можа быць, хадзілі часцей, чым сушай. І, напэўна, у стварэнні канала было больш несвядомай сімволікі – даць скразны ход вадзе, дазволіць ёй цекчы, а не стаяць – чым сапраўднай неабходнасці; шлюзавыя будынкі з накладнымі калонамі і аркамі, храмы грузаперавозак, малельні рачнога плавання – праз канал, як праз катэтар, у гэтыя краі павінна было ўліцца жыццё вялікай краіны; на берагах аднаго з азёраў пабудавалі цэлюлозна-папяровы камбінат: лясы зводзілі дзеля слова, і ўлада над тутэйшымі краямі пераходзіла ад лесу да паперы.

Цяпер вёскі і пасёлкі размяшчаліся на двух збочынах – чыгункі і канала; міма ішлі караблі, міма ішлі цягнікі – дзве плыні, два памкненні міма, дзве зачароўвальныя плыні; і ўсё жыццё патроху набыло рысы перона ды прыстані, прыстані ды перона – гледзячы ў які бок павярнуцца; жыхары карміліся не ад зямлі, на якой стаялі іх дамы, а ад воднай і сухапутнай дарог, то загружаных, то пустуючых; канал і чыгунка былі акружаныя палосамі адчужэння, і жыхароў зацерла, як паміж крыг, паміж двух гэтых палос.

Цягнік прыйшоў на буйную станцыю: дваццаць хвілінаў стаянка, змена лакаматыва. На нізкім, па лытку, пероне ўжо тоўпіліся гандляры, якія ведаюць, дзе апынуцца дзверы вагонаў; гандлявалі ў асноўным жанчыны,

бабулі і дзятва; “перошкии, перошкии, пивохолодное, пивохолодное, рыбка, рыбка, рыбка, кефирчи, комукефирчи, малина, малина, картошечкавареная, картошечкавареная, чипсы, чипсы, чипсы, водаминеральная, водаминеральная” – дзясяткі “тарговых скорагаворак”, “скоргавых тарогаворак”, усё на бягу, хутка-хутка, “незадерживайтемужчина, подставляйпакет, сбанкойдороже, сбанкойдороже”, – глытаючы літары, нібы ад голаду. Але ў кожным твары, у кожнай постаці, якая ўжо набыла перонную вяртлявасць, цялесную бойкасць, угадваліся іншыя твар і фігура – тыя, сапраўдныя, што будуць дома; Бог ведае, што чакае іх там – бабульчын куток з відам на пастылы агарод, кватэра ў барачнай дошкавай двухпавярхоўцы, дзе ўсё ва ўсіх на віду, і жоўтыя прасціны ляжачага хворага вісяць у двары на адной аборцы з жоўтымі пялюшкамі грудніčка; Бог ведае, што чакала іх там, і ты ведаў, што тваё месца нараджэння – толькі выпадковасць, і больш правільна было б табе жыць тут. Ты быў сярод сваіх – сярод люду гарадскіх і местачковых слабодак, у якіх нарадзіліся твае бацька і маці, і ты не забыўся пра гэтыя карані; падагналі лакаматыў, праваднікі ўжо прыспешвалі садзіцца, гандляры спяшаліся да суседніх цягнікоў – з поўначы падыходзіў сустрэчны хуткі, яго пражэктар і чырвоныя падвойныя вусы паказаліся з-за павароту, а я стаяў, дакурваючы; мне чамусьці было важна вычарпаць час стаянкі да канца.

Па суседнім пероне ішла бабуля; яна несла букет завялых, страціўшых пругкасць сцяблінаў, але яшчэ жывых цёмна-бардовых расцвілых півоняў. Я ведаў гэтыя кветкі – менавіта я перакопваў, перамываў у ружаватым растворы марганцоўкі клубні, заблытаныя перапляценні каранёў, падобных на вузлаватую плоць, – і да пачатку ліпеня на лецішчы тугія глянцавітыя шарыкі бутонаў у адзін дзень выбухалі буйнымі бардовымі пялёсткамі, дзесяць разоў складзенымі, скручанымі, а тут яны распадаюцца, як разламаны сваёй празмернай спеласцю гранат, амаль вульгарна ў гэтым не-ўтрыманні прапорцыяў, аднак цудоўнымі менавіта не-строгасцю, знікненнем формы, яе прымяншэннем перад цёмна-зіхоткім з уласнай глыбіні колерам.

Такія півоні – я ведаў гэта, – прывезеныя з дачы, распусціліся цяпер на магіле Другога дзеда, запусціўшы ўглыб чулыя скурыстыя карэньчыкі; ёсць смертныя кветкі – тыя, якія не проста дарэчныя перад тварам гібелі, якая адбылася, але як бы вянчаюць і адцяняюць яе; тыя, чыя травяная плоць бліжэй за ўсё да чалавечай плоці і таму можа наўпрост і пераносна быць ёю ў абрадзе пахавання, расці на зямлі могілак, якая не церпіць выпадковых пасадак; бардовыя півоні – у іх бутоны часта запаўзалі маленькія чорныя мурашкі; цёмная плямка на зялёным, прадвеснік будучага тлення.

Бабульчыны пальцы няспрытна трымалі перахопленыя абрыўкам бінта кветкі; півоні рассыпаліся, хіліліся ў розныя бакі, і здавалася, быццам унутры ў бабулі адбываецца тое ж самае: жыццё яе, якое ўжо амаль нішто не ўтрымлівае ў адзінстве, вось-вось распадзецца, і яна імкнецца толькі данесці яго ў сховішча дома і застацца сам-насам з цяжкасцю скону. Непрададзеныя кветкі перашкаджалі, рукі не маглі за імі ўсачыць, рукі ўжо амаль памерлі, жыццё сабралася бліжэй да сэрца, да жывата.

Я зразумеў, што не магу цяпер сесці ў цягнік, пакінуўшы яе на пероне; я пазнаў яе – так, як пазнаюцца людзі, якія з’яўляюцца нам, бывае, некалькі разоў, і яны – розныя, але ў адносінах да нас яны ёсць адзін чалавек – напарнік, маўклівы litaрадца, суцяшальнік.

Раней я бачыў яе толькі двойчы – у пераходзе метро каля дома. Яна давала мне вылячэнне ад самазакаханасці гора і саманадзейнасці крыўды;

былі познія вечары гарачага і пыльнага лета, і штосьці блукала ў людзях, успыхваючы то бессэнсоўнай бойкай, то лаянкай, то пабітым шклом; паветра зрабілася душным, у ім хутка вялі кветкі, лісце апускалася; я вяртаўся дадому, замкнуўшыся на сваім горы і крыўдзе, раззлаваўшыся так, што пачынаў спатыкацца – усё было папярок, не з рукі, не ў жылу, – і абодва разы ў пераходзе метро стаяла ў позні час бабуля ў дзіцячым вязаным чэпчыку, у замытай сукенцы, старой-старой, па фасоне яе дзявочых гадоў. Нешта было ў ёй ад ахайнай мышкі, якая прыжылася ў людзей: сівыя валосікі над губой, зношанасць тканіны, дзе нітка ўжо толькі ў трацiну сілы трымае нітку, падслепаватасць, слабасць, яснасць розуму на маленькім, памерам з аправу акуляраў, пятачку паўсядзённых клопатаў. Стаяла яна не нясмела і не шукальна, але не адымаючы нічыёй увагі; перад ёй на кардоннай скрынцы былі саджанцы хатніх кветак у пластыкоўках і асобна, у слоіку, капцюрыстае пяро альяса.

У ёй была пакорлівасць перад Богам; нам здаецца, што пакорлівы азначае гатовы ўсё сцярпець, але гэта гаворыць ў нас гордасць, бухгалтарскае ўяўленне аб справядлівасці і аддзяцы; сапраўдная ж пакорлівасць там, дзе ўжо знятая супярэчнасць – трываць ці не трываць, цярпець ці не цярпець, дзе аднолькава магчыма і тое, і іншае, – але не павышаючы свой голас на Бога. І, сустракаючыся з гэтай старой, ты ведаў, што з ёй нічога не здарыцца ў брыдкім вячэрнім метро; усе твае крыўды, трывогі, смутак не тое каб здаваліся ганебна малымі ў яе прысутнасці – яны рабіліся неіснуючымі; толькі што ты пакутаваў, у сонечным спляценні сядзеў слізкі, халодны, атрутны камяк – і ўсё гэта знікала.

“Я сама дайду”, – сказала мне бабуля на пероне, быццам угадаўшы мой намер. Я купіў півоні; хуткі цягнік, які ідзе на поўдзень, схаваў яе ад мяне, падножка майго вагона кранулася.

Бывае так, што выпадковая – на кароткі міг – сустрэча спараджае блізкасць, якой не здараецца ў звычайным жыцці; раптам даведваешся, што няма адлегласцяў, няма абаронаў – яны ілюзорныя, – ёсць толькі глыбокае сваяцтва; і не трэба рызыкі, не трэба пераадолення, выхаду за свае межы, каб сустрэцца з іншым – гэтая сустрэча ўжо адбылася; яна большая за кожнага з нас, мы жывем унутры яе, мы ўжо сустрэліся; сустрэча не выпадковасць, а закон, спосаб і асяроддзе існавання: не яна паміж намі, а мы ў ёй.

І не трэба чакаць, што чалавек адкрыецца табе нейкім бокам, які ні ты, ні іншыя не заўважалі, не трэба шукаць кагосьці нечаканага, невядомага, новага. Чаканні і пошукі толькі адводзяць, перашкаджаюць убачыць, што нечаканасць і навізна толькі маскі пустэчы, біжутэрыя, мішура; а ўсё сапраўды каштоўнае і блізкае пазнаецца па безумоўнай вядомасці, па відавочным сваяцтве.

Цягнік ужо адышоў ад станцыі; кветкі стаялі на століку ў купэ – як прывітанне і знак развітання адначасова; і паступова з гэтымі прагнымі да жыцця пялёсткамі, якія адчулі ваду, пурпуровымі, пунсавеючымі, густакалернымі, як вянозная кроў, пазбаўленая кіслароду, якая імкнецца да лёгкіх, ува мне ўсталяваўся – у супрацьлегласць бачнаму вобразу – стан глыбокага ўдыху. Кветкі дыхалі пялёсткамі, пах ствараў аб’ём іх прысутнасці, і аб’ём гэты павялічваўся, быццам бы сцябліны і пялёсткі складалі толькі малую, бачную частку кветак, а галоўнае было эфірным, лятучым, даступным толькі нюху.

Кветкі дыхалі; з-за празмернае салодкасці іх водару мне зноў успом-

ніліся могілкі, магіла Другога дзеда; спускаўся вечар, цягнік вылецеў на мост, кляпаныя сталёвыя фермы паўсталі па баках чыгункі, як велізарныя літары. Унізе было шырокае рэчышча ракі, і рака была нерухомая, плынь адчувалася ў ёй толькі ля дна, пад напружанай роўняддзю вады; цягнік некалькі хвілінаў рухаўся ў пустаце, самога моста не было відаць, толькі апоры і рака, і сэрца забілася больш рэзка, адчуўшы гэты перабой. Раку вышкліла заходам, і доўгая рыбацкая лодка, якой кіраваў адзін вясляр, рухалася папярок плыні, павольна, цяжка, нібы вёслы чэрпалі ртуць.

Я пазнаў лодку з мазаікі склепа каля магілы Другога дзеда, доўгія цені таполяў як бы ўпалі раз і назаўсёды і ўжо не могуць падоўжыцца; але там Харон вёз цень, ухутаны ў доўгі саван, а тут перавозчык або рыбак плыў адзін.

Бліжні бераг быў яшчэ асветлены, выплаўлены з заходнага святла, а далёкі ўжо схавала цемра, і да яго якраз і плыў вясляр; прыцемнены бераг рассякаў глыбокі яр, з яго ў раку ўпадаў язык чарнаты.

Цягнік імчаў, з-за яго хуткасці ўсё за вокнамі было павольным, як бы ўжо адбылося, нязменным: вясляр не мог павярнуць, вецер не мог слізгануць рабізной па рацэ, прамень не мог разагнаць цемру, і мы пераехалі на цёмны бераг, панесліся туманнымі лугамі поймы, дзе ўсё было аксамітным, як крыло кажана, маўклівым і нерухомым; у апошніх вагонах яшчэ бачылі раку, лодку, святло, а галава цягніка ўжо ўляцела ў змрок, у крылатае маўчанне птушак, якія кружылі над лугамі; рэдкія старыцы паравалі, аддаючы дзённае цяпло, і толькі па такой смузе можна было зразумець, што тут яшчэ *гэтае* святло, што холад ночы тут не вечны.

Пачуўшы ноч, кветкі каля вакна пачалі згортваць пялёсткі; заснуў і пах, спынілася яго выцяканне; і толькі ў вачах, пакуль я не заснуў, трымаліся ззянне ракі, цёмная пляма лодкі і весляра, доўгія цені дрэваў. На што б я ні глядзеў, куды б ні накіраваў погляд, усё запаланялі залацістая рака, рух вёслаў, і свет стаў другім планам, чымсьці, што памятаеш толькі скрозь іншы ўспамін, што аддаляецца, як бераг для таго, хто стаіць у лодцы; і толькі праз свячэнне вады бачылася мне мінулае жыццё, якое стала раптам вельмі далёкім, менш пачуццёва адчувальным, чым упадзінкі ад вёслаў на туманным вулканічным шкле вады.

З цягніка я сышоў раннім ранкам, цёмным з-за непагадзі; пасажыры – а іх было нямала – неяк дзіўна спрытна зніклі. Толькі што яны былі – кашлялі, кракталі, мацюкаліся, цягнулі груваскі дарожны скарб, скрынкі, заплечнікі, торбы, каляскі, якіх заўсёды больш, чым месцаў у плацкарце – яны вандруюць цяжка, натужна, штохвілінна сплёўваючы, працуюць цяглiцамі і локцямі; толькі што кроў прылівала да твару, згіналіся спіны, усе нешта кудысьці неслі – і вось ужо няма нікога, толькі таксісты, што засталіся без кліентаў, паляць каля машынаў і глядзяць, як грызуцца на прывакзальнай пустцы сабакі.

Я прайшоў праз скразныя дзверы вакзала. За столікамі ў вакзальнай кавярні сядзелі два міліцыянты і двое ў скураных куртках; усе чацвёра былі аднолькавыя. Такія твары бываюць у тых, хто ў трынаццаць-чатырнаццаць гадоў пачынае паскорана расці: цялесны спрыт не паспявае за цягліцамі, і на год-два падлетак ператвараецца ў цельпука. У тварах і быў гэты выраз падлеткавай тупасці – быццам бы кожны з тых, што сядзяць, ад лішку мяса ў целе адчуваў сябе цяпер толькі страўнікам і чэлесам; на століку стаялі талеркі з шашлыком і смажанай бульбай, бутэлька гарэлкі, у праёме дзвярэй маячыла афіцыянтка.

Чацвёра сядзелі як брамнікі таго свету, у які я ўступаў; у зале чакання пахла адрыжкай, якая капае слінай з рота ў пахмельным сне, яшчэ і курывам; на лавах ляжалі, накрыўшыся з галавой, людзі, звыклыя да беспрытульнага сну – на падлозе, на торбах, на трэціх паліцах, на ложках інтэрнатаў, на нарах КПЗ; кожны сціскаўся, згінаўся, каб было цяплей, – але здавалася, дзеля таго, каб выглядаць так, быццам цябе ўжо ўдарылі – і не трэба біць яшчэ, даволі. Я і сам умеў спаць так – адчуваючы ўва сне не сэрца, а кашалёк; я спаў і ў месцах горшых, але тут, праходзячы праз залу, я яшчэ быў з *цягніка*, дзе ты ўсё ж ткі пасажыр і на нешта, як ты думаеш, маеш права – і для чацвярых, якія сядзяць за столікам, я таксама быў *пасажыр*: блатная мова дакладная ў лёгкай афарыстычнай пагардлівасці да тых, хто мяркуе, быццам гэта ён кудысьці едзе, а не яго вязуць.

Аўтобус у горад ужо сышоў ці яшчэ не прыйшоў; той бясконца ёмісты прамежак часу, які вучыць існаваць у ірэгулярнасці, абжывацца ў ёй, улоўліваць токі верагоднасцяў.

Ля прыпынку былі клумбы з размаляваных аўтамабільных шынаў; я выкладваў такія на школьных суботніках. І я прызнаў як сваё гэтае знаёмае жабрацтва, другое жыццё рэчаў, якое кампенсуе недахоп неабходнага; клумбы з шынаў і бутэлек, укапаных дагары донцам, кармушкі з малочных пакетаў, попельніцы з кансервавых бляшанак. Нарадзіўшыся і вырасшы сярод іх, я думаў цяпер: а ці толькі з рэчамі гэта адбываецца? А што, калі і мае пачуцці, думкі – таксама вымушаная падмена чагосьці сапраўднага? Раптам маё каханне – не каханне зусім, а такая ж клумба з шынаў з запляванымі аксаміткамі?

Да прыпынку падруліла машына; чорная “Волга” з антэнай – чыйсьці шафёр калыміў ранкам. Адчыніліся дзверцы; унутры “Волга” была падобная на бярлог: чахлы з цёмнага, з доўгім воласам штучнага футра на сядзеннях, таніраваныя вокны, усё трохі патрапанае, злёгку нячыстае, нясвежа пахнучае ад гарачай печкі; кіроўца быў такі ж – у ваўнянай безрукаўцы, якая пакідае адкрытымі локці, у вельветавых штанах, тоўсты, залатазубы, няголены, з касаватымі ад аглядкі па люстэрках задняга віду вачыма, дзікі спрасонку, але шустры, з тых, што любяць дробнае жанглёрства – выпстрыкнуць пальцам цыгарэту, злавіць яе ротам, – думаючы, што ў гэтым ёсць шык, зухаватасць; такія часцей ідуць у таксісты, чым у асабістыя шафёры, кучкуюцца, сустракаючы цягнікі, у маленькіх мястэчках, але ты тройчы падумаеш, перш чым сесці да яго ў машыну. Такое таксі не вязе, а адвозіць, нават знаёмы шлях робіцца ў ім крышачку незнаёмым; ад таксіста цягне не небяспекай, але неспакоем – ці то збіў пешахода ў дажджлівую ноч і даў газу, ці то абакраў п’янага пасажыра, ці то чымсьці гандлюе з-пад крыса, – і грошы на здачу ў яго абавязкова знойдуцца старыя, зашмальцаваныя, нібы ім не давалі паляжаць у кашальку, а зноў і зноў пускалі па руках, мялі, камечылі, прагна распіхвалі па кішэнях. Ад гэтых купюраў – адна надарваная, другая з плямкай крыві, на трэцяй запісаныя нейкія лічбы – таксама будзе цягнуць чымсьці забароненым, нейкімі п’янымі ўгаворамі, разлікамі пад хмяльком, выпатрабаванымі абавязкамі, працертай цыратай крамнага прылаўка, закапанай расолам ад селядца; і будзе здавацца, што паўдарогі таксіст вырашаў, везці цябе туды, куды табе трэба, ці звярнуць у які-небудзь завулак або пералесак, якія для цябе – невядома дзе, сказаць, што спусціла кола, паглядзець, як ты сябе будзеш паводзіць...

“Волга” ўзляцела на чыгуначны мост – мільганулі вагоны, цыстэрны, пражэктары, раскірэчаныя грузавыя краны – і панеслася разбітымі вуліцамі горада. Нам трэба было мінуць яго, праехаць кіламетраў трыццаць і прыбыць у іншы горад – той, што быў названы ў лісце Другому дзеду; гэты горад быў нізкі, далёкі, паўставаў здалёк трубамі горных камбінатаў, а за імі – шэрымі, пакатымі сопкамі, зацягнутымі дымам і кучавымі аблокамі.

За гарадскімі ўскраінамі пачалася лесатундра, але ніводнага зялёнага дрэва там не было – толькі скалы, каменныя восыпы і касцякі мёртвых ствалоў; сюды пастаянна дзьмуў вецер з боку горных камбінатаў, і дым з трубаў, які асядае з туманамі і дажджамі, за дзесяцігоддзі спаліў, замар*ы*ў усё жывое. У такіх месцах не трэба жыць, іх не трэба бачыць – іх карціна не мае нічога агульнага нават з відовішчам прыродных катастрофаў: як крыміналіст адрозніць забойства ад самагубства, так і ў знявечаных чалавекам ландшафтах пазнаецца менавіта – ускоснае ці, прамое – забіванне, пазнаецца па тым, што ў прыродзе смерць хуткацечная і не пачварная, а створанае чалавекам адбіваецца доўгачаснай пачварнасцю.

Потым пачаліся склады, платы, платы, платы; удалечыні віднеліся горы, начное неба і прастора, а тут усё было разгароджана, ад’яднана сценамі; паўсюль – па грэбені плота, па дахах то ніткамі, то спіраллю – віднеўся калючы дрот; адзін іржавы, другі яшчэ бліскучы, паблісквaючы ў святле пражэктараў; дзе-нідзе новы дрот цягнулі паверх старога, на тых жа кранштэйнах, і ўзнікалі драцяныя зараснікі. Усюды былі шлагбаўмы, засцерагальныя надпісы, знакі “ўезд забаронены”, будкі аховы, у якіх валтузіліся прыкормленыя бадзяжныя сабакі, якія кідаліся абгаўкаць машыну. Затым раптам, як правал, узнікала пустка, якая захавала толькі пачаткі нейкіх справаў – тут чарпанулі грунт каўшом, тут кінулі трубу, тут паставілі рэйкі, якія нешта пазначалі; пустка была цёмная, як зямля, і цемру можна было капаць рыдлёўкай. Машына ляцела, зноў з’яўляліся плот, пражэктары, цэхі, трубы, дым, пара і святло – і зноў правал пусткі. Чалавек абараняўся, адгароджваўся, ён не валодаў гэтай зямлёй, і будкі аховы былі архітэктурнымі нашчадкамі лагерных вышак; зямля гэтая была хворая на *грыбок* – грыбок часовага, і ўсё гэта – платы, дрот, шлагбаўмы – было як адзіны вокрык, які доўжыцца вечна: “Стой, страляць буду!”

Машына ляцела, і мне здавалася, што мы жывем на ўласнай зямлі як акупанты; што мы глядзім адзін на аднаго праз вертухайскае “вочка”; іграла музыка, спявак хрыпеў, што ўсе сябры яго быкі, гатовыя да бою кулакі, гатовы пісталет да бою, супраць быкоў няма адбою; на пальцах кіроўцы, калі ён пераключаў перадачы, сінела татуіроўка – аматарская, здаецца, бледная, яе спрабавалі звесці – і расторганая, расхлістаная музыка, і песня дзіўна адпавядалі мясцовасці. Мы імчаліся праз “зону”, хоць гэта і былі вольныя заводы; “зона” прабралася паўсюль, на ўсім была яе гаспадарская пазнака – дрот у тры шэрагі. Здаецца, любую рэч тут трэба было замкнуць, каб не скралі, і замк*і* памнажаліся, замкі, засаўкі, клямкі, новыя замкі, – калі ўскрыюць першы, – і так па крузе; сустрэчныя машыны не выключалі далёкае святло, мяне сляпіла, а кіроўца не адварочваўся, прывык; гатовы пісталет да бою, супраць быкоў няма адбою – крычалі дынамікі, і мы імчаліся, бессэнсоўна хутка, быццам спяшаліся біцца з кімсьці, ламаць косткі, выбіваць зубы; цемра, платы, пусткі – усё гнала, усё паказвала, што тут нельга спыняцца, як у зачумленай мясцовасці, і ад гэтага нараджаўся азарт, нейкая бязлітасная гатоўнасць жыць насуперак усяму, угрызаючыся ў жыццё, як у жорсткае, з жыламі, са шкурай мяса; я шмат разоў бываў у

такіх месцах, але ў той раз упершыню так дакладна зразумеў, што блатныя перамаглі, што лагер перамог не-лагер; лагер не сышоў – ён проста “размазаўся” ў пейзажы, падзяліўся на часткі, і кожная частка ўбудавалася, змяняючы ўсё вакол сябе, у асяродак пражывання чалавека.

Да гэтай мясцовасці вельмі падыходзілі цацкі, знойдзеныя ў кватэры Другога дзеда – безасабовыя фігуркі, вінтоўка, аўчарка, конь; яны былі адсюль родам, яны ўваходзілі ў мікракосм месца. Мільгануў мост, платы адступілі, закруціліся па ўзгорках вузкія вуліцы гарадка, шыльды, вітрыны, шапікі, прыпынкі, дарогу пару разоў перакрэслілі рэйкі, за ўзгоркамі то выраcталі, то знікалі цэхі камбінатаў, і самі горы наблізіліся, заціснулі гарадок у катлавіне, адкуль быў адзіны выезд – праз мост, які мы прамінулі.

Справа замаячыў яшчэ адзін правал цемры; але там, у цемры, угадваўся вялікі будынак. Кіроўца заўважыў мой погляд і пачаў тлумачыць, што гэта вакзал, раней у горад хадзілі электрычкі, а ў перабудову ветку закінулі, засталіся толькі грузавыя шляхі; вакзал стаяў пакінутым, потым яго па неасцярожнасці спалілі. Дарога закруцілася па схіле, машына вылецела да самага вакзала; будынак быў характэрны, з аркамі, з калонамі, з шырачэннымі вокнамі – чыгуначны храм саракавых ці пачатку пяцідзясятых, алтар раскладаў руху. Пажар толькі трохі закуродыміў сцены, і вакзал сапраўды стаяў з апаганенай веліччу кінутага храма, быццам мясцовыя жыхары адмовіліся ад нейкай веры; па голасе я не мог зразумець, шкадуе кіроўца ці, наадварот, ганарыцца падпалам, у словах было і адно, і другое.

Потым я прыходзіў да вакзала ўдзень; падобнае ўражанне я адчуў толькі аднойчы – у Стамбуле каля Залатых варотаў; я бачыў там, у што ператварылася былое скрыжаванне гісторыі, яе натаптанае, прасветленнае – мноствам падзеяў – для рэтраспектыўнага погляду месца. Я бачыў там, як некалі разбуранае руйнуецца ў другі раз; як ля крапасных сценаў былога Канстанцінопаля гандлююць чахламі для тэлефонаў, сапсаванымі кіпяцільнікамі, балтамі, гайкамі; вось абагравальнік (пластык пажаўцеў ад часу альбо курыва), вось пагнуты мікраскоп, вось упакоўка шпрыцоў. Спажыўцы шпрыцоў атабарыліся ў саміх сценах, там дымілі вогнішчы, між зубцоў, якія праваліліся, блукалі абарваныя бадзягі, ад якіх зыходзілі баязлівасць і гвалт.

Ля Залатых варотаў цябе ахоплівае туга; новая арда, качэўнікі новага свету, гандляры курткамі з падробленай скуры туляцца ў руінах, не ў моцы хоць бы разабраць іх да падмуркаў і пабудаваць нешта іншае; яны зжыліся з разбурэннем, з тым, што ім дзеля жытла дастаткова шчыліны ў старых сценах; з тым, што можна жыць без агляднкі на мінулае, можна меркаваць, што цень старажытных сценаў – зручная прахалода ў спякоту, і нічога больш.

Вось і ў вакзале я ўбачыў такое ж кінутае скрыжаванне, заглеенае вусце лёсаў; горад як бы адрэзаў сам сабе шлях вонкі, знішчыў акно ў вялікі свет і цяпер жыў, як аслеплены цыклоп, пазбаўлены пражэктарнага вока цягніка. Вядома, да чыгуначнай станцыі было ўсяго трыццаць кіламетраў аўтобусам ці на таксі, але горад-з-вакзалам тым і адрозніваецца ад горада-без-вакзала, што ў яго – праз паралельныя лініі рэек – упускаецца абстракцыя прасторы: шаша, хай і асфальтаваная, усё ж такі проста дарога, а лініі рэек – і дарога, і ідэя дарогі адначасова. Стоячы на пероне, ты і тут, і ўжо не тут, і гэтая прысутнасць у горадзе кропкі, якая яму не належыць, кропкі, дзе сыходзяцца рух і спакой, адкрывае горад; мяжа, край горада апынаюцца не там, дзе яны павінны быць геаметрычна, а ўнутры горада, і ён не можа стаць у адносінах да жыхароў нейкай бязвыходнасцю месца.

Але вакзал быў спалены, і горад, вымушаны да гэтага ландшафтам, далінай, у якой ён быў размешчаны, замкнуўся, частка замахнулася быць цэлым; пачаўся свайго роду тэрор месца супраць тых, хто насяляў яго, і людзі адказвалі тым жа: сцены дамоў і гаражы былі густа спісаныя мацюкамі, нікому не адрасаванымі, то бок адрасаванымі непасрэдна асяродку пражывання; надпісы ішлі паверх простакутнікаў свежай фарбы – лаянку зафарбоўвалі, – шчодра, размашыста і аднастайна; сляды дробнай помсты – перакулены сметнік, пабітыя ліхтар і шкло, смецце, раскіданае па збочынах – паказвалі, што жыхары вядуць з горадам, закаркаваўшым іх у сабе, партызанскую вайну.

Высадзіўшы мяне каля гасцініцы, кіроўца з'ехаў, а я стаў глядзець аб'явы на слупе ў бялявых пацёках клею; пераважалі прапановы аб продажы кватэры, абмене, іх было вельмі шмат, яны ляпіліся пласт за пластом, слуп ужо аброс сшыткавымі махрамі, і здавалася, што ўсім тут жывецца няўтульна, усе хочуць нешта перамяніць, перамясціцца, знайсці, хай і ў ранейшых гарадскіх межах, новы выгляд з вакна. Многія нават не пазначалі, што прадаюць кватэру ці пакой, а пісалі толькі "48 квадратных метраў", "37 квадратных метраў"; аб'явы, мабыць, мала каго цікавілі, вецер варушыў некранутыя адрыўныя лісточкі з тэлефонамі, і голыя квадратныя метры, якімі гандлявалі, як участкамі на могілках, зменшыліся да сшыткавых клетачак.

У такіх мястэчках за Палярным кругам гасцініца называецца альбо "Поўнач", альбо "Арктыка"; гэтая была "Арктыка". У гасцініцах гэтых асаблівая няўтульнасць; тут жывуць часцей за ўсё камандзіраваныя, ніякіх нічым не занятых пастаяльцаў, адпачывальнікаў, і гэтая камандзіраванасць, адпраўленасць чорт-ведае-куды робіцца станам чалавека; ён не назоўнік – пастаялец, – а аддзеяслоўны прыметнік, які прыкінуўся назоўнікам – камандзіраваны.

Тут сны лаканічныя, як нацюрморт з графіна і двух шклянак, але і сны, як ежу ў цягнік, даводзіцца браць з сабой з дому. Знаходзячыся ў нумары, ты нібыта выходзіш на неўладкаваны край жыцця. Тут занадта мала прадметаў – паднос, кіпяцільнік, попельніца, занадта вялікія адлегласці паміж імі, як у пустыні, ад аднаго да другога ісці паўдня, і ўсе яны трохі несапраўдныя, як навучальныя дапаможнікі; попельніца і графін стаяць як попельніца наогул і графін наогул; у бядоце побыту як бы знікае тая ўзаемасувязь рэчаў, якая робіць жыллё абжытым, і кожная рэч адасабляецца, робіцца голай формай. І вада ў графіне, калі яна не выпарылася, пакідае ўнутры яго колцы аселай на сценках каламуці, як у горадзе, дзе замяраюць узроўні паводак; яна без смаку, які ёсць нават у скіпячонай вады, гэта, як і рэчы, проста вада, вада як адцягненае паняцце, вадкасць як такая.

У такім нумары можна скласці рэчы, кінуць кнігу на тумбачку, цыгарэты на стол, але ўсё роўна застанецца адчуванне, што ты на прывале дзесьці ў бязлюднай мясцовасці. Вакол, як і ў прыродзе, будуць толькі аднастайныя паверхні; там – пагоркі, даліны, тут – плоскасці і прамыя вуглы; гэта нейкае новае дзікунства, новае адзічэнне; лепшае чытанне тут – школьны падручнік геаметрыі.

Вокны гасцініцы выходзілі на глухую сцяну суседняга будынка; да сцяны было метраў дзесяць, і на вокнах не было фіранак – навошта, калі цагляны мур так блізка?

Вымушаны жыць з выглядам на сцяну, я чытаў яе як кнігу – кнігу

сцяны. На горад вельмі добра глядзець з пункту гледжання будынкаў; з пункту гледжання цэглы; тады ты ўжо не назіральнік, ты як бы заадно з духамі месца. Але гэтая сцяна не дазваляла ў думках перамясціцца ўнутр яе, адштурхоўвала погляд; цэгла яе была пакладзеная няроўна, лініі мура крывіліся, сцяна віхляла; і ты мог толькі здагадвацца, як паступова яна складвалася, як працавалі людзі на будоўлі.

Мне падалося, што намер будаваць быў як бы выкінуты з іх дзеянняў; кожная цагліна клалася не машынальна нават, а з нейкай думкай, вельмі далёкай ад справы будаўніцтва – думкай ці то пра родныя краі, ці то пра вячэрнюю пайку. І ў выніку пра сцяну, пра дом у цэлым нельга было сказаць, што яны менавіта пабудаваныя; нельга было сказаць, што дом цвёрда стаіць на зямлі. Сцяна была перада мной, яна засціла погляд, але адначасова была як бы непераканаўчая; здавалася, у любы момант яна можа разваліцца, бо ў яе не было ўкладзена нешта, што трымае дом дадаткова да цаглінаў і раствору.

Я ўбачыў, што вялікая сіла прымусу ўзвяла гарады, высекла лясы, праклала дарогі, пракапала каналы, пабудавала заводы; але аказалася, што прымус не здольны даць аднаго: таго намагання, якое прыкладае да справы чалавек, што свабодна яе выбраў. А без гэтага намагання, без долі духоўнай працы, якая ўліваецца ў працу фізічную, усе дарогі, масты, гарады, цэхі – трымаюцца толькі воляй дзяржавы, што іх узвяла. І калі гэтая воля знікла, сышоў яе час, людзі засталіся са спадчынай вялікіх будоўляў, да якой – у духоўным сэнсе – не былі датычныя; засталіся сярод дамоў, вакзалаў, вуліцаў, пабудаваных паднявольна, – з гарадскім ландшафтам, у якім не пераўтварыўся, не праявіўся чалавек.

Спаць у нумары з выглядам на сцяну было добра; сон рабіўся спосабам выйсці з памяшкання. Сны – тыя тры сны – якія з'яўляліся мне дома, – больш не прыходзілі; яны не маглі існаваць у гэтым гасцінічным нумары, яны былі чымсьці занадта асабістым сярод тутэйшай абстаноўкі агульнае ўласцівасці; тыя сны, што я бачыў, калі лёг спаць пасля цягніка, былі не снамі нават, а нарыхтоўкамі сноў, чыстымі лістамі сноў, па якіх слізгалі лёгкія непазнавальныя цені; большага чакаць пакуль было нельга.

Я яшчэ загадзя вырашыў, што не адразу пайду шукаць чалавека, які пісаў Другому дзеду; я хацеў спачатку пабачыць горад, убачыць яго сучаснасць – і толькі потым трывожыць мінулае.

Горад быў названы ў гонар бальшавіка, забітага ў сярэдзіне трыццатых; імя горада нічога не паведамляла месцу, а месца – назве горада. Яны гаварылі на розных мовах і пазбягалі адзін аднаго.

Навакольныя горы насілі імёны, дадзеныя мясцовымі народнасцямі; гэтыя імёны пакідалі ў гартані адчуванне сырога мяса, разгрызеных костак; прачытаўшы з карты дзясятак назваў запар, ты нібы выпіваў густой крыві, ад якой на холадзе ідзе пара; назвы гэтыя пахлі дымам вогнішча, рыбінай луской, сырамятнай скурай, сабачым і чалавечым потам, яны былі доўгія, і склад злучаўся са складам, як алені або лайкі ў запрэжцы.

Імя горада – у два склады, канчатак на "ск" – выдавала яго чужароднасць, прозвішча бальшавіка добра глядзелася на вялікай карце краіны, дзе прозвішчы яго таварышаў складваліся ў тапанімічнае сузор'е, прыжыццёвы і пасмяротны пантэон, але паблізу імя рабілася бязглуздзіцай, выпадковым наборам літараў, з якім людзі, аднак, зжыліся і лічылі сябе гараджанамі нейкага Абракадабр-ска.

Усе першапачатковыя заснаванні горада ляжалі па-за ім, спачатку ён

з'явіўся ў плане, на карце, а толькі потым на мясцовасці. І як бы ён ні рос, ні развіваўся, усё роўна ў нейкім сэнсе заставаўся горадам з пап'е-машэ. Былі дамы, крамы, вуліцы, дрэвы, скрыжаванні, ліхтары – але скрозь усё прасвечвала першапачатковая часовасць; горад існаваў, пакуль не скончаецца руда радовішча побач з ім; сам па сабе, у адрыве ад гэтай руды, ён не быў значны. Ён узнік не ў кропцы фокусу гістарычных лёсаў, не на скрыжаванні гандлёвых і ваенных інтарэсаў, а каля вялізнай кішэні зямлі, адкуль можна чэрпаць багацці; быў створаны згодна з рашэннем улады, якая перамясціла на поўнач тысячы працаўнікоў, вырас з барака, з бытоўкі, і гэты дух не выветрыўся; стылы, нежылы, дух новабудоўлі, цэха, трубаў і прамасленага рыззя.

Пакінуўшы гасцініцу, я пайшоў шукаць бібліятэку; там я спадзяваўся прачытаць якія-небудзь творы краязнаўцаў, а потым адшукаць гарадскі музей, калі такі ёсць.

У бібліятэцы было занадта цёмна, каб чытаць, сыра і зелена; усюды раслі кветкі ў вазонах, гнуткія, востралістыя, і здавалася, што кнігі зніклі ў джунглях; жанчына-бібліятэкар, не бачачы мяне, праходзіла з палівачкай, і вазоны стаялі так, што яна быццам бы палівала не кветкі, а кнігі, далівала ваду словаў у старыя, высахлыя тамы. На сцяне вісеў каляндар за пазамінулы год; з паліцаў у праходзе тырчэлі таблічкі з літарамі – А, Б, В – заечыя вушы алфавіту; было школьна, сумна, блізарука, быццам відушчаму надзелі акуляры.

Працаў па гісторыі горада ў бібліятэцы не знайшлося; замест іх бібліятэкар паказала мне старыя выданні, дарэвалюцыйныя і дваццатых гадоў, з напаўсцертымі экслібрысамі; у сасланых адбіралі кнігі, і так склаліся першыя фонды бібліятэкі.

Пра гісторыю горада можна было даведацца толькі з падшывак газетаў. Газетныя аркушы, далікатныя, як сушаныя водарасці, захавалі іерогліфы мінулай паўсядзённасці; фотаздымкі ператварыліся ў кадры чорна-белых падводных здымак; у іх атрымлівалася нешта распазнаць – кут дома, сілуэт чалавека, але ўсё – скрозь нейкую субстанцыю, каламутную, як вада ля пакрытага глеем дна; погляд унутр фатаграфіі быў поглядам праз шкляное акенца ў шлеме вадалаза – так і глядзі, праплыве глыбакаводная рыба, донны вудзільшчык з пацеркамі, якія свецяцца, на вусіках. Я раптам зразумеў, што гэтая субстанцыя – час, а я і ёсць умоўны вадалаз, які можа гаварыць толькі сам з сабой – шлем вадалазнага скафандра не прапусціць гук вонкі.

Газеты ляжалі перада мной, несумнеўныя як рэч, але яны не пускалі ў сябе; стульваліся калонкамі літараў, мільгалі імёнамі, падрабязнасцямі, датамі, указамі, аб'явамі, святочнымі перадавымі артыкуламі; брыгада Дзюміна перавыканала план па тралёўцы, экскаватаршчык Руцін узнагароджаны ўрадавай узнагародай, на шахце №3-біс пушчаная лінія сепарацыі – газетныя старонкі паведамлялі толькі даўнія навіны, навіны, навіны; навіны ціснуліся, перагаворваліся, падганялі адна адну, іх было так шмат, нібы любая справа рабілася дзеля таго, каб вырабіць навіну, а лепш – дзве ці тры, навіна пра тое, што ранейшая навіна ўжо – не прайшло і дня – састарэла і ёсць паведамленне яшчэ навейшае; газетныя старонкі мільгалі, як хуткі цягнік, у які не ўскочыш з платформы, яны не пакідалі зазору, куды можна было б пракрасціся. І любое прозвішча, любое імя таксама толькі мільгала – калі гэта быў не нарыс пра якога-небудзь вытворцу; тонкі ліст паперы – вертыкальны зрэз часу таўшчынёй у мікрон – складваўся з

іншымі такімі ж, газеты ляжалі тоўстымі стосамі, але часавага аб'ёму ў іх не было; патрэбна была кніга ў яе трохмернасці, кніга як сабраны, нанава спакаваны пераасэнсаваннем час, але кнігі пра горад ніхто не напісаў. "Нас пакуль яшчэ няма на кнігу, – сказала бібліятэкар. – Не нажылі, занадта тонка нас, тонка".

Бібліятэка як ход у мінулае не спрацавала; і нават старыя кнігі з экслібрысамі, вырваныя з адзінства бібліятэк іх ранейшых гаспадароў, здаваліся апушчанымі бадзяжкамі, якія ўжо не памятаюць імя на вокладцы, ідучымі любому ў рукі, любому дазваляючымі сябе чытаць; не рэліквія, не рарытэт – адчуванне каштоўнасці кнігі знікла з іх, і засталіся толькі тамы ў пакарабачанай скуры.

Музей аказаўся яшчэ больш безнадзейным, чым бібліятэка; ён быў занадта новы, гэты музей, і ягоныя стваральнікі занадта клапаціліся мець добрае, дакладнае мінулае; таму ўвесь музей быў інсцэніроўкай, моцным навадзелам: так непатрабавальна і ў той жа час грунтоўна дэкаруюць рэстараны пад даўніну. У цэнтры залы стаяла рэканструкцыя зямлянкі, дзе нібыта жылі першыя пасяленцы, якія заснавалі горад – зняволеных называлі "пасяленцамі"; зямлянку склалі з першагатунковага бярвення, зашклілі нізкія акенцы, дах пакрылі роўным дзірваном; гэта быў гістарычны атракцыён, спроба выправіць сабе радавод.

Пад шклом вітрыны ляжалі кацялок з кансервавай бляшанкі, пагрызеныя пацукамі гумавыя боты праходчыка, іржавы ліхтар, яшчэ нейкія прадметы, сапраўдныя, непадробныя, але, пакладзеныя пад шкло, падсветленыя яркімі лямпамі, яны здаваліся застылымі камякамі бруду з трактарнай каляіны, якія чамусьці выставілі ў музеі. Мінулае не набліжалася, а наадварот, аддалялася, і экспанаты паўставалі як сведчанні нейкай цывілізацыі – зямной ці пазазямной, – да якой мы, тыя, хто цяпер жыве, не датычныя; "глядзіце, у іх там таксама было жыццё" – казалі вітрыны, і рэспектабельнае сапраўднае, саромеючыся нягегласці мінулага, – таму і будавалі зямлянку з самага якаснага лесу, – паказвала годна апранутых першапасяленцаў, спяшалася заявіць, што мінулае – у мінулым, і запіхвала яго туды глыбей, у душны мяшок, у рукаў, у склеп.

Побач з вітрынамі, якія паказваюць гісторыю горада, былі вітрыны з экспанатамі археалагічнымі; самаробная лыжка з дрэва, запальнічка з гільзы – а па суседстве касцяныя наканечнікі стрэлаў і дзідаў, абточаныя камяні-рубілы, іголкі з костак рыб, гліняныя каралі; і было дзіўна бачыць, што, нягледзячы на розніцу ў задуме і матэрыялах, і тыя і гэтыя рэчы аднолькава адстаяць ад нас на няпэўна вялікі час; што яны бліжэй адзін да аднаго, чым да нас.

Зняволеныя трыццатых і саракавых, якія жылі ў земляных норах, перш чым пабудавалі баракі; рыбакі і паляўнічыя неаліту, якія пакінулі ў навакольных гарах малюнкі-петрогліфы, лоўчыя сонца і стырнавыя месяца – яны былі роднасныя паміж сабой у пячорнай цемры, дзе першае пачуццё розуму ёсць пачуццё болю; і мне ўспомніўся даўні знаёмец, стары прафесар-археолаг, які вывучаў неандэртальскую культуру, а потым быў арыштаваны і адпраўлены ў лагер.

Мы пазнаёміліся з ім у тых месцах, куды ён быў сасланы і дзе пасля застаўся жыць; ён ужо займаўся гісторыяй мясцовых плямёнаў, якія засялялі вузкія і доўгія пясчаныя косы сярод тысячаў кіламетраў балотаў. Там у часы, блізкія да нашых, яшчэ ствараўся жыццём народа эпас, і вялікія падзеі эпохі, войны, рэвалюцыі ўпляталіся ў яго ўзор, ператалумачваліся ў

міфалагічнай карціне; Мікалай Другі, Ленін, Сталін ператвараліся ў герояў сярэдзіннага свету, бальшавікі нараджаліся з зямлі; бітвы і змаганні даходзілі сюды, як хваля, якая б'е ў далёкі бераг, прымальны міф апрыходаваў іх без разбурэння ўласнай цэльнасці; план ГОЭЛРО ператвараўся ў бітву за сонца, калектывізацыя – у бітву духаў зямлі і духаў вайны, якія ўзялі ўсе плады зямныя дзеля справы смерці.

Прафесар вывучаў гэтыя плямёны без навуковай адчужанасці, дакладней, не аддзяляў уласнага ўспрымання ад успрымання тых, чыя свядомасць была праяўленая ў вобразах міфа, – ён даследаваў; прафесар казаў, што ён на сабе праверыў дзейснасць, выратавальнасць міфічнага ўспрымання рэчаіснасці, якое пераўтварае яе ў бітву старажытных, поліморфных сілаў дабра і зла, бітву без падзеленасці на ваюючыя бакі. У гэтай свядомасці дабро яшчэ не адасоблена ад зла, яны растуць з аднаго быційнага кораня, лёгка перацякаюць адно ў адно, яны блізкія і брацкія; напрыклад, тое, што ў рэальнасці з'яўляецца злом, уяўляецца дабром – і, перамагаючы, азначае перамогу дабра, хоць на самой справе верх узяло зло. Так, лічыў прафесар, свядомасць ратуецца, доўжыць, дзякуючы міфу, прывідную прысутнасць дабра, тады як погляд без скажаючых лінзаў міфа, погляд у твар татальнасці зла знішчыў бы чалавека.

Але пры гэтым прафесар не забываў даўніх сваіх навуковых інтарэсаў і любіў расказаць, як у лагеры ён, які вывучаў неандэртальцаў, які ўваходзіў у нешматлікія пячоры, дзе захаваліся іх стаянкі, які даследаваў шкілеты, па якіх навукоўцы спрабавалі аднавіць аблічча істотаў, што некалі жылі, – у лагеры ён духоўным пачуццём зразумеў, што тыя, каго ён залічваў да зніклых дзясяткі тысячаў гадоў таму – вакол яго.

І тое, што здарылася ў апошнія гады жыцця прафесара, пераканала яго ў ненавуковай, але ў іншым сэнсе дакладнай гіпотэзе, што неандэртальцы не былі продкамі чалавека, што яны ўяўлялі самастойны падвід і варагавалі з чалавечым родам, што старажытныя антрапоідныя расы не зніклі, яны навучыліся суіснаваць з людзьмі, зрадніліся з імі ў абліччы, але людаедская іх сутнасць засталася ранейшай; што ў гады, калі чалавечае ў чалавеку аддаецца ганьбаванню, гэтая сутнасць выяўляецца, паказвае сябе: людаеды адкрыта прапаведуюць, так бы мовіць, сваё людаедства. Зрэшты, і гэтую гіпотэзу прафесар ужываў як метафару; “так спакайней, чым разумець, што ўсё бачанае мной належыць чалавечай прыродзе”.

У горадзе быў яшчэ і геалагічны музей; галоўнымі экспанатамі ў ім былі мясцовыя пароды, з якіх рабіліся потым угнаенні, і мінералы, якія ўтрымліваюць рэдказямельныя металы.

І тыя? і іншыя былі непрыгожыя – адны толькі непрывабныя камяні, і было дзіўна, што ўвесь горад – дзясяткі тысячаў людзей – паўстаў толькі дзеля таго, каб здабываць гэтыя камяні, зрокава пасрэдныя; гледзячы на мінералы цэрыя або скандыя, ты розумам усведамляў, што ў іх, як прымешак, ёсць гэтыя самыя металы, якія каштуюць надзвычай дарага, але іх кошт быў выключна абстрактны.

Вядома, ты меркаваў у нейкім сэнсе як абывацель, што чакае адчування нагляднай каштоўнасці, якая апраўдала б маштабнасць выдаткаў, – камбінаты, кар'еры, шахты, – але ў той жа час у гэтым абывацельскім поглядзе было нешта вельмі дакладнае; ён як бы падказваў, што праца тут мае нейкае спецыфічнае значэнне і бессэнсоўна пра яго меркаваць па яе плёну.

Нават у вугґлі, вынятым з шахты, спрасаванае шалёнае сонца юры, сонца веліканскіх стварэнняў і хвашчоў, і вугаль, скамянелы торф стара-

жытных балотаў, памятае гэты бляск лускаватых шкураў, памятае жар сонца, якое было маладзей на сотні мільёнаў гадоў, вугаль – нездарма і цяпло, і ежу лічаць на калорыі – здаецца ежай агню, і старажытная павага чалавека да агню робіць вугаль хлебам полымя, чымсьці важкім у справе жыцця. А пароды і мінералы, якія ляжалі ў музеі, нічога не казалі сэрцу, яны маглі стаць чымсьці каштоўным толькі ў ланцужку хімічных ператварэнняў, перамяніўшы некалькі канвеераў, і, здавалася, адкалоўшы такі камень адбойным малатком, шахцёр павінен сябе спытаць – а навошта я гэта зрабіў? – і павінен неяк сябе пераканаць, што праца яго мае сэнс, прыносіць людзям карысць – занадта вялікая адлегласць паміж кавалкам шэрай непрывабнай пароды і выхадам карыснага рэчыва.

Пасля бібліятэкі і музеяў я вырашыў усё ж пайсці на тую вуліцу, дзе жыў чалавек, які пісаў Другому дзеду; не заходзіць да яго, не пытацца пра яго – проста прайсці па вуліцы, як бы выпадкова; ледзь наблізіць будучыню, але не ўваходзіць у яе; убачыць тое, што бачыць – ці бачыў – гэты чалавек кожны дзень, ягоную краму, ягоны тытунёвы кіёск, ягоны прыпынак, ягоны пад’езд; разгледзець – пакуль як проста мінак – вуліцу, якая потым незваротна стане той вуліцай, разгледзець яе вольна, як адну з многіх, і, можа быць, яна нешта падкажа мне, пра нешта папярэдзіць.

У газетным шапіку я хацеў спытаць мапу горада, але зразумеў, што горад не мае патрэбы ў тым, каб бачыць сябе збоку; тут наўрад ці выдадуць мапу, усё і так вядома, усе куты, скрыжаванні, завулкі, двары; тут не глядзяць мапу – тут пытаюцца дарогу; спытаў і я.

Вуліцы, названай у лісце, ніхто не ведаў; людзі ўспаміналі, спынялі іншых, хтосьці нават патэлефанаваў дадому – вуліцы не было; зрэшты, забыць было нядзіўна: вуліца называлася Чырвонакалгаснай, і ў горадзе было яшчэ шмат вуліцаў з чырвоным колерам у назве: Чырвонаармейская, Чырвоных партызанаў, Чырвонага маяка, Чырвоных світанкаў; усе яны не мелі – па назвах – ніякага дачынення да гарадской мясцовасці, выбудаваўшы паралельную ёй сістэму ідэалагічнай касмагоніі, у якой над краінай паўставалі чырвоныя світанкі і чырвоны маяк чамусьці свяціў чырвоным партызанам; у гэтую сетку нерэальнасцяў былі злоўленыя людзі, і яны жылі ў ёй, прамаўляючы назвы і падаўжаючы існаванне фантома. Я ўспомніў падмаскоўны пасёлак, дзе аднойчы гасцяваў на лецішчы і прачнуўся раніцай з дзікім адчуваннем, што я – у Запаветах Ільіча, і сама магчымасць жыць там, казаць “мы – жыхары Запаветаў”, “насельніцтва Запаветаў налічвае...”, жыць у чымсьці двойчы выдуманым, бо Ільіч запаветаў не пакідаў, – была забойчай для яснасці свядомасці, альбо – тое, альбо – гэта. Цяпер я меў справу з тапаграфіяй цэлага горада, пазбаўленага ўласнага голасу, расчэрчанага па трафарэце, і вуліцы перасякаліся, быццам узаемныя спасылкі ў артыкулах найноўшага міфалагічнага слоўніка.

Нарэшце хтосьці ўспомніў, што Чырвонакалгасная была, але потым старыя, адны з першых у горадзе, дамы знеслі, пабудавалі мікрараён “Вясёлкавы”, і вуліца цяпер называлася Першая Вясёлкавая.

Спадзеючыся, што, можа быць, адрасату Другога дзеда далі кватэру ў адным з гэтых новых дамоў, я пайшоў на Першую Вясёлкавую. Там стаялі шматпавярхоўкі, размаляваныя па прыкладзе аднаго вялікага паўночнага горада ў яркія колеры; памаранчавыя, ружовыя, бэзавыя дамы ў дзевяць паверхаў. Яны былі ўжо не новыя – з пабудовы прайшло гадоў пятнаццаць-дваццаць, але весялёнькія фарбы як бы адмаўлялі магчымасць таго, што чалавек з мінулага застанецца жыць тут; у дварах сапраўды не

было відаць старых, яны, падобна, насамрэч не прыжываліся тут, сярод сценаў колеру фруктовай жуйкі; на газонах раслі нізкія дрэўцы, з рэйкамі-падпоркамі, ля дамоў стаялі бліскучыя машыны; дамы былі высокімі – і ў той жа час цацачнымі, несапраўднымі, нібы сабранымі з канструктара.

Для гэтай мясціны гарадскога мінулага не існавала; тут жылі не шахцёры, а кіраўнікі камбіната, гэта яны калісьці выселілі ранейшых гаспадароў Чырвонакалгаснай, задумаўшы свой, асобны мікраён, чысты ад шахцёрскага пылу, і часы ўжо былі тыя, калі можна было змяніць назву з саламянай і гнаявой Чырвонакалгаснай на Вясёлкавую. Уласна, па змене назваў і можна было меркаваць пра стаўленне да мінулага: заязджаючы ў новыя кватэры – справа была ў перабудову – людзі заязджалі ў будучыню, выклікалі яго гэтым найменнем – мікраён Вясёлкавы, – і хай не знайшлося фарбы вымаляваць дамы ў колеры вясёлкавага спектру, затое можна было адасобіцца, легалізаваць сваю касту, і наўрад ці хто бачыў, што мікраён выглядае як лялечная хатка сярод бруднае пусткі.

За крайнімі дамамі мікраёна стаяў яшчэ адзін дом, дакладней, хата – нізкая, вясковая, крытая дранкай, шызай ад моху; яе чамусьці не знеслі. Я пайшоў туды – хата была з ранейшых часоў, яна была аднагодкай лістоў, якія апускаў дзесьці тут у паштовую скрыню чалавек, што пісаў Другому дзеду.

У агародзе абганяла бульбу бабуля; ёсць такія бабулі – васьмідзесяцігадовыя, дзевяностагадовыя, якія даўно страцілі мужоў на вайне ці ў шахце, настолькі даўно, што за гэты час іншыя пасняваюць цалкам, ад нараджэння да смерці, пражыць жыццё. Тое даўняе – замужжа, мацярынства – ужо так далёка, што павінен памерці альбо чалавек, альбо мінулае, і калі чалавек жыве, мінулае паміpае. Бабулі гэтыя з асаблівай пароды – яны не стамляюцца, жыццё для іх толькі як штодзённая справа – капаць, паліваць, абганяць, прапалваць; яны звыкла і адзіна для сябе магчыма запрагаюцца ў гэтую лямку, без надзеяў, без чаканняў, без спешкі. Бо стамляешся тады, калі праца цяжкая і адпачынак далёкі, а яны сапраўды не разумеюць, што такое адпачынак, і ніякая праца не цяжкая ім, бо, каб адчуць яе цяжкасць, трэба ведаць бяздзейнасць, а яны яе ніколі не ведалі. Яны не зараджаныя на працу – такі чалавек у рэшце рэшт таксама стоміцца; яны працуюць так, як дзейнічаюць абстрактныя сілы ў падручніках – націскаюць, цягнуць, надаюць паскарэнне, рухаюцца; ёсць адна конская сіла, а ёсць адна чалавечая сіла – ёй, гэтай адной сілай, яны і жывуць.

Я павітаўся; старая крыкнула мне, каб я сыходзіў – хату яна не прадасць. Я адказаў, што хата мне непатрэбная – я шукаю тых, хто жыў тут дваццаць гадоў таму, калі яшчэ не было мікраёна. Старая адчыніла брамку, правяла ў хату; яна не да канца верыла мне, усё чакала, калі ж я ўсё ж ткі загавару пра куплю, назаву суму, але было і нешта іншае, чаму яна так лёгка перамяніла настрой.

У хаце было царства самаробных кілімчыкаў, капаў, фіранак; на відным месцы стаяла швейная машына, стары “Зінгер”, і здавалася, быццам бабулі дасталася чароўная шпулька з бясконцай ніткай; яна шыла, прала, вязала, а нітка не сканчалася, і бабуля ўжо не ведала, што рабіць з ёй, але баялася спыніць машыну і самапрадку, апусціць вязальныя спіцы: а раптам гэтая нітка – яе жыццё?

На сцяне ў рамцы вісела выразка з газеты, абвітая папяровымі кветкамі – атэістычны ахвярнік; гэтая выразка – бабуля стала казаць пра яе – вызначыла яе лёс. Там, на здымку, была яна, маладая ткачыха, якая

адзіная з усіх жыхароў горада калісьці асабіста бачыла бальшавіка, у чый гонар быў названы горад, і нават сфатаграфаваная з ім; ён прымаў дэлегацыю ткачых-ударніц, узялі і яе, зусім малагадовую, як прыклад працы з моладдзю; потым бальшавік быў забіты, а яна з'ехала ў горад ягонага імя – і ў гэтым горадзе газетны лісток стаў ахоўнай граматай. Пакуль горад меў сваю назву, улада – і савецкая, і тая, што прыйшла пасля – абыходжвала яе; бабуля – гэта мне паведамілі пасля ўжо – распавядала пра бальшавіка ў школах і дзіцячых садках, на гарадскіх сходах і юбілеях; яе ўласнае жыццё было неістотнае, яна стала чымсьці накшталт фотастужкі або грампласцінкі, дзе адбіліся малюнак і голас нябожчыка; бабуля не выдумляла таго, чаго не было; яна працавала відавочцам.

Пры гэтым нікому не прыходзіла ў галаву высветліць, як яна сама ставіцца да чалавека, дзеля чыйго пасмяротнага існавання яна ўрэзала сваё жыццё; і толькі нашмат пазней, ужо ў новы час, даведаліся, што ён саслаў яе бацькоў; але яна працягвала распавядаць пра яго, сведчыць пра тыя восем хвілінаў, што была з ім побач; спачатку з дапамогай газетнай выразкі яна пазбегла лёсу ссыльнай, стала наглядным дапаможнікам для школьнікаў; затым ператварылася ў восем хвілінаў погляду, ва ўрывак кінахронікі – а потым ужо не змагла змяніцца.

Распавядаючы мне пра мінулае жыццё, яна казала так, нібы адчувала, што прыходзіць час, калі яе газетны лісток ужо не будзе нічога значыць, чым бы імем ні называўся горад; яе дом стаяў дзякуючы гэтаму лістку, яе адну не выселілі з былой Чырвонакалгаснай, а цяпер газета ў рамцы з кветак усё больш была падобная да куміра забытага боства; гэты твар, гэты шрыфт – усё было занадта даўняе, і яшчэ больш аддалялася, не забывалася, але губляла сваё значэнне, пераходзіла ў разрад кур'ёзаў, і калі хто даведваўся, што яна бачыла чалавека, чыім імем названы горад, то здзіўляўся толькі таму, што бабуля дагэтуль жывая.

Пачуўшы, што я шукаю кагосьці, старая паспадзявалася, што я прынясу нейкія перамены, што ажыве даўняе стаўленне да яе, вернецца час; але, зразумеўшы, што мой інтарэс іншы, яна, здаецца, пашкадавала, што ўпусціла мяне; сказала толькі, што жыхароў з Чырвонакалгаснай рассялялі каго куды, тут былі самыя старыя дамы ў горадзе, і сёй-той атрымаў добрыя кватэры ў цэнтры, у "сталінскіх" дамах; верагодна, адміністратары камбіната мелі дастатковую ўладу, каб выселіць ранейшых гаспадароў, але абавязаны былі "паважаць" былых, да прыкладу, чыноў лагернай аховы; уласна, збольшага план у гэтым і быў – падзяліць гарадское мінулае і гарадскую сучаснасць, адмежавацца, каб адным было зручней забываць іншых.

Я спытаў нешта яшчэ пра горад, пра тое, дзе шукаць тых, хто пераехаў, чым яны зараз жывуць; бабуля сказала, каб я ішоў да кар'ера – там я ўсё зразумею, і пра тых, хто пераехаў, і пра тых, хто не пераехаў; кар'ер азначаў для яе адказ, які здымае саму магчымасць пытання.

Яна, былая ткачыха, захавальніца чужой памяці, якая пражыла жыццё асобна ад астатніх, абароненая газетнай выразкай на сцяне, адказала мне так, быццам бы я спытаўся ў яе, дзе ўсе яе аднагодкі, дзе яе муж і дзеці – ці былі яны; дзе ўсё яе пакаленне, што яно пакінула пасля сябе, дзе ацалелыя, апошнія, што могуць яны сказаць; адказала – ідзі да кар'ера – і зачыніла дзверы ў хату, бразнула клямкай.

Я зноў пайшоў праз горад; я не шукаў спецыяльна дарогі, а шпацыраваў, утрымліваючы ў галаве агульны накірунак, і зразумеў тое, што прыкмя-

чаў даўно, толькі не знаходзіў словаў апісаць: горад быў спланаваны так, нібы ў ім павінны былі хадзіць строем і паварочваць толькі пад прамым вуглом; адзін чалавек, адзін гараджанін з іррэгулярнасцю яго маршрутаў быў, падобна, занадта дробны для погляду планіроўшчыкаў, у іх не было такой адрознівальнай здольнасці зроку, каб убачыць скрозь план чалавечую постаць; у выніку горад быў рассечаны заводамі, цэхамі, і чалавек – проста чалавек – апынуўся ў ім як бы на нелегальным становішчы.

Я ўбачыў, як "зоны", абгароджаныя плотам з калючым дротам, ці гэта сапраўдны лагер ці прадпрыемства з яго асобым рэжымам, які азначае шмат больш, чым ахову, пропускі і шлагбаўм, уломваюцца ў грамадскую і прыватную прастору, нявечаць яе.

Па сутнасці, горада як горада не існуе – ёсць тэрыторыя, на якой выбарачна дапускаюцца прыватныя інтарэсы, адкрываюцца крамы, школы, дзіцячыя сады, але ўсё гэта толькі неабходная саступка; не на чалавека тут усё разлічана, і таму гарадская мясцовасць нагадвае прагрызеную шашалем бэльку: тут усё беззаконна, наўскасяк, праз пралом, у абыход, міма аховы; тут зрэзаць, тут адсунуць дошку, тут прайсці сметнікам; праз пустку, скрозь дзірку ў плоце, дваром, дваром, збочынай.

Да кар'ера нельга было прайсці проста так, ён ахоўваўся – у тым ліку і на выпадак такіх, як я, проста цікаўных, якія могуць патрапіць пад выбух; але чым вышэй былі платы і болей аховы, тым больш разнастайнымі рабіліся пралазы; мне нават не трэба было іх шукаць – любое месца, праз якое часта пралазяць, выдае сябе, ці сцежкай, якая да яго вядзе, ці выцертымі адзеннем прэнтамі агароджы, адлегласць паміж якімі па недаглядзе трохі шырэй, так што чалавек можа праціснуцца; або слядамі бескарыснай абароны, прываранымі палосамі жалеза, наваленымі бетоннымі бэлькамі, таблічкамі "Праход забаронены"; але і да лабірынта бэлек ішла сцяжынка, якая знікала ўнутры; погляд тых, хто ўзводзіў гэтыя перашкоды, зноў жа не валодаў дастатковай адрознівальнай здольнасцю, і заўсёды знаходзілася шчыліна – укруціцца вужакай, абарваць гузікі, падцягнуцца на руках, але ўсё ж пралезці.

Я сустрэў бадзягаў, якія збіраюць метал; старых, якія ідуць у тундру ў грыбы – дарога да самых грыбных месцаў праходзіла праз тэрыторыю кар'ера; рабочых, якія нешта схавалі падчас змены і цяпер вяртаюцца, каб вынесці; дзяцей – яны ішлі гуляць у вайну; парачку, якая шукае месца дзеля спаткання; усе звыкла праціскаліся, лезлі, перабіраліся, цягнулі з сабой хто кошык, хто выпіўку; бадзягі цягнулі шпулю дроту; іх шляхам прабраўся на кар'ер і я.

Я бачыў такія кар'еры ў Казахстане; але там было горача, паветра над аграмаднай ямінай закіпала, рабілася бялявым, непразрыстым, і нават гук выбуху тануў і глух у ім. А тут, на поўначы, яма кар'ера адкрывалася ўся адразу, перакульвала ў сябе, у пяцісотметровую глыбіню; кар'ер быў люстраным – адносна зямной паверхні – адлюстраваннем Вавілонскай вежы, яе злепкам з пустэчы; віткі кар'ернай дарогі, якая кругамі спускалася з уступа на ўступ, сыходзілі на дно, такое глыбокае і вузкае ў параўнанні з верхнім зрэзам кар'еру, што там толькі некалькі гадзінаў удзень бачылі сонца.

Шэры колер каменя быў падобны да колеру асінага гнязда, у якім акрамя асноўнага тону шэрасці ёсць яшчэ нейкая спецыфічная дабаўка, якая паведамляе погляду, што ў складзе рэчыва, з якога зробленае гняздо, акрамя перацертай драўніны ёсць і элемент, вывергнуты з сябе жывой істотай, – клейкая, цьмяна бліскучая вадкасць.

На скалах кар’ера ляжаў драбнюткі, утвораны ад выбухаў каменны пыл, змочаны вадой і так запечаны; гэтая плёнка, у якой раздробленыя зярняты мінералаў слаба адбівалі сонечныя прамяні, і надавала кар’еру такі колер; пыл пакрываў самазвалы, велізарныя “БелАЗы”, экскаватары з зубчастымі двухстворкавымі каўшамі; тут, дзе не было зямлі, толькі моцны камень, вытанчаны розум чалавека нібы выяўляў сваю драпежную прыроду; у вобразах тэхнікі паўставала гатоўнасць грызці, крышыць, уразацца, змінаць, падрываць; гэты розум – я ўспомніў музей – быў блізкі розуму неандэртальца, толькі на новым вітку развіцця; розум, які злучыў сківіцы шаблязубага тыгра, шыю жырафа, тулава маманта, які стварыў гібрыд – раскрыў пашчу экскаватара; розум, рухомы нейкай ненасытнай, безнадзейнай прагай паглынаць.

Мая свядомасць адмаўлялася прызнаць чалавечым тварэннем гэтую пяцісотметровай глыбіні дзірку ў зямлі, гэтыя звышмагутныя экскаватары, у якіх гранічна ўвасоблена тупая стараннасць металу. Здавалася, што іх стваралі напаўразумныя жывёлы ці насякомыя, у пашане да маштабу на шкоду дакладнасці і тонкасці; істоты, якія не ведаюць індывідуальнасці, якія бяруць заўсёды колькасцю. У гіганцкай яме, у велічэзных грузавіках быў нейкі абуральны, але не артыкуляваны, маніфест, нейкі важкі сімвал; практычны сэнс – здабыча руды – неяк адыходзіў на задні план перад карцінай, якая адкрылася: чалавечыя намаганні, памножаныя магутнасцю механізмаў, зрабілі намаганне ўжо нечалавечае, і кар’ер паказваў сабой аб’ём, меру гэтага намагання.

Напэўна, існуюць прапорцыі, пры парушэнні якіх стварэнне чалавечых рук перастае быць суразмерным чалавеку і, наадварот, абарочваецца супраць яго. Справа была не ў тым, што ў гэтым кар’еры ты адчуваеш сябе парушынкай альбо пясчынкай. Парушэнне прынцыпу супамернасці ў першую чаргу аддзяляе чалавека ад таго, што ён робіць; пазбаўляе яго значнасці ў дачыненні да працы. Уласна, знікае праца як такая, калі разумець пад ёй нейкую жывую сувязь, што ўзнікае паміж працаўніком і плёнам ягонай працы, сувязь, якая ўзаемна ўзбагачае і ўзвышае.

Кар’ер лязгаў, грукатаў, звінеў металам; раўлі самазвалы, бульдозеры, плыў салярны выхлап, шумелі помпы, якія адпампоўвалі ваду; але вынік усёй гэтай працы быў эфемерны: тоны і працэнты, мерныя адзінкі.

І як увесь горад – вуліцы, шыбы дамоў, хлеб і гародніна, выкладзеныя на прылаўкі – пакрываў налёт шэрага кар’ернага пылу, які надаваў яму нешта нежывое, нібы танная пудра з морга, так і празмерная маштабнасць тутэйшай працы пакідала свой след на гараджанах.

Асабліва ясна гэта адчувалася ў канцы жніўня, У Дзень шахцёра. Тут, за Палярным кругам, у гэты час ужо была глыбокая восень. Воблакі колеру ваты з зашмальцаванай ватоўкі павісалі над туманнымі гарамі, пахла блізкай зімой – гэты пах адчувальны толькі на поўначы, дзе восень хуткацечная, і лістота не жоўкне паступова, а за тыдзень выгарае на галінах, як зеляніна, кінутая ў вогнішча, і гэты паскораны распад матэрыі пакідае ў паветры свае флюіды, нюхальныя ноты; паветра перапаўняецца, як раствор, які не ўмяшчае больш раствaральнага рэчыва, і некалькі дзён, напярэдадні снегу, пакуль яшчэ не наляцеў вецер, які прынясе снегавыя хмары, на вуліцы пахне так моцна, што здаецца, гэта ўжо не пах, а дотык: цябе кінулі ў апалую лістоту, і твар уціснулі ботам у зямлю.

І ўвесь горад піў; піў без зухаватасці, без запалу ці нават простай радасці п’яніцы. Бясколерны, як гарэлка, час завіваўся жгуцікам у бутэльцы;

бясколерны дзень стаяў, жудасна, ненатуральна доўжачыся. Бясколерныя людзі ляжалі на вуліцах, а іншыя ішлі міма; распадалася не сувязь словаў – распадаўся сам алфавіт, і чалавек крычаў, мычэў галоснымі, жмутамі гукаў; выяўлены ў гэтых гуках распад свядомасці дасягаў піку. А потым над горадам ўсталёўвалася канчатковая, апошняя цішыня.

У дзень, у які павінна была святкавацца іх праца, іх работа, людзі нібы спаганялі на сабе ўсё, што не маглі спагнаць на кар'еры, у цэхах і трубах камбіната; у дзень легальнага, нават ухваляльнага п'янства ў людзях раптам прарывалася пэўная, сабраная і як бы загадзя вырашаная цяга да самазнішчэння; так зводзіць рахункі з жыццём не здаровы чалавек, а бязногі калека, які ўжо на траціну забіты – і яму трэба забіць толькі дзве траціны сябе, смерць ужо зрабіла частку сваёй працы, і ён бярэцца рашуча і спорна, ведаючы, што яго смяротны шлях на траціну карацей.

Гэта быў апошні, задушаны амаль што ў зародку бунт чалавека; дзясяткі кіламетраў рэек, ангары, трубы, цэхі, азёры-адстойнікі, кар'ер, транспарцёры абагачальных фабрык – усё гэта абступала, раздзяляла горад, і ён быў падобны да машыны пасля лабавога сутыкнення, дзе жывая плоць сціснутая, знявечаная металам. Толькі кар'ер усё павялічваўся, рос у шырыню і ў глыбіню, і ўся праца людзей ішла на тое, каб уласным жыццём, старэннем мускулаў, зносам сэрца памнажаць разяўленую дзірку ў зямлі. Верагодна, менавіта гэтае прырашчэнне страты і было жахлівей за ўсё; здабытая парода перамолвалася, ператваралася ва ўгнаенні, на поўдзень адыходзілі грузавыя цягнікі – але ўсё гэта прысутнічала ў свядомасці толькі назыўным чынам, а перад вачыма, пастаянна, кожны дзень, заставалася толькі дзірка, якая расце, убірае ў сябе працу.

У гарах вакол кар'ера былі ўзарваныя схілы; так патрабавалася, і гэта называлася "зона абвальвання". З любой кропкі горада было відаць гэтае скальнае мяса, якое тырчыць кавалкамі, вывіхнуты, ненатуральна расколаты камень, ссунуты, зрушаны цэнтрабежнай энергіяй выбухаў; зона абвальвання займала тры бакі гарадскога гарызонту, узарваныя скалы згрувашчаныя на схілах быццам бы ўжо за мяжою раўнавагі, у застылым падзенні.

Ёсць карціны, спалучэнні ліній і вуглоў, якія чалавеку супрацьпаказана бачыць: глядзець на іх – усё роўна што жаваць тоўчанае шкло, спрабуючы даведацца, які ў яго смак; яны хваравіта руйнуюць пачуццёвыя факусіроўкі ўспрымання; выгляд зоны абвальвання быў менавіта такой карцінай. Свет пасля катастрофы; свет расколаты, раз'яднаны, без магчымасці сабраць яго зноў; і я ўразіўся, калі зразумеў, што ў кар'еры здабываюць сыравіну, з якой потым робяць угнаенні, і гэтыя ўгнаенні вывозяць на палі; мне ўбачылася, як на гэтых палях узыходзіць бязрадаснае зерне, бо так угнойваць іх – усё роўна што пасыпаць попелам з крэматорыя.

Шэры хлеб майго дзяцінства, хлебныя цагліны на латках у краме, па якія станавіліся ў чаргу за гадзіну да адкрыцця, і чарга была цямней за змярканне; жанчыны ў шэрых хустках, мужчыны ў шэрых паліто, шэрыя ад недасыпання твары і шэры салёны снег гарадской зімы; я зразумеў цяпер, адкуль браўся гэты хлеб, што прывозілі машыны, такія падобныя да "варанкоў"; адкуль бралася гэтая паўсюдная шэрасць – не ў значэнні прыніжальным, а шэрасць як адсутнасць колеру або як колер пылу.

Ты стаяў ля края кар'ера і казаў сабе, што так выглядае пекла; але вобраз пекла, кругоў апраметнай – віткоў кар'ернай дарогі – належаў культуры; ты ратаваўся ёю ад таго, што наўрад ці магло быць апісана

мастацкай мовай, бо кар’ер якраз уяўляў сабой анты-вобраз, адмаўленне вобразнасці як такой.

Ён быў – *зіянне*; кажуць – *зіяючая* рана, і калі адмовіцца ад падрабязнасцяў плоці, можна ўбачыць у ране не абрысы, не форму, а менавіта ўварванне разбуральнай бясформнасці.

Аднойчы на каменнай лаве рымскай арэны я зразумеў, што яна задумвалася як конус прыцягнення поглядаў, які злучае іх, ушчыльняючы ў адну матэрыю зроку, і гладыятары біліся на дне гэтага конуса – ва ўладзе поглядаў; першыя шэрагі гледачоў назіралі бой, адрознівалі байцоў, а тыя, што сядзяць на верхніх шэрагах, адкуль бой рабіўся мільгаценнем кропак, толькі напружвалі вочы – і ўлівалі сваё жаданне разгледзець тое, што адбываецца ў моц конуса.

Кар’ер жа ўбіраў у сябе погляд – і погляд у ім губляўся; ён не сустракаў нічога, акрамя пустэчы, акрамя слядоў працы спусташэння; і немагчыма было справіцца з абсурдам, змясціць у свядомасці *аб’ём адсутнасці*.

Штосьці было зроблена ў гэтым месцы, чаго не варта рабіць; пераступлена нейкая мяжа, якую не варта пераступаць у дачыненні да чалавечай прыроды – і дзірка кар’ера сабрала вакол сябе горад, сцягнула наваколле.

Від кар’ера матэрыялізаваў адчуванне безнадзейнасці жыцця, якое прыходзіць падчас адчаю, пераводзіў гэтае адчуванне ў разрад нагляднага, існуючага ў свеце як рэч; кар’ер не пагражаў нічога паглынуць, не вабіў гібельнасцю, ён проста быў – у тупым пастаянстве дзіркі, самай нязменнай рэчы, і тое, што чалавек часовы адносна яе нязменнасці, было амаль невыносна – для пачуцця, для мужнасці, для цвёрдасці духу.

Я пайшоў ад кар’ера, але мог бы і не сыходзіць; адлегласці тут значэння не мелі. Кар’ер урэзаўся ў свядомасць; раней ты не ведаў, як выглядае свет чалавека – без чалавека; цяпер даведаўся.

На прыпынку аўтобуса – скончылася адна са зменаў – я пачуў, што парода ў кар’еры з кожным годам становіцца ўсё бяднейшай і бяднейшай; ужо даводзіцца працаваць з такім утрыманнем руды на тону пароды, якую раней палічылі б бесперспектыўнай.

Гэта быў яшчэ адзін пункт гледжання – збядненне пародаў, збядненне гарадскога асяроддзя, як быццам бы два гэтыя працэсы былі не наўпрост, але звязаныя. На прыпынку віселі старыя, двухмесячнай даўніны, афішы, і іх не залеплівалі наступнымі; горад быў перагледжаны, як гэтыя афішы, і не прапаноўваў новага; лёс яго невідавочна сплёўся з асноўным заняткам жыхароў – здабываць руду ў кар’еры і ў шахце, якая ўскрывала жылы, што адыходзяць ад асноўнага руднага масіва. Бяднелі з часам пароды – і збяднеў горад, які жыве як фабрыка, і не можа сам, сілай свайго існавання, спараджаць гарадское асяроддзе, і людзі губляліся ў ім, рабіліся папуляцыяй індустрыяльных маўглі; аператары горных машынаў, рабочыя, якія працуюць ля станка, але не ведаюць, што рабіць з сабой, куды сябе падзець, калі па званку заканчваецца змена.

Быў вечар; я ішоў ускраінай горада, паўз склады і гаражы, цесна састаўленыя, яны ляпіліся да суседняй сцяны, быццам без яе пабудова ўпадзе. Тут былі звалкі, зграі бадзяжных сабак – кудлатых, у засохлай гразі і дзядоўніку; кожны гараж, кожны хлеў быў пабудаваны па-свойму, але было адно агульнае: і гараж, і хлеў будаваліся з нейкай аглядкай праз плячо, з некаторай няўпэўненасцю, з адчуваннем, што будаўніцтва не зусім легальнае – ці трэба пытацца чыйгосьці дазволу, ці, можа, і так абыдзецца; і вось гэтае адчуванне, што будынак не да канца верыць зямлі,

на якой стаіць, змыкалася з іншым: усе будаўнічыя матэрыялы былі ці зусім відавочна скрадзеныя, ці прыхопленыя па дарозе, – чые яны, невядома, – ці знойдзеныя як выкінуты хлам. Са спалучэння двух адчуванняў нараджалася трэцяе – адчуванне жыцця, якое не глядзіць само на сябе, якое махнула на сябе рукой.

Гаражы і хлявы прастаялі гадоў трыццаць ці сорак; ужо ўшчыльную да іх падсунуліся пяціпавярхоўкі гарадка, і балконы на іх фасадах – нібы праз паветра пераносіўся архітэктурны вірус – ператварыліся ў тыя ж хлеўчукі, збітыя і зашклёныя на хуткую руку; дамы так доўга глядзелі на хлявы, што набылі іх рысы; людзі ўладкоўваліся ў бетонных скрынках так, як умелі, выгадвалі яшчэ па тры-чатыры метры жыллёвай плошчы, і ў гэтых хлеўчуках-гаўбцах, выпнутых на фасадзе дома, паўставала вартая жалю, амаль што незаконнае прыватнае жыццё, паўсюднае і непрыкметнае, як грыбніца; жыццё, падобнае да чагосьці нізавога, самасеўнага, усёпранікальнага.

Машыну тут куплялі, каб займець гараж; у горадзе, які не ведае, што такое пляж, у горадзе, які можна наскрозь прайсці за гадзіну, машына была толькі родам зімовага адзення, палітом-на-колах. Да цесных кватэраў, дзе адзенне мужчынаў і адзенне жанчынаў змяшчалася ў адной шафе, дзе ўсякая рэч была двухспальнай, як ложак, і ў кожнай кропцы заўсёды было больш, чым адзін чалавек, дзе жылі, як спалі, не адрозніваючы, дзе заканчваешся ты і пачынаецца іншы, – да цесных кватэраў прыплюсоўваўся яшчэ гараж, дадатковае месца, нешта, пры агульнай бясполасці побыту, за выключэннем кухні, якая мае прыкметы полу. Мужчыны хадзілі адзін да аднаго ў госці – у гараж; у гаражы трымалі ўсё тое, што не змяшчалася ў кватэры, ён быў і каморай, і склепам – захоўваць бульбу і саленні; спараджэнне дэфіцыту жылля, апендыкс побыту – гараж, хлеў.

І калі ў гарадскіх пяціпавярховіках была пачварнасць безаблічнай аднолькавасці, то гаражы дзівілі выродствам некалькі іншым; аднастайныя, гранічна функцыянальныя – сцены, дах, вароты, гэта значыць проста карысныя кубаметры, – яны ўсё-ткі трохі адрозніваюцца; кожны будаўнік спрабаваў па-свойму зрабіць якую-небудзь асобную дэталь: не так, як у іншых, прымацаваць трубу, выгнуць яе па-асабліваму, нарасціць невялікую павець над уездам, прыварыць жалезны вугалок над правушынамі замка, каб не сарвалі ломікам – і гэтыя малыя адрозненні рабіліся нясцерпна прыкметнымі. Дадаючыся адзін да аднаго ў поглядзе, яны паўтараліся як спроба чымсьці адрознівацца – пры адсутнасці на тое магчымасці; трубы з конусападобнымі капялюшыкамі раслі на гаражах, як паганкі на драўлянай калодзе – зверху, з бакоў, і стваралася адчуванне, што люфт верагодных адрозненняў аднаго чалавека ад іншага ляжыць у агульных межах недагляду, эстэтычнага расфокуса зроку. Адчувалася, што тутэйшае жыццё амаль цалкам змяшчаецца ў гэты зазор; што нуда тут больш звыклая за тугу, бо туга адсылае да чагосьці, чаго няма ў рэальным жыцці, а нуда сцвярджае, што і сумаваць жа няма па чым: нідзе нічога няма, усюды тое ж самае.

Я вырас у гэткім жа месцы; там быў клейстэрны завод, куды ішлі па разбітай дарозе грузавікі са скатабойняў, якія везлі прыкрытыя пабурэлым брызентам косткі. Грузавікі трэсла, косткі выпадалі на дарогу, і ўздоўж усёй трасы ляжалі ў пыльных кустах сабакі – чакалі маслоў; часам няспрытны, пастарэлы або паранены ў бойцы сабака марудзіў і трапляў пад колы; заставаліся цёмныя вільготныя палосы на асфальце.

Зімой да грузавікоў, якія ішлі на завод, далучаліся іншыя, якія везлі

снег на снегаплавільны пункт, які знаходзіўся пад нашымі вокнамі; снег выпадаў, снег быў прыгожы – але там, за плотам снегаплавілкі, ён ляжаў брудны, плямісты, звалены, як непрыдатныя шкуры на бойні, і ўсю зіму я бачыў абсурдную, падобную да ціхага звыклага вар'яцтва, транспарціроўку снегу на плаўку.

Машыны везлі снег, машыны везлі косткі, машынаў чакалі сабакі, якія жылі зімой ля печаў снегаплавілкі, і ўся акруга чагосьці чакала.

Чаканне гэтае, як нейкае таемнае галасаванне, прызначыла двух геніяў месца, двух яго вечных насельнікаў.

Бабуля, якая прыходзіла да крамы са сваім старым катом у кошыку і паказвала яму – людзі выносілі набытыя прадукты, – чым яна магла б яго карміць, калі б ёй павялічылі пенсію; і дзед – ён па раніцах збіраў бутэлькі, а потым на атрыманыя капейкі выпраўляўся ў кіно, глядзеў адзін і той жа фільм па дзесяць разоў; усе чакалі, усе таемна спадзяваліся; і я сам думаў, начытаўшыся шпіёнскіх дэтэктываў – раптам з самалёта да нас памылкова скінуць мех з адзеннем, грашыма, зброяй і дакументамі, упакоўку з іншым лёсам.

У акрузе было шмат таполяў, і летам вецер ганяў уздоўж тратуараў шары шэрага пыльнага пуху; пазней, у казахстанскай пустыні, я ўбачыў шары перакаці-поля, чысты апафеоз геаметрыі – шар, які коціцца сам па сабе па бясконцай плоскасці – і спазнаў у пустыні бясконцасць нудоты як абыякавага паўтарэння жыцця. Я зразумеў, што ўжо адчуваў гэта пачуццё – яно было фонам дзяцінства: машыны з косткамі, машыны са снегам, бадзяжныя сабакі ля дарогі, камякі пуху ля тратуара, якія нясе вецер.

Справа не ў тым, што ў гарадскім раёне майго дзяцінства не адбывалася нічога новага; горш было тое, што ў ім не аказалася нічога старога: дамы яго, пабудаваныя, каб рассяліць інтэрнаты, камуналкі і пакоі, дзе жылі ўвасьмёх на васьмі метрах, пачалі разбурацца з самага моманту пабудовы; вартасцяў узросту не было ў іх. І жыццё не доўжылася, а кульгала, нікуды не прасоўваючыся.

Цяпер, у паўночным горадзе, я нібыта вярнуўся ў дзіцячыя гады; я пазнаў гэтыя заблытаныя дворыкі, разгароджаныя бялізнай, паветкі для гульні ў даміно, пясочніцы – і тут жа, па суседстве, гаражы і хлявы; усё так перамяшалася, зліплася, урасло адно ў другое, што я падумаў: а не выпадкова ж самым прыцягальным месцам дзяцінства быў цір – сіні вагончык за кінатэатрам. Там заўсёды была доўгая чарга, і па тым, колькі народу стаяла ў ёй, – пяць капеек пулька, рухаюцца падвешаныя да столі мішэні, зайцы, кабаны і ваўкі, – можна было ўгадаць, што цір адказвае нейкай асаблівай патрэбе; людзі жылі сярод платоў, падваротняў, глухіх двароў і хадзілі ў цір глынуць прамізны ліній, убачыць яснасць мэты.

Аднойчы я паехаў у мясціны былога жыцця, дзе не быў ужо два дзясяткі гадоў. Вуліцы, дамы, двор – усё здалося мне надзвычай маленькім, гаротным; можна было выказаць здагадку, што я даўно вырас і тое, што некалі было аграмадным, цяпер выявіла свае сапраўдныя памеры. Але гэтае тлумачэнне чагосьці не ўлічвала, яно зыходзіла з нейкай сухой матэматыкі развіцця; і я падумаў, што часам дзіцё вымушанае бачыць не тую геаметрыю прасторы, якая ёсць, а тую, якую яно стварае ў сваім поглядзе, выбудоўваючы перспектыву, задаючы аб'ём там, дзе ўсяго гэтага ў рэальнасці няма.

Я зразумеў, што ў тым двары, сярод тых дамоў я ў дзяцінстве проста не змог бы жыць – яны былі занадта нязначныя духоўна і зрокава нават

для дзевяцігадовага дзіцяці, і перабольшвальная метамарфоза, якую я, дзевяцігадовы, вырабляў з імі, паўстала перада мною як неабходнасць самавыратавання і самазахавання.

Я ішоў паўз хлявы і гаражы; мне трэба было даведацца, убачыць гарадок з адваротнага боку, прайсці тымі сцежкамі і дарожкамі, якімі хадзілі ягоныя жыхары, каб узнавіць малюнак іх перамяшчэнняў – так абжываецца, прысвойваецца месца; у пятнічны вечар ля гаражоў выпівалі, разаслаўшы газетку на капоце машыны або на якой-небудзь скрыні; іграла музыка – няўцямная музыка, якую я ўжо чуў у таксі; сутнасць была не ў мелодыі – у танных галасах, мужчынскіх, жаночых.

Голас, чалавечы голас – каштоўнасць; у яго ёсць музыка, але зусім не ў сэнсе меладычнасці: гэта здольнасць пачуцця гучаць, абмінаючы пасрэдніцтва словаў. І калі голас змаўкае, нешта, што было ў ім як бы ўнутры гуку, застаецца ў паветры, і гэтая прысутнасць, якая саму сябе падтрымлівае, настолькі відавочная і настолькі невытлумачальная, што здаецца: гук яшчэ доўжыцца ў месцах, недаступных для слыху рэгістраў, прымушаючы адказваць яму на самай мяжы ўспрымання і за ёй, быццам нам даступная толькі малая частка нашых пачуццяў; напружанне, якое ўзнікла на месцы гуку, рассоўвае межы ўспрымання, адкрываючы нам, наколькі глыбокім быў бы смутак і якой вялікай радасць, калі б мы маглі адчуваць іх такімі, якімі яны ўжо ў якасці магчымасці ёсць у нас.

Танныя галасы – спевакі і спявачкі спявалі пра каханне, расстанні, сустрэчы, пра доўгія тэрміны, пра турму, спявалі, быццам напярэдадні пераезду звальвалі ўсе рэчы ў адну гару, не разбіраючы, што – хлам, а што патрэбнае. Людзі пілі і елі пад гэтыя галасы, недзе смажылі шашлык; гаражы і хлявы ўжо скончыліся, пачаўся вытаптаны рэдкі лясок, дзе на кожнай паляне было вогнішча.

І раптам у гэтым ляску я пачуў іншыя галасы – хтосьці проста перагаворваўся, каму колькі наліць, каму перадаць сасіску, даць вугольчык прыкурыць, але гэтая простая размова гучала без пустых інтанацыяў, якія прыкідваюцца, быццам яны нешта азначаюць.

Я звярнуў з дарогі і ўбачыў пяцёх мужчынаў, якія сядзяць на бярвёнах. Адзін, зусім стары, напластаў ножыкам каўбасу і ўваткнуў нож сабе ў нагу – ніхто не тузануўся, усе ведалі, што нага драўляная; другі – таксама стары – сядзеў абыякава-задумліва, абапершыся на кульбу з аўтобуснага поручня, і на лінялай ягонай спяцоўцы былі прышытыя веласіпедныя катафоты; трэці, са шнарам праз увесь твар, парослы свіным воласам, разліваў па шклянках гарэлку, чацвёртага я бачыў са спіны, ён сядзеў занадта нерухома, як быццам быў паралізаваны, а пяты, наадварот, троссе, падскурны жыўчык бегаў па ўсім ягоным целе, і рысы твару пераміргваліся адна з адной, крыўляліся адна адной, левае брыво дражніла правае.

У кожным з іх пазнавалася шахцёрскае мінулае; гарызонт для шахцёра – працоўны тэрмін; каб дасягнуць гарызонту – аднаго з многіх, – трэба спусціцца ў шахту, і часцяком шахцёры дзесяцігоддзямі працуюць у адным гарызонце, абмежаваным для іх канцом забою; іх гарызонт – тупік, і людзі б'юцца з каменем у гэтым тупіку, але ён толькі адступае, не перастаючы быць тупіком, і праца ў забоі – хай на паверхню і падымаюць здабытую руду, – праца, якая не мае ў сабе выхаду.

Гарызонт жыцця, падземны, цёмны гарызонт, штодзённы спуск у горныя тоўшчы, туды, дзе ўжо цёпла ад спякоты глыбіняў, спуск па доўгай вертыкалі; людзі, якія працавалі ў шахце, нібы трымаюць неба на плячах:

цела памятае пра ціск каменных тоўшчаў, адчувальны спінным мозгам. Цяжкія мышцы, цяжкая хада – яны нібы свінец і плаціна ў табліцы элементаў, яны абцятыя гэтым ціскам, выпеставаныя цемрай. Падземныя хадакі, раз у суткі атрымліваюць у лямпавым пакоі налобны ліхтар, што вытрымлівае ўдар каменя, якога не вытрымае цела, – людзі, якія жывуць у двух светах, гэтым і тым, людзі, чый штодзённы шлях па зямлі карацей, чым шлях пад зямлёй – бакавыя штрэкі шахты бываюць некалькі кіламетраў у даўжыню, і шахцёры ідуць пад сваім домам, пад горадам, пад яго ўскраінамі, ідуць скрозь камень, дзе ёсць толькі кратовыя норы штрэкаў і вертыкальнае жарало шахты – яе глотка, адзіны шлях наверх.

Усе пяцёра калісьці былі шахцёрамі, працаўнікамі падзямелляў; усе пяцёра ў розны час патрапілі пад абвал. Цяпер, верагодна, яны трымаліся разам – напаўкалекі, занадта моцныя, каб загінуць; шахта выкінула іх як шлак, абломкі, аднак сілы іх целаў хапала яшчэ на доўгае жыццё – жыццё пасля абвалу, – і яны збіраліся тут, у лясочку, адкуль былі бачныя кар'ер, шахтавы двор, будынак самой шахты, тэрыконы адвалаў; здаецца, шахта прыцягвала іх, выманьвала на гэтае месца.

Мяне заўважылі, папрасілі цыгарэтаў; я даў, мне прапанавалі выпіць. Гарэлка цёплым смаўжом апусцілася ў страўнік; мяне спыталі, хто я і адкуль – без цікаўнасці, у мяне было дзве нагі, а не адна; я сказаў, што шукаю хоць якія-небудзь сляды чалавека, якога даўно няма – і назваў прозвішча Другога дзеда.

Яны прамаўчалі, гэтае спалучэнне літараў ніяк не кранула, не ўсхвалявала іх. Вядома, я не чакаў, што выпадковыя суразмоўцы ў ляску на гарадской ускраіне апынуцца знаўцамі біяграфіі Другога дзеда, што загадка ягонага лёсу вырашыцца так проста, аднак усё ж я замёр: я ўпершыню падумаў пра тое, што, можа быць, пра Другога дзеда ўжо ў прынцыпе немагчыма што-небудзь даведацца, што я – адзіны, хто трымае ў галаве частку з усіх звестак пра яго, а астатняе ўжо тройчы знікла, рассмакталася альбо існуе па-за сувяззю з ягонай асобай, напрыклад, проста як рэчы, якія немаведама адкуль узяліся, рэчы-сярод-рэчаў; у чыёй-небудзь камодзе ляжыць фотакартка, на паліцы стаіць кніга, у буфеце – кубак, і ніякая воля, ніякое прасвятленне не злучаць іх, не прымусяць апазнаць адна адну і сведчыць.

Я маўчаў; мяне спыталі, навошта мне гэты чалавек, які так даўно і так надзейна памёр, хто я – унук, праўнук, далёкі родзіч, журналіст, проста цікаўны? Я адказаў, што спадзяюся зразумець, навошта мне ён, калі нешта пра яго даведаюся; я яшчэ раз вымавіў імя і прозвішча Другога дзеда – ад безнадзейнасці, бо ўбачыў сябе збоку: за гаражамі, сярод бярозавага дробналесся, з відам на шахту, у адвольным месцы, з выпадковымі людзьмі, у канцы тупіка; чалавек са шнарам паклікаў бязногага – паспрабуй успомніць, ты ж усё ведаеш; паспрабуй!

Бязногі быццам прачнуўся, паглядзеў з загадкавым бляскам: то ты кажаш, што трэба ўсё забыць, а цяпер вось – што трэба ўспамінаць; аднак астатнія пачалі яго ўгаворваць – падобна было, што яны забаўляліся часам, упрошваючы старога – так раскручваюць ваўчок на карце, каб ён спыніўся ў якой-небудзь кропцы, – успомніць што-небудзь наўздагад, і тым перамагалі агульны жыццёвы інтарэс, які не знаходзіў сабе ежы ў штодзённасці..

Як я потым даведаўся, стары з драўлянай нагой загадваў архівам рудаўпраўлення. “У архіве як у штольні, – сказаў ён мне, – толькі замест каменю папера”. Кожная тона руды, здабытая ў кар'еры і шахце,

спараджала лічбы, руда патрабавала атраманту, фарбы для друкаваных машынак – і паперы; лісты чарцяжоў, працоўных планаў, справаздачаў, пратаколы тысячаў пасяджэнняў і тысячаў камісіяў асядалі ў архіве, ушчыльняліся, спякаліся за дзесяцігоддзі ў груды паперы; у гэтыя лісты рэдка хто зазіраў, але канцылярскія ўстаноўкі прадпісвалі захоўваць іх, і ў архіўных скляпеннях папера займала ўсё больш месца, праходы паміж шафамі і стэлажамі звужаліся, святло лямпаў са столі ўжо не асвятляла ніжнія паліцы і далёкія закуткі; архіў сапраўды стаў падобным да горнае выпрацоўкі.

Загадчык архіва прымаў раз у квартал новыя дакументы, а ўвесь астатні час вёў вайну з пацукамі; пацукі, нібы іх прыцягваў пах папяровага тлення, пралазілі ў падвал па трубах, прагрызалі драўляныя перакрыцці, дзверы, спрабавалі ўскочыць у кішэню спяцоўкі, калі стары спускаўся з агульных памяшканняў у свой працоўны кут; напэўна, пацукоў вабіла цяпло падвала, цяпло папяровай трухі, у якой так добра зладзіць нару, выслаць яе папяровай ірванінай і вывесці пацучанятаў, але здавалася, што яны ненавідзяць паперу як такую. Жывёлы бедстваў і нягодаў, войнаў і рэвалюцый, жывёлы часу ліхалецця, яны быццам адчувалі, што архіў – гэта склад мінулага, хай гэтым мінулым і былі толькі зводкі здабычы руды, і імкнуліся знішчыць, спаскудзіць, парваць паперу і вывесці такіх жа пражэрлівых нашчадкаў.

Стары заляпляў цэментам хады, прыпудрываў атрутай зацішныя куты, ставіў самаробныя пасткі; ён баяўся – пра гэта, смеючыся, сказаў шахцёр са шнарам, – што пацукі згрызуць яго драўляную нагу, калі ён засне ад стомы ў падвале, і ён ужо не выберацца наверх. Але то быў смешны страх, і стары сам смяяўся – бітва з пацукамі дала яму сэнс існавання, і, можа быць, астатнія нават зайздросцілі яму. Наверсе, у надземных паверхах рудаўпраўлення, працавалі інжынеры, геолагі, маркшэйдэры, начальства; там перадавалі з рук у рукі пробы руды, спрачаліся пра запчасткі для “БелАЗаў”, заказвалі вагоны выбухоўкі, планавалі, крэслілі схемы – а ўнізе ў скляпеннях горны інжынер на драўлянай назе, які трапіў некалі пад абвал у шахце, адбіваў атакі пацукоў, і яму здавалася, што верхнія паверхі трымаюцца, стаяць толькі дзякуючы яго барацьбе. Будынак рудаўпраўлення быў пастаўлены на падмурку з паперы, і стары, які захаваў тое пакланенне перад ёй, якое ішло з даўніх гадоў, калі яна як рэч яшчэ ўяўляла сабой каштоўнасць незалежна ад напісанага і яе з’яўленне дзенебудзь у сяле, у вёсцы заўсёды азначала нейкае дзеянне лёсу, – стары, які ведаў цану ўваходным і выходным, самааддана захоўваў архіў; па гэтых грыфах, шапках, росчырках, па радках здабычы можна было аднавіць архітэктоніку лёсаў, ходу часу.

Я яшчэ раз назваў старому прозвішча Другога дзеда; ён задумаўся, нібы ў думках прыкінуў, у якой шафе шукаць дакументы.

“Ён быў начальнікам лагера, – сказаў стары, памаўчаўшы. – Тут яшчэ не было горада, а толькі лагер, кар’ер і шахта. Ён і начальнічаў над усім гэтым. Пятнаццаць тысячаў чалавек. Дзве тысячы аховы і вольнанаёмных, астатнія – зняволеныя. Ён доўга быў начальнікам, гадоў дзесяць, з першага барака да першых дамоў. Потым нешта з ім здарылася, не памятаю што. Мяне яшчэ не было, я па дакументах ведаю і па расказах. У мяне папераў з таго часу амаль няма, яны па ведамаснай прыналежнасці захоўваюцца”.

“Мяне адзін раз запрашалі *туды*, – дадаў ён, захіхікаў. – Ім патрэбна была нейкая даведка пра будову камбіната. Ведаеце, што *там*? Такі ж

архіў, як у мяне, толькі большы. Завалы паперы. Яна доўга жыве, папера. І яны сядзяць там, круцяць свае разводкі, не чалавек, адно пасведчанне – але сядзяць на гэтай паперы, на мінулых справах".

Я ўспомніў *той* будынак; у гарадку знаходзіліся сакрэтныя вытворчасці, і ў ім павінен быў быць філіял канторы – *там*; я не пайшоў туды пытацца пра Другога дзеда. Будынак быў у канструктывісцкім стылі – шэры куб з унутраным дваром і прамавугольнай шыбеніцападобнай аркай; здавалася, што куб гэты надзелены асаблівым нежывым жыццём, і калі яго карміць, дом вырасце, пашыраючыся гранямі, па метрыцы Дома на набярэжнай, складу лёсаў, а потым ад яго аддзеляцца кубы паменш. Нешта было ў гэтым доме, у маленькім унутраным двары, закрытым чыгуннымі кратамі-варотамі – нешта ад турмы і ад крэматорыя адначасова, ад двух месцаў, дзе чалавек ужо не належыць сабе; але тое казала архітэктура, задума ранейшых гадоў, а цяпер – стары меў рацыю – дом быў моцны толькі паперай, якая захоўваецца ў ім.

Вядома, цяпер, праз два дзесяцігоддзі, як скончылася ранейшая ўлада, сярод справаў у кардонных папках не было нічога агаломшвальна новага; выйшлі кнігі, адкрыліся – часткай – цэнтральныя архівы; але сутнасць і была ў тым, што ўсе гэтыя справы не ўбачылі святло ў нейкі ўнікальна дакладны момант гісторыі, у той адзіны час, калі яны маглі нешта перавырашыць; не абавязкова перавырашылі б, нават хутчэй не, чым так, але – маглі б. А цяпер гэта была толькі мёртвая папера; ніякай д'ябальшчыны, ніякага арэолу жаху вакол той канторы – адны мёртвыя паперы; у архівах ляжала апошняе, што засталося ад людзей, ляжалі аркушыкі з прысудамі, і кантора нават давала зірнуць на іх, дазваляла зняць копію, але самі аркушыкі пакідала ў сябе, як купчыя або закладныя; кантора і пасля смерці валодала гэтымі людзьмі, тагасветнымі прыгоннымі; кантора апынулася – без іроніі – адзіным гаспадаром сонмаў душ.

Усе пяцёра былых шахцёраў глядзелі на мяне; цяпер я не мог, нават калі б захацеў, проста так узяць і з'ехаць адсюль. Тое, што здарылася з імі, – абвал, раны, жыццё калек, – здарылася і са мной; і справа была ўжо не ў тым, што кроў Другога дзеда, які паклаў пачатак гэтага месца, – у маёй крыві; я паехаў сюды, каб пазбавіцца ад ценю Другога дзеда, паехаў, здагадваючыся, што прыкладна даведаюся, хоць і не бачыў у Другім дзедзе начальніка лагера; паехаў, унутрана аддаліўшыся ад месца і яго людзей, і глядзеў на тых, хто жыве тут, толькі пад адным вуглом: што яны могуць паведаміць мне. А тут была пякельная дзірка ў зямлі, і былі пабітыя абвалам калекі; і нельга было што-небудзь даведацца абыякава, трэба было спачатку адказаць на пытанне – а хто ты сам, – перш чым пытацца пра Другога дзеда; трэба было ўстаць пад абвал, выклікаць яго на сябе, застацца тут, нават у думках не спадзеючыся пазбегнуць чаго-небудзь – і толькі тады табе адкрыецца нешта, бо ты сам станеш часткай таго, што адкрыецца.

Назаўтра – вечар я правёў там, у ляску, пару разоў, як малодшы, збегаў па бутэльку, выпіваў і слухаў пра тое, як расла шахта, як павялічваўся кар'ер, – я пайшоў шукаць новы адрас чалавека, які пісаў Другому дзеду. На вуліцы мне падказалі, што ў горадзе ёсць стол знаходак, а пры ім – адраснае бюро.

Яны змяшчаліся ў старой вадакачцы; чырвонацагляная, з востраверхім нямецкім капелюшом з фарбаванай у цёмна-зялёны колер бляхі, вадакачка была калісьці пабудавана ля паравознага дэпо, цяпер там размясціліся га-

ражы, а вадакачку чамусьці аддалі міліцыі. З вузкімі акенцамі, з накладнымі цаглянымі зубцамі, яна была падобная да крапаснай вежы, якая згубілася ў геаграфіі; усярэдзіне было прахалодна – цэгла набрыняла холадам вады з глыбокай свідравіны.

Сталом знаходак і бюро загадваў адзін чалавек – міліцэйскі капітан са звычкамі злодзея-кішэнніка, худы, высокі, увесь нейкі хрушчападобны, перацякалы, не можа стаяць спакойна, быццам бы ўмее быць у двух, трох месцах адразу; добра ж яму было сярод згубленых кашалькоў і доўгіх вузкіх шуфлядаў з адраснай картатэкай: горад губляў рэчы, у горадзе губляліся людзі, і па любую страту прыходзілі да яго, а ён сядзеў з выглядам, быццам сам украў страчанае, сам сцягнуў кудысьці чалавека – і сам, паводле пасады, садзейнічае пошуку.

Капітан павёў мяне па вінтавой лесвіцы ўніз, у былую помпавую; там цяпер захоўваліся рэчы і адрасныя карткі. Па дарозе ён паспеў паскардзіцца, што сёння стол знаходак ужо не той, – ён вымавіў “стол знаходак” з асаблівай інтанацыяй, як “стол был яств”; раней, сказаў капітан, прыносілі больш, хто што на вуліцы падняў, а цяпер толькі калі ў аўтобусе сумку знойдуць і выклічуць міліцыю праверыць, ці не бомба, – такую сумку здаюць, а ўсё астатняе – не.

Вядома, капітан прыхлушваў: мы ішлі паўз груды незапатрабаваных рэчаў, нейкіх пыльных чамаданаў, вытрыбушаных партманэ, “дыпламатаў”, жаночых сумачак; трапляліся касметычкі, рулон рубероіда, міні-халадзільнік для пікніка, некалькі тубусаў для чарцяжоў, дзіцячыя вазкі, горныя лыжы і нават канькі; цацачны пластмасавы конік на колах, бітоны – браць малако ў разліў, вёдры, каляскі, мяшок цэменту. Усё гэта было падобна на прылазнік таго свету, куды людзі доўга ішлі, абрастаючы скарбам, а тут усё гэта давялося пакінуць. І рэчы стаялі, збіўшыся ў груды, як авечкі без пастуха, і здавалася, калі свісне ім хтосьці – самі сабой пакоцяцца на свіст вазкі і каляскі, у якія наб’ецца астатні хлам, пакавыляюць палкі і мыліцы, паедуць лыжы. Рэчам было боязна: іх кінулі, і цяпер яны, старыя, выйшлі з моды і не ведалі, што з імі будзе; я інакш зірнуў на капітана: разумее ён ці не, якую службу нясе? Страчанае ва ўсім горадзе сабралася тут, і было нешта горкае ў тым, што яно – не заўважанае; што прасцей не змірыцца нават, а наогул не надаваць значэння факту страты, хоць зніклае, аказваецца, можна адшукаць, вярнуць.

Пакуль капітан корпаўся ў сваіх скрынях, каб знайсці адрас карэспандэнта Другога дзеда – калі ён жывы, – я думаў пра гэтыя рэчы; калісьці, сам-насам з жанчынай, я раптам зразумеў, што мы з ёй – стомленыя людзі, якія з жалем глядзяць на сваё цела, і ў нашых абдымках ёсць гэты прысмак жалю; мы пражылі столькі, што з прадметаў мінулага ў нас засталося толькі цела: іншы горад, іншая кватэра – цела жыве даўжэй за сучасныя рэчы, разлічаныя на нядоўгі век. І так і хочацца яму сказаць: вось мы і засталіся адны, сябра; вось мы і засталіся адны... Я думаў пра рэчы – і пра адзіноту чалавека сярод іх; пра тое, што чалавека можна апісаць як набор яго значных рэчаў – але калі нехта іншы апынецца перад гэтым наборам, што будзе ён рабіць: складаць галаваломку з наручных гадзіннікаў, партсігара з гравіроўкай “Ад таварышаў па службе”, заручальнага пярсцёнка і прабітага кампосцерам білеціка? І вось я стаю сярод страчаных рэчаў, а мне патрэбны толькі чалавек – той, хто можа ведаць, памятаць; я не веру рэчам.

Капітан сказаў мне адрас; той, каго я шукаў, сапраўды пераехаў з

Чырвонакалгаснай. Потым ён прапанаваў паглядзець знаходкі – раптам што спадабаецца, тады можна купіць; накшталт таго, як у ламбардзе, сказаў капітан. Я адмовіўся; асабліва ён сватаў мне забыты кімсьці ў аўтобусе спінінг; ён круціў перада мной вызалачаную па краях блешню з кручком-трайнікам, паказваў, як яе заглотвае рыба; спінінг быў зусім неважнецкі, самаробны, але капітан ўлічыў і гэта, склаўшы гісторыю, быццам такія на першы погляд нягеглыя снасці і ёсць самыя лепшыя; капітан быў трапло, ён сядзеў сярод хламу, прыгандлёўваў барахлом і чакаў удачы – раптам які дурань прыцягне яму нешта сапраўды каштоўнае; каля дзвярэй нам насустрач трапіўся наступны наведнік, які прынёс нешта пад пахай; капітан замітусіўся, паспяшаў мяне вывесці – напэўна, прынеслі крадзенае на продаж. Я даў капітану грошай – ён ажывіўся, кінуў ужо мяне прыспешваць – грошы, атрыманыя як хабар, зраўнялі мяне з астатнімі ягонымі візіцёрамі, усталявалі паміж намі адносіны – я даў, ён узяў – і ён, падобна што, яшчэ вырашыў бы пазнаёміць мяне са зладзюжкам – ад нуды, паглядзець, што выйдзе.

На вуліцах было сонечна; у гарадской адміністрацыі са спазненнем на паўтара месяца запусцілі фантаны – трубы яшчэ не прачысціліся, і да неба ўзлятала іржавая мутная вада; я купіў марожанага, і тут мяне нагнаў капітан. “Абед, – сказаў ён мне. – Паабедаем?”

Мы зайшлі ў кавярню; за ежай капітан як бы блытана, а на самой справе асцярожна стаў мяне выпытваць, навошта я шукаю таго чалавека; потым, бачачы, што я не разумею, куды ён хіліць, капітан выказаўся больш пэўна: у гэтым горадзе ў многіх старых шмат грошай; калі хто, напрыклад, займаў высокую пасаду па гаспадарцы, то выходзіў у адстаўку мільянерам; падрады, разлікі, падмененыя дакументы, пушчаныя налева будматэрыялы – тут было дастаткова спосабаў разбагацець, камбінат быў занадта вялікі, занадта цёмны і заблытаны нават для кіруючых ім, і “шмат хто, шмат хто” – так паўтарыў капітан – здолеў правільна распарадзіцца пасадай. І калі я, скажам, шукаю такога чалавека, кімсьці яму даводзячыся, на нешта разлічваючы ў сэнсе грошай, то мне варта загадзя абзавесціся тут сябрамі.

Капітан як бы між іншым распавёў, што аднойчы ў яго пытаўся адрас малады піжон, ён прыехаў па спадчыну, але, на жаль, не атрымаў яе – нешта з ім здарылася. “Адрас я яму даў, – сказаў капітан, – а вось абедаць са мной ён не пайшоў, адмовіўся”.

Хутчэй за ўсё капітан хлусіў; ён хлусіў, як еў – не клапоцячыся пра смак ежы, спяшаючыся прапхнуць у глотку і адкусіць яшчэ; па сутнасці, ён жаваў цэннікі, глытаў рублі, ён хацеў дарага паабедаць – за мой кошт; ён быў баязліўцам, капітан, ён звыкся жыць з аглядкай, перабівацца дробяззю; я заўважыў, што ў чамаданаў і сумак у стале знаходак былі ўспораныя бакі – гэта капітан разрэзаў швы лязом: ці не зашыта што ў падкладцы? Гэтак жа ён прамацваў і мяне; але было зразумела, што капітан не адзін, што ён можа паведаміць камусьці яшчэ, павярнуць справу так, быццам я сапраўды – будучы спадчыннік.

Тлумачыць капітану, што я шукаю толькі чалавека, які мог бы расказаць мне пра былога начальніка лагера, называцца гісторыкам або журналістам было позна; я адчуваў, што капітан паверыў ужо таму, што прыдумаў пра мяне, ужо ўмацаваўся ў здагадках і фантазіях, і любая спроба назвацца кімсьці іншым, чым шукальнікам спадчыны, толькі прымусіла б яго падазраваць, што я хачу збіць яго са следу. Капітан так доўга чакаў сярод старых сумак, сярод скрыняў картатэкі, адзін у сваёй разбойніцкай вежы,

так доўга скупляў анучы, крадзеную тэхніку, усё па дробязі, усё цішком, што цяпер убачыў ува мне адзіны, бліскучы, каштоўны шанец. І я зразумеў, што ён, верачы сваім здагадкам, атэстуе мяне змоўшчыкам як багатага спадчынніка, сам не ўсведамляючы, што хлусіць; капітан еў масліны, абсмоктваючы костачкі, і акуратна выкладваў костачкі на край талеркі; ён еў – мяне, ён быў тутэйшы, а я прышлы, і ён вельмі добра гэта ведаў.

Мне заставалася толькі прыкінуцца, быццам я прымаю яго прапанову; я разлічваў на сквапнасць капітана – ён прыкінецца, што распавёў пра мяне сваім змоўшчыкам, але на самой справе не раскажа, разумеючы, што яму, балбатуну, лайдаку, тады нічога не дастанецца; капітан адказаў мне, што ўвечары "навядзе даведкі", дзе я спыніўся, і будзе мяне наведваць. Я ўстаў, паклаў пад попельніцу грошы за дваіх; капітан усміхнуўся і выпстрыкнуў у попельніцу маслінную костачку.

Я пайшоў па адрасе, які даў мне капітан. Ва ўмоўным цэнтры горада размяшчаўся квадрат "сталінскіх" дамоў; калі ў Маскве яны ўсё ж такі ёсць толькі фрагмент архітэктурнай гісторыі, стыль сярод іншых стыляў, то тут, строга кажучы, "сталінкі" ўяўлялі сабой адзіную архітэктуру наогул. Вятры, маразы і дажджы не пашкадавалі іх раскошных празмернасцяў: ляпніна і дэкаратыўныя балконы абсыпаліся, знікла белая акантоўка вокнаў, аблезла фарба на сценах; у шырокіх і высокіх парадных завяліся вільготныя скразнякі, пад скляпеннямі арак заўсёды цягнуў вецер, цэмент, вапна і цэгла крышыліся, ніз сцяны пакрыў зялёны, колеру раскі, налёт, у расколінах разросся мох; паўсюль былі іржавыя падцёкі, на зломе каменя выступала арматура, і дзе-нідзе было відаць, што ў цэмент – напэўна, не хапала металу, – замест арматуры ўкладвалі скручаны ў некалькі разоў калючы дрот.

Ад гэтага выгляду – дом, пабудаваны на калючым дроце, – узнікала адчуванне, што будынак вось-вось здрыганецца, ён увесь праколаты, і таму ніякі мур не будзе трывалым, якой бы маркі цэмент ні змацоўваў яго. Дрот нібы разломваў дом знутры, як карані дрэваў – асфальт, і ўся ляпніна, усе барэльефы, усе вазы ў нішах не маглі перамагчы ўражанне, што будынак гэты – не для жылля, не для людзей. Такое звычайна добра адчуваюць жывёлы, і тут было гэтак жа: ва ўсім квартале "сталінак" было не заўважыць ні ката, ні сабакі, птушыная кармушка круцілася на ветры пустая, і толькі ў сметнікавых баках шамацелі, перабягаючы, пацукі.

Штосьці дзіўнае было ў квартале, нейкая адна дэталь – я не мог зразумець, якая – трывожыла мяне; чагосьці не хапала ў гуках горада, знікла нейкая нота другога плану. Я спыніўся, але чым больш услухоўваўся, тым ясней адчуваў, што слых мне не дапаможа; адказ жа ў літаральным сэнсе быў перад вачыма. Тут – адзінае месца ў горадзе – у вокнах дамоў былі не паркалёвыя лёгкія фіранкі, не шторы, а глухія, шчыльныя карычневыя або саламянага колеру парцьеры, напэўна, разбухлыя ад пылу, набрынялыя цяжкімі складкамі, як скура пад вачамі старога чалавека; парцьеры закрывалі вокны, і ні адна фортка не была адчыненая; ні гуку не даносілася знутры кватэраў.

Жыхары дамоў зачыніліся ад паветра вуліцы, замкнулі шырокія дзверы парадных; там, у кватэрах, куды падаў рэдкі прамень, яны спрабавалі захаваць паветра свайго адыходзячага часу; у рассеяным мядовым святле заходных хвілінаў, калі не так прыкметная жаўцізна скуры на руках, яны працiралі, можа быць, лакаваную мэблю, любуючыся каньячным колерам лаку, разьбяным крышталем чарак у буфеце, і якаснае існаванне моцна спрацаваных рэчаў адводзіла ад іх страх уласнай слабасці.

Я зразумеў, што дзесьці ўжо чуў такую цішыню: адзін толькі раз, яна і запомнілася з-за гэтай адзінасці; у дзяцінстве, аднойчы раніцай у залах палеанталагічнага музея, дзе выстаўленыя шкілеты дыназаўраў.

У тую раніцу ў музеі было зусім пуста; і калі я, апярэдзіўшы бацькоў, увайшоў у самую вялікую залу, дзе стаялі тыраназаўр і іншыя драпежныя пачвары, я раптам здзівіўся: звычайна я баяўся гэтае залы, баяўся іклаў і кіпцюроў памерам з маю галаву, баяўся шкілетаў, падобных на павялічаны чарцёж – у іх адкрывалася натуральна – разумная задума тварэння, і я не ведаў, што думаць пра жыццё, пра прыроду, якія з роўнай дбайнасцю ствараюць і далікатную сойку, і драпежнага птэрадактыля.

Было ціха, зусім ціха; і ў ашчэрах жахлівых пашчаў я бачыў не лютасць і злосць, якія палохалі мяне раней, а знявечанасць смерцю і пакуту; я ўбачыў, што зала, дзе выстаўленыя шкілеты, увесь музей, увесь сонечны восеньскі дзень – мы ўжо ўнутры нябачнай пашчы, яна яшчэ не закрылася, але ўсё ў нейкім канчатковым сэнсе ўжо адбылося.

І вось на вуліцы паўночнага горада я пазнаў гэтую цішыню – цішыню музея, дзе зніклыя пачвары іншай эпохі, грозныя і жудасныя, усё ж зменшыліся перад прывідным аблічам смерці, сталі такімі ж бяскрыўднымі, як расчаўленая жаба, высахлая на спякоце, падобная цяпер на распраўлены лёгкі і сухі лісток з гербарыя.

У парадным мяне сустрэла тая ж вохраная, пясочная, у колер печыва, кафля ромбамі, што і ў маскоўскім доме, дзе жыў Другі дзед; кафля, сцены, парэнчы, кораб ліфта – усё было гэткім самым. І мяне ўразіла: у колькіх жа яшчэ гарадах я магу ўвайсці ў дом – і адзін яго выгляд знутры непазбежна выкліча ўспаміны, якія я лічыў глыбока асабістымі; нават драты, якія ідуць да кнопак званкоў, выгіналіся гэтаксама, як у тым ранейшым доме, і мне падалося, што дом на самой справе адзін, як помнік Леніну, і што адрозненні ў біяграфіях яго жыхароў у розных гарадах як бы нівелююцца адзінасцю дома; што мемарыяльныя шыльды, якія часам можна ўбачыць на яго сценах, не больш чым насмешка, бо за кожнай кватэрай налічвацца болей тых, хто быў выведзены з яе, чым тых, хто цяпер там жыве. Я ўявіў раптам, што было б, калі б усе згінулыя жыхары вярнуліся – дом не змясціў бы іх, яны стаялі б хто на лесвіцы, хто ў двары, чужыя адзін аднаму, але кожны пазнаваў бы пясочную кафлю ромбамі, кнопкі званкоў, таблічкі з нумарамі кватэраў... А тыя, хто ацалеў, сядзелі б унутры пакояў, не адважваючыся выйсці, не рызыкуючы прыадчыніць дзверы – і скрозь малую шчыліну ў пярэдні пакой пралезлі б, ўціснуліся бокам хісткія цені з чорнымі плямамі, з кляксамі замест твараў, запэцканых атрамантам альбо тушшу цэнзуры.

Я пачаў падымацца па лесвіцы; на імгненне мне падалося, што ў доме ўжо нікога няма; што з замочных шчылінаў цягне апошнім, застаялым духам пахавання; што там, за дзвярыма, завешаныя ўсе люстэркі. Я пазнаў у гэтым доме пачатак трэцяга са сноў, з якімі пачаў шлях; не літаральна – што месца дзеяння сну было тут – але так, што яно магло б быць і тут.

У паветры лесвічных пляцовак, здавалася мне, яшчэ трымаюцца – так распазнаеш пахі суседскай кухні – ліхаманкавыя, мокрыя ад поту, булькаючыя ў горле сны старых; яны спалі, кідаліся пад пуховымі коўдрамі, спалі, сцяўшы зубы, каб не прагаварыцца ў сне, не захлынуцца, як п'яны – ванітамі, раптоўнай гаворкай лунаціка, а іх целы дрыжэлі і пацелі, і пот гэты пах смерцю.

Такі ж пах я адчуваў аднойчы ў анкалагічным дыспансеры, дзе заш-

мальцаваныя і лінолеум, і банкеткі, і сцены, і карты ў рэгістратуры – так блішчаць брудныя, выцертыя да бляску штаны; чалавек робіцца там адрузлым, цякучым, як падагрэты воск, горача грэюць батарэі, і плоць баіцца сябе самой – вартай жалю, агіднай у непадзельным злучэнні хворых і здаровых тканак.

Сны ў паветры; гэтае паветра мноства разоў удыхалі і выдыхалі насельнікі дома, яно пабывала ў глыбіні іх целаў, яно з хрыпам выходзіла з іх гартаняў, выносячы ў сабе невымоўныя словы; напэўна, у ім не змаглі б жыць расліны, настолькі яно было выдыханае.

Чацвёрты паверх, шаснаццатая кватэра; званок затрымцеў, здавалася, за ўсімі дзвярыма адразу, гук яго паляцеў па доўгім калідоры, б'ючыся аб шкло шафаў, рассыпаючыся падскокваючымі пацеркамі па паркеце. Унутры кватэры было ціха; я пазваніў яшчэ раз, пачакаў некалькі хвілінаў. У кватэры пстрыкнуў замок.

У цемры прыадчыненых на даўжыню ланцужка дзвярэй я ўбачыў твар; адчуванне было такое, што чалавек глядзіць на мяне з уласнай фотакарткі; здымак адчуджаны, і таму амаль заўсёды нешта перашкаджае прызнаць яго да канца сваім: вось такі твар – твар здымка, чужы сабе самому – быў у бабулі, якая вызірнула на лесвіцу.

Яна стаяла за дзвярыма, за паўтара метры ад мяне, але я не мог сказаць, чалавек яна ці адлюстраванне; потым я здагадаўся, што твар яе амаль паралізаваны – рухаліся толькі бровы, яны і выдалі здзіўленне; рысаў твару я ўлавіць не паспеў – аказваецца, твар жыве ў руху, у непрыкметнай гульні цягліцаў твару, і калі ён нерухомы, пра яго нічога нельга сказаць; мой погляд прыцягнулі ноздры – дзве чорныя кропкі, два хады ва ўнутраную цемру цела.

Мне падалося, што з гэтых чорных адтулінаў, нібы з дзірак у каменнай сцяне або ў скале, могуць выпаўзці яшчарка або змяя; што яны не належаць твару, яны – толькі праёмы, небяспечныя, злавесныя; калі б я мог, я б у той момант закрыў, замазаў плоццю ноздры старой.

Каб выскачыць з азмрочанага, як бы напалову зацягнутага ўдыхам у гэтыя ноздры імгнення, я загаварыў; павітаўся і спытаў, ці дома Сямён Вікенцьевіч. Бабуля пайшла па калідоры, сышла так нячутна, як быццам усё жыццё старалася не патрывожыць чыйсьці чулы, знясільваючы, пацяты неўралгічнымі болямі сон; гэтак жа бясшумна вярнулася і адчыніла дзверы. Звязка ў тры дзясяткі ключоў – пэўна, ад дзвярэй у пакоях, ад шафаў, буфета, пісьмовага стала – ні разу не дзынкнула ў яе руках, нібы кожны ключ быў абгорнуты анучкай. Было нешта дзіўнае ў гэтай звязцы, у гэтай жарсці да ключоў, да іх разьбяных бародак, у імкненні трымаць усе ключы разам; тут быў нейкі намёк, нейкі ключ ужо да самой бабулі; яна запрашальна правяла рукой – праходзь – і тут жа зачыніла за мной дзверы, зрабіла гэта незаўважна, але адразу з'явілася навязлівае адчуванне: дзверы замкнёныя.

Ключы і дзверы, дзверы і ключы; і тут я зразумеў, хто яна: былая наглядчыца, жонка якога-небудзь чына, які ўладкаваў яе на працу ў сваё ведамства; сядзелка ў таго чалавека, да якога я прыйшоў.

Бабуля мякка падштурхнула мяне ў спіну: ідзі. Я пайшоў па цёмным доўгім калідоры: дзве худыя коткі мыліся ля місак, сцены былі голыя, бакавыя дзверы зачыненыя, і толькі ў канцы калідора слабое дзённае святло з пакоя асвятляла з'едзеныя моллю галовы мядзведзя і аленя, з галоў тырчала вата, і моль вілася ў промнях, як ажылы пыл; я ўспомніў

лісты – мядзведжы тлушч, цюленеў тлушч, – галава належала аднаму з мядзведзяў, чыя плоць падтрымала жыццё ў целе Другога дзеда.

Першае, што я ўбачыў у пакоі – палку, такую ж, як тая, якой Другі дзед забіў чорнага сабаку ў маім дзяцінстве, зробленую з таго ж ружаватамядовага ад смалы, кручанага, як сухажыллі, лакаванага дрэва палярнай лістоўніцы, перахопленай меднымі бліскучымі паяскамі; палка была прыхінутая да ручкі крэсла, вертыкальны вузкі пласт яркага святла са шчыліны паміж парцьер прыдаў ёй доўгі цень, як стрыжню сонечнага гадзінніка.

– Вечная палка, – сказаў чалавек, які сядзеў у цені. – Такая лістоўніца расце дзвесце гадоў, яе сякерай не перасячэш. Добрая рэч. Мы згніем – яна не згніе.

Я глядзеў на палку; цяпер я бачыў, што яна не была такой жа – яна была той жа, менавіта той палкай, што перабіла хрыбетнік чорнаму сабаку; пэўна, майстар са зняволеных, які рабіў гэтыя палкі, сапраўды стараўся вырабіць іх без адрозненняў, але справа была не ў падрабязным падабенстве; палка была як бачная рыфма, так аднолькава гучыць канчатак двух, можа быць, розных словаў; я не проста пазнаў у ёй канкрэтны прадмет са свайго мінулага – яе існаванне паказала мне сапраўдны аб'ём гэтага мінулага, як быццам у прыцемненых памяшканнях за мяжой памяці раптам успыхнула святло. Палка паўтарылася, як паўтараецца пры спуску па вінтавой лесвіцы ўнутры вежы від з вокнаў, размешчаных адно над адным; паўтарылася, зафіксаваўшы віток часу.

Але нешта яшчэ, акрамя палкі з лістоўніцы, адсылала мяне да мінулага. З амаль да-памятнага стану памяці, з пяці або шасці гадоў жыцця, з тых абласцей унутры, звяртаючыся да якіх, разумееш, у якой ступені чалавек складаецца з прабелаў і прарэх – адтуль, быццам скрозь плёнку, нешта білася, як калі б ва ўспамінаў магло быць сэрца.

Голас – я ведаў гэты голас – і ніколі раней яго не чуў. У мяне нібы было дзве памяці, меншая і вялікая, амаль непранікальныя адна праз адну, і ў меншай гэты голас захаваўся, а ў большай – не. Прычым тая памяць, у якой ён быў захаваны, знаходзілася як бы ніжэй другой; у ёй не было малюнкаў, падзеяў у паслядоўнасці іх развіцця; толькі канчатковая і, пэўна, аглядная колькасць нейкіх момантаў, цьмяных, але напоўненых моцы вобразаў, кожны з якіх – нібы эпіграф, апярэджвае будучы тэкст, які выклікае, выманьвае яго на сябе; "Усіх выгодаў магчымых той дасягнуў, хто дух лёсу свайго спасцігнуў", – сказана ў паэта, і гаворка менавіта пра тыя моманты-ўражанні, якія вызначаюць не лёс, але дух лёсу; у іх і пажаданне, і выклік, а галоўнае – рок.

Стары ў крэсле зноў загаварыў; сказанага ім я амаль не пачуў, бо на гэты раз ягоныя словы сталі па гуку блізкімі да тых, што вібравалі ў маёй памяці; і мне падалося, што я губляю прытомнасць, перакульваюся дагары, але на самой справе гэта ўспамін, які вызваліўся, паклаў мне на лоб сваю руку.

Так і было – цяжкая рука на лбе, цвёрдыя, нібы касцяныя, пальцы, мой паўсон і два чалавекі ля майго ложка: Другі дзед – і той стары, што сядзеў цяпер у крэсле. Яны стаялі, размаўляючы паўшэптам, думаючы, што я сплю; двое старэючых мужчынаў над ложкам пяцігадовага дзіцяці. Я не ведаў, чыя рука ляжыць у мяне на лбе, чые пальцы такія халодныя – сэрца ўжо амаль не даштурхоўвала да іх кроў; іх фігуры ўзвышаліся нада мною, размытыя змрокам, і цела пад коўдрай пакрылася мурашкамі: у маім дачным пакоі заўсёды цікаў будзільнік, але тады ён маўчаў, – на-

пэўна, скончыўся завод, а завесці забыліся – і гэтыя выпушчаныя секунды высыпалі "гусінай скурай".

Я раптам ясна адчуў свой малы ўзрост, дзяцінства свайго цела – не свядомасці, цела, – якое яно слабое і вартае жалю; старыя стаялі нада мной, як жрацы над прыгатаванай ахвярай, і я адчуваў пагрозу ў адным нашым ўзаемаразмяшчэнні, якая ўзмацнялася жорсткай далонню, што пагладжвала мяне, амаль драпаючы.

Я ўспомніў тугі яблык, яшчэ няспелы, які напярэдадні разламаў у садзе, і ўбачыў сябе мяккім, яшчэ не пачаўшым карычнявець зярняткам; старыя стаялі над адкрытай, бялеючай у цемры пасцеллю, імгненне было разламанае, як той яблык, да самай сэрцавіны.

Я прыгадаў, як Другі дзед прышчапляе яблыні, іх было шмат у нашым садзе – з бугрыстым колцам, са шнарам прышчэпкі ля камля; а сярод усіх нажоў майго дзяцінства быў адзін, якім я не марыў і не хацеў валодаць – крывы садовы нож Другога дзеда, кручкаваты, страшны, страшней за хірургічныя скальпелі, створаны, каб адсякаць маладыя чаранкі, пачварны, падобны да дзюбы драпежнай птушкі. Ім нельга было счысціць кару, разрэзаць бульбіну, пагуляць у "ножычкі" – толькі распластоўваць, рассякаць драўляныя валокны, пакідаючы бліскучы гладкі зрэз. І ўсё гэта – белы яблык, коса зрэзаныя чаранкі, яблыні з вывіхнутым, калі прышчэпка дрэнна зраслася, ствалом, нож Другога дзеда, – усё гэта злучылася ў панічнае адчуванне, што два старыя прыйшлі, каб нешта зрабіць са мной.

І тым жудасней было, што яны нічога не рабілі, толькі стаялі, размаўляючы, і гаворка іх здавалася замовай, якая вымаўляецца над спячым, чыя свядомасць размякчаная і безабаронная; рука ўсё пагладжвала мяне па лбе, і я адчуваў, як з гэтым дакрананнем кладзецца на мяне нябачная метка, пячатка; старыя казалі пра сваю бяздзетнасць, Другі дзед назваў двое імёнаў, і я зразумеў, што ў яго была жонка і быў сын, які памёр у раннім дзяцінстве; зразумеў і тое, што цяпер, сляпы, ён ва ўяўленні стаіць каля ложка свайго дзіцяці і паказвае яго іншаму старому.

У гэтым замяшчэнні, у гэтай падмене і нараджалася тая пячатка, якую ягоная рука клала на мой лоб: не павінна жывога нават у думках змяшчаць на месца мёртвага – гэта накладвае ненатуральныя повязі і кідае ў будучыню цень уяўнага прадвызначэння, якое ніколі не збудзецца, але звяжа вузлы, якія чалавеку давядзецца развязваць уласным жыццём.

Напэўна, потым я выцесніў гэты ўспамін з памяці; я шчыра не памятаў другога старога; мабыць, ён быў у Маскве праездам і адзіны раз прыехаў у госці да Другога дзеда на лецішча. Раніцай, калі я прачнуўся, яго ўжо не было, не было ночы, словаў Другога дзеда пра памерлага сына – падзея гэтая аддалілася, быццам адбылася шмат гадоў таму, а неўзабаве і зусім знікла; ці то сон, ці то ява, прывід, занадта значны, каб я мог з ім справіцца тады, а таму прытоенае свядомасцю і вярталася на працягу дзяцінства толькі цьмяным пакутлівым рэхам у снах, у якіх я адчуваў, што маё месца ў жыцці займае нехта іншы, падменыш-зязюльчанё, жахлівае немаўля, якое расце разам са мной, застаючыся немаўлём. Я ўздрыгваў, слухаючы – "хто еў з маёй міскі, хто спаў на маім ложку", – я ведаў, хто; каламутны белы твар, нібы з колбы з фармалінам, глядзеў на мяне з маіх сноў, ключ да якіх я страціў, бо ніхто больш у нашай сям'і не чуў пра жонку і сына Другога дзеда.

І вось цяпер, стоячы ў пакоі, куды прывялі мяне паштоўкі з папераў

Другога дзеда, я адчуў, што адбылася адна з самых, можа быць, значных падзеяў майго жыцця: тое, што скажа нам пра нас саміх, існуе ў раздробненасці, яно разнесена ў прасторы і часе, і часцей за ўсё мы не ведаем чагосьці самага важнага адносна сябе, што, аднак, ужо ёсць; я ўспомніў другі шляхапаказальны сон, дзе былі машыніст цягніка і яго сасланы брат, якія назаўжды размінуліся адзін з адным каля арыштанцкага эшалона, якія сышліся, каб не сустрэцца; я адчуў, як маё жыццё праломваецца ў імгненні сапраўднага, як прамень – у павелічальнай лінзе, праломваецца і выбудоўваецца гэтай лінзай разумення; я даведаўся тое, дзеля чаго ехаў, – і гэтае веданне, аказваецца, заўсёды было са мной, у маёй памяці.

Па сутнасці, гэта быў канец шляху, я мог выйсці з пакоя і вярнуцца дадому; аднак я раптам успомніў, што дзверы моцна, занадта моцна замкнутыя. Зразумела, што я мог папрасіць адчыніць іх, больш за тое, мне так і хацелася зрабіць; я рваўся выбрацца, рваўся абдумаць тое, што здарылася; але дзверы яшчэ не адчынялі. І пакрысе я ўсвядоміў, што мне трэба будзе даведацца нешта яшчэ, зразумець нешта, і мая істота пярэчыла гэтаму блізкаму разуменню. Аднак сысці азначала – сысці, зрабіць гэта самавольна.

Трэба было выйсці не раней, чым самі гаспадары адчыняць мне дзверы; трэба было ўзяць ад гэтай сустрэчы не толькі тое, што я жадаў даведацца, але і тое, што розум – у прадчуванні – адвяргаў; што абяцала не вяртанне дадому, а нейкі іншы, новы шлях.

Стары падняўся з крэсла мне насустрач; я адхіснуўся. Перада мной стаяла састарэлае дзіцё, цялесна – падлетак гадоў трынаццаці-чатырнаццаці; да яго ўжо не падыходзіла паняцце худзізны – ён быў не проста худы, а высушаны, нібыта яго выпілі, апаражнілі, накалолі на іголку, як казурку, і шмат гадоў трымалі пад шклом на аксаміце. Мышцы яго расталі, засталіся толькі сухажыллі, скура на торсе стала празрыстай, як пергамент тонкага вырабу, і агалілася ўсё ўнутранае жыццё цела: шызыя, з адлівам галубінага крыла крывяносныя сасуды спляліся ў карту крывацёку, і то тут, то там ўзнікалі на ёй цёмныя, як раздушаныя ягады чарніцы, вобласці падскурных кровазліццяў. Стары быў напаўапрануты, ён пакутаваў яшчэ і таму, што цела не можа выціснуць ні кроплі поту, не можа выгнаць з потам гэтую смерць, што распаўзаецца пад скурай; твару – у чалавечым разуменні – у яго ўжо не было, плоць расплавілася, як сметанковае масла, ад мацнейшага ўнутранага жару, і зрэнкі, торгаючыся, глядзелі проста з чэрапа. Храсткі вушэй ужо абвяліліся, як вэнджанае мяса малюска, бровы і вейкі выпалі, толькі слабы, быццам абпалены, дзіцячы пушок пакрываў надброўныя дугі; чырвоныя капіляры на шчоках зліліся ў тонкае вязьмо іерогліфаў, выпісаных барвовай тушшу; стары паміраў ад хранічнай прамянёвай хваробы, некалі ён атрымаў малую дозу радыяцыі, якая адгукнулася ў целе толькі цяпер; спынілася здольнасць крыватвору, кроў у яго сасудах не абнаўлялася, і ён павольна атручваўся пражываемым – і пражытым – жыццём, атручваўся мінулым, яго шлакамі і атрутамі, якія збіраюцца ў тканках цела. Яго забіваў час – у літаральным сэнсе; і я, стоячы перад ім, быў для яго ўвасабленнем гэтага новага часу; ён ненавідзеў мяне, гэта было відаць па сціснутых зубах – ён забыўся, што ссохлыя вусны ўжо не прыкрываюць іх; сківіцы яго былі ўстаўнымі, гладкімі, белымі, і я ўспомніў устаўныя зубы Другога дзеда.

Я перадаў старому яго ўласны ліст; ён прачытаў, кіўнуў, паказваючы, што разумее, хто я, і загаварыў. Ён сказаў, што ведае, як памёр Другі дзед,

ведае, што мне peралітая ягоная кроў, – Другі дзед патлумачыў хатняй работніцы, каму паведаміць, калі з ім нешта здарыцца, і загадаў трымаць даручэнне ў сакрэце ад маёй сям'і.

Стары чакаў – навошта я прыйшоў, і я спытаў, ці не засталося нейкіх папераў, можа быць, здымкаў; пытацца ў яго пра Другога дзеда – начальніка лагера, пра тое, якімі былі іх адносіны, мне не хацелася, усё было і так ясна.

Стары загадаў мне ўзяць у шафе альбом, выняць з прарэзаў віншавальную картку; за ёй быў фотаздымак.

На чорна-белым здымку за даўнасцю гадоў амаль не засталося ні чорнага, ні белага, усё выцвіла; здавалася, што фатограф здымаў не рэальны свет, а фатаграфаваў успамін.

На здымку былі людзі, яны сабраліся нешта ўрачыста адкрываць, сярод іх я пазнаў Другога дзеда; і толькі адна кропка як бы выступала са здымка – плямка чарнаты ў тым месцы, дзе рыдлёўка ў руках Другога дзеда адкінула камяк зямлі. Гэтая ямка была цёмная, яна прыцягвала позірк, як радзімка на шчацэ. І я зразумеў, што з гэтай ямкі паўстаў кар'ер, які я бачыў напярэдадні.

Фотаздымак спрабаваў перадаць парадную радасць дзейства, луналі, змешваючыся на прасвет з аблокамі, прывідныя транспаранты, прыціснуліся адзін да аднаго афіцэры лагернай аховы і інжынеры, каб патрапіць у кадр; дзьмуў у трубы кепска апрануты аркестр, і было адчуванне, што не адзенне, а самі музыкі пашытыя з падпаленых зімой ля вогнішча кавалкаў ватнай прашытай матэрыі, а потым залапленыя, не людзі – цацкі ў тэатры лялек; іграў аркестр, луналі сцягі, але ўсё ўжо здзейснілася – ужо адбылася закладка кар'ера, і будучыня прадвызначылася: будучыня горада, усіх гэтых людзей – і мая.

Я стаяў, разумеючы, што няма чаго больш спытаць, усё тут, на здымку. Сысці, хутчэй сысці; толькі адно даведацца – дзе пахаваныя жонка і сын Другога дзеда, каб пабываць на іх магіле і гэтым завяршыць свой спуск у мінулае. Стары сказаў, дзе шукаць магілу на гарадскіх могілках; але калі я пачаў паспешліва развітвацца, ён затрымаў мяне.

Стары казаў; ён ведаў, што блізка смерць, што ён можа "паспавядацца", і, што б ён ні распавёў, у чым бы ні прызнаўся, я ў адказ не змагу нават закрычаць на яго з асцярогі міжволі забіць; можа быць, упершыню ён меў магчымасць гаварыць зусім свабодна – і ўжыў свабоду на тое, каб расправіцца са мною. "Чысценькім хочаш застацца, – сказаў ён, – не атрымаецца чысценькім, запэцкаю!"

Не, ён не бачыў ува мне чысценькага хлопчыка, чыя наіўнасць магла б раздражняць яго; не хацеў даказаць, што кожны чалавек хутчэй схільны да зла, чым да дабра, ён быў далёкі ад абагульненняў; не спрабаваў і апраўдаць сябе, выводзячы татальную залежнасць чалавека ад абставінаў. Ён ненавідзеў мяне за тое, што я прыйшоў са свету, дзе ёсць мабільныя тэлефоны, замежныя машыны, інтэрнэт, вай-фай, паездкі за мяжу, боўлінг і роўмінг; свет змяніўся, людзі вырашылі лепш не памятаць нічога, чым памятаць са страхам або памятаць са смуткам, і стары шаптаў, – думаючы, што крычыць, – што ён начальнік расстрэльнай каманды, што ён бачыў, як куля б'е навылёт цела дахадзягі, а дахадзяга не падыхае, бо раны небяспечныя для здаровага цела, а чалавек у крайняй ступені знясілення ўжо не адчувае рану як рану, ён надзвычай жывучы для смерці. Стары шаптаў, думаючы, што крычыць, што да закінутых адвалаў рудніка, куды

скідалі мерцвякоў, шмат гадоў потым прыходзілі мядзведзі; ён шаптаў, што расстрэльваў сам, з нагана, з вінтоўкі, шаптаў, што паблізу горада да гэтага часу ёсць нявыяўленыя магілы, ён ведае, ён можа паказаць, дзе, калі я не веру; старому было страшна.

Ён страшыўся не таго, што зрабіў; ён спалохаўся, калі аказалася, што ён, начальнік расстрэльнай каманды, – ніхто ў цяперашнім свеце; яму не плявалі ў твар, але яго і не баяліся больш. Ён, які перажыў не толькі сваіх ахвяраў, але і тых, хто мог бы сведчыць пра іх і за іх, застаўся адзін; усе расстрэлы, усе забойствы былі забытыя, цэлая эпоха сышла на дно памяці, і ён, замкнуты ўнутры яе, усё спрабаваў даказаць, што ён – быў; стары не мог перажыць тое, што нанесенае ім зло не існавала больш як зло; ён забіваў, а свет у рэшце рэшт заплюшчыў, а потым расплюшчыў вочы, і ўсё стала так, быццам нічога не было. Свет не заўважыў, і стары пазбавіўся адзінай, тагасветнай амаль, скажона-духоўнай апоры ў самасузіранні злачынца: усведамляць, што ты сатварыў нешта непапраўнае, неадменнае, якое раз і назаўжды адбылося, заступіў на месца Бога; што зробленае – у быційным сэнсе – не згладзіцца і не забудзецца.

Я ўсё ж такі вырваўся; старая адамкнула мне дзверы, і я бег па прыступках, выносячы ў руках здымак – проста забыўся яго аддаць. Я думаў пайсці ў гасцініцу, замкнуцца там – усё вакол, усё ўбачанае і перажытае вярнулася ў адным адчуванні, што тутэйшы свет спароджаны Другім дзедам, што ён крануў зямлю штыком рыдлёўкі, і зямля адгукнулася, адчынілася – і цяпер яе не стуліць, не зачыніць назад; горад стаіць на разломе, і мінулае больш уладнае над ім, чым сучаснасць.

Да гасцініцы я не дайшоў; з завулка вывернула тая самая “Волга”, на якой я ехаў з вакзала, перагарадзіла дарогу; калі б я не пазнаў машыну, то, можа, і паспеў бы ўцякчы, а так – на секунды – вырашыў, што кіроўца таксама пазнаў мяне і чагосьці хоча; потым з машыны выскачылі трое, на заднім сядзенні мільгануў твар капітана з адраснага бюро; я пабег, мяне дагналі, штурхнулі ў спіну, заламалі рукі.

Багажнік адчынілі прыкладна праз паўгадзіны; было ўжо змрочна, машына стаяла ля вялізнага рукатворнага возера – аднаго з адстойнікаў камбіната, напоўненага зялёнай кіслотнай масай; воддаль у хімічным месіве варочалася птушка – казалі, птушкі труцяцца выпарэннямі адстойніка і падаюць у яго; камяк бруду трапятаў, булькаў, і толькі дзюба – жыжка адстойніка да яе не ліпла – адкрывалася і закрывалася, як маленькія мяхі, што напампоўваюць лёгкія.

Мяне паставілі на калені перад борцікам адстойніка; на цэменце засохлі блявоціна і кроў; відаць, месца выкарыстоўвалі так не ўпершыню.

Капітан і кіроўца засталіся ў машыне; яны палілі там, прыборная дошка свяцілася зялёным, удалечыні мігцелі агні горада, па насыпе ішоў цягнік з рудой, цеплавоз ужо даўно схаваўся за паваротам, а састаў усё не сканчаўся, і я раптам зразумеў, што баюся не ўбачыць хваставога вагона; і за гэтым страхам хаваю страх большы – што пачнуць біць, што перакінуць праз борцік і макнуць тварам у адстойнік. Я глядзеў праз плячо: трое стаялі за спінай, сярод іх нельга было ўгадаць галоўнага; наколкі сінелі на руках, як сінюшныя штэмпелі на сырой бялізне плацкарта, рукі торгаліся, скакалі, быццам у іх раз і назаўжды ўвайшло напружанне; трое перагаворваліся, што яны цяпер са мной зробяць, і асабліва стараўся адзін, у якога не хапала безыменнага пальца на правай руцэ.

Мяне высачылі, капітан усё-ткі распавёў камусьці пра дурня-спадчын-

ніка, і цяпер у мяне будуць пытацца пра неіснуючыя грошы, каштоўнасці, сейфавыя ячэйкі; уся спадчына – здымак у кішэні курткі. І раптам у тым, што быў без пальца, угледзеўшыся ў твар, я пазнаў рысы таго ўцекача, якога я спрабаваў накарміць у далёкіх гарах ля кінутага лагера; то быў яго малодшы брат ці брат-блізнюк, ці мне ўжо мроілася, што мярцвяк дастаў мяне, пераўвасобіўся – і паставіў на калені да сценкі адстойніка.

Я загаварыў; сказаў яму, што ведаю, як загінуў ягоны брат, ведаю месца, дзе ён пахаваны; я бачыў куксу на месцы безыменнага пальца, і мне здавалася, што той, загінулы безымянным, пакінуў па сабе такую зарубку.

Аказалася, што я ўгадаў: брат калечанага сапраўды пайшоў ва ўцёкі – гэта была апошняя вестка пра яго – і прапаў; мяне адпусцілі і пачалі распытваць, я распавёў, што знайшоў яго, спрабаваў ратаваць, а потым пахаваў. Захопнікі параіліся, ці не здаў я яго мянтам, і вырашылі, што тады яны ведалі б – уцекача вярнулі б у калонію, дадаўшы тэрмін. Ці не я яго забіў? Я прапанаваў паглядзець на мяне: ці падобны я на чалавека, які змог бы забіць? Яны засмяяліся.

Усё перавярнулася; захопнікі, падобна, і самі не надта былі перакананыя, што я багаты спадчыннік, проста вырашылі праверыць “наводку” капітана; мяне павезлі ў забягалаўку, каб я намаляваў план, як знайсці ў гарах магілу ўцекача; капітан сядзеў побач на заднім сядзенні і глядзеў пачціва: ён быў упэўнены, што я падмануў, задурыў галовы гэтым траім, і амаль, напэўна, захапляўся маёй хітрасцю.

Мяне спыталі, што я раблю ў горадзе; і я, насуперак розуму, коратка распавёў сваю гісторыю. Прыёмны ўнук начальніка лагера – я казаў пра Другога дзеда бандытам, і тыя слухалі з павагай; я быў – іх, я быў звязаны сваяцтвам з лагерным светам, і аказалася, што калючы дрот не толькі раз’ядноўвае, але і злучае: у мяне нават папрасілі прабачэння за вывернутыя рукі. Не было дзялення на арыштаваных і ахову, на злодзеяў і вертухаеў – ва ўсялякім выпадку, для мінулага; быў толькі чалавек, які даў пачатак іх гораду, чалавек, у якім яны чулі вялікую, старэйшую сілу – і ім здавалася, што яны маглі б знайсці з ім агульную мову. Другі дзед, як і яны, гнуў, ламаў людзей, і цяпер, калі мінулыя звады рабіліся неістотнымі, яны сумавалі па самаўпраўнасці, узведзенай у закон – ім думалася, што яны знайшлі б сабе месца ў тым часе, месца на баку сілы, і водбліск гэтай сілы надаў бы іх ганебнай жарсці да пакуты легальнасць і апраўданне. “Я б у тыя часы надзеў форму”, – сказаў адзін; і я зразумеў, што ўсе трое сапраўды пайшлі б у ахову – не вольнасць іх прыцягвала, а ўлада; той уцякач, старэйшы брат, забіў бы за такую прапанову, а гэтыя – гэтыя, малодшыя, ужо прынялі б яе як належнае; яны і служылі, як высветлілася, вохраўцамі на камбінаце.

Нябожчык – амаль што супраць сваёй волі – ахоўваў мяне; тая спроба чалавечнасці ўсё ж такі апынулася дзейснай. Калі б я кінуў яго, я б – сам для сябе – не меў права спаслацца на той выпадак; але не кінуў, не выдаў – і цяпер размінуўся з жыжкай адстойніка, дзе зыходзіла ліпкімі бурбалкамі падманутая птушка.

Настрой траіх рэзка змяніўся; я як мог апісаў шлях да закінутага лагера, але разумеў, што малодшы брат не выправіцца перапахаваць старэйшага – будзе толькі распавядаць, як захамутаў іншага лоха, а лох аказаўся тым, хто бачыў цела брата; паступова гісторыя муціруе да непазнавальнасці – альбо я стану здраднікам, якога пакарае малодшы брат, альбо, наадварот, буду выносіць уцекача на сабе; але ўсё гэта будзе потым, а пакуль мы

пілі ў забягалаўцы – за сяброў, за няўдачу ворагаў, – і капітан піў з усімі, быццам і не здаваў мяне.

Раніцай я сабраўся было паехаць на могілкі, да магілы жонкі і сына Другога дзеда, але перадумаў; я адчуваў, што паездка будзе канцом, што пасля яе трэба будзе вяртацца – і стараўся адцягнуць канец.

Мне захацелася паглядзець на тое месца, дзе стары, начальнік расстрэльнай каманды, схапіў дозу радыяцыі. У горадзе існавала сваё выпраменьванне – выпраменьванне няшчасця, жыццёвай надарванасці, надламанасці; і я меў намер зверыць свае адчуванні ад двух месцаў, зразумець, ці падобныя яны ў чым-небудзь.

Непадалёк за горадам, у гарах, знаходзілася цясніна, дзе зняволеныя здабывалі радыеактыўную руду.

Калі ствралася ядзерная бомба, руду гэтую шукала кожная геалагічная экспедыцыя, чым бы яна ні займалася. Тут, на поўначы, яе знайшлі. Я ўявіў, як дзясяткі тысячаў людзей па ўсёй краіне, у стэпах, у пустынях, у тайзе, у тундры шукалі рэчыва, якое распадаецца, небяспечнае ланцуговай рэакцыяй, выглядвалі жоўтыя ўранавыя смолкі, чый колер падобны на колер плямак на скуры ядавітых змеяў; як адхіляліся стрэлкі лічыльнікаў Гейгера, калі ў пародах адшукваліся зярняткі мінералаў, акружаныя карычневымі арэоламі радыеактыўнасці, і спісаныя кончыкі алоўкаў крэслілі графітам на выцвілай паперы палявых дзённікаў контуры будучых радовішчаў.

Пошук рэчываў, чый век супастаўны па працягласці з чалавечым, пошук мінеральных злучэнняў, якія жывуць коратка, здраднікаў каменя, у якога свой, доўгі – мільённагадовы – час; пошук ключа да сілаў прыроды; пошук паскаральніка распаду, у пэўным сэнсе – філасофскага каменя, адпаведнага філасофіі новага стагоддзя, які шукае сродкі разбурэння, а не стварэння; сродкі спыніць гісторыю, спыніць час.

Уран, элемент, названы імем выхалашчанага бога, бога-да-часу, саступіў месца Кронасу і сваім знікненнем зрабіў магчымай змену пакаленняў багоў, – уран, бясплоднае рэчыва, якое не можа даць пачатак рэчы, не можа адліцца ў пастаянную форму, як медзь альбо жалеза; уран, адкрыты Марцінам Генрыхам Клапротам у год пачатку Французскай рэвалюцыі, у год узяцця Бастыліі і прыняцця Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна, – ці думаў нямецкі натурфілосаф, што чорнае рэчыва з яго прабіркі будзе важыць на вагах гісторыі столькі, колькі не важыла ўсё здабытае чалавецтвам золата? Што дзеля гэтага рэчыва пракладуць дарогі, зладзяць руднікі? Ці чуў ён у гуках таго года падземныя штуршкі, прароцтва будучых рэвалюцый, – і той рэвалюцыі, якая падыме чырвоны сцяг Французскай?

Каб патрапіць у цясніну, трэба было прайсці паўз кінутыя цэхі і недабудаваную абагачальную фабрыку. То было месца, дзе ўскраіна горада злучалася з тэрыторыяй камбіната, і ўзнікала нічыя зямля, куды не заходзілі нават бадзягі-бічы і здзічэлыя сабакі; калі ад руінаў цэхаў і дамоў па краі горада несла запусценнем, то тут, здавалася, распадаецца, поўніцца кавернамі сама прастора.

Паўсюль былі вогнішчы, іржавыя скруткі корда – металічныя кішкі шынаў; плямы іржы, заваленыя набок цыстэрны, змятыя вышкі ЛЭП, кавалкі жалеза, выкручаныя, сагнутыя, нібыта нарэзаныя веліканскімі нажніцамі; разварочаныя коламі грузавікоў каляіны, быццам хтосьці знарок раздзіраў зямлю. Сярод шкілетаў баракаў, як абсечаныя асколкамі дрэвы з ваеннага сну, тырчалі стаякі каналізацыі; з забытых свідравінаў бессэнсоўна біла шматметровымі фантанамі вада. Там не было нават звычайнага

смецця – бляшанак, паперы, абгортак, аб'едкаў, – толькі рэшткі былога жытла, пакарабачаныя метал і дрэва.

Я не змог ісці праз гэты рэзрух; тут, на стыку горада і прамысловай зоны, раптам агалілася ўсё, што ў іншых тутэйшых месцах было збольшага прытоена, замаскавана архітэктурай і пейзажам; страх выклікала не гэтая знявечаная прастора сама па сабе, а рэальнасць унутранага жыцця тых людзей, чыімі не сказаць намаганнямі або стараннямі, наадварот, нерабленнем намаганняў, непрыкладаннем стаによる, яна была спароджана.

У агіднай адкрытасці гэтай звалкі звалак – не ў сэнсе найвышэйшай ступені, а менавіта ў тым сэнсе, што тут паўстаў смеццевы кангламерат з мноства частак, на іх, аднак, зваротным ходам не дзелячы, – як бы адкрываўся паўсюль прысутны адваротны бок чалавечай свядомасці; і нельга было сказаць, што хтосьці вінаваты, хтосьці недагледзеў, мог бы ўсё зрабіць інакш – калі гэтая звалка звалак была рэчаіснасцю, значыць, існаваў той анты-зрок, тое патрапленне на хвалю распаду, пасля якога немагчыма па-біблейску вярнуць чалавека да страчанай здольнасці бачыць: ідзі і глядзі.

Калісьці ў гэтым месцы размяшчаліся лабараторыі некалькіх геалагічных інстытутаў; ад іх і захаваліся шкілеты баракаў, усё іншае расцягнулі, калі лабараторыі зачыніліся. Сярод колатага, абгарэлага шыферу яшчэ валяліся кавалкі керна – доўгія цыліндры горных народаў, паднятыя з глыбіні свідравінаў. Звычайна іх раскладвалі па спецыяльных скрынях метр на метр, і так, па мятровых слупках керна, можна было “прачытаць” усю вертыкаль свідравіны, скласці зрэз пластоў, праз якія яна праходзіць. І вось гэты кінуты керн, які зарастае дзядоўнікам, бессэнсоўна выняты з зямлі – з вялікіх глыбіняў, – ён паказваў, што людзі сышлі адсюль, як бы адрокшыся ад сваёй справы, кінуўшы яе неахайна і паспешліва, і ў пустаце, якая ўтварылася з іх сыходам, завялося іншае жыццё: так прарастае на руінах расліна-ўюнок.

Гледзячы на керн, я ўспомніў гісторыю, якую перадавалі як байку; калісьці, у васьмідзясятыя гады, у Міністэрства геалогіі звярнуўся просьбіт, спецыяліст-буравік на пенсіі: у яго быў праект выкарыстання часткі адпрацаваных свідравінаў, якія, як правіла, залівалі цэментам, каб не змяшаліся падземныя водныя пласты. Просьбіт прапанаваў ператварыць свідравіны ў могілкі: хаваць у іх нябожчыкаў, вертыкальна апускаючы аднаго за адным на глыбіню; розных свідравінаў па ўсёй краіне бурылася тысячы, і ў тлумачальнай запісцы казалася, што сукупны іх метраж, “карысны аб'ём” дазволіць дзесяцігоддзі выкарыстоўваць іх для пахавання, вызваліўшы, як скрупулёзна адзначыў просьбіт, працоўную сілу, могілкавых землякопаў і трунароў, для іншых дзяржаўных – слова “дзяржаўных” было набрана вялікімі літарамі – патрэбаў.

У прыёмнай бачылі рознае: глеба эпохі давала дзікія ўзыходы думкі, прыдушаная энергія перабудовы і пераўтварэнняў знаходзіла выйсце ў апалітычным і ў гэтым сэнсе бяспечным тэхнічным вынаходстве. І чым павольней цёк час, тым больш з'яўлялася ўяўных вынаходак, якія адмаўляюць законы навукі, якія адмяняюць іх адным жаданнем вынаходніка, жаданнем настолькі відавочна недарэчным і настолькі жарсным, самазабыўным, што за ім бачылася нешта ўжо не з галіны навукі; людзі хацелі хоць нешта перарабіць, перамяніць, і законы натуральных навук здаваліся ў гэтым сэнсе больш падатлівымі, чым законы грамадскага ладу. Але просьбіт з праектам свідравінаў-могілак уразіў усіх; і вось цяпер,

стоячы перад кінутымі скрынямі керна, я адчуваў, адкуль прыйшоў гэты чалавек, якое асяроддзе так затуманіла ягоны розум.

Каб абмінуць участак спустошанай, нічыйнай зямлі, я вырашыў пайсці па чыгунцы, якая вяла на руднік; над насыпам разносіліся жаночыя галасы; словаў яшчэ не было чуваць, але ўгадвалася інтанацыя. Галасы гэтыя не зыходзілі з якой-небудзь кропкі – паветра гучала імі, нібы яны ўтрымліваліся ў ім як пара.

Дзве жанчыны стомлена размаўлялі пра нешта. І па адным толькі гукавым малюнку, па гучанні тых выклічнікаў, якія жывуць у вымаўленні галосных, як бы эмацыйна на розныя адценні падсвятляючы слова знутры, – аа, уу, оо, – можна было зразумець, пра што размова. Я падышоў бліжэй, і фразы пачалі праясняцца. Валера ўчора мне сказаў... Сасісак з’еў... А мне спаць з ім п’яным... Дзеці ў іншым пакоі... Навалачку недакуркам прапаліў... З раніцы зноў пачаў... Да дачкі пачаў лезці...

Словы тычыліся чалавечага быту, аднак здавалася, што іх вымаўляе наваколле; дзве жанчыны-дыспетчаркі сядзелі за кіламетры адна ад адной у будках каля пераездаў, быў перапынак, цягнікі з рудой не хадзілі – і яны размаўлялі між сабой па гучнай сувязі. Іх ніхто не мог падслухаць – няма каму; дзень за днём яны гутарылі, і здавалася, што бліжэй – сярод знаёмых, суседзяў – тут суразмоўцу не знайсці.

Можа быць, гэтыя размовы вяліся гадамі – і гадамі не мяняліся; у дождж, у завею, летам ці зімой жанчына прамаўляла – “Навалачку недакуркам прапаліў...” – і гэта заўсёды былі адна навалачка, адзін недакурак; а сяброўка нічога не адказвала ёй, слухала.

Вакол насыпу былі бачныя ўсё тыя ж руіны, усё тая ж выбітая зямля, і гутарка жанчын не кантраставала з ёю, не рэзала слых, як рэжа яго размова пра хатнія справы, што адсылаюць да дома – да небытавога сэнсу сценаў, даху, агменю, які вядзецца сярод спустошаных пабудоваў. Наадварот, тут магла гучаць толькі такая размова.

Безгалосая істота знаходзіцца толькі ў залежным стане, у непарыўнай сувязі прычынаў і следстваў; гаворка можа вывесці чалавека за рамкі гэтай сувязі; слова дазваляе яму не быць пакорлівай матэрыяй, якая ўсё прымае, усяму падпарадкаваная. А тут і людзі, і месца апынуліся ў тым самым залежным стане – і не маглі змяніцца.

Галасы даносіліся з рэпрадуктараў на слупах, і здавалася, што словы кажуць самі сябе, і ўжо няма суразмоўцаў, быццам гэта запіс, плёнка, пастаўленая на паўтор у пустой дыспетчарскай.

У цясніне было пахмурна, за вяршыні гор зачапіліся нізкія аблокі; дождж не ішоў, але адчуванне было такое, што кроплі ўжо ляцяць – яны проста яшчэ не дасягнулі зямлі. Каляіны старой дарогі зараслі, масты праз рэчку раскідала націскам вады; вузкая сцежка, натаптаная ў каляіне, паказвала, што сюды ходзяць у грыбы або ягады. Вада ў рэчцы была горная, занадта празрыстая, занадта чыстая – такой не саб’еш смагу, трэба падсаліць ці падкісліць; у зарасцях чарнічніку даспявалі ягады; язвы прамысловых зонаў камбіната былі за паўкіламетра, але тутэйшая прырода была стэрыльнай, некранутай, яшчэ дзесяцігоддзе – і старой дарогі ўжо будзе не знайсці, яе схавае бярэзнік.

Лагер адкрыўся за паваротам даліны; частку будынкаў пабудавалі з рачных валуноў, і цяпер яны здаваліся пародыяй на сярэднявечную архітэктуру; двухпавярховыя, прысадзістыя, без даху, з вузкімі, каб зберагчы цяпло, вокнамі. Драўляныя пабудовы даўно згнілі ці былі спаленыя, ацалелі

толькі слупы лініі электраперадачы з крывымі папярочкамі, але вочы не бачылі ў іх крыжа, не маглі апазнаць іх сімвалічнага значэння – слупы і слупы; гэтаксама як і ўсе гэтыя пабудовы – я раптам усвядоміў, што чалавек, які не ведае, што гэта быў лагер, ніколі не зразумее, што ён убачыў.

Ні каменныя муры, ні чорныя пралысіны ў тых месцах, дзе звальвалі вугаль, ні кінутыя на схіле ваганеткі, ні адвалы штольняў – нішто само па сабе не было сведчаннем. Нават скрутак калючага дроту – у якім, як у пастцы, заблытаўся калісьці заяц, – грызуны паступова расцягвалі выбеленыя, дробныя, нібы ссыпаныя з талеркі – костачкі, – быў проста скруткам калючага дроту. Каб “разматаць” яго, як размотваюць нітку з клубка, выцягнуць за гэты кончык усё мінулае разам, увесь выгляд гэтых мясцінаў шэсць дзесяцігоддзяў таму, і не толькі выгляд, але сутнасць таго, што адбывалася тут, – трэба было ўсё ж такі нешта загадзя ведаць, трэба было мець нейкае настаўленне.

Я хадзіў па лагерных майстэрнях – там захаваліся тапчаны-варштаты, па кампрэсарнай, адкуль цягнуліся наверх, да штольняў, іржавыя трубы; усё, што я знайшоў, быў гузік – самаробны, вытачаны з кансервавай бляшанкі гузік; зразумелы і адначасова бессэнсоўны без адзення прадмет. Таксама і з уражаннем, адчуваннем ад месца: яно было гэткім жа гузікам; сучаснае, несумнеўнае – і адарванае ад чагосьці галоўнага, занадта малое, а таму безнадзейна згубілася.

Але сам гузік у руцэ нагадваў мне пра штосьці; я ўспомніў, што ўжо стаяў у гарах, на гэтай жа шыраце, толькі на тысячы кіламетраў усходней, і глядзеў на рэшткі лагера ў шырокай седлавіне перавалу, і гэтаксама наверх па схіле цягнуліся іржавыя трубы з кампрэсарнай.

У гузіку было дзве дзіркі, праколатыя шылам ці цвіком; я ўспомніў цвік, які трымаў тады ў руках як сведчанне, што застаецца след, застаецца тое, што змацоўвала будынак мінулага, і гэтыя змацаванні як асаблівы матэрыял заўсёды больш даўгавечныя, чым сам будынак. Але цяпер у руках у мяне быў не цвік, а дзірка ад цвіка; сітуацыя вывернулася наадварот. Я стаў глядзець праз гузік, як у мініяцюрны бінокль, і дзве яго адтуліны раптам сумясціліся з дзвюма плямамі – з вусцямі штольняў на схіле цясніны.

Мне не хацелася падымацца туды; але ўсякая цёмная дзірка ў зямлі прыцягвае да сябе, нібы яна – уваход у адваротны бок свету, дадатковы да трохмернасці. Да таго ж я памятаў пра мэту вандроўкі ў горы: у штольнях здабывалі мінерал, з якога потым атрымлівалі ўран.

Знявечаная нічыйная зямля, рассыпістая гаворка дзвюх жанчын на чыгунцы яшчэ не сталі хай і блізкім, але ўспамінам, яшчэ былі ўключаныя ў момант сапраўднага, і радовішча, адкуль зыходзіла гэтае збядненне, разубожванне, прыцягвала, як прыцягвае позірк збіты сабака на збочыне, у вываленых кішках якога поўзаюць мухі; прыцягвала, – ва ўяўленні – нейкай сумленнай адкрытасцю выродлівасці. Убачыць не наступствы, а першапрычыну; убачыць, як выглядае само нутро распаду – увайсці!

Я падняўся да штольняў; калісьці яны былі заваленыя каменнем, закратаваныя зваранымі рэйкамі; але вада, што бегла з іх, пратачыла дарогу, падмыла абвалы, і ў штольні можна было пралезці. Я думаў, што ўбачу сэрцавіну небяспекі, выток той муці, што напаўняла наваколле; нічога гэтага не было. Падзямелле спачатку наогул не пакідала ніякага ўражання; потым я зразумеў, што дарэмна шукаю штосьці прыкметнае, відавочнае; тут важней нешта іншае, але што?

У такіх закінутых штольнях, дзе няма ні цягі, ні іншага павеву, абезрухомленае паветра з часам губляе цякучасць, робіцца падобным да застылага бясколернага туману: з кожным тваім удыхам у ім узнікае пустата, яма, і каб нешта ўдыхнуць яшчэ раз, трэба зрабіць крок.

Паветра распалася, спарахнела: у ім грэзне голас, размываецца святло, і толькі вадзяны пыл ад кропляў, якія падаюць са столі, дае ў промні ліхтара вясёлкавыя веэры, бязрадасныя, як крыло мёртвага матыля.

Чарната пралезла ў самы яго склад, раз'ела яго знутры, як іржа раз'ядае жалеза: крані – рассыплецца. Здаецца, кожная малекула, кожны атам змешчаны ў абалонку чарнаты, яны не бачаць адно аднаго; і ты раптам адчуваеш, што паветра – сляпое, як бывае сляпы чалавек ад унутранага разладу: звязнасць свету для яго ў гэты момант неспасцігальная.

Тое, што я шукаў – я ўдыхаў; мне падумалася, што трэба было прыхапіць з сабой рэспіратар. Гэтым паветрам ніхто не дыхаў шмат дзясяткаў гадоў, і ў ім, як штамы вірусаў у лабараторнай колбе, захавалася ўсё тое, што было тады, у мінулым – я не адмовіў сабе ў немудрагелістай гульні словаў – насілася ў паветры; захаваліся не думкі, не галасы, а нейкая атрута эпохі, выцяжка разбурэння і раскладання. Я напаўняў лёгкія тым, да чаго нельга дакранацца чалавеку; дыханне перахапіла, нібыта я ўбачыў, што мяса, якое я ем – гнілое, у ім не чарвякі, а лічынкі чарвякоў, што яшчэ агідней: лічынка ператворыцца ў чарвяка ўжо ў тваім целе.

Я запаліў, каб моцным пахам тытуню адагнаць гэтае марыва; ні тагасветнага шаптання, ні адчування чыёйсьці прысутнасці, толькі паветра, пустое, якое нічога не захавала, акрамя тлення – і час, таму што я зразумеў, што гэтая штольня-склеп, дзе захоўваецца паветра нумарнога, як нумар зняволенага, года.

Час тут не спыніўся – у слове "спыніўся" ёсць зафіксаваны момант канца руху; ён нібыта ніколі і не ішоў тут, ён стаяў, як вада ў чорных пячорных пратоках, дзе рухаюцца толькі бялявыя рыбы. Мне падалося, што калі штольню нахіліць, як бутэльку, гэтае паветра, гэты час пацячэ вонкі, але не змяшаецца з часам дня сённяшняга: яны не прызнаюць адно аднаго ў якасці цяперашняга і мінулага.

Выйшаўшы назад на святло, я пачуў гул верталёта. Мі-8 мясцовага авіяатрада сеў непадалёк ад руінаў каменных баракаў; з яго сталі выходзіць людзі – не людзі, а каляровыя плямы, такія яркія, што выпраменьванне колеру хавала абрысы фігураў; жоўтыя, чырвоныя, бэзавыя, блакітныя, смарагдавыя, сінія, памаранчавыя курткі, штаны, заплечнікі, шапкі; яны рухаліся так, як спецыфічна ходзяць людзі з фотаапаратамі і відэакамерамі, якія загадзя шукаюць, з якога ракурсу рабіць здымак і куды стаць самому на будучым здымку; яны разышліся, у думках разразаючы даліну гэтымі ракурсамі, і ні адзін не глядзеў пад ногі. Вецер данёс да мяне ангельскую гаворку; калі ў горадзе я б апазнаў яе як замежную, то тут, у цясніне, яна здавалася чымсьці яшчэ больш далёкім, двойчы нетутэйшым, як калі б, напрыклад, людзі, якія размаўляюць па-чужому, вырашылі імітаваць галасы трапічных птушак.

Ад верталётных соплаў цягнуліся струмені цяпла; замежнікі – іх прывезлі на экскурсію, у горадзе я бачыў аб'явы "тур па лагерах" – хадзілі ў бахілах і стараліся не дакранацца рукамі да зямлі, да будынкаў, напэўна, іх запалохалі радыяцыяй. І я стаяў на схіле гары, ля штольняў, як дзікун, які ўбачыў пасадку касмічнага модуля; колеры адзення былі з другога, поўнакаляровага жыцця, і мне хацелася крычаць, што сюды

нельга прылятаць на верталёце, нельга высаджвацца на гадзіну, каб пафатаграфаваць і падабраць сувенір, загадзя падкінуты арганізатарамі тура. Калі б была зброя, я б стрэліў, прагнаў бы іх, а так заставалася толькі глядзець – і разумець, што, насуперак духу цяперашняга часу, які сцвярджае ўжо не роўнасць, а тоеснасць людзей, ёсць неадольныя перашкоды, ёсць незнікальныя адрозненні, глыбейшыя за адрозненні ў веры, культуры, дастатку; каляровыя курткі адштурхоўвалі наваколле, абаранялі ад яе бясколернасці, і я ўбачыў – праз колер, – што мы народжаныя ў розныя часы, хоць храналагічна яны супадалі. І вось гэтае адрозненне – паміж народжанымі ў адны гады, але ў розныя часы – было настолькі моцным, што выклікала непрыманне. Дзве жанчыны на чыгунцы, трое ўчарашніх бандытаў былі бліжэйшымі мне – справа не ў тым, што нас атачалі адны і тыя ж рэаліі жыцця, а ў тым, што мы былі спараджэннем гэтых рэаліяў, неслі ў сабе іх заганы і маглі гаварыць на мове заганаў; а людзі ў каляровых куртках з фотаапаратамі былі цэласныя і ў гэтым сэнсе – адчужаныя.

Верталёт хутка паляцеў; я пайшоў з даліны ўніз, уніз, уніз, па камянях, па рэчышчах ручаёў, і мне падалося, што цяпер трэба будзе толькі спускацца – па такіх жа высмяглых рэчышчах, хрусткім моху – уніз, уніз, уніз.

## V

Гарадскія могілкі, дзе былі пахаваныя жонка і сын Другога дзеда, аказаліся проста кавалкам зямлі сярод тундры. Магілы, агароджы, крыжы, не ахінутыя лістотай, паўставалі перад вачамі так, нібы гэта хворых у ложках з высокімі металічнымі спінкамі вынеслі пад адкрытае неба; могілкі без дрэваў, без цаглянай сцяны вакол здаваліся нейкім шанхайчыкам, паўтараючым цісканіну гаражоў і хлявоў. Прычым было адчуванне, што гэта самі нябожчыкі сталі звыкла ўладкоўвацца на новым месцы, і ў выніку замест рэгулярнага парадку могілак узнікла сціснутае зборышча магілаў; як на нарах у бараку ціснуцца адзін да аднаго, грэючыся, як набіваюцца з клункамі ў агульны вагон, пакуль не трэснуць рэбры, – гэтаксама людзі хавалі родных і самі клаліся потым у зямлю.

На краі могілак прыляпілася царкоўка; чырвоная яе цэгла, яшчэ не паспеўшы пацямнець, нагадвала некалькі катэджаў на ўездзе ў горад, дзе жыло начальства камбіната; калі б не купал, яе можна было б палічыць за яшчэ адзін такі будынак, ды і будавала іх, напэўна, адна брыгада; царква была зразуметая – заказчыкамі, архітэктарам, будаўнікамі – як катэдж Бога, а Бог – як аўтарытэт федэральнага значэння, да якога прыходзяць па параду, па “разбор па паняццях”; было нешта недарэчнае ў тым, што для царквы не знайшлося іншай цэглы, што яе паставілі, як вартавую будку, не спыніўшыся душой на дакладным і правільным месцы, і таму пры поглядзе з любой кропкі могілак царкву ўціскалі ў зямлю, знішчалі сваёй магутнасцю паласатыя, у колер арыштанцкіх робаў, трубы камбіната, якія вывяргалі вулканічны дым, і на іх тле знікалі і крыж, і пазалочаны купал.

У хаосе магілаў усё ж такі вылучаўся адзін участак, дзе магільныя пліты былі вышэй, масіўней; сярод нізенькіх агароджаў і праіржавелых крыжоў, якія праваліліся ў багністую зямлю, стаялі простакутнікі чорнага дыябазу, які везлі сюды па чыгунцы; надпісы на дыябазе былі пазалочанымі. Тут хавалі начальства; з авальных рамак глядзелі мужчыны ў мундзірах і пінжаках, палкоўнікі, галоўныя інжынеры, дактары тэхнічных навук –

глядзелі адзін на аднаго, бо пліты іх магілаў былі складзеныя ва ўяўны круг, і ніводная траекторыя погляду не магла выйсці з яго.

Нізкія хмары прынеслі чэрвеньскую завею, і чорны ад дыму трубаў снег падаў на магілы, чорны снег. Здавалася, што з нябёсаў сеецца сажа даўняга пажарышча; потым трубы выкінулі дым колеру кінавары, і снег стаў цёмна-чырвоным, ён расплываўся на твары, пляміў сцежкі могілак; з вартоўні выбег чалавек – ён схапіў мяне за руку і ўцягнуў пад дах; кінаварны снег мог быць небяспечны, але мне гэта было не важна.

Тундра вакол могілак зачырванела, быццам з зямлі выступіла разрэджаная адталай вадой кроў; чырвоная вада цякла па руках, па твары; колер цаглянага пылу, акаліны з шызым адценнем парахавой сажы распырскаўся па пейзажы, афарбаваў горы і неба, і помнікі могілак сталі астраўкамі ў паводцы гэтага колеру. Галавой я разумеў, што гэта проста выпадковасць – снегавы зарад, які трапіў у дым з трубаў, насычаны ім; але па тундры бег палярны заяц, які стаў чырвоным, бег пятляючы, нібыта ўцякаў ад ўяўнай пагоні, ад вар'яцтва чырвонага колеру, і атрымлівалася, што ён нясецца па крузе; заяц ратаваўся ад чырвонай завеі, не ведаючы, якога колеру ён сам, скакаў у бок, збіваючы са следу тых, хто нібыта гоніцца за ім, сыходзіў нізінамі і зноў выскокваў на ўзгоркі.

Нарэшце заяц знямог і лёг на зямлю ў імховай лагчынцы; былі відаць толькі ягоныя вушы. І я ўсвядоміў, што бессэнсоўна бегчы, як гэты заяц, калі бачыш чырвоную ваду на сваіх руках; бессэнсоўна казаць, што гэта проста выкіды камбіната, калі розумам ведаеш, *пра што* гэты чырвоны снег; ты гукнуты, і ты можаш толькі адчуць уласнае ўзрушэнне, прайсці яго шляхам – не спрабуючы зразумець, раскласці на складнікі, – не, менавіта ўжыцца ва ўзрушэнне да той мяжы, за якой колер ужо не мае назвы, снег не мае назвы, за якой спыняецца ўнутраны зварот славаў. Толькі тады гэты чырвоны снег, які замятае могілкі, стане чымсьці больш глыбокім, чым вобраз, чым метафара, – стане адчыненымі дзвярыма, ходам у прастору нарастаючага лёсу; раптам па памяці я паўтарыў радкі з "Гільгамеша", ягоны адказ чалавеку-скарпіёну:

У тузе майго цела, у смутку сэрца,
У спякоту і ў сцюжу, у цемры і ў змроку,
Ва ўздыхах і ў плачы – наперад пайду я!
Цяпер адчыні мне горныя вароты.

Паўтарыў – і яшчэ паспеў уразіцца, што няма часовых адрозненняў для такога роду станаў, якія беспамылкова пазнаюцца, калі яны ўжо ёсць унутры цябе. Няма ні сумневаў, ні змагання, ні гатоўнасці, ні рашучасці – толькі разуменне, якое здымае выбар, скрыжаванне, якое адмяняе другі шлях; і тады ты ў паўнаце сваёй свабоды кажаш у адказ на "Ты ўвойдзеш і больш адтуль не выйдзеш" – "Цяпер адчыні мне горныя вароты", кажаш так, бо раптам ўсведамляеш: усе іншыя, хто ўваходзіў, уваходзілі са страхам у сэрцы, уваходзілі не сваім шляхам, кіраваныя ілжывымі прычынамі, ад абавязку да ганарыстасці, а ты той адзіны – у сэнсе жыццёвай дакладнасці, а не ў сэнсе выбранніцтва – для каго гэты шлях правільны згодна з напрамкам унутранага шляху, шляху жыцця.

Чырвоны снег падаў над тундрай да Ледавітага акіяна; зямля была чырвоная, а вада паглынала яго, і цёмныя люстраныя рэкі цяклі спакойна; чырвоныя кроплі зрываліся з правадоў, у кар'еры снег раставаў на камені, па расколінах беглі чырвоныя ручаі, нібы тут падсеклі крывяносныя

жылы зямлі і здабывалі земляную кроў; на буравых, падобных сілуэтамі да лагерных вышак, у вусцях свідравінаў праступала ружовая пена, і газавыя паходні над тундравымі пусткамі рабіліся пунсовымі; бензапіла на лесапавале распырсквала чырвонае пілавінне, і рыдлёўка канаўшчыка ўваходзіла ў пустэчу, дзе нешта ліпка хлюпала; пад дошкамі разбураных баракаў прачыналіся ад паўвекавога сну клапы, і мядзведзі, чые продкі ільсніліся калісьці ад з'едзенай чалавечыны, зноў прыходзілі да адвалаў шахтаў, з якіх скідалі расстраляных; чалавечая кроў цякла ў дратах, у ствалах дрэваў, у артэрыях звяроў, у пустэчах зямлі, нібы свет стаў адной крывацечнай пухлінай, спляценнем крывяносных сасудаў, і толькі рэкі – рэкі цяклі спакойна.

Потым чырвоны снег растаў да канца; у галаве тонка звінела, нібы лопнулі ад напружання струны-капіляры. Мы выйшлі з вартоўні.

У вартаўніка левая рука была штучнай, а неабмятыя, занадта гладкія чаравікі выдавалі, што і замест ног пратэзы; маршчыны на ягоным твары былі глыбокімі і застарэлымі, скуру ўжо нельга было разгладзіць пальцамі, каб пагаліцца, яна запяклася, як на месцы апёку, і няроўнае сівое шчацінне тырчала з яе; худы, калісьці вельмі высокі – з яго пачыналася б любая шарэнга, пашыхтаваная па росце, – чалавек гэты быў цяпер сагнуты, і горб на ягонай спіне здаваўся зародкам другой галавы; вочы ягоныя былі нібы з іншага твару, ад іншага цела: жыццё стаміла плоць, але ў вачах, у іх пачырванелых, у язвах, бялках, было нешта бяссоннае, помнае, нядрэмнае, нічога не чакаючае.

Вартаўнік – гэты чалавек быў ім не па прафесіі і не паводле пакликання; ён быў, калі так можна сказаць, вартаўніком без дзеясловаў: ён не вартаваў, не ахоўваў, не выконваў абавязкаў, прызначаных вартаўніку, але тым не менш ім быў – у іншым сэнсе.

Калі могілкі яшчэ былі лагерныя, яго, інваліда, а ў вольным мінулым – каменячоса і майстра гравіроўкі па камені, прыставілі рабіць помнікі; дзясяткі гадоў ён высякаў імёны, прозвішчы, званні і пасады, нібы быў слугою замагільнага аддзела кадраў; ён вёў свой улік тым, хто пасадзіў яго і ахоўваў, вёў сваю кнігу жыцця і смерці – стос аркушыкаў у кардоннай тэчцы “Справа №...”, куды ўпісваў усіх нябожчыкаў.

Потым, калі горад ужо стаў большы за лагер, скончыўся ягоны чвэрцьстагоддзевы тэрмін, але ён застаўся; гравёр казаў, што яму няма куды вяртацца, што было праўдай, але сапраўднай прычынай было іншае: ён зросся з могілкамі, прывык стаяць каля іх брамы, згорблены, аглухлы ад віску пілаў па камені; былыя лагерныя чыны сыходзілі на пенсію, і рана ці позна, са стрэламі ганаровай варты або без, з ордэнамі на падушачках або без іх, чыноў апускалі на вяроўках у непадатлівую, камяністую зямлю, дзе на глыбіні метра лом ўдараўся ў лёд вечнай мерзлаты; гравёр браўся за свой інструмент, выбіваючы на камені гады жыцця.

У ім засталося не шмат плоці, траціна яго цела складалася з металу, дрэва і пластмасы – гравёра шанавалі і лячылі як след; тая плоць, што ацалела, набралася пылу каменю і абразіўных колаў, каменны пыл быў у ягоных лёгкіх, ён стаў амаль мінералам, як тыя загінулыя ў саляных капальнях гарнякі, чые целы, якія сталі салянымі ўтварэннямі, знаходзілі праз дзесяцігоддзі. Яго і звалі – Пётр, камень, і ён падлягаў ужо не фізіялогіі, а петраграфіі – навукі аб горных пародах. Усё жыццё больш меўшы зносіны з каменем, чым з людзьмі, ён вывучыў яго павольную сілу, сілу ціску, які выгінае горныя пласты, сілу таемных, назапашаных

напружанняў; ён звярнуў гэтую сілу на сябе, перамог слабасць чакання і перасягнуў напругу цярпення; ён быў проста могілкавым каменячосам, жыў пры могілках, і нават у глыбокай старасці літары на камені клаліся ў яго роўна і дакладна.

Зрок, вокамер гравёра нібы ўсталяваў тую ж дакладнасць унутры яго самога, патрабавальныя да дакладных абрысаў літары падпарадкавалі цела служэнню лініям; можа быць, ён і выжыў толькі дзякуючы гэтым літарам, дзякуючы іх графіцы; ён стаяў як бы на двух межах адразу – на мяжы жыцця і смерці і на той мяжы, дзе нябачнае слова становіцца бачным, улоўленым у графічныя згусткі літараў; літары сталі яго лагернай пайкай, і не бедныя калорыі сілкавалі яго – ён карміўся ад алфавіту, і ў практычным, і ў духоўным сэнсе. Ён жыў, не думаючы пра помсту, жыў адзінотна і самотна, і ягонае жыццё доўжылася, пакуль заставаліся яшчэ на свеце тыя, хто быў у лагернай ахове; ён сустракаў іх каля могілкавых варотаў, як яны калісьці сустрэлі яго каля лагерных; ён стаяў на пазычаных нагах з жалеза і дрэва, а яны ляжалі на спіне, і ногі іх былі пераабутыя ў чаравікі, загадзя набытыя для пахавання. Не помста валодала ім, не адчуванне, што адбываецца справядлівасць – ён проста глядзеў, як яны сыходзяць чарадой, якая расцягнулася на гады, сыходзяць, быццам бы пражылі звычайныя жыцці, былі звычайнымі людзьмі – і ён, абавязкова ён, павінен быў выбіваць лічбы, развітальныя словы жонак і дзяцей на іхніх магільных плітах, каб зробленае імі і ўжо амаль забытае, якое не стала віной, не спарадзіла ні пакаяння, ні збавення, усё ж такі замацавалася, зацвердзілася як нешта сапраўды былое; зацвердзілася не ў памяці людзей, а менавіта як незалежны ад памяці, ад “размножанасці” ва ўспамінах факт быцця.

Дастаткова адной засечкі, адной меткі, каб нешта не знікла. Патрэбен толькі адзін чалавек, які возьме на сябе працу памяці; памятаць – азначае быць у сувязі з рэальнасцю, нават інакш – самому быць гэтай сувяззю; не мы ўтрымліваем ва ўспамінах рэальнасць мінулага часу, а само мінулае, калісьці счапіўшыся, склаўшыся па-жывому, гаворыць памяццю чалавека, і гаворка гэтая роўна настолькі ясная, наколькі сам чалавек не хлуслівы не ў сэнсе намеру прытрымлівацца праўды, а ў сэнсе абсалютнасці дазволу казаць.

На заднім дворыку майстэрні гравёр спрабаваў зрабіць помнік сваім даўно памерлым таварышам; але наколькі дакладная была ягоная рука ў графіцы алфавіту, настолькі ж ён быў не здольны дакладна перадаць прапорцыі чалавечага цела; ён прыпадабняў яго літары, накладаў яе на цела як мерку, але цела выходзіла пераломаным, расцягнутым па ўяўных восях, быццам бы ўкрыжаваным на гэтай літары; няскончаныя статуі ляжалі каля сцяны, як трупы расстраляных, і гэта, напэўна, і быў помнік, які цалкам адпавядаў часу і падзеям, – помнік, які існуе ў мностве спробаў, але так і не стаўся; помнік, які ніхто не ўбачыць.

Я патлумачыў гравёру, чыю магілу шукаю, і ён адвёў мяне да невялікай упадзінкі, падобнай на бязгубы рот зямлі. У тых краях вечная мерзлата магла выпінаць з сябе крыжы і помнікі, як выштурхоўвае яна палі дамоў, магла заставацца безуважнай, а магла, наадварот, паглынуць магільны пагорак. Я ўспомніў той здымак, дзе Другі дзед выварочваў рыдлёўкай камяк зямлі на закладцы кар’ера; і зноў вярнуўся да пачуцця, якое адчуў, гледзячы на яго: рыдлёўка ўваходзіць у грунт – і позна ўжо завальваць гэтую ямку, адракацца, адмаўляцца, казаць нейкія словы; падзеі счапіліся так, што іх не расшчапіць, не спыніць дзеянне лёсу. Таму і на месцы ма-

гілы быў прагін паверхні зямлі, як бы паўтараючы – у адным з мноства месцаў – яміну кар'ера, распачатую Другім дзедам.

Гравёр распавёў мне, што з адным з этапаў у лагер прыгналі вар'ятаў: у доме-інтэрнаце, дзе яны жылі, адвялі месца пад участак для галасавання, бо сельская школа, дзе звычайна галасавалі, напярэдадні згарэла разам з калгаснай канторай. Вар'ятаў, вядома, замкнулі, аднак ноччу яны прабраліся на ўчастак і пазрывалі плакаты, каб павесіць іх у сябе ў палаце. Адзін плакат парваўся, і яго схавалі ў прыбіральні; гэта быў партрэт Сталіна.

Пра ўсё гэта гравёру распавёў санітар з таго дома, якога адправілі адбываць тэрмін разам з вар'ятамі. Яны не памяталі імёнаў, не адклікаліся на паверках, і санітар быў каштоўным работнікам: ён адказваў за ўсіх, злучыўшы ў сабе прозвішчы трох дзясяткаў чалавек. Вар'яты аказаліся выдатнымі рабочымі, лепшымі, можа быць, рабочымі на закладцы кар'ера: яны не ведалі, што дзесьці ёсць воля, не зайздросцілі, што нехта атрымлівае вялікую пайку, не імкнуліся падмануць, зрабіць менш, прыкінуцца хворымі; праз рыдлёўкі і ламы, праз адзінства дзеяння і формы – гэтаксама іх вучылі карыстацца лыжкай – яны здабылі крышку розуму, дастатковую, каб зліцца з інструментам, самім стаць інструментам. Дзяржанне рыдлёўкі, стрыжань лому сталі іх апорай, іх зямной воссю ў свеце, і яны капалі, секлі камень кайлом, дзяўблі дзіркі пад выбуховыя шпуры, цалкам аддаўшыся працы, цалкам замясціўшы ёй уласнае існаванне. Іх так і клікалі – Лом, Рыдлёўка, Тачка, і яны неўзабаве пачалі адклікацца на гэтыя мянушкі.

Паступова брыгаду вар'ятаў пачалі вылучаць, падкормліваць – ні з адной іншай брыгадай начальству не было так зручна – і афіцэры аховы жартавалі нават, што досвед варта распаўсюдзіць, арыштаваць псіхаў па ўсёй краіне: дзе яшчэ возьмеш такіх паслухмяных рабочых? Зняволеныя празвалі вар'ятаў Шалёнай брыгадай; добра яшчэ, што начальству хапіла разуму не ставіць выпрацоўку вар'ятаў у прыклад іншым – тады б іх проста пазабівалі, а так – зрывалі раздражненне, здзекаваліся, але сур'ёзна не чапалі.

Афіцэры, якія прапаноўвалі арыштоўваць псіхічна хворых, не ведалі – уся справа была ў санітары; гэта ён інтуітыўна зразумеў, што паўтаральныя дзеянні простай працы з зямлёй могуць дапамагчы гэтым людзям хоць часткова вярнуцца ў свет, і яшчэ там, у доме-інтэрнаце, гадамі вучыў іх працаваць, спачатку ў чатыры рукі, як вучаць іграць на раялі, потым, калі дзеянне павольна асэнсоўвалася, – самастойна. Сярод вар'ятаў быў брат гэтага санітара, казалі, што гэта спадчыннае, і ён спрабаваў выратаваць брата, папярэджваючы ўласнае верагоднае вар'яцтва; ён здолеў укараніць у сваіх падапечных, увязаўшы іх з памяццю цела, навыкі простай працы; але цяпер ягоная задумка сталася ўраўноўванем чалавека і інструмента.

Некалькі вар'ятаў былі бесканвойнымі – уцякаць з гэтых краёў можна было толькі маючы намер збегчы, тут нельга было заблудзіцца, дзе-небудзь па выпадковасці прапасці, і вар'ятаў адпускалі лёгка; гэтых людзей разбірала па дамах начальства пілаваць дровы, насіць ваду – усім падабаліся рабочыя, побач з якімі можна было адчуваць сябе яшчэ больш значным чалавекам, чым побач са звычайнымі зэкам; да таго ж яны не ўмелі ненавідзець начальства, іх сем'і, канвой, і побач з вар'ятамі тыя адпачывалі, як адпачываюць з сабакам ці коткай – у заступніцтве і спакоі.

Прыходзілі вар'яты і на кватэру да Другога дзеда; яго сямігадовы сын, які нарадзіўся каля лагера і нічога, акрамя лагера і лагернага народу, не

ведаў, нечакана ўпадабаў іх; адзін з вар'ятаў, чыё імя гравёр не памятаў, быў калісьці разьбяром па дрэве, бацькам вялікага сямейства; два ці тры гады ён не бачыў дзяцей. Не сказаць, каб былы разьбяр прасякнуўся чымсьці да хлопчыка, сына лагернага начальніка, – здольнасць спачуваць і перажываць ён страціў, але пальцы майстравога чалавека жылі сваёй памяццю і выразалі аскепкам шкла – нажоў і брытваў не магло быць у Шалёнай брыгадзе – драўляную птушачку-свістульку, выразалі машынальна, безуважна, нібы кожнаму дзіцяці – разьбяр мог яшчэ распазнаць малы рост – было неабходна мець такую птушачку.

Сын Другога дзеда, які жыў без цацак, – усе дзеці лагернай аховы раслі так, і нават звычайных дзіцячых гульняў накшталт казакоў-разбойнікаў яны амаль не ведалі, яны гулялі ў працу сваіх бацькоў, у канвой альбо ў салдат на вышках, – раптам пакінуў сваіх аднагодкаў; птушачка-свістулька, няхітры выраб, нешта спарадзіла ў ім. Не, ён не ўбачыў па-сапраўднаму той свет, у якім нарадзіўся і вырас, не пасталеў дастаткова, каб пашкадаваць арыштаваных, адчуць, хто ёсць ягоны бацька; цацка толькі адкрыла яму, што бывае іншае жыццё, дзе магчымы лёгкі спеў паветра; у тундры няма пеўчых птушак, і хлопчык не ведаў, як спяваюць салавей ці жаўрук, як і не ведаў, што ў людзей ёсць песні: за сем сваіх гадоў ён чуў некалькі разоў толькі патэфонныя пласцінкі і думаў, што спевы – гэта праца скрыні з ручкай і трубой; скрыня ўмее спяваць чалавечым голасам, яна для гэтага створана, а людзі спяваць не могуць.

Вусны, якія дакранаюцца да адтуліны, што гучыць, выдых, які нараджае гук, – хлопчык нібы інакш задыхаў – нейкія сілы яго істоты, незапатрабаваныя, драмаўшыя, абудзіліся да жыцця; ён пачаў часцей адасабляцца, сам складаў простыя мелодыі і высвістваў іх, быццам сам сябе зачароўваў, зноў і зноў выклікаючы знутры тое незнаёмае, што ўзнікала ў ім.

Як казаў гравёр, было нават нешта страшнаватае ў тым, як хлопчык прывязаўся да свістулькі; гравёр успомніў тады легенду пра Гамельнскага пацукалова, пра дзяцей, выведзеных гукам флейты; вар'ят-разьбяр, сам, можа быць, таго не жадаючы, зрабіў дзіўны і страшны падарунак. Ён быў родам з глухамані, з мяшчэрскіх лясоў і балотаў, якія не здолелі асушыць тры пакаленні ірыгатараў, царскіх і савецкіх; у доме-інтэрнаце ён, уцякаючы ад санітараў, збіраў па навакольных лясах дрэўныя наплывы, капы, чагу і выразаў з іх заўсёды адно і тое ж: морды лесуноў, якія крыўляюцца, скажоныя, як у выгнутым люстэрку, і нельга было сказаць, што разьбяр іх выдумляе – ён вызваляў тыя абліччы, якія ўжо былі ў дрэве, нібы лес і сапраўды быў поўны імховых асобаў, якія пасміхаюцца, якія выглядаюць услед чалавеку з-за ствалоў і толькі прыкідваюцца каравымі наростамі, калі ён раптам азірнуўся.

Хлопчык, зрэшты, не кранаўся розумам, а толькі ўсё больш і больш часу бываў адзін; часам ён бяздумна ішоў кудысьці, нібы свіст пявучай цацкі працягваў аднаму яму бачную шляхапаказальную нітку, і ва ўсім ягоным абліччы праступала нейкая нетутэйшасць, нібы ён тут выпадкова і надоўга не затрымаецца; з'яўленне птушачкі-свістулькі як быццам прыпыніла ягоны рост, забрала сілы росту, якія заўсёды даюцца дзецям з вялікім лішкам, з запасам; гэтыя сілы, здавалася, спусташаліся ў дарэмнай і паўтаральнай спробе ўдыхнуць жыццё ў драўляную птушачку, якая жыве чужым дыханнем.

Нарэшце Другі дзед заўважыў, што з сынам нешта нядобрае; заўважыў позна і са сваім вялікім націскам пачаў дзейнічаць. Хлопчык нічога

не мог растлумачыць бацьку – у дзяцей няма мовы дзеля тлумачэння ўнутраных станаў – а калі і мог бы, дык што б ён сказаў Другому дзеду: што яго прычаравала цацка, зробленая вар'ятам зняволеным? Другі дзед усё роўна – дзякуючы таварышам хлопчыка – даведаўся пра свістульку і яе адабраў; ён высветліў, хто яе зрабіў, і выклікаў да сябе з канвоем вар'ята-разьбяра; той ужо нічога не памятаў пра падарунак, не памятаў і пра хлопчыка, а пальцы яго абмацвалі драўніну начальніцкага стала, нібы разьбяр прымяраўся, што выйдзе з такой тоўстай дубовай плашкі, калі яе распілаваць і пусціць на дробныя вырабы.

Другі дзед, у меру свайго разумення, вырашыў, што разьбяр толькі сімулюе вар'яцтва, што ён досыць разумны, калі спрабаваў падкупіць дзіцё, сына начальніка лагера; у такія моманты ён рабіўся вытанчана-жорсткі: нікчэмны вар'ят асмеліўся думаць, што здольны знайсці сабе выгаду і праз сына кіраваць яго, Другога дзеда, воляй.

Ён адправіў разьбяра на Далёкі лясны ўчастак, дзе нарыхтоўвалі крапёж для будучых шахтаў. “Хай працуе з дрэвам”, – сказаў Другі дзед, ведаючы, што на лесапавале вар'ята неўзабаве заб'е паваленым ствалом; ён мог бы проста загадаць расстраляць разьбяра, але гэта было б прамым забойствам, а Другі дзед любіў рабіць так, каб ягоны прысуд учыняўся як бы самім ходам падзеяў, сіламі прыроды, адтэрмінавана і адчуджана: не асабісты яго, Другога дзеда, намер паслаў чалавека на смерць, а вінаваты сам трапіў у вір лёсу, з якога не выбрацца.

Сын Другога дзеда не ведаў, што адбылося з разьбяром; калі адабралі свістульку, ён цяжка захварэў. Тыдзень хлопчык ляжаў у сухім жары, цела яго напружылася і закамянела; часам ён ускрыкваў, змагаючыся з чымсьці ў напаўтрызненні. Фельчар распавядаў, што твар дзіцяці так рэзка і дзіка змяняўся, нібыта ў хлопчыку спрачаліся два розныя чалавекі, то адзін, то другі наперамену праяўляючыся ў твары. У адным відавочна праступала жорсткая парода Другога дзеда, які нарадзіўся ў вёсцы ля мелавых скалаў над ракой, дзе глеба была настолькі насычана вапнай, што на ёй раслі толькі вішні, а другі быў па-немаўлячы далікатны, няясны аблiччам, нібы прыйшоў у свет, не маючы перад сабой чарады продкаў, чые рысы вызначылі б ягоны твар, прыйшоў першым, новым, і той, у кім цякла кроў Другога дзеда, густая, цягучая, як сок, які выступае на ствалах вішняў, якая перадавалася з жылаў – у жылы, спрабаваў выцесніць гэтае немаўля з цела хлопчыка, выгнаць яго, выпхнуць, як птушанё з гнязда.

Праз тыдзень раніцой хлопчык прачнуўся здаровым, але схуднелым і амаль беспамятным; здавалася, што многія ўспаміны не вытрымалі жару хваробы і разувасобіліся, а можа быць, то разувасобілася частка яго душы, самая тонкая, чыстая, па-дзіцячы падатлівая; ён ачуняў і забыўся пра птушку-свістульку, але стаў нейкім востравугольным, драўляным у рухах, нібы ў хваробы вычарпалася жвавасць, якая дае злітнасць целу, і ўсялякая ранка, кожны ўдар цяпер доўга не сыходзілі з ягонае скуры.

Ён вярнуўся да аднагодкаў, але неяк па абавязку ўзросту – сябраваць з іншымі хлапчукамі; ён гуляў з імі абыякава, без рызыкі, і толькі хованкі адпавядалі новаму яго самаадчуванню: шукаў ён кепска, рассеяна, а вось хаваўся так добра, што, здаецца, і не хаваўся зусім, не меў намеру схавацца – проста знікаў у якой-небудзь шчыліне, як пятак, што закаціўся між масніцамі, і ў рэшце рэшт, калі той, хто шукаў, не спраўляўся, яго пачыналі шукаць гуртам, але знаходзілі толькі выпадкова. Хлопчык нібы перастаў хацець быць, наблізіўся па ўнутраным стане да старога; нешта

самае важнае перагарэла ў той хваробе, калі Другі дзед сядзеў каля ложка сына. Знік дар, абуджаны птушкай-свістулькай, дар уласнага, непадуладнага нікому іншаму жыцця, пра якое хлопчык яшчэ нічога не ведаў, акрамя чароўнага яго прадчування; і хлопчык унутрана апусцеў, стаў лёгкі, як абгортка, і таму не хаваўся, гуляючы ў хованкі, а правальваўся ў пазухі, пустэчы, дзіркі светабудовы, як выпадковая, не маючая свайго месца рэч.

Другі дзед не адступіўся ад сына; ён бачыў, што хлопчык па-ранейшаму не ў сабе, і думаў, што ён доўга – несувымерна доўга – перажывае крыўду за адабраную цацку, і зрабіў так, як зрабіла б большасць дарослых – вырашыў перакрыць адабранае падарункам, засланіць унутраны погляд, звернуты на страту, чымсьці новым, значным, каштоўным. Так дзейнічаюць тыя, для каго ўсе падзеі ў жыцці прыкладна раўназначныя, і адно лёгка вымаецца і замяшчаецца іншым; менавіта так звыкся абыходзіцца з людзьмі, Другі дзед, які, напэўна, не ведаў, што бывае нешта незваротнае не з-за фізічных уласцівасцяў, як смерць ці калецтва, а таму, што самае істотнае ў адносінах здараецца ў адзін момант, пасля якога ўсяму дадзена заснаванае на даверы вымярэнне будучага часу – ці ўсё ўжо назаўжды запазнілася.

Другі дзед заклаў кар'ер – і ўсё стала позна, горад быўададзены яму; для іх з сынам адносінаў гэты момант – усё ўжо позна – таксама надыйшоў, а ён усё разважаў, якім падарункам уразіць хлопчыка, як паказаць яму бацькоўскую шчодрасць, і нарэшце прыдумаў падарунак са значэннем, такі, што павінен быў вызначыць юнацтва і сталасць сына.

Па загадзе Другога дзеда ператрэслі баракі і знайшлі іншага разьбяра, у здаровым розуме. Некалькі месяцаў ён не выходзіў на развод, спаў па тры гадзіны, выконваючы заказ Другога дзеда; той прыходзіў часам, правяраў, раіў, пакідаў махоркі на пару самакрутак: асабліва прыплачваць разьбяру не трэба было, ягонае жыццё і без таго было ў руках Другога дзеда, і разьбяр працаваў, кожнай стружкай, кожным рухам нажа падаўжаючы ўласнае існаванне – Другі дзед мог паслаць яго ў землякопы, і стары майстар згарэў бы ў месяц на ўскрыццёвай працы.

Але насуперак жаданню жыць, насуперак жаданню дагадзіць Другому дзеду праца не ішла; заказ быў папярок рамяства, папярок уменняў майстра: ён павінен быў стварыць лагер у мініяцюры. Пазбіваць шавецкім малаточкам баракі з нарамі ўнутры, паставіць вышкі, зрабіць вошабойку, зброевую, лазню, склад, іншыя будынкі – усё цацачнае, каб магло на адмысловай падстаўцы змясціцца на стале; выразаць з дрэва і размаляваць канвойных салдатаў, аўчарак, кухараў, лазеншчыкаў, усю абслугу, а галоўнае – зняволеных; зрабіць тачкі з гузікамі замест колаў, ламы з мэблевых цвічкоў, рыдлёўкі з бляхі, кацялкі, печкі; у дапамогу яму паслалі гравёра – майго знаёмага, каб той дапамог рэзчыку ў самых дробных працах. Гравёр майстраваў пад павелічальным шклом зброю канвою, выточваў з бітага кубка фарфоравыя ізалятары на слупы з найтонкім, калючым, калі закрануць падушачкай пальца, дротам, а швачка з вольных шыла кажухі ахове і бушлаты арыштантам. З ваты вырабілі гурбы – каб раскласці вакол лагера; у ім меркавалася вечная зіма, але электрык зрабіў цьмянае, жоўта-масляністае, прагорклае сонца з лямпачкі ў дваццаць свечак, якое рухалася б вакол лагера на спецыяльным рычажку, як ходзіць у тундры сонца летам, а не ўзімку – не хаваючыся за гарызонт.

Цэлы лагерны сусвет ствараўся працамі разьбяра, гравёра і швачкі, але чым далей яны працавалі, тым больш у іх, паднявольных, мацнела адчу-

ванне, што яны робяць нешта неналежнае, амаль забароненае; парушаюць нейкі невыразны закон; разьбяр і гравёр прызналіся ў гэтым адзін аднаму і нават думалі спаліць цацачны лагер, учыніўшы пажар у майстэрні, але страх не дазволіў; яны бачылі, што Другі дзед занадта ўважліва ставіцца да сваёй задумы, ён прыходзіў усё часцей, усё даўжэй заставаўся, разглядаючы цацку, і здавалася, ён ужо забыўся, што замовіў яе для сына. Другі дзед выганяў разьбяра і гравёра з майстэрні, заставаўся там адзін, і яны бачылі скрозь шчыліну, як начальнік лагера, асветлены полымем капцілак і блікамі агню з прачыненай печкі, цёмны тварам, занадта рослы для нізкіх столяў, перастаўляе фігуркі зняволеных і салдатаў, замірае, як бог над новастворанай зямлёй, і нешта вырашаецца ў тыя імгненні, калі ён маўчыць, паліць, выпускаючы дым на цацачныя баракі, так што здаецца, быццам гэта дымяць іх коміны і дым адносіць скразняком на снег з ваты.

Праз тры месяцы цацачны лагер быў гатовы; Другі дзед зладзіў агляд працы майстроў. Па рэйках з дроту, дымячы едкай сажай, бег завадны паравозік з гружанымі сапраўднай рудой ваганеткамі: усярэдзіне быў уладкаваны кацёл, дзе падпальвалася смала; павольна ішло па крузе электрычнае сонца; землякопы маглі згінацца і разгінацца, ахова – цэліцца з вінтовак, а пашчы цацачных аўчарак адкрываліся, агаляючы чырвоныя зяпы – швачка не пашкадавала кумачовага лапіка; цацачны лагер ва ўсім паўтараў сапраўдны, і толькі адной фігуркі не было сярод цацак – фігуркі самога Другога дзеда, хоць у памяшканні лагернай канторы стаяў бюст Леніна велічынёй з напарстак, вытачаны з сабачай косткі – другой не было, – а на сцяне вісеў перароблены з паштовай маркі плакат з профілем Сталіна.

Другі дзед вырашыў, што падарунак павінен быць сюрпрызам; набліжалася гадавіна дня, калі кар’ер даў першую тону руды, яе збіраліся святкаваць. Другі дзед вельмі сур’ёзна ставіўся да гэтых вытворчых юбілеяў, яны значылі для яго больш, чым дні нараджэння блізкіх, чым іншыя святы кшталту Першамая. Звычайна такую гадавіну ён сустракаў у лабараторыі, дзе апрабоўвалі якасць руды; аднак вырашыў змяніць сваю звычку.

Увечары Другі дзед унёс у пакой хлопчыка падарунак; сын, як яму думалася, спаў, і ён расставіў на стале цацачны лагер і накрыў палатнінай, каб раніцай хлопчык сам зняў яе.

Раніцай жа адбылося іншае: хлопчыка знайшлі ў куце пакоя, куды ён забіўся і калаціўся там загорнуты ў палатніну; за вокнамі займаўся першы снежны світанак, сонца прабівала каламутную заслону аблокаў, у небе паўстаў вадзяністы, жаўтлявы пухір святла, і святло гэтае ўлівалася ў пакой скрозь простакутнік вакна, вылучаючы стол і падарунак Другога дзеда.

Лагер быў зламаны – увесь, да апошняга сучлянення, да апошняга паза, цвічка, склейкі, ніцянога вузла, драцянога змацавання; хлопчык, здаецца, працаваў усю ноч, знішчаючы цацку, уклаў усяго сябе ў гэтую працу знішчэння і цяпер дрыжэў ад бяссоння, стомы, страху. Пальцы яго крывавілі, пазногці былі здзёртыя, палатніна заплямленая крывёю; ён здолеў разламаць усё бясшумна, моўчкі, нібы рабіў галоўную справу свайго жыцця – не сямі пражытых гадоў, а ўсяго жыцця наперад; ён баяўся, у пакоі пахла мачой, ён, можа быць, цяпер да гатоўнасці назаўжды адмовіцца ад уласнай волі жадаў, каб усё вярнулася назад, каб лагер сабраўся дошчачка да дошчачкі, але ў пакой прыйшоў світанак, расплывістыя ноччу прадметы здабылі канчатковыя, цвёрдыя дзённыя формы, і нават ўяўленне адчаю не магло цяпер узнавіць разламаны лагер.

Другі дзед адхіснуўся з парога. Напэўна, ён менш здзівіўся б, калі б ка-

таклізм знішчыў сапраўдны лагер, чым гэтаму разбурэнню цацкі. Верагодна, у тыя вечары, калі ён прыходзіў у майстэрню, выганяў разьбяра з гравёрам і заставаўся з цацкай адзін, ён паспеў прасякнуцца ўласнай задумай і, можа быць, нават захаваў бы цацачны лагер у сябе ў кабінеце, калі б не было ў гэтым дурасці – глупства ва ўспрыманні іншых – адчування дзівацтва.

Гэты паменшаны лагер, лагер-копія сапраўды належаў Другому дзеду. Было нешта менш за ўсё метафарычнае ў зрушэнні маштабаў, у аптычным павелічэнні ўласнай фігуры, што адказвала не плоскаму самалюбству, а выяўляла сапраўдныя, як яму думалася, прапорцыі: Другі дзед у яго ўласным уяўленні не быў ні богам, ні нейкім уладаром, ён быў самім сабой, быў чалавекам, і тое, што ён валодаў жыццём і смерцю іншых людзей, не ўявіўшы сябе праз гэта кімсьці вялікім, толькі падкрэслівала для яго, што на самой справе ён і напраўду большы. Ён дарыў сыну цацачны лагер, каб той далучыўся да лёсу бацькі, прыняў свой – з ягоных рук. Баракі за вокнамі дома, у якое ні выглянi, баракі на стале – Другі дзед адправіў сына ў лагер, выключыўшы ўсё, што не-лагер.

Гэта можна было б назваць злачынствам супраць рэчаіснасці; трохі наіўная фармулёўка, але яна дакладна адлюстроўвае сутнасць і падлягае пашыранаму тлумачэнню: вельмі многае, што рабілі Другі дзед і падобныя яму, было менавіта злачынствам супраць рэчаіснасці.

А рэчаіснасць заўсёды помсціць тым, хто ўразае, спрашчае яе, адмаўляе цэласнасць яе разнастайнасці; помсціць – бо не валодае воляй, намерамі, якія могуць адрозніваецца ад выпадку да выпадку, – гэтак жа няўхільна, як няўхільныя законы прыроды; мы толькі не заўсёды здольныя распазнаць нейкую падзею як не выпадковую, а заканамерную.

Мы чакаем для тых, хто парушыў законы жыцця, відавочнай адплаты, але так уладкавана толькі людское правасуддзе, а пакаранне самога жыцця зусім не заўсёды ўспрымаецца як пакаранне. Іншага, чым пазбаўленне чалавечага, пакарання ў жыцці няма, хоць у нашым разуменні гэта не пакаранне.

Трэба глядзець як бы скрозь падзею – што яна робіць з чалавечым у чалавеку? Глядзець наскрозь – толькі тады мы зразумеем, што многія, хто бачыцца нам беспакараным злачынцам, пакараныя ўжо; прысуд учынены прыжыццёва, і чалавек ужо мёртвы. Гэты прысуд мае мала агульнага з юрыдычнай справядлівасцю, якая выяўляецца адчувальна, бачна – у страце ў адказ, і таму сэрца, якое чакае яснае і прамое адплаты, не здольнае прачытаць літару і спасцігнуць дух такога прысуду.

Зрабіўшы свой заказ майстрам, Другі дзед, сам таго не разумеючы, завёў тугую спружыну; раней ён быў начальнікам сярод лагерных начальнікаў, не лепшым, не горшым у тым часе, чыёй рухаючай сілай была абязлічаная канцылярская жорсткасць; ён быў гэтаксама абязлічаны, не вылучаўся з агульнага шэрагу, за яго казалі, за яго кіравалі яго пагоны і кіцель, а сам ён быў толькі носьбітам пагонаў, чымсьці другарадным у адносінах да ўласных звання і пасады. Але цяпер ён – нездарма ж майстры адчувалі, што робяць нешта нядоўгае, – цяпер ён пераступіў межы службы і ўвязаў свой лёс і лёс сына з лагерам кроўна, на жыццё і смерць.

Калі б Другі дзед быў больш просты, неўраўнаважаны, ён, можа быць, збіў бы сына, зайшоўся ў злосці, крыку; але ў яго натуры злосць не выяўлялася наўпрост, а ўтрымлівалася ўнутры, даспявала, – няхай на тое патрэбныя былі ўсяго хвіліны; злосць праганялася па змеявіках яго ўнутранага ўладкавання, узбагачалася цёмнымі адценнямі, здабывала атрутную

гушчыню і, па сутнасці, пераставала быць злосцю. Яна ператваралася ў здольнасць узяць чалавека на самы балючы злом, сутыкнуць яго з самім сабой; здольнасць абяссэнсіць нават самы крайні, поўны праўды ўчынак.

Злосць, выяўленая адкрыта, як бы замацоўвае падзею, якая яе выклікала, надае падзеі граматычную і быційную катэгорыю абсалютнага часу; таму Другі дзед, заведзены лютасцю, лютасцю, якая бачыць і чуе, у якую ён правальваўся імгненна, нібы яна ўвесь час кіпела ў яго пад скурай, апякала язык, паколвала пальцы, – вонкава заставаўся спакойным. Чалавек, які зрабіў нешта папярок волі Другога дзеда, павінен быў сам адмяніць, зрабіць так, быццам і не было ягонага ўчынку, і нават шчырага адрачэння тут было недастаткова: Другі дзед не верыў словам. Яму трэба было, каб учынак быў перабіты антыўчынкам, антыподам учыненага; Другі дзед замятаў сляды, не пакідаючы ў мінулым задзірынаў, шурпатасцяў, тых метак у памяці, якія сведчылі б, што ён зрабіў зло: сведка сам знішчаў сваё сведчанне, сам праходзіў у зваротным парадку шлях свайго намеру, раз-ажыццяўляючы яго.

Другі дзед сказаў, што хлопчык павінен аднавіць цацачны лагер; пакуль не адновіць, з пакоя не выйдзе, школа на гэты час адмяняецца, а ежу будуць прыносіць у пакой. Інструментаў не дадуць: здолееў зламаць – зможаш і аднавіць. Дзверы Другі дзед замкнуў на ключ – з такой сілай, што ключ сагнуўся ў замочнай шчыліне, замок заклініла, і хлопчык апынуўся зачыненым сапраўды бязвыхадна. У тое, што сын зможа ўцячы праз акно, Другі дзед не верыў: ён, відаць, адчуваў сваю волю як зямное прыцягненне і замкнуў сына яшчэ і на ключ сваёй волі, сціснуў яго пакоем, як сцятым кулаком, і цяпер вырашыў чакаць, не паслабляючы хваткі, чакаць, даўшы дзейнічаць часу.

Хлопчык, пакінуты сам-насам з немагчымасцю зрабіць запатрабаванае, павінен быў адчуваць, як на яго навальваецца час, які не нясе ў сабе збавення і які не абяцае яго нават у аддаленай будучыні; ты сядзіш, ведаючы, што выхаду няма, і гадзіны, якія праходзяць, толькі пагаршаюць гэты твой стан, ён робіцца знясільваючым, разбуральным.

Другі дзед бачыў у сыне здрадніка, ён адмовіўся б ад хлопчыка, калі б былі таму прыклады, але ў той час сыны адмаўляліся ад бацькоў. І Другі дзед не караў хлопчыка – ён змушаў яго адрачыся ад сябе.

Сем гадоў не ўзрост, як думаў Другі дзед, які звыкся мераць жыццё тэрмінамі зняволення – дзесяць гадоў, пятнаццаць, і яшчэ застаецца на потым пажыць, – і сямігадовае дзіця павінна было не проста адрачыся, яно павінна было праклясці сябе штодзённым праклёнам – і тады Другі дзед узяў бы яго, спустошанага, унутрана абмяклага, і вылепіў бы сабе іншага сына.

Жонка ягоная ўжо не магла мець дзяцей, і бясплоднасць яе ўлоння прыгнятала Другога дзеда, яшчэ адчуваўшага жаданне бацькоўства. Бацькоўства ўяўлялася яму пластычным дзействам, блізкім да працы скульптара, і не новае жыццё хацеў ён спарадзіць на свет – жывое, пакуль яно жывое, не паддаецца лепцы, яно своезаконна, – а нешта безадказнае, прыдатнае для яго стваральных, як ён думаў, намаганняў.

І, можа быць, менавіта таму жонка яго, перш чым стаць бясплоднай, пасля нараджэння сына двойчы нараджала мёртвых дзяцей. Нараджала, а потым яе жаночая існасць сама змярцвела, стала і цялесна нячулай, як быццам арганізм жахнуўся сапраўдным жаданням мужа, якія супярэчаць прызначэнню жанчыны.

Хлопчык не выходзіў з пакоя два дні; ад ежы ён адмовіўся яшчэ ў першую раніцу, і Другі дзед загадаў не карміць сына прымусова. Ён ведаў, што спачатку хлопчык акрыяе – выйшла па ягонай волі, адмова атрымалася, – а потым арышт пачне падточваць ягоныя сілы, і чым мацней, шчырэй хлопчык будзе верыць, што здольны нешта даказаць бацьку, адстаяць сябе, тым хутчэй ён знясіліцца ў гэтым супрацьстаянні.

У дзіцяці не можа быць рэдкага і для дарослых досведу, калі насуперак відавочнаму чалавек знаходзіць апору менавіта ў безнадзейнасці, беспрасветнасці свайго становішча. Гэта не безнадзейнае "горш ужо не будзе", не тупік, а пачатак: чалавек прызнае, што няма ніякіх надзеяў, ні праўдзівых, ні падманных, і тады безнадзейнасць нечакана аказваецца цвёрдай глебай, на якой можна стаяць. Яна рэальная, бясспрэчная, адчувальная, але цяпер яна не забірае сілы, а памнажае іх; калі няма іншай рэальнасці, апроч безнадзейнасці, то варта прыняць яе, а прыняць азначае прайсці наскрозь – і выйсці з другога боку, выйсці, памёршы для надзеяў на выратаванне, выйсці не выратаваным, то бок пазбаўленым свайго лёсу, а выпрабаваўшы яго цалкам.

Аднак у хлопчыка знайшліся іншага роду сілы; дзіця ж дзіця толькі па ліку гадоў, па жыццёвай кемлівасці, а магчымасць здзейсніць учынак як учынак, а не імпульсіўнае дзеянне, залежыць не ад узросту, а ад дакладнасці адчування, яна грунтуецца на пачуцці, што жывое, а што не-жывое ў тым уяўным таўталагічным сэнсе, у якім Аўгустын называе Бога жыццём жыцця.

Ахоўныя сілы, сілы адмаўлення вялі хлопчыка; гэтыя сілы адмаўляюць не смерць, а менавіта не-жыццё, нешта трэцяе паміж жыццём і смерцю, ахоўваюць чалавека ад яе замахаў. І хлопчык у тыя два дні, што не адчыняліся дзверы пакоя, здолеў вышчарбіць сцізорыкам падгнілую трохі дошку-саракоўку ў падлозе, ноччу выцягнуць яе і праціснуцца ў ход, які вядзе пад дом.

Другі дзед упершыню разгубіўся: не мог жа ён аб'явіць аблаву на сына. Але пошукі не спатрэбіліся – хлопчыка знайшлі.

Лагерны кар'ер, шырокі і глыбокі, ужо ў тыя часы як бы нахіліў навакольныя горы, нахіліў раўніну, на якой стаяў горад, які нараджаўся. І калі чалавек, ад выпітага ці ад весялосці альбо гора, ішоў так, што ногі самі неслі яго – ногі выносілі да кар'ера. Ва ўсёй акрузе ўзнік аптычны ўхіл, які задае ўхіл свядомасці; кар'ер стаў эпіцэнтрам падзеі, якая адбываецца на глыбіні і доўжыцца вечна; заўсёды здавалася, што кар'ер узнік толькі-толькі, што гэта зусім нядаўні правал, і чалавек, дзе б ён ні стаяў, нават калі кар'ер засланялі ад яго сцены, знаходзіўся ў полі яго прыцягнення.

Хлопчык, збегшы ноччу з хаты і не ведаючы куды ісці, самой планіроўкай пасёлка быў асуджаны выйсці да кар'ера; ноччу кар'ер не ахоўваўся. У той час ён быў для хлопчыка вокам Зямлі, ён бачыў хлопчыка ўсюды, схавацца не было дзе. Кар'ер быў стварэннем бацькі, і страх перад спячым бацькам перанёсся на нядрэмнае вока кар'ера; Другі дзед прыводзіў сына туды, на край верхняга ўступу, і хлопчыку здавалася, што ёсць нейкае ўсеагульнае вар'яцтва ў той упартасці, з якой людзі, падпарадкоўваючыся бацьку, капалі яму, і віткі кар'ерных уступаў бачыліся яму адлюстраваннем скручанай у спружыну бацькавай волі. Хлопчык пайшоў да кар'ера, бо толькі там, у зрэнцы вока, ён мог схавацца ад усёпранікальнага позірку; вока бачыла ўсё, але не сябе самое.

Раніцай брыгады, якія выйшлі на працу, знайшлі хлопчыка; пад ім абваліўся пясчаны пласт, і ён разбіўся; цела ляжала на камянях у грудзе

пяску. Ён упаў з той сценкі, дзе выбухі ўскрылі пароду, якая змяшчае эўдыяліт – ярка-чырвоны празрысты мінерал; пры дзённым святле ўвесь бок кар'ера быў у чырвоных плямах. Эўдыяліт – кроў шамана, як яго называлі мясцовыя плямёны, верылі, што гэта сляды бітвы з цёмным шаманам, пераможаным і пасаджаным у скалу над возерам; эўдыяліт гарэў цяпер, нібы смерць хлопчыка ўзмацніла яго свячэнне, і немагчыма было высекчы кіркамі, выкайліць усе зярняты мінерала, укропленыя ў пароду, як хацеў спачатку зрабіць брыгадзір, які зразумеў, якую карціну ўбачыць Другі дзед, і спалохаўся – камень сведчыў, камень абвінавачваў.

Другі дзед спусціўся ў кар'ер; брыгады вывелі адтуль, і з ім быў толькі доктар. Неўзабаве начальнік лагера падняўся наверх; цела засталося на камянях, засталося доктару і санітарам. Другі дзед адрокся ад сына – той асмеліўся яшчэ раз пайсці супраць ягонай волі. У выпадковасць смерці хлопчыка Другі дзед не верыў, але тлумачыў невыпадковасць як найменшую сваю віну: як дзёрзкасць, як непаслушэнства, як упартасць, няведанне кошту жыцця; цяпер ён шукаў прычыны, якія прымусілі хлопчыка зрабіць так, і шукаў іх зусім не ў сабе: хлопчыка хтосьці сапсаваў, настроіў супраць бацькі, адурманіў, аблытаў, увёў у вар'яцтва; разламаны цацачны лагер уяўляўся Другому дзеду вар'яцтвам, душэўнай хваробай.

Другі дзед адразу адмежаваўся ад мёртвага хлопчыка, вярнуўся ў памяці да таго паслухмянага, правільнага сына, якім ён быў яшчэ некалькі месяцаў таму, і калі думаў пра хлопчыка, думаў пра яго – ранейшага; сын яго ляжаў на камянях, сярод крывава мігатлівых эўдыялітаў, але Другі дзед ужо не бачыў яго: ён гутарыў з тым дзіцём, трымаў у думках тое дзіця, з якім яшчэ не здарылася непапраўнага. Але ўсё ж страшнае, уладнае бацькоўства казала ў ім насуперак ягонай волі: паламанае падзеннем цела хлопчыка было нібы сцята і кінута вобзем моцнай рукой, і Другі дзед сціскаў кулакі так, што здавалася: то была ягоная рука; эўдыяліты палілі яму вочы, вечныя, незнішчальныя, і ён пайшоў з кар'ера, загадаўшы начальніку кар'ернага будаўніцтва падарваць тое месца, дзе загінуў сын. Прабурылі вертыкальныя свідравіны з разлікам адваліць тоўсты пласт, выбухавікі заклалі шпуры, але калі грукат грудаў аціх, а пыл і дым аднесла ветрам, усе ўбачылі, што эўдыялітавая жыла ўскрылася яшчэ больш, стала яшчэ магутней; свежыя, не памутнелыя пакуль ад холаду і дажджоў эўдыялітавыя зярняты чырванелі сярод шэрага каменю. Другі дзед загадаў падрываць зноў, але парода ўжо не паддавалася, толькі пайшла глыбокімі расколінамі; з тых часоў начальнік лагера ніколі не глядзеў на паўночную сцяну кар'ера, і нават назіральную пляцоўку перасунулі так, каб не было відаць месца, дзе загінуў хлопчык.

Сын разбіўся; жонка Другога дзеда неўзабаве памерла: двое народжаных мёртвымі дзяцей скарацілі яе жыццё, сілы сышлі ў цяжарнасці, у роды, і аказалася, што хлопчык адзін трымаў яе на гэтым свеце. Яе жыццё пералілося з нараджэннем у яго, пералілося больш, чым тое звычайна бывае паміж маці і дзіцём; хлопчык, першы і адзіны сын, нараджаючыся, увабраў у сябе занадта многае ад маці – не ў сэнсе аблічча альбо рысаў характару, а менавіта ў сэнсе самой здольнасці жыць, жыццятворнасці – то была неспадзяваная ахвяра.

Калі ён хварэў, захворвала і яна – ейны ўнутраны стан стаў люстэркам унутраных станаў сына; два градуснікі можна было класці побач, і ртуць вагалася аднолькава, нібы тэмпературу вымяралі ў аднаго чалавека. Пры гэтым маці як бы загадзя саступіла сыну дарогу, а ён, з'явіўшыся на свет кесаравым сячэннем, без умяшання лекараў павінен быў бы загінуць,

задыхнуцца ва ўлонні, і таму жыў незаконна, бачком, на краёчку; яму не было месца ў жыцці, яна не разамкнулася, сустракаючы яго, даючы яму гэтае месца, і таму хлопчык застаўся без абароны, без заступніцтва, якія даюцца кожнаму паводле нараджэння. Усё было для яго небяспечна і пагібельна – і цвік, і слізкі лёд, і скразняк з форткі; усялякі выпадак, усё неспадзяванае і непрачытанае прыцягвалася да яго; хлопчык жыў, марнуючы жыццёвыя сілы так, што яны не паспявалі папаўняцца, а маці – маці цяпер залежала ад яго, і калі ён разбіўся ў кар'еры, яна не пералыла яго.

Другі дзед застаўся адзін; смерць жонкі ён, здавалася, амаль не заўважыў, але на самой справе яна змяніла яго. Ён сустрэўся з жонкай, яшчэ не будучы тым, кім стаў цяпер, прынёсшы сына ў ахвяру лагеру і кар'еру; жонка памятала яго ранейшага, і яе памяць, з якой ён, нават калі б захацеў, нічога не змог бы зрабіць, і замінала яму, і ўтрымлівала ад чагосьці; само іх сумеснае існаванне ўсталёўвала нейкія межы, межы яго ўнутраных пераменаў.

Другі дзед проста – у мужчынскай неадчувальнай прастаце – абраў яе ў жонкі, а яна сышлася з ім на жыццё і на смерць, і тое, што ўлонне яе змярцвела і яна больш не нараджала Другому дзеду дзяцей, яшчэ не азначала, што сувязь паміж імі спынілася; жанчына творыць, стварае мужчыну не сваімі жаданнямі, а маральнымі немагчымасцямі, якія задае яму яе прысутнасць побач. І калі сувязь мужчыны і жанчыны абрываецца яе сыходам, мужчына можа хуткаплынна – калі навакольнае падштурхоўвае яго да гэтага, – распасціся ў маральным сэнсе, бо больш не сустракаецца з сумленнасцю плоці – з вернасцю, і жанчына больш нябачна не падтрымлівае яго, у яго няма апоры нават у звычцы да яе існавання.

Для Другога дзеда гэты распад праявіўся так: ён як бы цалкам перайшоў на бок смерці, упэўніўшыся, што толькі яна – пастаянная, не схільная да выпадковасцяў; ён, можна сказаць, стаў выпрабоўваць людзей на смерць – паддасца чалавек ці не, – нібы спрабаваў зразумець, чаму ж загінуў сын.

У той час у лагер даслалі партыю раскулачаных; іх забаронена было выкарыстоўваць на працах – паводле загаду іх трэба было адправіць яшчэ далей, у нізоўі ракі, якая працякала непадалёк ад горада; лічылася, што раскулачаныя будуць каланізаваць дзікі край, але любы, хто ведаў, што там, у нізоўях, – лесатундра да самага акіяна, – разумеў, што каланізацыя ёсць проста эўфемізм.

Эшалоны прыйшлі, калі ўжо на рэках пачаўся крыгалом; тады ж у лагеры здарыўся абвал у нядаўна распачатай штольні.

Унутры пароды, якая здаецца непарушным маналітам, бываюць зоны тэктанічных расколінаў, якія нельга выявіць з паверхні; камень там тысячаразова паламаны зрухамі горных пластоў і існуе ў стане неразрыўнай расколатасці: у гэтыя расколіны не ўвагнаць і лязо брытвы, настолькі шчыльна камень сціскае камень, але гара ўжо паслаблена знутры, і калі ў такую зону трапляе горная выпрацоўка, пароды лопаюцца, расколіны разыходзяцца, столь забою абвальваецца на галовы шахцёраў; ціск, які прыцісраў глыбу да глыбы да люстранога бляску, "спадае" ў адным выплеску, і чым упарцей чалавек будзе старацца прабіць ход у такіх знявечаных пародах, тым страшнейшым будзе адказ гары: стук кірак, адбойных малаткоў, скрып бураў будзе адклікацца ў яе нетрах, быццам абуджаючы спячыя сляпыя сілы, і каменнае неба падзямелля яшчэ не раз падломіць слупы ўмацаванняў.

Штольня, якую нядаўна заклалі ў лагеры, на другой сотні метраў урубілася менавіта ў такую зону; выпрацоўка вялася ў сланцах, у тонкапластовай пародзе, якая была калісьці доннымі асадкамі старажытных

мораў, у якіх не было яшчэ жыцця, – сланцавыя пліты былі пустыя і звонкія, ні ракавіна, ні шкілет рыбы не адбіліся ў іх. Трэба было прабіцца скрозь сланцы, каб дасягнуць руданосных пародаў, але сланцы не паддаваліся: родавыя схваткі горнага масіва перавярнулі іх тоўшчу, і цяпер сланцавыя пласты залягалі не гарызантальна, як некалі адклаліся на дне, а вертыкальна, падобна тысячам прыціснутых адзін да аднаго нажоў гільяціны. І калі выбухі ў забоі скранулі раўнавагу ўнутры гары, ударылі ў каменны звод, распіраючы, раздзіраючы непрыкметныя расколіны, цяжкія і вострыя сланцавыя пліты пасыпаліся ўніз, руйнуючы драўляны крапёж, перасякаючы ваганеткавыя рэйкі – і людзей.

Працу ў забоі спынілі; геолагі сышліся на тым, што дастаткова яшчэ адзін раз правесці выбухі – і небяспечная зона будзе пройдзеная, а пароды, якія абрынуліся, можна ўмацаваць, заціснуць сталёвымі падпоркамі, злітаваць цэментам. Але хтосьці павінен быў увайсці ў забой і прасвідраваць адтуліны, пяцімятровыя шпуры для выбухоўкі; раней за паўторныя выбухі нельга было нічога ўмацоўваць, яны разбурылі б крапёж.

Тыя, хто ацалеў з брыгады, якую пасекла абвалам, ісці адмовіліся; да штольні прыехаў Другі дзед. Усе думалі, што ён будзе пагражаць расстрэлам, і гадалі, якая пагібель – ад кулі ці ад каменя – перасіліць. У штольні сабраліся і знаўцы смяротнае справы, і тыя, хто пад смерцю хадзіў; і для адных, і для другіх яна была адзінай, па сутнасці, падзеяй тутэйшых месцаў, тутэйшага перакуленага свету, дзе жыццё рабілася дужа аднастайным, а смерць – надзвычай разнастайнай. Жыццё скурчвалася, а смерць, наадварот, памнажалася, пачашчалася, як пачашчаецца біццё пульса. Яна і была пульсам гэтага свету, дзе прадметы пачыналі праводзіць смерць, як дрот праводзіць ток: цёплая шапка рабілася шапкай-за-якую-могуцьзабіць, а лом і рыдлёўка ператвараліся ў інструмент-які-забівае. Жыццё цела паскаралася, адпушчаныя чалавеку дзесяцігоддзі мінулі за гады; але ўнутранага жыцця гэтае паскарэнне не тычылася, і ў заўчаснай старасці людзі выраджаліся: старасць патрабуе асаблівых сілаў – сілаў існаваць у старасці, у старыкоўстве, а гэтыя сілы не ствараюцца гэтаксама хутка, як хутка знясільваецца чалавек у цяжкай працы.

Аднак Другі дзед не паслаў ацалелых гарнякоў у штольню; ён стаяў ля цёмнае зяпы, адкуль нават у гарачы дзень цягне халоднай сырасцю, удыхаючы мінеральны пах раздробленых сланцаў, які змяшаўся са смуродам выбухоўкі; у штольні па ўсіх расколінах цякла вада, часам абвальваліся груды са зводу, і здавалася, што пад зямлёй цьмяна рухаецца цяжкі, дрымучы розум гары; ён не помсціў, не пагражаў – ён проста варочаўся, не ў моцы ўсвядоміць сябе самога. Рост крышталяў, рух пародаў вымяраюцца такім лікам гадоў, што камень не заўважыць чалавечых падзеяў; а мы, спускаючыся пад зямлю, ўваходзім у спрасаваныя эпохі, апынаемся ў мінулым настолькі аддаленым, што ўся працяглаць нашага жыцця “сціскаецца” да нуля.

Таму нам і жудасна, калі камень адрываецца, падае, ажывае, у гэтым паўстае іншая, не зусім прыродная катастрофа – то руйнуецца зацвярдзелы час, распадаецца сама аснова свету, тое, што ў ім непарушна, на чым трымаецца ўсё астатняе; трэба быць дэміургам, тытанам, каб ступіць у гэтую катастрофу і знайсці, што ўнутрана супрацьпаставіць ёй.

Не ведаю, што адчуваў Другі дзед, гледзячы на створ штольні; але ён загадаў даставіць да штольні тых самых раскулачаных, каго павінны былі адправіць далей, у нізоўі ракі. Іх прывезлі, яны былі яшчэ ў ранейшым адзенні; любы з лагернікаў ужо абцёрся, як рэч, абкатаўся на нарах, а яны

стаялі хто расшпілены, хто зашпілены, стаялі занадта свабодна; і Другі дзед загадаў абвясціць – хто рызыкне і ўвойдзе ў штольню, прасвідраваць шпуры для выбухоўкі, каб выклікаць другі, штучны абвал, таго не пашлюць у тундру, пакінуць у лагеры.

Пэўна, Другі дзед разлічваў, што калі хто і пагодзіцца, то загіне – пароды не вытрымаюць бурэння. Але дзесяць чалавек на чале з былым вясковым старастам, якія ніколі раней не бачылі горнага бура, здолелі ціха прайсці па штольні, заміраючы ад скрыгату каменя, прасвідраваць скалу, як паказалі на плане маркшэйдэры, – і вярнуцца цэлымі; смерць не ўзяла ссыльных.

І можа быць, Другі дзед выканаў бы сваё абяцанне, але там жа, у штольні, высветлілася, што ўсе дзесяцёра – землякі адпраўленага на лесапавал разьбяра, які зрабіў сыну Другога дзеда свістульку; былы староста паспеў яшчэ ўзрадавацца, што начальнік лагера ведае іх родны край, яму бачылася ў гэтым магчымасць нейкіх паслабленняў – але Другі дзед ужо сеў у машыну і загадаў рыхтаваць этап.

Усіх ссыльных адвялі па насыпу ўзводзімай чыгункі да ракі, а там пагрузілі на баржы; вярнуўся толькі канвой, які нічога не распавядаў – людзей высадзілі на выспу, і буксіры з баржамі сышлі; з тых часоў у тундру высылалі яшчэ многіх, некаторыя здолелі нават выжыць там, пабудаваць пасёлкі, але пра лёс таго першага этапу ніхто нічога не ведаў; дзе гэтая выспа і што там адбылося.

А прыкладна праз год Другі дзед аслеп. Позняй вясною, калі ў тундры яшчэ ляжыць снег, але сонца ўжо свеціць ярка і снег, заледзянелы, цукрысты, бліскучы, адбівае гэтае жорсткае святло, над тундрай павісае светлавая смуга. Але яна не ахутвае вачэй, як туман, а выпальвае іх, як выпальваюць лупай па драўніне; паводка святла, папераджаючая разліў водаў, нараджае запалены дзень, і вочы таксама запаляюцца ад ненатуральнай, пякучай, зіхатлівай белі.

Позняй вясной Другі дзед выправіўся на машыне ў далёкі пасёлак па нерасталым яшчэ зімніку, па ледзяной трасе, укатанай грузавікамі, якая ідзе, быццам гаць, праз непраездныя тундравыя балоты. Але ручай пратачыў лёд, падмыў дарогу, легкавушка Другога дзеда разбілася, аглушаны кіроўца патануў у прамыіне, і Другі дзед застаўся ў тундры, за дзясяткі кіламетраў ад жылля.

Адлегласць невялікая, некалькі дзён шляху, але ў тыя дні сонца набрала сілу, снег яшчэ амаль не раставаў, прамерзлая зямля халадзіла яго, і прамяні адбітага святла ператварыліся ў лёзы; у вочы другому дзеду зірнула бель – не расплывістая, блізарукая бель снегападу, а хваравітая, прыглушаючая колер неба, бель лёду, які блішчыць.

Прыродная бель сляпая, яна не мае глыбіні, перспектывы, якая ёсць, скажам, у чарнаце; белы на поўначы – гэта своеасаблівы колер нябыту, колер смерці, каляровая сцяна, якая пазбаўляе магчымасці адрозніваць бліжэй-далей, замыкае чалавека ў ім самім. Свет ператвараецца ў пазбаўленую гарызонту сферу, і вочы баляць, бо бачачы – не бачаць, тут няма чаго бачыць, акрамя белага колеру, які зводзіць з розуму сваёй раўнамернасцю, непадзельнасцю на адценні, рэчыўнай шчыльнасцю, – здаецца, яго можна раздзіраць рукамі, секчы сякерай. Ты ўпадаеш у каларыстычны транс, у манатоннае каляровае вар'яцтва; бель асляпляльным уколам урываецца ў глядзельны нерв, і застаецца пустата белага, гладкая і балючая.

За два дні Другі дзед аслеп: тундра забрала ягоныя вочы. Яго знайшлі людзі, накіраваныя з пасёлка, куды ён ехаў, знайшлі выпадкова: адзін з тых, што сядзелі ў кузаве машыны, быў баец аховы, салдат з "лятучых"

атрадаў, якія шукалі ўцекачоў; па вясновым насце ўцякалі многія, і салдат ведаў, як трэба глядзець, каб засцерагчыся ад сонца і лёду – у закуранае шкельца; у гэтым шкельцы ён і заўважыў цёмную кропку далёка ад дарогі, у доўгім распадку; калі б глядзеў ён проста так, нават прыкрыўшыся брыльком далоні, чорную кропку паглынула б, растварыла бель.

Другі дзед амаль што загінуў; ён адважыўся выпрабоўваць людзей на смерць – і сам быў увагнаны ў яе; яго выцягнулі, як за пупавіну, вострым позіркам вышукніка, але за выратаванне ён заплаціў слепатой. Зрок потым трохі аднавіўся, Другі дзед амаль перасіліў хваробу – але потым аслеп ужо канчаткова.

Цяпер я ведаў, што ён заўсёды бачыў перад сабой, што апошняе захавала яго памяць – белы колер; на ім ён спрабаваў вывесці пісьмёны, якія перайграюць лёс; вярнуць сына – і вернецца зрок, вернецца мінулае, а гады, якіх ён не бачыў, лёгка сыдуць, як не былі.

## VI

Мне трэба было выправіцца на раку, знайсці выспу ссыльных – прайсці ўсю траекторыю лёсу Другога дзеда; я адчуваў, што там, у тым закутку, пра які і Другі дзед нічога не ведаў да канца, ёсць нейкая мяжа, край; я назваў яго для сябе – край забыцця.

Цяпер я ўступаў у прастору, дзе не было сведак. І выспа, згаданая гравёрам, падалася мне кропкай – пульсуючай кропкай, з якой усё пачынаецца – і да якой усё зводзіцца.

Развітаўшыся з гравёрам, я выбраўся з горада; мне трэба было спяшацца, нібыта скончаўся тэрмін; я ўспомніў сон, выспу твараў, баржу, куды ўвайшлі і зняволеныя, і канвой, дзверы трумаў, якія зачыняюцца; гэтаксама і для мяне зачыняўся час вандроўкі, горад ужо выштурхоўваў мяне ў дарогу. Той унутраны стан, які ўтрымліваўся ўва мне з тых часоў, як я адважыўся даведацца ўсё пра мінулае Другога дзеда, таксама скончаўся; станам, калі разумець яго як суму ўспрымання, як намаганне, якое імкнецца быць адкрытым падзеям, якому таксама адпушчаны тэрмін, і яго не пераступіць, бо далей – штучнае дыханне, самавазгонка, голая неабходнасць.

Я не думаў, як буду вяртацца; думка пра вяртанне ператварыла б пошук выспы ў падарожжа туды і назад. Але нельга было дасягнуць выспы, а потым вярнуцца тым жа шляхам – гэта супярэчыла б яго канчатковасці, яго абсалюту кропкі.

Я рушыў да ракі па насыпе былой чыгункі; часам звярочваў, узбіраўся на сопкі і глядзеў вакол: насып быў нізкі і не даваў агляду. Пейзаж быў нібы спароджаны мозгам вар'ята, у якім бясконца паўтараюцца адно слова, лінія, матыў; тундравыя азёры, балоты і сопкі таксама былі настолькі падобныя адно да аднаго, што зусім гублялася ўяўленне аб працягласці: мясцовасць не ўтрымлівала ў сабе нічога, што погляд мог бы распазнаць як новае, іншае, і ты не мог адсачыць, рухаешся ты ці крочыш на месцы.

Лінію насыпу – вектар руху да мэты – мясцовасць як бы растварала ў сабе; яе размывалі дажджы, паглыналі балоты – так рассмоктваецца рубец на скуры; тут трэба было быць качавым чалавекам – там, дзе ландшафт не мае ўнутры сябе адметных рысаў, качэўе становіцца ментальна дакладным прынцыпам існавання.

Адлегласць тут можна было адлічваць толькі па рэштках лагераў. Баракі, ахоўныя вышкі згнілі; слупы з калючым дротам паваліліся. Захаваліся

толькі абрысы, бачныя з адлегласці, і для таго, хто знаходзіцца ў былым лагеры – лагера не было: зямля і зямля, купіны і купіны, хіба што валяўся фарфоравы ізалятар або кавалак цэглы. Адзін такі ізалятар я падняў; як метэарыт, які можна знайсці ў тундры, пазнаецца па іншароднасці – адлітая ў метале касмічная хуткасць, – так і вытачаны, падобны да шахматнага ферзя кавалак белага фарфору быў іншапрыродны ў гэтым месцы, яно не жадала хаваць яго, выдавала, як за мяшок мукі выдавалі ўцекачоў.

Рэйкі і шпалы з насыпу былі знятыя; не разбіралі толькі масты праз рэкі. Пяціметровы земляны вал быў насыпаны рукамі зняволеных; зямля зляжалася ўжо так шчыльна, што вал набыў тую плаўнасць, неназойлівасць абрысаў, якая ёсць у стэпавых курганоў: яны і нешта рукатворнае, і нешта прыроднае адначасова.

“Рукамі зняволеных...” – сказаў я сам сабе; у гэтых словах было занадта шмат ад прыналежнага культуры – і занадта мала ад рэальнага адчування; насып ужо не палохаў, не прымушаў гараваць. Як гэта бывае з усякім маштабным збудаваннем, ён заклікаў хутчэй уразіцца ім самім, убачыўшы яго як адзінае цэлае, у якім ужо не распазнаць намаганняў асобных людзей, які ўяўляе сабой як бы бачны, арэчаўлены жэст, створаны надчалавечай воляй.

У кожнай гіганцкай пабудове ёсць элемент ірацыянальнага; меркаванні карысці і тэхнічнай неабходнасці, якія вызначаюць воблік і памеры гэтых збудаванняў, быццам бы пакідаюць месца яшчэ для нейкага меркавання вышэйшага парадку, якім усё злучаецца і ажыццяўляецца. Нейкая воля кажа – гэта будзе менавіта тут, гэта будзе менавіта так, і гэтая воля, якая пакрывае адрэзак паміж адсутнасцю і наяўнасцю, і ёсць ірацыянальнае.

І чым маштабней пабудова, тым больш значны ў ёй гэты элемент ірацыянальнага: створанае становіцца настолькі вышэй за сілы аднаго чалавека, вышэй за паўсядзённыя людскія патрэбы, што чалавек вымушаны думаць пра існаванне нейкай вышэйшай, не бюракратычнай інстанцыі, на якой ляжыць канчатковая адказнасць за першапачатковы выбар: гэта будзе менавіта тут, гэта будзе менавіта так. А з дапушчэннем такой інстанцыі пабудаванае набывае амаль гіпнатычнае ўздзеянне; архітэктурная або інжынерная форма напаўняецца ўяўным зместам, адбываецца падмена – цяпер ролю зместу выконваюць маштабнасць і размах.

І потым таму, хто глядзіць, вельмі складана не паддацца гэтаму ўздзеянню, не палічыць памеры пабудовы сімвалам улады, якая была здольная спыніць гісторыю, зацвердзіўшы яе ў непарушных формах грамадскага ладу, будынкаў, збудаванняў і помнікаў; улады, пра часы якой нашчадкі будуць успамінаць як пра тварэнне гісторыі, а ўласныя часы будуць разумець як заняпад, нешта другаснае, што не змяшчае ў сабе ранейшых магутнасці і энергіі.

Я ішоў па насыпе; мне таксама было няпроста ўсвядоміць, што нічога ў ім няма, акрамя затрачанага часу паднявольнай працы, акрамя сотняў тысячаў тачак з грунтам. І калі быў у насыпе нейкі маштаб, то – маштаб бессэнсоўнасці зробленага.

І тое, што насып закінуты, ніякай чыгункі няма, бачылася не памылкай, а вынікам той першапачатковай бессэнсоўнасці; насып быў як нейкі ілжывы шлях, і ўсе чалавечыя сілы, прыкладзеныя на гэтым шляху, трацiліся па-сапраўднаму, але марна – сам шлях быў зроблены так, каб гэтыя сілы адбіраць, паглынаць, і толькі.

Я ўявіў, як тут круціліся колы лябёдак, працавалі кузні з вадзянымі

молатамі, і ўсе гэтыя вароты, шківы, тросы, блокі, зубцы, валы, восі склаліся ў механізм, які пускае на вецер, у распыл сапраўдныя чалавечыя намаганні – высілкі працы, думкі, сам намер быць. Яны маглі апынуцца стваральнымі, нешта зрушыць, чамусьці спрыяць, чымсьці стаць у гістарычным часе – але былі прапушчаныя праз жорны, прыкладзеныя да адчужанай ад чалавечага жыцця мэты, і гэтым забітыя.

Я ішоў; ужо скончыліся месцы, куды дабіраліся паляўнічыя і рыбакі; пачалося бязлюддзе. Розніца паміж месцам, якое наведваюць некалькі разоў у месяц, і месцам, дзе не бываюць гадамі, агаломшваючая: справа не ў пачуцці першароднасці прыроды – яно наіўнае і толькі замяшчае іншае, больш глыбокае: пачуццё абсалютнай адсутнасці іншага чалавека. Там, дзе род чалавечы вычэрпваецца адным табою, узнікае дзіўная, немагчымая ў іншых месцах туга: туга не па цяпле, не па зносінах, а туга па чалавеку ў антрапалагічным сэнсе; след чужога бота на пяску ля ручая можа прымусіць насцярожыцца – ты не ведаеш, хто гэты незнаёмец: золаташукальнік-адзіночка, уцякач, дзівак, які шукае ў тундры заспакаення або адкрыцця, – але ты пойдзеш па гэтым следзе, бо нават магчымае зло, з якім ты рызыкуеш сустрэцца, будзе ўсё ж такі зыходзіць ад сутнасці тваёй пароды.

Менавіта такая туга, пэўна, і зводзіць людзей там, дзе сустрэча як з’ява быцця, здаецца, не існуе; дзе прасцей за ўсё размінуцца і амаль немагчыма сысціся; дзе двое – ужо занадта шмат для разрэджанае прасторы.

У адзін з дзён я падняўся на чарговую вяршыню сопкі; халодны вецер гнаў хуткімі хвалямі лёгкія аблокі, і тым нерухомей была зямля. Але раптам я адчуў, як адна з нітак павуціння ўвагі, якімі погляд аблытвае бачнае, слаба нацягнулася; збоку ад мяне, за некалькі кіламетрах, ішоў чалавек.

Я ведаў, што гэта чалавек, хоць бачыў толькі цёмную пляму – жывёлу на такой адлегласці не заўважыш; яна зліваецца з мясцовасцю, жыве ля зямлі, ад зямлі кормiцца, і кожны крок яе паўтарае тую хаду, якая, як рытм у музыцы, ёсць у распасціранні ландшафту; жывёла жыве ў гарызанталі, у ёй працягнутае яе цела, а чалавек – вертыкальная вяха; яго рух прымушае рухацца ўсё вакол, стварае ссоўванне восі каардынатаў, тады як бег жывёлы не закранае прастору, пакідае яе нерухомай.

Чалавек; мне стала цікава, і я павярнуў яму наперарэз. Праз паўгадзіны я ўжо мог разгледзець незнаёмца.

Да заплечніка ягонага былі прычэпленыя аб’ёмістая палівачка і дзіўныя, з вельмі частымі тонкімі зубчыкамі граблі на кароткай ручцы. Ён то заміраў, то коратка перамяшчаўся, то здзіраў граблямі мох і лішайнікі з пакатых, круглявых каменных плітаў – і эканомна, не трацячы лішняга, паліваў іх вадой з палівачкі.

Чалавек быў немалады, ён рухаўся, не да канца давяраючы целу, але ўсё-ткі на яго спадзеючыся; хударлявы, сівавалосы, у вопратцы з выцертага брызенту і балотных ботах, без зброі, але з граблямі і палівачкай; погляд яго быў цалкам скіраваны на зямлю.

Я сустракаў у тундравым бязлюддзі вельмі розных бадзягаў; нехта шукаў па схілах сопак жылы з каштоўнымі камянямі, хтосьці абшнарваў пакінутыя пасёлкі – кажуць, там бывалі нераскрытыя схованкі; хтосьці збіраў біўні мамантаў па рэчышчах рэк, хтосьці адшукваў Ан-2, які разбіўся ў даўнія гады, вывозячы з прыіска залатую крупку, хтосьці проста ішоў наўздагад, каб перахапіць чужую знаходку, якой бы яна ні была. Здара-

ліся шукальнікі старажытных капішчаў; вар'яты, якія жадаюць заснаваць дзяржаву; зборшчыкі метэарытаў; вольныя тлумачальнікі гісторыі, якія шукаюць сляды Гіпербарэі.

Сустрэты мной чалавек – па манерах, па дасведчанасці – быў хутчэй са старацеляў, з тых, хто шукае нешта рэальнае; граблі і палівачка мяне больш не здзіўлялі – яны відавочна былі інструментам пошуку, толькі я не ведаў, што ж ён шукае.

Даганяючы чалавека, у пакатым распадку, прыкрытым сопкамі з боку насыпу, я натрапіў на чэрап. У балоце немагчыма выкапаць магілу, а тут, у лагчыне паміж скалаў, сабралася камяністая зямля; у некалькіх месцах яна прасела роўнымі прастакутнікамі, тундравыя лісы выкапалі там сабе норы, уваходы ў іх угадваліся па высыпках утрамбаванага лісінымі целамі грунту, па жмутках звалянай воўны; каля адной з нораў і ляжаў чэрап – ліса выграбла, выскрабла яго з глыбіні ходу нары.

Лісіныя норы сыходзілі ў размякчаную зямлю лагернай магілы; цяпер, калі вочы ведалі, што шукаць, сярод моху і камянёў я знаходзіў то рабро, то пазванок, то галёначную костку; лісы выцягнулі іх, раскідалі; дробныя грызуны, што знішчаюць косткі, рабіліся здабычай ліс, і косткі ацалелі; у касцяныя поры набілася зямля, і косткі былі цёмныя, першабытныя, дажджы ўжо не маглі адмыць іх. Каля надламанай ключыцы рос вялікі чырвонагаловік; клейкая і слізкая губка вывярнулася з-пад скурчанага ад сонца капялюшыка, і гэтая бяскроўная, не ведаючая болю плоць ніжэйшага царства жывых арганізмаў была гідкая; я ўспомніў грыб, убачаны побач з магілай Другога дзеда; бялявы, сопкі, падобны да маршчыністага старэчага вуха; чалавечая плоць сатлела, а плоць грыбоў абнаўлялася на грыбніцы, узрастала з драбнюткіх спораў, і чалавек быў чымсьці вельмі нетрывалым у параўнанні з гэтымі грыбамі.

Мы сышліся ля схілу сопкі; незнаёмы паліў і кіпяціў гарбату на бяздымным вогнішчы; я ішоў, вакол светла панаваў дзень, але ўнутры ў мяне была цемра лісінай нары; лісы, перачакаўшы, пакуль я пайду, выскачылі на ўзгорак за маёй спінай, вёрткія, як духі; яны замерлі сярод камянёў, нізкарослыя, вастравухія – не жывёлы, а вывадак тундравых бажкоў, якія сілкуюцца ад чужой гібелі, насельнікаў марыўных месцаў.

Незнаёмы быў усё ж ткі ўзброены; у яго быў дакладны разлік – калі няма стрэльбы, падумаюць, што бяззбройны, і ён меў пісталет, і цэліўся цяпер у мяне, прыкрываючыся другой рукой ад сонца. Але пісталет не быў мне пагрозай; я перажываў той жа стан, што і ў дзяцінстве, калі на мяне напаў чорны сабака – і чалавек, адчуўшы маю слабасць, схаваў зброю, паказаў мне рукой на каменныя пліты, на якіх падсыхала яшчэ вада, якая змыла бруд і смецце, што засталіся пасля садранага граблямі дзёрану.

На светлым камені адкрыліся выбітыя, выдзеўбаныя на ім малюнкі; адны з далонь, іншыя – большыя за чалавечы рост. Там былі колы, якія каціліся – сонца са спіцамі; кветкі з чатырма пялёсткамі, падобныя да крыжа; вялікія і малыя рыбы, якія плылі ў розных напрамках; звілістыя і прамыя лініі, разоры ў камені; распластаныя, як распластваюць шкуру, бабры; дзясяткі аленяў, што брыдуць расцягнуўшыся статкам; паляўнічыя, якія ідуць па слядах аленяў, даганяюць іх з ненатуральна доўгімі дзідамі; ланцужкі мядзведжых слядоў, птушкі з касцістым крыллем і дзюбамі гарпіяў; жывёлы, падобныя да ажылай пілы са слімаковай галавой; светлавыя кароны зорак; касатка з хвастом у выглядзе маладога месяца; лодкі і снегаступы; перакуленыя, нібы ляцяць па касмічных арбітах, сабакі;

трохкутныя вочы з авальнымі зрэнкамі; разамкнутыя акружнасці – так малююць похву ў анатамічных атласах; круглявая, з кароткімі нагамі і рукамі, жанчына, усярэдзіне якой, павернутае галавой да яе лона, плавае ў бязважкасці дзіця; мужчына з непамерна доўгім, змеепадобным чэлесам, які робіць яго падобным да жыўчыка; сякеры і вёслы; звяры, людзі, кіты, сцягнутыя ніткамі, быццам пупавінамі, якія растуць адзін з другога – змяшэнне адрозненняў, крывазмяшальная роднасць усяго жывога.

Малюнкі жылі, дыхалі, як рыбіна ікра і малокі ў цёплай вадзе водмеляў; здавалася, яны нават пахнуць – рэзка, юрліва; фігуркі і арнаменты сыходзіліся, спляталіся, расплятаіліся, і ўсё гэта быў адзін акт тварэння жыцця; сіла малюнкаў была такая, што земляная чарната лісінай нары ўнутры мяне знікла; яны не былі мастацтвам, выявай чагосьці – яны былі першародныя, першапачатковыя, нібы ў іх цалкам, без якога-небудзь астатку, перайшло існаванне тых людзей, што калісьці стварылі іх.

Гэта былі петрогліфы; я ведаў, што яны сустракаюцца ў тутэйшай тундры; іх пакінулі плямёны, якія жылі за сем ці восем тысячаў гадоў да нашай эры. Але ў той момант я пра гэта не думаў.

У тундры ўзнікае асаблівае пачуццё дня; дзень – гэта памяшканне, палац, нешта, што мае аб'ём; у тундры, дзе не патрэбныя акуляры, толькі бінокль, дзе сонца летам амаль не заходзіць за гарызонт, гэтае памяшканне дня асабліва прасторнае; тут, у высокіх шыротах, дзе ўжо блізка сыходзяцца мерыдыяны і малая акружнасць паралеляў, дзень стаіць, – як велізарны звод, – адзіны дзень усёй Зямлі; астранамічна гэта недакладна, але праўда ўражання менавіта такая.

І малюнкі на камені – космас аленяў, галактыка касатак, сусвет паляўнічых – яшчэ больш рассунулі дзень, ператварылі яго ў зіхоткае і пераможнае адзінства ўсяго жывога, непарушнае і непадуладнае смерці; дзень стаяў, як храм, у якім загадзя, да нараджэння, былі аплаканыя тыя, каго пахавалі ў лагчыне між сопак, чые косткі выграблі на паверхню лісы, і не было прыніжэння ў такой магіле; усё дазвалялася, усё ратавалася праз колакружэнне сонцаў, праз малады месяц, які стаў хвастом касаткі, праз немаўля, якое спіць падважанае ў празрыстым жываце маці.

Ратавалася – але і смерць была моцная, яна стаяла за межамі дня – храма; азарэнне цьмянела, малюнкі, якія праступілі былі ў камені, гублялі рэльефнасць, выцвіталі, рабіліся ценямі; і зноў я адчуваў – пад пазногцямі, на руках – зямлю той даліны, дзе зладзілі свае норы лісы.

Як было сумясціць у сабе даліну, дзе нават нізкарослыя імхі адкідалі смяротныя цені – і старажытныя малюнкі на скалах, якія ясна, строга і радасна сцвярджалі жыццё? Як было сумясціць часы – дзесяцігоддзі і тысячагоддзі? Усё як бы памянялася месцамі, і далёкае мінулае раптам стала бліжэй па духу, чым нядаўнія гады; сабрат мой – хацелася сказаць таму, чый каменны разец вывеў лятучых сабак і палахлівых аленяў, якіх забіваюць паляўнічыя; хацелася знайсці ў сабе той свет, дзе магчымыя яны – і немагчымыя насып, бясследная магіла ў безыменным распадку; але сказаць і жадаць так – ці не азначала адрачыся ад тых, хто быў пахаваны ў ёй, тых, каму трэба было сказаць: браты мае.

Браты мае – гэта не мела дачынення да веры; браты мае – толькі там я даведаўся, што значыць смутак: не гора, не абяцанне памяці – абсалютнае вызваленне ад сябе. Чалавечае "я" занадта нязначнае ў параўнанні з пачуццямі, і яно не дазваляе ім, – якія як бы старэй і больш за асобнага чалавека, – адбыцца ў паўнаце. Вызваляючыся ад сябе, вызваляешся

не ад пачуццяў наогул, а толькі ад той “надводнай” часткі кожнага з іх, якая звязаная самалюбствам, звернутая на цябе самога, якая прымушае пастаянна азірацца – а які ты ў пачуцці?

І калі пачуцці перастаюць быць люстэркам, калі ты праходзіш скрозь амальгаму – узнікаюць глыбіня і перспектыва, невядомыя раней; як мы глядзім на мінулае праз сябе сённяшніх, так і нашыя пачуцці апасродкаваны ў моманце сапраўднага, і калі гэтая апасродкаванасць знікае, прыходзіць злучанасць усіх з усімі, паверх часоў і рознасці лёсаў; злучанасць па роднаснасці прыроды пачуццяў. І я стаяў над сыходзячымі ў камень, губляючымі абрысы петрогліфамі, адчуваючы спінай дыханне смяротнай даліны, і ўжо не было падзеленасці – і тое, і гэта: і аб’едзены лісамі чэрап, і колы сонцаў, якія коцяцца, раскідваючы пратуберанцы.

Незнаёмы даў мне кубак; пракіпячоная гарбата была горкай, але горыч гэтая мякка і ўладна падштурхнула сэрца, прымусіла яго скарачацца больш рэзка і часцей, узбадзёрыла, надала сілаў.

– Ты не высочваеш мяне? – спытаў чалавек.

Нягледзячы на пісталет, ён баяўся; ён не падняў бы на мяне рукі і ведаў гэта пра сябе.

– За мной ходзяць, – сказаў мужчына. – Думаюць, што я выведу іх на петрогліфы. – Ён паказаў на малюнкі. – За такія добра плоцяць, калі іх высекчы і здолець данесці.

І святло, і цень адступілі нарэшце; патухлі каменныя сонцы, растала земляная цемра. Мяне адпусціла напружанне адчування – і я выразна, у падрабязнасцях ўбачыў таго, з кім гаварыў.

Ён быў хворы на рак: твар яго быў быццам бы надзьмуты знутры – так малююць карыкатуры вулічныя мастакі, перабольшваючы, расцягваючы вусны, шчокі, усю мякаць твару; разрослае мяса вуснаў ужо адвісала ўніз, шчокі прыкрывалі вочы, рот падоўжыўся ўдвая, і ні адзіны волас не рос на гладкай сардэлькавай скуры.

– Гэта ад апраменьвання здарылася, – сказаў мужчына. – Тое, што ўнутры, у целе, яшчэ горш. А пісталет – каб застрэліцца, калі зусім не будзе сілаў. Узнагародны.

Мой нечаканы таварыш быў ваенным; калісьці ён шукаў у тутэйшай тундры месцы пад свідравіны для падземных ядзерных выбухаў; ён прыехаў з ляснога краю і не ведаў, што тундра таксама, як лес, водзіць цябе, але па-іншаму: лес мяняе месцамі бакі свету, блытае сляды, а тундра ўся адкрытая, і ты ідзеш, ідзеш, памятаючы, што заблукаць тут нельга, усё як на далоні, але раптам азіраешся – і толькі сопкі вакол, і свядомасць, занятая думкамі, якія ты абдумваў, не захоўвае ніякіх прыкметаў шляху.

Вось так, адведзены тундрай, ён і выявіў першыя свае петрогліфы – знакі сонца, сонечныя колы; і потым, ужо захварэўшы, пасля аперацыі, пасля палатаў хіміятэрапіі, былы ваенны вярнуўся ў гэтыя краі – малюнкі, высечаныя ў камені, падаліся яму самым істотным, што ён сустракаў у жыцці; ён не калекцыянаваў петрогліфы, не здымаў копіяў – проста шукаў, паўтараў шляхі старажытных мастакоў, даваў малюнкам сэнс існавання – глядзеў на іх.

Мы пілі чыфір; я спытаў, ці можна знайсці кагосьці, хто памятаў бы гэтыя мясціны дзесяцігоддзі таму. Былы вайсковец сказаў, што ў тундры яшчэ засталося некалькі качавых сем’яў, якіх у мінулыя часы не ўдалося загнаць у аленегадоўчы калгас; цяпер іх спрабавалі за грошы паказваць турыстам, але яны адкачавалі глыбей у тундру і сустракалі стрэламі

верталёт, які спрабаваў сесці ля чумаў. У іх няма рацый, іх нішто не яднае з іншымі людзьмі; яны прымаюць толькі яго – хворага, які шукае старажытныя малюнкі дзеля саміх малюнкаў; у цяперашні час года іх дакладна можна сустрэць у сярэдняй плыні ракі. Ёсць таксама вёска, дзе жывуць нашчадкі ссыльных, яна яшчэ далей; ён не быў там каля дзесяці гадоў, а калі быў, людзі сыходзілі адтуль, пакідаючы дамы.

Чыфір скончыўся, патух агеньчык; мы абняліся, ён ні пра што не спытаў у мяне і рушыў далей уздоўж схілу, а я вярнуўся да насыпу і яшчэ доўга, ідучы, бачыў постаць, якая рухаецца ўздоўж пагоркаў.

Праз тры дні я выйшаў да былога порта, куды вяла разбураная чыгунка; выйшаў да ракі. Сярод нізкіх берагоў, сярод водмеляў цякла непрыглядная, увабраўшая ў сябе шэрасць неба, вада, бедная на адлюстраванні, блікі, святло, і шырыня ракі неяк гублялася ў пакатасці берагоў, у няспешнасці плыні.

На водмелях ляжалі сотні бакенаў; тут былі пластмасавыя, падобныя да паплаўкоў, металічныя і драўляныя, якія выглядаюць як верхняя вежка маяка – уся гісторыя суднаходства на рацэ, усе гады плавання па ёй, былі сабраныя разам. Рака мяняла рэчышча, намывала новыя мелі, на якіх сяліліся, падрогваючы, як перапончатая птушыная лапка, ніколі не цвітучыя гарлачыкі, абвальвала берагі, дзе ў мерзлаце хаваліся тушы дагістарычных жывёлаў, старажытных аленяў, і час быў разламаны ў гэтых абрывах, як акраец хлеба – бяры рукамі, запусці пальцы ў каменны век; рака мяняла рэчышча, але бакены больш не ішлі за яе пераменамі, не пазначалі яе глыбіні, не працягвалі ніткі фарватэру, не гарэлі ў цемры; калі спынілася навігацыя, рака вярнулася ў поўнае валоданне рыб, плаўнік – прабацька вясла – адмяніў вінт, і рачныя воды больш не трывожыла кручэнне выгнутых лопасцяў.

Каля берага з ракі тырчалі палі абрынулых прычалаў; у іх захраслі прынесеныя вадой дрэвы, смецце паводкі, вада ўцягвалася пад гэтыя завалы з хлюпаннем, з прысвістам; а далей, у шырокай затоцы, якая ўтварылася са старыцы, стаялі, сеўшы дном на пясок, баржы і буксіры.

Звычайна кінуты карабель – як кінуты дом; але баржы не пакідалі шчымлівага адчування; то былі велізарныя іржавыя каробкі, панурыя і нязграбныя каўчэгі; яны павольна апускаліся, выціскаючы сваёй вагой топкую жыжку; фарба сыходзіла з іх нераўнамерна, пластамі, – відаць, адны маляры грунтавалі і фарбавалі добрасумленна, а іншыя не – пад заскарузлай фарбай агаляўся другі пласт, трэці, чацвёрты, пяты, шосты, сёмы; праіржавелае жалеза ўжо рассыпалася, падалі ўнутр трума праіржавелыя дашчэнту барты, а пласты фарбы, якія спякліся намёртва, трымалі адзін аднаго; баржы стаялі напалову намаляванымі, іх ганялі па рацэ, тройчы, чатыры разы перакрыўшы мяжу стомленасці металу, перафарбоўваючы, але не паднаўляючы, і метал здаўся першым, а фарба, якая спеклася, ацалела.

Буксіры замерлі ў баку ад баржаў, шэсць караблёў; "..омсом...лец", "Ша..тер", "Горня..", "Погран..... Запол.. рья", "Кап..тан П...асолов", "Бое.." – чыталася на бартах, нібы назвы перадавалі марзянкай пры дрэннай сувязі.

Я прайшоў з аднаго буксіра на другі і адшукаў адзіную шлюпку, якую яшчэ можна было спусціць на ваду; на другім буксіры знайшліся вёслы, на трэцім – паўбочкі вару, каб прашпакляваць барты. Знайшоўся яшчэ вялікі пакунак скамянелай солі, і я ўзяў яго – мне стала шкада, што соль прападае; для тутэйшых прэсных водаў, прэсных нябёсаў соль здавалася чымсьці, чаго не хапае месцу, і я кінуў яе ў скрыню на шлюпцы.

Неўзабаве я адплыў, шлюпка была занадта вялікая, каб адзін чалавек мог нармальна кіраваць ёю, таму я проста выграб на сярэдзіну ракі і даверыўся плыні; шлюпка асела, занава набракла вадою, і рака панесла мяне прэч ад старых буксіраў, ад бакенаў на беразе, разгарнула перада мной пагоркі за паваротам рэчышча; ухіл зямлі цягнуў яе ваду да Ледавітага акіяна, і я плыў у гэтым жа прыцягненні – было бязветрана, і часу таксама не было – рака стала часам, і час няўхільна імкнуўся да вусця.

Так мінулі дні; голыя пагоркі, бязлюддзе, цішыня, мерная плынь вады, якая закалыхвае, прывучае да таго, што ўсё ў свеце спакойна, ціхамірна, плаўна. Я размячаў каляндар плавання засечкамі на вясле, але потым кінуў яго ў ваду, і яно сплыло; харчаваўся я зусім мала – я не рухаўся, не губляў энергію, і апетыт знік; часам мне здавалася, што я хутка стану эфірным, празрыстым або ператваруся ў маладога вадзяніка; рыбы глядзелі на мяне з вады, прыладкоўваліся ў кільватар да шлюпкі, нібы чакалі гэтага ператварэння. Двухмятровы шчупак праводзіў мяне некаторы час – шчупакі жывуць сотні гадоў, і ён, напэўна, памятаў людзей – рыбакоў, матросаў; потым ён адваліў у бок, і я зноў бачыў толькі ваду і пагоркі.

Таму, калі я заўважыў рэшткі моста – раку калісьці пераразала другая ветка чыгункі, яе цягнулі да будучага пасёлка ў тундры – які так і не пабудавалі, – я спачатку не пазнаў яго, дакладней, не ўспрыняў поглядам. Я бачыў нешта недарэчнае, незразумелае, непатрэбнае, негарманічнае, нейкую памылку; так, напэўна, звяры глядзяць на пабудаванае чалавекам.

На водмелях, дзе плынь не такая моцная нават у паводку, стаялі напоўненыя зямлёй і камянямі ражы, падобныя на зрубы хат; а на левым беразе ўзвышаліся конусы чумаў, па сутнасці – павялічаныя шапкі качэўнікаў, якія адмаўляюць ідэю дома: дзе кінуў шапку, там і агмень. Вакол былі голыя сопкі, і чумы траплялі ў іх лініі, як хваля паўтарае хвалю.

Я прычаліў да берага бліжэй да качэўя. У лагчыне пад бокам чыгуначнага насыпу стаялі паравозы і вагоны. Верагодна, іх кінулі, калі на ветцы змыла масты, цяпер яны іржавелі, сыходзячы ў глебу тундры; і, што дзіўна, толькі на першы погляд, менавіта паравозы, а не чумы здаваліся тут храналагічнай недакладнасцю.

Паравозы стаялі, як зламаныя механічныя машыны часу, яны і былі такімі для іншых месцаў, дзе чыгунка сапраўды паскарала час, адкрывала яму скразны ход, дзе паравоз на самой справе сустракалі як сімвал будучыні, што надышла, дзе рэйкі, семафоры і вакзалы спалучалі разрозненыя часы вялікай краіны ў нешта агульнае для ўсіх. Але тут, сярод тундры, гэтыя механізмы не спрацавалі або спрацавалі ўхаластую; тут да гэтага часу доўжыўся час-да-паравозаў, час-да-чаго-б-то-ні-было; і я ўспомніў паравоз са сну – тут быў ягоны тупік, канец ягонага шляху, і тундра, абыякавая да груваступкай машыны, ляжала спакойна і суцэльна, не ведаючы дзялення на бакі свету.

Каля чумаў на ашкураных шастах віселі кавалкі мяса; дым ад вогнішча, распаленага з мокрага тальніка, – паўсюль быў гэты дым, яго было больш, чым трэба, каб завэндзіць мяса, адагнаць гнюс і мошак; здавалася, гэта дзеля таго, што людзі павінны набрацца дымам да сівізны, навучыцца воляй спыняць цёк слёз або зусім страціць здольнасць плакаць; вецер налятаў раўнамернымі парывамі, і ў такт яму пад сырымі галінамі, з якіх, пенячыся, выцякаў закіпаючы сок, успыхвала пунсовым вуголле.

Непадалёк ад чумаў пасвіліся алені; яны хадзілі вакол тычкі, дзвесце ці трыста галоў – іх сапраўды трэба было лічыць па галовах, бо ніжэй шыяў іх целы зліваліся ў адно шматногае цела, і кожная спіна была толькі як

выпіраючы мускул; іх крок быў падобны да цячэння вады ў віры. Алені хадзілі каля тычкі, каб іх не мучыў гнюс; пастух накіраваў важака, і статак ішоў за ім. Я ўявіў, як гэта выглядае з вышыні, і зразумеў, што бачу гадзіннік, гадзіннік без дзяленняў; тычка была адзінай вертыкальнай меткай на дзясяткі кіламетраў, і вакол яе, не адкідваючай цені пад пахмурным небам, цыклі часіны года, якія вымяраюцца ростам аленевых рагоў.

Людзі з'явіліся раптам – выступілі з-за чумаў; качавы род не змешваў крыві з чужынцамі, і яны былі вельмі падобныя, быццам адзін чалавек у розныя ўзросты жыцця, двухполая істота ў абліччы дзіцяці, дзяўчыны, мужчыны, старога, старой; адзін чалавек – ці ўсе як адзін; з тварамі колеру гарбаты, у вопратцы, якая злучала тканіну і аленевыя шкуры, яны нібы самім жыццём учынялі абрад атаясамлення з жывёламі, і я, верагодна, здаваўся ім непаўнавартасным – ува мне не было жывёльнай паловы.

Убачыўшы, што я адзін, мяне запрасілі да агню, пачаставалі варанай аленінай; не было ні непрыняцця, ні цікавасці. Мяне спыталі, ці няма ў мяне солі; я прынёс са шлюпкі пакунак – і людзі раптам перамяніліся, абступілі мяне; у тутэйшым неарэчаўленым свеце я адчуў соль як сілу костак, сілу таго цвёрдага, што ёсць у чалавеку, і качавы народ адчуваў гэта таксама; цяпер я мог пытацца – мы сталі блізкія, злучаныя гэтай соллю, і я спытаў, ці памятаюць яны што-небудзь пра тое, як на рацэ ў першы раз з'явіліся баржы, людзі – у першы раз шмат-шмат гадоў таму.

Мне распавялі гісторыю каравана баржаў – не як міф, не як легенду пра плывучыя рачныя дамы, але мяне не пакідала адчуванне, што чалавек кажа як бы з далёкага берага, і не таму, што ён у прынцыпе абыякавы, а таму, што прадмет аповеду ўспрымаецца ім як з'ява прыроды або з'ява настолькі чужароднага свету, што свет прыроды, можа быць, яму і бліжэй.

Голас дзеда, які бачыў на красавіцкай рацэ пасля крыгаходу баржы, поўныя людзей, але не зразумеў, што адбываецца, кіраваў галасавымі звязкамі ўнука; таму продку-качэўніку, які стаяў на беразе, напэўна, здавалася – у перакладзе на яго разуменне, – што гэта плывуць каўчэгі, цэлыя светы, якія змяшчаюць у сабе абсалют законазладжанасці, і калі адны людзі скідаюць іншых, аслабелых, у ваду, то гэта і ёсць сапраўдныя, сапраўдныя законы гэтых светаў, гэта і ёсць іх праўда; так, напэўна, калі б Калумбавы таварышы па падарожжы ўсе кульгалі, ва ўяўленні абарыгенаў з'явілася б краіна-за-морам, краіна кульгавых. Ды і што мог чалавек, які вырас там, дзе калісьці старых пакідалі паміраць, калі род сыходзіў на новае качэўе – што ён мог унутрана запярэчыць тым, хто выкідваў аслабелых за борт? Але я ўвайшоў унутр погляду таго, хто распавядаў, як уваходзяць у пакой з шырокім акном, і глядзеў знутры гэтага погляду – але ўласным зрокам, даведаўшыся тое, што не мог распазнаць мой міжвольны правадыр.

Баржы прычалілі да вялікае выспы пасярод ракі – так было зручней капітанам буксіраў; людзей высадзілі на гэтую выспу, на доўгую водмель, дзе не было нічога, акрамя пл*а*ўніка – абкатаных вадой драўняных ствалоў; быў сонечны, цёплы дзень, і зняволеныя, хоць ахова і страляла, кінуліся ў раку купацца. Вада памутнела ад бруду, калі ў яе ўвайшлі некалькі тысячаў чалавек, па рацэ плылі рэшткі адзення, якое сапрэла ў цеснаце трумаў, дзе людзі стаялі плячом да пляча; ледзяная вада студзіла цела, і людзі неўзабаве кідаліся назад на бераг, бегалі па пяску, абдымаючыся, збіваючыся ў гурты, каб сагрэцца. Вада – талая вада ўчарашніх снягоў, вада абнаўлення, вада новага жыцця – змыла доўгі шлях, змыла іржу і бруд, сонца гуляла ў хвалях так, што думалася – вось-вось з'явіцца рыба

кідаць ікру на водмелях; але сонечнае святло было кароткім, кароткі толькі народжаны дзень, і тыя нешматлікія, хто быў яшчэ ў моцы рызыкнуць жыццём, – кідаліся ў ваду, чапляліся за праплываючыя дрэвы, за аблепленыя водарасцямі, глеем груды доннага лёду, усплылыя і цягнутыя цячэннем; ахова страляла, тугое халоднае паветра хвостка біла па барабанных перапонках, ноздры ўзбуджаў дым пораху, уедлівы, востры.

Потым буксіры і баржы сплылі, а людзі засталіся на выспе. Наступіла ноч, а назаўтра пайшоў снег – з поўначы прыцягнула навальнічныя хмары; снег быў густы, ён патушыў слабыя вогнішчы з мокрага дрэва; ссыльныя шукалі выратавання ў прамыінах, спрабавалі выкапаць норы ў пяску, зладзіць зямлянкі з накатам, але снег прабіваўся ўсюды, нават унутр трухлявых ствалоў, куды залазілі людзі; пераплысці раку ў паводку было немагчыма на тых лодках, што былі ў качавога народа, лёгкіх пласкадонках, абцягнутых шкурамі, і таму яны толькі бачылі, як над выспай згушчаліся дым і г*а*ра, як у гэтым воблаку ўспыхвалі і патухалі сполахі полымя; некалькі дзён, пакуль ішоў снег, адтуль даносіліся крыкі, а потым, у самую халодную ноч, быў чутны толькі стогн; снег спыніўся, туман развеяўся – але на выспе ўжо не было жывых; нават целаў не было відаць – людзі пахаваліся, хто як мог, і памерлі ў земляных хованках, выкапаных рукамі, сукамі, тым нешматлікім інструментам, што быў ім выдадзены.

Калі рака супакоілася, хтосьці пераплыў на выспу; там быў смурод, туды зляцеліся птушкі з ракі; з выспы прывезлі мяшкі з мукой (ссыльным пакінулі ежу, але не далі посуду) – але муку гэтую не сталі есці – у наступныя гады выспу не раз накрывала паводкай, косці разнесла, і сама выспа адсунулася па рэчышчы; і толькі час ад часу ў ёй адкрываліся ямы, дзе ў глыбіні ляжалі ў вечнай мерзлаце мерцвякі.

Наступныя пасяленцы – іх шмат праплывала па рацэ – не пыталіся пра папярэднікаў; судны ішлі паўз выспу, ніяк не прыкмячаючы яе; выспа засталася, як была – плоскім земляным блінам у рэчышчы, і толькі ў качавым родзе, сустрэтым мной, перадавалі памяць пра тое, што там здарылася.

Тыя, з кім я размаўляў, ужо не маглі сказаць, дзе на рацэ гэтая выспа; я праплываў паўз пяшчаныя косы, паўз водмелі, паўз іншыя выспы – і ўсе яны былі аднолькавыя, усе непастаянныя, усе знікалі і адраджаліся з прыходам высокай вады; выспы без прыкметаў, выспы пустынных шыротаў; проста выспы.

Я адштурхнуў шлюпку ад прыбярэжных камянёў; цячэнне зноў пацягнула мяне, а людзі каля чумаў глядзелі мне ўслед, як калісьці глядзелі з берага на тых, каго высадзілі на выспу; рака, патрывожаная ражамі былога моста, супакойвалася, плыні сыходзілі да дна, і шлюпка плыла роўна, быццам бы яе рухалі ход свяцілаў, аблокі, плыні паветра ў вышыні неба, адлюстраваныя ў вадзе.

Праз некалькі дзён я ўбачыў хаты на ўзгорку; гэта была вёска ссыльных. Хаты здаваліся перанесенымі сюды міражом, зрокавым падманам; на самой справе яны стаялі цяпер дзе-небудзь ля рачулкі і лясоў за тысячы кіламетраў адсюль, і толькі мудрагелістая гульня святла ў атмасферы высокіх шыротаў змяшчала іх на ўзгорак, дзе іх не магло быць.

Пакінуўшы шлюпку, я падняўся па сцежцы, зігзагам урэзанай у адхон берага. Вёска – дзясятак хат – не здавалася зусім закінутай: па дарозе відавочна хтосьці хадзіў, у пяску падсыхалі кляксы расплюханай вады. Але занадта густа вырасла на зямлі былых агародаў пустазелле, занадта даўно былі забітыя гарбылямі вокны хат, і цвікі ўжо выпадалі з драўніны;

а галоўнае – усё казала пра тое, што людзі перасталі сачыць за месцам, дзе жывуць. І ў дадатак было незразумела, адкуль тут, у тундры, зямля, адкуль пустазелле; адкуль узялася глеба.

Ля самага калодзежа, які ў вёсках заўсёды трымаюць у чысціні, сабакі выкапалі сабе лежню, пыльную яму, поўную воўны і аб'едкаў; лопнуты провад вісеў, ледзь не чапляючы таго, хто ішоў, за твар, слуп пахіліўся так, што рука цягнулася яго падправіць; усякая рэч у вёсцы прасіла ў чалавека дапамогі: дзе падперці, дзе выраўняць, дзе падпілаваць, дзе падняць. Здавалася, што людзі тут забылі ўсе дзеясловы, якія абазначаюць стваральнае дзеянне, забылі стук малатка або спеў нажоўкі ў распіле, ды і пра саміх сябе забыліся таксама: знаходзіцца ў вёсцы было невыносна. Ёсць такі асаблівы колер – колер старых дошак плота, на які ўсю зіму пырскалі снежнай жыжкай з-пад падэшваў мінакі, а вясной гэты бруд высах, стаўшы землянiста-шэрым; колер нядбайнасці і абыякавасці, і ўся вёска была апырскана ім, як быццам ён сеяўся доўгія гады з дробным дожджыкам; на крук ля брамкі шмат гадоў таму нехта павесіў ліхтар "лятучая мыш", і цяпер яго шкляны каўпак быў поўны дажджавой вады, а на брызентавым кноце выраслі фігурныя крышталі іржы. І невыносна было не запусценне, а тое, што жыццё можа прыстасавацца да запусцення, прыняць яго аблічча, да неадрознасці зліцца з ім.

Каля адной з хат агарод быў дагледжаны; бачылася толькі нейкая дзіўнасць у тым, што яго ўвесь засадзілі бульбай, – бульбяныя грады пакідалі толькі вузкую сцежку да дома, – засадзілі клубень да клубня, нібы больш у вёсцы нідзе нічога не расло. У доме хтосьці быў, з асыпанага коміна, які сплямiў замшэлы дах рудымі крапінамі цэглы, ішоў дымок, але вокны наглуха закрывалі аканіцы.

За хатай нешта рыпела, метал скрыгатаў аб камень, звінеў і зноў скрыгатаў; сiняватыя прыцемкі, ад якіх паветра нібы гусцела, становячыся халадней, але не губляючы празрыстасці, спускаліся на вёску, і кожны скрыгат адгукаўся міжвольнымі мурашкамі, перасцерагаў падыходзіць бліжэй – так магла гучаць толькі загартаваная сталь. Тры яблыні ля хаты – колькіх высілкаў каштавала вырасціць іх тут! – цяпер сталі дзічкамі, уся іх сіла сышла ў парасткі і лістоту, някранутыя завязямі галіны гублялі долу карычневы ліст; і ва ўсім вакол быў гэты колер змярцвелага ліста, колер гнілога яблыка, ён надаваў дому і зямлі нешта старэчае, трухлявае. Дзе-нідзе на яблынях яшчэ захаваліся даўнія спілы ў каросце садовага вару, але вар патрэскаўся, адваліўся, і, хоць драўляная плоць пакрыла спілоўкі тугім скурыстым колцам, усярэдзіне ствалоў ужо завялася труха, а ў зямлі, напэўна, адмiралі карані. Драцяныя шнуры, якімі былі прыцягнутыя да ствалоў галіны, што пагражалі адламацца, занадта глыбока ўрэзаліся ў драўніну і пераціснулі, перарэзалі кару.

Я ўвайшоў у гэты малы сад, авеяны гаркавым зольным дымам, які дае кепска складзеная ці напаўразваленая печ; халадала, і лісце падала ўсё радзей, нібы ў яго дранцвелі чаранкі.

За хатай каля тачыльнага станка, перарobленага з нажной швейнай машынкі, сядзеў калматы стары; я бачыў яго са спіны, шырокай і згорбленай, напалову прыкрытай сівымі зблытанымі пасмамі, за якія зачапілася яблыневае лісце; мне падалося спачатку, што на пальцах яго – кіпцюры, што стары – пярэварацень, які не да канца прыняў чалавечае аблічча, але потым я ўбачыў – гэта пазногці, жоўтыя, загорнутыя, абламаныя або крыва абкрамсаныя. Стары тачыў сякеру на доўгім тапарышчы – сякера лесаруба;

сякера была моцна вышчарбленая, відаць, ёй секлі дошкі нейкага старога будынка і часта траплялі па цвіках; доўгія струмяні рудаватых іскраў ад няроўнага краю ляза ляцелі па двары, нічога не асвятляючы, а толькі прабіваючы змрок; круціліся колы станка, парыпвалі рассохлыя прывадныя рамяні.

Старое тачыльнае кола – шурпатае, са сколамі, грубей, чым трэба для тонкага завострывання – і сякера; я прайшоў крыху далей, не адважваючыся пакуль аклікнуць гаспадара, і ўбачыў другога старога. Ён сядзеў на прыступках ганка, схіліўшыся над рыбацкай сеткай, якая ляжала ў яго на каленях, і такія ж густыя, дзікія, пераблытаныя валасы хавалі ягоны твар. Гэты стары цыраваў сетку, змотваючы грубую нітку з вялікай, памерам з далонь, шпулькі, плёў вузлы крывой гранёнай іголкай і нешта шаптаў сабе – барада яго варушылася, быццам у ёй пасялілася мыш. Трэці Стары – які таксама сядзеў на ганку, гэтакі ж сівы і калматы, шчапаў лучыну з лодачнага шпангоўта; дзеравяшка была з выгінам, з нязручным каленцам, і стары няспрытна коўзаў па ёй доўгім нажом.

Я павітаўся. Тры старыя павярнуліся да мяне, кінуўшы свае заняткі. Твараў іхніх па-ранейшаму было не разгледзець: валасы з ілба падалі на вочы. Пазногці ва ўсіх трох былі звярынымі або птушынымі, і валасы раслі так застарэла-густа, як могуць расці толькі мох або пустазельная трава.

Старыя няўцямна маўчалі. Адрозніць іх па вопратцы было цяжка: ватоўкі, штаны не сціраліся так доўга, што набылі аднолькавы нявызначаны колер бруду, і ўсякая новая пляма знікала ў папярэдніх; у таго, што трымаў сякеру, далонь рассякаў шнар, у таго, што цыраваў сетку, у палец левай рукі ўрос напарстак, а ў палец правай, як у губу старой рыбіны, у заскарузлую, жоўтую, як свечачны стэарын, скуру – уваткнуўся калісьці рыбацкі кручок; той, што шчапаў лучыну, насіў на безыменным пальцы пацьмянелы пярсцёнак.

– Сабакі кудысьці прапалі, – сказаў рыбак.

Стары казаў так, быццам яны па-ранейшаму заставаліся ўтрох; быццам яны заўсёды жылі ўтрох, чацвёртага не было і не магло быць, а таму мяне не існавала ў полі яго свядомасці, і да канца зразумець, што тут ёсць чужы чалавек, ён змог бы толькі праз некалькі дзён. Іх адзінота ўтрох была старэй за іх саміх, у ёй згубіўся час, і старыя пастарэлі не толькі з-за ўзросту, але і таму, што дні іхніх жыццяў былі падобныя адзін на другі, і гэтыя дні не прыносілі ім новых уражанняў, а толькі змяншалі ў памяці ранейшыя.

– Сабакі кудысьці прапалі, – паўтарыў рыбак, і двое іншых адказалі яму:

– Прапалі.

Галасы іхнія былі быццам старыя рэчы, якімі пачынаюць карыстацца пасля доўгага перапынку; гукі няшчыльна прылягалі адзін да аднаго, счапляліся крыва і наўскос, боўталіся, як напаўадарваны гузік у пpоразі. Так маглі б казаць мерцвякі, якія зноў здабылі плоць, але не могуць падладзіць адзін да аднаго новы голас і ранейшыя словы.

Стары, які тачыў сякеру, прыхінуў яе да станка, той, што рамантаваў сетку, уваткнуў іголку ў вопратку, той, што шчапаў лучыну, прыбраў нож за абвіслую халяву. Над ракой пацягнула ветрам з вярхоўяў, адкуль я прыплыў, вецер заварушыў валасы старых, адкінуў іх з вачэй.

Старыя былі сляпыя; розум быў разбураны, і погляды спыніліся, як гадзіннік, у якога скончыўся завод. Крышталік, рагавіца, вясёлкавая абалонка, усё, што трэба для зроку, ацалела, захавалася зрокавая кара мозгу, але свядомасць адмаўлялася пускаць бачны свет, адмаўлялася бачыць.

Вочы былі такімі, нібы спячаму прыпаднялі павекі, не разбудзіўшы яго, і зрэнкі зрабіліся чымсьці накшталт акуляраў бінокля, накіраваных унутр галавы, у цёмны космас сну, куды няма доступу таму, хто не спіць.

Я стаяў, не ведаючы, які час сутак цяпер у іх галовах, ці ёсць там наогул час; у які момант яны пазбавіліся зроку, ці захаваліся ў іх памяці дом, яблыні, вёска, рака, землі па абодва яе бакі, ці разумеюць яны, дзе яны і хто яны самі. За гады слепаты іхняе ўяўленне аб уласнай знешнасці пастулова знікла, старыя прачыналіся, кожны раз у пэўным сэнсе не ведаючы да канца, хто прачнуўся; іх жыццё раздрабнілася на тысячы невідушчых няспанняў, падзеленых безданямі сну, і кожны раз пры пераправе праз гэтыя бездані нешта гублялася, але чалавек, які прачнуўся, не ведаў пра гэта: ён быў зачынены ў няспанні, як у адзіночнай камеры – без магчымасці аднавіць звязнасць свайго існавання, убачыўшы сябе збоку. Калі б вярнуць ім цяпер зрок – яны не пазналі б сябе ў люстэрку: сама чалавечая постаць, суцэльная, геаметрычна асэнсаваная, не злучылася б у іх аслаблай свядомасці з тым абрыўкавым, рэшткавым “я”, якім яны жылі.

Дзяды былі братамі, і, перастаўшы бачыць, яны зрабіліся яшчэ больш падобнымі адзін да аднаго. Ад невідушчасці твары прыйшлі ў запусценне; бяспамяцтва, якое скасавала іхняе жыццё, скасавала і адрозненні рысаў. У тварах засталося толькі тое, што было ўкладзена бацькоўскай крывёю: у страту ім у іх здабылі пасмяротнае існаванне бацькі, дзяды, прадзеды, і здавалася, яны вось-вось пачнуць выходзіць, расчыняючы плоць, як дзверы, пацягнуцца адзін за адным, і, калі выйдзе апошні, на месцы твару будзе ззяць пустата.

Нарэшце старыя зразумелі, што ў вёску прыйшоў нехта чужы; яны абступілі мяне, сталі вадзіць далонямі па твары, целе; а я стаяў і думаў, што сапраўды дасягнуў краю памяці; слепата ссыльных старых, слепата Другога дзеда – усё злучылася; гэтага месца ўжо не было ў геаграфіі, выпадковаму падарожніку гэтая вёска не адкрыецца, ён разміне цца з ёю; тут была краіна, дзе жылі людзі з часоў Другога дзеда, цэльная краіна, калісьці абаранілася слепатой ад рэальнасці – і закасцянела ў ёй. Пакуль старыя выляплялі дотыкамі рук для сябе мой выгляд, я абдумваў, як не затрымацца тут, не разбурыць замкнёнасць гэтага свету.

Па сутнасці, у старых была адна памяць на трох; раз’яднаць іх – і памяці кожнага паасобку не хапіла б для поўнага апісання падзеяў, таму яны часта размаўлялі ўтрох, і ўзнікала зборнае поле памяці, якое жыве толькі ў слове. Я спытаўся ў іх пра яблыні, якія нельга было ўявіць тут, паблізу Палярнага круга, на вечнай мерзлаце, якая не ўпускае ў сябе карані дрэваў, і яны распавялі, што ўся вёска стаіць на прывазной, на скрадзенай – ссыльным забараняў пакідаць месца ссылкі – зямлі.

Дзясятак гадоў людзі ўпотай адпраўлялі лодкі ў вярхоўі, дзе быў лес і была глеба, секлі там дрэвы, вязалі плыты, каб будаваць хаты, і на плытах сплаўлялі зямлю; дзесяць гадоў прайшло, перш чым у вёсцы з’явілася першая градка – да гэтага ссыльныя жылі прывазнымі прадуктамі і паляваннем. На рацэ нават ставілі кардон, які пераварочваў плыты – валіць лес дазвалялася, а везці зямлю – не; аленяводы падумалі нават, што ссыльныя ядуць зямлю – занадта ўжо шмат яны яе перавезлі, а навошта – незразумела, у разуменні качавых людзей зямля не магла нарадзіць нічога, акрамя ягелю. Можа быць, жыхары вёскі і кінулі б гэтую задуму, але большасць з іх былі раскулачаныя сяляне, і ўсю адбудоўваючую сілу, увесь запал жыцця яны ўклалі ў ашчаднае, не ведаючае жалю да сябе і іншых збіранне зямлі, сапраўднай зямлі;

мясцовую глебу яны называлі коратка – “гразь”, яна і была граззю, вадкай кашкай на лёдзе.

А ўжо потым, калі вёска паўстала на глебе, якая радзіла, некалькіх ссыльных забралі ў горад, дакладней, у лагер, якім калісьці камандаваў Другі дзед – там збудавалі батанічны сад, у шкляных аранжарэях з ацяпленнем пасадзілі кветкі, каб паказаць, як падымаецца парасткамі новае жыццё на паўночных межах, і ў палярную ноч з баракаў былі бачныя гэтыя асветленыя шкляныя кубы, абцягнутыя па перыметры трыма шэрагамі калючага дроту. Сад належаў лагернай гаспадарцы, і не было для мясцовага люду нічога ненавісней за гэты сад, які паглынаў цяпло і святло, сад, адкуль да трапаў начальніцкіх самалётаў прывозілі кошыкі чырвоных кветак, якія імгненна шклянелі на марозе; кветкі гэтыя разбіралі потым па кватэрах афіцэры аховы, а што заставаліся, звозілі да помніка Леніну.

За права працаваць у садзе, у спякоце аранжарэяў, ішла вайна, выйгравалі яе блатныя, і ахова нічога не магла з гэтым зрабіць; адзіны, які ведаў сваю справу, садоўнік, былы захавальнік дэндрарыя, хутка быў забіты, яго ткнулі аголеным провадам, каб заняць ягонае месца, сад захірэў, кветкі сталі есці, секчы нажом, як зяляніну, і варыць у кацялках з кансервавых бляшанак. І тады кіраўніцтва лагера, якое ўжо не магло адступіцца – бо батанічны сад атрымаў ведамасную славу, у лагер абяцалі адкамандзіраваць спецыялістаў, пашырыць сад і зрабіць яго музеем поспехаў палярнай аграноміі і садаводства, – кіраўніцтва лагера вырашыла сабраць былых сялянаў і скласці штат абслугі саду з іх. Таму ўспомнілі пра ссыльную вёску і ўзялі, не арыштоўваючы паўторна, людзей адтуль – проста прыслалі канвой, начальнік адабраў з дзясятак чалавек і выправіў у горад.

У садзе былі і дрэвы – яблыні, вішні, слівы; у зіму іх ахіналі лямцам, ствол абкладвалі саломай, але і лямец, і салому кралі, каб уцяпліць вопратку; ля гэтых дрэваў нават ставілі ахоўніка. Саджанцы яшчэ недастаткова выраслі, каб даваць плады, таму калі прыязджалі візіцёры з высокіх чыноў, у любую пару года на галінках развешвалі садавіну, загадзя пералічаную, каб абслуга не пакрала пладоў і потым здала ўсе да адзінага па спісе.

Але аднойчы госць вырашыў паласавацца яблыкам, выявіў тонкую леску, якой ён быў за чаранок прывязаны да галінкі, і з прыкрасці шпурнуў невялікі, які свяціўся, бы ліхтарык з правошчанай паперы, яблык “залатой кітайкі” кудысьці ў траву; чын нават абразіўся – ён па-дзіцячы шчыра лічыў, што трапіў у Палярны райскі сад, дзе дрэвы даюць плады ўсе дванаццаць месяцаў, і, хоць і звыкся чакаць падману ад людзей, ды і сам знаўца прыпісак ды ліпавых справаздачаў, быў непрыемна здзіўлены, што ў падман можна ўцягнуць і прыроду. Ён абышоў яшчэ некалькі дрэваў, прыгаворваючы “не чакаў”, “не чакаў”, нібыта дрэвы самі начапілі на сябе плады, як фальшывыя медалі, каб у такім выглядзе паўстаць перад ім; кінуты яблык потым падняў адзін са ссыльных, прыстаўленых да саду.

Яблык хацелі з’есці – гэта быў першы “фрукт”, які ссыльныя трымалі ў руках за шмат гадоў; развешваць іх па дрэвах ім не давяралі. Але сама форма яблыка – круглявая спеласць яго – насычала галодныя далоні, якія забылі ўсё, апроч інструмента; ссыльныя перадавалі адзін аднаму яблык, быццам ён толькі што нарадзіўся ў светлай саломе, перадавалі і елі яго вачыма – той выпадак, калі метафара становіцца літаральным апісаннем таго, што адбываецца: яблык быў духоўнай ежай, ежай для вачэй, якой хапала ўсім.

Адзін з сялянаў – яго лічылі мудрацом, але слова гэтае было недакладным – ён быў чытачом і тлумачальнікам Пісання, з якіх выходзяць

кіраўнікі малых сялянскіх сектаў, якія вераць апантана, ды яшчэ і з якім-небудзь выкрутам. Калі ў бараку хто-небудзь з адукаваных тлумачыў яму пра палеанталагічныя знаходкі, пра жывёлаў з іншых эпох, па парэштках якіх можна аднавіць гісторыю Зямлі і абвергнуць Біблію, ён адказваў: "І пра вас, вучоных людзей, Гасподзь, ствараючы Зямлю, падумаў, падкінуў цацак, каб было вам чым сябе заняць"; сярод аднавяскоўцаў, сасланых разам з ім, ён верхаводзіў, яго розуму, дзе з'явы і рэчы звязваліся інакш, чым у іншых людзей, пабойваліся. І гэты чытчык, які не стаў сектантам, улавіў сутнасць таго, што адбываецца: як Хрыстос накарміў тысячы пяццю хлябамі, сказаў ён, так і мы сёння ядзім – усе – адзін плод, а ён не меншае. І каб не змяншацца яму і далей, захаваем яго і адправім у вёску – паселішча сярод тундры ўпарта называлі вёскай – загадаем пасадзіць у зямлю, каб плод прымножыўся плодам.

Я мог зразумець таго селяніна, хоць сам не ведаў сялянскай працы; я рос разам з дачнымі яблынямі і палову года жыў па яблыневым календары; я памятаю з дзяцінства, як увесну ўдаралі замаразкі, і па ўсіх садах ноччу гарэлі вогнішчы, лёгкі марозны туман перамешваўся з дымам, які ў безветрыні замаразкаў трымаўся ля зямлі, і дрыготкае, цякучае, разагрэтае паветра ахутвала цяплом, аберагала яблыневы цвет. Халоднай ноччу пахі складаюць свае нябачныя крылы, але такімі начамі кветкі яблыняў пахлі ад цяпла вогнішчаў, і здавалася, што гэта пах зорак, пах – абяцанне.

У жніўні пачынаўся несціханы глухі стук – пад яблыні падсцілалі салому, але яблыкі ўсё роўна былі занадта цяжкія, занадта налітыя, і салома не да канца змякчала ўдар; яблыкі падалі – удзень іх гук заглушаўся, а ноччу здавалася, што ў садзе стукае хранометр, што пачаўся нейкі іншы час, час сталасці. І калі пасля я чытаў абПератварэнні Гасподнім, мне дапамог зразумець сэнс яго, – наколькі я мог гэта зразумець, – той даўні вобраз яблыневага саду ў жніўні, на пераломе лета ў восень:Ператварэнне адбылося, калі настаў Ягоны час і наблізіўся Ягоны тэрмін.

Яблык – гэта плён часу; і хоць не сказана, што тыя, што сарвалі з Дрэва, паспыталі менавіта яблык, які яшчэ плод мог бы ўвасабляць тыя нязнаныя плады Дрэва на палатне? З яблыка пачаўся чалавечы час – Сіф спарадзіў Эноса, Энос спарадзіў Каінаана... Таму стары-селянін, які загадаў адправіць яблык у ссыльную вёску, каб там выраслі яблыні, – спрабаваў запусціць, як запускаюць матор, час гэтай новай вёскі, якая паўстала на прывезенай глебе, укараніць вёску ў тым месцы, дзе яна – па выпадковасці, па выбары тых, хто накіроўваў ссыльных, – апынулася; адно паселішча, хоць яму і сто гадоў, усё ж стаіць на голай зямлі, нібы толькі ўчора склалі хаты, а іншае назапашвае час, прарастае ў яго.

І вось цяпер трое старых сказалі мне: мы не выпадкова тачылі сёння сякеру. Мы вырашылі ссекчы тры старыя яблыні; яны больш не даюць яблыкаў, у нас няма дроваў, а разбіраць хаты на дровы няма сілаў. Ссячы гэтыя яблыні – ты чужы, для цябе яны нічога не значаць; ты пойдзеш, а нам будуць агонь і цяпло.

Стары-тачыльшчык працягнуў мне сякеру на доўгім тапарышчы; каля дома пад жолаб даху быў падстаўлены стары цэбар з жалезнымі абручамі, і я, не ведаючы, што рабіць, адсунуўся да яго, абапёрся; і з'віўся ўспамін, які звязаў цэбар і яблыкі, падказаў адказ.

Восеньскай ноччу я ішоў да паўстанку на вузкакалейцы, па якой вазілі торф з бранскіх балотаў; ранняй раніцай праз паўстанак праходзіў рабочы цягнік, і на ім можна было даехаць да вялікай чыгункі.

Балотная ноч іншая, чым у бары ці ў полі; у балотах цемра падобная да бруду, які пырскае ў твар, насычае вопратку; здаецца, сплюнь – і гэта будзе не сліна, а згустак той жа цемры, якая набілася ў рот. Другія суткі запар ліло, балотная глеба ўжо не ўбірала ваду, усё вакол хлюпала, пузырылася, цякло, у жоўтую пляму святла ад ліхтара, які я часам уключаў, ускоквалі размяклыя ад дажджу, збялелыя, з перапонкамі, якія абляпілі ножку, мухаморы, і здавалася, што я іду бясконцымі ”ведзьмінымі кругамі”; дождж размываў усё, што зляжалася за доўгую вераснёвую сушу, ад дрэваў, ад зямлі, ад вады пахла балотнай гнілатой, закіслай граззю, і ёю ж пах дождж, паспяваў, здавалася, насыціцца выпарэннямі дрыгвы. І калі ў звычайнай ночы адчуваецца рух часу – ці мінула поўнач, ці доўга яшчэ да ўзыходу, адчуваецца, як ноч нібы цячэ праз цябе, то балотная ноч была як параліч часу, яна застыла ў нейкім адным пункце, і святла не было ў ёй.

Вакенца будкі ля пераезду на паўстанку, вядома, свяцілася, але гэта было нежывое святло люмінесцэнтнай лямпы, а я так доўга ішоў у цемры, што сам сабе здаваўся балотнай пачварай, якая цягне за сабой ці то ціну, ці то водарасці з віру; я амаль ужо баяўся святла, баяўся, што сам стаў цемрай, што я працяты ёю, як прастудай, і цяпер, калі накіраваць на мяне лямпу, выцеку бруднай вадой за парог; мяне кідала ў жар, у холад, нібы нешта дрыжачае, слізкае і брыдкае было праглынута з балотным паветрам, з кроплямі дажджу.

На паўстанку дзяжурыла жанчына; была чацвёртая гадзіна раніцы, рабочы цягнік прыходзіў у пяць. Я не запомніў яе аблічча: верагодна, яна занадта зжылася са сваёй роляй – выходзіць ноччу і днём да цягнікоў, правяраючы, ці не іскрыць дзе, ці не заклініла тармазная букса; мільгаць у позірку машыніста фігурай у дажджавіку або ватоўцы, існаваць ва ўзаемнай абыякавасці, – цягнік ідзе так хутка, што не разгледзець вітальнага ўзмаху рукі, – і толькі гудок часам нагадваў ёй, што яе бачаць; напэўна, нешта здарылася ў яе жыцці, што прымусіла абраць адзіноту ў будцы на краі балотаў; яна ўпусціла мяне, пасадзіла да грубкі, а сама пайшла ў кут пакойчыка, дзе стаяла цяжкая, распіраючая іржавыя абручы драўляная бочка. І столькі было ў яе руху радасці, прадчування клопату пра мяне, што я прайшоў следам за ёй: што там, у гэтай бочцы?

Яна прыпадняла вільготнае, пацямнелае, аплылае бялявымі вусікамі цвілі вечка, адгарнула пласт мокрай зліплай саломы, затым – пласт сапрэлага парэчкавага ліста.

У бочцы ляжалі серабрыстай, месяцовай жаўціні мочаныя яблыкі, сваёй дзіцячай зморшчанай скуркай падобныя да нованароджаных планетаў; я адступіў – ад бочкі з яблыкамі зыходзіла нязыркае святло, ззянне даўно мінулага лета; гэтае святло растварыла ў сабе балотную цемру, якую я міжволі прыцягнуў у дом, мякка, беражліва асвятліла край твару жанчыны, і я зразумеў, што маёй гаспадыні значна больш гадоў, чым я спачатку падумаў; раніца – раніца наступіла, і мне на імгненне падалося, што я – падарожнік, выпадкова трапіў на начлег да пустэльніцы-багіні, якая песціць гэтыя яблыкі-планеты, якая захоўвае іх удалечыні ад людзей, і калі яна падорыць мне адзін з яблыкаў, я стану кімсьці, кім не быў і не думаў быць. Яблыкі не абяцалі ні сілы, ні вечнай маладосці – адну толькі вясёлую жарсць жыць; яны пахлі хмелем без грубасці хмелю, чыста, ясна, свежа, і вусны ўжо апярэджвалі іх прахалодны, пульхірысты, кіслявы смак.

Я адказаў старым, што не стану секчы яблыні, і абяцаў набраць таплякоў

на рацэ; тады яны сказалі – пастрыжы нас, і стары-рыбак працягнуў мне нажніцы, такія ж, як тыя, што віселі на лецішчы, калі Другі дзед прапанаваў астрыгчы мяне нагала; пачарнелыя, вугальнага колеру, старадаўнія – гэта адчувалася па форме нажніцаў, вычарчанай так, нібы людзі ў мінулым інакш кроілі тканіну, інакш краналіся рэчаў, наогул інакш бачылі.

Я замёр; мне падалося, што пастрыгчы старых – падрыхтаваць іх да смерці; а яны папрасілі яшчэ і мыла, і я, прадчуваючы пах яго штучнай свежасці, хімічнай чысціні – апошняй чысціні для іх, – спалохаўся; але потым вымыў кожнага ў бочцы з дажджавой вадой, зрэзаў нажніцамі доўгія зблытаныя пасмы, і старыя, пераапрануўшыся ў белую бязевую бялізну, сталі дакранацца адзін да аднаго, карыстаючыся адзін другім, як люстэркам.

Я прынёс ім бярвёнаў, нарэзаў і накалоў дроў; старыя сядзелі, абвыкаючы да сябе новых – і не маглі прывыкнуць, сіла прывыкання вычарпалася ў іх, яны толькі слухалі, як віскоча піла, як звонка б'е ў смалістую драўніну сякера, і гэтыя гукі – гукі пачатку, справы, будаўніцтва, – здавалася, даносіліся да іх усё цішэй.

Я не стаў пытацца старых пра выспу; іх мінулае бачылася мне чымсьці вельмі далікатным, няўстойлівым; крані нешта там, у мінулым часе, – і здарыцца абвал, абрынецца падточаная памяць, разбурыцца сэрца, сціснутае з болем.

Старыя маўчалі, і я пайшоў; словы развітання ўжо не дасягнулі б іх. Шлюпка, падхопленая прыбярэжнай плынню, паплыла хутка, хаты на беразе зніклі ў прыцемках, вялікі яблык месяца кінуў на ваду мігатлівае святло, і я накіраваў нос шлюпкі па месяцовай сцяжынцы.

Я плыў усю ноч; рака пранесла шлюпку над мелямі і вірамі, над рыбінымі спінамі; а раніцай, калі з рачных заліваў пацягнуўся халодны туман, я ўбачыў выспу.

Я пазнаў яе – акруглая, бязвідная, яна дзяліла напалам раку; акружаная туманам, выспа, здавалася, нарадзілася ў згушчэнні рачных выпарэнняў і разам з імі знікне, калі падымецца сонца; зялёныя космы доннай травы, струмяні плыні – усё імкнулася да яе, усё на яе паказвала; яна паднялася з водаў, як спіна Кіта. Шлюпка ткнулася ў пясок, і я ступіў на бераг; след мой, адціснуты ў пяску, адразу ж напоўніўся вадой.

Выспа была проста плоскасцю, авалам; здавалася, гэтую зямлю выразалі з сярэдзіны азіяцкіх стэпаў, дзе народы вандравалі, перавозячы з сабой сваю гісторыю, якая існуе толькі ў памяці казачнікаў, гісторыю, якую можна было разгарнуць і згарнуць, як юрту; і тамтэйшая зямля была цалінай не толькі таму, што яе не кранаўся плуг земляроба – толькі аседласць чалавека дае месцу быццё ў часе, а там, дзе чалавек ніколі не затрымліваўся, час не пачынаўся, і гэтыя месцы, як выспа, на якой я стаяў, адасабляліся ў сваім неіснаванні для агульнай чалавечай памяці.

На выспе раслі трава ды рэдкія кусты карлікавай бярозы; ён увесь праглядаўся, на ім не было ні ўзгорка, ні лагчыны. Калі я нешта і думаў знайсці, то цяпер гэта было бессэнсоўна: тое, што спачатку з'явілася ў памеры кропкі на карце, атрымала сапраўдны маштаб, але аказалася гэткім жа ўмоўным.

Я пайшоў па выспе; туман развеяўся, у небе з'явіўся чорны каршун-падальшчык; ён абляцеў выспу па крузе, потым знізіўся – і спікіраваў уніз.

Там, наперадзе, была чорная дзірка.

За сотню крокаў стала відаць, што гэта правал у зямлі: падобна, вада прасачылася знізу, размыла глебу, і ўзнікла яміна з няроўнымі краямі,

у яе лахманамі звешваўся ягель. У гэтай прамыіне пасярод плоскасці выспы і быў увесь сэнс майго падарожжа; яна была адзінай меткай, адзінай адтулінай у плывучай зямлі, якую гэтая зямля не магла зраўняць, выраўняць, і яна небяспечна і страшна клікала да сябе. Нешта адбылося ўнутры выспы, і зямля адкрылася – знізу ўверх.

Чым бліжэй я падыходзіў, тым мацней ад прамыіны несла холадам – не ўяўным халадком, якія ўзнікае ад хвалявання, ад асцярогі, а менавіта холадам. Ён выганяў слабое цяпло Паўночнага лета, астуджаў кроў, але слабеў і сам, і ў ім павольна адтавалі пахі-прывіды, пахі-нябожчыкі; яны плылі, гнаныя хвалямі холаду, і здавалася, што я падыходжу да даўняга, заснежанага папялішча.

Пачуўшы мяне, каршун выляцеў з яміны; ён нешта нёс у дзюбе, не разабраць, што; ён падняўся вышэй, цяжка набіраючы вышыню, і стаў лётаць шырокімі коламі, бачачы зверху тое, чаго не бачыў я: дно прамыіны. Чорная птушка крэсліла ў паветры тую ж яміну, быццам заклінала смерч ці, наадварот, не магла пераадолець прыцягненне яміны, якое дагнала яе і на вышыні; чорная птушка, каршун-падальшчык, прыжыццёва гнілая знутры істота, якой таму і не страшная трупная атрута, – я баяўся і думаць, што выносіў ён у дзюбе, што знайшоў ён у прамыіне, але працягваў ісці.

Я спыніўся, не даходзячы да краю некалькіх крокаў; я ўжо бачыў сценкі прамыіны, пласты лёду ўперамешку з зямлёй, сценкі былі размытыя вадой, але вечная мерзлата не раставала, а толькі абплывала, акругляючыся выступамі, гладкімі і слізкімі; да краю падыходзіць нельга было – глеба распаўзалася, агаляючы лёд, схіл сыходзіў уніз ўсё круцей, але і застацца ў трох кроках, не ўбачыўшы дна, таксама было немагчыма: я разумеў, што калі вярнуся па жэрдкі, па вяроўку, прамыіна закрыецца, знікне, што глядзець у яе можна толькі такім, якім прыйшоў, не спадзеючыся зберагчыся.

Асцярожна, па міліметры прасоўваючы падэшвы, я набліжаўся да краю; яміна, нібы гарлавы спазм, які доўжыцца, уцягвала ў сябе; свет быў вялікі, яна была малая, але паблізу так не здавалася: яе дробнасць была небяспечнай дробнасцю пашчы, якая будзе павялічвацца з кожнай праглынутай доляй, пакуль не вырасце ў палову свету і не зжарэ другую палову. Пакуль жа гэтая пашча чакала, таілася на аддаленай і пустэльнай выспе, набіраючыся сілаў, але каршун-падальшчык ужо ведаў, куды яму ляцець.

Погляд за край яміны я не памятаю; тое, што я ўбачыў, ударыла не па вачах, а з хуткасцю святла распаўсюдзілася ў маім целе, і цела здрыганулася ад беззыходнасці свядомасці; свядомасць спрабавала схавацца, каб не змяшчаць убачанага, але шляху не было, і тады ва ўсім целе нібы згас дзень; я падаў у яму – і падаў у цёмны правал унутры сябе; сама глеба свядомасці, такая прывычная, гэтакая надзейная, што яе не адчуваеш, а адчуванні і ўражанні толькі накладваюцца на яе, раптам расступілася, і пад ёй задыхала цемра; калі заплюшчваеш вочы, унутраны погляд заўсёды ўлоўлівае нейкае святло, хай часам і слабое, аддаленае, але тут святла не было наогул: мяне нібы пазбавілі ўнутранага зроку, асляпілі свядомасць, адрэзалі яго ад органаў пачуццяў, і падзенне на дно я ўжо не адчуў.

Тое, што было далей, адбывалася не на мяжы явы і трызнення, не на яве і трызненні па чарзе; я як бы апынуўся ў двух гэтых станах адначасова; кроў з распоранай аб востры ледзяны рог рукі цякла на лёд, яна была цёплай, але лёд не раставаў, хоць павінен быў раставаць; яміна паглыбілася, стала падобнай да калодзежа, кола светлага неба аддалілася, звузілася, і ў ім кружылася чорная пляма – каршун. Вакол мяне ляжалі

раскляваныя трупы звяроў – ліс, ваўкоў, пясцоў, усіх, хто перайшоў замёрзлую раку, каб пажывіцца ля прамыіны, і падаў уніз; гэтымі трупамі харчаваліся птушкі – адзіныя, хто мог спускацца ў яміну і пакідаць яе; ад холаду вечнай мерзлаты мяса не гніло, звяры толькі скурчваліся, іх целы памяншаліся ў памерах, і здавалася, што ўсё гэта – дзеці, нявыраслыя лісяняты і ваўчаняты, забітыя тут, у яміне-пастцы.

Мёртвыя звяры – у адной лісы птушынымі кіпцюрамі быў разварочаны жывот, з кішак вываліліся непераваранастыя тундравыя мышы, быццам ліса не з'ела іх, а выношвала, рыхтуючыся нарадзіць, – забіралі на сябе ўсю ўвагу, не даючы погляду ахапіць яміну цалкам, убачыць тое, што прыцягвала сюды звяр'ё. Сценкі бугрыліся, з іх тырчалі абгарэлыя бярвёны, бярвёны былі і на дне – старыя таплякі, прынесеныя вадой; у тым, як яны ляжалі, бачыўся парадак, і я зразумеў, што ў прамыіне хтосьці спрабаваў зладзіць зямлянку, сховішча, а пад ім распаліць вогнішча; але, верагодна, ад жару полымя сценкі падталі, і бярвенне павалілася ўніз – на людзей.

З гэтай думкай зрок мой змяніўся, і ў чорных тарфяных грудах, у ледзяных наплывах я разгледзеў абрысы чалавечых фігур.

Яміна была поўная мерцвякоў; вечная мерзлата захавала іх нятленнымі. Адтуліна ў сцяне, забітая змытай травой, аказалася ротам; круглявы выступ – галавой; змешаныя з зямлёй, раствораныя ў ёй, мёртвыя нібы мкнуліся выйсці, зламаць скарынку лёду; тое, што здалося мне каранямі дрэваў, было рукамі; мерзлая плоць займела колер зямлі, і пазнаць яе можна было толькі па форме.

Чорнае, шэрае, адценні карычневага – пляма маёй крыві была тут адзіным яркім колерам; калі я глядзеў на кроў, я пераставаў бачыць мерцвякоў – колер засланяў зрок, сляпіў яркасцю; у мёртвых колеру не было, і да кожнага вяла доўгая дарога погляду, які часцінку да часцінкі збірае абрысы цела, які адлучае нябожчыка ад кручаных тарфяных карчоў, ад камянёў і камякоў торфу.

Я знаходзіўся ў страўніку зямлі; тут ляжалі мае браты, і нятленнасць іх была не нятленнасцю святасці, а пазбаўленасцю смерці. Яны не прайшлі шляхам тлення, зрасліся з зямлёй, але не сталі ёю; для ўсіх астатніх людзей яны зніклі, зніклі без вестак, і нават смерць не была той апошняй весткай, якую мог бы падаць чалавек; а значыць, і смерць не здарылася да канца; мёртвыя засталіся толькі з мёртвымі, жывыя – толькі з жывымі. Але смерць – гэта не знікненне, не імгненны пераход ад наяўнасці да адсутнасці; памірае адзін чалавек, але тыя, хто вакол, павінны дакончыць яго смяротную працу смуткам і аплакваннем; дзевяць дзён, сорак дзён – частка падзеі смерці, якую ажыццяўляюць жывыя. А калі жывыя і мёртвыя разлучаныя – гэта незавершанасць, гэты момант вечна доўжыцца, ёнператварыўся ў лёд, які перапыніў працяг часу.

Я не мог выбрацца з яміны; гладкія, ледзяныя, залізаныя вадой яе краі не давалі апоры; і мне не было чым высекчы прыступкі. У трызненні мне падалося, што я змагу выкласці лесвіцу з мерцвякоў, калі здолею выцягнуць іх з абдымкаў лёду; але раптам прыйшоў спакой – выхад быў у тым, каб капаць яму ўглыбіню, не шукаць выратавання, а паглыбляць правал. І я знайшоў надламаны сук і пачаў капаць ім змерзлы торф; капаць магілу – у магіле.

Не памятаю, колькі часу гэта доўжылася; я капаў адтуліну, калодзеж, капаў скрозь вуглі, драўляную труху, рыззё, капаў паміж змерзлымі целамі, абыходзячы рукі, плечы, ступні; і калі сілы пакінулі мяне, я ўпаў там, у

сваім калодзежы, упаў на нябожчыка, і ў халодным, астуджальным марыве ўбачыў даўняе-даўняе дзяцінства.

Тады была ноч, сярэдзінная ноч восені. Я стаяў на носе цеплахода, усё ягонае святло было ззаду, ззаду былі пасажырскія каюты і рубка, а тут, дзе карабель толькі пачынаўся, дзе з-за сустрэчнага ветру не чутны быў шум яго машынаў, дзе з усіх пахаў існаваў толькі пах карабельнага жалеза, быццам падслепаваты і таму не адпускаючы поручняў, бартоў, палубы, які не ўтрымліваў у сабе нічога жылога, цёплага, ачалавечанага – тут было месца, якое амаль не належала цеплаходу; я рухаўся разам з караблём, але як бы на імгненне апярэджваючы яго.

Цемра і рачное паветра, што адкрываліся мне, былі іншымі, чым пры поглядзе з каюты або з сярэдзіны палубы. Там святло рабіла цемру чымсьці такім, што толькі пазначае час сутак; галасы і музыка адводзілі паветру ролю афіцыянта, які толькі і павінен імгненна падносіць патрэбны гук; тут, дзе нос карабля ўрываўся ў самую плоць ночы – і ноч яшчэ не адхіснулася, пакідала расчыненымі падобныя ракавіне створкі, якія адкрываюць вільготнае, сцюдзёнае нутро, я глядзеў на ноч як бы знутры яе самой, тады як усе іншыя людзі на караблі глядзелі на яе звонку, з асветленай калыскі, якую калышуць хвалі.

Паварочваючыся, я бачыў карабель так, як яго бачыць цемра наперадзе па курсе: ён даганяў, я адступаў; я стаяў на палубе, але ўсе пасажыры, усе сталы рэстарана, усе пальмы ў кадках, усе ложкі ў каютах, усе квадратныя кавалачкі гасцінічнага мыла ў душавых былі для мяне прыналежнасцю свету, якому я сам не належаў; паўтараючы адзін аднаго, яны страцілі пры такім поглядзе адрозненні рысаў, людзі здаваліся чымсьці накшталт насякомых, якія паўзуць, ляцяць на святло, але ў гэтым параўнанні не было прыніжэння: сам я таксама не быў чалавекам, і чарната струменілася між маіх рэбраў, нібы я быў яе тапельцам, а лёгкія запаўняла дзікае, разадранае вятрамі паветра рачнога фарватэру.

Мы дыхаем адным і тым жа паветрам, і наш нядаўні выдых становіцца чыімсьці ўдыхам, мы ўсё нібы п'ем адзін у аднаго з вуснаў, не губляючы ні кроплі; існуем у асяроддзі ўласнага дыхання, як існуем і ў асяроддзі, абжытай нашым уласным поглядам, дзе яму ўсё даступна паблізу, дзе ён можа пракрасціся ў кожны закутак, убачыць любую рэч з усіх бакоў; таму мы і можам навобмацак прайсці па кватэры – яна роўна існуе і ў рэальнасці, і ў нас у галаве.

Я ж апынуўся там, дзе, калі б не карабель, чалавек апынуцца не можа: пасярод ракі; гэта прастора для таго, хто глядзіць з берага, спрасоўваецца ў пустэчу прамежку і заўважна толькі дзякуючы дзеянню законаў перспектывы, дзякуючы існаванню іншага берага, ад якога можа адштурхнуцца погляд.

Гэтае сховішча-ўва-ўсіх-на-віду, якое нават пры святле дня не можа ў аб'ёме, у шматмернасці адкрыцца таму, хто стаіць на беразе; тут ладзяць гульбішчы вятры; тут жа, калі ўявіць, што ноч ёсць суцэльная цемра і ўсякае святло ўнутры яе – толькі малая выспа, тут, над вадой, знаходзіцца цэнтр цемры, адсюль яна выходзіць на бераг, падступае да вокнаў дамоў у вёсках, да ліхтароў на прыстанях, акружае, ахінае і пражэктар, і малую свечку, – і сюды, у самы цэнтр цемры, у яе беспамерны рэзервуар, увайшоў і працягваў рухацца ў ім карабель.

Я стаяў на носе цеплахода так доўга, што калі б зірнуў на гадзіннік, то не зразумеў бы сэнсу гэтай рэчы. Я перастаў заўважаць, ідзе яшчэ карабель ці спыніўся, ці ёсць ён наогул у мяне за спіной; рэдкія ўспышкі бакенаў,

агні дамоў на беразе вясёлкавымі іголкамі краналіся павек, бачыліся адсталымі ад карабля на далёкасць светлавых гадоў. Цемра той ночы не хавала, а паглынала цалкам, і толькі асветлены электрычнасцю карабель пазбегнуў гэтае долі; так, напэўна, знікалі лясы, пагоркі, прыцемненыя дамы, масты, заводы, платы – усе прадметы, якіх не кранаўся хоць бы водбліск святла; цемра была нібы жахлівая пашча без цела, якая складаецца з меншых пашчаў, і тое, што мне здавалася спачатку целам малюска, было бязгучна пульсуючай плоццю зяпы, нутром тысячы глотак. І я не разумеў ужо, што калі б быў я цяпер у каюце, я бачыў бы проста цемру, то бок не бачыў бы нічога, і не ведаў бы, наколькі блізка падступае да чалавека нябыт, і не адчуваў бы прадказанне смерці ў паміранні колеру і страце рысаў; я быў цалкам аддадзены ночы, цалкам адкрыты ёй.

Гэта не вочы мае слязіліся ад холаду і ветру – гэта ўвесь свет стаў цякучым, хісткім, несапраўдным, у паветры адкрываліся нябачныя прарэхі, і ён правальваўся сам у сябе, як зямля; а зямля, берагі – усё выправілася ў плаванне, усё сарвалася з катвігаў, і ўсе тыя сілы, што ўтрымлівалі свет у нерухомасці, цяпер, вызваліўшыся, сутыкаліся, звіваліся ў вяроўкі, звязваліся вузламі і зноў раз'ядноўваліся над хісткай пустэчай фарватэру.

Пачуццё, якое ўзнікла ўва мне тады, было нашмат старэй за мяне; яно належала камусьці з настолькі даўніх маіх продкаў, што нас звязвала не спадчыннасць рысаў і нават не памяць цела: яно захавалася, скруціўшыся ў крывяных цельцах унутры костак, выцягнуўшыся ў нітках спіннога мозгу.

Мне здавалася, што пустэча лямантуе; калі вецер ледзь сціхаў, я чуў вібрыруючы спеў, падобны да ігры каменных эолавых арфаў, ніколі не ўзыходзячы да музычнасці, якая выказвае толькі аднамерную, адлітую ў крышталічныя формы тугу рэчыва; спеў даносіўся здалёку, нібы праз шэраг нейкіх вокнаў, якія то адчыняюцца, то зачыняюцца; і з гэтым спевам, то блізкім да выцця, то тонкім, як гучанне флейты, ува мне ўзнік першародны жах, страх нябыту, настолькі старажытны, што гэтае пачуццё не ведала, што яно – жах і страх, як звер не ведае, што ён – звер. Напэўна, гэтае пачуццё адчуў першы чалавек, які здолеў падзяліць у свядомасці сябе і факт уласнага быцця – і выракшы сябе да ведання пра смерць; веданне яшчэ бяссслоўнага, якое наскрозь праймае пазванкі, якое злучае косткі, цяглiцы, мяса ў цялесны склад.

Эолавы арфы спявалі над сярэдзіннай ракой, над аортай вялікай раўніны, чорная вада пенілася пад ветрам, і кожная хваля была як штуршок крыві; раскрытая пашча цемры піла раку, і не было ў свеце вертыкальных рысаў, не было адлегласці паміж небам і зямлёй.

Але раптам у танцуючай цемры паўстала нешта белае, якое нерухома стаяла ў рэчышчы ракі, падобнае на велізарную костку аб чатырох суставах; а збоку, на беразе – чорнае, чарней за навакольную цемру, гіганцкае вуха, якое слухала эолавы арфы, расло з гары і было звернутае да неба.

Белы сілуэт сапраўды выглядаў як патоўшчаная ўнізе костка, якую нехта ўставіў у пашчу зверу, каб звер не мог самкнуць сківіцы. Бель яго была высакароднай белізной мармуру, беспачуццёвай, той, што дорыць статуям адлучанасць ад свету; цемра спрабавала зачарніць яе, але не магла: белы колер не валодаў свячэннем, але і не даваў іншым колерам змяшацца з сабой.

Белы слуп узвышаўся сярод водаў, ён набліжаўся, і ўсё ясней рабіўся велічны спакой ягоных формаў. Пяць ярусаў узыходзілі адзін над адным, як ветразі, і цяпер здавалася, што гэта карабель, высокі парусьнік, які

ідзе сустрэчным курсам. Сярод хаосу і разладу ночы, сярод цемры, што размывае любыя межы, любыя лініі, што знішчыла гарызонт, змяшала неба і зямлю, белы слуп наноў падзяляў іх; яго стромыя ярусы, ніжнія прыступкі вялікай лесвіцы, выбудоўвалі ярусы нябёсаў, яго скіраванасць увысь задавала вертыкальную вось. Белы слуп злучаў калоны, порцікі, ярусы ў адно цэлае; чатыры бакі слупа расчэрчвалі прастору, аддзялялі адзін ад другога краі свету, вярталі верх – верху, а ніз – нізу. У трох цэнтральных ярусах слупа бачныя былі праёмы, падобныя да замочных шчылінаў; пустуючыя нішы, абяцанне нябачных брамаў, гатовых адчыніцца над шпілем, на вышыні галавакружэння.

Уся цемра, колькі яе было ў ночы, адыходзіла ад слупа; эолавы арфы спявалі ў пустаце праёмаў, але ў гуку гэтым больш не было жаху, толькі туга бязмоўя; чорнае вуха зямлі слухала белы слуп, як быццам ён быў – слова. І свет вярнуўся ў сваё рэчышча, здабыў цвёрдую аснову ў белым слупе пасярод чорных водаў.

Роў туманнай сірэны з сустрэчнага судна аглушыў мяне, перакрыў страх розуму імгненнасцю фізічнага спалоху, і я даведаўся, дзе я. Мы праплывалі над старым затопленым горадам, ад якога засталася толькі званіца, якую забыліся ўзарваць і пакінулі як арыенцір для суднаў; эолавы арфы былі згусткамі ветру, якія віруюць пад скляпеннямі званіцаў, а чорнае вуха на беразе – касмічнай антэнай вузла далёкай сувязі.

У глыбіні пад кілем карабля стылі занесеныя пяском падмуркі, плыло над даўнімі брукаванкамі патанулае лісце; у рацэ наступала свая, падводная, восень, рыбы хаваліся ў аселы з лета глей, ракі капалі норы ў зямлі былых агародаў, а на беразе днямі чысцілі днішчы прагулачных лодак.

Але быў і белы слуп, белая лесвіца да нябачнай брамы ў вышыні; яны існавалі гэтаксама аб’ектыўна, як званіца – але ў іншым рэгістры зроку; белая лесвіца з’явілася мне на дне ямы, і калі я агойтаўся, я адчуў, што мярцвяк, на якога я ўпаў, сагрэты цяплом майго цела; у руках у яго была сякера – адна з тых, што давалі ссыльным дзеля ўладкавання, – я змог выняць сякеру з нежывых пальцаў.

Я высек прыступкі ў лёдзе; я быў першым, хто выбраўся з гэтай ямы – і я адчуваў, што правал пасля гэтага зачыніцца, знікне, яго замые ў паводку; жывыя і мёртвыя сустрэліся, і маё цяпло стала іхнім цяплом.

Шлюпка несла мяне да Ледавітага акіяна. Я адчуваў, што я вар’ят, што ўва мне – вірус ведаў, якія не варта перадаваць жывым; нешта яшчэ было недазразумела, і без гэтага разумення веданне аказвалася пагібельным, смяротным. Рака рабілася ўсё шырэй, рана шчымела, падымалася тэмпература; вар’яцтва стукалася ў віскі, і да мяне вярталася памяць пра даўнюю сустрэчу з вар’ятамі, пра Другога дзеда, у якім я адчуваў тую ж гарачку, той жа вірус, той жа страх.

У дзяцінстве мы гулялі з ім ва ўскраінным парку; там пахла падкіслым гарохавым супам; пах гэтага супу – дзе б ты яго ні пачуў, – заўсёды праз некалькі хвілінаў матэрыялізоўваў плот, з “калючкай” ці без, але абавязкова глухі; узводзіў за ім блокавую альбо цагляную каробку. Так было і тут: за бетоннай агароджай быў відаць будынак псіхлякарні.

Я вёў Другога дзеда паркавымі сцежкамі і распавядаў, што бачу; раптам з-за плота данесліся птушыныя крыкі хворых – яны нібы размаўлялі на сваёй, недаступнай лекарам мове, у якой яны былі свабоднымі ці сапраўды зрушыліся кудысьці бліжэй да кірляў, і здавалася, што людзі вось-вось узляцяць, расся-дуцца на суках і пачнуць абрастаць пер’ем. Другі дзед здрыгануўся; гэта было

так незвычайна, што я спалохаўся. Ён ніколі не ўздрыгваў, нібы ўсё яго цела было адмарожана, а тут раптам нейкі ўспамін спачатку падштурхнуў яго, а потым выгнуў; ён паспрабаваў прыкінуцца, што пацягваецца ад стомы, але прытворства не дапамагло: птушыныя крыкі вар'ятаў – рэдкі, вельмі рэдкі гук для чалавечага голасу – нагадалі яму нешта з мінулага, што не магло згубіцца сярод іншых гукаў, бо не было падобным да іх, і Другі дзед прашаптаў, думаючы, што я адышоў і не чую: "я не сыду, не сыду!"– прашаптаў і застыў на пятачку зямлі, ссунуўшы ногі, нібы і сапраўды стаяў на вузкім светлым месцы сваёй свядомасці, не сыходзячы ўбок, каб не апынуцца ва ўладзе нейкіх цёмных віхураў, якія заманьваюць, адводзяць яго.

Потым, калі крыкі сціхлі, Другі дзед падрабязна распытаў мяне, як выглядае бальніца і нават, да майго здзіўлення, – ці няма шчыліны ў плоце, каб паглядзець, што там за хворыя. Шчыліна знайшлася, але хворых ужо адвялі; я бачыў толькі шыферныя паветкі – такія ж былі ў дзіцячым садзе – і двух санітараў, якія па чарзе катаюць адзін аднаго ў інваліднай калясцы: яны імчалі па асфальтавай дарожцы, аб'язджаючы кавалкі цэглы, і бязрадасна, але ўзбуджана рагаталі.

Пасля я вярнуўся ў гэты парк ужо дарослым; вярнуўся, збіраючы разам памяць пра Другога дзеда – і сустрэўся з вар'ятам, уцекачом з лякарні.

Чалавек імчаў па лесе, імчаў дзіка: нібы рухаўся не ён сам, а нехта іншы, скурчаны, сціснуты ў турме ягонага цела; чалавек у чалавеку. Гэты вязень і бег, і адначасова спрабаваў вызваліцца; уцякач падаў на зямлю, качаўся па лістоце, біўся аб дрэвы; крык яго даносіўся глуха, нібы крычаў ён жыватом. Але і бег, і прыпадкі былі пазбаўленыя імклівасці, цела супраціўлялася, цела звязвала ўцекача, часам яно перамагала, і чалавек спыняўся, рабіў некалькі няпэўных крокаў, не ведаючы нават, як ён тут апынуўся, але потым зноў, заплятаючыся, спатыкаючыся, кідаўся бегчы; так мог бы ратавацца хтосьці, зашыты ў звярыную шкуру або ў мяшок.

Уцякач наблізіўся, і я змог убачыць ягоны твар – ён быў пусты, не адлюстроўваў ні аднаго пачуцця з тых, што выбухалі цяпер у яго крыві; твар, які трохі сцёк з чэрапа ўніз пад уласным цяжарам.

Вар'ят бег да ракі; глейкай, заваленай шынамі, іржавым жалезам, але ўсё ж месцамі глыбокай; досыць глыбокай, каб патануць. Рэчку гэтую напэўна было відаць з вокнаў бальніцы; засмечаная, брудная, смярдзючая ад сцёкаў, яна не замярзала зімой, толькі густа паравала, і ў маразы над ёй збіраўся з'едлівы, колеру сабачай мачы, туман; ад рэчкі пахла нядобра, як ад загаджанага праёму паміж гаражамі, у ёй было нейкае самасцвярджэнне ў самазнішчэнні, якое бывае ў алкаголікаў у апошняй стадыі, нейкае запрашэнне да распаду; не выпадкова па яе берагах збіраліся выпіваць усе навакольныя валацугі, мутныя, як яе заіленая вада. Значыць, уцякач не быў да канца вар'ятам, ён усвядоміў, зразумеў, што ёсць гэтая рэчка, і бег цяпер, каб пакончыць з сабой.

Санітары адрэзалі яго ад рэчкі; бачачы гэта, уцякач схапіў бутэльку, разбіў яе аб дрэва і пачаў калоць сябе, але "ружачка" выйшла з кароткімі зубцамі, і ён толькі крывяніў свае сціснутыя прыпадкам мышцы, неглыбока раздзіраў скуру.

Я тады ўспомніў, што ўжо бачыў чалавека, які *так* уцякаў.

Некалькі гадоў я прыязджаў працаваць на далёкі горны прыіск; у тых месцах дарогі існуюць толькі ўзімку, калі замярзаюць балоты і ўкатаны снег схопліваецца мацней за асфальт; летам туды можна дабрацца толькі на верталёце. З-за аддаленасці гэтыя месцы становяцца схованкамі часу,

адасобленымі ад агульнага жыцця краіны; там вісяць на зачыненым клубе лозунгі, белыя літары на чырвоным, выбарчыя скрыні туды дастаўляюць таксама верталётам, а адначасна прылятае міліцыя – разабраць сваркі, крадзяжы і іншыя дробныя злачынствы за паўгода; па сутнасці, там няма ўлады, акрамя прыіскавага начальства, няма прыкметаў абнаўлення часу, і ў гэтых краях з усёй краіны неяк збіраюцца людзі, якія нідзе не прыткнуліся, не ўладкаваліся, тыя, хто не можа ўвайсці ў жыццё, як у дзверы, якія хутка круцяцца. Там, наводшыбе, узнікае адзінства тых, каго нідзе не чакаюць, каму няма куды пісаць.

Гэта моцныя людзі, але нешта выпушчана, страчана; яны па неабходнасці жорсткія, але цвёрдасць і жорскасць не даюць ім нешта адчуць, нешта зразумець. Гэта моцныя людзі, якія таемна баяцца жыцця; паступова страчваюць сябе, распадаюцца незаўважна, па частачцы; яны маглі б чорна сумаваць, хварэць душой, але ўнутры няма здольнасцяў да смутку, да моцных душэўных рухаў, і таму ім застаецца піць, кідаць сябе ў выхвальства і зухаватасць.

Улетку яшчэ нічога, ёсць адчуванне прасторы, пераменаў надвор'я, суразмерных пакутам душы. А зімой, калі толькі цемра, снег, усё замяло і ты адзін у бараку, непрамоўленыя думкі аб марнасці жыцця спакваля пачынаюць падточваць цябе. І ты не ведаеш, што рабіць з гэтымі думкамі, у цябе няма прывычкі ўзаемадзейнічаць з імі, бяспечна ўпускаць іх у свае арбіты. І ты становішся непатрэбны сам сабе; з цябе здымаецца ахоўны каркас сілы і жорсткасці, а іншых абаронаў у цябе няма.

На прыіску жылі ў вялікіх чыгуначных цыстэрнах з-пад саляркі ці мазуту; іх некалі прывезлі на падвесцы верталёта, урэзалі дзверы, наклалі падлогу, металічныя сцены ўцяплілі і зрабілі круглыя вакенцы; але гэта ўсё роўна было жыццё ў падводнай лодцы, якая стаіць пасярод гор.

Там было двое сяброў: Міша-не-разлі-вада і Коля-не-разлі-вада, мясцовы радыст і адзін з праходчыкаў. Іх так і клікалі – Не-разлі-вада, лічылі за аднаго чалавека; яны на паях валодалі адзінай на прыіску пральнай машынай, у якой гналі брагу-хуткаспелку, удваіх палявалі, – жартавалі, што для іх збройнікі і вынайшлі дубальтоўку. Яны адзіныя з усіх мужчынаў ніколі не сварыліся паміж сабой, у бойцы станавіліся плячо да пляча; і было нават нешта дзіўнае, ненатуральнае ў іх узаемнай прымальнасці, нібы паміж імі не было трэння як уласцівасці матэрыі. Я прыязджаў год за годам, нешта змянялася, людзі збліжаліся і разыходзіліся, але гэтыя двое нязменна былі разам, і з нейкага моманту мне пачало здавацца, што гэта не скончыцца дабром; што аднойчы – з-за дробязнай нагоды – адбудзецца выбух, і двое люта схопяцца, кампенсуючы з лішкам шматгадовую пакору перад чужымі слабасцямі; мне здавалася, што яны ўжо ненавідзяць адзін аднаго, толькі яшчэ не ведаюць пра гэта, і кожны сяброўскі жэст, кожная паслуга, кожнае слова толькі дадаюць алею ў будучы агонь.

Я не ведаю, чаму пачаў так думаць; ці цені будучага заселі ў іх тварах, а можа, усё іх астатняе жыццё нешта паказвала; у радыста перад домам ляжаў шчэбень з прыгожага горнага крышталю, "шчотка" дробных, у сантыметр, празрыстых крышталікаў, і аб гэтую шчотку ўваходзячыя выцiралі ногі; калі шчэбень забруджваўся, радыст выкідваў яго і насыпаў новы; праходчык аднойчы выратаваў і выхадзіў сабаку, якому ўсюдыход пераехаў лапу, і сабака аддзячыў яго – кульгавы, прыбег зімою, у мароз, калі праходчык п'яны зваліўся ў снег на шляху дадому, разварушыў, не даў заснуць – і замерзнуць; а потым у наступную зіму знасілася шапка,

і праходчык застрэліў таго сабаку на футра для вушанкі. Гэты шчэбень з крышталю, аб які выцiралі ногі, гэты забіты дзеля шапкі кульгавы сабака, які выратаваў калісьці жыццё гаспадару, – усё яно не магло быць выпадковым, усё выдавала ўнутраны кураж распаду; усё гэта сыходзіла з рук, прымалася за фінты характару, за цяжкую мужыцкасць, і атрутная гэтая гнілата глыбей і глыбей паглынала абодвух.

Вырашылася ўсё ў адну зімовую ноч; радыст і праходчык п'яныя ішлі з базы на свой участак; як потым распавядаў праходчык, радыст упаў, папрасіў запалак распаліць вогнішча – стаяў моцны мароз, але праходчык не даў – у яго засталася толькі адна запалка, а ён яшчэ разлічваў перакурыць на паўдарозе, і так яму хацелася высмаліць гэтую "беламорыну", што ён пашкадаваў запалкі, ды да таго ж думаў, што радыст прыдурваецца, хутка ўстане і пойдзе; радыст стаў папракаць праходчыка – шкадуеш, маўляў, запалку. І тут праходчыка ўзяла крыўда, ён спаліў гэтую запалку і пайшоў адзін да пасёлка, абсалютна ўпэўнены, што радыст адляжыцца і пойдзе за ім. Але радыст быў занадта п'яны, ён ужо не мог устаць, крыкі яго адносіў у горную лагчыну вецер, і ён замёрз, заснуў, дубянеючы; у пальцах яго знайшлі тую спаленую запалку.

Выклікалі верталёт з міліцыяй; праходчык, калі даведаўся, замкнуўся ў сваім металічным, з цыстэрны, доме, і страляў па кожным, хто набліжаўся; труп выцягнулі на валакушы і паклалі на більярдны стол з прылазніка шахцёрскай душавой. Дызель электрастанцыі на прыіску працаваў да васьмі, і таму ўвечары гулялі ў більярд з шахцёрскімі ліхтарыкамі на галаве; ля стала былі прарваныя сетачкі, падвешаныя да лузаў, і шары заўсёды адкатваліся ў сыры паўзмрок.

Цяпер стол стаяў за сцяной душавой, ножкі патанулі ў снезе, і на ім ляжаў нябожчык; у валасы ветрам набіла снегу, галава здавалася змерзлым капусным качаном – бывае такая белая хрусткая капуста, лісце ў яе хвалістае, амаль кучаравае; рот, ноздры, усё забіла снегам, і галава без адтулінаў была скульптурная, нібы майстар адыйшоў на хвіліну і цяпер вернецца – прарэзаць вочы, рот, ноздры. Снег усё мацнеў, падняўся буран, міліцэйскі верталёт, не даляцеўшы, развярнуўся, горы затанчылі хвалямі, вантробны гук пачаў даносіцца з металічных капсулаў цыстэрнаў, калі па іх з размаху біў вецер; трое сутак людзі сядзелі па дамах, выпівалі за ўспамін душы, і я тады прыгадаў аповед радыста пра яго дзяцінства.

Радыст нарадзіўся ў тым пасёлку, дзе стаяў, чакаючы лётнага надвор'я, міліцэйскі верталёт; бацька ягоны быў радыстам на далёкай палярнай станцыі, на адной з тых выспаў у ледавітых шыротах, якія – у картаграфічным сэнсе – выкарыстоўвалі як паперу для віншавальных паштовак; яны названыя ў гонар прынцаў і генералаў, забытых палітычных дзеячаў, капітаны палярных судоў называлі іх у гонар каханых, навукоўцы – у гонар сваіх настаўнікаў; савецкая ўлада давала выспам назвы газетаў, інстытутаў, узнагароджвала імяннымі выспамі; на карту наносіліся рэаліі новага часу – узнікалі выспы Бальшавік, Піянер, Камсамолец, выспа Кастрычніцкай рэвалюцыі; увесь гэты архіў віншавальнай перапіскі з дапамогай геаграфіі захоўваецца на антрэсолях высокіх шыротаў.

На адной з такіх выспаў стаяла метэастанцыя; там працавалі трое – начальнік станцыі, метэаролаг і радыст. Раз на паўгода да іх прылятаў самалёт; пад пасадачнае поле выбіралася мацнейшая крыга, прывозілі ежу, газеты, курыва і сілкаванне для радыёперадатчыка. Раз у паўдня станцыя выходзіла ў эфір – паведаміць зводкі надвор'я; па іх, адных з многіх, ра-

біўся прагноз для суднаў і аэрапортаў. Радыст і начальнік станцыі былі партыйныя, праводзілі, выставіўшы метэаролага з хаты, партсходы; але аднойчы летам, калі самалёт не мог сесці ля станцыі – ільды раставалі, радыст прыняў радыёграму: яму, як члену партыі, даручалася арыштаваць начальніка станцыі – былога начальніка, у той жа радыёграме радыст аб'яўляўся в. а. – як ворага народа; арыштаваць, ізаляваць і адправіць самалётам, які прыляціць праз два месяцы, на Вялікую зямлю.

Арыштаваць ды ізаляваць – на выспе, дзе была адна-адзіная хата без перагародак унутры; арыштаваць і ізаляваць – чалавека, з якім радыст працаваў вось ужо чатыры гады, чатыры зімоўкі; арыштаваць і ізаляваць; радыст падазраваў, што калі ён гэтага не зробіць, метэаролаг пасля выдасць яго; радыёграму ён прыняў – і прыём пацвердзіў.

Радыст арыштаваў свайго начальніка – абвясціў яму змест радыёграмы; разам з метэаролагам яны выкапалі ў мерзлым грунце зямлянку, склалі там каменную печ, нары, і былы начальнік сам перайшоў туды; яны б маглі проста пакінуць яго свабодным на выспе, адкуль немагчыма збегчы, жыць з ім гэтыя два месяцы ў хаце, але радыст не ведаў, што думае метэаролаг, метэаролаг не ведаў, што думае радыст, і любое пытанне, любое слова маглі потым скласці прысуд.

Радыст думаў, што начальнік будзе лаяць яго, паспрабуе забіць; але той сядзеў у зямлянцы, уцепленай шматслойным, прамочаным гумай брызентам ад намётаў, еў сваю порцыю ежы, якая стала пайкай, і толькі папрасіў прынесці яму атлас. Атрымаўшы яго, начальнік адвярнуўся ад сваіх таварышаў; гаварыў сам з сабой, быццам іх ужо не было побач.

А за дзень да таго, як павінен быў прыляцець самалёт, былы начальнік ноччу – белай летняй ноччу – звязаў абодвух; яны ўстанавілі пост, каб яго ахоўваць, але метэаролаг заснуў; звязаў, забраў карабін, адзенне, прадукты і сышоў у ільды, да полюса, прыхапіўшы той самы атлас, над якім прасядзеў два месяцы.

Як потым казаў радыст, начальнік пашкадаваў іх – каб не мучыліся, здаючы яго прыляцелым; самалёт потым доўга кружляў над ільдамі, але так і не знайшоў уцекача – ільды разыходзіліся, усюды чарнелі доўгія, на кіламетры, палонкі. Напэўна, якая-небудзь экспедыцыя яшчэ можа знайсці гэтага чалавека, яго адубелае цела; застрэліўся ён, патануў, знясілеў ад голаду; радыст успамінаў, што начальнік быў светла звар'яцелы, калі сыходзіў; яго дасталі на самым краі заселенага свету, замкнулі ў клетку слова сярод ледзяной пустыні, сярод адкрытасці ўсім краям свету, і, зняволены ў слове, прыжыццёва забіты літарай, ён усё паўтараў завучаныя на памяць радкі радыёграмы, шукаў сярод іх тое самае, турэмнае, кайданнае, слова – і не знаходзіў, так і сышоў у ільды, прасейваючы, узважваючы кожную літару – ці не яна?

Радыста потым асудзілі, а пасля ён пастараўся з'ехаць у самы глухі пасёлак, з усіх бакоў акружаны тайгой і гарамі; ён стаў баяцца адкрытых мясцінаў, яму мроілася, што ён увесь час навідавоку, занадта прыкметны; а потым ён звар'яцеў, сцвярджаў, што ў акружнасці не трыста шэсцьдзясят градусаў, а больш, і паміж градусамі ёсць нейкія шчыліны, у якія можна праціснуцца, яны толькі з выгляду маленькія і непрыкметныя, а на самой справе шырокія; яго спісалі з працы, калі ва ўсіх радыёграмах ён стаў бачыць адну, з загадам арыштаваць самога сябе, і тросся, і рваў журнал, а потым пачынаў адбіваць паведамленне ў нікуды, што ён ведае, дзе шукаць свайго былога начальніка, што начальнік уцёк ад іх на выспе

праз тую самую шчыліну паміж градусамі, і калі гэты выпадак даследаваць, выйдзе вялікая карысць, бо напэўна да нас праз гэтыя шчыліны пранікаюць незаўважанымі шпіёны; ён памёр ад разрыву сэрца, калі яму давялося ісці праз лётнае поле.

Сын, таксама радыст, казаў пра бацьку адчуджана; пераказваў ягоныя пакуты праз свае – як яму было з такім бацькам; бацька ўсё даверыў яму, а сын пакутаваў ад гэтага даверу, не ведаў, што рабіць з бацькавай шчырасцю, яна прыгнятала яго, ён саромеўся бацькоўскага надлому, спяшаўся ўсё гэта перадаць, прагаварыць, каб хоць часткова вызваліцца; а загінуў гэтаксама вывіхнута, недарэчна, быццам выкупляючы грэх бацькі; жыццё аказалася драбязінкай, згарэлай запалкай.

Буран трымаўся трое сутак; потым снег пачаў сціхаць, людзі адкапалі ўваходы ў дамы, хмары несліся яшчэ хутка, сонца праглядвала між імі, прасвечвала завіхрэнні аблокаў, калодзежы, правалы, і сонечнае святло дасягала цёмнага дна гэтых калодзежаў, якія расчыняліся ў небе; сонца было грознае, першароднае, нібыта перарадзілася за тры дні бурана, у прамяні яго ўліліся блікі таго святла, што ззяла Вогненным слупом і Неапалімай купінай у пустэльні. Снег яшчэ падаў, налятаў зарадамі, і ў кожным зарадзе мроілася ці то конніца, ці то лятучыя фігуры.

Гурбы перад раўком праходчыка вылізала да насту, і раптам усе ўбачылі, што ён бяжыць, бяжыць прэч з дома, правальваючыся, прабіваючы наст, але зноў вырываючы ногі, быццам зямля лавіла яго; бяжыць – і страляе ў неба, нібы адстрэльваецца ад кагосьці, хто там, наверсе, няўлоўны і лёгкакрылы, пераследуе яго. Патроны вывальваліся з ягоных кішэняў, ён падаў, твар яго быў скрываўлены, рукі чырвоныя, але ён пераломваў дубальтоўку, цэліўся на бягу і страляў, біў не дуплетам, а па чарзе з двух руляў, паспеўшы перамясціць стрэльбу; страляў і бег да высокага абрыва, які стромамі навісаў над ручаём.

Лёгкія прамяні святла асвятлялі над ім снежныя зарады, вобласці глыбокіх, іскрыстых мігаценняў перамяшчаліся ў небе. Уцякач страляў ва ўсё, што, як яму здавалася, набліжаецца да яго зверху, даганяе, наганяе; у любым набліжэнні, цені ці сонечнага праменя, – ён бачыў пагрозу і біў у адказ са стрэльбы.

Хтосьці сказаў, унутрана ўсё зразумеўшы: “Ад анёлаў адстрэльваецца”.

Вар’ят у парку таксама ўцякаў так, быццам за ім гналіся зусім не санітары; і цяпер, лежачы ў шлюпцы, якая плыве да акіяна, адчуваючы ў сабе вар’яцтва, я знутры гэтага вар’яцтва ўбачыў, як бадзяюцца, як блукаюць душы, што нясуць і цяжар грахоў, і забыццё нараджэння; як, спавітыя целам, бягуць яны ад анёлаў, якія адны маглі б выратаваць іх, думаючы, што гэта з’явіліся па іх анёлы адплаты; спяшаюцца разарваць повязі жыцця, але, зняволеныя ў моц целаў, асуджаныя несці ўсё, што не здарылася, незразумелае, неспазнанае да канца, і нават не ведаць, чым яны пакутуюць; і я адчуў, што вар’яцтва адступае, жар яго сыходзіць, і крыві Другога дзеда, якому пачуўся ў птушыным лямантце вар’ятаў крык забітага на лесапавале разьбяра, – гэтай крыві больш няма ўва мне.

...Мяне падабраў рыбацкі сейнер; сілайківача мяне працягнула з Поўначы на Поўдзень, праз цягнікі, вакзалы, аэрапорты, аўтобусы – на бераг Атлантыкі, пад бок Афрыкі; я быў зваротным рухам, зваротным ходам часу, мяне сціснула і выкінула; і цяпер я стаю на краі Еўропы і пачынаю шлях назад – у слове.

пераклады

Станіслаў Лем



...у мяне быў сон
колеру тваіх вачэй...

# Юнацкія вершы

* * *

Не ведаю, рукі сляпога альбо цела слімачае,
Абдымаючы рэч, ці адчуваюць, як я,
Калі пальцы й кулак сціскаю, што гэта значыць
Існаванне формы чужога жыцця.

Не ведаю, якія атамаў абароты і лёты
Вяроўкамі нерваў расхістваюць звон,
Адліты з зораў, птушынага лёту, жалеза, маркоты
І цішыні суцэльнай. Я – яго сэрца.



*Пераклад з польскай Сержа МІНСКЕВІЧА.*

*Рэдактура Ціхана ЧАРНЯКЕВІЧА.*

***БЕТХОВЕН, ПЯТАЯ СІМФОНІЯ***

*allegro con brio*

О, зорка пяшчоты і ўсмешкі, што з бліску
Нараджаешся маланак высокіх: мелодыя,

У табе струны колераў, пульсаванне агніска,
І шкілеты жалеза, пажарам ахопленыя.
Будзіш з явы мяне. Калі кліча твой голас,
Горы дыхаюць, бездань варушыць губамі каменнымі,
Прабачаецца грэх і зямля зіхаціць у праменні,
А калі ты маўчыш, цішыня – як магіла анёла.
Будзіш з явы мяне. Ты – як цемра наўкола.
Адкрываюцца нам скляпенні пахмурныя,
Дзень і ноч планету ў абдымкі закулі,
І накрэсліваюць паэму на кулі –
Перапоўненай даляглядамі урне.

### *ЛІСТ ПРА КАХАННЕ*

Вечар. Выдзімае вецер
Далягляд у шкляную дудку
З румяным, жоўтым жывоцікам.
Каштан за вокнамі вяжа
Галлё ў вузельчык салодкі,
Для таго, каб запомніць: вясна.
Казурка на чорных вейках
Перакрочвае аркуш паперы.
За сцяной хтось грае на скрыпцы,
Нібы прамаўляе: ноч.
І хтось на другім паверсе
Запальвае вокны, як зорку,
Засамочаную ў чаканні.
І хтосьці словам спрабуе
Планету накрыць, нібы муху,
Аднойчы так і было.
Але, з усіх найбліжэйшы,
Шолах крыві, у скроні,
Як за апошняй сцяною,
Стукае, каб я запомніў.
Ужо ў мяне першая зорка
Расплылася ў срэбную плямку,
Прайграе, хто ўзіраецца доўга.
А вось гэты сон, маленечкі,
Нібы прызначаўся дзіцяці,
І ёсць у ім адно слова,
Не ведаю: смерць ці каханне?
Можа гэта была толькі цемра,
Можа кроў больш не спявае
І далонь, як стоены ўздых –
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
У мяне быў сон колеру тваіх вачэй.

### *VALSE TRISTE*

Гукі як белыя пальцы
Расхінаюць цішу лагодную.
Націскаю клавішы чорныя,
Быццам ліст срэбрам пішу.
Тон малюе выразна паставу –
Цябе, дасканаласць уявы,
Ясны позірк на ўзвеях ветру.
У хоры танчаць малыя фігуры,
Тоне бас у клавіятуры,
І званочкі звіняць у паветры.
Граю лёты пейзажаў лёгкіх,
Пах чабору з лясной магілы,
І, нібы на дарозе, ў мелодыях
Праступаюць абрысы мілыя.
Нават чую часам твой голас.
Увечары ў вокнах сінія блікі
Змешваюць музыку і сузор'і.
Як праз сад, я ішоў праз зыкі,
Каб сустрэць цябе і цішыні сола.

### *ПАМЕРЛЫМ*

Не пустыня, а высахлае рэчышча маланак,
Звалка памерлых хмараў, горла жаху.
Уверсе неба тады, як кніга, разарвалася
Унізе – кроў і зямля.

*

Я, хто бачыў келіх, што ўзнікае
З вашых жэстаў і думак, а край келіха,
Больш бляклы за лісткі золата, – гэта мая самота.
Я не ўмею выказаць тое, што мусіць быць сказаным,
Я не ўмею пісаць так рэзка, як голае дрэва па небе,
Толькі бачу зялёныя дарогі лісця, знесенага ветрам,
Толькі дакранаюся да звіваў рассыпаных у паветры ракавін,
Толькі чую шэпт макавак, маленькіх сэрцайкаў цемры.
Але гэтага мала. Большага хочуць памерлыя.

У глыбіні жамчужных гадзін
У глыбіні бледнакветкавых дзён
У глыбіні гадоў, адслоеных ад гадзіннікаў,
Выспявалі валуны.
Купалы выраслі з трываласці, нібы яблыкі,

Кожны дах над крыніцай, гатычны,
На пялёстках скляпенняў хаваў усмешку Джаконды.
Так вякі застывалі ў музыцы сярод барэльефаў-аблокаў
Так любоў адціскала ў камяні чалавечы кшталт:
Касцёл.

А далей пачаўся пад'ём кафедральных вежаў
Нэфа Святога Яна, што сплываў у часе і ў полымі,
Раструшчанымі рэбрамі ён змагаўся
За вольную смерць.
Потым цвінтар, партытура
Дасканалага маўчання, паўстаў, разбурыў мяжу
Паміж сабою і горадам, і крыжы,
Апошняе войска, назаўсёды выйшлі на вуліцу.

Тут, дзе фрэска была, як сэрцабіццё,
Што сыходзіць у камень, цяпер
Пясок, вільготны і цяжкі, быццам акіянічны глей.
Глей, у які ўвайшлі людзі, птушкі і неба, вазы
Лісце, шкілеты і нефы.
Глей,
З вышыняў яны ідуць
Руіны: касцяныя абразы на доўгіх залатых лейцах святла.

Кожны мой крок помніць мелодыю сходаў.
Пад маімі пальцамі прах: роспач памерлых.
Пад маімі павекамі цемра, думкі памерлых.
І птушкі, нібыта іх сны, злятаюць адсюль.
Удалечыні падае руды згустак навальніцы. А з дна паветра
Прабіваецца крык: апошняя вежа. І ўсё, што я бачу, –
Як святло, якое не згасла,
Як смерць, якая не забіла.
Як скамянелая зорка.

## *НОЧ*

Паглядзі на скульптуру. Неба
І ставок з застылаю хмарай, зоркі
У памяці, як у бурштыне,
У бэзавым абрысе светлаценяў
Плывуць праз цемру, матылёў і вочы,
Праз зенітныя зорапады,
Праз кветку, што ўзнесла калону водару
Ў каменнашыі, у вузкія збаны,
Якім ставіць пячатку ноч.

Калі сонца ўпадзе ў келіх ветру,
Світанак скіне цвёрдую гладзь цемры,
І спыніцца час пад беладрэвам.

І тады чуваць маўклівае скерца
Аднатоннай самотнай скрыпкі,
І дрыжыць зялёны тлум ліп.

### *ТРЫЯЛЕТ*

Павел збудаваў дом
Ад кветак да гнязда ластавак.
Дах пакрыты палётам,
Вокны поўныя песняй.
Увечары
Ён збіраў каштаны, ігольчатыя, як зоры,
Хмары птушак
Тлумачыў хмарам дрэў.
Малыя словы раслі,
Мяняліся як воблачкі:
Ружова – фіялетава – смутней.
Складаў іх у казкі як перад сном
Калыхаў вершам.

Неба ягонай краіны мела жалезныя ветразі.

У Яна не было дома.
Ён жыў ва ўсмешцы як на выспе.
Пакінуты дзяўчатамі,
Як вяз без птушак.
Каханне схаваў пад павекамі,
Не здраджваў нават у снах
Саступаў дарогу
Дрэвам і мурашам,
Ніколі не быў самотным
Выводзіў словы
Лёгкай лініяй лазурку
Ружовым плячом
Струной.

Прыйшлі па яго ўначы.

Пётра верыў у незабудкі.
У ягонага бацькі
Срэбнага жывога дзядочка
Была магіла

Уся з полымя і цэглы.
Пётра вучыўся ў бацькі маўчанню,
Дзяўчына, якую ён кахаў,
З вачамі, яснейшымі за паветра,
Злавіла ў грудзі кулю –
У залатых вейках
Згаслі два маленькія небы.
Пётра
Вучыўся ў памерлай каханню.

## *КАХАННЕ*

Свет, што расхілены рукамі,
Свет, расхілены рукамі,
Неба, падтрыманае позіркам,
І мелодыі звонку
Ахаплівалі мяне дзень за днём.

Неаплеценыя сеткаю крыві,
Слабеюць вятры, і водбліскі
Мнуцца, як вялікія лісты,
Якім дзіця выпраўляе жылкі.

У мяне ўвайшла ноч –
Абраз цёмнай краіны
Перакрываў гук паветра
І белае дыханне кветак.

Словы ападалі з маіх вершаў.

Радкі разрасталіся ў маіх кнігах.

На маіх вачах паміралі пейзажы.

У блакітным і зялёным

Кветкі дзялілі сваю форму паміж жывёламі
Птушкі слеплі ў вышыні
З тканіны лесу вырвалі дрэвы
Засталіся толькі слупы падзеленых прастораў
Бязлесна і сумна.
Паветра сыходзіла з гнёзд і ракавак
У чырвоным горле птушкі
Трэлі рассыпаліся ў прах.

У фіялетавым і эбенавым

Зоры выплывалі з неба
Светлякі згасалі, як сонца
Жабры месяца задыхаліся
Апошнія аблокі раставалі
Вада мяшалася з зямлёй
Святло – са змрокам
Сыходзячы ў перадсвітальную цемрадзь.

З маіх сноў зніклі твары

Безыменных вершаў і жанчын
Аквамарын і охра
Яны ператварыліся ў прах.
Пейзажы паміралі ў глыбінях вачэй.
Акторы пакідалі тэатрык
Ападала цяжкая заслона
На пустую, як смерць, сцэну.

Пусцелі склады ўяўлення,
Празрыстыя павароты мрой:
Ядваб, плюш, муар, аксаміт
Бляск і срэбная лама.

Мае люстэркі змоўклі
Да дуба вярнуўся цень
Лісце засыпала след дыхання.
Зямля не кружыцца ў сонцы
У жылах не кружыць кроў.

Толькі ты ацалела,
Цябе правялі праз полымя,
Белы дзявочы профіль
У абпаленым уяўленні.
Выціснуты, як чорная пячатка
Папараці, закаванай у вугаль,
Перажыве лясы перагною,
Паваленыя акіянам.

пераклады

Вольга Ляснюк



...асцярожна:
хадзіць варта толькі пад парасонамі,
бо на галаву можа ўпасці
вайна...

# Восень. Персанажы

***З кнігі [без іроніі]***

*Пераклад з украінскай Андрэя НАЛІВЫ.*

## Прачнемся

Як заўсёды, схапілі ноч за розныя канцы, і кожны пачаў цягнуць да сябе.

Разарвалі.

Табе дастаўся ранак, а мне – вечар, а з рэшты пашыем шторы і занавесім вакно.

Ад усіх.

Будзем спыняць гадзіннікі на паўслове, а потым гуляць у даміно. Хто прайграе, той мае права на здраду.

Але ў нашым доме няма дзвярэй, а на якім паверсе мы жывем – ніхто не ведае.

Проста намалюем лесвіцу і будзем па ёй сыходзіць
з розуму.

А калі захочаш, я буду пісаць твой партрэт, толькі ззаду, з патыліцы. Няхай кожны сам паварочвае цябе да сябе тварам.

Цябе
такім, якім кожнаму захочацца. І калі хтосьці пазнае цябе, у мяне пачнецца прыступ рэўнасці. І, напэўна, мяне не ўратуюць.

А калі нам захочацца выйсці, возьмемся за рукі. І абавязкова выявіцца, што паверх самы высокі.

Па дарозе мы абмяняемся позіркамі, страхамі і, мажліва, душамі.

А прачнемся: ты ў маёй душы. Я ж у снезе па калені ці на каленях.

## [Без іроніі]

Гэта не так проста. Гэта зусім не проста. Для мяне. Напісаць без іроніі, без самаіроніі. Бо гэта азначае трымацца без цвікоў, якімі я прыбітая да свету, да навакольных, да чагосьці яшчэ. А ты кажаш: "Напішы без..." Вымаю ўсе цвікі, складваю іх куды падалей і спрабую трымацца без іх. Прабач, калі не ўтрымаюся. Прабач, калі ўпаду. Прабач, калі не ўстану. А можа, яно таго варта? Бо, можа, я палячу? А калі не, значыць, не.

Мы будзем гуляць у гульню.

Ты будзеш святаром. А я буду спавядацца.

Некалі даўно я забіла куранятка. Наступіла на яго. Гэта было ненаўмыснае забойства ці забойства па неасцярожнасці. Аднак было. Згадалася яно, бо, здаецца, я тады ўпершыню адчула агонь, які пячэ грэшнікаў. Не магла знайсці сабе апраўдання. Не магла спаць. І калі мая цётка скардзілася на сваю хваробу, на язву, казала, як яна пячэ, мне здавалася, што лепей за мяне яе (цётку ці язву) не разумее ніхто.

А найбольшы грэх мой – пэўна, адчай. Я ўпадаю ў яго, як рэчка ў мора. Гэта штосьці такое, што нельга спыніць, штосьці непазбаўляльнае, стыхійнае, і я не магу знайсці таму прычыны, затое ён знаходзіць мяне. І накрывае – як павязкаю вочы. І я пачынаю бачыць свет тысячамі тых вачэй – ужо закрытых.

Багі мае хрысціянскія і паганскія. Орды стодаў стукаюцца ў мае адчыненыя дзверы. Я клічу Госпада занадта часта, амаль заўсёды. Блытаю дні. Не ведаю, як шанаваць бацьку. Забіваю сябе ў сабе, мух на вакне, толькі павукоў адпускаю – памілаваннем. Пералюбляю, калі нікога не кахаю. Не сведчу праўдзіва пра бліжніх і дальніх, не сведчу ніяк, а ў часы вялікага маўчання – і пагатоў. Заўсёды прагну таго, чаго не маю, і што маюць іншыя.

І дзе мне ўзяць Бога, каб прабачыў мне ўсё гэта?

І хіба ты зможаш адпусціць мне грахі мае? Ды дзе там. Ты прыручыш іх і будзеш выпасваць, як атару авечак, каб састрыгаць іх руно і плесці для мяне пакрывала.

Ты прабач, прабач...

Бо паслязаўтра я буду тваім Вялікаднем, а сёння пятніца – таму адною рукою даставай мною ж схаваныя цвікі, а другою – закалыхвай каравай на агні. Нам не будзе балюча. Я заўсёды маню, калі казаць праўду не ў змозе.

Загінем усе. Ненадоўга.

А ў нядзелю ранкам з надбітага яйка-крашанкі нас выседзіць зязюля – родам з таго гадзінніка, у якім стрэлкі крыжом сышліся.

## Не-паэт

Паставілі дыягназ: не-паэт. Не будзе кропельніцаў з упырскваннем дакладных рыфмаў. Нарэшце адпачнуць ягадзіцы ад балючых ажно да выцця ін’екцыяў Музы. Не трэба больш лекарна-верлібравых прасціradлаў з па-

хам свежае фарбы для друкарскіх машынаў. Можаце выключаць апараты падтрымання ўва мне паэта.

Калі раптам пабачыце чалавека з шыльдачкай "не-паэт", ведайце – гэта я. Нерацыянальна пісаць рацыянальныя вершы. Гэта ж нішто, бо нікому не трэба бачыць, як я выварочваю сваю сутнасць, каб усе пабачылі. І не абавязкова падглядаць, як я перад сном танчу стрыптыз перад люстэркам, а калі прыйдзе дэпрэсія, заклею яму вочы пластылінам, а сабе шакаладам.

Ну добра, зараз я з дыягназам у кішэні. І як часова асуджанай мне дазваляецца:

хадзіць па небе без парашута

без рэцэпту набываць суіцыдальныя сродкі

чытаць свае вершы сам-насам з сабою да першых ванітаў

А ўжо потым буду кансерваваць кветкі, бо мой дзень народзінаў узімку.

Напэўна, неўзабаве атрымаю прэмію як не-паэт. Ужо ведаю, што ўзнагародаю будзе ледзянец на палачцы, каб я, нарэшце, спазнала, наколькі салодкае жыццё.

Хоць не вяселле – пасцяліце мне пад ногі вышыты ручнік – на шчасце, на долю. Я старанна пералічу на ім крыжыкі, раптам чырвоных атрымаецца больш, хоць бы на адзін.

Жыву ў чаканні зімы. Яна ўжо на носе, але ніяк не пачне наступаць на пяткі. А восень выкрэслівае мяне – занадта паэтычная часіна году. Вось і жыву спінаю да ўсяго свету. Пэўна, варта заўчасна справіць дзень народзінаў. Прыходзьце, будзе гарачы лёд і кансерваваныя кветкі.

Падаруйце мне ўціхамірвальную кашулю на ноч, каб не снілася, што ўмею пісаць.

## Пульс

Я ўмела дыхаць ягоным пульсам, тыцнуўшыся носам у ягоную шыю, якраз туды, дзе пульсуе жылка. Я дыхала ягоным рытмам жыцця. Гэта былі постінтымныя стасункі. Я так радавалася, што магу дужа глыбока, разам з паветрам, уцягнуць у сябе ягонае цёх-цёх-цёх. Здаецца, салаўі таксама цёхкаюць. У скронях цёхкае. Жылка цёхкае. І салавей.

Насамрэч мне ўсё роўна. Я дыхала ягоным пульсам, а ён адгароджваўся ад цэлага свету, чым мог. Я таксама была тым светам. За вакном. Толькі магла праз кватэрку тыцнуцца носам у ягоную шыю.

Давайце будзем смяяцца

з мяне

Я ж была ягонаю забаваю, дык чаму вам не можа быць смешна.

Я ж заўсёды сядзела на стале, калі ён спаў.

Я не магла спаць.

Я мусіла падглядзець ці дагледзець кожны ягоны сон. Схільнасць да паранармальных дзеяў, а можа, проста дзяўчынка з дэвіянтнымі паводзінамі?

Мне трэба было хоць калі-нікалі сядзець на стале, бо мы былі дыяметральна рознымі. Ён не ведаў шкадавання. Намагаўся зразумець. Ён намагаўся зразумець усё. Гэта была для яго Антарктыда: чуў, бачыў на малюнках і па тэліку.

Я падкідала яму свае насмешкі. Ён іх ламаў і кідаў у камін ды грэў рукі.

Ад ягонай празмернай прысутнасці я ратавалася адсутнасцю думак пра яго і наогул.

За тры хвіліны да таго, калі ён павінен быў забыць мяне назаўсёды,

я яшчэ драпалася да ягонага распаленага ці заржавелага, але абавязкова чырвонага мозгу.

Дарэмна.

Ён жа пастаянна занавешвае шторы.

Тады я выскачыла з гаўбца.

У вырай.

Там сонца прадаюць ураздроб і салаўёў расфарбоўваюць.

Не хачу больш быць дэгустатарам чужых пульсаў.

## Табе – чужому

Ты ж не хочаш, каб я была заўчаснай кропкай у тваім сказе?

І той конь з шахматнай дошкі стаў пытальнікам у гульні, дзе хтосьці павінен быў паддацца першым.

Звальняюся з пасады каралевы ў тваім жыцці, дзе ажно зашмат пешак і пешых, якія ідуць у паломніцтва здаваць грахі, як шклотару, а потым б'юцца захмялелыя ад віна прычасця.

Ды й самадайкай не хочацца быць, каб гандляваць сваёю адзінотай, перабягаючы дарогу тваім жаданням.

Я не з той гліны, з мяне кепска лепіцца жонка. Венік да рук не прырастае, і чыгуны дзівяцца амаль спачувальна.

Ведаю, што ты прывык да мяне, як да тэлевізара па вечарах і свежых газетаў раз на тыдзень.

Аднак жа нячэсна адбіраць чужую ролю і напісаны сцэнар падразаць да свайго росту.

Ты жыві, як трэба, а мне час на захад. Штовечаровае сонца ў стайню заганяць, сартаваць зоркі, сплятаць сцяжыны ў адзін шлях, гаспадарыць у «доме на гары», які яшчэ ніхто не бачыў.

Я буду час ад часу прабірацца праз комін у твае сны
на ўспамін,
якога ў цябе няма.

## Не знойдуць

гэты лістапад у старадаўнім цыліндры... Ён не хварэе на жарсць, як ягоны брат-блізнюк год таму.

Ён альбо спакойны, альбо абыякавы і, магчыма, трохі расчараваны.

І мы ў яго вызіраем з-пад крыса, а пад крысом бавімся ў каханні. Бо пад крысом у кагосьці – гэта надзейна і на зайздрасць іншым.

Мы будзем разглядаць восень аднымі на дваіх вачыма, а ноччу будзем хадзіць па ходніках і ўяўляць, што асядлалі зебру. А гадзіннікі будуць пераязджаць нам дарогу.

Гэтая ноч будзе гарэць між намі.

І хтосьці занадта сумленны ўратуе нас. І выкіне ў ранак ўніз галовамі.

А нам жа не туды, а нам жа ў супрацьлеглы бок, які адляжаў хтосьці да нас.

І нам, уратаваным, адразу зробіцца холадна. Ды яшчэ й падкіне хтосьці прастуду з пахам лімона.

Пасля ўскладнення мы развучымся губляць галовы.

А лістапад затрымаюць недзе на мяжы з зімою, старанна абшукаюць і не знойдуць
нас.

## Восень. Персанажы

Гэты дзіўны персанаж ледзь не з маёй фантазіі. Ён зламаны, як гадзіннік без стрэлак альбо цыферблата. Ён – як слова без голасу і нават без гукаў. Адкінуты, растаптаны, змучаны, засмучаны... і няхай бы так, і няхай бы нават так, як бы ён ні глядзеў на мяне з люстэрка. Гэты персанаж.

Кладуся пад нож, пад цягнік, пад гільяціну: адсячыце руку, галаву альбо што заўгодна, не адсякайце толькі душу, бо чым я яшчэ зрастуся з восенню: нам добра разам, у адным на дваіх вар'яцтве, мы разам галасуем і галасуем на дарогах, бюлетэнямі, крычым у рупары, у мегафоны... у аднолькавага памеру і колеру ўціхамірвальных кашулях. Мы нават погляд разломваем, як адзін на дваіх акраец чорнага хлеба, адным на дваіх ключом адпраўляем птушак у вырай і тым жа ключом замыкаем сябе ад выраю, цяпла, і табе – няхай будзе холадна. Мы адмарозім сябе. Каб не балела, не ныла і не зводзіла сутаргай. Альбо давай хоць бы прамочым ногі, запросім прастуду ў госці. Думаеце, будзем піць гарбату? – а дудкі – гарэлку з перцам! Каб не балела, не ныла і не зводзіла сутаргай.

А ты ж так баішся ўсіх вар'ятаў, а значыць, і мяне. І восень апранаеш хіба што навыварат, а я тут прырасла і, магчыма, тут самотнасць трымае ў аблозе ўвесь свет... я ўсё роўна тут застаюся. З адным-адзіным для мяне позіркам: ён мяккі і проста ў душу. Я грыміруюся ў ім за ўсіх, каму, магчыма, холадна. Я вызубру яго на памяць і прышпілю да сваіх вачэй.

А потым заўчасна народзіцца снег, а потым я буду вырошчваць на снезе макі, на дне кожнага з якіх будзе выспяваць твая наркатычная залежнасць ад мяне.

У апошні дзень восені нас павянчае першы снегавік і адразу растане.

Мы застаемся, мы магчымыя толькі тут, залежныя ды звар'яцелыя, восеньскія наскрозь. Перакрэслім тэорыю авальнасці Зямлі, каб часам не выпасці з таго кута, у якім нам добра. Дарэчы, ён чуе на абодва вухі.

Закапаемся ў апалае лісце.
Нас не шукайце.
Мы ў восені, якая для вас прайшла.

## Восень

Яна надышла раптоўна, неспадзявана, ды нават не надышла – упала – і не як снег – як лісцё альбо яблык – на галовы ўсім нам. І лета захопленае знянацку – ці калі яно напівалася, ці плакала, схаваўшыся пад коўдру – бо што яму рабіць – з павышанаю тэмператураю, такому непатрэбнаму ўжо – хіба задраць галаву і ўзмаліцца: “гусі-гусі-гусяняты, вазьміце мяне на крыляты...” Дык ці ж возьмуць?

А я прачнулася раптам, калі яна стукнула ў маю шыбку. І цяпер жыву з Герасімюковым у галаве ды на душы: “Гэта восень, Вольга, восень...”

Так хутка, праз колькі неасцярожных позіркаў, дрэвам стане сіне – ад неба на іхніх галінах – бо лістота, спакушаная ветрам, ляжа на алтар восені.

І адбудзецца: ляжа на душу цемрыва, і выключальнік не варта шукаць, і сонца зашторанае, і ў ліхтарыку сілкаванне села. І д'ябал з ім.

І грэцкія арэхі ўжо безнадзейна падаюць там, дзе яны нікому не патрэбныя, нават варонам, якія палошчуць крылы ў маіх вачах – і чарнеюць паціху разам – нібыта пункты А і Б, паміж якімі анёлы восені нацягнуць яшчэ бабіна лета, і прыгадаецца:

– Баба, баба, а чаму вашае лета з павуцінкамі?

– Бо маю пару такіх павуцінак, як ты, што трымаюць мяне на гэтым свеце і ў гэтым жыцці, а ў душы ўжо не цёпла, а цеплавата...

А яшчэ цёпла? Бо я штосьці перастала адчуваць, забыла, як гэта. Адчуваю сябе адраўнелаю пасярод усяго свету... Калі прыйду ў сябе, адразу вазьмуся пакаваць валізы пералётным птушкам. І з чаго мы ўзялі, што бацькаўшчына жураваў менавіта ў нас? У мяне адказ адзін – дзедавымі словамі – “прылятаюць да нас вяселікамі[1], а адлятаюць жоравамі...”

Яшчэ дажджы паспыняць трэба, бо ў кожнага свой дождж, а патрапіш пад чужы – і холадна, і прастудна. А потым захутаемся ўсе ў шалікі і будзем сумаваць, трохі хварэць, трохі пісаць вершы і, можа, нават папяровыя лісты, якія не будзем адсылаць, і яны будуць жаўцець і ападаць. І ты так і не дазнаешся, які нахіл у маіх літараў, калі я думаю пра цябе, як я выводжу тваё імя і ў адной літары раблю закавычку, не будзеш ведаць, як пахне ліст, напісаны мною табе... не будзеш ведаць, бо між намі восень.

Я абавязкова сяду ў цягнік, каб прыехаць не да цябе, бо гэта абвастрэнне, разумееш, маіх пачуццяў, яно лекуецца тваёй адсутнасцю. Яшчэ, можа, астрамі і сочывам, якога восені не можна, бо яно на зіму. І калі я спрабую табе патэлефанаваць, голас у слухаўцы завучана кажа: “Між вамі восень”. Я буду вар’яцець, мала спаць, дзівіцца ў вакно, у якім не буду бачыць цябе, можа, нават, разаб’ю яго...

Але тым вечарам, калі восень будзе выяўляць сваю непрысутнасць, калі ўжо выключанае святло, але начныя пачвары яшчэ не выйдуць з шафаў, давай хвілінку падумаем адно пра аднаго.

## Казка для дарослых

Калабок, знайшоўшы найвысачэнную лесвіцу, ускараскаўся на неба. Спачатку панатыкаў на сябе саломы, а потым прыклеіўся да неба і ў рупар аб’явіў сябе сонцам. Усе адразу пачалі хавацца на печы, бо прагнозы адмянілі цяпло. Нейкая дзяўчына бегала па горадзе і махала транспарантам: прасіла ўратаваць ейную котку ад СНІДу, а маленькі хлопчык выпрошваў міласцыню – хоць ён быў найбагацейшым багацеем, але яму карцела ўратаваць хоць адну душу, дарэчы, абсалютна бясплатна. І калі хтосьці кінуў яму манетку, за якую гадоў дваццаць нічога не купіш, ён адразу пабег рабіцца Будам.

А яшчэ адзін у ботах вышэй за калені адкаркаваў велічэзную пляшку шампанскага, каб напіцца данельга і голасна ікаць. Пляшка бабахнула на ўвесь горад, усе падумалі, што гэта салют, і хорам выгукнулі: ура. Нарадзіўся чарговы Гітлер. Раней за тэрмін. Казалі, што такія дзеці не жывуць. Так, яны паміраюць ад суіцыду альбо проста смерці, але перад тым фіксуюць сябе ў падручніках па гісторыі. Таму яму яшчэ трэба навучыцца чытаць і пісаць. Дарэчы, Ніцшэ ўжо склаў сваю казку.

Асцярожна: хадзіць варта толькі пад парасонамі, бо на галаву можа ўпасці вайна.

---

[1] Вяселікамі ва Украіне называюць жураваў, якія прылятаюць вясной з выраю. Бо, паводле павер’я, калі назавеш іх жоравамі – будзеш журыцца ўвесь год.

мастацтва

Адам Глобус



...усе паэты – кітайцы,

бо ўсе графікі – японцы...

# Славук

***Словы пра графіка Валерыя Славука***

## Замена

Валера Славук прыйшоў у мастацтва разам з паплечнікамі. Найбліжэйшымі да яго былі Мікола Селяшчук і Валодзя Савіч. Можна казаць, што прозвішчы ўсіх трох сталі знакавымі ў маладой кніжнай графіцы 80-х. Вядома было і тое, што ў гэтых мастакоў не толькі адна школа і агульны светагляд, яны яшчэ маглі лёгка замяняць адзін аднаго. Раскажу пра замену, якая адбылася ў 2014-м. Прыйшоў я на выставу да Валеры Славука, паслухаў прамовы, паглядзеў на казачную графіку, павітаўся з сябрамі, павіншаваў Валеру з добрай выставай і збіраўся ўжо ісці з "Палаца мастацтваў", калі мяне спыніў знакаміты фоталетапісец тутэйшасці – Яўген Коктыш: "Давай, я цябе здыму са Славуком. Пастой тут, а я зараз прывяду Валеру..." Праз тры хвіліны Коктыш вярнуўся: "Славука не знайшоў, але нічога страшнага; здыму цябе з Савічам... Станьце бліжэй адзін да аднаго і пагаварыце пра нешта вам дарагое..." – "Пра Славука?" – удакладніў я. "Можаце і пра Славука пагаварыць, бо ён для нас і сапраўды дарагі".

## "Вожык"



*Валерый СЛАВУК.*
*Фота Яўгена КОЛЧАВА.*

Славук – мастак прафесійны: ведае кошт працам, маляваннем можа зарабіць на кавалак хлеба, а часам і на булачку з маслам. Таму ва ўспамінах Валеры ёсць досыць запамінальны эпізод пра рашэнне вучыцца на мастака: «Аднойчы я намаляваў дзве карыкатуркі і адправіў іх у "Вожык", іх надрукавалі. Мяне на заводзе пачалі дражніць "мастаком". Я адпусціў доўгія валасы, тады гэта было модна, у сярэдзіне 70-х. "Бітлз" і ўсё такое... "Ну, калі ўсе мяне дражняць мастаком – трэба ісці ў мастакі..." – падумаў я. І пайшоў у Тэатральна-мастацкі са сваімі папкамі...» Пэўна ж, не выпадкова прафесійная кар'ера Валеры пачалася менавіта ў гумарыстычным часопісе "Вожык". Гумар, іронія, сарказм чырвонай ніткаю праходзяць праз усю, як ёсць, творчасць Славука. Менавіта за гумар Валеру любяць, а паважаюць яго за высокі прафесіяналізм.

## Смеласць

Валера Славук праславіўся малюнкамі да казак. Ён ужо ў інстытуце зрабіў узорныя ілюстрацыі да беларускай народнай казкі "Удовін сын". Недзе ў тыя часы мы з ім і пазнаёміліся. Помню, графікі адзначалі заканчэнне семестра, пілі віно, жартавалі, расказвалі показкі. Валера проста геніяльна расказаў тады казку-анекдот пра Уладзіміра Леніна...

У Леніна быў дзень народзінаў. Жонка Уладзіміра Ільіча Леніна – Надзея Канстанцінаўна Крупская падарыла мужу клетку з птушкай. Уладзімір Ільіч адразу палюбіў птушку і тры дні карміў яе семкамі і паіў крынічнай вадой. Праз тры дні Ленін вырашыў адпусціць птушку на волю. Ён адчыніў дзверцы ў клетцы. Ён думаў, што птушка ўзрадуецца і паляціць на волю. Але за тры дні птушка паспела так моцна палюбіць Уладзіміра Ільіча, што не захацела пакідаць клетку...

Мы смяяліся. Мы цудоўна ведалі, што за палітычны анекдот, пагатоў пра Леніна, могуць і з інстытута выкінуць, а мо і на нары пасадзіць. Мы смяяліся, бо давяралі адно аднаму. Мне запомніўся той смех і смеласць Валеры Славука. Мастак мусіць быць смелым, як той Удовін Сын, які перамог цмока і якога так таленавіта намаляваў смелы Валера.

## Страты

Свае малюнкі і карціны я стараюся захоўваць, пэўна таму і перажываю, калі чую пра пажары ў мастакоўскіх майстэрнях. Мяне ўразілі апавяданні пра тое, як згарэла майстэрня выбітнага армянскага жывапісца Авецісяна. Ён страціў большую частку зробленага, заперажываў і неўзабаве памёр. У Мінску згарэла майстэрня мастака Бароўкі, у тым пажары ён атрымаў страшныя апёкі і не змог выжыць. Надоечы я даведаўся, што згарэла майстэрня пейзажыста Цвіркі, але ён пасля трагедыі пачаў апантана працаваць, каб аднавіць частку страчанага... Гісторыя з малюнкамі Валеры Славука, дзякуй богу, не такая страшная. І ўсё ж мне было горка, калі я даведаўся, што выдавец Кірылаў згубіў малюнкі,

зробленыя да двухтомніка народных казак, сабраных братамі Грым. Разам з Жэнікам Кірылавым я рыхтаваў зборнікі казак, а тут – згубіліся малюнкі. З-за той страты не выйшаў двухтомнік Грым і не выйшаў зборнік японскіх казак, бо з’явіліся новыя праекты, пакуль шукаліся згубленыя малюнкі. Дэтэктыўнай гісторыі з добрай канцоўкай не атрымалася, малюнкі мы не знайшлі. Маёй вінаватасці ў гісторыі з губляннем малюнкаў Славука няма, але ёсць мае перажыванні за мастакоў, чые творы знікаюць заўчасна і незваротна.



*Валерый Славук. «Лясун-Дабрахот».*

## Таямніцы

Мастак толькі тады мастак, калі мае таямніцу. Шмат хто такія сакрэты знаходзіць у надзвычайных тэхніках. У некага фарба ззяе, у каго лак адметна паблісквае, у іншага папера прывабнага адцення. Акрамя тэхнікі, маюць мастакі і сакрэты канцэптуальныя. Карыкатурысты прымушаюць гледача смяяцца, аўтары надмагільных мемарыялаў заклікаюць суцішыцца, памаўчаць, паплакаць. То бок мастак абавязаны знайсці ключык да сэрца гледача і трымаць той ключык у таемным месцы. Мы можам толькі здагадвацца пра мастакоўскія таямніцы. Хітрадушныя журналісты спрабуюць выпытаць у мастака пра ягоны сакрэт, але іх намаганні марныя, бо таямніца на тое і таямніца, каб пра яе ніхто не ведаў. Я выкажу толькі здагадку наконт таямніцы графіка Валеры Славука... Ён напэўна ведае, што кожная Баба-Яга ўважае сябе пісанай прыгажуняй. Большасць з нас Бабу-Ягу бачыць пачвараю, а для Валеры Славука яна праўдзівая эталонная прыгажуня, якую варта ўслаўляць. Апроч таго, ён ведае, што ў сэкс-сімвалах Бабы Ягі ходзіць сам чорт рагаты, якога таксама трэба маляваць з любоўю і павагай. Мо ў Валеры Славука ёсць яшчэ нейкія сакрэты-таямніцы, але я здагадаўся толькі пра гэтыя – з прыгожым чортам і прывабнай Бабай-Ягой.

## Прыгажуні

Седзячы побач са Славуком за шыкоўным банкетным сталом, я вырашыў расказаць яму пра любоў студэнтак да яго. Керамістка Лора Конева распавядала, што да Валеры Славука студэнткі, якім той казаў пра таямніцы ў акадэмічным малюнку, ставіліся добра, паважалі і нават любілі. Валера, выслухаўшы мяне, саркастычна пасміхнуўся і расказаў пра прыгажосць цяперашніх студэнтак. Сарказм палягаў у тым, што студэнткі штораз часцей кідаюць мастацкую акадэмію з яе традыцыйнай графікай і ідуць у іншыя прафесіі, больш грашовыя і прэстыжныя. Выкладчыкі крыўдуюць і пераймаюцца цераз няўдзячнасць студэнтак. Таму Валера і прапанаваў набіраць на графіку не самых таленавітых і здольных, а самых вабных і гожых, каб іх кафедра стала вылучацца эфектнаю маладою прыгажосцю ў сценах старой акадэміі. Славука ў тым ніхто не падтрымаў: палічылі, што сыход прыгажуні болей балюча б’е па кафедры графікаў, чым сыход студэнткі звычайнай і не запамінальнай.

## Праца

Творчасцю графіка Славука захапляўся і чыноўнік Скобелеў. Акрамя працы на высокіх пасадах, Эдуард Скобелеў пісаў кнігі. У выдавецтвах ён прасіў, каб аздабленне да ягоных прыгодніцкіх аповесцяў рабіў менавіта Валера Славук, і той рабіў. Вось і



Валерый СЛАВУК. «Дамавік і Дамавуха».

спытаў я ў Валеры: “Як ты пераносіш такую пільную і шматгадовую ўвагу ад чыноўніка Скобелева?” – “Спакойна пераношу. Прыходжу ў выдавецтва, там прапануюць зрабіць малюнкі да фантастыкі Эдуарда Скобелева. Бяру, раблю, здаю і атрымліваю ганарар. Усё, як і з іншымі аўтарамі і замовамі. Праўда, аднойчы я патэлефанаваў Скобелеву, бо ў майстэрні працякаў дах. Не толькі ў маёй, у суседніх таксама. Мастакі сабраліся і папрасілі, каб патэлефанаваў я Эдуарду Марцінавічу Скобелеву і папрасіў дапамогі. Пазваніў. Папрасіў. Праз дзве гадзіны прыйшлі рабочыя і зрабілі выдатны дах над майстэрнямі. Не цячэ! Раней мы шмат куды тэлефанавалі, шмат каго прасілі, але дапамог нам толькі Эдуард Марцінавіч...” – “У мяне ўсё наадварот... Скобелеў папрасіў мяне дапамагчы яму звярстаць складаную кнігу. Я зрабіў патрэбны арыгінал-макет. Тады ён у знак удзячнасці прапанаваў перакласці мае вершы на рускую мову для часопіса “Нёман”. Я адмовіўся, сказаў, што там ужо рыхтуюць пераклады маіх апавяданняў...” Валера тады яшчэ пацікавіўся, ці браў я грошы за зробленую для Скобелева працу, на што я сказаў – не браў.

## “Абоймы”

Ёсць звычайная “абойма” белмастакоў, у якую па завядзёнцы ўстаўляюць прозвішча і Валеры Славука. Гэта: Савіч, Селяшчук, Вішнеўскі і Мікіта. Яно і зразумела, бо так можа выглядаць і ягонае пакаленне з кафедры графікі ў інстытуце, і пакаленне кніжных ілюстратараў, і пакаленне ўдзельнікаў шматлікіх выстаў... Так склалася, так зручна, так запомнілася... Ці мае сэнс нешта мяняць у “абойме”? Для мастацтвазнаўцаў, лектараў і экскурсаводаў падобныя змены адно дадаванне праблем, але для эсэістыкі ўсё роўна наадварот. Каму цікава чытаць пра вядомае? Чытачы чакаюць новага, нечаканага і незвычайнага. Таму я складу новую “абойму” для Валеры Славука. Складу спіс з мастакоў, якія любяць казку, любяць гумар, любяць і ўмеюць добра прамаляваць мінулае, цяперашняе і будучае. У спіс гэты дадам Валянціна Губарава з ягоным гумарыстычным светам, Язэпа Драздовіча з графічнай фантастыкай, Васіля Сумарава з палатном “Мой дом”. Усе яны бліжэйшыя да Славука, чым сур’ёзны Савіч і гламурны Селяшчук, экспрэсіўны Вішнеўскі ды лінарытны Мікіта. Разумею, што мая новая “абойма” не лепшая за старую, яна такая ж недасканалая, як і ўсе “абоймы” з прозвішчамі мастакоў, але дае магчымасць зноў задумацца пра Славука і ягонае месца ў мастакоўскім свеце.

## Настроі

Валера Славук жыве збольшага ў мажорных настроях: дасціпна жартуе, малюе смешных сучаснікаў з карыкатурным падабенствам, расказвае саленаватыя показкі, ведае, што да ягоных словаў прыслухоўваюцца калегі і студэнты. Таму і настрой мае прыўзняты. Тут бачу, што Валера ў мінору. Не скажу, што па ім адразу заўважыш гэты мінор, але я заўважыў і пацікавіўся: што не так? Валера сказаў, што надоечы даведаўся пра смерць знаёмай мастачкі, з якой разам працаваў і адпачываў у мастакоўскім доме творчасці. “Паміж намі акрамя сяброўскай павагі нічога і не было. Праўда, мы разам

хадзілі загараць. Возьмем посцілкі, рассцелем іх на траве, ляжым побач і гаворым пра мастацтва. Я цаніў нашыя з ёй нязмушаныя размовы пра культуру. Мне патэлефанавалі знаёмыя з дома творчасці і сказалі, што яе больш няма, і памерла яна проста ад старасці. Настрой прапаў, я трымаюся, але настрою, як ты заўважыў, няма...”



*Валерый Славук. «Змярканне».*

## Сімвалізм

Рэдактар часопіса “Маналог” Лёша Андрэеў некалькі гадоў запар запрашаў мяне на свае навагоднія вечарынкі, дзе я заўсёды сядзеў за сталом побач з графікам-казачнікам Славуком. Ён ціха гаворыў і ціха смяяўся, мала піў і мала еў. Па ўсім было відаць, што Валера вядзе няспешнае жыццё, любіць узважанасць, ураўнаважанасць і павольнасць. Аднаго разу за тым навагоднім сталом Валера ўстаў і наліў сабе кроплю духмянай самагонкі на дно кілішка. “Я чыста сімвалічна ўздыму чарку...” – паабяцаў нам казачнік. Я не стрымаўся і пракаментаваў пачутае: “Валера, ты ў нас – сімваліст. І ў малюнках, і ў жыцці, і нават на вечарынцы ты – самы сапраўдны сімваліст”.

## Японія

Усе паэты – кітайцы! Пачуеш такое і завіснеш. Чаму? Падумаеш і скажаш: усе паэты – кітайцы, бо ўсе графікі – японцы. Ну мо не ўсе, але большасць сучасных графікаў лічаць гравюры Хакусая і Утамара дасканалымі, а малюнкі Бусона паэтычнымі. Як у свеце, так і ў Беларусі. Матывы, распрацаваныя найвялікшымі японскімі графікамі, знайшлі ўвасабленне і ў афортах нашага Валеры Славука. Ён з тых разумных мастакоў, хто ведае верш аднаго з класікаў Японіі Ісы: *“Няспешна паўзі, // слімак, па схіле Фудзі, // на вяршыню!”*

Ён з тых, хто раіць вучням прачытаць навукова-фантастычны раман братоў Стругацкіх, якія захапляліся культурай Японіі, “Слімак на схіле”, бо лічыць яго найвыдатнейшым творам у сучаснай культуры. Ён малюе краявід са снегам так, што ты і не скажаш адразу: у Беларусі той краявід ці ў далёкай ад нас казачнай Японіі.

## Героі

Валера Славук, як і кожны паслядоўны сюррэаліст, бярэ рэальныя рэчы, разбірае іх на часткі, а з тых частак збірае новы свет. У новым свеце Славука, як рыбкі ў акварыумнай вадзе, жывуць свінагаловыя мурыны і даўгахвостыя мядзведзі, карагоды вастрарогіх ведзьмароў з вядзьмаркамі ды жаночатварыя матылькі, кенгуру-матацыклісты і гаваркія рыбіны, снегалюбівыя сланы і куралапыя людзі, чалавеканогія жабы і казлабародыя цмокі, вершнікі на котках і разумнавокая жамяра, зялёныя жанчыны і сінія чэрці... Герояў у Валеры Славука тры вагоны і маленькі вазок. Ягоная рука лёгка вымалёўвае герояў з ляснога і балотнага пекла. Халоднае, зарослае хмызняком і прысыпанае снегам пекла – радзіма тых незлічоных герояў Славука. Пэўна, Валера можа і рай намаляваць, калі хто замовіць. Валера Славук з тых мастакоў, якія могуць намаляваць, што заманецца. Але чагосьці ніхто не спяшаецца замаўляць у яго малюнкі з райскімі садамі, таму і малюе ён страшна прывабнае пекла з абаяльнымі пачварамі.

памяць

Ігар Бурсевіч



...калі ж раскрыецца праўда, калі ж будзе разблытаны гэты пякельны клубок, бо не тыя ж мы, за каго нас выдаюць...

# Як мяне "выпраўлялі"

***Успаміны пра ГУЛАГ***

*Падрыхтоўка да друку Сяргея ЧЫГРЫНА.*

## Трагічны лёс бацькі і сына

Пра дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі Максіма Бурсевіча (1890-1937) польскі і беларускі гісторык Аляксандра Бергман (1906-2005) аднойчы сказала: "Максім Бурсевіч належыць да тых дзеячаў Беларускай сялянска-рабочай Грамады, якія ў яе дзеянні адыгралі важную ролю і адначасова засталіся найменш вядомымі. Ён быў сакратаром Цэнтральнага камітэта і кіраўніком Цэнтральнага сакратарыята Грамады, загадваў касай арганізацыі і вёў яе рахункаводства" (Беларускі каляндар. Беласток, 1981. – С. 157).

Гэта сапраўды так. Максім Бурсевіч нарадзіўся ў вёсцы Чамяры Слонімскага павета ў 1890 годзе ў сялянскай сям'і беларусаў Тараса і Марыі. Сям'я была вялікая, таму адукацыю атрымаць удалося толькі яму і старэйшаму брату Андрэю, якія закончылі Слонімскае двухкласнае вучылішча і настаўніцкую семінарыю ў Жыровічах.

Пасля заканчэння семінарыі ў 1910 годзе Максім паехаў да брата ў Ваўкавыскі павет. Можа, хацеў пераняць педагагічны вопыт ці знайсці работу, але менавіта там сустрэў на хутары Тарасаўка дзяўчыну Апалінарыю (Полю) Мацвееву, з якой ажаніўся. Да апошніх сваіх дзён яна была адданым сябрам і памочнікам Максіма ў яго нялёгкім і трагічным жыцці.

Адразу пасля вяселля пачалося іх вандроўнае жыццё. Максім афармляе праз органы адукацыі месца працы, спачатку ў вёсцы Крупчыцы ў Кобрынскім павеце, а затым пераводзіцца ў народную школу ў вёску Старое Сяло Кобрынскага павета (цяпер Жабінкаўскі раён). Там Бурсевічы пражылі да 1917 года. У1911 годзе 19 жніўня па старым стылі нарадзіўся ў іх першынец, імя якому далі Ігар. Ласкава бацькі называлі яго Ігруська. Акрамя Ігара ў сям'і Бурсевічаў нарадзіліся яшчэ два сыны: у 1918 годзе Валянцін, які памёр неўзабаве ў дзіцячым узросце ад прастуды. А раней, у 1915 годзе, нарадзіўся Яўген (Жэня), які пражыў таксама мала на гэтым свеце. Памёр у Мінску ў 1937 годзе ў студзені ад запалення лёгкіх ва ўзросце 22-х гадоў.

З пачаткам Першай сусветнай вайны вялікая сям'я Бурсевічаў пакідае Беларусь і едзе ў бежанства ва Украіну. Там Максім атрымаў месца настаўніка на хутары Бедзін Ваўчанскага павета Першай Мікалаеўскай воласці Харкаўскай губерні. Беларус зліставаўся з роднымі, з цешчай Кацярынай Фёдараўнай і яе дзецьмі, і запрасіў іх пераехаць на хутар Бедзін, што яны і зрабілі дзесьці ў канцы 1915 года. Утварылася вялікая сям'я, прыкладна з 9 чалавек, якая на тым хутары пражыла да 1921 года, амаль 6 гадоў. А напачатку 1922 года Максім Бурсевіч з сям'ёй вяртаецца ў родную вёску Чамяры на Слонімшчыну, дзе стаяла яшчэ бацькава хата.

У гэты час у Чамярах пачаў узмацняцца нацыянальны рух, галоўным завадатарам якога быў мясцовы інтэлігент і педагог Максім Бурсевіч. У 1925 годзе з дапамогай сваіх землякоў ён адкрыў у вёсцы прыватную беларускую школу. Знайшлася прасторная хата якраз пасярэдзіне вёскі. Выпісалі з Вільні сякія-такія падручнікі. Мужчыны парабілі парты, і заняткі пачаліся. Цеснавата было, не хапала кніжак і сшыткаў, але дзеці з вялікім жаданнем беглі ў школу. У сваю школу, дзе гучала родная мова. Але тады Максім Бурсевіч адчуваў, што за беларускую школу польскія ўлады яго не пагладзяць па галоўцы. І тым не менш ён рабіў усё, каб у самадзейнай школе было так, як у сапраўднай, а можа нават і лепш. Тут вучылі не толькі пісаць і чытаць, але пачалі наладжваць вечары мастацкай самадзейнасці, у якіх прымалі ўдзел і вучні, і іх бацькі. Яны дэкламавалі беларускія вершы, спявалі песні, паказвалі сцэны са спектакляў "Паўлінка", "Прымакі" Янкі Купалы і з іншых п'ес.

Тры месяцы існавала беларуская школа ў Чамярах. Усё, здавалася, ішло добра, пакуль аднойчы ў час заняткаў у клас не ўвайшлі два паліцыянты. Адзін з іх аб'явіў, што школа зачыняецца, таму вучні могуць ісці дахаты.



*Максім Бурсевіч з жонкай Апалінарыяй. Ляжыць сын Ігар. Астатнія невядомыя. Каля 1915 года.*



*Ігар Бурсевіч – гімназіст Віленскай беларускай гімназіі, 1924 г.*

Так у вёсцы Чамяры закрылі родную школу. Беларускія паслы ў сейме рабілі нават запыт міністру асветы. Яны патрабавалі растлумачыць, на якой падставе ў вёсцы Чамяры Слонімскага павета была закрыта беларуская школа? Чаму парушаецца Канстытуцыя Рэчы Паспалітай? Але гэта не дапамагло. У вёску прыслалі новага настаўніка-паланізатара, які пачаў агітаваць бацькоў, каб іх дзеці ішлі вучыцца ў польскую школу. Пра барацьбу чамяроўцаў за родную школу сведчыць артыкул "Барацьба сялян вёскі Чамяры за адкрыццё беларускай школы", які быў змешчаны ў газеце "Савецкая Беларусь" за 4 сакавіка 1925 года. Вось што пісала тады газета: "Першага сакавіка ў Чамярах адбыўся сельскі сход, скліканы па загаду гміны. Грамада сабралася вялікая, каля 75 асобаў. Сакратар гміны запрапанаваў сходу, каб усе дзеці, якія хадзілі ў прыватную беларускую школу, зараз жа пайшлі да школы польскай. Калі не пойдуць, дык бацькі будуць пакараны штрафамі, а гміна сцягне і тыя штрафы, якія былі накладзены на вёску ў лістападзе. Абапіраючыся на тое, што цяпер вёска беларускай школы не мае і дзеці зусім не вучацца, інспектар і гміна прымусяць дзяцей пайсці да школы польскай. Сход гэтай заявай быў абураны, і грамада пачала прасіць сакратара гміны запісаць пратакол: «Каб вучыцеля з Чамяроўскай польскай школы ўлады найхутчэй забралі і перавялі ў тую вёску, дзе ёсць шмат палякаў, а ў Чамяроўскую школу каб далі таго, каго вёска папросіць і дзеці-вучні пажадаюць. А пакуль гэных змен не будзе, пакуль польскі вучыцель будзе ў школе біць дзяцей за тое, што яны не разумеюць польскай мовы, дык ніводнае дзіця не пераступіць парога польскай школы. Хай не толькі штрафуюць бацькоў за дзяцей, але катуюць іх за дзяцей, бацькі не згодзяцца пасылаць сваіх дзяцей на катаванне, а дзеці, хто як зможа, будуць уцякаць ад ката». Сакратар гэтай заявы ад сходу запісаць адмовіўся, аднак, мусіць, баючыся абуранага настрою сходу, абяцаў жаданне сходу абгаварыць на паседжанні гміннай рады. На гэтым сход і закончыўся. Такім чынам селянін, не баючыся ні штрафаў, ні арыштаў, згаджаючыся нават на катаванне, стойка стаіць за сваю мову, за родную школу, за беларускасць. І хаця існаваўшую ў Чамярах прыватную беларускую школу зачынілі, але існуючага ў беларускага селяніна духу [знішчыць] ніхто не зможа. *Чамеравец*".

Пад псеўданімамі Чамеравец, Чамяровец, Чэмеравец, Беларус, Вачавідзец, Трылісьцік, Трылісьцінік, Янка Ведайка, Чупрановіч, Хлопчык, па словах Янкі Саламевіча (1938-2012), аўтара "Слоўніка беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў XVI-XX стст." (Мн., 1983), у беларускім, савецкім і віленскім друку выступаў сам Максім Бурсевіч. Дзякуючы Максіму Бурсевічу, штогод, пачынаючы з 1926 года, чамяроўцы паступалі і вучыліся ў Віленскай беларускай гімназіі. Сярод іх былі Анатоль Іверс, Якуб Міско, Ігар Бурсевіч, Фіякціст Міско, Мікола Бурсевіч і іншыя хлопцы. Максім Бурсевіч быў знаёмы і сябраваў з дырэктарам гімназіі. І калі ў каго з чамяроўцаў не хапала ведаў, дык праз Максіма Бурсевіча іх усё роўна залічвалі ў гімназію. Пра гэта згадваў журналіст Якуб Міско: "На другі дзень я,

добра наглянцаваўшы боты, пайшоў на прыём да дырэктара гімназіі Астроўскага, несучы з сабою пісьмо ад Максіма Бурсевіча. Убачыў дзверы з надпісам «Дырэктар» і асцярожна пастукаў. З кабінета данёсся зычны голас:

– Увайдзіце!

Я падаў дырэктару пісьмо і пачаў чакаць. Мне ўжо было вядома, што дырэктар – чалавек напышлівы і вельмі рэзкі. З надзеяй глядзеў на гэтага плячыстага мужчыну ў рагавых акулярах, на яго энергічны, аздоблены пышнымі рудаватымі вусамі твар. Астроўскі прачытаў пісьмо, кінуў на мяне позірк:

– Дзе вучыўся?

– Трохі ў Расіі, а пасля сам па сабе, – нясмела адказаў я.

– І думаеш у чацвёрты клас?

– Хацелася б.

– Ну-ну, – мармытнуў дырэктар. – Здавай экзамены, паглядзім.

Экзамены я здаў добра, і нават па нямецкай мове, якой вельмі баяўся... За добрую здачу экзаменаў мяне не толькі прынялі ў чацвёрты клас, а яшчэ аслабанілі ад платы за вучобу і за інтэрнат" (Міско Якуб. Маё маўклівае сэрца. – Мн., 1983. – С. 14).

Школу ў Чамярах зачынілі. А Максіму Бурсевічу не дазволілі больш займацца педагагічнай дзейнасцю. Тым не менш у сваіх Чамярах ён быў самым адукаваным чалавекам, таму аддаў сябе грамадскай дзейнасці і пераехаў у Вільню.

З пачатку 1920-х гадоў Максім Бурсевіч падтрымліваў сувязь з беларускімі арганізацыямі ў Вільні. А праз пэўны час яго кандыдатура была вылучана Беларускім цэнтральным выбарчым камітэтам на пасла ў польскі сейм. У чэрвені 1925 года ён увайшоў у першы актыў Беларускага пасольскага клуба, а праз год быў залічаны ў склад ЦК Беларускай сялянска-работніцкай Грамады (БСРГ) і выбраны кіраўніком яе Цэнтральнага Сакратарыята.

Максім Бурсевіч загадваў фінансавымі сродкамі БСРГ, ствараў яе мясцовыя камітэты, наладжваў іх работу. У яго рукі аддалі ўсе фінансавыя сродкі – не інакш, мелі да яго бязмежны давер, як да чалавека сумленнага. Таксама высока ацэньвалі яго чалавечыя здольнасці і прадбачылі, што ён адолее ўсё. Хоць гэта і быў для Бурсевіча незвычайны скок: з вёскі ў горад і адразу за стырно вялікай арганізацыі, якая пашырала колькасць сваіх сяброў.

Але справіўся ён годна. Аб гэтым сведчыць і рашэнне апеляцыйнага суда, які ўсім паслам з 12 гадоў зняволення зменшыў тэрмін напалову, а Максіму Бурсевічу зменшыў толькі на 2 гады.

Пакаранне Максім Бурсевіч адбываў у турмах Лукішкі, Вронкі, Каранова. У 1931 годзе, у выніку абмену палітычнымі зняволенымі, Максім Бурсевіч трапіў у БССР. Жыў у Мінску. Працаваў членам прэзідыума і выконваў абавязкі кіраўніка аддзела культуры і навукі Дзяржплана БССР. Удзельнічаў у рабоце камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі пры АН БССР.

У другой палове 1933 года беларус быў беспадстаўна абвінавачаны ў так званым нацыянал-дэмакратызме, арганізацыі анты-



*Максім Бурсевіч пасля выхаду з турмы ў Каранове, 1930 г.*




*Ігар Бурсевіч (злева ўнізе) сярод выпускнікоў Ленінградскага індустрыяльнага інстытута, 1937 г.*

савецкага цэнтра, "заснаванага для аддзялення Беларусі ад СССР на карысць Польшчы". А 9 студзеня 1934 года яго асудзілі да вышэйшай меры пакарання, якая была заменена 10 гадамі зняволення. Пакаранне Максім Бурсевіч адбываў на Салаўках і на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала.

9 кастрычніка 1937 года тройкай УНКУС па Ленінградскай вобласці беларускі дзеяч быў асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Яго расстралялі 3 лістапада 1937 года. І толькі ў 1956 годзе ён быў пасмяротна рэабілітаваны па абодвух прысудах.

Лёс аднаго з сыноў Максіма і Апалінарыі Бурсевічаў – Ігара Максімавіча Бурсевіча (1911-1985), быў не менш трагічным за лёс ягонага бацькі. Якуб Міско ў сваёй кнізе "Маё маўклівае сэрца" прыгадвае: "У Вільню я ехаў разам з Ігарам Бурсевічам, які да гэтага ўжо год вучыўся ў беларускай гімназіі і перайшоў у чацвёрты клас. Бацька вёз мяне і Ігара на станцыю позна вечарам... Пакуль я аддаваўся ўспамінам, цягнік наблізіўся да Вільні. Мы з Ігарам пачалі рыхтавацца да выхаду са сваімі вялізнымі куфэркамі, набітымі бялізнай, коўдрай, ежывам. Я спытаўся ў Ігара: "А нам куды?" Ігар усміхнуўся – вядома, бывалы: "Ідзі за мной, не заблудзіш". Узваліўшы куфэркі на плечы, мы накіраваліся ў бок славутай Вострай Брамы. Я ішоў не азіраючыся, бо стараўся не згубіць з вачэй Ігара. Праз якія дваццаць мінут мы, дашчэнту спацелыя, былі ўжо ў інтэрнаце беларускай гімназіі..." (Міско Якуб. Маё маўклівае сэрца. – Мн., 1983. – С. 7).

Першапачатковую адукацыю Ігар Бурсевіч атрымаў у Віленскай беларускай гімназіі. Пасля яе заканчэння юнак марыў працягваць вучобу. Але бацька займаўся палітыкай, таму вучобе перашкодзіў ягоны арышт польскімі ўладамі.

У выніку абмену палітычнымі зняволенымі Ігар Бурсевіч разам з бацькамі праз Данцыгскі калідор, Усходнюю Прусію, Латвію пераязджае ў БССР. Здавалася, што там будзе ўсё спакойна, добра і шчасліва. І напачатку так было. Ігар паступае на энергетычны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута. Там вучыцца,

бацькі працуюць. Але пасля арышту бацькі змяняецца і лёс ягонага сына. Раптам ён атрымлівае пастанову аб выключэнні яго з інстытута “як сына ворага народа”. Адначасова адбываецца выключэнне з камсамола па гэтай жа прычыне. Рашэнне выносіцца завочна, хаця ён стаяў за дзвярыма і чакаў запрашэння для тлумачэнняў. Сакратар камсамольскай ячэйкі інстытута нехта Нырыкаў аб рашэнні схода паведамляе на калідоры і забірае ў юнака камсамольскі білет. Пазнейшыя яго хадайніцтвы праз гаркам ЦК КСМБ не далі вынікаў. Прапанавана было публічна і пісьмова адмовіцца ад сваяцтва і пацвердзіць «вінаватасць» бацькі, пра якую юнак не меў паняцця і нічога не ведаў.

Праз пару месяцаў маці Ігара Бурсевіча прапануюць здаць кватэру, а самой выехаць за 200 км ад Мінска ў любым кірунку. Гэта было новае гора, а што рабіць з малымі дзецьмі?.. Малодшы брат Яўген, нягледзячы на сваю маладосць, папрасіўся добраахвотнікам у рабоча-сялянскую Чырвоную Армію (РСЧА) і з’ехаў ва Украіну. Ігар пайшоў працаваць на лямцавую фабрыку. Спачатку рабочым, затым нарміроўшчыкам вяровачнага цэха. Кватэру здалі, маці стала прадаваць рэчы і, сабраўшы некаторыя сродкі на дарогу, паехала ў напрамку Магілёва шукаць прытулку. Выдзелілі там для траіх дзяцей адзін маленькі пакойчык, у якім з цяжкасцю ўмясціліся два ложкі. Пасля пазбавілі і гэтага пакойчыка.

Па вяртанні з РСЧА, праз пару гадоў, брат Яўген уладкаваўся на працу камендантам у Белдзяржуніверсітэт. Неўзабаве захварэў запаленнем лёгкіх і ў студзені 1937 года памёр. Пахавалі яго ў Мінску. А Ігар хадайнічаў пра аднаўленне ў інстытуце праз камісію савецкага кантролю. Не аднавілі. Прыйшлося яму ехаць у Маскву і трапіць на прыём да Марыі Ільінічны Ульянавай – сястры Уладзіміра Ульянава-Леніна. Яна падтрымала юнака. І толькі пасля яе рашэння ён быў адноўлены студэнтам і перабраўся ў Ленінградскі індустрыяльны інстытут, прапусціўшы амаль два гады.

Ігар Бурсевіч паспяхова скончыў інстытут і паехаў па размеркаванні ў якасці маладога інжынера-электрыка працаваць у Расію ў горад Іванава. Там ён знайшоў Іванаўскі шклотрэст, звярнуўся ў аддзел кадраў з накіраваннем. Пасля ўсіх працэдур Ігара Бурсевіча накіравалі на завод імя Валадарскага ў горад Курлова Іванаўскай вобласці на пасаду начальніка электрацэха.

Калі наш зямляк туды прыехаў, то даведаўся, што на заводзе днямі было многа падзей. Знялі ўсё кіраўніцтва завода і адвезлі ў Іванава. Вось таму цяпер сюды накіроўвалі новыя кадры.

Паўтара месяцы Ігар адпрацаваў на заводзе. І ў канцы жніўня 1937 года раніцай да яго на кватэру прыбылі тры чалавекі з оперупаўнаважаным ГПУ, прад’явілі ордэр на арышт і зрабілі вобшук. Потым прывезлі ў дом папярэдняга затрымання (ДПЗ) і пасадзілі ў камеру-адзіночку. Знаходзіўся там каля трох дзён. Пасля пад аховай адправілі ў Курлова. Ніякіх допытаў і роспытаў не вялі. З Курлова прывезлі ў Іванаўскую турму і пасадзілі ў следчую камеру...



*Ігар Бурсевіч з жонкай Клаўдзіяй, 1950 г.*

Так скончылася яго вольнае жыццё і пачаліся змрочныя гады цяжкага зняволення. Сам Ігар Максімавіч пазней меркаваў, што яго арыштавалі з-за бацькі, а таксама таму, што, акрамя рускай мовы, дасканала валодаў беларускай, польскай, ведаў нямецкую і эсперанта. А такіх знаўцаў у той 1937 год было няшмат.

У лагерах Сібіры Ігар Бурсевіч адбыў роўна 10 гадоў. Пасля зняволення вярнуўся ў Магілёў да маці, сястры і брата. Ігар Максімавіч хутка ўладкаваўся на працу па спецыяльнасці. Сумленна працаваў аж да пенсіі. А ў вольны час пісаў пра тое, што перажыў, што бачыў. Ён напісаў успаміны пра Віленскую беларускую гімназію, пра бацьку Максіма Бурсевіча, пра ГУЛАГ, а таксама вёў перапіску з вядомымі людзьмі Беларусі. Найперш – з Алесем Белакозам, Аляксандрай Бергман, Арсенем Лісам і іншымі гісторыкамі і літаратарамі, са сваякамі сяброў свайго бацькі Максіма Бурсевіча, якія яшчэ жылі. Не стала Ігара Бурсевіча 14 снежня 1985 года.

Успаміны бацькі пра ГУЛАГ захавала ягоная дачка Таццяна Бурсевіч (Адзярыха) і перадала іх аўтару гэтых радкоў. Яны былі напісаны напачатку 1980-х гадоў. Магчыма, ўспамінам Ігара Бурсевіча бракуе дасканалага літаратурнага майстэрства, але ў іх праўдзіва апісана гісторыя лёсу ні ў чым не вінаватага беларускага юнака, дзесяць гадоў якога марна былі страчаны ў сталінскіх лагерах. Прапаную іх часопісу “Дзеяслоў”.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Арышт

Пасля заканчэння Ленінградскага індустрыяльнага інстытута ў 1937 годзе ў якасці маладога інжынера-электрыка я прыехаў у горад Іванава, што ў Расіі. Знайшоў Іванаўскі шклотрэст, звяртаюся ў аддзел кадраў з накіраваннем. “Добра, – кажуць, – афармляйцеся. Вось вам анкеты, пішыце аўтабіяграфію”.

Усё зрабілі па закону. Пытанні ў анкеце былі пастаўлены так, што даводзілася ўспамінаць гісторыю двух пакаленняў – хто, што, дзе. Прабыў там гадзіны дзве і пачуў у адказ: “Вы накіроўваецеся на завод імя Валадарскага ў горад Курлова Іванаўскай вобласці на пасаду начальніка электрацэха”. Я паспрабаваў прасіць, каб мяне пакінулі ў горадзе Іванава, але ў адказ пачуў: “Месцаў тут у нас няма”.

Прыбыўшы на месца, даведваюся, што на заводзе днямі было многа падзей. Знялі ўсё кіраўніцтва і адвезлі ў Іванава. І тут ізаляцыя і хапун...

Адпрацаваўшы каля паўтара месяца, у канцы жніўня 1937 года, адразу праз некалькі дзён пасля майго дня нараджэння, раніцай прыбываюць на маю кватэру тры чалавекі з оперупаўнаважаным ГПУ, прад’яўляюць ордэр на арышт і робяць вобшук. Пакорпаліся ў чамадане, забралі дакументы (я яшчэ не паспеў прыпісацца) і прапанавалі цяплей апранацца і ісці з імі. Я быў надзвычай здзіўлены, але ніякіх больш размоў завесці не ўдалося.

Прывезлі ў ДПЗ (дом папярэдняга зняволення) і пасадзілі ў камеру-адзіночку. Удалечыні ад родных, ніхто нічога не ведае. Гаспадыню раней папрасіў, каб яна паведаміла пра мяне дамоў. Знаходзіўся там каля трох дзён. За гэты час неяк адзін электраманцёр прынёс мне пачак цыгарэт і карабок запалак і падаў уваўчок, паведаміўшы, што сёння мяне адпраўляюць у горад Іванава. Дзесьці ад персаналу ДПЗ, відаць, ён даведаўся. У той жа дзень я пад аховай паехаў з Курлова і не вярнуўся. Кнігі і рэчы, грошы, разлік – усё засталося на волю лёсу. Ніякіх допытаў ці роспытаў. Накіравалі ў вобласць, а там проста ў Іванаўскую турму.

Турма была старога тыпу з вялікімі сценамі і варотамі. Кароткая рэгістрацыя, вобыск, абрэзка спражак і ўсіх металічных гузікаў. Здаў гадзіннік, папружку. Распісаўся ў нейкім акце, і павялі мяне ў следчую камеру. Так скончылася маё вольнае жыццё і пачаліся змрочная гады цяжкага зняволення.

## Перасылка. Камера

У той час існавала даволі распаўсюджаная тэрміналогія: папраўчы дом, калонія, папраўчы лагер і г.д. Калі я трапіў у зняволенне, у мяне ўзнікла думка: “Ад чаго мяне будуць выпраўляць, у чым будзе адлюстроўвацца маё выпраўленне, з кім мне давядзецца выпраўляцца, размаўляць? Няўжо я не дакажу сваёй невінаватасці? Калі гэтага не ўдасца мне, то, магчыма, такія ж людзі таксама ёсць”. Так я сябе суцяшаў.

У горадзе Іванава я трапляю ў следчую турму. З рэчаў у мяне былі адна запасная кашуля, ручнік і скураная куртка, у якой адшпільваецца футра. Грошы ўсе канфіскавалі пры вобшуку. Перад заходам у камеру прайшоў санапрацоўку, стрыжку ўсіх валасоў і барады. З чаравікаў выцягнулі шнуркі. Адзенне ўсё прайшло гарачую апрацоўку для знішчэння насякомых. Але куртку мінавала гарачая апрацоўка.

Выйшаўшы з лазні, я сябе не пазнаў, цывільная прыгажосць знікла. На душы стала цяжка. Ахова разводзіла па камерах. Вялікія калідоры, усюды краты, чутны звон няспынна працуючых ключоў і засовак. Змрок, цяжкае паветра.

Адчынілася адна з камер, з-за выпарэння нябачна людзей, мяне туды пхнулі, і дзверы зачыніліся. Чую шум: “Куды вы піхаеце людзей. Тут і так павярнуцца нельга”. Лаянка, крык. Я, пастаяўшы, кажу: “Я папрашуся ў іншую камеру, гэта, відаць, памылка”. Але з мяне пачалі смяяцца: “Вось сядай каля парашы, а там абжывешся”.

Параша, параша... Штосьці я не сустракаў раней такога слова на волі, але калі самому захацелася па натуральных патрэбнасцях, я яе ўбачыў і задрыжаў: ”Як гэта пры ўсіх апраўляцца?..”

Камера была невялікая, з высокай столлю, яна магла б умясціць не больш за 8-10 чалавек, але стаяць двухпавярховыя нары, людзі сядзяць, стаяць, ляжаць на голых дошках паўраспранутыя. Дым махоркі і тытуню дзярэ горла. У камеры знаходзілася звыш за 50 чалавек рознага ўзросту. Раздаюцца галасы: “Гэй, навічок, курыць ёсць?” “Ёсць! – кажу, – пачак, калі ласка”. Імгненна ён пайшоў па руках. Так пачалося новае знаёмства. Хтосьці запрасіў прысесці на нарах. Гляджу, а дзе ж спаць? Зноў голас: “Ну, распранайся, будзеш спаць пад нарамі каля дзвярэй”. Гэта быў голас старасты камеры. “Ты хто, контра ці урка?” – зноў нехта запытаўся. Я маўчу. Другі падказвае: “Контра, такую яго маць... бачыш, маўчыць”.

– Ну, а шамаць у цябе ёсць што?

– Ды не, не ўдалося захапіць, грошы забралі.

– Хутка вячэра будзе, а хлеба для цябе няма, цярпі да раніцы.

Праз некалькі гадзін адчыняюцца дзверы, два чалавекі да дзвярэй падносяць каву ў спецыяльным баку, выдаюць гліняныя міскі і наліваюць па чарпаку, староста выдае па два кавалачкі цукру.

– Бяры сабе пайку цукру і дуй.

Турэмны і лагерны жаргон быў настолькі разнастайным, што я да яго не хутка прывык: *пайка, шмон, параша, сука, загнуўся, сівуха, сіксы, нары, лягавы, бажок, шамоўка* і іншыя словы сыпаліся з усіх куткоў камеры.

Ніхто нічым сур’ёзным не займаўся. Ні кніг, ні шашак, ні даміно, ніякай паперы ў камеры не было.

Пасля вячэры адзін немалады мужчына распавядае на памяць пераказ “Любіце Хрыста”. Без кніг расказвае, як быццам чытае. Большасць слухае і маўчыць. Некаторыя з хлеба робяць шахматы для гульні, хто стаіць, а хто сядзіць.

Такімі былі мае першыя дні за кратамі. З надыходам ночы я палез на нары. Пінжак паклаў пад сябе, а тужурку – пад галаву. Па рэкамендацыі ўпаўнаважанага я ўзяў яе і галёшы на ногі яшчэ ў Курлове. Гэтыя галёшы ў далейшым служылі начным гаршком, таму што да парашы, з-за спячых людзей, пралезці было немагчыма.

## Пра тужурку

Мая скураная тужурка была спадарожніцай майго жыцця ў лагеры ўсе дзесяць гадоў, і на ёй варта спыніцца.

Пашыў мне яе бацька яшчэ ў 1928 годзе з разліку, каб можна было ў ёй хадзіць вясной, восенню і зімой. Каўнер і футравая падкладка, якія прышпільваліся, былі добрыя, колер курткі карычневы. Кішэняў у ёй было ажно шэсць, пасак і скураныя гузікі. Іх не адразалі. Жыве яна яшчэ і цяпер, праіснаваўшы ажно 50 гадоў. Яна мне служыла пасцеллю і падушкай, адзеннем і партфелем, коўдрай і матрацам, і выручала ў розныя часы года. Яна была адзіная ў сваім родзе і настолькі прыкметная, што ўсе пра яе ведалі.

Тужурка неаднаразова выкрадалася уркамі, але хутка вярталі яе назад. Яе не бралі лазеншчыкі ў жарылку, шкадуючы папсаваць, часам яна гублялася сярод іншага адзення, але зноў з'яўлялася, як прывід ці амулет, які напамінаў пра былую волю.

У далейшым я за пайку хлеба набыў мяшок. У ім і захоўваў яе доўгія гады, калі не даводзілася апранаць на сябе. Для работы яна не прыгодна была і ў мяшку захоўвалася на нарах, калі я адсутнічаў.

У ёй я хадзіў па выхадных днях ці ў выпадку хваробы. У некаторых зняволеных яна выклікала зайздрасць, іншыя пазычалі пры хваробе, каб адагрэцца. Нават у гады знаходжання ў лагеры тужурка служыла дэкаратыўным адзеннем пры самадзейных пастаноўках сярод зняволеных, якія паказваліся намі ў выглядзе інтэрмедый ці інтэрлюдый для некаторай разнастайнасці. Насіць жа яе даводзілася мала, таму што ў лагеры атрымлівалі ўжо лагернае адзенне (ватныя целагрэйкі, штаны і г.д.). Здаваць на склад я яе не хацеў, трымаў заўсёды на нарах пры сабе.

Пры розных шмонах і праверках яе даставалі з мяшка і зноў кідалі на нары. У галодныя гады я яе ўжо меў намер прадаць за хлеб ці тлушч, але неяк абыходзіўся. І яна зноў заставалася, у надзеі на горшае ці на выпадак выхаду са зняволення. Цывільнае адзенне ў лагеры амаль ніхто не насіў і збыць яе было таксама цяжка. Вось так і ўцалела мая адзіная рэч, прайшоўшы са мной усе цяжкія гады сталінскіх лагераў.

Цяпер яна, хоць і старая, з прагнілымі ніткамі, але мае яшчэ добры выгляд і з'яўляецца гістарычным помнікам пражытых гадоў, як "кажух старога Анісіма" з апавядання Якуба Коласа.

## Пад следствам

У нашай камеры знаходзіліся людзі рознага саслоўя і розных палітычных перакананняў. Былі палітычныя, а таксама, як іх называлі, бытавікі. Старыя і малыя, але ўсе пад следствам. Палітычныя паводзілі сябе ветліва і сціпла, але бытавікі вялі сябе вельмі нахабна і стараліся заўсёды зрабіць што-небудзь дрэннае для спакойных людзей, зняважыць, не ведаючы ступені іх вінаватасці. У размовах адчувалася адсутнасць якой-небудзь шчырасці, хоць усе знаходзіліся пад адным законам. Усё ж, пры працяглым сумесным пражыванні, без работы, людзі паступова даведваліся адзін пра аднаго.

Былі тут былыя свяшчэннікі і прыхільнікі царскага рэжыму, трацкісты і бухарынцы, якія прыехалі ў свой час з-за мяжы, ці выселеныя з цэнтральных гарадоў, урачы і педагогі, пісьменнікі і журналісты, злодзеі і забойцы-крыміналісты, усе паколатыя іголкамі з球 рознымі вульгарнымі надпісамі на целе, былі немцы з Паволжжа і шмат іншых.

Палітычных было больш, чым рэцыдывістаў. Староста, звычайна з рэцыдывістаў, ён галоўны "бажок", карае і мілуе, можа пазбавіць баланды ці другога – кашы, прымусіць без чаргі выносіць парашу, спаць пад нарамі ці нават церці якому-небудзь

уркагану спіну для масажу. Праўда, пайку хлеба 500 грам выдаваў заўсёды. Хлеб – гэта было ўсё: жыццё і разменная манета, лекі і асалода. Крадзёж хлеба ў суседа караўся як цяжкае злачынства. Кармілі тры разы на дзень: раніцай і ўвечары – чай ці кава, у абед – боршч-баланда і лыжка якой-небудзь кашы. Мяса траплялася вельмі рэдка, а малочнае – ніколі. Рацыён усім аднолькавы, хочаш – еш, хочаш – не еш. Калі аб'яўляеш па якой-небудзь прычыне галадоўку, у камеры доўга не трымаюць, выводзяць і кормяць насільна. Так прывыкаеш да гэтага рэжыму, і карацейшымі становяцца дні.

Кіраўнікоў буйнога маштабу ў камеры не было, а ўсё якія-небудзь другарадныя асобы, якія абвінавачваліся па 58-м артыкуле за агітацыю ці шпіянаж, забойства ці крадзеж, прыхільнікаў якога-небудзь цячэння, што існавалі ў той час: ціханаўцы ці абнаўленцы, баптысты ці стараверы, трацкісты ці манархісты, ці маючыя ў другім або трэцім пакаленні якіх-небудзь няўгодных сваякоў. Існавалі нейкія цікавыя артыкулы – СО, СВ, КР, КРІД, КРДТ і чорт іх ведае яшчэ што. Калі мяне спыталі, па якім артыкуле я абвінавачваюся, я не ведаў, што адказаць. Мне яшчэ нічога не прад'яўлялася. На працягу двух месяцаў мяне ніхто не выклікаў з камеры, іншых цягалі начамі штоноч. Некаторыя назад не вярталіся, папаўняліся іншымі. Казалі, што гэта былі "падстаўныя асобы" для падслухоўвання размоў сярод зняволеных. Дарэчы, чаго толькі за гэты перыяд я не пачуў...

Кожны дзень дзве праверкі – падлік, адзін раз на дзень – паўгадзінная прагулка па двары з закладзенымі назад рукамі. Раз на тыдзень адбываўся абыход начальніка турмы па камерах. У той час начальнікам турмы быў нейкі не рускі па прозвішчы Чан-Гулі. Пры адчыненых дзвярах, стоячы ў калідоры, пытаецца, якія просьбы, ці ёсць хворыя? Пытанняў сыпалася многа, потым дзверы зачыняліся, і зноў былі горкія будні. Я некалькі разоў пытаўся, калі мяне выклічуць на допыт. Адказ быў сцвярджальны – выклічуць.

Нарэшце – дачакаўся. Аднойчы перад сном называюць маё прозвішча: "Падрыхтавацца на допыт". Тут жа амаль адразу: "Выходзь". Я прабраўся праз чалавечыя целы, якія ляжалі ўсюды, таму што не так проста было выйсці.

Кабінет следчага, памятаю, быў на другім паверсе. Прозвішча яго было Вараб'ёў. Звычайныя стандартныя пытанні ён задаваў, запаўняю анкеты, на кожным аркушы распісваюся, чытаю... так... і раптам: "Цяпер раскажыце пра сваю контррэвалюцыйную дзейнасць, на карысць каго вы працавалі?"

Я не зразумеў, маўчу, пытанне паўтараецца і г.д. Я зноў расказваю, дзе жыў і вучыўся, а ён зноў сваё: "Вы абвінавачваецеся ў контррэвалюцыйнай дзейнасці на карысць Польшчы. Гаварыце, як вы працавалі, з кім?.."

Так мой першы допыт і закончыўся ні з чым, у чым я і распісаўся. Праз некалькі дзён зноў тое самае, фактаў няма ніякіх, я выседжваю з імі па некалькі гадзін, то мяне падымаюць, то я зноў сядаю, у выніку адпраўляюць у камеру. Пытанняў канкрэтнага абвінавачвання мне так і не было, ды і быць не магло. Следства даходзіла да абсурду. У выніку мне быў выпісаны чэк на атрыманне з кіёска за мой кошт 1 кг алею, цукру і папярос. Па атрыманні, у камеры, гэта знішчылася адразу ж. Пасля некалькіх тыдняў допыту, спісаўшы многа паперы, следчы заявіў: "Хоць у следства няма доказаў вашай непасрэднай вінаватасці, але вызваліць мы вас не можам. Такі час. Вы яшчэ малады, папрацуйце ў нашай сістэме, вас праверыць, вызваляць". "Ну, а судзіць мяне будуць?" – пытаюся. "Праз ОСО", – адказалі. Але я так і не зразумеў.

Пасля такога хвалявання я зусім аслабеў. Быў вельмі бледны, балелі ногі, падмацавацца амаль не было чым. У выніку выклікі спыніліся, а ў адзін дзень, пасля месячнага перапынку, выклікаюць неяк на калідор з усімі рэчамі. Чую, зачытваюць прыгавор. Без пракурора і абаронцы, без сведкаў і без мяне – мяне асудзілі. Нейкі ваенны канцылярыст стоячы зачытвае мне рашэнне асобай нарады НКУС СССР па Іванаўскай вобласці: "...За контррэвалюцыйную дзейнасць на карысць Польшчы (?)

зняволеных... накіраваць па артыкуле (КРД) у папраўча-працоўныя лагеры Томскай вобласці сістэмы ГУЛАГа тэрмінам на 10 гадоў з залічэннем тэрміну, які быў пад следствам... Зразумела?"

– Не, за што?

– Я ж прачытаў, чулі? Так. Распішыцеся.

І я распісаўся. Больш у сваю камеру я не трапіў. Пасля прысуду пераводзілі ў этапныя камеры асуджаных і мяне. Пасля такога прысуду я яшчэ каля паўтара месяца сядзеў у больш прасторнай камеры з новымі спадарожнікамі па будучым этапе. Пачынаўся ўжо 1938 год.

## Этапы вялікага шляху

Пры зачытанні прысудаў, перад этапнай камерай, многія зняволеныя вельмі хваляваліся. Тыя, якія траплялі першымі, ад слёз не маглі распісацца, некаторыя губляліся пасля роспісу, што ж чакае далей? Чулася толькі – рашэнне "тройкі" – 8 гадоў, 10 гадоў, ОСО – 10 гадоў, 12 гадоў... Затым людзі пасмялелі і ішлі спакойна падпісваць свой лёс. Больш скардзіцца не было каму, камера папаўнялася "доўгатэрміновікамі". У некаторых былі нават спакойныя ўсмешкі на тварах. Толькі б хутчэй у этап. Наперадзе, праўда, ляжаў доўгі шлях у Сібір, на Далёкі Усход. Але супакойвала, што пераезд будзе цягніком, гэта ж – не час дзекабрыстаў.

Ішлі нядоўга. Да пасадкі былі падрыхтаваныя два пасажырскія вагоны, у якія садзіліся па прызначаным маршруце, іншыя павінны былі чакаць наступных цягнікоў. У вагоне было цёпла, стала хіліць да сну, але спаць амаль не давялося. Праз некалькі гадзін пачуўся голас: "Вылазь!"

Цягнік прыбыў на станцыю Аляксандрава пад Масквой. Вагон адчапілі.

– Строіцца, на першы-другі разлічыся!.. Па чатыры ста-на-вiся!.. Шагам марш!..

Па горадзе Аляксандрава закрочыла калона ў напрамку Аляксандраўскага цэнтрала. Вялікая старая перасыльная турма мала чым адрознівалася ад Іванаўскай, хіба толькі ардынарнымі нарамі і больш свабодным размяшчэннем. Зноў праверка, санапрацоўка, лазня, жарылка, вячэра, і ў камеры. Там давялося прасядзець тыдні тры. Фарміравалі этап на Вологду.

Рэжым быў тут лягчэйшы, ды і народ, ужо асуджаны на пэўны тэрмін, паводзіў сябе спакойна. Кожны пражыты дзень набліжаў час вызвалення. Кармілі лепш, больш трапляла гарачай ежы, а гэта весяліла.

У канцы студзеня адбылося адпраўленне на Волагду. Зноў пешшу ішлі на вакзал, зноў пасажырскія турэмныя вагоны. Ехалі з прыпынкамі на дні тры.У дарозе спалі, елі ў каго што было. У вагонах кармілі. Волагда сустрэла нас моцнымі маразамі, нават дыхаць было цяжка.

Зноў высадка па статуту, але пераправа ў Валагодскую турму ўжо ў грузавых аўтамашынах. Апрацоўка, падлік, і ў камеры. Там прасядзець давялося больш месяца.

Фарміраваўся вялікі этап на Урал праз Свярдлоўск. Самога горада Волагды мне так і не давялося ўбачыць. Але затое турма зрабіла вялікае ўражанне. Высокія цагляныя сцены з вежамі па краях, магутныя вароты, унутры – вялікі двор. Народу знаходзілася вельмі многа, адну партыю прывозілі, другую – адпраўлялі. Будынак унутры быў вялізны, з магутнай паўкруглай столлю старога тыпу, падобны на нейкі старажытны манастыр.

У адной з камер размясцілі і нас, прыкладна чалавек каля пяцідзесяці. Тут староста пачаў ствараць брыгады, брыгадзіры былі яму памочнікамі ва ўсім гаспадарчым жыцці. Такім брыгадзірам зрабілі і мяне. Абавязкі брыгадзіра былі хадзіць па харчаванне, раздаваць хлеб, цукар, гарачыя стравы, своечасова выходзіць на прагулкі, прыбіраць камеры, туалеты і калідоры. Усё ж была нейкая разнастайнасць, і можна было прайсціся па паветры ўнутры турэмнага двара.

Кармілі нас так сабе, давалі па 500 грамаў хлеба, нары былі без пасцелі, але мне ўжо можна было ўладкавацца на першым паверсе нараў. Рэжым быў нармальны. Дазвалялі нават пісаць пісьмы знаёмым, дамоў родным. Першае пісьмо я паслаў з Іванава, з Волагды – другое, але свайго адраса не ведаў, куды напісаць. Шлях яшчэ быў далёкі. У камеры гучалі размовы, успаміны, чытаць не было чаго, ніякіх навін з волі мы не ведалі.

У канцы лютага сфарміраваўся этап і пачалі нас вывозіць на аўтамашынах на вакзал, размяшчаючы ў таварныя вагоны-цяплушкі па сорак чалавек. Пасярэдзіне вагона стаяла жалезная печка-буржуйка, якую палілі вугалем, я быў прызначаны ўжо старастам вагона. У вагоне людзі знаходзіліся зноў розныя: рэцыдывісты і палітычныя, старыя і маладыя, а фарміраваўся эшалон два дні. Параша, зноў нары ў два паверхі, яда праз дзверы тры разы, але хлеба ўжо давалі па 600 грамаў. Прывыклі да такога рацыёна. А так – ляжалі ў вагонах і сядзелі.

Сабраўшы эшалон, вагонаў з дваццаць, крануліся ў дарогу. Маршрут ішоў у напрамку Кірава, Пярмі, Свярдлоўска. У кожным такім горадзе стаялі суткамі для папаўнення, відаць, прадуктамі. Іншы раз да нас заходзілі дактары, слабых і хворых выводзілі з вагонаў, перамяшчаючы ў асобны санітарны вагон, а такіх выпадкаў у дарозе было шмат.

Урачы-бытавікі рэзаліся ў самадзейныя карты з якога-небудзь картону, некаторыя напявалі розныя блатныя матывы ці песню з фільма “Пуцёўка ў жыццё”:

Позабыт, позаброшен с молодых, юных лет,
Я остался сиротою, счастья, доли мне нет...

Затым памятаюцца і такія словы:

Как умру, похоронят,
И не будет меня,
И никто не узнает,
Где могилка моя...

Гэтыя шчымлівыя матывы ў дарозе наводзілі моцны сум. Прыкладна праз тыдзень састаў прыбыў у Свярдлоўск.

Нас сустрэлі ўральскія маразы. Машыны перакідвалі нас павагонна да якога-небудзь новага цаглянага будынку. Адна нейкая навучальная ўстанова была прыстасавана пад перасыльную турму. Самога Свярдлоўска я не бачыў. Нам адвялі вялікую залу, у якой стаялі ўжо жалезныя ложкі з матрацамі. Зала ўмяшчала каля 100 чалавек. У такой зале нас пратрымалі каля двух месяцаў. Было выбрана кіраўніцтва камеры. Мяне выбралі старастам, далі і памочніка. Былі чатыры брыгадзіры. Але, чым больш народу, тым больш хапала клопатаў. Толькі выслухаць кожнага – патраціш амаль дзень, а размаўляць з турэмным начальствам дазвалялася толькі старастам. Я спраўляўся з гэтымі абавязкамі нядрэнна, таму мяне не перавыбіралі да канца этапа.

Там давялося ўбачыць вельмі многа людзей розных нацыянальнасцяў і спецыяльнасцяў. Гэта было нейкае перасяленне народаў у Сібір і на Далёкі Усход.

Са Свярдлоўска мы выехалі зноў у драўляных вагонах дзесьці напачатку красавіка 1938 года. Шлях ляжаў праз Цюмень, Омск, Новасібірск, станцыю Тайга, Ітатка, Асіно. Зноў былі доўгія прыпынкі без высадкі. У Омску адбылася санапрацоўка, уколы, лазня, жарылка. Бялізна не мянялася, а толькі пражарвалася. Ад уколаў былі моцныя болі ў плячах, але сіл яшчэ хапала. Гэта вандроўка цягнулася да мая месяца.

На станцыі Тайга эшалон расфарміравалі, частку людзей накіравалі на Краснаярск, а вагонаў шэсць адчапілі і пусцілі на Томск. У Томску зноў былі прыпынак і лазня. Затым рушылі далей да станцыі Ітатка – невялікі паўпрыпынак

у лясной тайзе. Вароты адчыняюцца, і... відаць лагер. Выходзілі з вагонаў, усе былі бледныя, стомленыя, брудныя ад пылу і вугалю. Нас палічылі, праверылі рэчы і адправілі за калючы дрот у халодны неацяпляльны барак. У ім нам давялося прабыць некалькі гадзін. Потым раздаўся голас каменданта: "Выходзь на работу. Строіцца па пяць. Крок направа, крок налева – лічыцца пабегам... Шагам... арш!.."

І зноў мы выйшлі за вароты пад узмоцненым канвоем з сабакамі-аўчаркамі і мноствам розных камандзіраў. Ахова была ваенная, строгасць, размовы забаронены, рухаліся куды загадвала начальства.

Па сутнасці справы, гэта пачалася першая спроба сіл. На вуліцы – сыра, гразь, адзенне не прыстасавана было да працы. Рыхтавалі дровы для ацяплення, працавалі, хто як мог. Вечарам зноў у лагер. Потым – вячэра, размяшчэнне, арганізацыя брыгад, выдача рабочага адзення і кірзавага абутку, арганізацыя спальных месцаў, знаёмства з абставінамі і... сон. Наперадзе нас чакалі цяжкія дні і выпрабаванні. Гэта быў канец мая 1938 года.

## У лагеры

З прыбыццём у Асінлаг, на станцыю Ітатка Томскай вобласці, пасля 10-месячнага знаходжання ў турмах і перасылках, жыццё маё стала як бы лепшым і весялейшым. З аднаго боку, я мог бачыць сонца і навакольную прыроду, дыхаць свежым лясным паветрам. Ад гэтага перамяшчэння з ленінградскага ў сібірскі клімат знікла малярыя. Тайга здзіўляла сваёй магутнасцю і зелянінай. Мне здаецца, я дыхаў бы тым паветрам без адпачынку і стомы, глядзеў бы на розных птушак і прыгожых звяркоў. Але доўгім знаходжаннем у такой тайзе можна было самому стаць дзікім, страціць аблічча культурнага чалавека, таму што па сутнасці справы тут трэба было пачынаць з нуля. Не маючы амаль нічога, як Рабінзону Круза. А колькі нас было такіх Рабінзонаў тут – не злічыць. Тайга прымала ўсіх – здаровых і хворых, жывых і мёртвых, старых і маладых.

У лагеры мы ўбачылі, што сярод нас ёсць і многа жанчын рознага ўзросту, якія жылі ў асобных бараках. Гэта таксама ўносіла разнастайнасць. Мужчыны з прагай ці са спачуваннем глядзелі на жанчын, а яны, у сваю чаргу, адказвалі такой жа ўзаемнасцю.

Адкрытыя наведванні або сувязі з жанчынамі і наадварот жорстка караліся змяшчэннем у кандэй (карцэр) на 300 грамаў хлеба і кубак вады ў суткі. Тэрмін знаходжання ў кандэі вызначаўся ад 3-х да 15-ці сутак у халодных камерах без усякіх прагулак. Культурныя ж зносіны ў клубе, сталовай, на рабоце або ў цэху і на вытворчасці ўсё ж дазваляліся. І людзі размаўлялі паміж сабой, падшукваючы сабе спачуваючага сябра. Гэта вельмі дапамагала ў лагерным жыцці, пры хваробе, калецтвах, горы ці іншых якіх-небудзь няшчасцях, якія сустракаліся тут на кожным кроку.

У лагеры заўсёды можа цябе падпільноўваць нейкая нечаканасць: трывога, этап, забойства, выклік, раненне, голад, курыная слепата і г.д. Адзіночка, які не мае магчымасці сам сабе дапамагчы, гіне бясследна. Лагерная ахова глядзіць на гэтыя рэчы, як на звычайную з'яву. Лагеру патрэбна паўсядзённая праца, прадукцыйная і безадказная. Чалавек, які не жадае працаваць, лічыўся паразітам з усімі вынікамі. Тут вельмі шырока быў распаўсюджаны лозунг: "Хто не працуе, той не есць!" Гэта практычна кожны адчуваў на сабе. Непрацуючыя атрымлівалі 300 грамаў хлеба і чарпак супу на цэлы дзень. Яны слабелі імгненна. Працуючы ж побач мог атрымліваць да 1 кг хлеба ў дзень, тры разы гарачую страву, першае і другое ў абед, атрымліваць пасылкі ад родных, карыстацца буфетам за заробленыя грошы з асабістага рахунку і г.д. Таму кожны зняволены стараўся ісці на працу, рабіць усё, што загадаюць, толькі б увечары атрымаць зробленую пайку хлеба.

Хлеб – гэта была такая каштоўнасць, што кожная крошка яго заўсёды была ў цэнтры ўвагі. Нідзе ніколі ніхто не бачыў кавалка, крошак хлеба, бо ён быў даражэй за золата, грошы, адзенне і іншыя рэчы.

Такім выглядаў лагер са знешняга боку. Каштоўным было тое, што чалавек можа быць на свежым паветры. І вось у такой лагернай абстаноўцы я пражыў кустаром-адзіночкай да 21 жніўня 1947 года. Тут былі пражыты мае самыя маладыя гады. Гэта гады росквіту сваіх здольнасцей у цяжкай працы, у своеасаблівых умовах у асваенні, калі так можна сказаць, нейкага невялікага ўчастка ўсёй вялікай неабсяжнай сібірскай тайгі.

## Працоўныя будні

З першых дзён знаходжання ў лагеры я стаў клапаціцца, каб паведаміць адрас сям'і, а таксама дазволу на адпраўку хадайніцтва аб пераглядзе сваёй "справы". Пісьмо напісаць дазвалялі, а хадайніцтва – толькі пасля заканчэння гадавога тэрміну знаходжання. Гэтымі пытаннямі ў лагеры займаліся спецыяльныя асобы з вольнанаёмнага саставу культурна-выхаваўчай часці (КВЧ). У іх саставе былі і малатэрміновікі са зняволеных-бытавікоў на пасадах выхавальнікаў.

Выхавацель сачыў, як ты сябе паводзіш, як працуеш. Яны выдавалі пісьмы і пасылкі, прымалі скаргі і хадайніцтвы, займаліся арганізацыяй самадзейных гурткоў, загадвалі чырвонымі куткамі, бібліятэкамі, газетамі, якія даваліся толькі на іх выбар. Знешне гэта выглядала нармальна, але, пасля штодзённага дванаццацігадзіннага дня работы, часу для культурнага адпачынку не хапала. Выхадныя даваліся праз дзесяць дзён. На сон не хапала часу. Адбой у 22.30, пад'ём у 6.30. У 7.30 ішлі на "лінейку" да варот і калонай рухаліся на работу. Так кожны дзень у любое надвор'е.

Выхавацелі сачылі і за тэрмінамі вызвалення, прыбыццём у лагер і выбываннем з яго. Выхавацель – гэта, дарэчы, як у арміі палітрук. Па вытворчай жа частцы быў і тэхнарук, і прарабы, і майстры, і брыгадзіры, і звеннявыя, і асобныя загадчыкі якіх-небудзь галін: кладаўшчык, загадчык гаспадаркі, хлебарэз, кухар, шавец, цырульнік, кравец, слесар або каваль, кандойшчык (загадчык карцэра), магільшчык, прачка, санітар, фельчар, урач, сёстры, судамыйкі, пячнікі, забеспячэнцы і г.д. Гэтыя ўсе асобы былі ў ліку зняволеных і ў лагеры называліся "прыдуркамі". Некаторым з іх дазвалялася выходзіць за межы лагера, гэта значыць яны лічыліся расканваіраванымі. З гэтым персаналам і даводзілася сустракацца кожнаму з нас штодзённа. У лагеры заўсёды знаходзілася каля тысячы чалавек. Але работы хапала ўсім.

Нас усіх разбілі на брыгады. Вызначала камісія, медперсанал. Былі апытанне, агляд і накіраванне. Працавалі на лесапавале, грузілі лес у вагоны, перавозілі лес трактарамі, складвалі ў бурты (кучы лесу), абсякалі сукі, будавалі дарогі, масты, баракі, а таксама гаспадарчыя памяшканні. У далейшым – будавалі лесазавод, электрастанцыю, склады піламатэрыялаў і гатовай прадукцыі.

У першы год знаходжання я трапіў на лесапавал. Валка лесу, раздзелка яго, потым укладка ў штабелі – гэта вельмі працаёмкая работа. І накіроўвалі туды пераважна маладых. Так каля года я быў лесапавальшчыкам, год грузіў вагоны лесам, каля года займаўся выцягваннем бярвенняў з ракі Чулым, і гады два на будаўніцтве лежнявых дарог, будынкаў і розных збудаванняў. Набываў такім чынам новую спецыяльнасць. Хоць сіл было малавата, але начальству такія работнікі падабаліся. Таму дзесьці на пятым годзе знаходжання мне абяцалі работу па спецыяльнасці.

Мы пачалі свой лагерны працоўны шлях у тайгу проста ад чыгункі. Прапаноўвалася зрабіць прасеку 50 кіламетраў па тайзе, пракласці лежнявую дарогу, а на дваццатым кіламетры пабудаваць пасёлак, прыгодны для жылля на 500 чалавек, і выцягнуць лес да чыгункі.

За мой дзесяцігадовы тэрмін усё гэта было зроблена. Але аднойчы мне прапанавалі арганізоўваць і весці эксплуатацыю спачатку дробных дызельных электрастанцый, затым пабудаваць лакамабільную электрастанцыю на два лакамабілі агульнай магутнасцю да 200 к.с.

Для работы па спецыяльнасці я быў таксама расканваіраваны і займаўся гэтай работай з усім сваім стараннем і працавітасцю. Даводзілася і кіраваць, і самому, закасаўшы рукавы, манціраваць, праводзіць лініі электраперадач, рабіць фундаменты пад машыны, шчыты і іншыя работы.

У гэтых клопатах праходзілі год за годам. Успамінаюцца часта некаторыя эпізоды таго часу. У лагеры, дзе мы размясціліся, знаходзіліся нядоўга. Мы пачалі будаваць для сябе свой барак і іншыя падсобныя памяшканні ў зоне сярод тайгі кіламетраў за 20 ад чыгункі. З сырога піхтавага лесу раслі пабудовы і адразу засяляліся і асвойваліся зняволенымі. Інструменты былі самыя звычайныя: рыдлёўка, сякера, бураў, піла, багор, вяроўка, і людзі, як мурашкі, будавалі сабе жыллё трывала і надзейна. Паміж бярвеннямі клалі мох, пракладвалі дарогу далей, нам падвозілі будаўнічыя матэрыялы, прадукты і г.д. З раніцы да вечара толькі “слышен был в лесу топор дровосека...”

Вакол па радыусу кіламетраў за 20 высякаўся прыгожы, стары, таёжны лес: кедр, піхта, бяроза, асіна, сасна і елка. Праз гады тры ў нас ужо быў новы лагерны пункт з рознымі гаспадарчымі памяшканнямі і нават з бальніцай на 100 ложкаў. Бальніца абслугоўвалася зняволенымі ўрачамі і сёстрамі. Яна заўсёды была поўная. Штодзённа людзі атрымлівалі траўмы і розныя хваробы. Там наладжваліся і хірургічныя аперацыі. Некаторыя выжывалі, але многія адтуль жа адпраўляліся “на той свет”. Наш кантынгент людзей быў вельмі разнастайны: старыя ўзбекі, таджыкі, украінцы, беларусы, фіны, літоўцы, латышы і эстонцы. Моладзь вытрымлівала цяжкасць, старым такія ўмовы былі далёка не пад сілу. З медыкаментамі справа наладжвалася дрэнна, харчаванне ўсюды было звычайнае, лагернае. Лічылася шчасцем, калі хвораму трапляў кавалак белага хлеба ці лішні кавалачак мяса.

У гэтай бальніцы давялося праляжаць і мне. Ад прастуды зімой у мяне ўтварылася флегмона на левай назе пад ягадзіцай. Да гэтага ад знясілення я ўвесь быў абсыпаны скуламі. Ад флегмоны моцна апухла левая нага. Хвароба была відавочная, таму мяне паклалі ў бальніцу. Лячэння, па сутнасці, не было ніякага. Прыкладвалі іхціёлавую мазь, мералі тэмпературу, але пухліна не праходзіла. Аднойчы пры абходзе хворых дактарамі мяне паглядзелі, а ўрач на калідоры сказаў, што заўтра будзе мяне аперыраваць – адрэзваць левую нагу. Санітарка чула гэту размову і раніцай расказала мне. Балюча і горка было гэта ўсё чуць. Я пачаў нервавацца і задумаў падняцца з ложка. Пры пад’ёме неяк ад рэзкага павароту ў мяне лопнула флегмона і пацёк гной. Я паклікаў санітарку. Яна выціснула з нагі літры два гною. Нага зрабілася танчэйшай, пухліна спала. Пры наступным абходзе дактароў яны прынялі рашэнне не рабіць аперацыі. Выціснулі ўвесь гной, і я, пасля гэтага, яшчэ тры тыдні хадзіў на мыліцах па бараку, а потым мяне выпісалі. “Якое шчасце, – падумаў я, – што гэта ўсё адбылося да аперацыі”. Нага дзейнічае і па сённяшні дзень.

Быў таксама вельмі цяжкі момант пры маім знаходжанні на лесанарыхтоўках. У мяне выявілася “курыная слепата”. Гэта вельмі цікавая хвароба. Раніцай выходзіш, усё, здаецца, нармальна, нічога не баліць, усё бачыш. А надвячоркам вочы засцілае туманам, нічога наперадзе адрозніць нельга. Ісці без праважатага немагчыма, а дактары гэтай хваробы не прызнавалі і вызваленне ад працы не давалі. Яны казалі: “Трэба есці сырую печань, піць тлушч рыбы”. А дзе яго знойдзеш у тых умовах? Нідзе. Таму я так пакутаваў месяцаў пяць.

Дапамаглі ў значнай меры мае родныя. Дзесьці праз паўтара года пасля майго зняволення я атрымаў ад мамы і сястры адказы на свае ранейшыя лісты. Я ім паўторна змог напісаць пра свае хваробы. Яны жылі ўжо ў Магілёве. І некалькі

разоў да вайны ў 1939-1940 гадах высылалі мне пасылкі з тлушчам. Памятаю, я іх атрымаў штук пяць. Таплёны тлушч з цыбуляй, сала і іншыя прадукты. Хоць усяго самому ніколі не давялося выкарыстаць, але многае з гэтага я з'ядаў сам. Арганізму патрэбны былі пажыўныя рэчывы. І мая слепата пасля гэтага прайшла.

З-за слабасці і знясілення мяне ўсё ж з лесапавалу знялі і, пасля ачуньвання, накіравалі ў брыгаду па падвозцы лесу да чыгункі і пагрузцы вагонаў. Работа гэта таксама была працаёмкая, але на вагон давалася шэсць чалавек. Два на падвозцы, два на падачы і два на ўкладцы на роўнай пляцоўцы. Такая перамена працы дзейнічала спачатку больш спрыяльна, але ад цяжкага пад'ёму я пачаў адчуваць частыя болі ў жываце, адбылося апусканне страўніка. Па целе пайшлі вялікія скулы, і хутка мяне забракавалі, перавялі на больш лёгкія работы: часаць бярвенні, рабіць клейку для бочак, расцягваць бярвенні на дошкі, складваць штабелі. Вось на такіх работах давялося працаваць увесь перыяд да пачатку Другой сусветнай вайны.

Зімы я пераносіў адносна добра. Маразы там дасягалі 50-55 градусаў і трохі менш. Зімы былі снежныя і працяглыя. Калі з харчаваннем палепшылася, то і пераносілі гэты час мы ўсе лягчэй, весялей працавалі і хутчэй праходзілі цяжкія дні.

## Ваенны час

У ваенныя 1939, 1941-1945 гады наш лагер працаваў вельмі напружана. Першае, што адчувалася з надыходам вайны, гэта launched пэратасоўка зняволеных па артыкулах, тэрмінах, па спецыяльнасцях, партыйным стажы і г.д. Адных кудысьці адпраўлялі, іншых, наадварот, прысылалі з лагераў розных рэспублік. Так да нас прывезлі некалькі эшалонаў служачых з Літвы, Фінляндыі, Латвіі і Эстоніі – усе дзясятачнікі.

Бытавікоў-рэцыдывістаў фарміравалі асобна для адпраўкі на фронт, а палітычных – сканцэнтравалі ў іншым лагеры пад узмоцненай аховай у строгім рэжыме. У такім рэжымным лагеры прабыў і я каля 12 месяцаў у першы год вайны.

Відаць, кіраўніцтва лагераў баялася якіх-небудзь уцёкаў ці абурэнняў. Але ўсе гэтыя зняволеныя за калючым дротам паводзілі сябе вельмі спакойна, яны не ведалі наогул, якой лініі трымацца, а тым больш не ведалі пра ход вайны. Таму пра ўцёкі і размовы быць не магло. Густая тайга, рака Чулым, пад кантролем чыгунка – без адзення і прадуктаў харчавання ніякіх уцёкаў ажыццявіць было немагчыма. Культработнікі іншы раз коратка расказвалі пра наступленні немцаў, пра захоп Гітлерам шэрагу дзяржаў, пра пачатак і канец Фінскай вайны і пра нападзенне нямецка-фашысцкай Германіі на СССР. Усе былі ў жаху, кожны хацеў дапамагчы сваёй Радзіме, але дапамога не прымалася, як гэтага б хацелася, прымушалі працаваць на месцы.

Мы выцягвалі сплаўлены лес з ракі Чулым і перапрацоўвалі яго на матэрыял, грузілі ў вагоны, на лесазаводах рабілі снарадныя скрыні, рыхтавалі матэрыял для прапелераў. І гэта называлася дапамогай фронту. Многія пісалі заявы на фронт, на перадавую. Пісаў заявы неаднаразова і я, але нас не пускалі. На фронт адпраўлялі толькі малатэрміновікаў.

У гэты час была звернута ўвага на розных спецыялістаў, якія знаходзіліся ў лагеры. Вольнанаёмны персанал здымаўся са сваіх пасад, а гэтыя месцы запаўняліся рознымі палітзняволенымі. Усе гэтыя вытворчыя пасады, уключаючы часткова і ахову, займалі людзі розных спецыяльнасцей, а малатэрміновікі нас ахоўвалі. Спачатку гэта здавалася неверагодным, але потым прызвычаіліся, ды ішло ўсё, як патрабуецца, паводле лагернага рэжыму.

Галоўнае, што адчувалася на настроі ўсіх зняволеных, гэта хуткі рух ворага па нашай тэрыторыі. Захоп Беларусі і Украіны, прыбалтыйскіх рэспублік, блакада Ленінграда і набліжэнне да Масквы праціўніка наводзілі на нас жах. Чым больш

фашысты разбуралі савецкія гарады, захоплівалі тэрыторыі, тым цяжэй было і лагернікам. У патрыятызм іх ніжэйшая ахова не верыла, а націскала на статут, павялічваючы рабочы дзень, не даючы выхадных, газет і часопісаў, не прапускалі пісем ад родных, не давалі пасылак і г.д. Дарэчы, усюды адчувалася, што на фронце неспрыяльна. Калі ў Ленінградзе ў блакадзе людзі пакутавалі ад голаду і холаду, у нас быў таксама ўзмоцнены рэжым. Хлеба давалі напалавіну менш. Непрацуючыя атрымлівалі па 150 г. Мяса, нават каніны, не паступала некалькі месяцаў, варылі верхнія чорныя капусныя лісты, зімой з гнілой ці марожанай бульбай, або давалі дзве лыжкі аўсянай поснай кашы, усё без солі. Соль у лагер не паступала каля аднаго года. Зрэдку давалі ўдзень палавіну селядца. Гэты селядзец абсмоктвалі, яго і выварвалі, і кожную костачку прагрызвалі, каб хоць крыху адчуць соль. Без солі – гэта амаль пэўная гібель. Чаго толькі чалавечая думка не вынаходзіла ў пошуках солі. Жавалі розную кару ў лесе, вышуквалі ў зямлі ўсемагчымыя карані і, не ведаючы, прыгодныя яны ці не для яды, елі іх у сырым або вараным выглядзе. Працаваць жа даводзілася паўсядзённа, нягледзячы ні на якія недахопы. Гінулі ад голаду людзі, але замест іх прывозілі новых этапамі з іншых месцаў. І лагер заўсёды быў поўным.

Ход вайны нам быў нябачны, хоць мы пра яе амаль усё ведалі. Нас ахоплівала гора за краіну, за Радзіму, за сем'і, якія знаходзіліся пад акупацыяй. У мяне прапала апошняя надзея. Я лічыў загінулымі ўсіх сваіх родных. І надзеі на вяртанне на свабоду ніякай не было.

Я паслаў за час знаходжання ў лагеры ў першыя пяць гадоў звыш 15-ці хадайніцтваў ва ўсе інстанцыі РСФСР і СССР, пісаў асабіста на імя Сталіна, але на мае скаргі і запыты, як і на скаргі іншых, паступала толькі адно паведамленне, што “ваша скарга накіравана па прызначэнні, пра вынікі якой вам будзе паведамлена”. Але ўсе чаканні былі дарэмнымі. Краіна была занята іншымі справамі, а мы ў той момант з'яўляліся кропляй у моры.

Да 1943 года я яшчэ трымаўся, але ў рэшце рэшт і мае маладыя сілы надарваліся. Я пачаў моцна апухаць: рукі, ногі, твар былі апухлыя да непазнавальнасці, хісталіся зубы, пухлі дзёсны. наступіла моцная слабасць, імпатэнцыя, не трымалася мача і г.д. Давялося легчы ў слабілку, гэта значыць, у спецыяльны барак для кволых і нямоглых людзей.

Праляжаў я там каля трох месяцаў. Малады арганізм пакрысе асіліў хваробы, я пачаў хадзіць з кіёчкам па двары, робячы сабе хвойныя ванны з піхты, жаваў смалу, чым умацоўваліся дзёсны. Адным словам, займаўся самалячэннем як мог.

Прайшоў час, і я трапіў на будаўніцтва лесазавода і электрастанцыі. Па чутках, на франтах ішлі рэзкія перамены, нашы пачалі выцясняць ворага са сваёй тэрыторыі. У лагеры слабеў рэжым. Нам, зняволеным спецыялістам, было дадзена права свабоднага выхаду за зону ў межах 15 км па будаб'ектах тайгі. Нас расканваіравалі. На вахце толькі трэба было адзначыцца пра час выхаду і прыходу. Гэта значна аблегчыла наша жыццё. Наогул, успамінаючы мінулыя гады, я пераканаўся, што жыццё мне было захавана дзякуючы маёй спецыяльнасці. Я заўсёды, усюды аказваўся патрэбным чалавекам. Сапсуецца тэлефон ці радыёпрыёмнік, ці патухне святло, ці абарвецца дрот, ці спыніцца агрэгат на электрастанцыі – электрыку заўсёды знаходзіцца работа. Вось гэта дапамагло выжыць у цяжкія гады. Нас, электрыкаў, можа, чалавек 10-15 было, а таму нас нікуды не адпраўлялі па іншых лагерах, а трымалі для выкарыстання пры развіцці вытворчых аб'ектаў. З перамогай савецкіх войск на фронце і да нас пачалі адносіцца больш гуманна, прадракаючы, прынамсі, хоць на словах, хуткую свабоду.

Нягледзячы на такія надзеі, я вельмі цьмяна ўяўляў сабе свабоду. Не маючы родных, сваёй сям'і, знаходзячыся пад нейкім недарэчным падазрэннем і маючы такі страшны тэрмін, здавалася, жыццё будзе зусім немагчымым. Здаваліся вечнымі праследаванні, прыніжэнні і знявагі, асуджэнне ў калектывах. А застацца на ўсё

жыццё ў сістэме ГУЛАГа і назіраць за пакутамі людзей – не ўпрыгожвае жыццё, а робіць чалавека толькі жорсткім і абыякавым да ўсяго навакольнага. Таму я зноў пачаў прасіцца на фронт. "Лепш памерці стоячы, чым жыць на каленях", – успамінаў я словы Далорэс Ібаруры. Але мары мае так і не збыліся.

Мы адчувалі фронт у тыле. Да нас эшалонамі пастпалі цэлыя заводы з усім абсталяваннем і людзьмі, паступалі эшалоны з параненымі і ваеннапалоннымі, ад нас ішло многа моладзі на фронт. А некаторыя нават вярталіся жывыя назад. Мы не чулі баявых стрэлаў, але па тварах раненых вызначалі жахі вайны.

Зняволеным заўсёды даводзілася абслугоўваць многія эшалоны. Асабліва ў гэтым прымалі ўдзел урачы, электрыкі, механікі, цесляры і іншыя спецыялісты. Наш лагер на стаянках і карміў раненых, і расфарміроўваў па розных шпіталях. Іншы раз станавілася сумна, чаму я, абслугоўваючы грамадзян, з'яўляюся сам з нейкім ярлыком, калі ж раскрыецца праўда, калі ж будзе разблытаны гэты пякельны клубок, бо не тыя ж мы, за каго нас выдаюць?! Усё ж паспрабуй дакажы, не маючы доступу ні да кіраўніцтва, ні да адпаведных інстанцый. А тэрмін усё ішоў і ішоў...

## На энергетычнай будоўлі

Вайна была ў самым разгары. Нам чыталі зводкі інфармбюро з газет пра адступленне і няўдачы нашых войск. Унутры лагера мабілізуецца ўсё насельніцтва на максімальную дапамогу фронту. "Усё для фронту, усё для перамогі!" – так было напісана на лозунгах. Нас, брыгаду спецыялістаў, інжынераў, электрыкаў, механікаў, слесараў і машыністаў сабралі і прапанавалі будаваць электрастанцыю. Мяне прызначылі, як старажыла, кіраўніком па мантажы і эксплуатацыі энергагаспадаркі. Хутка прывезлі абсталяванне, лакамабілі і рухавікі ўнутранага спальвання, генератары і электраматоры, але ніякіх праектаў, ні чарцяжоў, ні тэхнічнай літаратуры нам не далі. Усё трэба было рабіць па памяці. Спецыялістаў, праўда, мы мелі нядрэнных.

І вось на пятым годзе зняволення мы ўзяліся будаваць драўлянае памяшканне пад электрастанцыю, устанаўліваць два лакамабілі агульнай магутнасцю да 200 к.с. Будавалі ўдзень і ўначы, тэмпы былі надзвычайныя. Нас сталі лепш карміць, таму і працаваць стала цікавей.

Найперш, трэба было зрабіць нізкавольтныя лініі электраперадач, электрафіцыраваць пасёлак для вольнанаёмнага саставу, асвятліць лагер, устанавіць рухавікі з перасоўнымі генератарамі на лесапавале ў тайзе. Усё пачыналася з нуля.

Праз некалькі месяцаў асноўныя агрэгаты былі ўстаноўлены і генератары падрыхтаваныя да пуску. Паліўная ж частка, печкі і іншыя збудаванні адставалі з-за адсутнасці неабходнага абсталявання. Але начальству не цярпелася і хацелася хутчэй мець электраэнергію. Таму незакончаную мантажом электрастанцыю давялося запускаць. Загад ёсць загад, пярэчанні ва ўвагу не прымаліся. Спачатку запуск прайшоў добра. Палілі апілкамі і дровамі. Лесазавод пачаў набіраць тэмпы, усё ішло нармальна некалькі месяцаў.

Наступіла зіма. Пачаліся моцныя вятры і маразы, таму нагрузкі ўзраслі. І ў адну ноч, ад моцнага іскрэння і выкіду шлаку з труб, загарэўся драўляны дах. Вадзяных рэзервуараў не было. Тушыць пажар ноччу не было каму, бо зняволеных з зоны не выпускалі. Невялікі расканваіраваны персанал змог выратаваць толькі абсталяванне. Будынак згарэў. Мяне чакала вялікая непрыемнасць, або новы тэрмін ці адпраўка зноў на цяжкія работы.

Дапытвалі мяне доўга, трэба ж камусьці адказваць, але закончылася справа тым, што мяне знялі з пасады і адправілі зноў у лес. Гору майму не было канца. Пазней усё ж высветліла камісія канкрэтныя прычыны, прыняла да ўвагі мае доказы аб незаконным пуску ў эксплуатацыю аб'екта.

Праз некалькі месяцаў мяне зноў адклікалі з агульных работ і прапанавалі пабудаваць больш капітальны будынак з металічным дахам і цаглянымі перагародкамі. Тэрмін далі мінімальны. Праз тры месяцы я ўжо працаваў у новым памяшканні.

На гэтых работах я атрымаў выдатную практыку і дальнабачнасць. Прадугледжвалася кожная дробязь, нягледзячы на пярэчанні начальства, якое заўсёды патрабавала толькі энергіі. На новай электрастанцыі я адпрацаваў да канца свайго тэрміну і адтуль атрымаў вызваленне. Цяжкасцяў было многа, але ўсё праходзіла, маладосць яшчэ брала верх. Я нават атрымаў дазвол начаваць на электрастанцыі з паведамленнем пра сябе адзін-два разы ў суткі на вахту па тэлефоне. Тое ж адбывалася і з персаналам, які там абслугоўваў станцыю.

Электрастанцыя працавала круглыя суткі, без усякіх перапынкаў. Яна аказалася сэрцам усяго лагера, і я – найбольш аўтарытэтным чалавекам са зняволеных. Да мяне прыслухоўваліся, мне давяралі і з мяне патрабавалі, як і з цывільнага інжынера. Я мог набыць некаторую неабходную літаратуру, чытаў газеты і часопісы, планаваў работу і рабіў справаздачы за яе кожны месяц. Здаецца, такая невялікая па магутнасці электрастанцыя ў таёжнай глухамані, а змагла зрабіць жыццё прыгажэйшым, павысіць прадукцыйнасць працы, наладзіць водазабеспячэнне, абагрэць і даць імпульс да стварэння некаторай культуры і дабрабыту ў такія цяжкія гады.

## Пра лагерную культуру

За гады вайны на нашым лагерным пункце была пабудавана вялікая сталовая-клуб з прыбудаванай кухняй для прыгатавання ежы. Кармілі нас тры разы на дзень. Да гэтага ежу гатавалі па-рознаму: у аддаленых месцах на вогнішчах ці ў паходных палявых кухнях, а прывозілі ежу ў тэрмасах. У кожнага лагерніка быў свой кацялок з накрыўкай, лыжка, нажы мець забаранялася, хаця самадзейныя ножычкі з’яўляліся ў многіх лагернікаў.

Кухары і падсобныя рабочыя набіраліся з ліку зняволеных. У вольны час, пасля прыёму ежы, у клубе праводзіліся сходы па выніках работы. Хлеб прывозілі з Томска. Ежу прымалі ў розных умовах: хто ў бараку, хто на вуліцы, хто пад дрэвамі ў лесе. Ад сталовых мы ўжо амаль зусім адвыклі, было б што паесці, месца знаходзілі любое.

У далейшым начальства наладзіла гэты ўчастак, і ежу прымалі ў сталовай-клубе па зменах. Менш стала захворванняў, мыўся часцей посуд, можна было памыцца самому, таму што былі ўстаноўлены і ўмывальнікі. З’яўляліся і насценныя газеты, якія выпускалі культработнікі. Хаця гэта мела даволі прымітыўны характар, але ўсё ж адчувалася чалавечая годнасць.

Не хапала культурных мерапрыемстваў, гадоў шэсць мы не бачылі ні аднаго кінафільма, не было радыё, радыёпрыёмнікі ў лагеры забараняліся, тэатры, эстрада, танцы для моладзі былі таксама пад забаронай.

У лагеры знаходзілася многа жанчын рознага ўзросту, але сустрэчы з імі не дазваляліся. Для чалавека, які калісьці ў жыцці карыстаўся такімі дабротамі культуры, адсутнасць падобных мерапрыемстваў наводзіла на сум і прыводзіла да вар’яцтва. Людзі, якія вялі аднастайны працоўны рытм жыцця, тупелі, ператвараліся ў нейкіх дзікуноў. Сваркі, маты, бойкі з-за дробязей панавалі ў брыгадах. З пабудовай клуба пачала ўкараняцца і тут некаторая разнастайнасць у жыцці. Работнікі КВЧ пачалі выяўляць сярод лагернікаў мастакоў і літаратараў, дэкламатараў і грыміроўшчыкаўь... Гурткі збіраліся ў клубе пасля работы на 2-3 гадзіны пад кіраўніцтвам выхавацеля. У адзін з такіх гурткоў запісаўся і я. У драматычным гуртку я быў суфлёрам, а потым іграў на сцэне ролі, выконваў нават абавязкі рэжысёра. Рэжысёрам мяне і называлі самадзейныя лагерныя артысты.

Трэба адзначыць, што ў лагеры знайшлося столькі таленавітых людзей, што задаволіць захапленне ўсіх адміністрацыя не змагла. Выбіраліся лепшыя з лепшых. Былі нават прафесійныя артысты і мастакі, спевакі і музыканты, талент якіх прападаў на лесанарыхтоўках. У гуртки запісвалася галоўным чынам моладзь сярэдніх гадоў, і сумленна выконвала свае грамадскія абавязкі. Кожны ўспамінаў якія-небудзь добрыя вершы, паэмы, драматычныя творы, уносіў прапановы і ў нашых умовах паказваў са сцэны. Сцэна была вялікая. Зрабілі з мяшкоў і фанеры дэкарацыю ў выглядзе палотнаў і шчытоў, было электрычнае асвятленне, прымітыўная мэбля. Касцюмы збіраліся для прадстаўлення ва ўсіх лагернікаў, у якіх захоўвалася што-небудзь з цывільнага адзення. Іншы раз выручалі касцюмамі ахоўнікі і вольнанаёмныя лагера.

Так са свету па нітцы ствараўся спектакль. Пачалі пастаноўкі з аднаактавых п'ес. Памятаю, ставілі мы на сцэне п'есы ўкраінскіх драматургаў Івана Катлярэўскага "Наталка Палтаўка" і "Назар Стадоля" Тараса Шаўчэнкі, а таксама "Рэвізора" Мікалая Гогаля, "На дне" Максіма Горкага і шэраг іншых. Ролі выконвалі цудоўна, таму наш драмгурток хутка заваяваў аўтарытэт у лагеры. Да нас пачалі прыходзіць на спектаклі і цэлымі сем'ямі асобы вольнанаёмнага складу, дзякавалі гучнымі апладысментамі. Зняволеныя, нягледзячы на стомленасць, заўсёды таксама слухалі канцэрт ці глядзелі пастаноўкі. Мы чыталі патрыятычныя вершы, дэкламавалі Уладзіміра Маякоўскага і Сяргея Ясеніна. Высокае начальства з Томска, пабываўшы на такіх спектаклях, дазволіла выязджаць на гастролі ў суседнія лагерныя пункты. Усё гэта ўносіла разнастайнасць у наша жыццё. На франтах у гэты час адбываліся вялікія поспехі нашых войск, вызваляліся занятыя ворагам тэрыторыі. Мы пачалі адчуваць канец вайны.

Непазнавальна змяняліся людзі, быў нават такі перыяд, што зняволеныя нічым не адрозніваліся ад цывільных асоб, седзячы ў клубе побач з вольнанаёмнымі. Штодзённая розніца была толькі ў тым, што лагернік не меў свабоднага руху і знаходзіўся ў рэжыме. Такія гурткі працавалі да апошніх дзён майго выхаду з лагера.

Многія з ліку зняволеных паказвалі свае здольнасці з КВЖД і цэнтральных гарадоў СССР і здзіўлялі сваімі здольнасцямі ўсю ахову. Жыхары, якія акружалі нас, не разумелі, чаму такі таленавіты народ знаходзіцца за калючым дротам, чым яны нашкодзілі краіне? Але, нягледзячы ні на што, датэрміновага вызвалення не было, справы не пераглядаліся і чакалі свайго, відаць, часу.

Зрэдку ў лагеры дапускаліся для моладзі танцы пад баян. Гэтым больш за ўсё захапляліся бытавікі-малатэрміновікі, бо яны знаходзіліся на больш прывілеяваным становішчы ў параўнанні з "палітычнымі", як нас часта называлі, хоць гэтыя "палітычныя" заўсёды прыносілі значна больш карысці лагеру, чым бытавікі.

Так праходзіла культурнае жыццё лагера, перамешваючыся іншы раз з дэманстрацыяй старых кінафільмаў ці хронік. У лагеры было вельмі многа культурных і таленавітых людзей, якіх зрэдчасу цаніла і ўсё начальства лагера. Успамінаюцца некаторыя прозвішчы. Гэта прафесар-хірург Аляксандр Цацкін, інжынеры Мяцельскі і Шатулін, механік Добнан, галоўны ўрач Кузьмін, жанчыны з КВЖД – Пушкіна, Сігунова і многія-многія іншыя, лёс якіх мне невядомы, але ў памяці маёй яны застануцца да смерці.

Многія з нас жылі вельмі дружна і дзяліліся апошнім кавалкам хлеба, толькі б дапамагчы адзін аднаму. Усе ў лагеры былі адзінокімі, без сям'яў і родных, ва ўсіх быў аднолькавы лёс. Але ўсе разам мы чакалі асабістага вызвалення з лагера і канца вайны, а таксама перамогі.

## Апошнія гады вайны

Прыкладна з 1943 года ў нашым лагеры пачалі наступаць перамены ў адносінах да зняволеных. Хоць кантынгент іх амаль кожны месяц мяняўся, дапаўняўся новымі этапамі, лагер знаходзіўся на транзітным становішчы, але да старажылаў, а такіх заставалася каля 200 чалавек, адносіны былі трохі гуманнейшыя. Гэтаму, па ўсёй верагоднасці, папярэднічала многае: перамогі на франтах, вызваленне савецкіх тэрыторый, захопленых ворагам, знаёмства з гітлераўскімі канцлагерамі і жахамі, якія там тварыліся, і блізкае заканчэнне ваенных дзеянняў.

Да нас прыязджалі непасрэдна з франтоў сярэднія камандзіры і салдаты, якія ўладкоўваліся тут, у тыле, работнікамі аховы. Гэтыя людзі, пабачыўшы жахі ў заходніх дзяржавах і на акупаваных тэрыторыях СССР, хіліліся да нас, каб паказаць сваю гуманнасць. Праўда, многія з іх былі здзіўлены, як гэта нас без суда і следства трымаюць дзесяцігоддзямі ў такой тайзе. Мы часта слухалі іх гутаркі пра гітлераўскія здзекі, пра спаленыя гарады і вёскі, аб перамогах на франтах і пра іншыя навіны, пра якія мы нічога раней не ведалі і не чулі, альбо ведалі толькі ў скажоным выглядзе. Дарэчы, старажылам неяк лягчэй і весялей стала накіроўваць надзею і жаданне на пошукі сваіх сем'яў, родных, знаёмых і іншых сваякоў. Вось чуем і чытаем, што нашымі войскамі вызвалены Украіна, Беларусь, Літва, Латвія і Эстонія, вызваляюцца іншыя заходнія дзяржавы: Польшча, Балгарыя, Венгрыя, Аўстрыя, Румынія. Дзе ж цяпер мне шукаць сваіх родных, а раптам іх вывезлі ў лагеры Бухенвальд ці ў Асвенцым, ці можа ў Германію? І розныя думкі мрояцца пры гэтым у галаве.

Тым часам з вызваленых ад гітлераўскай нечысці савецкіх рэспублік да нас прыбываюць захопленыя на гэтых тэрыторыях розныя ваенныя ці здраднікі Радзімы, якія паддаліся ў свой час уплыву гітлераўскіх акупантаў ці ўцекачоў з франтоў. Да нас пачалі прыбываць эшалоны так званых "уласаўцаў", "бандэраўцаў", фашыстаў і з іншых розных плыняў, якія ўтварыліся на тэрыторыі Савецкага Саюза. Людзі гэтыя былі асуджаны там, дзе іх схапілі, судзілі палявыя суды і трыбуналы, а тэрміны ім давалі не менш за 15-25 гадоў. У нас іх называлі катаржнікамі. Для іх будаваліся спецыяльныя зоны, апраналіся яны ў спецыяльнае катаржнае адзенне белага колеру з цёмнай устаўкай на спіне і левайназе на штанах. У кожнага такога зняволенага на спіне штампавалася на адзенні бушлата і кашулі якая-небудзь алфавітная літара (рыска і нумар, прыкладна так: Г-19 і г.д.). Па гэтых нумарах у нас праходзіла пераклічка: звароты па прозвішчах, імёнах і імёнах па бацьку для іх у лагеры не існавала. Калоны, якія ішлі працаваць, знаходзіліся пад узмоцненай аховай, групы чацвёрак ці пяцёрак павінны былі праходзіць, узяўшыся моцна за рукі. Па краях яшчэ замацоўваўся доўгі тонкі ланцуг. Вось з такімі арыштаванымі мы сустракаліся ў апошнія гады вайны ў нашым лагеры. Уражанне было даволі жахлівае. Мы на гэтым фоне выглядалі зусім інакш, што многіх супакойвала за свой будучы лёс.

Наогул, я ніколі не верыў. што я ў чым-небудзь вінаваты, і ведаў, што знаходжуся тут толькі па волі лёсу і па нейкім непаразуменні. Маё зняволенне падыходзіла да канца тэрміну, хацелася толькі захаваць жыццё ў такія маладыя гады. І я пачаў шукаць сваіх родных людзей на Бацькаўшчыне. Я гутарыў з тымі, хто прыбываў з Беларусі, пісаў у горад Бугуруслан, куды, як я потым даведаўся, былі перавезены ўсе дакументы і адрасныя бюро, але ўсё было дарэмна. Адказы, калі і прыходзілі, то з такім зместам: "Па вашаму адрасу памянутыя вамі асобы ў спісах не лічацца" і г.д.

Так я рабіў пошукі прыкладна каля двух гадоў. Аднойчы ад'язджаў з нашага лагера адзін, прыехаўшы з Мінска, інвалід Вялікай Айчыннай вайны, беларус, нехта Мікалай Сцяпанавіч. У яго была прастрэлена нага, тут ён адпачываў пасля ваенных дзеянняў і працаваў пры лагеры. У размове з ім дзесьці напачатку 1945

года я яму расказаў усю гісторыю свайго жыцця і, паколькі ён ехаў на Радзіму, прасіў дапамагчы адшукаць мне хоць каго-небудзь з маіх родных. Даў некаторыя адрасы, якія памятаў. Ён паабяцаў дапамагчы.

Тым часам, амаль у адзін і той жа месяц, мая сястра Леаніла Максімаўна (Ліля) адшуквала мяне па ўсіх інстанцыях, якія толькі ёй былі вядомыя. Так, напрыклад, яна напісала начальніку першага спецаддзела НКУС СССР у 1944 годзе. Яе заява была накіравана начальніку УІТЛІК УНКУС Новасібірскай вобласці 3/1-1945 г. № 229075 Масквы з суправаджальнай запіскай, у якой паведамлялася: “Начальніку УІТЛІК Новасібірскай вобласці. Горад Новасібірск. Накіроўваем заяву Бурсевіч Леаніла Максімаўны для праверкі месцазнаходжання Бурсевіча Ігара Максімавіча і непасрэднага адказу заяўляльніку. Адначасова паведамляем, што звестак пра месцазнаходжанне Бурсевіча Ігара Максімавіча мы не маем”.

Новасібірск адсылае гэта пісьмо ў Тамлаг, і там вядзецца праверка спісаў. І ўсе паперы даходзяць да мяне, за чытанне іх я і распісаўся. Тады толькі я зразумеў, што мама, брат і сястра жывыя – і знаходзяцца на вызваленай тэрыторыі БССР.

А зямляк, з якім я размаўляў перад ад’ездам у Мінск, па прыбыцці ў Беларусь напісаў некалькі паштовак па вышуку маіх родных і на адну з іх атрымаў адказ, што мае маці, сястра і брат жывыя і знаходзяцца ў шасці кіламетрах ад Магілёва. Ён ім напісаў пісьмо і адказ сястры прыслаў мне ў лагер. Пісьмо гэтае, як рэліквія, захоўваецца да гэтага часу. Вось яго поўны тэкст: “Шматпаважаны Мікалай Сцяпанавіч! Ваша дарагое пісьмо мы толькі ўчора атрымалі. Мы вельмі задаволены, што хоць адзін чалавек ёсць, які хоць што-небудзь можа сказаць пра нашага сына і брата Ігара. Гэта Вам піша Ліля – сястра Ігара.

Мая маці ўжо вочы праплакала за час гэтай вайны. Толькі ж вайна зрабіла так, што мы перасталі ведаць пра жыццё і здароўе майго брата. Маці яго лічыць даўно мёртвым, ці дзе загінулым без вестак. Мая і, вядома ж, маміна да Вас просьба: напішыце падрабязна пра сябе. Вы, па ўсёй верагоднасці, сябра Ігара. Напішыце пра брата ўсё, што Вы ведаеце, дрэннае ці добрае. За ўвесь час ваенных дзеянняў ён нам нічога не напісаў.

Мы жылі доўга ў Магілёве, але маёмасць страцілі, пакінулі сваю старую кватэру і ўсе апошнія гады знаходзіліся ў партызанах. Нам давялося шмат перажыць, удзельнічаць у партызанскіх аперацыях супраць гітлераўцаў, але мы, на шчасце, усе жывыя і здаровыя. Жывем цяпер не ў горадзе, а ў шасці кіламетрах ад горада. На раёне ж лягчэй цяпер пражыць. Нам калгас даў прадуктаў, сама я настаўніца. Калі будзеце пісаць нам, паважаны Мікалай Сцяпанавіч, то пішыце на наступны адрас: г. Магілёў. Цішоўскі с/с. Буйнічы НСШ, атрымаць настаўніцы Бурсевіч Леаніле Максімаўне. Калі Вы ведаеце адрас Ігара, апошняе яго месцазнаходжанне, то прашу, напішыце ў пісьме. Да пабачэння. Усёй сям’ёй з нецярпеннем чакаем ад Вас адказу. Ліля. Сакавік, 1945 года”.

І вось гэта пісьмо паклала пачатак маёй перапіскі з маімі дарагімі, роднымі людзьмі. Я напісаў ім і хутка атрымаў маленькія грашовыя пераводы, а таксама пасылку з прадуктамі і тлушчам. Ад радасці, пасля такіх цяжкіх гадоў разлукі, яны, мае родныя, адарваўшы ад сябе кавалак хлеба, прыслалі мне. Хіба забываецца такое ў жыцці?..

Вайна заканчвалася. Немцы паўсюдна былі выгнаны з нашай тэрыторыі, вайна ўжо грымела ў самой Германіі. Але нас на свабоду не выпускалі.

Мы працавалі ў тыле для заканчэння вайны, не шкадуючы жыцця і здароўя, рабілі ўсё магчымае для нашай Радзімы. Час заканчэння вайны быў нам вядомы. Усе мы радаваліся за перамогу нашых войск, нашага народа, хоць самі ў гэты перыяд працавалі за калючым дротам.

Пасля заканчэння вайны, шэрагі зняволеных пачалі змяншацца, многія адыходзілі ў сувязі з заканчэннем тэрмінаў. Я дажыў у лагеры да 21 жніўня 1947 года.

У 1944-1945 гадах, а затым і да вызвалення, я адпрацаваў галоўным энергетыкам, начальнікам электрастанцыі, галоўным механікам пры лесазаводзе, будаваў, рэканструяваў, удасканальваў, прыстасоўваў тэхніку для вытворчасці і, вядома ж, вучыўся сам. Здароўе маё стала значна папраўляцца, хоць да поўнай дасканаласці было вельмі далёка. Я ўвесь быў сівы яшчэ з 1937 года, пасівела барада і вусы, нагадвалі пра сябе радыкуліт, болі ў жываце, нервовае хваляванне. Такім я быў да заканчэння тэрміну, прышытага мне нізашто.

За дзесяць гадоў знаходжання ў лагеры ніякіх адказаў на вынікі свайго гадайніцтва я не атрымаў. Ніякага перагляду справы не ажыццяўлялася, таму я ў лагеры адпрацаваў і адбыў, як кажуць у народзе, ад званка да званка.

## Вызваленне

За некалькі месяцаў да майго вызвалення ў 1947 годзе сярод лагернікаў праводзілася апрацоўка лепшых спецыялістаў даць падпіску пасля заканчэння тэрміну на пераход у распараджэнне ГУЛАГа. Прапаноўваліся розныя месцы і пасады, умовы, кватэра і г.д. Некаторыя, безумоўна, на гэта ішлі, пагаджаліся. Кіраўніцтва лагераў усё казала нам, што пасля выхаду на свабоду і выезду з Сібіры на Захад нас зноў ізалююць ад грамадства і вышлюць у якія-небудзь іншыя аддаленыя раёны Расіі. Але многія зняволеныя з гэтым не пагаджаліся і настойліва дабіваліся звальнення пасля заканчэння тэрміну і выезду з халоднай Сібіры.

Так адбылося і са мной. Я ўжо за два гады, пасля пошукаў родных, ліставаўся з імі, даведаўся пра іх жыццё, здароўе, быт. І маё сумленне не дазволіла мне заставацца тут без родных маіх людзей. Я хацеў дадому. Мне трэба было падтрымліваць іх, як маральна, так і матэрыяльна. Неабходна было таксама адшукаць бацьку. Дзе ён зараз, наш дарагі і любы тата, думаў я тады. З гэтымі думкамі я дажыў да заканчэння свайго тэрміну.

21 жніўня 1947 года, а 19 жніўня мне споўнілася 36 гадоў, мяне выклікалі ў кантору з нагоды афармлення дакументаў на звальненне. Я здаў сваю справаздачу, таму што меў на ўліку некаторыя матэрыяльныя каштоўнасці. Здаў лагернае адзенне, абутак, пасцель, якая лічылася за мной, падшукалі мне чалавека з асяроддзя, якіх тут называлі "катаржнікамі", нейкага інжынера-электрыка Г-19 па прозвішчы Белавус, які прыняў у мяне вытворчасць, электрастанцыю, гаручае і змазачнае паліва. Недастачы ў мяне ніколі не было. І я атрымаў даведку наступнага зместу.

*Форма А.*
*Відам на жыхарства не служыць, пры страце не аднаўляецца.*
*Міністэрства ўнутраных спраў СССР.*
*Калонія "Д". 21 жніўня 1947 г. І-ВС.*
*Даведка № 4835*
*Выдадзена гр. Бурсевічу Ігару Максімавічу, ураджэнцу Польшчы, грамадзяніну СССР, нацыянальнасць – беларус, асуджанаму па справе УНКУС Іванаўскай вобласці 10/XII-37 па арт. КРД УК РСФСР і пазбаўлення волі на 10 гадоў, не судзімы, у тым, што ён адбываў пакаранне ў месцах зняволення МУС па 21 жніўня 1947 года і па адбыванні меры пакарання з прымяненнем арт. 39 "Палажэнне аб пашпартах" і вызвалены 21.08.47 г., накіроўваецца да выбранага месца жыхарства ў БССР, Магілёўскую вобласць, г. Магілёў, да станцыі Магілёў Беларускай чыгункі.*
*Начальнік лагера "Д" Сідарэнка.*
*Начальнік ОУРЗ (УРЦ) Калініна.*
*Пячатка.*

На адваротным баку даведкі напісана:
*Выдадзена прадуктаў на 13 сутак па 3 верасня 1947 года. Выдадзены білет*

*на праезд да станцыі Магілёў Беларускай чыгункі коштам 198 рублёў. Вернута асабістых грошай – 1494 рублі і 40 кап.*

Вось з такой адзінай даведкай у руках я выйшаў за зону лагера ў асобе грамадзяніна СССР. У зоне лагера звычайна зборы бывалі нядоўгія, да таго ж усё было падрыхтавана загадзя. Усе лішнія асабістыя рэчы звычайна застаюцца ў спадчыну таварышам, якія знаходзяцца ў зняволенні. Усё тое, што ў мяне было з абутку, адзення, посуду, я пакінуў у бараку. Развітаўся з сябрамі па лагеры і па рабоце. Да варот на развітанне са мной выйшла шмат вольных ці вызваленых па хваробе лагернікаў. Многія далі адрасы сваіх родных. Пасыпаліся рэкамендацыі, куды і як ехаць. Памятаю, са мной шчыра развіталіся адзін інжынер В.П. Колесаў, механік Г.І. Дробнаш, электраманцёр Б.І. Уткін, жанчыны Н.Н. Няфёдава, А.З. Дабравольская, А.А. Шурыгіна, Т.М. Кісялёва і іншыя. Усе мне жадалі шчаслівага шляху дамоў. І я ўсім жадаў добрага здароўя і хутчэйшага выхаду адсюль на волю. Са слязамі на вачах я развітаўся з усімі. У жыцці гэта вельмі шчымлівы момант, які немагчыма апісаць. У гэтым развітанні спляліся разам у адзін вянок горыч і радасць, мінулае, сучаснае і будучыня. За дзесяць гадоў у лагеры было столькі пройдзена дарог, вырублена лесу, пабудавана, упарадкавана, што нават уявіць цяжка.

За зонай я пражыў у вольных грамадзян яшчэ каля двух сутак, пакуль аформіў сабе пашпарт. Выдалі яго толькі на тры месяцы.

Са станцыі Ітатка цягніком я дабраўся да Томска. У Томску мяне таксама прынялі знаёмыя людзі, якія вызваліліся раней з месцаў зняволення. Я аформіў білет на цягнік, прабыў там паўтары сутак, крыху пазнаёміўся з горадам Томскам, яго старымі сібірскімі вуліцамі, пабачыў будынак Томскага ўніверсітэта і ўвечары адбыў цягніком на Новасібірск. Пры мне з рэчаў быў невялікі драўляны самаробны чамаданчык з неабходнай правізіяй і бялізнай.

Бывай, Томасінлаг, бывай, суровая стыхія! Я больш цябе не ўбачу і бачыць не жадаю. Я трымаю курс на захад, у родную Беларусь.

*Фотаздымкі з архіва Сяргея Чыгрына.*

Генадзь Лапацін



...матка сказала –
закон!..

# Паслядоўніца

***Алена Грэцкая ў расповедах Варвары Грэцкай***

***«У яе чэцвяра дзяцей было нежывых…»***

* * *

Еслі б матка вучылася. А то рэвалюцыя. І матка. Паны зналі, што рэвалюцыя будзя. І пан сказаў: «Я Полю с сабой забяру». А дзед і баба не аддалі. «Ты будзіш, бывая, уцякаць, сваіх ты забярэш, а ету кініш. Будзя гаряваць, дак лучшы ніхай у нас будзя». А пан хацеў с сабой забраць і сказаў: «Ета ў мяне будзя дзве дачкі – Тамара, Поля і Аляксандр». Яны кудысь, наверна, у Амерыку з'ехалі. Грошай хватала. І я пытала ў маткі: «Вы нікалі ні пабіліся?» Матка казала: «Нікалі! Чаго мы будам... Я іх, як родных, счытала і счытаю». Еслі б матка вучылася, яна б высокім чылавекам была. То схваціла, што дзяцей вучыла тая ўчыцільніца. Дак учыцільніца казала: «Вот тыя ня так схватывалі, а етай раз скажы, яна ўжо ўсё здзелаіць і знаіць». Пан уехаў, а дзед з бабай забралі матку... Свіням траву сабірай, у грыбы хадзі. А калі б яна

*Працяг.*

*Пачатак у №№3-4 (118-119).*

Асаблівасці гаворкі захоўваюцца.

з панам паехала. Пан сказаў: «Я сваіх дзяцей навучу грамаце і Полю ня кіну. Мы палюбілі яе, як родную». Ёй капейкі давалі, а яна насіла дзеду і бабі. Вот дадуць. Пан не бярэ. Пан толькі навучаў. Ён жа на дурноя не навучаў. Пан кажа: «Сёдні госці ка мне прыедуць». «Я стаю». – «А тыя стаяць?» – «А тыя не. У тых хватая, у панавых дзяцей». Пан кажа: «Поля, ідзі». Я тады табурэтку бяру, станаўлю, узлезу: «Давайця, пан, я вас раздзену». – «Ну, памажы». За рукаў падзяржыцца. Ці ў яе сіла... Яны памагуць, штоб ня ўпала пальто. Я павесіла. Мне дзве капейкі ці пяць залатых дае. Я вазьму, прынясу пану і гавару: «Пан, вот вашы капейкі». А ён і кажа: «Не. Ета ты зарабіла. Аддай дзеду і бабі. Мне яны ня нада». І паненку раздзену. І паненка мне заплоця. Я капеяк етых назбіраю і на пана: «Панясу аддам дзеду і бабі». А ён будзя казаць: «Ня нада. Я цябе сам адвязу. Патаму шта будзіш ісціць, бывая, пахваліссе каму». Ён возьмя, на брычку пасодзя. Мы з няняй... Адвязуць нас. Там упраўляюшчы быў. Я гавару: «Дзед, прыязжалі пан с паненкай. Мы раздзелі». Дзед і баба бралі. Купілі веялку. Тады ішлі ў калхоз, усё ў калхоз пашло.

* * *

Ходзяць коні над рякою
С апусціўшай галавою,
Ходзяць коні над рякою
І шукаюць вадапою.
Хоць бы найціць ручаёчык
Памачыць хоць язычочык.
Усе рэчкі паўсыхалі,
Кругом травы ўсі павялі.
Каля рэчкі барёза, бярёза,
Пабялела ад жары кожа,
Пазасохлі карянёчкі,
І пажаўцелі на ёй лісточкі.
Толькі тонкімы вятвямы махала,
Да зямелькі даставала,
Пад бярёзай дзеўка гуляла,
Русу косачку чысала,
Правай ручанькай махала,
Коней табун прызывала:
«Ідзіця, коні, табуною,
Напаю вадой вас ўволю».
А ў полі срядзі жыта
Там халодная крыніца,
Дзеўка коней падагнала,
Вядром ваду даставала.
І ўсіх коней напавала.
Коні ў табуне стаялі,
Толькі галавам махалі.
Вядро вады набірала,
Ліцо бела ўмывала
І па бярёзі таскавала.
Аднясла б хоць два вядзёркі,
Паліла б ёй карянёчкі.
І бярёза б не завяла,
А зялёная стаяла.
Пад бярёзу б гуляць хадзіла,
Ёй усё горя гаварыла.
А бярёза б зеляная
Нікаму б ні расказала.

Ета калісь бацька мой пеў і матка. Вот любілі ету песню. Ета матка калісь: «Давайця спяёма! Я сіратой жыла, некаму мне было пажаліцца. Ні бацькі, ні маткі, ні брата, ні сястры. Дак прыду, кала ігрушыны пасяджу, паплачу, памяну іх, бацьку

і матку, а жаласці ні бачыла ні бацькавыя, ні маткінае». Шэсць гадкоў было ёй. Я кажу: «Мам, помніш ты матку?» А яна гаворя: «Хватаграфіі не было. Ня знаю. Уродзе, помню штось. Матка спала. Мёртвая, наверна, ляжала, дак я тое запомніла. А так нічога ня помню. Ня дай Бог сіратой быць. І станіш ня там, і скажыш ня то. Толькі ў пана я дзецтва і пабачыла, як у пана служыла. І жаласць бачыла ад пана». Я гавару: «Мам, а чым ён цябе жалеў?» – «Чым жалеў? Расчэсыя косы Тамары <*дачцэ яго*>. Пан прыказаў. Нянька была.// Спецыяльна глядзела іх: і карміла, і гуляць вадзіла па парку. Чысцінькае надзяе, дзень паходзіма, тое ўжо сціраяць. І мне. І ёй плайціка купляе, і мне такое. Ужо роўнае. І хлопчыку Аляксандру. Еслі новае. Значыць, усім к Вялікадню новае». Я гавару: «А баба?» – «Адкуль у бабы грошы? Пасціраяць, пакачаюць на качолку: «Ета, надзявай!» Льняное. А сітцавае не было. Сітцу метру недзе было ўзяць. А ў пана я пакрасавалась».

### *«У пятнаццаці гадах матка замуж пашла...»*

* * *

У пятнаццаці гадах матка замуж пашла. Яна сірата. У дзеда і ў бабы. Вот бы ты жыў у дзеда і ў бабы. І сын жанаты, у тога было трое дзяцей, і дзед, і баба, і прабаба, баба ішчэ жылі ў іх, і матка наша – сям'я такая бальшая. Дак ім абы-куды здаць. А бацька славіўся, харошы ён быў, бацька наш, ён і граматны быў. Халасьцякамы етыя хлопцы ўжо хадзілі на клырус, пелі яны красіва, мужчыны, і дзеўкі, тады ўсе на клырус хадзілі, баба наша, і матка. І цэрква аж раўла! Усі стаялі. І старыя. І малыя. Учылісь. Пелі.

* * *

Матка ўсё хваля свёкра і свякруху. І дзеда Ягора, і бабу Алёну. Гаварыла: «Я люблю яе, як матку родную. Я маткі роднае... Шэсць гадкоў мне было. Я яе і ні помню. Картачкі німа яе. Дак мы ні знаіма, якая баба тая была. Мы гаворым: «Мам, якая твая матка была? Харошая?» Яна гаворя: «Ну, я ні знаю. Харошая... Плахая... Мяне ж яна не глядзела <...> «А маткі ж, – гаворя, – я ня помню. Хватаграфіі німа. Якая яна была. На каго пахожа... На бацьку ці на матку... Я ж ня знаю...» Шэсць гадкоў было матцы. Адкуль яна будзя знаць.

<*І бацьку свайго не знала?*>

І бацьку ні знала які. Адкуль яна будзя знаць. Яна ў дзеда і бабы. Шэсць гадкоў, яна засталася ў дзеда і бабы. Дзед і баба сказалі: «У нас ніхай жыве». А бацька дзесь прыжаніўся. І двое дзяцей было ў тыя маладзіцы.

<*Матка не расказывала пра сваіх дзеда і бабу?*>

З кім яна расла? Замуж яны яе аддалі. Пятнаццаць гадкоў было ёй, і бацька аблюбаваў яе. Бацька мой быў жынаты, а жонка радзіла, з радоў памёрла. Астаўся дзіця маленькае. Баба глядзела. Гаворя: «Саша жаніся. Мне і дзіцёнка етага глядзець...» Дзіцёнак той пабыў і памёр. Ета ціперь дзіцям: і пітаніе дзецкае... А тады каша пшонная. Хоць крухмалу якога, малако закіпіць, разбалтаюць. Дак яна казала: «Дзед харошы быў Ягор». І пра етых, што яна расла ў іх. «Дзед мяне жалеў і баба жалела. А дзядзіна ё дзядзіна. Дзядзька Ілля быў, маткін брат. Што ён? Куды нада, дак: «Поля, бягі!» А Соня і Грышка, у іх дзеці, етых нікуды. Ішчэ баба і дзед жылі. Яна пашла замуж. Бацька сказаў: «Ходзя тут чорнінькая, худзінькая дзевачка. Мне яна так наравіцца». – «Дак ў яе ж ні бацькі, ні маткі». А ён гаворя: «Ета ні важна, што німа. Яна ж іх ні ўбіла, ні прапіла, а памёрлі». А дзед Ягор харошы. Матка казала: «Яны мяне век нідзе ні абсудзілі, ні абгаварылі. Усё: «Мая дочычка... Дочычка...» Я ні абіжалася на іх». І баба памёрла ў нас. Дзед памёр. І бацька малады памёр, трыццаць сем гадоў. А баба з намы жыла, пакуль і памёрла. А матка ўперяд памёрла на тры гады. Са мной баба жыла. І я бабу пахавала. Са мной яна жыла.

***«Мяне матка ряджала і розум укладала…»***

* * *

А, можа, хто прыказку і казаў. На мяне казалі: «Цыганская галава... Жыдоўская галава... Сталінская галава... О-о-ох! Сталінская галава... Ета маткіна юха...» Маткіна юха... А знаіш, юха? Маткіна юха – мол, удалася ў матку: і хітрая, мол, і ўсё запомня... Я, еслі я запомню, сто раз паўтарю тое-самае, штоб не забыць.

<*Чаму юха? Што за слова?*>

Говоряць: пахожа ўся на матку... «Во маткіна юха...» І вот урэдны дзіцёнак бывая, дак будуць казаць: «Ета...» Бацька ўрэдны Арцёмачка быў, такі быў і Сяргей у іх, дак бабы будуць казаць і мужчыны: «А вылітая бацькава юха... Выліты бацька!» Там разбіць, там кагосьць пабіць, там кагосць абідзіць, абсквірніць... Так кажаць: «Ета бацькава юха...»

* * *

Сталінская галава... Ніхто не абдуря... Матку нашу... Матка вумная наша была. Яна без счатоў пасчытая... І будуць казаць: «Ну, ці так ты?» Дзед Папок казаў: «Поля, ну, ты... Прыду дамоў, напішу, што яна сказала ў магазіні столькі-столькі...» На ўсіх нас: «Сталінскія голавы...» Казалі: «Вазьмі яе... За руб двацацць ні возьміш...» Матка гаворя: «Мяне матка ряджала і розум укладала... Ряджала і такога вумнага сабражала... І ўсе мае дзеці вумныя...»

<*Як гэта: за руб двацацць ні возьміш?*>

Вумныя, не абдурыш...

* * *

І ты ж не дурны, ты знаў, што сталінская галава – вумная... Усюды зналі... Матку нашу звалі калісь... Калісь Жаваранка: «Эх, сталінская галава... Ты век не будзіш галадаць...» Матка наша: «Я на паўгода напярёд знаю, якая будзя жызня і з чым пітацца і чым... Я ўжо абдумала...» Усюды гаварылі: «Нада сталінскую галаву імець... Пражывеш...»

* * *

Усё казалі на матку нашу: «Ета жыдоўская галава!» Мол, жыды вумныя былі. А матка: «Якая ў мяне галава: ці жыдоўская, ці цыганская...» – «Цыганская галава ў яе!»

<*Так і казалі на матку, што ў цябе жыдоўская галава?*>

На матку: «У цябе жыдоўская галава! Жыды ж вумныя. Цябе, жыдоўскую галаву, ніхто не абдуря». А матка: «Не, не абдуря...» Калісь у магазіні была. Усё ў яе было. Яна сама сябе рявізію здзелая. Усё калісь казаў Варсаногаў, быў прэдсідаціль сільпа: «Грэцкая, табе можна была і па тры гады рывізію ня дзелаць. У цябе ўсягда будзя шык-блеск. Вот жыдоўская галава! Колькі ё. Ета – ты, да Дрычыха ў Закружжы... Дзве жыдоўскія галавы!»

<*Чаму жыдоўская?*>

Жыды ж вумныя. І ў школі вот каторы вучыцца, дак говоряць: «У яго жыдоўская галава». А хто гаворя: «Цыганская галава! Цыгане. Вазьмі. Век не абдурыш... Хітрыя. Так і на матку казалі».

<*Сталінская галава.*>

Сталінская. Сталін жа вумны. А матка кажа: «Слава цябе Госпадзі, што не кажыця, што вон, як ў Яўмена Кряжыкава, галава. Вы мяне называіця жыдоўскай галавой да цыганскай. А не раўняіця мяне к дураку. А раўняіця мяне к вумным». А як на дурнога: «Ты ўжо, як Яўмен Кряжыкаў!»

* * *

Яна на правленіі ўсё знала. Ён жа прызідзентам быў. Дак ў яго ж вумная галава. Дак яны і матку звалі Сталінская галава. Матка наша таргавала ў магазіні. Усі бабы неграматныя. Яна сірата была круглая. А самавучкай кала панскіх дзяцей навучылася. А Сталёнага звалі Сталяная галава. Што крэпкая галава.

* * *

Сталін жа вумны быў. Усё калісь казалі: «Вумны Сталін». Дак як што, дак гаварылі: «Сталінская галава». Матку маю звалі... Мая матка... Дак калісь Амерыканчыха праклала прозвішчэ ёй. «Во ідзець Сталінская галава». Дак матка гаворя: «Чо ты міне так празвала?» А яна смяецца. Ну, ня ўсі звалі. Бабы ў шутку казалі. «Чо вы, – гаворя, – мяне так празвалі? Чым я вам дакарыла?» – «Чым? А то шта на двух работах работаіш і спраўляісся. І ўзяць Падкаменне, узяць Амяльноя, у такіх гадах ніхто начальнікам... Дак ніхто ў ета дзела ня ўлазя. А ты ўзялася і счытаіш, прадаеш, і ўсё ў цябе харашо і ладна». Калісь быў Кашэль, Кашалём дражнілі, цёлку пратаргаваў. Манячкіна Ліда стала, сем класаў кончыла, пратаргавала, дак бацька кабана здаў, расчытаўся. І там багата... Хто ня станя, недачоты, недачоты. Вот прадаваць, судзіць жа будуць... Аддай грошы гасударственныя. А матка наша пашла. Яны ўжо прышлі: «Грэцкая, ты ў Сівінцы таргавала». З бацькам яны таргавалі ў Сівенцы два гады. І там былі недачоты, недачоты ва ўсіх. Матка з бацькам сталі туды таргаваць, і недачотаў не было. Дак яе цанілі, хацелі ў «Райсаюз» забраць. Усё казалі: «Мы цябе, Грэцкая, забяром у «Райсаюз». А тут у бацькі лопнул апендыцыт. Не паранёс аперыцыю і памёр. А матка ж адна. Кінула. Некаму глядзець. Кінула ў Сівінцы. Яны не пускалі: «Таргуй у нас. Мы каня. Едзь нанач дамоў». Матка гаворя: «Буду ехаць, ключы адбяруць і магазін аббяруць. Не паеду». Дак яны яе на Амяльном. І недачоту не было. Дак яна і гаворя, Амерыканчыха: «Я цябе сталінскай галавой празвала, што і ў магазіні, і атчоты дзелаіш, і за таварам ездзіш... І таргавала. Нада ж было расціць дзяцей. Нас было пяць, баба шостая, матка сёмая. Сем чылавек. Вот дай ціпер табе сем чылавек! Дак яны: «У цябе, Грэцкая, сталінская галава». Праўленіе бывая ў калхозі, абсуждаюць, ці сабраніе, і будуць сядзець, мужчыны выступаюць. Сядзяць усі. І матка будзя сядзець. Калісь дзед Чыгунок сядзіць і кажа: «Грэцкая, жду, калі ты выступіш!» А матка гаворя: «Ня буду выступаць, а то сталінскай галавой завуць!» А ён: «Не абрашчай ўніманія. Я знаю, што вапросамы ты зысыпіш: і тоя ня так, і тоя ня так!..» Матка ўстаня і ў вочы рэжа. Не паглядзіць, ты прыдсідаціль ілі брыгадзір. І ўсё ім падказывала. Дак яны так і гаварылі: «Сталінская галава».

* * *

Ета хітрыя людзі такія бываяць. Наша матка еслі захоча што-нібудзь, яна і к начальнікам падлезя і пагаворя з імы. Наша матка цанілася. Усё калісь дзед Майка гаварыў: «Ух, Грэцкая! Ты к чорту за пазуху і то залезіш».

* * *

Пашкіна бацькава матка на матку сказала: «Прахадзімка. Ты к Царю Давыду і тому даб'ессяя». А матка гаворя: «Адной жывучы, нада і сцаць бегучы. Зато ў міне ўсё ё, куды ні цапну: і крупа, і мука, і бульба, і кашу густую варым. Вы жыдзінькую варыца, і то церяз дзень. За то, што ў калхоз не ідзіцё. Адарка зато сядзіць, як царэўна».

* * *

Наша матка ў школу не хадзіла. Толькі, што ў пана схвацціла. І такая вумная. Мы не ўдаліся ў матку. Наш Сяргей, Сярёжка наш. Выліты, вырязаны, як матка. Ён на ходу падмёткі рве.

<*На ходу падмёткі рве. Гэта як?*>

Ну, на ўсё атлёт! Кажаць: «Вот ужо! На ходу падмёткі рве. Як ты ідзеш, можна сарваць? А такія хлюсты рвуць.

Ішчэ казалі: «Ідзець, аж іскры с падашвы сыпяцца». Як другі ідзець – шкроб-шкроб. А другі ідзець, ногі падымая высока. Коні ўсі роўна бегаяць? <*Не*> А людзі ўсі роўна ходзяць? Не. Ну вот кажаць: «Ідзець, аж іскры з падашвы ляцяць!» Хто скажа: «С падашвы». Хто: «С каблука». Хто як скажа.

* * *

Будзіш ты гаварыць што-нібудзь такое. Абы што. «А ета – пустая вада!» Вот мужчыны каторыя ё. На сабраніі. Другі мужчына выступая, лёпка гаворя. Усі – цішына! Во Чыгунок дзед, Касцючкаў дзед, дзед Жаваранка... Такія хазяйлівыя... І будуць гаварыць – цішына. А другі будзя малоць... Гоман, гоман. Ты будзіш сядзець, скажыш: «Во ўжо пустая вада. Пачаў, будзя трандзець барыню». Ня слухаяць яго. Так жэ і бабы. Мая матка. Як толькі. Маўчаць будзя... Прэдседацель: «Грэцкая, шо-та ты замёрла?» Яна будзя казаць: «Нет настраенія». Ён: «Ну, значыць, усё ні так! Давай тваё прэдлажэніе, як». Матка будзя казаць: «Нада тое-тое іздзелаць». Не наўрэд, а штоб калхозу была польза. І матка Вася будзя казаць, Кавалёва была, вот такія. А другія бабы сядзяць, як чуркі. Яна нічога: «Вы – праўленіе, вы ряшайця». Дак нада ж і збоку падказаць.

* * *

Матка прышла. Яна скрозь і ў выбарах была, вот выбары, нада там сядзець. І ў магазіні таргавала. Наша матка цямкая была. Толькі два класы кончыла. Дак на чорта тых дзесяць ціперака ці адзінаццаць? Такая яна вумная была. Штоб з яе было, калі б яна далей пашла? А сірата круглая была, ні маткі, ні бацькі. А дзед і баба скарэй замуж аддалі: «Ідзі. Хлопец харошы, пачотны». Дак яна пашла замуж, да дзяцямы абманталась. Но ўсё раўно яна была... Ета матка Вася на нашым пасёлку, бальшоя сяло было, і наша матка. А то былі такія, што ня ўмелі распісацца.

* * *

Харошая хазяйка – яны галадаць ня будуць нікалі. А паганая. Еслі палучку палучыла, пяць мяхоў зярна: «А-а-а! Куды яго дзяваць?!» Курям насыпя. Тут і вароны, і сарокі, і вераб'і. Усё падаўбуць. А тады стаіць кала амбара: «Дайця хоць пасеіць!» А путныя... Матку нашу ні любілі. «Грэцкая нікалі ня пойдзя!» Таму шта галава варыла. І ў нас у паглум не ішло.

* * *

Калісь послі вайны сталі высякаць і яблыны, і вішні. Ну, мы не высякалі. Наша матка вумная была і баба. Дзядзька прышоў: «У міне было дзве вішні, я ссёк». Матка: «Я ня буду ссякаць ні яблан, нічога. Ну, што ета такоя? Гадамы расціць. Дубчык. Пакуль вырасце плод. Ссеч нядоўга». Ну, ета ўсё ў сваіх руках. Як харошы прэдседацель сельсавета, ён атмеця, што німа яблан. А там адну запіша. Адчапнога. А як дурны.

### ***«Полячка, у нітку цягніся...»***

* * *

Баба ўсё калісь казала: «Полячка, у нітку цягніся, штоб дзеткі не галодныя былі». Усі так казалі: «У нітку цягніся, да не атставай ад людзей».

* * *

Матка кідалася, як з агня ў полымя. Усё так казалі: «Кідаіцца із агня ў полымя». Ну, работая ўсюды. А тыя бабы сядзяць хоць бы што...

* * *

Ё такія, што будзя ў хаці ў цябе сядзець, і будзя цябе падкавыряваць... Калісь матка Жаваранку дзеду казала: «Жаўрэль, не хадзі ты к нам!..» Бацька памёр: «Во як памёр твой Грэцкі!. Ты палядзіш, як ты сваіх цыплят вырасціш...» На нас... Нас пяцера. А матка: «Пайду, сама буду еле лепець, а сваіх цыплят нікада ні папрашу, штоб хто-нібудзь пакарміў. Усягда сама накармлю і абагрэю...»

### ***«Матка сказала – закон!..»***

* * *

«Матка сказала – закон!»

* * *

Мы маткі баялісь, як агня. Зналі, што матка ня ўважа сваё. «Б'ю, значыць, стоя».

* * *

Абора ў нас вісела. Матка як свісня: «Ета я за тоя нябыльнае слова, што ты сказала. Панятна табе?» – «Мам, болей ня будам». І мы знаім, што ў нас у двары етага няльзя гаварыць. Баба: «Няльзя гаварыць!» – «Дак вон у Крыўцовых гаворяць, у Жаваранкавых». – «Ніхай гаворяць. Бог усё чуя. Ня нада. К дурному прывучысся і будзіш гаварыць».

* * *

На грубы калісь прыгаіма. Матка: «Разломіця грубку! Аборай рассяку!» Ціперяка як шкрабні малога дзіцёнка, ці там, чуць грязны, дак яны ўжо і мацярынства ляшаяць. А калісь атніжа матка. Зло бярэ. Бацькі не было. І абора ў нас вісела. Той свісня разоў пяць.

* * *

Ёсць сем'і. Яны бацькінага і маткінага духу баяцца. У харошай сям'е. Яны баяцца духу. «Ой, бацькі баімся!»

* * *

Ета ціпер беспарадчына пашла. Дзеці слухаяць? Таму шта вазьмі шэрабні яго чуць. Усё! Аццоўства да мацярынства лішаяць. Ой-я-ёй!.. Грязны дзіцёнак. Чорт яго бяры! Парастуць лучшы, чым у той чыстаце. А то чыстая плацця надзеніш на Вялікадня, дак баісся, штоб ні памяць яго, а то матка лупцоўкі дасць!

* * *

Матка на нас: «Цоўбы павыраслі. А дурныя. Павыраслі да неба, а дурныя, як трэба». Ці падрасце дзіцёнак. Я на Карыну казала: «Ты ўжо цоўба добрая выраслы». Яна: «Баб, што-та за цоўба?» – «Ета, як скора вырасла, дак цоўбы завуць». Ціперяка такіх не гаворяць... Ужо нікому ні анцірэсна... Ціперяка па-гарадскі.

* * *

У нас Козырыха. Наша матка не гаварыла. А Козырыха: «Дзеўкі, ідзіця дзелайця. Во курвы етыя сядзяць!» – ужо ўсяк пачане гаварыць. А наша матка толькі

гляня, мы баялісь яе. І добря дзелала. Дзісцяпліна. Пайшоў Ваня ўжо ў армію, дак у пісьме піша: «Мама, дзяржала ты над намы дзісціпліну жалезнаю дзяржала. Ціпер дзяржы стальную. Дзісціпліпіраванаму ўсюды добря. Я ў сям'е такой жыў, што дзісцяпліну знаю, што дзелаць – што ня дзелаць, плахоя і харошая различаю. Дак мне і ў арміі харашо».

* * *

Калісь Ваню забралі... Ён паехаў па вярбоўцы ў Чыту і там у вармію. І піша: «Мама, мяне забралі ў вармію. Мам, дак усюды дісціплініраваным харашо. Не журыся за мяне. Я вучусь харашо. А над тымі, над тромы, над Варяй, над Тусяй, над Ягоркай дзяржала жалезнаю дзісціпліну, дзяржы стальную. Усілівай дзісціпліну, штоб яны панімалі, як з людзямы жыць і як шкоды ня дзелаць». І мы ў дзісцяпліні жылі. Штоб мы на матку сваю сказалі: «Ідзі к чорту!..» Ці: «Не бряшы». К Краўцовым прыдзіш, яна: «Дзеўкі, тоя здзелаце». – «Ідзі ты к чорту!» Яна: «Во дземаны». Яны: «Ня дуры сракі! Глотку разявіла!» І на бабу. А мы на бабу – ого!. Вазьмі, скажы... Нікагда нічога. Сказала матка: «Еслі хто на бабу скажа... Ругнецца... Ці бабу не паслухая. Я за матку буду вам чэсць аддаваць. Вы знаіця якую». Яна тады не шчадзіць. Аборай адчысця. «Будзіця знаць, як у дзісцяпліні. А то бацькі німа, дак вы будзіця па коллю рэсць».

<*Па коллю рэсць. Гэта як?* >

Ну, як колля стаіць. Над ім ніхто не камандуя. «А вы штоб знալі. Штоб мне за вас стыдна нідзе не было».

* * *

Вот боб на агародзе расце. Дак усё кажа: «Ну-ка, падыходзь! – калісь бацька наш, – хто правініўся!? Счас бобу буду даваць!» Ета ўжо па жопе. Ён нас ня біў. Матка, дак тая біла. Тряпкач – за тряпкач, абора – за абору: адніжа! Еслі шкоду зделаем якую. Аборы такія длінныя, вітыя, калісь бацька віў, салому прынесць з гумна. Што-небудзь не паслухаем, загадае баба: «Ідзіці свінням!» А мы пойдзем на вуліцы прагуляем. Матка схваце: «Я вам бобу дам! Счас вы ў мяне палучыце! Будзіце век знаць!» Ізнімае абору, у чатыры рэдзі складае, і тады ж ні штаноў у нас ня было, ні трусікаў, падымае рубашку: «Станоўся!» І мы і слухалісь. І яна пачынае па жопе, па голай. Як учысця! Ой! Вішчым, крычым і ўцякаем. Тады пусця: «Хваця! Ступайце другія!» І падыходзілі. А што будзіш дзелаць? А цяпер ім хоць кажы, хоць не кажы – ня слухаяць.

* * *

Матка была ўрэдная. Ганяла нас, як катоў. А Козырыха будзя казаць: «Дземаны... Загадала, вы ня здзелалі. Што мне самой?» – «Мый! Я пайду гуляць». Сабяруцца, гуляць пойдуць. Наша матка як вымыя цябе етай аборай. Прыдзя і скажа: «Вечарям будзіця мыць масты». І парядак мы зналі. І яна на ўсё. Штоб парядак у яе быў. Штоб слухалі.

* * *

<*Як дзяцей наказывалі, калі ня слухаліся?*>

Што-нібудзь ніхай ні паслухая, матка абору знімая, у нас абора такая была з посканей, як свісня разоў пяць і скажа: «Ні хавайся! Усюды найду! Ешчо болей зла мне ні наганяй!» А ціперыка вазьмі ўдарь. Міліцыя! Лішаяць мацярынства. А я проціў етага. Хай бацька васпітывая.

<*Яшчэ як наказывалі?*>

У вугол станавілі. І падсыпя грэчкі: «Штаны падымі!»

Матка дісціпліну стальную дзяржала.

* * *

Ціпер жа ў лоб ім бій, і яны ўсё адно твораць сваё. Тады матка скажа, ну і ўсё.

* * *

Матка і кажа: «Адзін аднаго глядзіця! Еслі адзін шкоду дзелая, меньшы, напрымер, ты ж – большая, ты бачыш, ня дай яму ета дзелаць, а то трамбабулі будзіш палучаць!»

* * *

У нас плахіх слоў не было. Бацька наш харошы быў. І матка. Як ужо разазліцца, дак яна нас, былі гадоў па восем – па дзевіць, дак яна: «У-у-у! Стрыгі етыя, касматыя, нячэсаныя». І баба: «Матка стрыгі вашы парывая». Ета – косы.

* * *

Іхні дзед, бацькаў бацька, у іх парабак быў, іх раскулачывалі. Ну, якоя кулацтва тады! Ціпер еўры да хірэўры! Дзеляць, клеяць і то пад еўру тую. А калісь, штоб машына, два кані было, веялка. Жылі людзі. Дак яны ж і работалі, як валы. Матка наша гаварыла, дружыла з імі, дак гаварыла, у іх усе, як мурашкі, поўзаяць. Без дзеда дзяцёнак... Ён кажа: «Чаго ты сядзіш бяз дзела? Ідзі тое-тое дзелай!» Вот яны і багатыя. «На агарод січас жа мне!» – лазінай.

### *«Трудзяка ты мая, трудзяка!..»*

* * *

Мая матка і свіней даглядала, і кароў даіла, і ўсё брала, і ўсё з яе мала было. Усе яе не любілі: «Во абжыральная!» Як павукі, поўзалі. А што я. Дак з маладенства рабацяга была.

<*Чаму як павукі?*>

Павукі ж без канца лазяць. Не сядзяць у гнёздах. Як павукі, поўзалі.

* * *

Мы з бабай большы. Маткі нашай некалі было. Баба ўсё казала: «Трудзяка ты мая, трудзяка!» Вот дай табе счас тры работы! Матка кароў даіла, і ў магазіні. Проста сілай паставілі. Яна гаворя: «Я ні спраўлюсь». А яны: «Справісся!» А то як паставяць у магазіні, дак нідачот, нідачот. І прадаюць цёлку ці карову, расчытацца. Гасударствінная капейка ні прападзе. А матка стала наша, усё харашо. І кароў даіла. Кнура калхоз закупіў і двух свіней. Хто будзя даглядаць? Некага паставіць. Матка гаворя: «Ну, давайця я буду даглядаць». Тады ніхто. А як стала матка, сталі крывіцца: «Во захватала!» Матка: «Бярыця!.. Бярыця і магазін».

Мне казала адна пра матку пра маю. Хто каго ня любя, усягда будзя плахоя гаварыць.

* * *

Матка мая была рабацяга. І кароў даіла, і ў магазіні таргавала, і дома парядкі дзелала. Мы ні галадалі. Мы раслі, як з бацькам, з маткай. А яны крывіліся на матку. Прывязе што-нібудзь... Сябе ні дай, а ім... Матка Алёніна калісь казала: «Ты даўжна суседзям, а сябе ня ўзяць... Суседзі ня будуць коса глядзець...» А матка наша гаворя: «Чаго-та я буду людзей наряжаць, а сваім дзіцям... Напрымер, прывязу я хустачак... Мне нада ўзяць сабе, бабі і тры дзеўкі, і матка Вася прыдзя, як я куме адкажу... А вы мне хто?» Матка ім у вочы рэзала: «Вы ж міне толькі абсудзіце, да абгаварываіця, што злыдзень, дзве работы занімая... Постаўку паабсцыкала, бегала...» Крывіліся....

* * *

Маю матку ні любілі. Калісь сказалі на матку, былі такія мужчыны... «Во памёр Сашок, дак ціперь яна паглядзіць. Паабсірая і хвост... Ня будзя ўжо так жыць». Узялі, матцы сказалі нашай. Прышла там адна і кажа: «Так і так на табе, Полька, казалі». Грэцкая. Грэцкая звалі. «Грэцкая, на цябе так і так сказалі». Дак матка ім сказала. Дзесь пры кампаніі. Матка іх ўбачыла і сказала: «Я жыла і жыць буду. Мае дзеці... По міру ні водзін ні пойдзя. У мяне іх шэсцера. Пяціра дзяцей, баба шостая, як дзіцёнак. І я сёмая. Сем душ пракармлю, і галодныя ня будуць, і халодныя. Будуць хадзіць яны ў міне чык на чык. А вы за сваімы самы глядзіця, а ў маю сям'ю ні ўлазця». І сказала: «Дзеці, слухайце міне. Буду над вамы жалезнаю дзісціліну дзіржаць, толькі штоб міне слухалі. Я сіратой жыла, век у горы. Вы сіратамы расціцё, дак дзелайця так, як я вялю, і ні будзіця галодныя і халодныя». І, праўда, і стала даяркай у калхозі, а тады ў магазіні некага. Каго ні паставяць, месяц-два пабудуць – недачот, месяц-два пабудуць – недачот. І сказалі на обшчым сабраніі. Матка з бацькам у Сівінцы таргавалі. Нідачот і нідачот. Матка з бацькам сталі – ўсё харашо. Год праработалі – ўсё шык-блеск. Дак матка і сказала: «Ні даждзіцёся вы маёй пагібілі. Можа, хвароба спутая міне». І стала кароў даіць, тады сказалі: «Грэцкая, станоўся ты, а то правал у магазіні». І матка стала, і адна таргавала, і кароў даіла, і свіней прыгналі, ніхто ні стаў. «А-а-а! Свіней тых! Ну іх к чорту! Ішчэ с свінямі будзім!» Матка прышла, на бабу: «Давай і еты груз вазьму. Ні на сябя, а на цябе. Багата столькі работ ні пішаць у калхозі». – «Станоўсь». «Пішыця на бабу, што баба – свінарка». На бабу запісалі. І ўсё выпалнялі. Яна: «Дзеці, свіні будуць за вамы!» Трава. Мукі дамоў возьміма сваім свінням. Кабана нада выкарміць к новаму году, штоб сала харошая была. «Вы штоб даглядаць памагалі, патаму шта мне сільна цяжола». І ўсё дзелалі, і спраўляліся, і прыдсідаціль на сабраніі хваліў. «Во, – гаворя, – вазьміця Грэцкія. Я знаю, што ім цяжола... Ну, ўсё раўно, дзеці памагаюць, дзеці рабочыя». І жылі мы чык на чык. Мы пра голад ні зналі. Тады, послі вайны, матку паставілі, усё згарэла, хаты пагарэлі, пастроілі. Ні згарэў імбар калхозны, быў клуб, дак ён ні згарэў, клуб стаўся, дак здзелалі анбар. Ня клуб, анбар, што строіць некаму, мужчын німа. І пражылі, і ні любілі маю матку за ета, што матка сказала: «У кроў буду біцца, усё раўно, сто работ вазьму, но ўсё раўно, штоб маі дзеці чык на чык хадзілі». І мы ні хадзілі галодныя, лучшы ўсіх хадзілі, надзеўшы. Тады ўсё сіццавая была. Хадзілі мы. У мяне дак штукі чатыры ці пяць было. Як і ў Машы, і ў Тусі. І Ягорка, і Іван, і баба ні дзярявая хадзіла, і матка. Матка харашо, чыста хадзіла. Срэдзі ж людзей, у магазіні. І бегала ўсюдых. Прыдзя дамоў, ляжа і кажа: «Дайця мне аддыхнуць, дзеці. Штоб я хоць перадрямала». Якая матка, такая будзя і дзіцятка. Дзеці ж вучацца ў маткі. Ну, бываяць неслушы... Наша Туся... Матка калісь казала: «Цябе б у жалезнаю машыну ўкінь, і адтуль ты выскачыш, як усё раўно рыба з вады». Патаму шта, еслі закаліцца ўжо дзіцёнак такі, хоць ты яго што хочыш, ён будзя такі самы чорт, як і ё. Кажаць, яблана кала яблані. Вецер хай шуруя неўма які, а ўсё раўно яны тут пападаюць, яблакі. Ад салодкіе салодкая сагніе, дак порасткі пойдуць. Ад горькіе горькая. Гаворяць: «Які пень, такі і клін – які бацька, такі і сын».

* * *

Богу маліцца на Юрья, а дзелаць нічога ня нада. Прагуляй дзень – табе Бог здароўя... А наша матка казала: «Голыя дзеці будуць хадзіць, пакуль усе празнікі прагуляіш. Дзеці будуць і голыя і халодныя». Наша матка не сільна.

*(Заканчэнне будзе).*

Васіль Аўраменка



...цяжка ўявіць сабе
больш народнага паэта...

# Імправізацыя і сэнс

***Парадоксы Рыгора Барадуліна***

*Барадуліна чытай удумліва,*
*не спяшай па слоўных хвалях бег...*

Думка нараджаецца раней за слова. Як імпульс, як ток, як прамень святла альбо зрух у студзяністай глыбіні спакою. Так думаюць мысляры і адмыслоўцы. Але, чытаючы Барадуліна, я заўважыў, што слова можа апярэджваць думку. Слова-гук нараджаецца на нейкую долю секунды раней, чым думка. Яно першаснае, да-думнае, і ўжо за ім цягнецца вобраз, алюзія, уяўленне, фантазія. Відаць, у гэтым і крыецца прынцып паэтычнай імправізацыі, а мо і сутнасць паэзіі ды апраўданне таго, кананічна-біблейскага – “Напачатку было слова...”

Калі заглыбляешся ў Барадуліна, здаецца, што слова (і мова?) нараджаюцца вось тут, цяпер, на тваіх вачах і пры тваім удзеле. Ты сам агучваеш склады і радкі ды ў меру сваіх магчымасцяў генеруеш свет паэтычных вобразаў і карцінаў. Як фарбы першасней за карціну, так словы – першародней за літаратуру. А імправізацыя, спантаннае гука- і словатварэнне ёсць эфектыўным спосабам амаладжэння



*Рыгор БАРАДУЛІН.*
*Фота Глеба Лабадзенкі.*

мовы, ажыўлення змярцвелых слоўных формаў. І Барадулін быў ці не самым паслядоўным беларускім творцам, хто трымаўся гэтага прынцыпу ўсё жыццё, і ў сталым узросце нават больш плённа, чым у маладосці. У гэтым, пэўна, адзін з парадоксаў ягонай творчасці.

Звычайна лічыцца, што новымі плынямі і стылямі займаюцца маладыя, амбітныя паэты, а сталыя (а пагатоў старыя!) ідуць тораным шляхам, эксплуатуючы раней адкрытыя і засвоеныя формы. Часцей за ўсё так і бывае, і творчыя вяршыні паэтаў застаюцца на трэцім-чацвёртым дзесяцігоддзі жыцця. Але не так атрымалася з Барадуліным. Прыродны імправізацыйны талент і пастаяннае памкненне абнаўляць вобразна-паэтычную палітру рухалі яго наперад, а сталенне майстэрства і духоўна-інтэлектуальны неспакой усё вышэй і вышэй падымалі гарызонты паэтычнага палёту. Таму галоўныя яго дасягненні здарыліся бліжэй да канца не такога ўжо і кароткага (па паэтычных мерках) жыцця. Сярод шматлікіх нізак, цыклаў, перакладаў сапраўдным паэтычным шэдэўрам стала кніга “Ксты”, выдадзеная на восьмым дзясятку яго зямнога шляху.

Нягледзячы на рэдкую працаздольнасць і пладавітасць, Рыгор Барадулін быў схільны да невялікіх вершаваных формаў і заставаўся надзіва лаканічным аўтарам (тут з ім можа паспаборнічаць хіба што А. Разанаў – прызнаны мінімаліст і паэт-наватар). Ёсць нават барадулінская “Паэма” з пяці словаў: “Мне цябе не стае / Тае...” Аднак, нягледзячы на прыхільнасць да традыцыйных вершаваных формаў, дзякуючы багатай лексіцы, смеламу ўжыванню наватвораў, народных і дыялектычных слоў, ён быў аўтарам арыгінальным, лёгка пазнавальным. А ў спалучэнні з гнуткай, зменліва-імправізаванай асаблівасцю пісьма заўсёды заставаўся актуальным і неартадаксальным. І ў той жа час... народным. Яшчэ адзін барадулінскі парадокс.

Тое, што Барадулін у 1992 годзе стаў апошнім Народным паэтам Беларусі, зусім не выпадковасць, а гістарычная, бадай, лёсавызначальная заканамернасць. Ён адзін з апошніх творцаў таго пакалення, для якога беларуская мова была першаснай ад нараджэння і па выхаванні. Сам паэт звязваў тое з уплывам маці, але ж асяродак, дзе ён гадаваўся і рос, Вушаччына 30-х – пачатку 50-х гадоў была аўтэнтычнай беларускай глыбінкай, зніклай ужо праз два-тры дзесяцігоддзі. Беларускамоўная стыхія была для яго натуральным атачэннем, неад’емнай часткай асабістага вопыту, сямейнай памяці і культурна-генетычнага коду. Повязь з беларускімі народнымі і мясцовымі – вушацкімі – традыцыямі, вераваннямі і забабонамі, з аднаго боку сталі пажыццёвай, бадай, невычэрпнай крыніцай для творчасці, а з іншага, як для чалавека, адзначанага рэдкім талентам, накладалі пэўны абавязак – бараніць, захоўваць і дасканаліць тую спадчыну.

Народнасць Барадуліна можна лічыць узорнай, “класічнай”, яна не патрабуе

ніякага доказу як па савецкіх, так і па антысавецкіх канонах, гэтак жа, напрыклад, як відавочны авангардызм ці элітарнасць А. Разанава. Цяжка ўявіць сабе больш народнага паэта па тэматыцы, лексіцы, арганічнай сувязі з беларушчынай і тутэйшым патрыярхальным жыццём. Вось, напрыклад, як тут:

Сляза па воку не заплача,  
Пакуль вязуць мяхі на млын.  
Як хваля –  
Зменлівая ўдача,  
І смутак –  
Вечны, як палын.

На млын у мазалях дарога,  
Што ў аратая даланя.  
І зерне клопату людскога  
На пыцель мелецца штодня.

Пэўна, гэта немагчыма паўтарыць ні ў новых гістарычных абставінах, ні ва ўмовах постіндустрыяльнага грамадства: "народнасць" у тым рамантычным, даіндустрыяльным, глыбінным разуменні засталася ў мінулым, а Барадулін быў яе апошнім ратаем і апосталам. Але знешняя простасць, дасупнасць і традыцыйнасць барадулінскіх твораў часта падманлівая. Асабліва гэта характэрна для позняй творчасці.

Цвік.  
Чалавек.  
Прамень.  
За горам, за морам, за лесам  
Лёсам адным яны  
Адшуканыя і ашуканыя.  
Цвік  
Заганяе ў сцяну малаток наўпрост  
(На ўвесь анямелы цвіковы рост).  
Чалавека  
Ў зямлю заганяе жыццё  
(Напаміну на забыццё).  
Прамень  
Заганяе ў заўтра стомлены дзень  
(Каб не намагаўся ўбачыць свой цень).  
Цвік гнецца.  
Чалавек гарбаціцца.  
Прамень ніцее.  
І у кожнага неперможанага  
Свой крыж надзеі  
На целе...

Насамрэч, вершы Рыгора Барадуліна не такія простыя, як здаецца на першы погляд. Нават нешматслоўнасць іх часам ілюзорная, бо адносна невялікая колькасць слоў (у радку часцей 2-3, а то і адно), з лішкам кампенсуецца багатай, разнастайнай лексікай, ужываннем наватвораў, самабытных і рэдкіх слоў. А калі гэтыя словы маюць нестандартнае спалучэнне ды паралельна – "смачныя" фанетычныя сугуччы, алітэрацыі, то ўзнікаюць не толькі гукавыя ілюзіі-пераліві, але новыя азначэнні, нечаканыя павароты думкі ці сюжэту, так бы мовіць – сэнсавыя вібрацыі.

Спачатку старацца,  
Адолеўшы зло,

Застацца самым сабою,
Каб потым
Не так страшна было
Застацца з самім сабою.
Самым сабой застаецца святло,
І шчодрае і скупое...

І атрымліваецца, што адно паэтычнае слова альбо метафара, нібы той невялікі “карэньчык”, ухапіўшыся за які цягнеш ланцужок асацыяцый ці цэлы пласт згадак, думак, успамінаў. Паколькі інтэлектуальны кантэнт і культурная глеба, на якой узнікаюць вершы Барадуліна, вельмі разнастайныя – не толькі народнае жыццё ці біблейскія сюжэты, а ўзоры заходняй і ўсходняй паэзіі, міфалогія, сюжэты гісторыі далёкай і нядаўняй, падзеі жыцця і ўласныя духоўныя пошукі, – таму нават невялікі верш можа сягаць у метафізічныя прорвы і гістарычныя далячыні, як сур’ёзныя празаічныя ці філасофскія творы. Інакш кажучы, барадулінскі верш набывае прыкметы гіпертэксту: яго яркія вобразы і нечаканыя метафары маюць спасылы (“эмацыйныя адсылкі”) да іншых падзеяў, пачуццяў, асацыяцый, і ў кожнага чытача яны могуць адрозніваца ў залежнасці ад культурнага ці жыццёвага вопыту, ад паэтычнага густу і “слыху” альбо проста ад настрою. Асабліва складанымі (не па форме, а па разуменні), часам перапоўненыя алюзіямі, роздумам, “вібрацыямі сэнсаў”, сталі вершы апошніх гадоў, і вяршыня, бадай, усё тыя ж “Ксты”. Тут без перабольшвання паэзія сягае такіх вышыняў, дзе “народнасць” неўпрыкмет пераходзіць у элітарнасць, а лірычнае і асабістае набывае кшталт архетыповых прыкмет ці адвечных чалавечых ісцінаў. Чаму так адбылося, паспрабуем разгледзець далей, а пакуль вернемся да пачатку.

Думка голая, як дзіцятка,
Што якраз нарадзіцца паспела.
А якая будзе апратка –
Гэта клопат таго,
Хто умела
Ці няўмела яе ўзгадуе,
Ісцінай свой позірк уколе.
Думка мае душу маладую.
Думка не сівее ніколі.

Кажучы пра першароднасць слова альбо думкі, трэба адзначыць, што ў маладзейшага Барадуліна здараліся вершы і без думак, дзе ёсць адны толькі словы, пералівы складоў і літар:

Счубаціў хмель
Сухмень аглух
Хмялее чмель
Чмялее луг...

Нібыта проста гульня гукаў, што цешаць слых, але не маюць сэнсу. Як інструментальная музыка альбо прыродны гарманічны шум. Яно і праўда, ад словаў людзі заўсёды (па традыцыі) чакаюць сэнсу ці прынамсі хоць нейкай інфармацыі, а тут – каламбуры, слоўная эквілібрыстыка. Аднак і такая –“бессэнсоўная” – паэзія мае права на існаванне, бо, як мінімум, яна нараджае эмоцыі, асацыяцыі, уяўныя вобразы і карціны. То бок, гукавая энергія слова ператвараецца ў візуальную, сэнсорную падзею, уключае ў работу іншыя (не толькі моўныя ці слыхавыя) зоны мозгу, абуджае зрокавыя пачуцці і ўспаміны. І такая трансфармацыя адной энергіі ў другую ёсць ужо працай, і не заўсёды дарэмнай. Словы і мова насамрэч галоўная, бадай, асноватворная сутнасць чалавека, стрыжань, на якім трымаецца культура, цывілізацыя, пераемнасць і развіццё. Як ДНК храмасом ёсць біялагічным кодам,

так мова – універсальны, над-біялагічны геном, у якім можа быць зашыфравана і захавана любая падзея, думка, ідэя – зразуметыя ці перажытыя людствам. Але ж акрамя вербальнай (слоўна-інфармацыйнай) задачы ў мовы ёсць іншая – энергетычна-эмацыйная функцыя, тая, што настройвае чалавека на пэўны лад і рытм, задае настрой і жыццёвы тонус. Больш відавочна гэтую функцыю выконвае музыка, містэрыі, рытуалы ці візуальныя мастацтвы. Аднак і мова, у выглядзе паэзіі і песняў, можа быць эфектыўным сродкам эмацыйна-энергетычнай падтрымкі, сінхранізацыі фізічных і духоўных сілаў. І гэта яшчэ адна падстава дзеля існавання "бяздумнай" ці "неінфарматыўнай" паэзіі.

Як і душы,
Наўколлю вечарова.
А над усім –
З каронай кручаных рагоў
Карова,
І над страхою
Задуменны дым...

Але ж нарэшце пра думку і сэнс. Калі думка можа быць хуткай і першаснай падзеяй, то сэнс нараджаецца пасля, як вынік думання, гаварэння альбо дзеяння. Асэнсаванні прыходзяць постфактум, пазней за словы і думкі. Сэнс – гэта праекцыя нашых ведаў і меркаваных дасягненняў на пройдзены шлях, і калі яны супадаюць (шлях вядзе да мэты) – узнікае сэнс. То бок, усведамленне планаваных ці дасягнутых мэтаў і нараджае сэнс. Гэта ж тычыцца і паэзіі, з той толькі розніцай, што сэнс тут не заўсёды відавочны ці можа ўвогуле адсутнічаць, як у выпадку "бяздумных" вершаў (пра што казалася вышэй). Асобны выпадак – знаходжанне ("адкрыццё") сэнсу праз пэўны час, бывае і пасля смерці аўтара. Класічны прыклад – творы візіянераў і правідцаў, самы распіяраны з якіх – Настрадамус. "Прарочыя" тэксты пабудаваныя так, што набор словаў ці вобразаў, не маючы відавочнай логікі альбо яснай прывязкі да вядомых падзеяў і сучасных з'яваў, праз пэўны час (гады ці стагоддзі) вычытваецца і "расшыфроўваецца" з улікам апошніх гістарычных акалічнасцяў ды "высвятляе" новыя сэнсы і значэнні. З гэтым звязаны і ўяўленні пра паэтаў-прарокаў, бо паэзія, як больш рухавая, спантанная, экспрэсіўная слова-творчасць, пакідае больш прасторы для інтэрпрэтацый, рэфлексій ці "дадумвання", чым рацыянальныя празаічныя тэксты. Канечне, і для паэзіі пажадана, каб слова, думка і сэнс былі ў вершы адначасова, прысутнічалі ў ім ад пачатку, у аўтарскай версіі. Але ж геніяльны твор (гэтак, як і жывая рэчаіснасць) не ёсць адназначнай падзеяй, статычнай рэччу, ён утрымлівае ў сабе магчымасць рознага прачытання або інтэрпрэтацыі, ці нават жыве своеасаблівым унутраным жыццём. "Рэч у сабе" – кажуць філосафы пра гэтую метафізічную невычэрпнасць рэчаіснасці, а паколькі мастацтва – спроба адлюстравання альбо ілюзія рэальнага свету, то геніяльнасць, у ліку іншых прыкмет, захоўвае і такую таямнічую, не да канца пазнавальную сутнасць сапраўднага жыцця.

Час не спяшае ўвасобіцца ў рэчах,
Гуках і рухах істотаў,
Юных паглядах,
Змярканнях старэчых,
У пераспеласці сотаў.

Кожнае я –
Гэта час затрыманы,
Зніклівы а непаўторны.
Словы халодныя,
Быццам нарманы,
Шлях прызнаюць непратораны...

Усё гэта ў вялікай ступені ёсць і ў творчасці Рыгора Барадуліна. Асабліва відавочнай жывая, сэнсаўтваральная сіла ягоных вершаў становіцца ў позні перыяд, калі хвароба Паркінсона абмяжоўвае фізічныя магчымасці і камунікацыю, жыццёвыя страты і экзістэнцыйны вопыт дадаюць болю, мудрасці і горкіх роздумаў, а моўнае майстэрства і прага працы са словам захоўваюць сваю непераадольную моц. Творчасць у такой сітуацыі засталася адзіным спосабам сувязі са светам і рэалізацыі задумаў ды звышзадачаў, накрэсленых лёсам. І ён гэта зрабіў. Узняў свой непаўторны паэтычны свет у горныя высі, перакрочыў тую мяжу, за якой час губляе ўладу над творцам і ягонымі творамі, бо ён патрапляе ў вечныя аналы гісторыі і памяці народа.

У вечнасці след на ілбе  
Ад пацалункаў бяды  
З сабой нават сябе  
Не забярэш туды.  
Час –  
Човен на быстрыні.  
Намеры – салодкі дым.  
Жыві ў сягонняшнім дні,  
Каб заўтрашні  
Стаў тваім.

Андранік Антанян



…ці ёсць вялікі сэнс у помніках,

калі іх мала хто бачыць?..

# Кароткае эсэ пра памяць

На здымку пастмент без помніка. Гэта 1990-ы год. Я нядаўна купіў сабе фотаапарат «Любитель», які здымаў на стужку сярэдняга фармату, а факусавацца з ім можна было толькі схіліўшы галаву і апусціўшы вочы долу.

Памятаю матывы, якімі кіраваўся пры ягонай пакупцы ў магілёўскім універмазе: ён меў троху старамодны дызайн, квадратны фармат кадру, здымаў на шырокую стужку і каштаваў для самастойнага старшакласніка (якім я сябе лічыў) даволі даступна. Нешта трохі больш за 20 рублёў. Наколькі памятаю, гэта была мая першая купленая цацка для сябе.

Цацка, бо вялікай патрэбы ў новай камеры я не меў: я быў уладальнікам, можа, найлепшага фотаапарата XX стагоддзя «Смена 8м», а пры жаданні мог карыстацца бацькавым “Зенитам 3м”. Гэта таксама прыстойны агрэгат, з “зенітаў” хіба найлепшы.

У працэсе знаёмства з новым інструментам аказалася – усё, што мне здавалася перавагамі, стала калі не мінусамі, то практычнымі нязручнасцямі: матавае шкло камеры было зацёмным для дакладнай факусіроўкі, асартымент шырокафарматнай стужкі ў нашым



горадзе быў вельмі сціплым, а друкаваць з яе мог чыста тэарэтычна: у мяне не было адпаведнага павелічальніка, знаёмыя фатографы або не працавалі з такім фарматам, або па розных прычынах не вельмі ахвотна пускалі мяне ў свае лабараторыі. Побач не было нават чалавека, які б мог паказаць, як запраўляць стужку ў бачок.

Але большасць маіх расчараванняў у недасканаласці свету былі яшчэ наперадзе, і я (не з першай спробы, вядома) зарадзіў і пайшоў па сваім рабочым раёне Кірава, што ў магілёўскім Задняпроўі. На першай стужцы, якую ўдалося больш-менш удала адэкспанаваць і праявіць, прадказальна былі статычныя аб’екты: драўляная архітэктура дзіцячай пляцоўкі і пастамент без помніка, які стаяў сярод дрэў каля дома нумар 30 па Віцебскім праспекце.

Гэты пастамент хоць і знаходзіўся ў межах маёй айкумены, але (па дзіцячых мерках) даволі далёка ад майго двара, на іншым канцы пасёлка, а ў кадр я яго памясціў знарок. Раён наш пачаў будавацца ў 1930-я гады і на момант майго сталення не паспеў толкам абцерціся і панесці страты, якія прыўносяць рэчаіснасці пэўную маляўнічасць. Відавочна, страчаныя кавалкі гарадскога ландшафту будзяць інтарэс да гісторыі. Цікава, не тое, што ёсць, а тое, што згублена.

Мяне цяжка назваць вельмі пільным даследчыкам мікрагісторыі магілёўскага раёна Кірава (усё ж на той момант быў школьнікам, да таго ж класава далёкім для большасці аўтахтонаў, і яшчэ не ведаў значэння слова “мікрагісторыя”), і са старэйшымі тэма гэтай канструкцыі абмяркоўвалася толькі аднойчы. Тая размова аказалася для мяне важнай, бо некаторыя яе дэталі памятаю па гэты дзень.

Насупраць пастамента ў даваенным двухпавярховіку жыў мой аднакласнік Андрэй Серафімовіч. Нашыя мамы сябравалі, ды і мы ў першых класах добра ладзілі. Сярод агульных інтарэсаў у нас была філатэлія. Думаю, дзеці савецкіх інжынераў мужчынскага полу дзяліліся на дзве вялікія групы: тых, хто збіраў маркі, і тых, хто збіраў значкі. Дык вось, мы збіралі маркі. У адзін восеньскі дзень я завітаў да Андрэя (о, дзе вы, тыя часы, калі можна завітаць да прыяцеля ў госці без ніякага папярэджання?). Мой сябра быў у двары з нейкімі дзядзькамі; яны аказаліся ягонымі суседзямі. Мужчыны займаліся адным з самых годных і шляхетных заняткаў на свеце: разглядалі альбомы з паштовымі маркамі. Неўзабаве да нас далучыўся яшчэ адзін мой прыяцель, які жыў побач – Андрэй Пуцята. Так, не горш за вас ведаю, што беларусы ў справе ўласных імёнаў вялікія фантазёры і выдумшчыкі.

З марак дзядзькі пераключыліся на больш сур’ёзную рэч: паказ бонаў, купюраў і таму падобных прыкладаў графічнага мастацтва. Мяне, памятаю, уразілі не самі прынты, майстэрства гравёраў або друкароў – усе гэтыя рэчы былі далёка за даляглядам майго тагачаснага разумення, а тое, што вартасць грошай, хістанне наміналаў у часе – рэч хутчэй нармальная і будзённая. Для савецкага хлопца, які вырас у жорсткай сістэме непахісных наміналаў, прывязаных да метрычнай сістэмы:

манеты ў 1, 2, 3, 5 капеек важаць адпаведную колькасць грамаў, ліманад каштуе 10 капеек, а тара ад яго 20, гэта было даволі нечаканым адкрыццём.

Але дзядзькі працягвалі хістаць падмуркі маёй галактыкі. “Вось мы тут на пастаменце альбомы расклалі, а помнік каму тут стаяў?” У адказ мы паціснулі плячыма.

“Да вайны тут стаяў помнік Сталіну. Падчас вайны немцы яго скінулі, і на ягоным месцы паставілі Гітлера, а потым знялі і больш тут нічога не ставілі”.

Гучыць складна, але ў тым 1982 годзе пастамент быў прыхаваны ад дарогі дрэвамі і любавацца ім маглі толькі тыя людзі, якія ішлі ўздоўж Віцебскага праспекта праз цяністыя двары. Ці быў большы рух тут у 1930-я гады? Побач не было старых адміністратыўных будынкаў, ці таго, што магло ў даваенныя гады быць выразным цэнтрам прыцягнення жыхароў раёна. Ці ёсць вялікі сэнс у помніках, калі іх мала хто бачыць?

Зусім неабавязковая фраза, прыпраўленая рэшткамі помніка архітэктуры, на роўным месцы стварыла таямніцу, у якой можа і не знайсціся адказу.

Прыблізна ў той самы час, калі я спрабаваў утаймаваць стыхію сярэдняга фармату, я пару разоў заходзіў у музей магілёўскага аўтазавода, які знаходзіўся ў нашым Доме культуры. Але здымкаў з гэтага месца не было ў экспазіцыі (затое была фатаграфія люксусовага “Шэўрале” Янкі Купалы, які прыгналі яму ў 1939-м з Заходняй Беларусі), на мае пытанні супрацоўніца адказала, што яны займаюцца гісторыяй завода, а раёнам – паколькі-пастолькі. Пра пастамент у ціхім кутку нічога не чула і нават яго не бачыла.

Адсутнасць цікавасці да аб’екта і падштурхнула мяне да ягонай (не самай удалай) фіксацыі, але іншага здымку вы, напэўна не знойдзеце.

Музей магілёўскага аўтазавода ліквідавалі, здаецца, у самым канцы XX стагоддзя. Як разумею, частку ягоных матэрыялаў, разам з архівам мясцовага фатографа Аляксандра Сідлерава, старанна знішчылі на месцы, калі нешта і засталося, то знайсці з першай спробы ў мяне не атрымалася.

Мае аднакласнікі Андрэі (дарэчы, мы з імі на тэму пустога пастамента пазней ніколі не гаварылі) памерлі раптоўна і зусім маладымі, дзядзькоў з кластарамі для марак я пазней не сустракаў, што на даволі шчыльна заселеным раёне памерам 500х500 метраў зрабіць не так проста, хоць, як бачым, у гэтым жыцці магчыма многае. Пастамент знеслі, а я так рэдка бываў у Магілёве, што не адзначыў момант, калі гэта здарылася. З гэтага кадру ніколі не рабіў адбіткаў, бо, як ужо казаў, не было магчымасці. Але і каб была? Ці стаў бы важдацца пад чырвоным ліхтаром з такім сюжэтам? Верагоднасць зусім малая. Значна меншая за тое, што праз дзесяцігоддзі знайду сярод свайго зусім не спарадкаванага архіва менавіта гэты кавалак стужкі і ясна ўспомню матывы, якія падштурхнулі мяне цёмным зімовым днём націснуць на тугі спуск затвора.

сумоўе

## Анкета «Дзеяслова»

***1. Чым бачыцца Вам літаратурная творчасць: нябесным прызваннем, грамадзянскім абавязкам, прафесіяй, хобі, звычкаю? Што падштурхнула Вас да пісьменніцкай дзейнасці. Ці памятаеце свой творчы дэбют? Каго Вы лічыце сваім літаратурным "хросным бацькам"?***

***2. У чым адметнасць Вашай творчай працы? Які час сутак найбольш плённы? Да якіх "тэхнічных прыладаў" Вы найбольш звыклі: аловак, пяро, шарыкавая ручка, кампутар, дыктафон, інш.? Ці выкарыстоўваеце Вы "творчыя стымулятары": кава, цыгарэты, віно, музыка, інш.? Што для Вас натхненне і ці чакаеце Вы яго, каб пачаць пісаць?***

***3. Якія цяжкасці паўстаюць перад Вамі падчас напісання твора? Якое значэнне Вы надаеце слову, фразе, рытму твора? Ці звяртаецеся падчас пісання да даведачнай літаратуры, слоўнікаў, энцыклапедыяў?***

***4. Што/хто найбольш спрыяе ў рэалізацыі Вашых літаратурных задумаў? Што/хто найбольш перашкаджае Вам у гэтым? Ці ўплывае на Вашую творчасць ацэнка сяброў, рэдактараў, чытачоў? Ці вяртаецеся Вы да напісаных твораў, каб перапісаць іх, перарабіць, удасканаліць?***

***5. Ці задаволеныя Вы сваімі творамі? Што ў Вас не атрымалася ў творчасці? Чым Вы найбольш задаволены? Якія эпізоды сваёй біяграфіі Вы хацелі б пражыць наноў? Наколькі Вашая біяграфія паўплывала на творчасць і адбітая ў творчасці?***

***6. Ці вядзеце Вы дзённікі? Як ставіцеся да правіла: "Ні дня без радка"? Ці знаёмае Вам пачуццё ляноты, ці змагаецеся Вы з ім (і як)? Калі "не пішацца", што вы робіце, дзе/у чым шукаеце натхненне?***

***7. Ці чытаеце Вы творы сваіх маладзейшых і старэйшых калегаў? Хто з творцаў Вам найбольш блізкі – з беларускіх і сусветных аўтараў? Назавіце творы, якія Вы любіце чытаць і перачытваць? Ці ёсць такія ў сучаснай беларускай літаратуры?***

***8. Чаго, на Вашую думку, не хапае сучаснай беларускай літаратуры і што чакае яе ў будучыні? Што пажадалі б Вы тым, хто робіць першыя крокі ў літаратуры?***

# Уладзімір Сцяпан



***1.*** Спачатку хацелася паспрабаваць словамі фіксаваць пачуцці, думкі, вобразы. Потым гэты занятак падаўся цікавым і незаўважна ператварыўся ў хобі, якое зрабілася прафесіяй.

Літаратурны дэбют адбыўся ў 1982 годзе, у штотыднёвіку "ЛіМ", дзе надрукавалі колькі маленькіх нерыфмаваных вершаў. Вячаслаў Адамчык пазнаёміў мяне з Алесем Жуком – галоўным рэдактарам штотыднёвіка. Праз тыдзень я прынёс падборку ў рэдакцыю. Алесь Жук прачытаў, некаторыя вершыкі пазначыў птушачкай... Паказаў мне рукапіс, спытаў, ці згодны я... Калі сыходзіў, то ў парозе ён мяне спыніў, узяў са стала мае старонкі, пагартаў, нягучна прачытаў адзін з вершыкаў. Падумаў і сказаў, што тут ёсць "вялікая" тэма. Для мяне гэта было нечакана і дзіўна.

Сёння цяжка сказаць, хто мой "хросны бацька" ў літаратуры. Ім можна лічыць і Алеся Жука, і Вячаслава Адамчыка, і Валодзю Адамчыка (Адам Глобус), не без дапамогі якога адбыліся знаёмствы з беларускімі літаратарамі. А яшчэ, сёння можна сказаць упэўнена, што моцным штуршком да працы са словам з'явіліся лекцыі і семінары нашага інстытуцкага выкладчыка архітэктурнай кампазіцыі Алега Хадыкі. Ён расказваў пра выяўленчае мастацтва і бясконца цытаваў на розных мовах японскую, польскую, нямецкую, габрэйскую, італьянскую літаратуру.

***2.*** Пра адметнасць сваёй творчай працы меркаваць цяжка. Няхай гэта робяць іншыя... Пішу тады, калі ёсць што запісаць. Раней карыстаўся паперай і асадкай. Цяпер кампутарам. Тут галоўнае – не чым, а што пісаць. Калі ёсць думка ці вобраз, то не мае значэння, чым і на чым будзе зроблена фіксацыя.

"Творчымі стымулятарамі" не карыстаюся, каву п'ю, бо люблю яе смак. У дапамогу алкаголя не веру.

Натхнення не чакаю, але часам яно бывае... Тады словы складаюцца ў сказы хутка і лёгка, быццам нехта нябачны іх дыктуе, а табе застаецца толькі ўслухоўвацца і старанна запісваць.

Такія моманты – лепшае ў творчай працы.

***3.*** Цяжка знайсці патрэбныя словы і вобразы... І нават калі яны знаходзяцца, то ніколі няма ўпэненасці, што яны дакладна перадаюць думку, што яны – адзіна слушныя. Праходзіць час, і словы даводзіцца мяняць, а разам з імі змяняецца і тэкст. Тады даводзіцца вяртацца да першых варыянтаў. Найчасцей яны самыя дакладныя. Большасць тэкстаў трымае некалькі правільных слоў, дзеля якіх той тэкст і пішацца.

Калі пішу, то ў слоўнікі і энцыклапедыі не зазіраю. Гэта раблю, калі ўзнікаюць пытанні, да таго маманту, як пачынаю пісаць, і потым, калі рэдагую.

***4.*** Хто, акрамя мяне самога, можа спрыяць рэалізацыі літаратурных задум?

Хацелася напісаць – ніхто, але гэта будзе не зусім праўда. Часам уплывае замова: часопіса, выдавецтва, рэдактара. Абяцаны ганарар, атрыманы аванс... Увогуле, значная колькасць вялікіх твораў мастацтва (у жывапісе, архітэктуры, музыцы, драматургіі, літаратуры, скульптуры) створана па замове, за грошы.

Ацэнкі рэдактараў, сяброў-таварышаў, чытачоў – значэнне маюць, могуць паўплываць на лёс таго ці іншага тэкста. Але большае значэнне мае ўласная ўпэўненасць аўтара, яго вера ў тое, што ён змог перадаць, перанесці на паперу тое, што было ў душы, у галаве. А думкі і ацэнкі рэдактараў, сяброў і чытачоў могуць мяняцца – часам кардынальна. Ад поўнага адмаўлення, да абсалютнага прызнання. Прыкладаў – безліч.

Да твораў, надрукаваных у кніжках, стараюся не вяртацца. Тыя ж, якія яшчэ не друкаваліся, перапісваю, дапісваю, перарабляю. Бывае, да непазнавальнасці.

***5.*** Некаторымі тэкстамі, пераважна кароткімі, дзе мала слоў, – задаволены.

Шмат чаго не атрымалася ў творчасці. Не напісаў раман-эпапею, паэму. Не склаў зборнік рыфмаваных вершаў... Шмат чаго не зрабіў і не зраблю. Шкадую.

З таго, што было, перажыць наноў нічога не хачу, бо пры жаданні ўсе тыя моманты можна ўспомніць...

У чалавека акрамя біяграфіі нічога няма. Ёсць толькі тое, што ён бачыў, перажыў, перадумаў. І творчасць – усяго толькі частка біяграфіі, нават прыдуманай.

***6.*** Са з’яўленнем Фэйсбука я перастаў весці класічны дзённік. Даводзіцца сачыць за сваёй старонкай, падтрымліваць яе новымі запісамі. Гэтыя запісы і ёсць тыя самыя штодзённыя радкі. Бывае, што радкі замяняюць здымкі, малюнкі...

Каму ж невядома пачуццё ляноты? Тут я – не выключэнне. Рэцэптаў, як пераадольваць ляноту (такіх, якімі можна падзяліцца), не маю. Звычайна чакаю, калі на мяне пачнуць сварыцца жонка, дачка, рэдактар... Робіцца сорамна, і гэта прымушае садзіцца да кампутара і пачынаць працу.

Часам думаю, што калі б меў такую шчаслівую магчымасць, то і не працаваў бы зусім... Гуляў бы па вуліцах, лавіў рыбу, размаўляў, чытаў, слухаў, можа быць – вандраваў, але не на вялікія адлегласці. Але даводзіцца, ці не штодня, працаваць.

***7.*** Два апошнія гады мне давялося чытаць лекцыі маладым літаратарам. Знаёміцца з іх яшчэ не адрэдагаванай творчасцю. Чытаю маладых і ў часопісах, і ў сецiве. Ёсць таленавітыя празаікі і паэты, ёсць і не вельмі. З некаторымі сябрую. Яны, бывае, дасылаюць свае раманы, аповесці і тэксты без пэўнай маркіроўкі жанраў. Даводзіцца выказвацца. Калі-нікалі – рэзка. Лічу, што “крытыкі” шмат не бывае.

Уважліва чытаю літаратуру свайго пакалення. Часам раздражняюся, а бывае, і захапляюся. Магу патэлефанаваць аўтару, каб выказаць удзячнасць. Так было з апошняй кніжкай Евы Вежнавец (Святлана Курс), з творамі Андрэя Федарэнкі... Перачытваю вершы Анатоля Сыса, Алега Мінкіна, Таццяны Сапач, Леаніда Галубовіча.. Прозу старэйшых празаікаў і паэтаў (прозвішчы ўсім вядомыя).

З рускамоўных ці не штогод перачытваю Мікалая Гогаля, Антона Чэхава, Уладзіміра Набокава і Льва Талстога. З вялікіх чытаю і перачытваю паэзію японцаў і кітайцаў, іспанцаў і немцаў, французаў і італьянцаў, англічан і амерыканцаў. Часам Андрэй Дудко “падкідвае” кнігі модных у іхнім асяродку празаікаў, пра якіх я толькі чуў.

Удзячны інтэрнэту, з дапамогай якога можна знаёміцца з творчасцю вялікай колькасці літаратараў, якія жывуць у розных краінах. Але засяроджана, і з пэўнай асалодай, чытаю ўсё ж папяровыя кнігі.

***8.*** Беларуская літаратура, упэўнены, на сённяшні дзень цалкам самадастатковая. Яна калі не лепшая, то і не горшая за іншыя літаратуры. Развіваецца і расце. Калі ёй нечага і бракуе, то беларускіх чытачоў.

У будучыню варта глядзець аптымістычна. Новыя пакаленні літаратараў будуць дадаваць свае знаходкі-адкрыцці, дапаўняць творамі, узбагачаць. А час, хоча таго нехта ці не хоча, усё расставіць на патрэбныя месцы.

Маладым жадаю таго, каб ім пісалася. Астатняе прыкладзецца.

# Нашыя аўтары

**Антанян Андранік** – эсэіст, перакладчык, куратар. Артыкулы, рэцэнзіі і пераклады друкаваліся ў «Нашай Ніве», «Спадчыне» і «Архэ». Нарадзіўся ў 1974 годзе ў Дыліжане (Арменія). Жыве ў Вільні.

**Аўраменка Васіль** – публіцыст, паэт, бард, лекар-неўролаг. Аўтар кнігі-эсэ «Нябачнае і ява (фрагменты інтымнай аўтабіяграфіі)», паэтычнага зборніка «Кругі і колы». Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Мазыры. Жыве ў Магілёве.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** – празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі», «Зваротная перспектыва» ды інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Данільчык Аксана** – паэтка, перакладчыца. Аўтарка кніг «Абрыс Скарпіёна», «IL MEZZOGIORNO. Поўдзень», «Сон, які немагчыма забараніць», «Павуцінка на агрэсце» ды інш. Лаўрэатка прэміі «Залаты Апостраф» (2021). Нарадзілася ў 1970 годзе ў Мінску, дзе і жыве

**Дашкевіч Алег** – празаік, рэжысёр-дакументаліст, журналіст. Зняў дакументальныя фільмы – «Маналогі», «Простыя гісторыі», «Журналісты» ды інш. Аўтар апавяданняў, якія друкаваліся ў «Нашай Ніве», «Крыніцы», «Дзеяслове». Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Дранько-Майсюк Леанід** – паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл», «...Натуральны, як лінія небасхілу», «...Усе бачылі нястачу віна...», «Кветкавы край Беларусі (разам з А. Клешчуком), «Скарб» ды інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2005). Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Ігнацюк Алена** – паэтка. Аўтарка кніг «Нота “ля”», «Летаргія», «Будзе ўсё наадварот», «Дыярыуш для дзівалова». Нарадзілася ў 1962 годзе ў вёсцы Осаўцы на Драгічыншчыне. Жыве ў Слоніме.

**Казько Віктар** – празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Аўтар кніг прозы «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, Чорны бусел», «Неруш», «Дзікае паляванне ліхалецця», «Час збіраць збіраць косці» ды інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982), прэміі «Залаты Апостраф» (2013), прэміі імя Ежы Гедройца (2014). Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Калінкавічах на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Каралёў Павел** – музеязнаўца. Даследчык жыцця і творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, іншых беларускіх класікаў. Артыкулы пра жыццё і дзейнасць беларускіх дзеячоў публікаваліся ў часопісах «Роднае слова», «Наша гісторыя». Нарадзіўся ў 1982 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Кудасава Наста** – паэтка. Аўтарка кніг «Лісце маіх рук», «Рыбы», «Маё невымаўля», «Вясна. Вуснам цесна». Лаўрэатка прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра «Кніга году-2016», літаратурнай прэміі імя Міхася Стральцова (2021). Нарадзілася ў 1984 годзе ў Рагачове. Цяпер жыве ў Гдыні (Польшча).

**Лапацін Генадзь** – паэт, этнограф, фалькларыст. Аўтар кніг паэзіі «Лепить из снега», «Без чисел и дат», «Луны преобладанье», «Увидеть дерево», «Около облака», «Поделиться небом». Аўтар шматлікіх публікацый па этнаграфіі, фальклору, дыялектнай фразеалогіі. Выдаў кнігі «“Ікона звалась Свячой...” Абрад “Свяча” ў прасторы традыцыйнай культуры Гомельшчыны», «Варвара Грэцкая як з’ява беларускай народнай культуры», «К каждаму разгавору прыказка ё...» Нарадзіўся ў 1955 годзе ў Гомелі, дзе і жыве.

**Лебедзеў Сяргей** – рускі празаік, журналіст. Аўтар раманаў «Край забыцця», «Год каметы», «Людзі жніўня», «Гусь Фрыц», «Дэбютант». Раманы ўваходзілі ў лонг- і шорт-лісты расійскіх і еўрапейскіх літаратаурных прэмій, перакладзены на 21 мову свету. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Маскве. Жыве ў Патсдаме (Нямеччына).

**Лем Станіслаў** – польскі пісьменнік, філосаф, футуролаг, сатырык, крытык. У ягонай творчасці – літаратурнай і філасофскай – тры асноўныя тэмы, распрацаваныя на працягу ўсяго жыцця: Космас, Жыццё і Розум, іх узнікненне і эвалюцыя, пры гэтым мастацкая літаратура часта была ілюстрацыяй тэарэтычных разважанняў. Яго самыя вядомыя творы – раманы «Салярыс» і «Непераможны», зборнікі апавяданняў «Зорныя дзённікі» і «Кіберыяда», філасофска-футуралагічныя манаграфіі «Сума тэхналогіі» і «Фантастыка і футуралогія». С. Лем – найбольш перакладаны польскі пісьменнік. Нарадзіўся ў 1921 годзе ў Львове. Памёр у 2006 годзе ў Кракаве.

**Ляснюк Вольга** – украінская літаратарка. Аўтарка кніг «Босоніж у вічність», «Третє бажання», «АНАЛОГіЯ», «Поцілунки у скло», «[без іронії]». Старшынька Валынскай арганізацыі Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны. Нарадзілася ў 1978 годзе ў Нававалынску на Валыні. Жыве ў Луцку.

**Мінскевіч Серж** – паэт, перакладчык. Аўтар кніг «Праз галеРэю», «Менскія санэты / Мінскія санэты», «Я з БУМ-БАМЛІТа», «Сад замкнёных гор», «Прыгоды Какоса Маракоса» ды інш. Нарадзіўся ў 1969 годзе ў Мінску. Памёр у 2022 годзе.

**Пятровіч (Сачанка) Барыс** – празаік. Аўтар кніг «Ловы», «Сон між пачвар», «Фрэскі», «Шчасьце быць», «Жыць не страшна», «Піліпікі», «Плошча», «Спакушэнне», «Спачатку была цемра», «Пуціна», «Ідзі адзін», «...Роўна і трошкі ўправа» ды інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Вялікі Бор на Хойніччыне. Жыве ў Мінску.

**Рубін Дзмітрый** – паэт, празаік, калумніст. Тэксты друкаваліся ў газетах «Літаратура і мастацтва», «Звязда»; часопісах «Бярозка» і «Маладосць»; інтэрнэт-часопісах «ЛітРАЖ», «Taubin» ды інш. Нарадзіўся ў 1989 годзе на Смаргоншчыне, дзе і жыве.

**Славук Валерый** – мастак-графік, педагог. Працуе ў галіне кніжнай і станковай графікі. Лаўрэат шматлікіх узнагарод, сярод якіх Дзяржаўная прэмія Беларусі ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры (2000), прэмія «Лепшы ілюстратар года» (2008), медаль Францыска Скарыны (2009, Прэмія Цёткі ў намінацыі «Найлепшае мастацкае афармленне» за кнігу чарадзейных казак «Вядзьмар, які рабіўся ваўком» (2021) ды інш. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (2015). Нарадзіўся ў 1947 годзе ў мястэчку Коханава на Віцебшчыне. Жыве ў Мінску.

**Снарская Іна** – паэтка. Аўтарка кніг «Пацеркі», «Пачакай, мая птушка...», «Лясная панна», «Вогнепаклонніца» ды інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў Полацку. Жыве ў Палтаве (Украіна).

**Сцяпан Уладзімір** – празаік, паэт, мастак, кінасцэнарыст. Аўтар кніг прозы «Вежа», «Сам-насам», «Адна капейка» ды інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2018). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў мястэчку Касцюкоўка на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Федарэнка Андрэй** – празаік, драматург. Аўтар кніг прозы «Гісторыя хваробы», «Сінія кветкі», «Шчарбаты талер», «Афганская шкатулка», «Нічые», «Мяжа», «Ланцуг», «Ціша», «Сузіральнік» ды інш. Лаўрэат літаратурных прэмій імя Івана Мележа (1995), «Залаты Апостраф» (2017). Нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Бярозаўка на Мазыршчыне. Жыве ў Мінску.

**Чыгрын Сяргей** – паэт, перакладчык, журналіст, краязнаўца. Аўтар кніг паэзіі «Шчырая Шчара», «Горад без цябе», «Камень Міндоўга» ды інш., зборнікаў публіцыстыкі «Пакліканыя на родны парог», «Беларуская Беласточчына», «Тэатр у Слоніме». Аўтар шматлікіх артыкулаў з даследаваннямі жыццёвага і творчага шляху Я. Стаброўскага, Т. Лебяды, С. Хмары, Я. Пятроўскага, Г. Леўчыка ды інш. дзеячаў беларускай літаратуры, гісторыі і культуры. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.

**Янчэўская Кацярына** – паэтка, мастацтвазнаўца, філосаф. Лаўрэатка прэміі «Залаты Апостраф» у намінацыі «Дэбют» (2019). Аўтарка кнігі паэзіі «Белае шматкроп'е» (2021). Нарадзілася ў 1981 годзе ў Лідзе, дзе і жыве.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Міраслава Адамыка, Глеба Лабадзенкі, Анатоля Клешчука, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.